УДК 821.161.3.09+929 Барадулін
ББК 83.3(4Беи)
Б24

Укладанне, прадмова і тэксталагічная падрыхтоўка
Наталлі Давыдзенка

*У тэксце захоўваюцца некаторыя асаблівасці аўтарскай мовы.*

Том выдадзены за асабістыя сродкі Наталлі Давыдзенка.

**Барадулін, Р.**
**Б24** Дзённікі і запісы. Выпуск 9. 1998–2002 / Рыгор Барадулін ; укл., прадм., Н. Давыдзенка. — Смаленск : Інбелкульт, 2020. — 332 с. [4] с. : іл. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі : кн. 3).
ISBN 978-5-00076-063-5.

Дзявяты тома (выпуск) працягвае друкаванне дзённікаў народнага паэта Беларусі. 1998–2002 гады — гады насычанай працы паэта. Ім напісаны глыбока духоўныя цыклы вершаў, цікавыя ўспаміны пра літаратараў, нізкі вясёлага гумару, сцэнары дакументальных фільмаў, перакладзены п’есы для тэатраў, паэмы, шматлікія вершы і апавяданні самых розных аўтараў. Пра ўсё гэта з цікавасцю чытаецца ў кароткіх і змястоўных запісах паэта.

**УДК 821.161.3.09+929 Барадулін**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-5-00076-063-5**

# Ад укладальніка

*Пяць гадоў у жыцці чалавека — не такі ўжо заўважны прамежак часу, не кожны яго і сам адзначыць. Але нельга не здзівіцца, колькі ж усяго змяшчаюць у сабе нядоўгія гады чалавека творчага і па сапраўднаму працалюбівага. 1998–2002 гг. не вызначаліся ладам і складам. «Крамы пустыя. Цэны азвярэлыя. Чэргі», — коратка канстатуе Рыгор Іванавіч. І паэта, як і кожнага чалавека, турбуюць нястачы, узрост, нездароўе, сямейныя клопаты і нярэдкія падсумаванні: «Часта думаю, дзе яны дзяюцца, гады, якія пражыў? Не могуць жа яны бясследна знікнуць». І здаецца яму, што «так і пражыў будаўніком паветраных замкаў».*

*У лютым 1998 г. Рыгор Іванавіч меў магчымасць наведаць Лондан, дзе сустракаўся ў айцом Надсанам, стваральнікам Беларускай бібліятэкі і Музея імя Ф. Скарыны, перакладчыцай В. Рыч, беларусістамі Г. Пікардам і А. Макмілíным. У красавіку ён прысутнічаў на Еўрапейскім Балтыйскім форуме ў Рызе, у кастрычніку 1999 г. адбылася паездка ў Швецыю на літаратурны сімпозіум з А. Разанавым і маладымі паэтамі суполкі «Бум-бам-літ».*

*Як і раней, Рыгор Іванавіч не цураўся грамадскай працы, прысутнічаў на соймах БНФ, Адамовічаўскіх чытаннях ПЭН-цэнтра, пісаў абгрунтаванне ў Камітэт па Нобелеўскіх прэміях на вылучэнне В. Быкава на прэмію. У чэрвені 2000 г. у якасці сустаршыні ўдзельнічаў у Трэцім Усебеларускім з'ездзе творчай інтэлігенцыі.*

*Але асноўны час жыцця забірала сапраўды тытанічная творчая праца. Пісаліся глыбока духоўныя нізкі «Псалмы Давідавы», ««Біблейскія балады», «Палыновыя санеты», а таксама «Шчымлівыя рамансы», нізкі кароткіх «Ясачак» і «Ахвярынак». Вершы апаноўваюць паэта нават у паездках: «Як з ланцуга сарваўся да вершаў. І, седзячы на сустрэчах, у нейкіх прамежках люляў радкі». Нягледзячы на «сум і роспач», пісаліся вясёла-незвычайныя нізкі «Нябожчык вяртаўся дадому» і «Эпітафіі»; па замове Радыё «Свабода» (для будучага «Слоўніка Свабоды») таксама не сумныя словы — «Словы на дзень для памяці і для роздуму».*

*У 4-ты том распачатага Збору твораў паэт напісаў успаміны пра П. Панчанку, У. Шахаўца, С. Блатуна, У. Нядзведскага, М. Ягорава, А Асіпенку, Н. Кісліка. Спарадкаваў частку руплíва збіранага ўсё жыццё слоўніка беларускай народнай мовы — «Вушацкі словазбор» і запісы вясёлых здарэнняў «З запазухі».*

*У 1998 г. працягвалася яго супраца з С. Паляковым над дакументальнымі фільмамі пра вязняў Мінскага гета «Я з гета» і пра З. Бядулю «І ў сэрцы — цэлы свет...». І ўвесь час Рыгор Іванавіч перакладаў, і па замове, і для душы, п'есы У. Шэкспіра «Марныя намаганні кахання» (для ТЮГа), К. Гальдоні «К'ёджаўскія перабрэхі» (для Купалаўскага тэатра), паэзію А. Міцкевіча, Т. Яўлевіча і Я. Баршчэўскага, Х. Хіменеса і Х. Бяліка, Р. Рэлеса і К. Сіманава, К. Шэрмана і Г. Чарказяна, песні Польскай салідарнасці і апавяданні шведскіх аўтараў, вершы талышскіх паэтаў і паэтаў розных краін для зборніка «Верш на Свабоду». Часам ён «наракаў на сябе, навошта ўзяўся. А пераклаў — і сумна, што скончылася праца. Я сябе мушу, як той камін, загружаць дрывамі працы...» Да слова — вось гэтак жа паэт з асаблівым задавальненнем працаваў каля роднай хаты ў дрывотні: «Гэтак за дзень нагакаўся сякерaю і малатком, аж ручку трымаць цяжка». І адпачывала яго душа ля любімага каміна: «Гавару з агнём у думках, думаю разам з дымам».*

*Вынік працы гэтых гадоў: 2–4-ты тамы Збору твораў (1998–2002), перакладзены зборнік вершаў шведскага паэта К. Леандоэра «Вершы для Эльзы» (1999), «Лісты ў Хельсінкі» (вершы, дасыланыя В. Быкаву ў Фінляндыю; 2000), «Зорка спагады: Рамансы» (2000) і «Босая зорка» (малафарматнае выданне; 2001), а яшчэ дзіцячая кніжка «Як воўк калядаваў» (2000).*

*На жаль, па-за друкам засталіся некаторыя падрыхтаваныя для розных выдавецтваў кнігі — зборнік новых вершаў «З чорным катом на плячы», зборнік гумару «Ноч мае форму яйка» і дзвюхмоўны зборнік перакладаў паэзіі В. Мандэльштама, Б. Пастарнака і М. Шагала «Тры зоркі».*

*Шмат часу і сіл забіралі паездкі, сустрэчы і выступленні па Беларусі — Гродна, Полацк, Віцебск, Ліда, а таксама ўдзел у дзясятках канцэртах маладога сябра барда Алеся Камоцкага ў самых розных паездзінах па Беларусі і аўдыторыях Мінска.*

*Напаткалі Рыгора Іванавіча і балючыя страты. У 1998 г. пайшоў з жыцця яго апошні суродзіч Пётр Трафімаў і дарагі сябар паэт Навум Кіслік. А за мяжу сумна было правесці маладога, чуйнага сябра, навукоўца і рускага паэта Р. Лапушына і В. Быкава, які ад'ехаў быццам бы часова ў Фінляндыю, потым Нямеччыну і нарэшце ў Чэхію. Васіля Уладзіміравіча Рыгору Іванавічу не хапала, як паветра, як цяпла, нягледзячы на лісты, званкі і кароткія прыезды. «Аб яго ласку душа грэецца», — суцяшаўся ён. У расстанні яго саграваала спагаднае слова «браток» ці шчодрае: «Твае вершы можна выбіваць на граніце», а болей за ўсё ўзаемнае разуменне і шчырасць.*

*2002 год быў самым няплённым на дзённікавыя запісы, але ў архіве паэта захаваліся шматлікія датаваныя запісы ў рабочых блакнотах ці на асобных лістках, якія і дапоўнілі дзённік.*

*У том традыцыйна ўвайшлі вершы і прысвячэнні, якія не друкаваліся ў зборніках паэта (болей за 130), але незлічона шматлікія тэксты (амаль 190) засталіся па-за томам, яны пазначаны назвай, першым радком і пазнакай «у дзённіку». Несупадзенне назваў вершаў у тэксце і зносках — не памылкі, а «перайменаванні» самога паэта.*

*Да друку рыхтуецца наступны, перадапошні, том.*

Наталля ДАВЫДЗЕНКА

## 1998

*1 студзеня, чацвер*

Званю Васілю[1], каб першым быць, хто чуе яго ў новым годзе. Жадаю яшчэ раз, каб мы віншавалі адзін аднаго і ў XXI стагоддзі. Васіль: «Добрае пажаданне, хоць ты яго запішы». Распавядае мне свой сон: «Мы з табой былі недзе разам. Народу шмат было. Потым трэба ў дарогу. А я ніяк не магу ўлаштаваць сваю валізку. Усё ўкладваю, не зашпільваецца валізка, рагачом стаіць. А ты пайшоў, а я застаўся ўлаштоўваць сваю валізку». Калі потым званіў Сёмуху[2], ён разгадаў сон: зямныя клопата пакідаюць Васіля на зямлі быць.

Калінін[3] з Лёндана. Куксо[4] з Масквы. Прыгадалі, як камуна[...] Кірэенка[5] хацеў падаць у суд на Кастуся за шарж. Дарэмна яго палымянцы адгаварылі. Хоць бы гэтым увайшоў у гісторыю літаратуры. А так толькі савецкі смурод.

«Яліны...», «І за расу, і за слязу нічога...», «Над тымі...», «Век чалавечы...»[6]

---

[1] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986), расійскай прэміі «Трыумф» (1999).

[2] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (1936–2019), беларускі перакладчык.; выкладчык Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992), Літаратурнай прэміі імя Ф. Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра (1996).

[3] Калінін Вальдэмар Ільіч (н. 1946), цыганскі паэт, перакладчык. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Хірасімы (Швецыя), Літаратурнай прэміі «Цыганская прэмія» (Венгрыя). Ураджэнец Беларусі. З 1993 г. жыве ў Англіі.

[4] Куксо Канстанцін Мікітавіч (н. 1954), беларускі мастак-карыкатурыст, кніжны графік. Жыве ў Маскве.

[5] Кірэенка Кастусь (Канстанцін Ціханавіч; 1918–1988), беларускі паэт, дзіцячы празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1972).

[6] Гл.: Псалмы Давідавы: Яліны...; І за расу, і за слязу нічога...; Над тымі... ; Век чалавечы... (1.01.98) // Збор твораў. Мінск, 1996–2002. Т. 3. С. 226–228.

*2 студзеня, пятніца*

Памёр Павел Ткачоў[1]. Радзік[2] казаў: каб пахавацца на Маскоўскіх могілках, трэба пастанова Саўміна. Як раней ЦК. Засталіся камэрцыйныя магілы па 11 мільёнаў. У балоце. Магільшчыкі ў канторы: «Чаму ён ў вас не прапісаны? Хочаце, за 100 тысячаў прапішам. Зялёная труна болей пасуе маладому нябожчыку...» Без гумару няма жыцця. І на магільніку жыццё дае на развітанне магчымасць жывому ўсміхнуцца. Дурыў галаву мастак Мікола Цудзік[3]. Цікавыя вершы чытаў. Мастак ён добры, а вершы не бездапаможныя. Сыс[4] яму ўвесь Новы год сапсаваў. Сябра па кілішку.

*Будзьма!*

Доля праедзе ў дрогкай карэце,
Следам пасцелецца дым.
Хай жа на гэтым сустрэнемся свеце
Перад сустрэчай на тым.

Зробіцца прыцемкамі дасвецце,
Ясень зялёны — сівым.
Будзем на гэтым бяседзіццпа свеце,
Каб не згубіцца на тым.

З хатаў і душ нашых вымецем смецце.
Хай будзе келіх як брат.
Лепей на гэтым пахмелімся свеце.
Той наліе нам наўрад...

Снежна-адлежыстая зіма. Усё ў белым дыме, які можна адчуць губамі, рукамі, нагамі. Крыху пахадзіў. А ўсё роўна зіма мая там, дома. Там і снег цяплейшы, і лёд святлейшы. Бо ўсё там першае. «Заваёўнікам трэба песняў...», «Светлая боязь душу ахінае»[5]. Званю Васілю, кажу, што Някляеў[6] віншаваў. Васіль: «І мяне таксама; ён усё гаворыць з няскончаным дыхан-

---

[1] Ткачоў Павел Іванавіч (1930–1998), беларускі пісьменнік і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1981). Прафесар (1982). У 1969–1998 гг. выкладчык, заг. кафедры рускай класічнай літаратуры філфака БДУ. Заслужаны работнік Вышэйшай школы БССР (1983). Доктар філалагічных навук (1981), прафесар.

[2] Лапушын Радзіслаў Яфімавіч (н. 1960), рускі паэт, літаратуразнавец. У 1990–1998 гг. выкладчык філфака БДУ. Доктар філалогіі (2006). З 1998 г. жыве ў ЗША.

[3] Цудзік Мікалай (1949–1999), беларускі мастак, пейзажыст.

[4] Сыс Анатоль Ціханавіч (1959–2005), беларускі паэт.

[5] Гл.: Псалмы Давідавы: Заваёўнікам трэба песняў...; Светлая боязь душу ахінае (2.01.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 229.

[6] Някляеў Уладзімір Пракопавіч (н. 1946), беларускі паэт, празаік, эсэіст, грамадскі дзеяч. У 1987–1999 гг. гал. рэдактар час. «Крыніца». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979), Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Купалы (1998), прэміі Е. Гедройца (2013), Літаратурнай

нем...» Гаварылі неяк пра канфэсіі. Васіль: «Бедныя беларускія храмы. Іх увесь час перабудоўвалі то на праваслаўныя, то на каталіцкія. У Эўропе ўсё ахоўваецца. Калі пабудавалі кірху, яна кірхаю й стаіць з сівых вякоў. Нашыя храмы, як і народ наш, дзеляць, пераганяюць з веры ў веру».

*3 студзеня, субота*

З Самсонам[1] на Камароўку. У трамваі хлапчукі адбілі галаву сваімі распавяданнямі пра фільмы з відзікаў. Цэлае пакаленне кампутарных дэбілаў, стэралізаваных на жывыя пачуцці, на жывую прыроду. Стандартныя, як фармавыя боханы хлеба, будуць. І вялікія адсоткі цынікаў. У кожнага часу свае заразныя хваробы. Званіў Васіль. Падабалася падборка ў «Л[ітаратуры і] м[астацтве]» «Час выпаўзання змей», «Варава»[2]. Кажа: «Твае вершы можна выбіваць на граніце. Ці каб у нас была Сцяна плачу. А то ні Сцяны скавытання, ні брэху». «Адзінокая птушка на даху...», «Вячэрнюю ахвяру прыношу...»[3].

*4 студзеня, нядзеля*

Сядзеў дома. На вуліцы слотна. Ледзь не разводдзе. Званіў Васілю. Васіль: «Гэта для начальства заўсягды добрае надвор’е любое. Чорт жа любіць, каб круціла». Прыгадалі Вушачу. Васіль у «Нёмане» чытаў успаміны Патоцкага — гэта пра Свіслач, што на Гарадзеншчыне. І стагоддзе два таму крыўдзіўся пан, што ў нас ўсё не так, як у Эўропе. Дык яны ж імкнуліся ў Эўропу. А бальшавікі «до основанья, а затем»[4] у Азію, бо ў бальшавікоў менталітэт азіяцкі ў расійскім варыянце. Між іншым, Васіль пацікавіўся, ці захаваўся ў Вушачы райвыканком. Гэты будынак перавезены быў з панскага маёнтка, з панскае сядзібы, дакладней, з Белякоўшчыны, што над улюбёным Васілёвым везерам. Там спярша была школа, у якую пачаў хадзіў Васіль, а потым перанеслі ў іншы панскі двор, а ймя захавалі Белякоўскай. А размова зачапілася за слова салатопка, якое ўжыў Васіль.

---

прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2014), прэміі імя Н. Арсенневай (2017). Намінант на Нобелеўскую прэмію (2011).

[1] Палякоў Самсон Германавіч (1938–2012, Ізраіль), беларускі журналіст, кінасцэнарыст. Гал. рэдактар студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (1995). З 2002 г. жыў у Ізраілі.

[2] Гл.: Час выпаўзання змей (14.09.97); Варава (4.01.97) // Босая зорка. Мінск: ГА Беларускае таварыства «Кніга», 2000. С. 139; 24.

[3] Гл.: Псалмы Давідавы: Адзінокая птушка на даху...; Вячэрнюю ахвяру прыношу... (3.01.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 230.

[4] Словы з «Інтэрнацыянала». «Інтэрнацыянал» (1871) — міжнародны пралетарскі гімн. У 1918–1943 гг. гімн Савецкай дзяржавы. Сл. Э. Пацье, муз. П. Дэгейтэра (1888), рускі тэкст А. Коца (1902). *Пацье* Эжэн (1816–1887), французскі паэт. *Дэгейтэр* Пьер (1848–1932), французскі кампазітар. *Коц* Аркадзій Якаўлевіч (1872–1943), рускі паэт, перакладчык.

Для мяне Салатопка — мясціна ў былым алешніку. Там знаходзілі конскія галовы, каровіны. Там партызаны расстрэльвалі палонных немцаў.

І працягваў псальмы: «Жабраваць на сваіх руінах…»[1]. Чытаў Радзіку. Я знадакучыў яму. Але мне няма болей каму чытаць вершы, хто б разумеў і даваў слушныя заўвагі. Хіба Самсон. «А веку таго…»[2] Званіў Сёмуху. Без ягонага перакладу гэтак часта не зачапляўся я за радкі, за словы. Васіль Сёмуха тлумачыў мне, што стараўся не рабіць рытм скакавым. Я гэта заўважыў і сам. Пагадзіліся мы з ім, што мы чуем Бога лепей на роднае мове; як Бог чуе нас, нам невядома гэта. «Пілнавацiся кожны мусіць…», «А сон жыцця…», «Хай сабе ён і ворагаў, Чэрап дзіцячы…»[3]. Запісваю псальму, а пад лістом паперыны пяром адчуваю нешта калянае — фота Дамінічкі[4] гэта. Нейкая смутная сымболіка тут ёсць.

*5 студзеня, панядзелак*

Бела ад мокрага снега. Як мама[5] казала некалі: ахапкамі валіцца. Стала кепска. Ледзь даваloкся дамоў.

*6 студзеня, аўторак*

З раніцы з Самсонам на працу дабрадзея нашага. Маленькі яўрэйчык з перабітым носам пад грузіна. Міліцыя дубінкамі адбівала ныркі. Вечарам Васіль віншаваў, апошнія словы віншавання: «Няхай свеціць табе Віфліемская зорка». Уступ да трыпціха «Ксты»: «У бажбе…»[6]. Вечарам куцця […]. У дадатак дурны серыял роў па тэле ў святы вечар.

*7 студзеня, серада*

Штораз, дык горай. Не мог устаць. І ў холад кідала, і ў жар. Ці застудзіўся, ці што з'еў. Званіў Васілю. Такое надвор'е толькі спрыяе мікробам і камуністам — гніль. Відаць, апошнія псальмы напісаліся: «Бог уздыхнуў…»[7]. І яшчэ адна атрымалася палітызаваная, што называецца. Але ж і псальмы Давідавы палітызаваныя ў сваім часе. «Там…»[8] Васіль Сёмуха

---

[1] Гл.: Псалмы Давідавы: Жабраваць на сваіх руінах… (4.01.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 231.

[2] Гл.: Псалмы Давідавы: А веку таго… (4.01.98) // Тамсама. С. 231.

[3] Гл.: Псалмы Давідавы: Пілнавацiся кожны мусіць…; А сон жыцця…; Хай сабе ён і ворагаў… (4.01.98) // Тамсама. С. 232–233.

[4] Клiміна Дамініка Канстанцінаўна (н. 1989), унучка.

[5] Барадуліна Акуліна Андрэеўна (1909–1971), маці паэта.

[6] Гл.: «У бажбе…» (6.01.98) // Ксты. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены. 2005. С. 18.

[7] Гл.: Псалмы Давідавы: Бог уздыхнуў… (7.01.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 234.

[8] Гл.: Псалмы Давідавы: Там… (7.01.98) // Тамсама. С. 234.

перакладае Рылькаў[1] «Часаслоў». Даў мне цытату й параіў напісаць на гэтую тэму верш. Спрабаваў. Здаецца, нічога не атрымалася:

*Вольны*

Я на свеце занадта адзін
І ўсё-ткі не занадта адзін,
Каб кожную хвіліну сваю
Асвячаць слязою.
Рыльке

Кожны ў свеце занадта самотны,
А самотны — занадта вольны.
Хоць нявольны і шлях незваротны,
Хоць самотны і сум супольны.

Хоць крыло давярае ўзлёту,
Хоць сябруе з бядой няўдача,
Ды самотны кліча самоту
І свянцонай слязою плача...

*8 студзеня, чацвер*

У ПЭН[2]. Сустрэча з паслом Латвіі[3]. Сымпатычная латышка бурштыннага колеру. Дамовіліся папярэдне, што 24 лютага будуць ўручаць ордэн Трох зорак у Музеі Янкі Купалы. Гэта самая цёплая хата ў Беларусі па традыцыі вялікага Янкі. А наогул справы швах. Нэа паслядоўна тужаць пятлю на горле Беларушчыны. Са школьных падручнікаў і праграмаў выключана Ларыса Геніюш[4] і нашая эміграцыя. Карлас параіў мне асцярожна складаць зборнік «дурнотаў», якія меўся выдаць Генадзь Быкаў[5]. Давядзецца зусім не рабіць гэтага. Бо разгонішся ў сённяшняй Беларусі як сабака ў торбе. А проста зборнік гумару ala Гілевіч[6] не хачу выдаваць.

---

[1] Рыльке Райнер Марыя (1875–1926), аўстрыйскі пісьменнік, перакладчык.

[2] Аддзяленне Міжнароднага аб’яднання пісьменнікаў ПЭН-клуба Беларускі ПЭН-цэнтр (з 1989).

[3] Лаўрэнцэ Інгрыд, Часовы Паверaны ў справах Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.

[4] Геніюш Ларыса Антонаўна (1910–1983), беларуская паэтэса. Была рэпрэсавана (1948–1956). Гл.: Ларыса Геніюш (15.01.98) // Руны Перуновы. Мінск: «Радыёла-плюс», 2006. С. 203.

[5] Быкаў Генадзь Аляксандравіч (н. 1957), беларускі грамадскі дзеяч. У 1996–1999 гг. старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў.

[6] Гілевіч Ніл Сымонавіч (1931–2016), беларускі паэт, фалькларыст, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1963). Прафесар (1978). Народны паэт БССР (1991). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1986).

Суды лютуюць. За любую дробязь шматмільённыя штрафы. […]. Апускаюцца рукі. А здавацца нельга. І змагацца няма як. Уся прэса, тэлерадыё перакрыта.

*9 студзеня, пятніца*

На вуліцы сёння сушэй і бадзёрэй. Званю Васілю. Кажу, што вясной пахне. Васіль: «Вясной перад зімой». Пытаецца, ці выдае кніжку маю Карлас[1]. Адказваю, што нідзе няма прагаліны. Васіль: «Невядома, што лепей. І выдавалі, і прэміі давалі. А цяпер атрымалася, што лепей бы не давалі». Забегся ў ПЭН. Ганначка мне адксеракавала вершы са зборніка «З чорным катом на плячы», які так і не выйшаў. «Мусіць…»[2] З рання ў галаву ўлезлі радкі, з якіх можа атрымацца песня. Аднясу Эдуарду Зарыцкаму[3]: «Арыстакратка кахання»[4]. Званіў Гардзіцкі[5]. У Балгарыі выходзіць анталогія нашай паэзіі. Ніл адмовіўся пісаць уступ. Цяпер дублёнку адтуль прывезці цяжка, […], валютную ў дужых далярах прэмію не дадуць. Усё выграб, як жар з печы, і памялом под падмёў.

*10 студзеня, субота*

Праседзеў дома. Перакладаў Ганадаву[6] прозу. Цэлы дзень не мог дазваніцца Васілю. Пачаў хвалявацца, каб чаго не здарылася. Амаль уночы дазваніўся. Васілю з паўдня стала блага. Адключыў тэлефон. Два разы збіраўся заснуць. Кепская зіма. Хоць бы на траву выйсці. Мне ўсё здаецца, што Марыя Рыгораўна[7] ў Вушачы жывая. «Паклалі ў шчыры пясок шчыруху»[8].

---

[1] Шэрман Карлас Рыгоравіч (1934–2005, Нарвегія, пахаваны ў Беларусі), беларускі перакладчык, іспанамоўны паэт. У 1956 г. пераехаў у Беларусь з Аргенціны. У 1989–2001 гг. віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра.

[2] Гл.: Мусіць… (9.01.98) // Ксты. С. 296.

[3] Зарыцкі Эдуард Барысавіч (1948–2018), беларускі кампазітар. Народны артыст РБ (1999). Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1994). З 1993 г. у Нацыянальным аркестры сімфанічнай і эстраднай музыкі РБ.

[4] Гл.: Арыстакратка (9.01.98) // Руны Перуновы. С. 315.

[5] Гардзіцкі Аляксей Кузьміч (1934–1999), беларускі пісьменнік. Аўтар кніг дыялогаў, інтэрв'ю, гутарак пра літаратуру, складальнік біяграфічных даведнікаў. З 1972 г. працаваў літкансультантам СП БССР.

[6] Чарказян Ганад Бадрыевіч (1946–2021), курдскі паэт, празаік. У 1993–2004 гг. заг. аддзела маркетынгу выд-ва «Мастацкая літаратура». Гл.: Ганад Чарказян // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск:] Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2004. С. 17.

[7] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра па бацьку.

[8] Гл.: Пакідае… (10.01.98) // Ксты. С. 251.

*11 студзеня, нядзеля*

На Камароўку. Збой народу. Не прайсці, не прабіцца да машынаў, дзе цукар, мука, розны макарон. [Лукашэнка[1]] зноў падняў мінімальную […], адпаведна цэны падскочылі, як алімпійскія чэмпіёны, угору. Званіў Васілю, учора было яму кепска, сёння таксама. Кажу, што быў на Камароўцы, купіў Мірону «Віскас». Так выгадней, чымся мяса якое купляць. Васіль: «Хутка будуць батоны вазіць з Францыі, бо атрымаецца, што так выгадней…» Мне ўзгадалася. Прыязджалі […] расійскае літаратуры на паклон да [Лукашэнкі]. А некалі Бэла Ахмадуліна[2] крыўдзілася, што Уладзімір Кастроў[3] на пахмелле выпіў ейную «Шанэль». Бэла шкадавала, хай бы выпіў што таннейшае. І гэткія прарокі прыязджалі да нас, вучыць нас. [Распуцін[4]] ледзь не да зброі клікаў. […]. «Адказ», «Яшчэ…»[5]. Заходжу ў трамвай, нейкі чалавек дзякуе за верш «Маладыя»[6]. Чытаюць яшчэ. «Зіме на згон…: — Бывай! — мне скажаш…» [у дзённіку]. Не ўключыць радыё, тэле. Па тэле [Лукашэнка] ў саборы. […]. Па радыё: па ініцыятыве Дні Ліпецкай вобласці. Па ініцыятыве… і г. д. «Наконт ініцыятываў: І надыдзе такая пара…» [у дзённіку]. Перапішу колькі «дурноцінаў» з розных блакноцінаў.

*Не любой…*

Не любой сустрэчаю
Радуйцейся, лоўчыя.
За губой заечаю
Часта зубы воўчыя.

---

[1] Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч (н. 1954), беларускі дзяржаўны дзеяч. Прэзідэнт РБ (з 1994).

[2] Ахмадуліна Бэла (Ізабела) Ахатаўна (1937–2010), руская паэтэса. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1987), Дзяржаўнай прэміі СССР (1989), прэміі «Трыумф» (1994), Пушкінскай прэміі (1994), прэміі Прэзідэнта РФ (1998), Дзяржаўнай прэміі РФ (2004).

[3] Кастроў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), рускі паэт, перакладчык, драматург. Лаўрэат прэміі «Залатое цяля» (1987), прэміі імя А. Твардоўскага (1998), прэміі імя І. Буніна (2000), прэміі Урада РФ (2006), Літаратурнай Бунінскай прэміі (2010, 2014), Міжнароднай Лермантаўскай прэміі (2012).

[4] Распуцін Валянцін Грыгор'евіч (1937–2015), рускі празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1987).

[5] Гл.: Адказ; Яшчэ… (11.01.98) Ксты. С. 318; 289.

[6] Гл.: Маладыя (14.12.97) // Дзённікі і запісы. Вып. 8. 1996–1997. Смаленск: «Інбелкульт», 2020. С. 319. Вадзім *Лабковіч* (н. 1981), Вадзім *Кабанчук* (н. 1974), Аляксей Шыдлоўскі, сябры «Маладога фронту», арыштаваныя за графіці палітычнага зместу ў Стоўбцах. *Шыдлоўскі* Аляксей Міхайлавіч (н. 1978), беларускі журналіст, сябра БНФ (1995–2002), нам. старшыні «Маладога фронту» (1997–1999).

*2 студзеня*

«Ціхун: Яго таемна точыць пыха…» [В. В. З.; 3.01.98], «Хто вінаваты: Калі цябе вядуць…» [3.01.98], «Нападае…: Калі на паэта…» [5.01.98], «Суаўтар: Шэкспіра[1] ён прыватызуе…» [5.01.98; у дзённіку]. І яшчэ сёння напісалася «дурнота»:

*Пякучы гнеў*

Казаў акурак папяросе:
— Казычыш ты начальству ў носе.
А я — як жар гаспадару
І ўвесь ад сораму гару
За дым,
Бо дым, як падхалім,
Без мыла лезе ў вочы ўсім.

*12 студзеня, панядзелак*

Не вылязаў з хаты. На душы, як і на вуліцы, слотна й змрочна. Белы пацук Зімоўскі[2] аб'явіў па калхознаму тэле, што ў Беларусі выкрыта змова. […]. Толькі б лепей інкрымінаваць падпал калгаснай гнілой саломы, цэлага стога. Званіў Васіль. Яму кепска. Чытае, як шчыравалі чэкісты. Лукашук[3] прыслаў кнігу сваю. Ёсць і для мяне. Толькі «дурноты» ў галаву лезуць.

*Пышкі*

А ў мапасанаўскае[4] Пышкі
Шмат паслядоўнікаў —
Усе,
Хто хоча вылупіцца ў шышкі,
Сябе з ахвотаю нясе
Таму, ў каго з уладнай шышкі
Лягчэй падскочыць трошкі ўвышкі.
І драматургі, і паэты
Прыдатныя на штукі гэты.

---

[1] Шэкспір Вільям (1564–1616), англійскі драматург, паэт.

[2] Зімоўскі Аляксандр Леанідавіч (н. 1961), беларускі і расійскі журналіст (з 2011). У 1998–1999 гг. карэспандэнт і палітычны аглядальнік Белтэлерадыё пад час ваеннага канфлікту ў Югаславіі і тэлевядучы ідэалагічнай праграмы «Рэзананс» (1995–2000).

[3] Лукашук Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; н. 1955), беларускі журналіст, публіцыст, празаік. З 1993 г. супрацоўнік, у 1999–2004 гг. дырэктар Беларускай службы Радыё «Свабода» (Прага). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2018).

[4] «Пышка» — апавяданне (навэла) Г. Мапасана (1880). *Мапасан* Гі (Анры Рэнэ Альбер Гі дэ; 1850–1893), французскі пісьменнік.

*13 студзеня, аўторак*

З Самсонам на фірму. Пастаялі ў калідоры. Адзначаліся. Трэба шукаць памяшканне. Надвор'е ненармальнае. Хоць, можа, ненармальная для нармальных краінаў. [...]. «Як муражынка...: Як не прыспешваю сваю хаду я...» , «Нерукатворны: Калі ідзе, як бронзавы, звініць...» [у дзённіку].

*14 студзеня, серада*

У выдавецтва. Сустрэць Новы год з нашымі. Па дарозе. Апаганены [...] храм, дзе ў алтары зрабілі былі срач, вярнулі вернікам. Заціснуты савецкімі аla баракамі, выцягнуў храм галаву ў неба. Першыя прызналі галубы. Сядзяць. На савецкіх будынінах ніколі галубы не сядзелі, хіба што вароны. Перадрукаваў слова пра Лявона Баршчэўскага[1]. У «Роднае слова»[2].

*15 студзеня, чацвер*

Раніца пачалася кепска. Валя[3] з балкона абараняла сабаку ад гіцляў, якія ездзяць у своеасаблівым «чорным воране». Хадзіў да Карласа. Заходзіўся ў саюз, былы саюз. [... [. Занёс Эдуарду Зарыцкаму перадрук тэкстаў і новы верш «Арыстакратка кахання». Можа, песня атрымаецца. Сёння пачынаецца з'езд Саюза кампазітараў[4]. Лучанок[5] муміфікаваў Ціхана Хрэннікава[6]. Сымбаль дружбы й саюза дзвюх дзяржаваў. Яшчэ, выходзіць, Ціхан жывы. Хай жыве! «Ларыса Геніюш: Зямля, што называецца Айчынай...» [у дзённіку].

*16 студзеня, пятніца*

Занёс у ПЭН невялікае абгрунтаванне ў Камітэт па Нобелеўскіх[7] на Васіля. Ці будзе з гэтага што, сумняваюся. Ужо гэта не першае нашае

---

[1] Баршчэўскі Лявон (Леанід Пятровіч; н. 1958), беларускі перакладчык, літаратуразнавец, выкладчык. Кандыдат філалагічных навук (1989). У 1991–2003 гг. нам. дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа. У 1996–1999 гг. старшыня БНФ.

[2] «Роднае слова» — навукова-метадычны ілюстраваны часопіс (з 1988).

[3] Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), жонка.

[4] Саюз кампазітараў РБ (з 1933).

[5] Лучанок Ігар Міхайлавіч (1938–2018), беларускі кампазітар. Старшыня Саюза кампазітараў РБ (1980–2018). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны артыст БССР (1982). Народны артыст СССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[6] Хрэннікаў Ціхан Мікалаевіч (1913–2007), рускі кампазітар, піяніст, педагог, музыкальны і грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1073). Народны артыст СССР (1963). Лаўрэат дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1946, 1952, 1967), Ленінскай прэміі (1974). 1-шы сакратар Саюза кампазітараў СССР (1948–1991).

[7] Нобелеўская прэмія — штогадовая Міжнародная прэмія (з 1901), названая ў гонар яе заснавальніка, шведскага інжынера-хіміка, вынаходніка і прамыслоўца Альфрэда Бернхарда Нобеля (1833–1896).

пасланне. Бальшавікі тады, калі рэальна было, збілі сваімі прэміямі й тытуламі. Сустрэў у мэтро Васіля. Дужа слаб ён здароўем. Пастарэў дужа за апошні час. На яго цісне гэты гнёт, ды яшчэ чытае чырвона-карычневую прэсу. Збіраецца паехаць у Маскву па прэмію «Дружбы народаў», заадно ў пасольства Швэцыі, каб візу атрымаць. Можа, Бог дасць, адпачне ў вольным свеце. Кожны дзень усё цісне. Бытавая дробязь, а непрыемна. Краму, дзе была шыльда «Белыя росы» ўжо на новую шыльду [памянялі] — «Белые росы». Усё па-рюсски. Гэта ўсё і робіць характар беларуса затурканы, зацюканы. Падкрэсліваецца, што мы ўскраіна галадранскай Расіі. Не адразу сваю мову вучыць, а пасля мовы каланізатараў. Па ўсім Менску не знойдзеш каляндарыка па-беларуску. Камуністы хоць шыльдавую Беларусь рабілі, а нэа нават і шыльды замянілі. Расійская каланізацыя вядзе нас і ў дваццаць першае стагоддзе. І няма прасвету, няма продыху ад расейшчыны, ад маскальшчыны. Ад усё той жа бальшавічызнасці. І жыццё пражыў, а не адчуў сябе гаспадаром Беларусам у сваёй краіне, на спаконвечнай беларускай, крывіцкай зямлі. Сумна. Толькі сам з сабой — і два беларусы. Усё ж не такая самота.

Васіль пазваніў і кажа: «Я табе добрую навіну скажу». (А так мы з ім толькі кепскімі навінамі абменьваемся ў адпаведнасці з жыццём у беларускім канцлягеры.) Маці Лабковіча сустракалася з сынам у турме й перадала хлопцам мой верш «Маладыя». Хоць некаму сэрца злецілі беларускія радкі. А ўчора на вуліцы Васіль казаў, што званіў Зянон[1] і патрабаваў актыўнасці. З-за мяжы лягчэй даваць указанні. «А заўтра…»[2]

*17 студзеня, субота*

Надвор'е, як у мокрым сакавіку. Галава, як цэп. Званіў Васілю. Яму кепска. Як жа паедзе ён у Маскву? Васілю званіў Генадзь[3], што па тэле не далі фільм пра яго, Генадзя. Ну што ж, хоча хадзіць у дэмакратах, хай прывыкае. А ў «ЛіМе» заява Ніла аб выхадзе з Саюза пісьменнікаў. […]. Ніл з саюза ўсё, што льга, узяў. Цяпер можна й на публіку папрацаваць. Народны клоун. Усё жыццё на манэжы, але з сеткаю, нацыянал-камуніст. Дый дае сыгналы […] адміністрацыі: я супроць саюза, які вам няміл, вазьміце мяне назад да сябе.

---

[1] Пазьняк Зянон Станіслававіч (н. 1944), беларускі археолаг, мастацтвазнавец, публіцыст, паэт, грамадска-палітычны дзеяч. Кандыдат мастацтвазнаўства (1981). Заснавальнік і старшыня БНФ «Адраджэньне» (1988–1999).

[2] Гл.: А заўтра… (16.01.98) // Ксты. С. 342.

[3] Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), беларускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1995–2001 гг. супрацоўнік час. «Вожык». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980).

*18 студзеня, нядзеля*

З Самсонам на міні-базар. З Дамінічкай пагулялі. Чытаю, бо нельга адарвацца ад яе, кнігу Аляксандра Лукашука «За кіпучай чэкісцкай работай». Жах!

*19 студзеня, панядзелак*

На радыё. Колькі словаў перад прэм'ерай песні. Мяняюць дзверы, наводзяць вонкавы глянец у *вішч*анні. Зайшоўся ў дзіцячую рэдакцыю. У гадах маладзіцы: «Пакутуем. А канца не відаць». Шэйман[1] аб'явіў Івана Саверчанку[2] галаваром змовы […]. Краіна ўсенародна абраных […] вар'ятаў. У «Роднае слова» занёс слова пра Лявона. У калідоры каля партрэта Купалы[3] фота сівога гарлапана з Лагойшчыны.

Нейкае дзіўнае адчуванне, здаецца, што збіраешся ехаць з дому некуды далёка, але думаеш вярнуцца. А гэта збіраешся развітацца з жыццём, каб не вярнуцца. Адно толькі акрэслена — збіраешся некуды. Гэта як вушацкая песня пяе: «Мой табе дабранач не на нанач, на ўвесь век». А веку тога колькі?

*20 студзеня, аўторак*

З Валяй на «Дынама»[4]. Тое-сёе ёй купілі. Званіла Ілона[5]. Трэба тэрмінова грошы. Ганада, вядома, не зрабіла[6]. Зацягнула яе багна багемы. Зборы ў дарогу.

*21 студзеня, серада*

*Гародня.* Выступы перад вучнямі, перад навучэнцамі тэхнікума. У палацы «Хімвалакна». Чалавек пад 200 было. Аўдыторыя прыязная. Данута[7] была. Паспакайнела, пашляхетнела.

---

[1] Шэйман Віктар Уладзіміравіч (н. 1958), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1997–2000 гг. Дзяржаўны сакратар Рады Бяспекі, міністр унутраных спраў і старшыня калегіі МУС, у 2000–2004 гг. Генеральны пракурор РБ.

[2] Саверчанка Іван Васільевіч (н. 1962), беларускі літаратуразнавец, гісторык. Доктар філалагічных навук (2001). Прафесар (2013). З 1987 г. у Інстытуце літаратуры НАНБ. Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя Ф. Багушэвіча (1999), Літаратурнай прэміі СПБ «Залаты купідон» (2012), Міжнароднай прэміі «Зорка Садружнасці» (2017).

[3] Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882–1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[4] З 90-х гг. на стадыёне размяшчаўся рэчавы рынак.

[5] Барадуліна Ілона Рыгораўна (1962–2019, Тэль-Авіў), дачка; мастачка.

[6] Афармленне кнігі Г. Чарказяна.

[7] Бічэль Данута Іванаўна (н. 1938), беларуская паэтэса, празаік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1984).

*22 студзеня, чацвер*

Выступы, выступы, выступы. Як калядоўшчыкі. Нават школьнікі ў бальшыні сваёй думаюць правільна. Актыўныя, пакуль незалежна думаюць, задаюць пытанні. Данута ўспамінала пра Караткевіча[1], пра Васіля. Як Васіль фарбаваў сваю маторку вясной. Пачатак верша як бы ў духу японскае ці кітайскае паэзіі. Канцоўка крыху савецкая. Падспудна саветызм прасвечваецца праз паэзію, як дзікая, таму й дужая, трава. Цэлае адкрыццё — бард Віктар Шалкевіч[2]. Гэта сапраўдны бард. Артыстычны, творчы, іскрысты. Зачароўвае, захапляе, вядзе цябе як бычка на вяровачцы. У Менску такіх няма.

*23 студзеня, пятніца*

Выступы ў школах, у ўнівэрсытэце. Моладзь ідзе новая, як гэта й трэба. Невыпадкова спяшаюцца […] надзець аброць. Не пусцілі выступіць у прыгарадзе, у прадмесці. Пад'ехаў Бураўкін. Хацеў дамовіцца з уладамі, ашукалі й зубра намэнклятуры.

* Гродзенскі ўнівэрсытэт. В. Шалкевіч (калі выступае Г. Б.): «Занадта ён тлусценькі, каб быць падобным на апазыцыянера».

*24 студзеня, субота*

На выставу Яўгена Мацко. Кутыя ім крыжы. Нагэтулькі вытанчаная праца, што страшна рукамі дакрануцца, здаецца, што з паветра. Вуніяцкія крыжы аднаўляе. Сам вуніят. Цікава, што, гледзячы на ягонай працы крыж, нехта з нашых археолагаў пацвердзіў: такі ж амаль крыж знайшлі пры раскопках. У школе, дзе вучыцца ўнук[3] Васілёў, так расчулілі — аж спяваў па-польску ча-ча-ча й «Перапёлачку».

*25 студзеня, нядзеля*

А другой гадзіне начы прыехалі. Дома як заўсягды. […]. Пазваніў Васілю. Перадаў яму словы запісак, дзе захапляюцца ім, зычаць здароўя, маладыя клянуцца ў вернасці. Непарадна любяць Васіля. Учора ўразіла адна маладая:

---

[1] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі паэт, празаік, драматург, нарысіст, публіцыст, крытык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1984, пасмяротна).

[2] Шалкевіч Віктар (н. 1959), беларускі бард, акцёр, паэт, шоўмэн. Лаўрэат прэміі Руху «За свободу» — «За свабоду думкі» імя В. Быкава (2014).

[3] Быкаў Яўген Васільевіч (н. 1982), унук В. Быкава.

*Рыхтык*

Рыхтык далёкая ты,
Тая,
Якая пяшчотай карае…

Гэтак Адам,
Колісь выгнаны з раю,
Фігавыя ненавідзеў лісты…

Рыхтык далёкая ты.
Сум мой развідніла
Мроя чужая…

Значыць, яшчэ
Мне бяда пагражае.
Значыць, баюся яшчэ пекнаты…

«Перапляліся промні і вужы» [Я. Мацко; у дзённіку]. Цікава, што, адчуваючы ўвагу маладых, адчуваеш сябе зусім старым. Блізкім да фіналу што называецца. Увага й пашана аднагодкаў таксама нечым абразлівая, бо ўвесь час хочаш паверыць у шчырасць. Як з ланцуга сарваўся да вершаў. «Не кожны…»[1] І, седзячы на сустрэчах, у нейкіх прамежках люляў радкі. «Насустрач…»[2]

*26 студзеня, панядзелак*

Яшчэ адыходжу ад паездзінаў. Перакладаў Ганада. Хутка пабеглі дні новага года. Апромеццю, як мама казала.

*27 студзеня, аўторак*

З Кастусём Цвіркам[3] сустракаўся. Даў мне перакладаць Адама Міцкевіча[4]. Трэба тэрмінова. А ў мяне ўжо імпэт не той. Усё тэрміновае трэба рабіць маладому. Званіла Галя Варатынская[5]. Ёй там, у Вушачы, як у крапіве сядзець. Хацела зрабіць прэзэнтацыю маіх фільмаў. Старшыня райвыканкома ані блізка. Яна, адыходзячы, сказала, што і ўнукі будуць вучыцца па вершах маіх. Ён ёй за вочы: «Гэта што, па «Здубавецьці»? Ле-

---

[1] Гл.: Не кожны… (25.01.89–21–25.01.98) // Босая зорка. С. 143.

[2] Гл.: Насустрач… (25.01.98) // Ксты. С. 366.

[3] Цвірка Кастусь (Канстанцін Аляксеевіч; н. 1934), беларускі паэт, перакладчык, даследчык, выдавец. Кандыдат гістарычных навук (1972). З 1996 г. гал. рэдактар выд-ва ГА «Беларускі кнігазбор» (з 2006 г. «Кнігазбор»).

[4] Міцкевіч Адам (1798–1855), польскі паэт.

[5] Варатынская Галіна Аляксандраўна (н. 1953), беларуская журналістка, паэтэса. У 1974–2013 гг. супрацоўніца, заг. аддзела (1981–1991) ушацкай раённай газ. «Патрыёт».

пей хай вучацца па Барадзёнак[1]», — (нейкая медсястра). Далося парт[...] «Здубавецьця».

*28 студзеня, серада*

Галіне Дзягілевай[2] кніжку, вершы Эдуарду Зарыцкаму. Сустрэў Мікалая Казлова[3]. Як ён годна прыжыўся ў Беларусі. Талент, калі ён добры, паўсюль годна сябе паводзіць. Нас з Васілём у Аргкамітэт па святкаванню 80-х угодкаў БНР[4]. Заяўку на шэсце падалі ад імя ўсяго камітэта. І Васіль, і я былі супроць. Трэба, каб адзін незасвечаны падаваў. Але ў Хадыкі[5] пры ўсёй інтэлігентнай мяккасці ёсць яшчэ й казліная ўпартасць. Усё ў чалавеку спалучаецца. Перакладаю Адама Міцкевіча. Знайшоў чатырохрадкоўе:

* * *

Вясной працуюць косы, серп восеньскай парою,
Бяруцца за сякеры гаспадары вясною.
Пачаў касіць Касцюшка[6], цяпер да мазалёў
Малоцім, каб з сякерай пайсці на маскалёў.

*29 студзеня, чацвер*

У выдавецтве з дзяўчатамі ўзялі чарачку. Ганад намер мае з'ехаць. Прынамсі, такую думку выказваў. У серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» выйшла «Боская камедыя»[7] ў перапіранні Ул. Скарынкіна[8]. Паспрабаваў чытаць — немагчыма. Як сукаватыя бярвенні сяк-так абкораныя. Каб яшчэ рэдактар перакладаў быў, а то Сіпачок[9], які сам слова не чуе, радком не валодае. Яшчэ й слова ўступнае Сіпачок напісаў. Камэдыя са-

[1] Барадзёнак Тамара Дзмітрыеўна (н. 1959), беларуская паэтэса (п. Ушачы).
[2] Дзягілева Галіна Аляксееўна (н. 1947), беларуская актрыса. Заснавальнік, дырэктар і мастацкі кіраўнік беларускага паэтычнага тэатра «Зніч» (з 1989).
[3] Казлоў Мікалай Раманавіч (1945–2011), беларускі кніжны графік.
[4] Беларуская Народная Рэспубліка (1918–1921). Не была прызнана шэрагам вядучых дзяржаў. Па Рыжскай дамове 1921 г. незалежнай беларускай дзяржавай была прызнана БССР.
[5] Хадыка Юрый Віктаравіч (1938–2016, ЗША), беларускі вучоны-фізік; мастацтвазнавец, грамадскі дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1978). Прафесар (1984). Прарэктар Народнага ўніверсітэта (1997–2000). Нам. старшыні БНФ (1988–2007). З 2013 г. жыў у ЗША.
[6] Касцюшка Тадэвуш (1746–1817), ваенны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, удзельнік Вайны за незалежнасць у Паўночнай Амерыцы (1775–1783), кіраўнік Польскага паўстання 1794 г. супраць Расійскай імперыі. Нацыянальны герой Польшчы, Беларусі, ЗША. Ураджэнец Беларусі.
[7] Паэма Дантэ А. *Дантэ* Аліг'еры (1265–1321), італьянскі паэт.
[8] Скарынкін Уладзімір Максімавіч (н. 1939), беларускі паэт, перакладчык.
[9] Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч; 1936–2011), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

праўды! Званіў Васілю. У яго зашкальвае дазымэтр. Можа, хмара з Чарнобыля.

*30 студзеня, пятніца*

У «Полымя» да Сяргея[1]. Па-вушацку апантаны й яшчэ малады, добра вядзе часопіс. Гэта Танк[2] некалі толькі атрымліваў зарплату ды друкаваў поўныя авоські сваіх вершаў так-сяк збэрсаных у розных прэзыдыумах. А па вуліцах галёкае завея. Іскрыстая. Сукрыстая. Быстрая. Хоць зімою зноў запахла.

*31 студзеня, субота*

Прыходзіў Бурсаў з Рытай[3]. Яны прыехалі на колькі дзён. У Івана яшчэ мама жыве, 91 год. У Маскве жыць яму не соладка. Бедната. Некаму друкаваць, некаму купляць. Хоць, кажуць, у Маскве зрух намеціўся адсоткаў на 10 нейкіх. Купляюць кнігі, расце наклад часопісаў.

Вечарам фукнула святло. Пісаў у цемры пад дыктоўку завірухі: «Завушніцу белага рэха…»[4]

*1 лютага, нядзеля*

Сядзеў дома. Напісаў слова пра Ізяслава Катлярова[5]. Вычытаў усе ягоныя зборнікі. Калі адным амаль памерам дый на адну, лічы, тэму шмат паэзіі — душна. Як у глухім лесе. Дзялянкі трэба, прасекі, нават ляды. Хоць Ізяслаў паэт сапраўдны.

Пазваніў у Вушачу. З Петраком[6] кепска. Пасек сабе нагу, калі дровы сек. Цяпер у бальніцы. Апошняя самая крэўная радня мая зводзіцца на клін. Жудасна. Самотна. Зябка душы.

---

[1] Законнікаў Сяргей Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт. У 1986–2002 гг. гал. рэдактар час. «Полымя». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[2] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1968). Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978).

[3] Бурсаў Іван Цярэнцьевіч (1927–2019), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. З 1965 г. жыў у Маскве. Рыта Маркаўна, жонка.

[4] Гл.: «Зажурылася…» (31.01.98) // Ксты. С. 301.

[5] Катляроў Ізяслаў Рыгоравіч (н. 1938), рускі паэт. У 1992–2008 гг. узначальваў карцінную галерэю «Традыцыя» імя Г. Пранішнікава (г. Светлагорск Гомельскай вобл.).

[6] Трафімаў Пётр Аляксандравіч (1924–1998), стрыечны пляменнік, сын М. Р. Трафімавай.

*2 лютага, панядзелак*

На машынку да Алы [Гаўрон, машыністкі]. Рэкамедацыю Алесю Карлюкевічу[1]. У ПЭН да Карласа. Зачытваюся Змітраком Бядулем[2]. Трэба напісаць сцэнар адначастковіка на «Беларусьфільме». У Бядулі проза паэта на нейкае неўлоўнай вышыні. «У дрымучых лясах» — гэта нейкім чынам «Новая зямля» [Я. Коласа[3]], толькі у прозе. Нешта падобнае ў аўтабіяграфічнае споведзі Марка Шагала[4]. Для Бядулі ўсё беларускае роднае. Са школы хвалюе ён мяне болей ад нашых празаікаў. Вершы слабыя.

*3 лютага, аўторак*

У «ЛіМ». Слова пра Катлярова. У ПЭН, дамовіліся, каб перагнаць на касэту лепшыя дакументальныя фільмы, бо ў адным асобніку й пад заўсёднай пагрозай, што знішчуць калгасныя каўбоі са стайні [...]. Раптоўна зваліла. Ледзьве не сканаў.

*4 лютага, серада*

Перапалоханы, пазваніў Васіль: што са мной? Ягонае сэрца адчувае, адзін родны застаўся ў мяне. Родны духам. Мая вялікая радня, дай Бог яму дзён багата здаровых! Учора да Карласа прыйшоў Дашчынскі[5] (са «Свабоды») і кажа, што трэба на час камэра. Карлас: «З гэтым пытаннем звяртайцеся ў КГБ — там камэры даюць». Вясёлы жарт у змрочныя часіны [...].

*5 лютага, чацвер*

Чакаў як не паўдня званка з Лёндана. Дзінглі[6] пазваніў Васілю й запрасіў на нейкую канфэрэнцыю. Васіль адмовіўся й прапанаваў мяне на замену. Думаю, ім трэба была не проста адзінка ад Беларусі, як гэта было ў камуністаў, а мяноўна Васіль. Усё да лепшага. А то ўжо нэрвавацца пачаў, што апрануць ці будзе галава балець. З гадамі цяжкі на нагу зрабіўся.

---

[1] Карлюкевіч Алесь (Аляксандр Мікалаевіч (н. 1964), беларускі ваенны журналіст, пісьменнік-краязнавец, крытык, публіцыст. У 1995–1998 гг. гал. рэдактар газ. «Чырвоная змена», у 2002–2006 гг. заг. аддзела газ. «Советская Белоруссия». Лаўрэат прэміі РБ «За духоўнае адраджэнне» (2017).

[2] Бядуля Змітрок (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886–1941, Уральск, РФ), беларускі паэт, празаік, перакладчык.

[3] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).

[4] Шагал Марк (1887–1985, Францыя), беларускі і французскі мастак і графік. Шагал М. Маё жыццё. 1922.

[5] Дашчынскі Алесь (н. 1961), беларускі журналіст, публіцыст. У 1994–2000 гг. аглядальнік газ. Свабода», «Навіны», у 2000–2002 гг. карэспандэнт Радыё «Свабода».

[6] Дынглі Джым (н. 1942), англійскі русіст і беларусіст, выкладчык Лонданскага ўніверсітэта. Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

*6 лютага, пятніца*

У выдавецтва. Узяў пяцітомнік Змітрака Бядулі ў бібліятэцы. Бібліятэку перасялілі ў катушок. Калі яна [бібліятэкар] запярэчыла, Нічыпаровіч[1] сказаў: «Наогул закрыем. Не рыпайцеся!» Нэа, як і камуністам, бібліятэкі не трэба. Чытаю паэзію Бядулі. Калі адкінуць сацыяльна-надзённую мякіну, сапраўдны паэт. Тонкі, экспрэсіўны, магутнавобразны. Колас, хай не крыўдуюць прыхільнікі, у параўнанні з Бядулем сумны празаіст у паэзіі. З Бядулем нешта падобнае як з Міцкевічам. Апошняга палякі не прымалі за свайго. Бядулю яўрэі яўна недалюблівалі за шчырую любоў да Беларушчыны, а беларусы ахалодна ставіліся, бо яўрэй. Расійцам ад Пушкіна[2] за ягоную эфіопшчыну выракацца не давялося, бо занадта велічыня. У іх наогул Лермантаў[3], Тургенеў, Карамзін[4] і г. д. далёка не славяне.

*7 лютага, субота*

Цмяна змаўляліся з Самсонам, на які базар пойдзем. Ля Камароўкі чакаў, а ён на маленькі базарчык [прыехаў]. Затое паназіраў, як амонаўцы палююць на людзей. Дзве маладзіцы ў пераходзе прадавалі нейкую слязу-драбязу. Яны за маладзіцамі. Маладзіцы заскочылі ў краму. Чакаюць два напоўгарылы (у эсэсаўцаў болей інтэлекту было, помніцца). Па рацыі некага выклікаюць. А гэта машыну, дзе поўна бобікаў, як каларадскіх жукоў. Маладзіц садзяць у машыну, дачакаўшы, калі тыя, бедныя, з крамы выйшлі. Нашыўкі на грудзях і рукавах АМАП (лепей бы амалп). Навошта па-беларуску выдумку Лубянкі перакладаць? [...]. А на базары праз «мацюгальнік» вяшчаюць, што ёсць шапік са «Славянскім набатам»[5], пераказваецца кароткі змест свежага нумара гэтай брыдоты. Бабурын[6] разважае, хто мае прэтэнзіі на тэрыторыі Расіі. Яшчэ ж Аляска ў іх бітым казыром. Ёсць зачэпка да Злучаных Штатаў. Як у тым пасляваенным скверыку: «Дзядзечка, аддайце гадзіннік». Здаравяка выходзіць:

[1] Нічыпаровіч Станіслаў Антонавіч, нам. старшыні Камітэта па друку, эканаміст.

[2] Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799–1837), рускі паэт. Дзед А. Пушкіна Абрам Ганібал, выхадзец з Эфіопіі.

[3] Лермантаў Міхаіл Юр'евіч (1814–1841), рускі паэт і празаік, меў шатландскія карані, пра якія не ведаў.

[4] Тургенеў Іван Сяргеевіч (1818–1883), рускі пісьменнік, і Карамзін Мікалай Міхайлавіч (1766–1826), рускі пісьменнік, гісторык, мелі татарскія карані. (Дадам ад сябе: спадзяюся, што ніводнаму з рускіх пісьменнікаў і ў галаву не прыходзіла гнацца за «чысцінёй славянскай крыві». *Заўв. Н. Давыдзенка*.)

[5] «Славянский набат» — беларуская рэспубліканская газета (1997–1999).

[6] Бабурын Сяргей Мікалаевіч (н. 1959), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Доктар юрыдычных навук (1998). Заслужаны дзеяч навукі РФ.

«Не мучай дзіцця, аддай гадзіннік». У расійскіх імпэрыялістаў кітайская хвароба чырвоных вачэй. Нездарма ж і савецкі сцяг крывавы.

Уночы пазваніла кампазітарка Сярых[1]. Заўтра [паслязаўтра] запіс на радыё дзіцячай перадачы. Для маленькіх. Ад яе патрабавалі даслоўны сцэнар, якія пытанні да мяне (кшталту, ці ёсць у вас у хаце кот). Нейкае пытанне выкрэслілі. Здаецца, калі пачаў пісаць.

*8 лютага, нядзеля*

Хварэю. Усё-ткі старасць пільнейшая за савецкую цэнзуру. Перачытваю Бядулю. Нешта пісалася: «Не на гэтым…»[2].

*9 лютага, панядзелак*

На радыё з дзеткамі Сярых запіс. Зайшоўся ў рэдакцыю літаратуры. Як заўсёды, рэжуцца ў шахматы. Як пэнсіянеры ў скверыку. На сцяне вялізны партрэт у рамцы […]. На тэле на пропуску міліцыянты з аўтаматамі.

Ноччу Зянон званіў Васілю й даваў указанні. Ён, бедны, там як загнаны воўк. Расійскія спецслужбы дзе хочаш дастануць і давядуць. «Нешта птушынае мае душа…»[3]

*10 лютага, аўторак*

Зноў званілі з Лёндана. Трэба ехаць, калі паспею з дакумэнтамі. У нашую краіну па-ранейшаму і ўехаць нялёгка, і выехаць з яе цяжка. Забраў карэктуру Яна Баршчэўскага[4]. У ПЭН-цэнтр. Малады хлопец[5] пераклаў «Дзяды». Трэба колькі слоў як бы рэцэнзіі. «Post scriptum: Абнашчымся апошняй журбой…» [у дзённіку].

*11 лютага, серада*

У ангельскае пасольства. Візу зрабілі. У «Белавія» білет ўзяў — з Лёндана перaслалі. Як гэта ўсё цяпер хутка пры факсах. Здаецца, і Зямля пачала хутчэй круціцца. Як перад скначынай. Марудная размеранасць нейкай стабільнасцю й трываласцю дыхае. А спех, ён і ёсць спех. Не на дабро.

---

[1] Сярых Валянціна Васільеўна (н. 1951), беларускі кампазітар. З 1991 г. кіраўнік створанай ёю дзіцячай эстраднай студыі «Званочак», у 1994–2000 гг. аўтар і вядучая радыёпраграмы «Музычны замак».

[2] Гл.: Не на гэтым… (8.02.98) // Ксты. С. 265.

[3] Гл.: Нешта птушынае… (9.02.98) // Тамсама. С. 369.

[4] Баршчэўскі Ян (1794–1851), польскі пісьменнік, беларускамоўны паэт, фальклярыст, выдавец.

[5] Мінскевіч Серж (сапр. Мыцько Сяргей Леанідавіч;н. 1969), беларускі паэт і перакладчык. Кандыдат філалагічных навук.

*12 лютага, чацвер*

Галава разломваецца. З цяжкасцю чытаю карэктуру Яна Баршчэўскага. Колькі часу аддаў перакладу. Усё ў млын. Адчуваю, што трачу смак да жыцця. Хоць сябе падганяй у каршэнь. Дзіву даюся, як гэта людзям хочацца засядаць, казаць адзін аднаму адно й тое ж. Хачу цішыні, хачу спакою, каб нікуды не трэба было бегчы. А спакой, відаць, толькі ў тым чаўне, які на руках нясуць. Пражытыя гады, нібы хто са школьнай дошкі напісаная сцюдзёнай крэйдай сцёр. Толькі дэталі. Толькі нейкія агеньчыкі ў цемры стомленасці й абыякавасці. Часам аж хочацца самога сябе запытаць: а ці быў я наогул? Нічога не атрымалася — ні сям'і, ні дзяцей.

*13 лютага, пятніца*

Галаўныя болі — да роспачы. Баюся звар'яцець. Званіў Васілю. Ён, пакутнік за нацыю, чытае «Славянскі набат» — смярдзючую газэтку, якая выдаецца на базары. Сымвалічна. Базарнае славянафільства. Па сэйлу. [...].

*14 лютага, субота*

Сёння дзень нараджэння Міхася Стральцова[1] і Алеся Звонака[2]. Абодвум прыемна было званіць, віншаваць. Званкоў усё меней і меней перад апошнім званком, які будзе аднойчы. Калі, ніхто не ведае сам.

*15 лютага, нядзеля*

Званіў Адам[3]. Трэба перадаць кнігі. Грузу збіраецца. Вясёлая гісторыя пра Белага[4]. Спачатку падараваў Скарынаўскаму цэнтру бюст Белямука[5] — свайго першага свата. Потым пачаў прасіць назад у замен на бюст Брыля[6]. У дзяўчат выпрасіў. Разбіў аб вугал. Праз пэўны час жанчына са

---

[1] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1988, пасмяротна).

[2] Звонак Алесь (сапр. Пётр Барысавіч; 1907–1996), беларускі паэт, крытык, драматург, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.

[3] Мальдзіс Адам Восіпавіч (н. 1932), беларускі вучоны-філолаг, пісьменнік. У 1991–1998 гг. дырэктар, у 1998–2001 гг. заг. аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Доктар філалагічных навук (1987). Прафесар (1990). Заслужаны дзеяч польскай культуры (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

[4] Белы Анатоль Яфімавіч (1939–2011), беларускі грамадскі і культурны дзеяч, навуковец, калекцыянер. У г. Старыя Дарогі Мінскай вобл. заснаваў прыватны Мастацкі музей (1990).

[5] Белямук Міхась (1924–2014), беларускі гісторык і грамадскі дзеяч беларускага замежжа (ЗША), выдавец час. «Полацак» (г. Кліўленд).з 1944 г. у Германіі, з 1949 г. у ЗША.

[6] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі празаік, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1982).

Штатаў прыйшла да Адама з просьбай прыняць бюст Белямука таго ж скульптара, толькі з натуры зроблены. Адам пагадзіўся. Паставілі новы бюст. Калі сказалі Беламу, не мог паверыць. Правінцыйны сюжэт. Анекдот. Пытаюцца ў яўрэя: «Вы член партыі?» — «Не, я ейны мозг».

16 лютага, панядзелак

У ПЭН да Карласа. Наконт машыны ў аэрапорт і назад. Раіў на мытні гаварыць па-расійску й значок […] зняць. Бо лютуюць. Дажылі да […]-савецкіх парадачкаў. Успамінаюцца ўсе паездкі за мяжу пры бальшавіках — суцэльная знявага, абразы, пуляты страх. Колькі часу, вельмі кароткага, ужо амаль уздыхнулі. І вось […], нео. Не даюць адчуць сябе эўрапейцам, вольным чалавекам. Толькі на думкі яшчэ не прыдумалі аброці. «Ясачка»[1]. Прачытаў Радзіку. Раіць зрабіць верш.

*17 лютага, аўторак*

Галава на чарапкі развальваецца. Абяцаюць уночы -20⁰. Рабіў верш: «Слова кожнае…»[2] Зборы ў дарогу. Кожны раз заракаюся куды-небудзь руха′цца, але даўні дух вандравання неяк трымае мяне й натхняе. Узяў кнігі для айца Надсана[3]. І атрымалася цяжкая торба. Як хочацца хоць пад старасць ехаць куды, калі давядзецца, з лёгкімі рукамі ды яшчэ з лёгкім сэрцам. На сэрцы цяжка…

*18 лютага, серада*

*London.* На мытні ўсё мірна было. Людзей ляціць мала. Самалёт дабіты да абуха. Са мной ляцеў малады юрыст прыватны да сваёй нарачонкі на вакацыі. Якая стажыруе ў Англіі. Падлятаем. Самалёт абніжаецца. Зелянявыя палосачкі. Тут вясна. Пакуль даехалі да гатэля, з мяне цурком вада лілася. Пад 20° цяпла. А я ехаў у сцюдзёны Лёндан. Гатэль пяцізоркавы The Grosvenor. Каля самае станцыі чыгуначнай. Яшчэ з мінулуга стагоддзя. Пампезны. Гэта ў цэнтры. Поблізу Каралеўскі сад. Сэрвіс адменны. Але і тут усё як у людзей. Чайнік гатаваць кіпяцень працякае. Вакно адчыніць немагчыма, не трымаецца.

Вечар у Брытанскім цэнтры «Усход — Захад». Гэта былы цэнтр па вывучэнню Саюза. Прыйшоў айцец Надсан, Вера Рыч[4], Алена Шушкевіч,

[1] Гл.: Ясачкі: Слова мае свой смак і пах (16.02.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 333.

[2] Гл.: Слова кожнае… (17.02.98) // Ксты. С. 342.

[3] Надсан Аляксандр Антонавіч (сапр. Бочка; 1926–2015), беларускі грэка-каталіцкі святар, рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч беларускага замежжа. Магістр тэалогіі. Заснавальнік і дырэктар Бібліятэкі і імя Ф. Скарыны і Беларускага музея ў Лондане. Ураджэнец Беларусі.

[4] Рыч Вера (1936–2009), англійская перакладчыца, журналістка, гісторык.

Пікарда[1], прафесар Макмілін[2] з маладой жонкай — яўрэечкай ад нас. Пытанні болей пра палітыку. У захапленне прыйшлі, калі чытаў ім Кіплінга[3] па-беларуску. У Англіі Байран[4] не гэткі папулярны, як у нас. Любяць Кіплінга. Асабліва англічане былі ўсцешаны гучаннем Кіплінга па-беларуску.

*19 лютага, чацвер*

Экскурсія па месту. На другім паверсе аўтобуса. Бацька Стывена, які са мной увесь час, казаў, што ў Лёндане трэба глядзець угору. І сапраўды, у неба мкнуць камяніцы з зямной цеснаты, аж яснеюць каменнымі тварамі мяноўна пад небам. На адным помніку, дзе на кожную тэму выявы, там, дзе мір, — серп і граблі. Крыху цяжкаватыя ў параўнанні з нашымі. Сустрэў Аляксея Сіманава[5]. Удзень яшчэ гутарка з журналісткай з цэнтра East — West (Усход — Захад). Яе цікавілі рычагі й сам механізм цэнзуры. Усё гэта традыцыйна. Вечарам да прафэсара Макміліна. Там быў і Гай Пікарда. Унікальная з’ява. Гаворыць толькі па-беларуску, па-расійску не ўмее. Ён жа чыстапародны ангелец. Падпісаў «Здубавецьця» прафесару: «Чало ў нас, беларусаў, Схілена прад думкай…» [А. Макміліну; у дзённіку].

Жонка ў яго другая. Яна з былых абшараў Саюза. У Мурманску з бацькамі жыла. Цікавы расповед пра бюст Маркса[6]. Пад раскладушкай ставілі, бо не было дзе нават самім спаць, і яна практычна на галаве Маркса спала. Гай распавядаў пра пабы, дзе піў Маркс. Памёр ад цэрозу печані. А да канца нанач бутэльку рому выжмучваў. Памёр мільянерам, а пабочнаму сыну сталяру ні цэнта не даў і не запавясціў. Ленін[7] з Крупскай[8] здымалі пакоі Маркса. Доўга гаспадыня не згаджалася, бо Крупская не насіла заручальнага пярсцёнка. Граф Крапоткін[9] угаварыў і пацвердзіў, што яны муж і жонка.

---

[1] Пікарда Гай дэ (псеўд. Піхура Г.; 1931–2007), англа-французскі адвакат, музыказнавец, даследчык беларускай культуры.

[2] Макмілін Арнольд (н. 1941), англійскі беларусіст. Доктар славянскай філалогіі. Прафесар Лонданскага універсітэта. Сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

[3] Кіплінг Джозеф Рэдзьярд (1865–1936), англійскі пісьменнік.

[4] Байран Джордж Наэл Гордан (1788–1824), англійскі паэт.

[5] Сіманаў Аляксей Кірылавіч (Канстанцінавіч; н. 1939), рускі кінарэжысёр, пісьменнік, перакладчык, праваабаронца, педагог, журналіст. Сын К. Сіманава.

[6] Маркс Карл (1818–1883), нямецкі мысліцель і грамадскі дзеяч, заснавальнік марксізму.

[7] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік Савецкай дзяржавы.

[8] Крупская (Ульянава) Надзея Канстанцінаўна (1869–1939), расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч, педагог. Ганаровы акадэмік АН СССР (1931). Доктар педагагічных навук (1936). Жонка У. І. Леніна.

[9] Крапоткін Пётр Аляксеевіч (1842–1921), князь, рускі рэвалюцыянер, тэарэтык анархізму, географ і геолаг.

*20 лютага, пятніца*

На BBC расійскую і ўкраінскую службы. Эліот, які вазіў мяне, казаў, як быў на Лубянцы, дзе ліфт без пазнак, на які паверх і куды йдзе. Генерал наліў яму гарбаты. Счакаў, пакуль сам адап'е. Працуюць маладыя людзі ў асноўным. Руская служба — сымпатычная пухлушка, украінская — моторова дівчіна. Па мяне прыехаў айцец Надсан. Па дарозе да яго ў італьянскі рэстаранчык. Айцец вэгэтарыянец. П'е крыху толькі віно. Лёгка па-італьянску з абслугай. У Рыме вучыўся. Казаў — быў выбар: ці на Калыму, ці ў Лёндан, выбраў апошняе. Хто верыў Саветам, рэдка хто ацалеў, калі й вярнуліся пасля ГУЛАГаў[1] — разбітыя, страчаныя. Нават ёсць нейкая рэўнасць. Паехалі мэтро з перасядкамі (ён правільна ўжывае форму перасядка, гэта па-беларуску; перасадка — ад маскалёўшчыны). Быў на вячэрні, якую служыў айцец. Паказаў свае скарбы. І Пяцікніжжа Скарыны[2]. І слуцкія паясы. Васілёк скрозь свеціцца, як нябесны каштоўны камень. У Багдановіча[3] недакладнасць заўважыў айцец — ткалі паясы мужчыны. Усе прозвішчы мужчынаў вышыты. У бажніцы ўсё па-беларуску ўбрана. А ў бібліятэцы ёсць абраз, дзе Матка Боская трымае на руках Ісуса, а ў яго ў руцэ васілёк, як нябесны вугалёк боскага агню, які раздзімаць яму. Эміграцыя старая. Маладыя з Беларусі.

Святам была сустрэча з Валерам Мартынчыкам[4]. Выдатны мастак. Мы з ім сустракаліся, калі ён быў студэнтам у Кішчанкі[5]. Завёз мяне да гатэля. Па дарозе ў адзін паб зайшлі. Мне б гэта маладому й пітушчаму! Валеры захоплены Англіяй. Ягоная думка — толькі праз урбанізацыю да адраджэння. Праўда, ён ужо забыўся нашую спецыфіку. Прыкрыя рэчы казаў пра Вальдко [Калініна]. Як я ведаю людзей і верую, а таму веру бальшыні.

У мяне ў пакоі вакно не зачыняецца, калі заходзіў айцец, параіў чым-небудзь падперці. Прыехаў з сустрэчы і падпёр бляшанкай індыйскай кавы, купленай на Камароўцы. І ангельская дасканаласць бытавая патрабуе часам зубіла й малатка — тонкага расійскага ключыка. Айцу Надсану экспромт у ягонай ганаровай кнізе: «Будзе жыць Беларуская нацыя…» [у дзённіку]. Вечарына — настальгія й развітанне. Сумнае ўражанне.

---

[1] ГУЛАГ — Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў.

[2] Скарына Францыск (да 1490 — каля 1541), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, перакладчык Бібліі на беларускую мову, мысліцель-гуманіст, асветнік, пісьменнік.

[3] Багдановіч Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец.

[4] Мартынчык Валерый, беларускі мастак-авангардыст. З 1990 г. у Вялікабрытаніі.

[5] Кішчанка Аляксандр Міхайлавіч (1933–1997), беларускі мастак. Народны мастак Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і РБ (1980, 1996).

*21 лютага, субота*

Прыехаў айцец Надсан і забраў у так званую беларускую вёску. Унікальная калекцыя мапаў. Недзе з XVI ст. поруч з Полацкам і Тураўля — цяпер маленечкая вёсачка, дзе нарадзілася мама [Надсана]. […]. Перагартаў увесь камплект Amtsblatt des General kommissars in Minsk («Афіцыйны веснік генеральнага камісара ў Мінску»). У апошніх загадах арганізацыя ахвярнікаў шукаць міны, за выяўленне — узнагароды. У пераліку ступеняў цялесных пашкоджанняў ад 30.XI.43 да другой ступені (пацяперашняму — інваліднасці) і такое: «Пашкоджанне мозгу з невялікімі забурэннямі, страта абодвух яйкаў» (відаць, гэта адна з найвялікшых стратаў, прытым з адценнем гумару дурнога).

Быў на вячэрні. Айцец запальвае свечы. Ідзе абедня. А за вокнамі шалеюць салаўі. Па дарозе, калі ехалі, цвітуць сады. Нешта ненармальнае ў, здавалася б, нармальным свеце.

* У Англіі два БМ — Брытанскі музей, Беларускі музей. Мапа XVIII ст. Віцебск — крэпасць супроць нападаў Масквы. Мапа Мэйера. У Нюрнбэргу 1749 г. Ушача. На мапах XVI ст. Полацк і Тураўля амаль нароўні. На нейтральнай паласе вёска Шатландыя — Англія. Маладзёны, калі сум… Айцец Надсан у бальніцы даглядае свечкі, ці шмат яшчэ душы дагараць. А за вакном салаўі.

— Ягова, што для цябе 1000-годдзе?

— Як адна хвіля.

— А мільён рублёў?

— Як адзін пенс.

— Дай мне 1 пенс.

— Пачакай хвіліну…

У Лёндане, у прадмесцях, трэба быць у тонкай кашулі, у лёгкім пінжаку, бо агульна ўсе апрануты як бы па-святочнаму. Каўбойка ўжо не глядзіцца…

Чалавецтва вяртаецца да пачатку неўпрыкмет. Героі Гамэра й амерыканскія баевікі, лічы, тое ж самае, толькі пры іншым тэхнічным узроўні, мышленне ў чалавека кансэрватыўнае.

*22 лютага, нядзеля*

Раненька пазваніла Вера Рыч. Перадала ліст да Карласа й запрашэнне Алесю Белагаму. Прыехаў Ян. І з ім мы ў аэрапорт Гільвек. З гатэля The Grosvenor вельмі зручна электрычкай. Пакуль чакаў Яна, пачаў пісаць вершы: «І спрачаюцца…: І казаў мне крок малады…» [у дзённіку].

«Ісціме…»[1] «Белавія» давязла да Менска. Па дарозе дамоў да Карласа. Дома […]. Дамінічка спіць. Кот Мірон прачнууўся й адразу да мяне на шыю. Родная душа.

*23 лютага, панядзелак*

Уночы Дамінічка паклікала накрыць яе, бо скінула ў сне ўсе коўдры з сябе. Раніцай мне кажа: «А я дапісала твой верш: Трэба дома бываць часцей і прымаць чужых гасцей». Мірон атрымаў у яе тытул барона. Цяпер гучыць барон Мірон. Даклаў ёй яшчэ грошай, купіла вялікую ляльку. Дужа шчаслівая. Ці будзе ў ейным жыцці шмат шчаслівых хвілін? Божанька, заслані яе!

Званіў Васілю. Казаў, што ў базарным «Славянскім набаце» беларускі Паўка Карчагін — Іван Капыловіч[2] палівае яго, а мяне найболей. Зноў напады антысеміцкія. Калі б я быў яўрэем, гэта б мяне абыходзіла. А так сабака брэша — язык свой чэша. Такі ў нас Саюз пісьменнікаў. Падонкаў праз верх.

*24 лютага, аўторак*

З раніцы развозіў лісты з Лёндана. А чацвёртай дня ў Музеі Купалы ўручалі ордэн Трох зорак, — вышэйшая ўзнагарода Латвіі. Быў і выступаў Васіль. Былі Шушкевіч[3], Гарэцкі[4], Мірдза Абала[5], Сітніца[6], вядома, Карлас, які ўсё гэта і арганізаваў. Дзякуй яму! Васіль мне між іншых сувэніраў падараваў і першы асобнік шматпакутнай «Сцяны». Нарэшце. Званілі са

---

[1] Гл.: Ісціме… (22.02.98, Лондан) // Босая зорка. С. 21. З прысвячэннем «Айцу Аляксандру Надсону».

[2] Капыловіч Іван Іванавіч (н. 1944), беларускі пісьменнік.

[3] Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч (н. 1934), беларускі фізік; дзяржаўны дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1970). Член-карэспандэнт НАНБ (1991). Прафесар (1972). У 1998–2018 гг. старшыня партыі Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада. Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[4] Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч (н. 1928), беларускі вучоны-геолаг, грамадскі дзеяч. Доктар геалагічных навук (1969). Член-карэспандэнт АН БССР (1972). Акадэмік АН БССР (1977). Замежны член Расійскай АН (1994). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1969), Дзяржаўнай прэміі БССР (1978). У 1993–2001 гг. прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

[5] Абала Мірдза (1923–2007), латышскі літаратуразнавец, беларусавед. Доктар філалагічных навук (1956). Лаўрэат дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1986).

[6] Сітніца Рыгор Сымонавіч (н. 1958), беларускі графік, паэт. З 1983 г. выкладчык Беларускага каледжа мастацтваў. Ганаровы акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў (2015). Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (2019). Лаўрэат Нацыянальнай прэміі РБ (2018).

Штатаў — Лапушын-старэйшы[1], Навумчык[2], Зянон, Рэм[3]. З Будапешта — чароўная Вераніка Бягун. Са Светлагорска [Белаазёрска] — Ніна Мацяш[4]. З Вушачы — Кі′рпіч[5], з Віцебска — Навумчык-старэйшы[6]. Мікола Грынчык з Любай[7] успомнілі. Матукоўскі[8] — абураўся артыкулам, ці дзёгцем, Івана Капыловіча. Капыловіч мяне лічыць яўрэем, прапануе выкінуць з праграмаў і не выдаваць. А маіх кніжак за год, выходзіць, разышлося 17. Усё — і тон, і падлік па трыццаць сёмаму году. «Уначы перад сонечным зацьменнем»[9].

Званіў Баршчэўскі Лявон, ён у Вітабску чытае лекцыі. А наогул, так званыя браты пісьменнікі амаль ніхто. Дружная сям'я парсючкоў і парсюкоў, загнаная ў адзін хлеў — абкусвайце сабе лычы й капыты! Раней многа званілі. Тут дзейнічала, што пры нейкай пасадзе быў — зацікаўленыя праяўлялі павагу. Так званае сяброўства па інтарэсах. Бог з імі. Мае сапраўдныя сябры амаль усе там, куды й я пайду. Цікава, калі Юрась Карманаў даваў рэпартаж па «Свабодзе». Адну дэталь заўважыў. Пералічыў, хто вітаў. І калі казаў, што нам. міністра замежных спраў Мазай[10] толькі рэплікай — без кветак. Гэта паказвае адносіны.

*25 лютага, серада*

Як рэпэтыцыя смерці. Апоўдні толькі змог падняцца з пасцелі. Але трэба было. У Пушкінскай бібліятэцы Галіна Дзягілева ладзіла монаспектакль «Эвангелле ад Мамы». Давялося йсці. Неяк расшабуняўся. Аж спяваў па заказу. У асноўным моладзь. Гэта й радуе. Пакуль моладзь будзе хінуцца да беларускасці, будзе трываць Беларусь. Дажыў да сівых

---

[1] Лапушын Яфім Сямёнавіч (адвакат), бацька Р. Лапушына.

[2] Навумчык Сяргей Іосіфавіч (н. 1961), беларускі журналіст, палітычны дзеяч. З 1996 г. жыве ў ЗША. З 1990 г. супрацоўнік Радыё «Свабода». З 1997 г. нам. старшыні Рады БНР. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2006).

[3] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. З 1995 г. жыў у ЗША.

[4] Мацяш Ніна Іосіфаўна (1943–2008), беларуская паэтэса, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя А. Куляшова (1984).

[5] Кірпіч Мікалай Мікалаевіч (н. 1950), дырэктар Ушацкага дзяржаўнага музея народнай славы імя У. Лабанка (1975–2010).

[6] Навумчык Іосіф Адамавіч (н. 1938), бацька С. Навумчыка.

[7] Грынчык Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923–1999), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1980–1999 гг. заг. кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Доктар філалагічных навук (1970), прафесар. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1977). Любоў Мікалаеўна, жонка М. Грынчыка.

[8] Матукоўскі Мікалай Ягоравіч (1929–2001), беларускі драматург, публіцыст.

[9] Гл.: Вушача перад сонечным зацьменнем (23–24.02.98) // Ксты. С. 245.

[10] Мазай Ніна Мікалаеўна (1950–2019), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч, дыпламат. У 1997–1999 гг. нам. міністра замежных спраў, у 2001–2008 гг. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол РБ у Канадзе.

валасоў, а ўсё баюся аўдыторыі. У мяне ўсё няма ўпэўненасці, што ім цікава слухаць мяне, што яны хочуць слухаць мае вершы. Паэту дужа трэба зацікаўленая, амаль сямейная аўдыторыя для пэўнасці.

*26 лютага, чацвер*

У выдавецтва. Фэлікс Мысліцкі[1] прыехаў, бо выйшла ягоная шматпакутная кніжка. Па дарозе да Ганада сустрэўся Марчук[2]. Адразу з прапановай выступіць на прэзэнтацыі «Боскай камэдыі». Будзе дужа шырока адзначана, будуць ад [Лукашэнкі], сам пасол[3]. Пасол мне прыемны, а рэшта — савецкая камэдыя, гэтак, як і пераклад, і перакладчык, які нядаўна ездзіў з камуна[...] эмісарамі кшталту Распуціна, Праскурына[4] й крычаў, што не можа без Масквы. Дэмакратычная прэса дала матэрыялы пра ўрачыстасці ў Купалавым доме. Хоць кепска, але добра, што ёсць такі час, дзе кожны паяўляецца, як фатаплёнка, праяўляеца. Бо душа людская — вір, у якога дно не відаць. На дно асядае й благое, і добрае. І толькі калі ўзбунтуецца дно, адпаведна нешта ўсплывае.

*Шукаюць...*

За вёскаю ў полі
У нейкім стагоддзі
Пакінулі нанач
І серп, і аграблі.
Рупліўцы забытыя
Роспачна зяблі,
Чакалі, што ўспомняць
Пра іх пры нагодзе.

Сама не заўважыла —
Стала прадмесцем,
Убралася вёска
Ў каменныя строі.
Прапраўнукі тых,
Што гулялі па Троі,
Вятры прысягалі:
Мы ўсіх апавесцім,

---

[1] Мысліцкі Фелікс Эдуардавіч (1950–2008) рускі паэт; харавы дырыжор.

[2] Марчук Георгій Васільевіч (н. 1947), беларускі празаік, драматург. У 1997–2002 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[3] Бальдзі Марыо Джоджо Стэфане (н. 1965), пасол Італьянскай Рэспублікі ў Беларусі (1996–1998).

[4] Праскурын Пётр Лукіч (1928–2001), рускі пісьменнік. Герой Сацыялістычнай Працы (1988). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1974, 1979).

Як выпрастаў горад
Замлелыя плечы,
Як сноп, спузанеўшы,
Развітваўся з полем.
Дажджы абяцалі:
Мы смагу спатолім.
Бо мелі характар
Яны чалавечы.

Знасіліся мечы,
І саблі прыслаблі.
Пабралася з бронзай
Дубовае лісце.
Шукаюць таго,
Хто забыў іх калісьці,
У ценях халодных
І серп, і аграблі…

*27 лютага, пятніца*

Сабраліся ўсёй нашай былой рэдакцыяй. Быў Ганад. Глеб Артханыч[1]. Спазніўся Васіль Сёмуха. Падараваў мне анёліцу, якая ахоўвала яго пяць гадоў, каб ахоўвала мяне й Дамінічку. Потым мне распавёў, чаму спазніўся. Відаць, пакрыўдзілася анёліца. Пачаў блудзіць. З аўтобуса на аўтобус. Тады перапрасіў анёліцу, і адразу трапіў да нас усіх, бо мы яго дужа чакалі. Я асабліва, бо няйначай адчуваў, што Васіль мне падаруе. Васілю гэтую анёліцу, як ён называе яе на польскі лад, прывезлі з Польшчы. Зазвычай анёлы, а анёліцы рэдка бываюць.

*1 сакавіка, нядзеля*

Хоць кажуць: яшчэ й марац пад нос зашмарыць, але ад вясны ўжо нікуды не ўцячы. Уцячэ зіма. Адпаведна на душы святлее. Б'юся над вершам Адама Міцкевіча, якім пачынаецца яго творчасць. Крыху ўсё спакойна й правільна, а я люблю, каб было кручана, каб можна было круціць, выкручваць, перакручваць. Пісаў вершы: «Прывыкае…: Здабыча сівога ваўка…», «Посах: Цень агню гарыць і ў вадзе…» [у дзённіку].

*2 сакавіка, панядзелак*

Сядзеў дома, бегаў у Дом прэсы, на Камароўку — Мірону прысмакі купіць. Вечарам званок з «Беларусьфільма». Нейкі малады рэжысёр, ра-

[1] Артханаў Глеб (сапр. Аляксееў Юрый Ігаравіч; н. 1954), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Усерасійскай літаратурнай прэміі імя Б. Карнілава, Міжнароднай літаратурнай прэміі імя І. Анненскага.

сеец, прапануе мне ўзяць удзел у кіна[…] пра Машэрава[1]. Параіў Генадзя Мікалаевіча як земляка, экс-міністра, экс-пасла й да таго падобнага. Выходзіць, і Васілю званілі з гэтакай жа прапановай. Васіль адрэзаў: «Я з ім у адной партыі не састаяў…» Пад ноч дамучыў сцэнар пра Змітрака Бядулю. Назва: «І ў сэрцы — цэлы свет…»

Валя ўкладвае Дамінічку, нешта пра зубы, у каго якія. Дамінічка: «У мяне зубы раўнюткія, як свежапафарбаваны паркан…» У Гамэра[2]: «Якія словы ў цябе цераз плот зубоў пралягаюць?»

*3 сакавіка, аўторак*

Прыехаў мой вядзьмар[3] з Палангі. Лечыў. Аж якасць перайшла ў колькасць. На плошчы Перамогі не мог з’арыентавацца, дзе «Полымя», у якім баку. Вядзьмар распавядаў, як адна вядзьмарка кляла ў ягонай вёсцы: «Я табе так зраблю, што не толькі стаяць не будзе, але й вісець будзе няправільна». Вядзьмар пра аднаго: каб яму ў пекле цёпла было. І тут жа тлумачыць: цёпла ў кіпучай смале. Рыгор Сітніца мае праект перабудовы пляца Незалежнасці. У канструктывісцкай манеры паставіць помнік Вовіку Леніну ў клетку. Пісаў «дурноціну»: «Сумяшчальнік: Прыйшоўшы ад кумы, гуляка…» [у дзённіку]. А ў вушах яшчэ стаяць расповеды Сітніцы пра Палессе. Можна было кошыкам начарэпаць на абед рыбы. Пугай збіць колькі качак у юшку. Як у казцы.

*Ці выплыве…*

Мая зімовая журба  
На талай крызе адплывае.  
Прымаладзілася вярба.  
Сівее вея веснавая.  
Ты ёсць,  
Хоць тут цябе няма,  
Пад крыгамі аблокаў шэрых.  
Растане крыга —  
І сама  
Ці выплыве журба на бераг…

---

[1] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), беларускі савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1965–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[2] Гамер — легендарны старажытнагрэчаскі эпічны паэт.

[3] Кухарскі Пётр Станіслававіч (1958–2013), вайсковец; урач-фітатэрапеўт. Кандыдат медыцынскіх навук. У 1995–1999 гг. жыў і працаваў у Літве. Гл.: Вядзьмарскі трыпціх (23.04.02; 14–15.06.00; 1.07.00) // Руны Перуновы. С. 388. Жывуць! (22.09.02) // Тамсама. С. 384.

*4 сакавіка, серада*

У ПЭН. Прыходзіў Васіль. Вечарам званіў Васіль. Трубку падняла Дамінічка. Васіль: «Зайздрошчу, што ў цябе такая сакратарка. Такая беларусачка шчырая…» Мне як маслам па сэрцы. Званіў Ул. Падгол[1]. Трэба падпісаць кніжкі «Здубавецьця» бацькам пераможцаў конкурсу. Яны, Падгол і Лявон [Баршчэўскі] пачалі акцыю, каб дзеці малявалі буслоў як сімвал Беларускасці. Напісаў: «Вольна развінайцеся!» [У дзённіку.]

Да ночы яшчэ падпісваў «Здубавецьця» бацькам, чые дзеці вылучыліся ў конкурсе, які праводзіць БНФ. Званіў Васілю. Васіль пра Халіпа[2]: «Гэта ж я ў маленстве марыў пераплысці Белякоўскае возера. Потым усё не выпадала. Пасля й сілы не тыя. А Халіп (калі здымалі «Край перакуленых нябёсаў») пераплыў туды й назад. Здзейсніў мару маю…»

*5 сакавіка, чацвер*

Занёс Падголу кніжкі й верш пра буслоў. У Алы [Гаўрон] ўзяў перадрук сцэнара. Палякоў паморшчыўся й сказаў, што гэта літаратурнае даследаванне. Потым, калі я сказаў, як памёр Бядуля, у Палякова ўзнікла добрая ідэя. Фільм пабудаваць на трох асобах — Купала, Багдановіч, Бядуля. Ад імя Бядулі тэкст. І цягнік, які будзе цягнуць сюжэт.

Вечарам распытаў у Артура Вольскага[3] пра смерць Бядулі. Ехалі ў двух таварных [вагонах] сем'і пісьменнікаў з-пад Саратава. Якуб Колас паклапаціўся, каб у Сярэднюю Азію пераехалі. Цягнік недзе спыніўся ў казахскім стэпе. Выбеглі хто з якой патрэбай. Цягнік рушыў. І Бядуля даганяў цягнік. Ускочыў. Папрасіў у жонкі Марыі папяросу. Яна кажа, што няма. Бядуля — што апошняя недзе ёсць. Дастаў. Запаліў. Колькі зацяжак — і тут жа сканаў. Гэта было пры недаездзе да Уральска. У Уральску быў БДТ-2[4] (цяперашнія коласаўцы). Хавалі там жа. Бядуля ляжаў на гурбіне каменнага вугалю. Не ў труне. У сінім касцюме з ордэнам «Знак пашаны». Пачаў падаць ахлопкамі снег на ягоную рыжую галаву… А нехта са старэйшых казаў, як другі раз жаніўся Бядуля. […]. Некалі бацька Артураў Зэйдэль[5] распавядаў, як цесць Глебкаў быў царкоўным старастам.

---

[1] Падгол Уладзімір Міхайлавіч (н. 1952), беларускі палітолаг, журналіст. Кандыдат філасофскіх навук.

[2] Халіп Уладзімір Трафімавіч (н. 1939), беларускі журналіст, мастацтвазнавец, драматург. У 1987–1998 гг. кіраўнік студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм».

[3] Вольскі Артур Вітальевіч (1924–2002), беларускі паэт, драматург, перакладчык.

[4] Беларуская драматычная студыя (з 1926), з 1945 — Беларускі дзяржаўны другі драматычны тэатр (БДТ-2), з 1944 — імя Я. Коласа.

[5] Вольскі Віталь (сапр. Зэйдэль-Вольскі Віталій Фрыдрыхавіч; 1901–1988), беларускі драматург, літаратуразнавец, нарысіст. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1971).

А цешча ўсё прасіла зяця: «Ты б неяк прапхнуў цесця ў акадэмікі». Думаю, па адукацыі цесць меў такое ж права на званне акадэміка, як зяць…

*6 сакавіка, пятніца*

З Самсонам да Рэлеса[1]. Яму будзе ў красавіку 85. Цікава казаў пра Пэна[2].. Пэн пра Шагала: «Я яго вучыў-вучыў, а ён што малюе».

Тады Рэлес падтаквае: «І сапраўды, мазня. Людзі лётаюць, у грудзі аднаго ўманціраваны нехта…» Пэн адразу: «Не май смеласці так казаць. Вось ты пішаш, як усе (Рэлес пра сябе кажа, што пісаў пра пяцігодкі ды пра іншае ўсё прасавецкае), а ён не так, як усе. Вось ты можаш напісаць, што людзі лётаюць?» Рэлес: «Вядома, магу, гэта можна, бо гэта паэзія». Пэн: «Бачыш, да гэтага вуха прывыкла, а вока не прывыкла ды не скора прывыкне…» У Віцебску Пэна ўсе ведалі. Калі йшоў па вуліцы белабароды маэстра, усе віталіся. Пэн ідзе на рынак непадалёк ад свайго дома. Маладзіцы, якія прадаюць, усе ў асноўным з Віцебска. Яны выразаюць з газэтаў карцінкі Пэна й вешаюць у сябе на сценах. І, вядома, Пэну ўсё прадаюць, лічы, за так. Потым Пэн дзівіцца, чаму гэта кажуць, што на базары ўсё дорага, ён жа купляе танна… Рэлес пра адну жанчыну, якая пасля вайны да нядаўняга часу давала пацьверджанні, што чалавек той ці іншы быў вязнем гета. Прыходзяць да яе. Аднаму кажа: «Вас памятаю», — другому: «А вас я не магу прыпомніць, не бачыла». А выявілася, што яна была ў гета, толькі ёй было два гады.

Званіў Васілю. Белы развіў новую ініцыятыву. Перанос праху Максіма Багдановіча. Прапанаваў Васілю падпісаць ліст да Лінга[3]. Васіль, зразумела, адмовіўся. Васіль пра помнікі, якія напладзіў Белы: «Зробіць нейкі помнік, а потым цягаецца з ім, як кошка з здохлым пацуком. Трэба пачынаць не з помнікаў» . Пра Чыгрынава[4]: «Першы раман так-сяк напісаў, а потым цягнуў за хвост вужаку. Пра ваенныя дзеянні — усё на ўзроўні анекдоту. Бязглуздзіцца, якой не было. Эфектная бязглуздзіцца. Так некалі і Еўтушэнка[5] ў сваім рамане. Я яму пісаў пра гэта, калі прыслаў чытаць рукапіс». Вясёла ўспомніў, як у трыццатых гадах, недзе на пачатку, захапляліся аркамі. Яловыя слупы і лозунг: «Няхай жывуць правадыры

---

[1] Рэлес Рыгор Львовіч (1913–2004), яўрэйскі і рускі празаік і паэт.

[2] Пэн Юрый Майсеевіч (Юдаль Мойшавіч; 1854–1937), яўрэйскі мастак, педагог.

[3] Лінг Сяргей Сцяпанавіч (н. 1937), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1996–2000 гг. прэм'ер-міністр РБ.

[4] Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч (1934–1996), беларускі празаік. Народны пісьменнік РБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974), Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1979).

[5] Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч (1933–2017), рускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РФ (2010). Тройчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію.

Вушацкага раён Красінскі і Суднік». Нейкія канкрэтныя прозвішчы. Потым правадыр стаў адзін».

Званіў Карлюкевіч, у «Звязду» тэрмінова экспромтаваў: «Паненкі пекныя і маладзіцы!» [у дзённіку]. Раней бы «Звязда» папрасіла што напісаць пра партыю. Мяняюцца часы. Гэтак мяняюцца, што могуць званіць, вядома, не мне, і заказваць вершы пра [Лукашэнку]. Сапраўды, як у нас казалі: вашапруд на кут, а добраму чалавечку добра і ў запечку. Прыйшоў у галаву верш здалёку:

*Каб наталіцца...*

Туга па нязбытнай красе не пакіне
Ні ў мроіве стэпаў,
Ні ў змове бароў
Таго,
Хто аднойчы пабыў у Пекіне
На вуліцы Ліхтароў.

... Калёрыцца дзень
Ад пяшчоты паперы,
І сорамна ветру за ўздыхі свае.
І ноч забывае на злыя намеры.
І зрок адтае...

Душа, як ліхтар, у глухім успаміне
Абнашчыць надзеяй адчай вечароў,
Каб толькі красой наталіцца ў Пекіне
На вуліцы Ліхтароў...

«Вымаві!»[1]

*7 сакавіка, субота*

З Самсонам на маленькі базар непадалёк. Ссаветызаваны статак усё мяце, хапае. Прычына напіцца й так-сяк нажэрціся — дзень народзінаў Клары Цэткін[2], 8 Сакавіка. Мятуць мімозы, якімі на Каўказе мятуць падлогу. «Фотаздымак»[3]. Дамінічка нешта на сябе накідвае, нешта прымярае, каб быць «як дама ўсіх часоў». Расце маленькая модніца. Ці будзе ёй што прымяраць пры такіх бацьках, калі загнуся?

---

[1] Гл.: Вымаві! (6.03.98) // Як воўк калядаваў. Мінск: «Юнацтва», 2000. С. 25.

[2] Цэткін Клара (1857–1933), дзеяч германскага і міжнароднага камуністычнага руху, адна з заснавальнікаў КП Германіі. Міжнародны кангрэс жанчын (1910, Капенгаген) прыняў яе прапанову аб святкаванні Міжнароднага жаночага дня 8 сакавіка.

[3] Гл.: Фотаздымак (7.03.98) // Ксты. С. 248.

*8 сакавіка, нядзеля*

Званіў Васіль. Ірына Міхайлаўна дзярэ хрэн і ўспамінае: «Хай смутак вачэй тваіх ясных не росіць». Гэта пра Сталіна[1]. Цэлы дзень перакладаў Адама Міцкевіча. 40 карацелек-афарызмаў атрымалася. Святая лічба. Шмат трапных, кшталту:

*Oszuranstwo*

Клічаш Бога: Ойча! — і Айцец прыходзіць,
Ды замест дзіцятка дзецюка знаходзіць.

*9 сакавіка, панядзелак*

На кінастудыю. Абмеркаванне сцэнара. Як заўсёды, самы мудры Самсон. На кінастудыі не хапае апэратараў дакументальнага кіно. Як і ва ўсёй краіне, кіраўнікоў шмат, а прафесіяналаў мала. Званіў Бур’яну[2]. У майстэрні Азгура[3] ёсць добры скульптурны партрэт Змітрака Бядулі. Трэба будзе яшчэ пачытаць успаміны[4] пра Змітрака. У тым ліку і азгураўскія. У Нацыянальнай бібліятэцы трэба дакапацца да бядулеўскай публіцыстыкі часоў польскае акупацыі. Там шмат антысаветчыны павінна быць. Гэта цікава. «Айчына думкі...»[5], «Ад душы...: А сябраваць жаўрук не будзе з груганнём», «Прыжыццёвыя: Прывыкшы дзьмуцца і дуракаваць...» [у дзённіку].

*Думаў...*

Марыў Купала пра гордае шэсце
Праўды,
І перад усім
З цэлым народам гутарку весці
Думаў,
Але не з глухім...

Часта званю Радзіку. Ён нейкі адступны апошнім часам. Прыхавана знерваваны, заклапочана-разгублены. Відаць, трэба ехаць, а не зусім яму хочацца. Бо не чакаюць яго там мяды.

---

[1] Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі; хатняе Іосіф — Сасо; 1879–1953), адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі СССР і Савецкай дзяржавы.

[2] Бур’ян Барыс Іванавіч (1924–2009), беларускі пісьменнік, тэатральны і літаратурны крытык, сцэнарыст.

[3] Азгур Заір Ісакавіч (1908–1995), беларускі скульптар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1939). Народны мастак БССР (1944). Заслужаны дзеяч мастацтваў Дагестанскай АССР (1960). Народны мастак СССР (1973). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1948).

[4] Успаміны пра Змітрака Бядулю. Мінск, 1988.

[5] Гл.: «Айчына думкі...» (9.03.98) // Ксты. С. 244.

*10 сакавіка, аўторак*

Мучаю Адама Міцкевіча. Геніяльная прастата. А мне па душы геніяльная каркаломнасць кшталту Вальехі[1]. Уночы прачынаўся, урыўкамі лез у галаву верш: «І потым...»[2].

*11 сакавіка, серада*

Дамучыў баладу й яшчэ адзін верш. Сёмуха слушна заўважыў, што Адам Міцкевіч, як Ян Райніс[3], абодва занудныя. Праўда, уголас казаць гэта нельга, бо абадва народы пакрыўдзяцца. Адзіная мне ўцеха, што ў слоўніку знаходжу словы, якія сталі вушацкімі, крыху з'іначаныя. «На пачатку...»[4], «Імгненне запыніць...»[5].

*12 сакавіка, чацвер*

З Самсонам да Лізаветы Захараўны Гутковіч. Цікавы расповяд пра гета, пра немца, які вывез у лес 26 чалавек з гета, а яго пасля ў Маскву, а ў Маскве праз два месяцы як забралі, дык і да сёння няма. Даўно думаў пра гэта й напісалася: «Чакаюць...: Чакаюць — прыйдзе светлы год...» [у дзённіку].

* Лізавета Захараўна Гутковіч. Подзвіг. Данцыгскія яўрэі. Немец закахаўся ў яўрэйку. Лізавета ўгаварыла немца. На машыне 26 яўрэяў [завезці да партызан] у лес. Пагадзіўся. Немца ў Маскву.

*13 сакавіка, пятніца*

Самы вар'яцкі дзень. Поўня, 13-е, магнітныя буры, зацьменне. Ледзь жыву. Ратуюся вершамі. Каб не звар'яцець. «Пасмуткуем, самота, з табою»[6], «Падспуднае»[7]. На вуліцы самая піліпаўская завіруха. Пад настрой пісаў: «Ты нібы запазнелая скруха...» [у дзённіку].

*14 сакавіка, субота*

Меўся ехаць з Юрасём Хадыкам у Салігорск. Не змог. Зваліла. Скрышыла. Мне ўжо некуды паехаць — праблема. Як ні круці, старасць. Ад яе

---

[1] Вальеха С. Чорныя геральды. Мінск, 1993. Пер. Р. Барадуліна. *Вальеха* Сэсар (1892–1938), перуанскі паэт, драматург.

[2] Гл.: І потым... (10.03.98) // Халодная памяць вады. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2010. С. 166.

[3] Райніс Ян (сапр. Пліекшанс Яніс; 1865–1929), латышскі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт ЛатвССР (1940).

[4] Гл.: На пачатку...(11.03.98) // Ксты. С. 278.

[5] Гл.: Світанак пасадзіць на кут... (11.03.98) // Тамсама. С. 364. Верш прысвечаны Я. Коктышу. *Коктыш* Яўген Фаміч (н. 1940), беларускі фотамайстар.

[6] Гл.: Пасмуткуем з табою (13.03.98) // Ксты. С. 247.

[7] Гл.: Падспуднае (13.03.98) // Босая зорка. С. 100.

нікуды не ўцячэш. З вялай галавой рабіў чарнавы пераклад байкі Адама Міцкевіча «Жабы ды іхныя каралі». Як на нас. Пісаў і нейкі верш. Часта думаю, дзе яны дзяюцца, гады, якія пражыў? Не могуць жа яны бясследна знікаць.

«Чакаюць...»[1].

*15 сакавіка, нядзеля*

З Самсонам на Камароўку — каб хоць неяк расшабуняцца, пабушляць, парыхлець, — так у нас некалі казалі. Знішчаецца, вытаптваецца мова беларуская. СНІД русіфікацыі, саветызацыі практычна невылечны. Пераклаў колькі санэтаў Міцкевіча й вершы Рэлеса. «Ці пачатак: І надакучыш сам сабе...» [у дзённіку].

«Астрог»[2].

*16 сакавіка, панядзелак*

Адключыў тэлефон. Перакладаю Міцкевіча й Рэлеса. Штогод цяжэй быць Барадуліным — паўсюль паспяваць. Рабіць выгляд, што на душы вясёла, шмат рабіць. Датычна Шамякіна[3] можна прачытаць Пушкіна й так: «Года к хе.овой прозе клонят...»[4]

*17 сакавіка, аўторак*

На кінастудыю. З Самсонам у яўрэйскі цэнтр па матэрыял для фільма «Я з гета». Галава адвальваецца. Дабіваю Міцкевіча. Вымалёўваецца падборка ў «Полымя». «Маладое віно»[5]. «Ясачка»[6].

*18 сакавіка, серада*

На кінастадыю. Да яўрэяў. У Самсона паглядзелі адзін самаробны фільм пра гета. Да канца так і даведзена да свядомасці людской увесь жах фашызму й бальшавізму. Знішчаць людзей толькі за тое, што яны людзі. Знішчаць і груба, і вытанчана, з дасягненнямі прагрэсу. У чалавечай натуры закладзена такое, што жывёле й не снілася. Звяры мусяць думаць, як пракарміцца. А чалавек?

---

[1] Гл.: Чакаюць... (14.03.98) // Ксты. С. 308.

[2] Гл.: Астрог (15.03.98) // Тамсама. С. 317.

[3] Шамякін Іван Пятровіч (1921–2004), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[4] Перыфраз пушкінскага радка «Лета к суровой прозе клонят» з рамана «Яўгеній Анегін».

[5] Гл.: Маладое віно (17.03.98) // Босая зорка. С. 77.

[6] Гл.: Ясачкі: Парыву жарсці не шкада (17.03.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 333.

*19 сакавіка, чацвер*

У Купалаўскі музей. Жанна Казіміраўна[1] мае цудоўны падарунак з вечара — міні-альбомчык. Сяргею Панізніку[2] ўспомніў даўні свой верш:

«Дагоднік дамскі і рамізнік, Да чэшак едзе Серж Панізнік» [у дзённіку].

У ПЭН-цэнтр. Ксеракапірваў спісы вязняў гета. Адзін [чалавек] ёсць з 1898 года. Да Радзіка. Сумна й трывожна ў яго дома. Паедзе. На «Здубавецьці»: «Паэтаў часта цягне ў хмы′знік…» [у дзённіку].

*20 сакавіка, пятніца*

Да яўрэяў. Да Самсона. Званіў Васіль. У «[Советской] Белоруссии» [… Аўруцін[3]] аб'яўляе ўсю беларускую літаратуру пятай калонай ад імя сапраўднай пятай калоны. Някляеў: «Выпраўляецца гістарычная памылка ўзнікнення Беларусі». Дамінічка чакала бабу й заснула. Пераносіў на ложак. Якая яна маленькая й безабаронная. У сне чалавек самы натуральны, у сне ягоны ўзрост маладзее, вяртаецца да маленства.

*21 сакавіка, субота*

Пахадзіў трохі ў снежнай завеі. Перакладаў Міцкевіча. Няма ў мяне ні сям'і, ні дому. […]. А яшчэ наогул атмасфера […] ў краіне. Васіль пра [Лукашэнку]: «Шэкспір».

*22 сакавіка, нядзеля*

Упрогся ў машынку. Перадрукоўваю «Псальмы Давідавы». А Дамініка напісала верш:

*Савяня*

Міленькі пухнацік выпаў з гнязда.
Яго маці шукала на ўзлессі.
Сава каламутныя слёзы ліла.
А сына яна адшукала сама,
Бо маці была таксама.
Яна бо цудоўная мама.

---

[1] Дапкюнас Жанна Казіміраўна (н. 1941, Польшча), беларускі літаратуразнавец, арганізатар музейнай справы. У 1963–2005 гг. супрацоўніца Літаратурнага музея Я. Купалы, у 1986–2002 гг. — яго дырэктар. Унучатая пляменніца Я. Купалы.

[2] Панізнік Сяргей Сцяпанавіч (н. 1942), беларускі паэт, перакладчык. У 1996–1999 гг. вучоны сакратар Літаратурнага музея Я. Купалы.

[3] Аўруцін Анатолій Юр'евіч (н. 1948), рускі паэт, перакладчык, крытык. У 1990-х гг. супрацоўнік і рэдактар літаратурных часопісаў і газет. Лаўрэат Усерасійскай прэміі імя Б. Карнілава (2012), Нацыянальнай літаратурнай прэміі Беларусі (2016), Міжнароднай літаратурнай прэміі імя І. Анненскага (2017) і інш.

Мне на душы адлежна, бо ўнучка беларускаю расце. Верш проста золата ў сваёй няўклюднасці й раскутасці.

*** Дамініка: «Ведаеш, што мне падабаецца ў рысах твару Мірона? Розум».

*23 сакавіка, панядзелак*

Цэлы дзень за машынкай. Дакончыў псальмы й перадрукаваў Міцкевіча — з новых перакладаў.

*24 сакавіка, аўторак*

У Купалавым музеі ўручэнне прэміі імя Францішка Багушэвіча. І Алесь Лукашук, і Васіль Сёмуха ў адказным слове занялі шмат часу. Ніколі не трэба старацца паказаць сябе разумнейшым, чым ты ёсць. На справе Васіль сябе кепска пачувае. Выглядае кепска.

*25 сакавіка, серада*

Сёння вялікае свята Беларусі, а я хворы. Нічога ў галаву не йдзе, нічога не цешыць. Хвароба на мяне ўсё нахабней насядае.

*26 сакавіка, чацвер*

Вывалак сябе ў «Полымя» — аддаў Сяргею [Законнікаву] «Пса′льмы Давідавы» й пераклады Міцкевіча. Потым у «Звязду».

*27 сакавіка, пятніца*

Гнію дома. Праз сілу перакладаю Ганада, бо вісіць гірай. «Хварэю: Маўчу ды гутару са скрухаю…» [у дзённіку].

*28 сакавіка, субота*

Цэлы дзень дома. Трохі пераклаў Ганада. Галава, яу савецкага пэнсыянэра.

29 сакавіка, нядзеля

Дамініка паказвае сшытак. Паставілі чацвёрку за тое, што напісала *вакно*, а не зрусіфікавана *акно*. Маленькая й тая тлумачыць, як трэба правяраць: вакно — вокны. А дзядзькі ад навукі ва ўгоду Маскве ўсё могуць даказаць. Ужо ёсць прапанова *Прэзідэнт* […] пісаць з вялікай літары. […].

*30 сакавіка, панядзелак*

Трохі вывалакся на вуліцу. Зайшоўся да Карлюкевіча. Перадрукоўваў вершы.

*31 сакавіка, аўторак*

Да Карлюкевіча. Занёс у «Звязду» падборку вершаў. Без палітыкі. Стараўся нейтральных. Потым пайшлі з Самсонам і Ветраком на прэзентацыю фільма Ул. Коласа[1] ў ліцэй. Мярзотны фільм, памыйны, пра мастацкую блатву. Адмыванне сорасаўскіх[2] грошай. І навошта было цягнуць сюды Васіля? Напачатку Васілю стала блага. Карлас адвёз да Васілёвай хаты. Па вуліцы пахадзілі з ім. Дабіваюць яго й ворагі, і сябры. Далі б чалавеку нейкі спакой. Дый наш любімы лідэр злоўжывае Васілёвай інтэлігентнасцю. Часта падводзіць яго. Да прыкладу, з гэтым грамадзянствам [БНР][3]. Добра, што хоць на месяц з'едзе. Дужа клапоціцца пра гэта Карлас. Усё складана. І кожны раз, апошнім часам, развітваемся з Васілём, быццам назаўсягды. Хто першы пойдзе, гэта Богу толькі вядома.

*1 красавіка, серада*

Дзень смеху, а мне сумна. Ніяк не мог падняцца з пасцелі. Сам сябе падымаў. Баліць усё. Адчуванне нейкае скончыны. Нічога не міла. Званіў Васілю. Васіль між іншым пра «Чорны квадрат» Малевіча[4]. Гэта Малевіч выказаў жалобу, што мастацтва скончылася, бо рэвалюцыя й сацрэалізм настаў. «Кожны сам»[5].

*2 красавіка, чацвер*

У ПЭН. Да Карласа. Процька[6] хоча ўз'юшыць справу супроць славянасабораўскай[7] прэсы, бо на ўсю глотку йдзе прапаганда антысемітызму. Паклёпы на Васіля. Васіль ад'язджае [у Швецыю]. Увесь у зборах, праўда, не ён, а Ірына Міхайлаўна. Пераклаў невялікі верш Адама Міцкевіча. Да жудасці сучасны, бо класічны, а значыць — вечны.

*Глоткі, якія крычаць за народ*

Глоткі, якія крычаць за народ,
збрыдзяць нарэшце народу.

---

[1] Колас Уладзімір Георгіевіч (н. 1951), беларускі кінарэжысёр, педагог. Заснавальнік і дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа (з 1990). Сын Г. Коласа.

[2] Фонд Сораса — міжнародная дабрачынная арганізацыя, заснаваная фінансістам і філантропам Джорджам Сорасам (н. 1930; ЗША, Вялікабрытанія).

[3] Была задума выдаваць пашпарты грамадзяніна БНР.

[4] Малевіч Казімір Севярынавіч (1878–1935), рускі мастак, заснавальнік аднаго з кірункаў абстрактнага мастацтва, так званага супрэматызму (напр. «Чорны квадрат»).

[5] Гл.: Кожны сам... (1.04.98) // Халодная памяць вады. С. 256.

[6] Процька Таццяна Сяргееўна (н. 1951), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч, праваабаронца. Кандыдат філасофскіх навук. У 1995–2008 гг. старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта.

[7] Славянскі сабор «Белая Русь», грамадскае аб'яднанне (1992–1999).

Твары, якія цешаць народ,
палічыць народ за шкоду.

Рукі, што цягнуцца за народ,
народ адсячэ па локаць.
Імёнамі, што палюбіў народ,
будуць народ палохаць.

Стоміцца тлум і ацішыцца шум,
скогат сваё адбудзе,
Спадчыну ціха возьмуць сабе
цёмныя людзі…

*1833*

*3 красавіка, пятніца*

У «Полымя». У «Мастацкую [літаратуру]». Аддаў Брылішцы[1] пераклады з Міцкевіча. Потым да Ганада. Ганад сабой заняты па-ўсходняму. Цяжка зразумець усходняга чалавека, душа ягоная, як усходняя ноч, цяжкая ад цемры. Перадалі пачытаць вершы Алеся Уладамірскага[2]. Быў выдатны актор, а вершы чытаў — так ніхто ніколі не чытаў у нас. Трапяткая душа. Ёсць настрой, радкі, вобразы. Мог атрымацца арыгінальны паэт. З патомных акцёраў. Бо ў нас дужа ўжо шмат ад сахі ды ад молата.

*Памяці Алеся Уладамірскага*

Акторы, як і паэты,
Не паміраюць.
Як ранішнія каметы,
Гаюча згараюць.
Пачуўшы ад Сусвету сакрэты,
Хаваюцца ў вершы.
Акторы, як і паэты,
Жывуць і памершы…

*4 красавіка, субота*

Разам з Самсонам да Рэлеса. Цікава распавядаў пра савецкі ідыятызм, асабліва ў мястэчках. Вадавоза абвінавацілі ў правым ухіле, бо быў супроць фарбавальні, якая паганіла яму ваду. Калі йшоў з поўным, стараўся

[1] Семашкевіч Наталля Іванаўна (н. 1947), у 1972–2007 гг. мал. рэдактар, рэдактар, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Дачка Я. Брыля.

[2] Уладамірскі Аляксандр Барысавіч (1950–1997), беларускі акцёр. З 1993 г. артыст Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Беларусі. Сын Б. У. Уладамірскага.

па вуліцы, каб людзям шанцавала, а з пустымі вёдрамі йшоў цянькамі. «І ўсё было…»[1]

*5 красавіка, нядзеля*

Выцягваўся трохі на вуліцу. Перакладаў Ганада. Трохі передрукаваў вершаў. Падборку ў «Маладосць» падрыхтаваў.

Званіў Карласу. Яму званіў Васіль. Даляцелі добра. Хай яму добра будзецца. Хай адпачне.

*6 красавіка, панядзелак*

Зусім адключыўся пад вечар. Трэба было быць на Дзягілевай — не змог. Мучыў трохі Ганада.

*7 красавіка, аўторак*

Занёс у «Маладосць» падборку й Але [машыністцы] на перадрук Ганада. Званілі з Маладога фронту. Павал Севярынец[2] за кратамі. Напісаў праклaмацыйныя радкі:

*Паўлу Севярынцу за краты*

Маладыя змагары,
Каліноўскія[3], Сакраты[4]!
Вас часовыя цары
Хочуць пасадзіць за краты.
Скруцяць галаву сабе
Рызыканты, шаляніцы.
Пераможа ў барацьбе,
Хто за волю выйшаў быцца!

*8 красавіка, серада*

Да Карласа ў ПЭН з Самсонам. Цікавы цыркуляр […]. Саўслужбакам не даваць інтэрв'ю апазыцыйнай прэсе, не размяшчаць рэкляму.

Потым у выдавецтва. Падпісаў упакоўку «Аратая…»[5] для педінстытута. […].

[1] Гл.: І ўсё было… (4.04.98) // Ксты. С. 325.

[2] Севярынец Павел Канстанцінавіч (н. 1976), беларускі моладзевы хрысціянскі палітык, публіцыст, пісьменнік. У 1999–2004 гг. старшыня «Маладога фронту».

[3] Каліноўскі Кастусь (Вікенцій Канстанцін Сямёнавіч; 1838–1864), лідар беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве. Пакараны царскімі ўладамі.

[4] Сакрат (470]469–399 да н. э.), старажытнагрэчаскі філосаф. Пакараны ўладамі.

[5] Барадулін Р. Аратай, які пасвіць аблокі». Мінск, 1995.

*9 красавіка, чацвер*

Забраў передрук у Алы. У «ЛіМ» падборку і ўрэзку да Рэлеса[1]. На радыё. Назад дамоў, — маладая, панавітая, шчырая беларуская дачушка Рыны[2]. Як маладая Рына. Які ж я стары. Яе ж тады ў садок вадзіла Рына. Яна, маленькая, слала пасцелю… Светла! […].

*10 красавіка, пятніца*

Ад адчаю, ад кепскага здароўя перачытваю легенды Элады. Нічога ў свеце не змянілася.

*Забыўся я цябе…*

Забыўся я цябе аднойчы,
Адстаў, здаецца, ад дакукі
І цверазею пакрыёма.
Ды бачаць ранішнія вочы,
Ды чуюць палахліўку рукі,
Ды помніць упірліўку стома…

*11 красавіка, субота*

З Самсонам на Камароўку. Уліў дождж як на касьбе. Яшчэ халодна. Сніў Васіля. Як ён там? Ці лепей яму? «Успамін»[3]. Правіў «дурноту»: «Перспектыва: Шматтом'е Пегас размяце хвастом» [у дзённіку].

*12 красавіка, нядзеля*

Перакладаў яшчэ Адама Міцкевіча. Учора Жак[4] казаў, што дабіўся ад міністра асветы ліста, каб усе выпускнікі набывалі кнігу[5] Андрэя Вазнясенскага[6], якую выдаюць да яго выступлення на Нарачы. Для расійца й грошы, і наклады ёсць. А Васіля ўсе любяць, а кнігу не выдаў ніхто са шчыруноў. Адкрываць свята будзе Дудараў[7]. Без гэтага прэзыдэнцкага

---

[1] Гл.: Іскра ў попеле: Рыгору Рэлесу — 85 // Літаратура і мастацтва. 24 крас. 1998.

[2] Дачка Рынальды Пятроўны Бабіцкай, якой былі прысвечаны вершы 70-х гг.

[3] Гл.: Успамін (11.04.98) // Халодная памяць вады. С. 16.

[4] Жак Віктар Герасімавіч (1931–1998), дэкан інжынерна-педагагічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Кандыдат педагагічных навук.

[5] Свіцязянскі вянок = Свитязянский венок. Мінск: «Пейто», 1998. Да 200-годдзя А. Міцкевіча. Вершы А. Міцкевіча, Р. Барадуліна, А. Вазнясенскага; пераклады А. Зарыцкага, Р. Барадуліна. *Зарыцкі* Аляксей Аляксандравіч (1911–1987), беларускаі паэт, празаік, перакладчык.

[6] Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч (1933–2010), рускі паэт, публіцыст, мастак, архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі Урада РФ (2010, пасмяротна). Ганаровы член 10-ці акадэмій свету.

[7] Дудараў Аляксей Ануфрыевіч (н. 1950), беларускі актор, пісьменнік, драматург і кінадраматург. У 1991–1999 гг. рэдактар, у 1999–2002 гг. гал. рэдактар час. «Мастацтва». З 1992 г. старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў. Заслужаны дзеяч мастацтваў

салаўя ўжо хутка сонца не будзе ўсходзіць. Відаць, не паеду на свята. Афіцыйны [...] характар набывае.

*Хай дзівяцца*

У рэчцы вечнасці палонікаў
І галаруч, і галасрач
Лавіў радком Сяргей Законнікаў —
Надзейны малец з-пад Вушач.
І ўрэшце ўдачы шчупака
Ледзь падняла яго рука.
І касякамі шчупакі
Ідуць —
Хай дзівяцца вякі!

Самому спадабалася, як выкруцілася слова *галасрач.* Па ўсіх законах нашае мовы. Аж сам павесялеў. Мне для настрою аднаго слова хапае. Праўда, не дужа доўга. Вушацкія словы пацягнулі ўспаміны.

Сёння Вялічка ўніяцкае, значыць, маё. Няма маткі хроснай. Па вялікоднае яйка няма да каго йсці. Паступова адзінею. Пакуль Хрыстос уваскрасае ў душы, датуль чалавек жывы. Чалавек разам з Хрыстом уваскрасае — тым і жыве.

*13 красавіка, панядзелак*

У «Мастацкую», у «Полымя», у «ЛіМ». Пераклады Міцкевіча й «дурноты» аднёс. Гаварылі з Някляевым пра з'езд. Шурыкі зрабілі стаўку на раскол. Відаць, аб'ядналюць частку з [...] бондараўцамі[1]. Дый ёсць і ў нас заспінная калона, так званыя баталісты-марыністы.

Званіў Рэлесу. Успомніў, як ён распавядаў. У яўрэйскае мястэчка на пабыўку прыехаў Борух. Маці хваліцца: прыехаў Борух партупей, міт наган, міт ё. тваю маць». Гэта ўсё, што дала рэвалюцыя і саўулада. Вечарам пайшоў у краму. Купіў цукру, масла, хлеб. На цэментовым абмежку перакладаю ў сумку. Нехта вітаецца. Міністр культуры Сасноўскі[2] з жонкаю. Тут як бы базарчык пры краме. Падыходзіць маладзіца: «У вас яйцо ёсць?» Узяла злосць, адказаў: «Два». У прысутнасці міністра культуры адхаміўся.

---

РБ (1991). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1982, 1984), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2000).

[1] Бондараў Юрый Васільевіч (1924–2020), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1983), Міжнароднай прэміі імя М. Шолахава (1994), Вялікай літаратурнай прэміі Расіі (2012), Дзяржаўнай прэміі імя маршала Савецкага Саюза Г. Жукава (2014).

[2] Сасноўскі Аляксандр Уладзіміравіч (н. 1949), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1994–2000 гг. міністр культуры РБ.

Званіў Генадзю. Між іншым, сказаў: калі прыехаў, абяцалі высокія пасады пры ўмове, што выступіць супроць Васіля. Чаму такая прапанова яму, калі сапраўды была? І тут жа ўслед пазваніў Васіль з далёкага вострава. Голас добры. Можа, хоць крыху адпачне.

*14 красавіка, аўторак*

Кінастудыя. Потым паўдня здабыванне тэлефонаў для Пятроўскага[1]. Пачынаем здымаць фільм пра Змітрака Бядулю.

*15 красавіка, серада*

З тэлевізійшчыкамі. Колькі словаў пра Алеся Уладамірскага. Рэжысёр нейкі, дужа старанна апрануты, відаць, толькі гэтым і можа падкрэсліць свае адносіны да мастацтва. Цяпер век непрафесіяналаў. У БНФ. Падпісаў паручальніцтва за Севярынца. Хлопцы прыехалі ад Зуёнка. Нават Зуёнак[2] падпісаў. Воўк здох і не адзін. Хадзіў на пошту па заказное пісьмо. Нешта сказаў не зусім лагодна пра [Лукашэнку]. Дык адна накінулася на мяне, крычучы: «Ён разумны. Мы ўсе калхознікі». Яна, можа, і мае рацыю. [...].

У «Полымя» папрасілі напісаць урэзку да перакладаў з Адама Міцкевіча. Напісаў і яшчэ верш: «Помніць...: Туганавічы — туга начы» [у дзённіку].

*16 красавіка, чацвер*

З Валяй на Камароўку. Сякія-такія абновы Дамініцы й Валі. Потым у «Полымя». Занёс уступчык да падборкі Адама Міцкевіча. Потым зноў на Камароўку ўжо з Самсонам. Усе цэны падскочылі. Долар жа не стаіць, як у маладога жарабца.

*17 красавіка, пятніца*

З раніцы з тэатрам паэзіі «Зніч» у нейкай школе ў раёне Прытыцкага. Шмат дзяцей так званых цяжкіх. І адпаведна цяжка выступаць з вершамі. Іх нічога не цікавіць. Як у дрыгву цвікі заганяць. Заракаўся ў школах выступаць. І сам ад зароку адышоў. Усё праз Дзягілеву. Цікавы бард Алесь Камоцкі[3]. Алесь Шароў добра чытае вершы. З імі б выступаць перад свядамай нацыянальнай аўдыторыяй, якой у нас няма. «Як цень нетутэйшы: І зоркія зоркі мы...» [у дзённіку].

---

[1] Пятроўскі Сяргей Уладзіміравіч (1937–1999), беларускі кінааператар і рэжысёр. З 1965 г. на кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1981).

[2] Зуёнак Васіль Васільевіч (н. 1935), беларускі паэт, крытык. У 1990–1998 гг. старшыня СПБ. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1982).

[3] Камоцкі Алесь (Аляксандр Ерамеевіч; н. 1958), беларускі паэт, бард. Гл.: Алесь Камоцкі // Дуліна ад Барадуліна. С. 86.

*18 красавіка, субота*

Баляць ыркі. Няма куды ўцячы. […]. Так я й не зраблю ўсяго задуманага. «З дасвецця…»[1]

*19 красавіка, нядзеля*

Вялічка праваслаўнае. Некалі прачынаўся ў мамінай хаце. Мыў твар вадой, у якой ляжала свянцонае яечка. Качалі яйкі на вуліцы. Біліся яйкамі. У каго мацнейшае. Як даўно ўсё было. Сёння хворы, знэрваваны, нават злы. Пакрыўдзіў, таго не хочучы, Валю. Яна зрабіла як на свята. Дзякуй ёй. Хай даруе. І як голас зямлі маленства, родных — званок Васіля са Швэцыі. Віншаваў з Вялічкам.

*20 красавіка, панядзелак*

У ПЭН да Карласа. На кінастудыю.

*21 красавіка, аўторак*

Зборы ў дарогу. Ледзьве прывёў сябе трохі да толку. Залатыя словы былі ў Караткевіча: «Хочацца легчы і ціха сканаць…»

*22 красавіка, серада*

У самым душным вагоне цягнуліся як на смерць. Нарэшце *Рыга! Юрмала.* Халодны гатэль, ідзе рамонт. Пасцелі засцелены. На падушцы цукерачка ляжыць — на сон салодкі. У Рыгу на адкрыццё «Europe in Europe international Baltic Forum». Потым як не да дзвюх начы Гнут[2] і спяваў, і чытаў вершы.

*23 красавіка, чацвер*

Jurmala. Цэлы дзень засядалі. Быў вечар паэзіі. Некалькі чалавек чытала вершы, некалькі слухала. Выдатна выступіў Карлас. Марыс Чаклайс[3] усё больш робіцца падобны да Брэжнева[4]. Арганізавана ўсё кепска. Жонка Марыса Эва ўсё робіць.

---

[1] Гл.: З дасвецця… (18.04.98) // Босая зорка. С. 72.

[2] Скуеніек Кнут (н. 1936), латышскі паэт, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны (1962–1969).

[3] Чаклайс Марыс (1940–2003), латышскі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры ЛатССР. Заслужаны дзеяч культуры Латвіі (2003). Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя А. Упіта, прэміі Ленінскага камсамола Латвіі.

[4] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1964–1982 гг. 1-шы сакратар, Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1977 г. старшыня Прэзідыума ВС СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1961), Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978).

*24 красавіка, пятніца*

Rīga. Кніжны кірмаш. Бедны й бязглузды. Прыём у пасольстве Швэцыі. Па старой Рызе. І змены, і нязменнасць. Жабракі.

*25 красавіка, субота*

Юрмала. Прыняцце рэзалюцыі. [Алексіевіч[1]] дужа хацела падабацца швэдам. Яна па-за барыкадамі, па-за праблемамі нацыянальнымі. Нарэшце мора! Па ўзбярэжжы гэтым колькі вёрстаў пратэпана. Толькі сум. Нельга вяртацца туды, дзе ўсё змянілася, дзе ўсё забылася цябе, а ты яго памятаеш. Прыехаў Віктар Ліўземніек[2]. Па-ранейшаму п'е. Здароўе ў яго разлічана, відаць, было на вечнасць. Заключны баль у занюханым рэстаранчыку. Ашчаднасць, якая пераўзыходзіць скнарлівасць. На вуліцы шмат моладзі, шмат нападпітку. І маладзенькія, і ў гадах — купляй, абы грошы. Нейкая ўсё-ткі пакуль што пародыя на раскутасць. Дужа добра пагутарылі з Яўгенам Сверсцюком[3], са Светавым[4]. Дзед трымаў бардэлі ў Менску й Віцебску, сам здымаў пробы з дзяўчатак. Мог сагнуць падкову. А пасля рэвалюцыі ў музеі праходзіў як рабочы-шчаціншчык. Яно, калі глядзець, дык справу са шчаціннем меў. Гэта да слова прыйшлося. А наогул Латвія пахаладнела ці я сам астыў. Бурштыновы холад Латвіі.

*26 красавіка, нядзеля*

Па Юрмале пахадзілі. Купіў Дамінічцы цацку. Перад ад'ездам са Сверсцюком. У Рызе да цягніка падышоў Вячка Целеш[5]. Змагаецца за беларускую школу. Карлас дужа хворы. [Алексіевіч ...], выходзіць, ўсё-ткі беларуска, але бацька саўахвіцэр.

*27 красавіка, панядзелак*

Прыезд ранішні дамоў. Дамініка рада падарунку. Назвала Мацільдакацільда гэтую кошачку трохмасцёвую. Узяўся за пераклады з Хімэнэ-

---

[1] Алексіевіч Святлана Аляксандраўна (н. 1948), беларуская пісьменніца. Лаўрэат літаратурных прэмій СП СССР імя М. Астроўскага (1984), імя К. Федзіна (1985), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Нобелеўскай прэміі (2015).

[2] Ліўземніек Віктар (сапр. Ліўзеніек; 1936–2015), латышскі паэт, празаік, перакладчык, крытык.

[3] Сврсцюк Яўген, прэзідэнт Украінскага ПЭН-цэнтра.

[4] Светаў Фелікс Грыгор'евіч (сапр. Фрындлянд; 1927–2002), рускі пісьменнік, крытык, журналіст, дысідэнт.

[5] Целеш Вячка (Вячаслаў Міхайлавіч; н. 1938), беларускі мастак, графік, гісторык, педагог, грамадскі і культурны дзеяч (Рыга). Сузаснавальнік Таварыства беларускай культуры «Світанак», кіраўнік аб'яднання беларусаў-мастакоў Балтыі «Маю гонар». Узнагароджаны латвійскім ордэнам Трох зорак (2006).

са[1]. Шалёны паэт. Мне зразумелы. «Ноч: Спаць — як ступіць на мост настрою…» [у дзённіку].

*28 красвіка, аўторак*

Радаўніца. Даўно ўжо не магу ніяк пабыць у гэты дзень у мамы. Яна мяне чакае. Хадзіў да Самсона. Перакладаў Хімэнэса. Сумна.

*29 красавіка, серада*

З кіношнікамі. *Пасадзец. Даўгінава. Ілля.* Мястэчкі знявечаныя, ні вёска, ні мястэчка. Нават камянёў няма, дзе была Бядулева хата. Жыла да нядаўняга маладзіца — пра яе «Цяць лыжак заціркі»[2]. Колькі камянёў ад хаты, дзе жыў Салавей[3]. Ні тых лясоў, ні тых мясцінаў, што былі. Засталіся ў творах Бядулі. Засталіся жыць, бо напісаны жыва, напісаны сэрцам. Час — вялікі нямтур. Агульнае запусценне. Няма гаспадароў, ёсць калхознікі. […]. У лесе, ля самай, лічы, дарогі звалка. Цэлафанавае смецце. Трывалае.

Прыехаў. Званіла Ілона. Трэба грошы. Пашкодзіла сабе спіну. […]. Беднае дзіцятка. Душа па ёй баліць. Штогод меней і меней магу дапамагаць. Хоць і самім ім варта было быццам пацерабіцца. Закончыў перакладаць Хімэнэса. Да чаго ж добра пісаў.

*30 красавіка, чацвер*

З Валяй і Дамінічкай на вакзал, цягніком перадалі нашым гультаям грошы й сяго-таго. Потым званіў [Косця[4]]. Адчуванне, што яны й надалей збіраюцца аціраца ў Піцеры. Бацькоў Ілона помніць, калі трэба грошы. Узрост такі, што ўжо сораму мець не будзе. А з Вушачы пазваніў Роўба[5]. У хаце вада сапсавала падлогу. Нехта не закруціў кран. Побытавыя дробязі да магілы давядуць. Толькі радасць ад Дамінічкі. Пакуль што. Сказала: «Сонейка падало голас, сонейка ўсміхнулася. Сонейка пазяхнула…»

*1 траўня, пятніца*

З усіх мітрэнгаў апошніх гадоў хоць нейкая радасць — не трэба ездзіць у пыхлівую Маскву ды хадзіць на дэманстрацыі. Можна быць дома. Няхай і галаднавата. «Дом»[6]. «Упрочкі: Душа збіраецца ўпрочкі пайсці…» [у дзённіку].

---

[1] Хіменес Хуан Рамон (1881–1958), іспанскі паэт. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1956).

[2] Апавяданне З. Бядулі.

[3] Герой аповесці З. Бядулі «Салавей».

[4] Клімін Канстанцін Васільевіч (н. 1960), зяць.

[5] Роўба Іван Сцяпанавіч (1936–2006), інжынер-будаўнік; Рыгор Іванавіч лічыў яго сваяком па мамінай радні.

[6] Гл.: Дом (1.05.98) // Ксты. С. 347.

*2 мая, субота*

Першы вясновы дождж. Працавітая трава ўвобміг адскочыла. Само паветра зарунела. Надакучыла хварэць. Перакладаю Ганада. Гэта нагадвае бег зайца ў сне. Калі лапы торгаюцца. Нейкі сарваны з мейсца, не магу засяродзіцца. Усё здаецца марнасцю. Чытаю ўспаміны Адоеўцавай[1]. Перад сном учора вярцеліся радкі. Успомніў збольшага:

*І ўспамін...*

Смутак сцежку памяці мацае.
На радзіме салодкі палын.
Эміграцыя — выміграцыя,
Забыццё і ўспамін...

*3 мая, нядзеля*

З Самсонам на маленькі базар. Дамініцы купіў чарамшы. Дачытаў Адоеўцаву. І перад Кастрычніцкім пераваротам, і ў эміграцыі ў іх было цікавае літаратурнае жыццё. Натуральнае. У нас было, так бы мовіць, лагернае, арганізаванае і кіруемае партыяй крымінальнікаў. А цяпер наогул ніякага. Што б там ні даводзілі, літаратура вылучна нацыянальнае з'явішча. Нацыя мусіць мець неабходнасць у літаратуры, тады літаратура развіваецца. Паездка ў Рыгу [...] дала зразумець, як чалавек працуе на грошы (яны нікому не шкодзілі), каб заўважылі, каб далі прэмію. Чыста базарныя стасункі. Прапаноўвае — бяруць, калі ўпадабаюць, плоцяць. І на гэтым кропка. Ніякога рэзанансу, ніякога ўзаемаразумення з чытачом, няхай сабе сярэднеарыфметычным, нават міфічным. Уся задача Расіі не даць нам стаць дзяржавай, самастойным народам. Літаратура нашая таму й незапатрабаваная, а значыць, у колбах выведзеная. «Балючэй...: Не трэба свой гнеў...» [у дзённіку].

*4 мая, панядзелак*

У падатковую інспекцыю. У ПЭН. Справа са штрафам Ф[онда] С[ораса] цягнецца. Могуць забраць маёмасць і тэхніку ва ўсіх у лік 2 мільёнаў даляраў. На гэта яны, здаецца, і скіравалі ўсе намаганні.

*5 мая, аўторак*

Вясновая залева з самай раніцы. Прыляцеў нарэшце Васіль. Настрой як перад канцом. Галава цяжкая, як з маладога пахмелля. Наогул — гэта, мякка кажучы, маладая старасць. Бо неяк недарэчна гучыць — старая старасць. Хай лепш маладая.

---

[1] Адоеўцава Ірына Уладзіміраўна (сапр. Гейнікe Іраіда Густаваўна; 1895–1990), руская паэтэса і празаік, аўтар мемуарных кніг «На берагах Нявы» і «На берагах Сены».

*6 мая, серада*

У Музей літаратуры. Пятроўскі здымае пра Змітрака Бядулю. Лісты Бядулі да сваякоў, да сястры. Поўна клопату пра хлеб надзённы. Не соладка жылося й пры бальшавіках. І дома ўжо званок — памёр Пятро. І няма нікога па бацькавай лініі. Па мамінай таксама. Абсечаны карані. Жыццё робіцца халодным. Бо няма тых, каго помню, колькі сябе помню. Яны былі мной, а я імі. Няма іх, і мяне як бы няма ўжо.

*7 мая, чацвер*

*Вушача.* Дацягнуліся аўтобусам. Па дарозе пад'язджала маладзіца. Кажа: «З разводдзя ў копках шмат рыбы». Цікавая форма *копка*. У мяне на дзвярах хаты чорнай фарбай БНФ. Як у гітлераўскай Германіі «юдэн». Ці ваўчаняты [...], ці недарэзаныя камуна[...]. Стараюцца. Няхай.

*8 мая, пятніца*

Пятра завезлі да маці. Побач магілы. Зноў абсыпаліся сцены магілы. І знак благі. Дый там суцэльны пясок. Потым памінкі. Рэштка пасёлка, старыя суседзі й сябры. Памірае, вымірае мая Вушача, якой жыву, якая жыве ўва мне. Пятро памёр раптоўна. Сардэчная недастатковасць. Схадзіў па хлеб. Паклаў буханку на стол. Стаў пераапранацца. І тут жа. Не стала часткі мяне.

*9 мая, субота*

Праводзіў Роўба. Заўсягды нас з Валяй да аўтобуса праводзіў Пятро. Па дарозе маленькая дзяўчынка прасіла ў бацькі, каб купіў коціка, сабачку ці зайчыка. Каго-небудзь. Толькі жывога. Валя пытаецца, а ў бабулі ці ёсць курачкі? Адказвае, што толькі яна ў бабулі. [...].

У Менску быў як бы парад. [...].

У Вушачы пацукі пасяліліся ў хаце [...]. Запрасіў спецыяліста Франца. У яго дзве жонкі, адна з адной сябруюць. А Франц, напіўшыся, да якой зможа дайсці, у тае і начуе. Наліваю яму, кажу: «Бог Тройцу любіць». Ён: «А Тройца чатыры дні». Па дарозе ў машыне пісаў верш з натуры: «Чакае вершніка...»[1].

*10 мая, нядзеля*

Болем, смуткам, роспаччу выходзіць з мяне Пятро. Ці, можа, уваходзіць у мяне. Хочацца сябе запэўніць, што гэта сон. Апошняя радня па бацькавай лініі. Добра было думаць, што ён ёсць у Вушачы, што чакае. Чакаць сустрэчы з ім. І апошняя сустрэча. Бог паказвае чалавеку, дзе ягонае ўрэшце мейсца сталае.

---

[1] Гл.: Чакае вершніка... (9.05.98) // Босая зорка. С. 71.

*11 мая, панядзелак*

У ПЭН-цэнтр. Сустрэліся з Васілём. Пагаварыць ўсё-ткі пайшлі ў дваровы скверык на скамейку. Там няма апаратуры падслухоўвання. Васілю на востраве было холадна, але затое напісаў апавяданне. Вясёлыя бытавыя прыгоды. Сумна было без «Раўбіцкага» хлеба, смажанай бульбы. Сядзім два астарэлыя й разважаем, што ўсё прыйшло да канца. Літаратура ўжо нікому не трэба. Чытача трэба толькі забаўляць. Васіль прывёз мне найшыкоўны швэцкі берэт. Дамініка мядзведзіка, якога ёй прывёз Васіль, адразу ж назвала Тупатунчык. Званіла, дзякавала. Васіль хваліў яе за добрую беларускую мову. Хочуць закрыць беларускі клас. Але хоць гэта, схопленае ў маленстве, будзе добрай закваскай беларушчыны.

Раптам пазваніў Міхась Пянкрат[1], яму спадабаліся «дурноты» ў «ЛіМе». Сёлета яму 80 будзе. Некалі ў «Вожыку» працаваў, дзе й я супрацоўнічаў. Зараз усё, што друкуецца, як у яму. Глуха.

*12 мая, аўторак*

Сустракаўся з Ганадам. Ён мне сказаў добрую навіну. Толькі б не сурочыць. Можа, будзе другі том. Адвячоркам у бібліятэку «Юнацтва». У тэатры Галіны Дзягілевай утульная зала. Навучэнцы. Цёпла прымалі. Яны за Беларусь. Гэта цешыць. Моладзь расце добрая. Яна беларуская, як не стараюцца калгасныя ідэолагі.

*Раманчыкава*[2]

Студэнцкіх год вясёлае святло.
Ім поўнілася кожная хвіліна.
І прозвішча ў рамантыкі было
Раманчыкава.
А імя Галіна.
Рамонка гарадская,
Хлопцы ўсе
Талопілі вясковыя пагляды.
І ад лясоў спакою пакрысе
Некарчаваныя пусцелі ляды.

Раманчыкі, рамансы йшлі здалёк,
І недалёка стала да рамана,
Які, як воўк, здабычу павалок.
Сцямнелася жыццёвая паляна.

---

[1] Пянкрат Міхась (Міхаіл Міхайлавіч; 1918–2001), беларускі пісьменнік.
[2] Раманчыкава Галіна, аднакурсніца.

І праз усе шалёныя гады
Цвіла, як непрыкаяная краска.
І не пускала ў сэрца халады.

Не шэрага ваўка шкадуе казка…

*13 мая, серада*

У ПЭН. Прыводзіў да толку пераклады з Адама Міцкевіча.

*Апошні*

Радня — той успамін зямнога дня,
Што спадцішка спяшаецца змяркацца.
Яна цвярдая ў лёса — даланя.
Трымацца за жыццё — таксама праца.

Мы ўсе ў жыцці — нямыя парабкі,
Якіх наймае клопат хітраваты.
Нам ашукаць саміх сябе з рукі,
Што мы гаспадары часовай хаты.

Мы ў страху ўпэўненага пад пятой.
Нас даганяе прадчуванняў зграя.
Душа жабруе ласку сіратой,
Калі апошні крэўнік памірае…

*14 мая, чацвер*

Выступленне ў педуніверсітэце. Быў Рагуля[1], Васілевіч[2], дэкан[3]. Так званая ручніковая зала. Проста музей народнага мастацтва. Над сцэнай Пагоня. І ўсё ж гэта ўсё нагадвае рэзэрвацыю. […].

Самсон казаў, што на кінастудыю прывёў міністр культуры [Сасноўскі] новага дырэктара — Лук'янчыкава[4]. Сказаў, што ў міністэрстве галава баліць ад «Летапісу»[5] й чамусьці ад Опернага тэатра. Лук'янчыкаў заявіў,

---

[1] Рагуля Аляксей Уладзіміравіч (н. 1953), беларускі філолаг, крытык. З 1976 г. выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Кандыдат філалагічных навук (1975). Прафесар (1994).

[2] Васілевіч Уладзімір Аляксандравіч (н. 1952), беларускі фалькларыст, этнограф. У 1992–2015 гг. выкладчык, з 2004 г. заг. кафедры этналогіі і фальклору БДПУ імя М. Танка. Кандыдат філалагічных навук (1979).

[3] Лугоўскі Аляксандр Іванавіч (н. 1950), беларускі філолаг. Кандыдат педагагічных навук. У 1991–2008 гг. дэкан факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М. Танка.

[4] Лук'янчыкаў Сяргей Пятровіч (н. 1945), беларускі рэжысёр, сцэнарыст. У 1998–1999 гг. генеральны дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980).

[5] Студыя дакументальных фільмаў кінастудыі «Беларусьфільм».

што меў гутарку з [Лукашэнкам] гадзіну й што ён, Лук'янчыкаў, прыйшоў надоўга. Трэба мяняць ідэалогію й мацаваць дысцыпліну. Усе савецкія […] забываюцца, што яны аднаразовага карыстанняю. Ніл падсадзіў ТБМ[1]. Ведаючы, што болей не будзе ўзначальваць арганізацыю, […], заключыў умову на арэнду на 3 гады ўперад. У выніку доўг за арэнду звыш 10 тысяч даляраў. Выселяць. Генадзю застаецца прасіцца на кватэру ў СП да Някляева. Яго, дарэчы, [Лукашэнка] бярэ з сабой у Яраслаўль. […]. Ніл не за беларускасць, а за сябе на фоне беларускасці. Нацыянал-камуніст нашчадны. […].

*15 мая, пятніца*

З Самсонам на Камароўку. Потым у сядзібу БНФ, падпісваў граматы школьнікам, пераможцам конкурсу «Наш дом Беларусь у XXI стагоддзі». Званіў Васілю. Сумны, хворы. Кажа: «Ні зімы, ні вясны, няўтульна на гэтым свеце, можа, на тым будзе ўтульней». Пярэчу, што не будзе. А мне яшчэ дасюль прыемна ад аўтографа. Наш руплівец Уладзімер Васілевіч там, у педуніверсітэце, падпісаў мне свой «Беларускі народны сннік»[2], а падпісаў як родны: «Каб Вам соладка спалася ды добра ўставалася!» Толькі ад аднаго Васіля адчуваю клопат і трывогу. Ён самы родны мне на гэтай халаднаватай радні. Аб яго ласку душа грэецца.

*Балада пра сляпую кулю*

*Вячаславу Галузе[3]*

У Нямеччыну йшоў цягнік,
Аж стагналі рэйкі ад болю.
І цяжарнай жанчыны крык
Запыніў на момант няволю.

— Эршэсэн! —
Як на труну пясок.
Слова ўпала і замаўчала.
За сабой толькі чула крок.
Думала, засталося мала.

Дайшла яна да мяжы.
Вось і стрэл праргрымеў
Чаканы.
Ды салдат ёй кажа:
— Бяжы!
І пайшоў цягнік апантаны.

---

[1] ТБМ — Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (з 1989).
[2] Беларускі народны соннік. Мінск: ВЦ «Бацькаўшчына», 1996. Уклад. У. Васілевіч.
[3] Галуза Вячаслаў, беларускі актор.

Плакала лебяда ці палын.
Гаварыла сама з сабою.
Гэты стрэл чуе й сёння сын,
Выратаваны куляй сляпою…

*16 мая, субота*

У Беларускім музеі ўручэнне граматаў і прызоў пераможцам. Асабліва ўражваюць маленькія шчырыя беларусы, уся надзея нашая. Выступала настаўніца з Сенненскай школы, дзе вучыўся вялікі Янка Купала. Каля 1000 вучняў. Усё перарабляюць на расійскі лад. Беларусафобія […]. А падхалуйчыкі рады перастарацца. Як мала трэба было часу й намагання, каб усё прыдушыць, каб змусіць бальшыню маўчаць. Які ўжо век беларусам не даюць быць беларусамі. У абцугах такіх двух суседзяў і самы цвярды арэх раструшчыцца. Нашую шкарлупку раструшчылі, цяпер хочуць раскусіць ядро.

*17 мая, нядзеля*

Дождж. Настрой сыры. Каб крыху адцягнуцца, прачытаў брашурку пра апошнія дні Гітлера[1]. […]. А з галавы не выходзіць Пятро. І на схіле жыцця не хочацца верыць у сілу смерці. «Усё з’іначыць…: Адбіўшыся ад берага спакою…» [у дзённіку, 2-гі вар. у блакноце].

*18 мая, панядзелак*

З Галінай Дзягелевай і Алесем Камоцкім у Музеі гісторыі й прыроды. Утульная заля, музейніцы насцярожана слухалі неафіцыйныя «дурноты». Выстава разьбяра іконаў. Філарэт[2] адчыняў. А на кінастудыю дырэктарам [Лукашэнка] прызначыў […] Лук’янчыкава. […]. Прыкончыць «Летапіс». Націск на ўсё беларускае, як пасля паўстання Кастуся Каліноўскага. [Замяталін[3]] — парадыйны Мурашоў-вешальнік[4]. А лютасць тая ж да ўсяго беларускага.

---

[1] Гітлер Адольф (сапр. Шыкльгрубер; 1899–1945), фашысцкі дыктатар Германіі (1933–1945), нацысцкі ваенны злачынец.

[2] Філарэт (свец. Вахрамееў Кірыл Варфаламеевіч; 1935–2021), праваслаўны царкоўны дзеяч РБ. У 1992–2013 гг. мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, свяшчэннаархімандрыт Успенскай Жыровіцкай абіцелі. Герой Беларусі (2006).

[3] Замяталін Уладзімір Пятровіч (1948–2019), беларускі дзяржаўны дзеяч. У студзені — ліпені 1997 г. старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку і інфармацыі. У 2000–2001 гг. 1-шы нам. кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

[4] Мураўёў Міхаіл Мікалаевіч (1896–1866), граф, рускі дзяржаўны дзеяч, генерал ад інфантэрыі (1863). У 1863 —1865 гг. генерал-губернатар Паўночна-заходняга краю; за жорсткасць пры падаўленні паўстання 1863 г. празваны «вешальнікам».

*19 мая, аўторак*

Званю Васілю. Кажу, што перакладаю Ганада. Васіль: «Ужо трэба даць сабе трошкі волі й ляноты». Кажу, што трэба ад усіх клопатаў лапы абтрэсці, як мама казала. Васіль: «Вясковыя жанчыны мелі чуйны слых да слова, асабліва без гарадской навукі». Развітваемся. Кажу: «Будзем жыць». Васіль: «Колькі Бог дасць». «Зялёнае»[1].

*20 мая, серада*

Відаць, Усявышні пасылае ўсе хваробы, усе непамыснасці, каб прыглушыць боль развітання з гэтым светам. Каб не так чалавек трымаўся за сваё жыццё. Апошнім часам не помню дня, каб мне не было блага. Няўжо хутка развітвацца? Адчуваю сябе, як у яме, у даўгавой яме жыцця. Дамінічка малая, Ілона з ветрам ў галаве. Сродкаў ніякіх няма й не прадбачацца. Невыпадкова яны аднакарэнныя словы — *старац* і *старасць*. Так і пражыў будаўніком паветраных замкаў. Толькі будаўнічага матэрыялу ставала й цяпер стае. «Палыновыя санэты»[2].

*21 мая, чацвер*

Выцягнууўся ў горад на якую гадзіну. У нас казалі: схадзіць у Вушачу. Немач і абыякавасць. Гэтыя дзве небяспечныя паненкі пачынаюць прыглядацца да мяне. Жахлівая іхная ўвага. Адчуванне канца, канчыны. Душа не на мейсцы. Галава сціснута абручамі клопату й роспачы. Беспрасвецце. «Руіны — напаміны даўніны...»[3]

*22 мая, пятніца*

З раніцы адвёў Дамінічку ў школу. Усе гады вадзіла Валя. Яна ў Лечкамісію пайшла. А мне й хвораму было вясёла на душы са званочкам, са шчабятушачкай. Чым яна большая, тым большае страх мой, што застанецца беспрытульніцай пры няшчасных бацьках. Ёй не хапае маці й бацькі. А ім, ср.ным бацькам, і ў галаве няма, што яна ёсць. Бедныя!

*Свабодныя*

У немачы ўлада на мэце,
У смеха заступнікам плач.
Свабодныя самыя ў свеце
Бадай што жабрак ды багач.

---

[1] Гл.: Зялёнае (19.05.98) // Босая зорка. С. 103.

[2] Гл.: Палыновыя санеты: Усё жыццё, як дзень адзін, прайшло; Магіла — прагавітае вакно... (20.05.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 298.

[3] Гл.: Палыновыя санеты: Руіны — напаміны даўніны... (21.05.98) // Тамсама. С. 299.

Свабодны багач ад галечы,
Ад грошай свабодны бядняк.
У зайздрасці хцівыя плечы.
Галоднаму слава не ў смак.

Неяк пішуцца «Палыновыя санэты»[1].

*23 мая, субота*

Пазваніў Жак і з прыдыханнем паведаміў, што прыедзе Вазнясенскі. Перавёў Жак грошы, каб выкупіць кнігу ўспамінаў Андрэя. А Андрэй будзе на паніхідзе па Пастарнаку[2]. Потым да нас. На Нарачы зрэзалі дуб, каб на ім выступіў Андрэй. Як інтэлігенты кажуць, уср.цца можна. За беларускую справу Жак і пальцам не кіўне. А Андрэй па-ранейшаму ўвесь вечар на манэжы. Баіцца, што забудуцца. Як ні круціцца, а забудуцца абавязкова. Паэт ён сінтэтычны.

Званіў Васілю. Сумны. Хворы. Пра яго няма каму клапаціцца, бо працуе на нацыянальную, беларускую ідэю. А ў цане і заўсёднай мове вялікадзяржаўніцкая. Пішу санэты. Нікому ўжо не трэба нічога беларускага. Тым болей — вершы.

«І на зямлю, і ў сціхлую душу...»[3]

*24 мая, нядзеля*

З Самсонам на Камароўку. Давёў [Лукашэнка] да таго, што бульба па цане апельсінам роўная. Гэта ў Беларусі! Падняў прэстыж нацыянальнага прадукта. Пакуль ідуць санэты, пішу. Па дарозе паракладаю Ганада. Пачынае брыдзець гэтая праца.

«Ікона ў хаце мела кут святы...»[4] На вячэру бульба з брусніцамі, як, бывала, дома. Адразу вячэра зрабілася багатай, бо з маленства прыйшла. Здалёку.

*25 мая, панядзелак*

У выдавецтва да Ганада. Усё чужое. Усё халоднае. Няма былога выдавецтва, няма былога. Ляды. Трэба тэрмінова дабіваць пераклады Ганада. А наогул нічога нікому не трэба. Ніхто нікому не патрэбны. Як гэта й бывае ў ліхалецце.

---

[1] Гл.: Палыновыя санеты: Не ад самоты пасівеў палын...; Вярнуць у незабытае сябе...; Як гэты свет, як і сябе, хутчэй... (22 .05.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 299–300.

[2] Пастарнак Барыс Леанідавіч (1890–1960), рускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1958, ад якой быў вымушаны адмовіцца).

[3] Гл.: Палыновыя санеты: І на зямлю, і ў сціхлую душу... (23.05.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 300.

[4] Гл. : Палыновыя санеты: Ікона ў хаце мела кут святы... (24.05.98) // Тамсама. С. 301.

*26 мая, аўторак*

Васіль збіраецца з’ездзіць у Гародню. Каб толькі не застудзіўся. Бо яму ж трэба на пачатку чэрвеня ў Фінляндыю. Як бы нашая Мекка — Фінляндыя. І Цётка[1] была й працавала, і Янка Купала. Цяпер і Васіль. Беларусы, як пчолы, выкураныя з роднага вулля. І асаджаюць нашыя раі′ чужынцы. Трутні ў вуллях нашых. Кветкі, з якіх мёд сабіралі, атручаныя Чарнобылем. А на чужыне мёд горкі.

«Сказаць мне слоў апошніх не змагла»[2]. «Прыйдзе сама…: Скажа на Усходзе любы…» [у дзённіку].

*27 мая, серада*

Зноў у выдавецтва. Здаецца, набіралі мой другі том. Васіль паехаў у Гародню. «Прыходзіла Вялічка на сяло…»[3]

*Алесь Камоцкі*

Добры бард
Каралеўства багатага варт.
Сэрца барда з мілосці й пагарды.
Бард сумленне й натхненне
Не здасць у ламбард.
Толькі ўпарты падасца ў барды.

Слова бардава мае трывалы гарт.
Аніўто яму грошай смецце.
Разагне, як падкову гарачую, жарт.
Кіне страх і нуду ў апрамецце.

Маладзіца й дзяўчо да яго прыстае,
Як да шапкі казённай кукарда.
Бард умее кахаць,
І з прычыны тае
Песня — жонка адзіная ў барда!

А яшчэ Алесь папрасіў напісаць рамансы й прапанаваў запісаць мяне з песнямі. «Раманс»[4]. Алесь добра прапанаваў замест *завязаную* — *развязаную.* Так цікавей.

---

[1] Цётка (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна; 1876–1916), беларуская паэтэса.
[2] Гл.: Палыновыя санеты: Сказаць мне слоў апошніх не змагла (26.05.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 301.
[3] Гл.: Палыновыя санеты: Прыходзіла Вялічка на сяло… (27.05.98) // Тамсама. С. 301.
[4] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Як страшна мне не ўбачыць тыя вочы… (27.05.98) // Тамсама. С. 312.

*28 мая, чацвер*

Здаецца, навучыўся неяк пісаць, перакладаць. А гэта нікому не трэба. Толькі для сябе. Хобі дый годзе. А звык жа да таго, што друкаваўся, што крыху чыталі. Цяпер двум-тром сябрам пачытаеш — і шчасны. Радзік едзе. Застаецца адзін Самсон, якога сорамна загружаць вершамі — каб слухаў. Сабе самому чытаць услых, ці ўголас, правільней сказаць, але не галасна. Пісаў нешта кшталту песні: «Прабілася з-пад каменя…» [у дзённіку]. Успомніў пачатак даўняга верша й крыху перапісаў: «Ты выходзіш…: Ты выходзіш навальнічная з ракі…» [у дзённіку]. І яшчэ кшталту рамансa[1].

*29 мая, пятніца*

Прыехаў Васіль з Гародні. Калі ў 47-м упершыню прыехаў, горад быў утульны, эўрапейскі. Цяпер разбэрсаны, прасаветызаваны. Заязджаў Радзік. Перадаў сваю кніжку пра Чэхава. У ліпені ад’язджае. Разгублены. А ў мяне ўжо не будзе самага дасведчанага, самага вытанчанага слухача й чытача. Марыя Рыгораўна памерла — анямеў. Радзік з’язджае — глухну. Пісаў шлягер:

*Адной цябе*

А ты была са мной
Даверлівай такою
Іскрынкаю святла,
Галінкай трапяткою.

І зноў адной цябе
Мне ў свеце не хапае.
Што я скажу журбе —
Мая журба глухая.

На моцным ланцугу
Я свой адчай трымаю.
Як запытаць тугу —
Мая туга нямая.

Адной цябе, адной
Мне не хапае ў свеце.
Чаромхавай вясной
Растала ў светлым леце.

---

[1] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Прашу ў спагады Вашае рукі… (28.05.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 312.

Званіла Галя Варатынская з Вушачы. Уражлівая, спачувальная, да хваравітасці ранімая. Ёй там цяжка. Хоць яна й сваёй гадоўлі. Пракамуна[…] гадаў'ё звяло ў Вушачы кубло. І яшчэ адзін палыновы санэт[1].

*30 мая, субота*

З раніцы кэгэбісцкія штучкі — маўчыць тэлефон. Звоніш, адказваюць, што парыў ці абрыў на лініі. Чамусьці ў мяне аднаго з усяго дома. Падслухачы адпачынак узялі на выходныя, ці што. З вуліцы званіў Васілю. Перадрукоўвае новае апавяданне. Добра, што ў Швэцыі напісалася. Увесь дзень санэціўся[2]. Цяжкая галава, цяжкое сэрца. Ілона не выходзіць з галавы. Як яна там, што з ёй? Гэтак адбіцца ад дому, адцурацца бацькоў і дачкі можа толькі, аж баюся назваць.

*31 мая, нядзеля*

Паўдзён галаўнога болю. Божа, дай хоць трохі падкачаць унучачку! Яна ж такая яшчэ маленькая. Відаць, апошні палыновы санет: «Жыццё пылінку вечнасці сваёй…» [1-шы варыянт; у дзённіку].

*1 чэрвеня, панядзелак*

У «Вожык». Спакойна працуюць хлопцы. Коляць, як гладзяць. Вечарам на аўтарскі канцэрт Алеся Камоцкага. Хоць душа пагрэлася натуральнай беларускасцю. Гэта й нацыянальная багема.

*2 чэрвеня, аўторак*

Прыём пасольствам Італіі. Думаў, што Васілю ўручаць ордэн, а гэта ў гонар свята Рэспублікі. Збор […] ад Язерскай[3] да мітрапаліта Філарэта […]. Як заўсёды Шаранговічы[4] […]. Усіх і называць гідотна. Гэта Дамінічка на слімакоў сказала — слізні. Дык гэта слізні на прыёме. […] Кокараў[5] ад урада […]. Выходзіць, усе літары ведае, бо па паперцы чытаў. Гралі […] гімн. […]. Васілю ўручылі ордэн, і мы з ім проздзверы, як дома казалі.

---

[1] Гл.: Палыновыя санеты: Стаў весялейшы і святлейшы хлеў…; Радня — працяг твайго зямнога дня (29.05.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 302.

[2] Гл.: Палыновыя санеты: Паэзія — хвароба ўсіх вякоў; І зразумееш на чужых вятрах…; І ўсе былі табой і не табой (30.05.98) // Тамсама. С. 303–304.

[3] Язерская Элеанора Аркадзьеўна (1946–2014), беларускі музыказнавец, радыё- і тэлевядучая, педагог, актрыса.

[4] Шаранговіч Васіль Пятровіч (н. 1939), беларускі мастак, графік, педагог. У 1989–1997 гг. рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтва (БДАМ). Прафесар (1981). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1978). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986). Народны мастак Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986). Галіна Андрэеўна, жонка.

[5] Кокараў Валерый Іванавіч (н. 1950), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1994–2001 гг. віцэ-прэм'ер РБ.

Пасядзелі ў Васіля. Пазней прыйшлі Генадзь з Юляй [жонкай]. Васіль ад'язджае заўтра, але прасіў нікому не казаць, бо яго, што называецца, бяруць аблогай. Стомлены, хворы, загнаны, але моцны духам. Перадаў мне лісты, каб не прапалі. «Раманс»[1].

Гэта з бытавой хронікі літаратуры ці каля літаратуры. Бондар[2] [...] ў сваёй «Всемирной литературе»[3]. Трэба было здымаць. А яна едзе ў Індыю, друкуе ў [...] «Беларускай думцы»[4] (былы «Коммунист Белоруссии») вершы, прысвечаныя [Лукашэнку]. І ўсё шыта-крыта і бондаркаманда зноў ля карыта.

*3 чэрвеня, серада*

У «Мастацкую літаратуру». Замяніў верш. Абяцаюць другі том выдаць. Сустрэў Някляева, агітуе ехаць на Свіцязь, бо прыязджае застарэлы клоун Андрэй. Давядзецца ехаць, яшчэ потым і Жак званіў. «Раманс»[5]. Перарабіў даўні верш: «Дыялектыка маркоты»[6].

*4 чэрвеня, чацвер*

На студыю. Вялікі вэрхал. Усе, як сабакі, вочы ў зямлю. Служаць Лук'янчыкаву. Акрамя Самсона і Халіпа. Іх доўга ўкарочаны фюрэрчык не патрывае. Бацька быў у сталінскія часы следчым у Смаленску. [...]. Сынок — дробны [...], які крычыць, што яго [Лукашэнка] на ўсё ўпаўнаважыў. Гэта нават не тэатр абсурду. [...].

*5 чэрвеня, пятніца*

На Свіцязь не паехаў. Галава, як у савецкага пэнсіянэра. Дый не хочацца. Андрэю варта было б падумаць, адпачыць ад усесаюзнай клаунады, якую ён дасюль доўжыць. Вядома, слава, як наркотык. Славалюбцы — невылечныя наркаманы. Ніколі не курыў і не прымаў наркотыкаў, але мне думаецца, што гэта так. Калі меркаваць па вопыту п'янства, які ў мяне даволі грунтоўны. Перапісаў санэт: «Жыццё пылінку вечнасці сваёй...»[7]. Радзік параіў. Палыновыя санэты таму й палыновыя, што яны

---

[1] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Я ёсць таму, што Вы былі са мной... (2.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 313.

[2] Бондар Таіса Мікалаеўна (1945–2005), беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1996–2002 гг. дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва». Лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2004).

[3] «Всемирная литература» — літаратурна-мастацкі час. (з 1997).

[4] «Беларуская думка» — урадавы грамадска-палітычны і навукова-папулярны час. (з 1991).

[5] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Як маладзік, я сірацеў (3.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 313.

[6] Гл.: Шчымлівыя рамансы: У поўным келіху віны... (3.06.98) // Тамсама. С. 314.

[7] Гл.: Палыновыя санеты: Жыццё пылінку вечнасці сваёй... (31.05. — 5.06.98) // Тамсама. С. 304.

ўсе з Вушачы, адтуль, дзе ўпершыню на свет глянуў. Дзе народзіцца чалавек, там і жыве да скону. Хоць у думках. Чым бліжэй да закоту, тым балючэй хінецца душа да ўсяго роднага, малечага, незабытага. Я гэта й па Васілю заўважаю. Наогул, жыццё — настальгія па жыццю, дзе пачынаў жыць, куды вернецца дух твой. «Звінеў, як посуд, местачковы люд…», «Былі сярпы вясёлыя ў жніва»[1]. «Босая зорка»[2].

*6 чэрвеня, субота*

Знайшоў нарэшце Ганадавы апавяданні, якія як не паўгода шукаў. Блізка ляжалі. Дамінічка купіла ляльку, якая плача, кліча маму й смяецца. Далёка за поўнач у цемры ўсё плакала лялька й гукала маму. Маленькая мая крывінка сумуе па маці. І падступнае пачуццё мацярынства. Яшчэ нагаруецца й нацаруецца ў гэтым жыцці. Апошні: «На згадку палыновы свой санэт…»[3]

*7 чэрвеня, нядзеля*

Перакладаў Ганада. А пасля завёўся заказам Будзінаса[4] й напісаў:

*Балада ў гонар хлеба*

І плугі, і ветракі,
І зямля, і неба —
Ўсе мы толькі батракі,
Слугі ў пана Хлеба.

Веру п’ём з нябесных чаш.
Б’ём зямлі паклоны.
Молім шчыра: «Ойча наш!
Дай нам хлеб штодзённы…»

Зерне ляжа не ў журбе
Ў цёплую магілу
І нацягне на сябе
Коўдру небасхілу.

Ды нядоўгі будзе сон
Стомленага зерня —

---

[1] Гл.: Палыновыя санеты: Звінеў, як посуд, местачковы люд…; Былі сярпы вясёлыя ў жніва (5.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 304–305.

[2] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Зорка босая йшла па зямлі (5.06.98) // Тамсама. С. 314.

[3] Гл.: Палыновыя санеты: На згадку палыновы свой санэт… (6.06.98) // Тамсама. С. 305.

[4] Будзінас Яўген Дамінікавіч (1944–2007), рускі пісьменнік, публіцыст. У 1990–1998 гг. старшыня праўлення ТАА «Паліфакт».

Жаўруковы переразвон
Зноў да сонца верне.

Лёс да зерня не сляпы —
На вятрах не кіне,
Схіліць колас пад сярпы,
Пад цапы цяжкія.

Колас — грэшнік і манах,
Голадам пачуты,
Пойдзе з мірам па млынах
Дабіраць пакуты.

З муʼкі зерня снег мукі
Сам дзяжу сагрэе.
Пастарэлі ўсе вякі.
Хлеб ані старэе.

— Цеста! Спёку патрывай! —
Раіць печ старая.
Круглатвары каравай
Сонца паўтарае.

З хлеба і пяршак, і квас
З радасцю нязводнай.
Хлебны дух трымае нас
На зямлі халоднай.

Нікнем у раллю жыцця
Зернямі дакукі.
Хлеб да іншых, як дзіця,
Просіцца на рукі…

І яшчэ напісаў палыновы санэт. Прачытаў Радзіку, кажу, відаць, апошні. А Радзік: «Не старайцеся абы пісаць, але, калі прыйдуць, не ганіце іх (санэты)…» Як пра жывых людзей, кажа Радзік пра вершы. «А мне й дагэтуль кожнаю зімой…»[1]

*8 чэрвеня, панядзелак*

Перадаў Будзінасу й Зарыцкаму «Баладу ў гонар хлеба». Зарыцкі напісаў выдатную музыку да верша «Будзьма!». Сустрэліся на Камароўцы. Перадаў чарнавую касэту з рамансамі. Відаць, мне пасля ўсе раман-

[1] Гл.: Палыновыя санеты: А мне й дагэтуль кожнаю зімой… (7.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 306.

сы варта прытуліць пад страхой загалоўку «Шчымлівыя рамансы». «Вы зблыталі мяне са мной»[1].

*9 чэрвеня, аўторак*

Сёння сорак Камоцкаму. Як даўно было мне гэтулькі ж. Падабаецца ён мне сваёй беларускасцю, нейкай шдяхетнай мядзьведзяватасцю, глыбінным гумарам і беларускай трымтлівасцю. Нагаварыў яму на «аўтамацюгальнік»: «Варыць яшчэ нам рана клёцкі…» [у дзённіку]. Потым пайшоў на юбілей Галіны Роліч[2], нашай залатой Галачкі. Усе свае. Шмат каго няма. Сустрэў Васіля Сёмуху. Ён заклапочаны здароўем Лесі. Трапятлівы бацька, самотны творца. Шкада яго. Ну а хлопцы, што засталіся пры новай адміністрацыі выдавецтва, п'юць, як у бот ліюць. Здароўе моцнае. Думаць няма калі дый няма пра што, як пра тое, дзе выпіць. А калі на дурніцу — імяніны сэрца. «У прыцемках настрой паволі чах»[3]. «Раманс»[4].

*10 чэрвеня, серада*

Па пашпарце сёння дзень нараджэння мамы. Праз які дзень буду на магільніку кланяцца ёй. З раніцы з Самсонам на пэнаўскай студыі. Бардак. У ПЭНе таксама. Усім кіруе бухгалтарка. […]. А наш пеон ці наіўны, ці дужа глыбінна заангажаваны […]. Васіль як чысты дах для прыкрыцця. Усё можа ляснуць […]. Занёс Зарыцкаму канчатковы тэкст песні для Будзінаса. «Мне не хапае Вашай цішыні…»[5]

*11 чэрвеня, чацвер*

Запісвалі вязніцу гета. У яе на руцэ быў нумар канцлагерны. Дык пасля, нават хто ведаў, што яна прайшла праз некалькі канцлагераў, казалі — яна была ў зольдатхаўзе — і гэты нумар. Давялося хірургічна выводзіць нумар. Свет жорсткі. Бадай смерць болей міласэрная, чымся жыццё, бо забірае, каб чалавек не мучыўся. А перад гэтым вязніца гета казала, як пад час пагрому яны сядзелі ў «маліне» — сховішча патайнае. Поўна людзей. Заплакала маленькая сястрычка. Як маці ні суцяшала — плакала. Тады нехта скарынку хлеба ў рот — і маленькая дзяўчынка задыхнулася. […]. «Сястра»[6].

---

[1] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Вы зблыталі мяне са мной (8.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 315.

[2] Роліч Галіна Васільеўна (н. 1948), мал. рэдактар, рэдактар, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура» (1972–2002).

[3] Гл.: Палыновыя санеты: У прыцемках настрой паволі чах (9.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 306.

[4] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Прашу цябе вяльможна, развітанне… (9.06.98) // Тамсама. С. 315.

[5] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Мне не хапае Вашай цішыні… (10.06.98) // Тамсама. С. 316.

[6] Гл.: Сястра (11.06.98) // Руны Перуновы. С. 386.

Хадзіў да Самсона дамоў. І гэтую бліскавіцу, якая прасіла ў бацькі, каб пра сястру парупіўся, бачыў сам. Дык яе хутчэй закілзаў у рытм і рыфмы.

*12 чэрвеня, пятніца*

*Вушача!* З Міронам, з Дамінікай дамоў. Па дарозе дождж. Двор зарос. У хаце сыра. Але на душы цёпла. Запаліў камін, і ўсе чорныя думкі й хваробы з дымам пайшлі высока, каб знікнуць. Вушача поўна плётак і чутак.

*13 чэрвеня, субота*

З Зінай і ейным мужам[1], з Дамінікай і Валяй на Ваўчэнскі, дакладней, на Кавалеўскі магільнік. Цішыня. Спакой. Ціхія сосны, не шумяць, каб не будзіць нябожчыкаў. Памянулі Марыю Рыгораўну й Пятра. Дамініка: «Яны ўжо на небе…» Сапраўды, ад пакутаў на гэтай зямлі можна толькі на небе знайсці прытулак. Ды як бы цяжка на зямлі ні было, пакідаць яе ніхто не хоча. Уплечкі дзве магілы. Апошніх крэўнікаў маіх, пакутнікаў, гаратнікаў.

*14 чэрвеня, нядзеля*

Сёння сорак дзён па Пятру. Пісаў у ягоную памяць палыновы санэт: «Сарачыны — моўчкі сорак дзён…»[2]. Так яшчэ раз памянуў Петрака. Там сустрэне аднайменніка свайго [св.] Пятра. І ён ужо распарадзіцца, куды падацца крэўніку майму, якога помню гэтулькі, колькі сябе помню… А жыццё йдзе звыкла й будзённа. Каля каліны мышка вылезла й сядзіць. Я за Мірона й да яе. Мірон нюхнуў і ніякай увагі. Падаўся на гарышча. Сапраўды, мышэй не ловіць — так заеўся. Мышка ўцякла. Зноў вылезла. Давялося стукнуць качаргой. Дамініка ў слёзы: «Я люблю ўсё жывое…» Мне й самому шкада мышкі. Але яны ўжо разам з пацукамі па галовах ходзяць. І пісаў яшчэ «Раманс»[3]. Яшчэ адзін палыновы санэт: «І ад сябе паціху адстаю…»[4].

*15 чэрвеня, панядзелак*

Званіў Алесь Камоцкі. Прыехаў з чэскіх Татраў. Завязлі сябры. Прыязджаў Роўба. Хадзілі з Валяй на базар, на пошту. Заплаціў за паслугі. Прыходзіў хлопец рамантаваць радыё. Пацукі перагрызлі дрот на гарышчы й радыё […] заглухла. […]. Прыходзіў галоўны змагар з пацукамі й мышамі Франц Мечыслававіч Коўзун. Ад яго пачуў слова: бацькоўшчына — гэта

---

[1] Кватаранты Пятра Трафімава.

[2] Гл.: Палыновыя санеты: Сарачыны — моўчкі сорак дзён… (14.06.98, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 306.

[3] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Я не хачу бянтэжыць Вас… (14.06.98, Ушачы) // Тамсама. С. 316.

[4] Гл.: Палыновыя санеты: І ад сябе паціху адстаю… (14.06.98, Ушачы) // Тамсама. С. 307.

спадчына. І не блытаецца з бацькаўшчынай у болей высокім значэнні. Пад вечар з паўдня на магільнік. Мама чакала. Мала пабыць давялося. Усхадзіўся дождж. Пастаяў трошку пад шахой, дзе ставяць труны з нябожчыкамі. Потым махнуў на ўсё рукой — і пад залеву. Наскрозь прамок. Як некалі. Па магілах шкандыбаў падлётак вароны. Нешта шукаў, памінаў нябожчыкаў. Спрабаваў узляцець, шторазу садзячыся на агароджу чарговай магілы. Як падбітая душа. Яшчэ раманс: «Мне светла сніцца Вашая каса…»[1] пісаў Камоцкаму. Вечарам самым у садзе сустрэў свайго знаёмага вожыка. Падрос. Пакалючэў. Праўда, каб павітацца са мной, калючае футра з плячэй не скінуў. І давер, і недавер. Усё, як у людзей.

*16 чэрвеня, аўторак*

Ускруціўся а чацвертай раніцы. Заходзіцца ад птушак мамін сад. Мірон вылез з дрывотні-дрымотні й вядзе мяне, каб падсілкаваў. Валя праводзіць. Дамінічка спіць. Аж не хочацца ехаць. А трэба. З вушацкімі «буграмі» ў Менск. У Менску тэлефон пераграэўся. Каму трэба, каму не трэба. Усе. Мне расказалі, як цёця Бася з Бабруйска абуралася ў Амэрыцы: «Я ўжо тут чатыры гады, а яны каб слова па-расійску. Хамы…» Гэта адзін да аднаго, як паводзілі сябе расійскія вепручкі ў рэспубліках савецкай імпэрыі. Надыктаваў Алесю Камоцкаму колькі рамансаў, каб было ў бальніцы (кладзецца, каб паправіць здароўе) чым заняцца.

17 чэрвеня, серада

Запісвалі Фрыду Лосік[2]. Вязніца гета. Жахі невымоўныя. Сцякалі мазгі з крывёй па вуліцах. У «маліне» ляжалі. Маленькая заплакала. Задушылі. Хацелі й яе (было 6 гадоў), маці паручылася: «Калі заплача, сама задушу». Чацвёра сутак без вады й яды. Маці потым казала, што ўзяла скарыначку хлеба, якую ў далоньцы заціснула мёртвая дзяўчынка, якую задушылі. Былі два паліцаі яўрэі. Звяры. Былі й паліцаі з яўрэяў, пастаўленыя падпольшчыкамі. А пасля вайны нельга было гаварыць, хто быў у гета. Прыехаў пеон [Шэрман]. Хвост распушчаны. А зарплату не плоцяць ужо трэці месяц.

*18 чэрвеня, чацвер*

Абложныя дажджы. Без просыху ліе з неба. Настрой сыры. Пазваніў дамоў […]. Заўтра пайду да яўрэяў выступаць. Трэба забраць карэкту-

[1] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Мне светла сніцца Вашая каса… (15.06.98, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 317.
[2] Лосік Фрыда Вульфаўна (у зам. Рэйзман; н. 1935), вязень Мінскага гета.

ру другога тома на выходныя вычытаць. Пісаліся палыновыя санэты[1]. А гэта верш з вушацкіх уражанняў: «Па магілах шкандыбае падлётак...» [у дзённіку].

*19 чэрвеня, пятніца*

Сёння дзень народзінаў Васіля. Пазваніць не магу. У думках павіншаваў, пажадаў доўга жыць у здароўі. У Доме ветэранаў з Самсонам перад яўрэямі. Добрая аўдыторыя. Мала яўрэяў засталося. Без іх мне сумна. Усё маё жыццё прайшло з яўрэямі. Яны мне дапамагалі, спрыялі. Дый я рабіў усё, што мог, каб жыла яўрэйская паэзія.

*20 чэрвеня, субота*

З Самсонам на наш хатні базарчык. Пад дажджом дамоў. Чытаў карэктуру да пасінення. Сумна. Збор твораў нейкім чынам нагадвае надмагільныя пліты. А яшчэ хочацца пажыць і памучыцца, пакуль смерць налучыцца.

*21 чэрвеня, нядзеля*

Дабіваў апавяданні Ганада. Засталося яшчэ адно. Стаміўся. На эпіграф да раздзела навэлаў: «І на цёплай чужыне...»[2] Перапісаў, і падумалася, што гэтыя просценькія радкі могуць прыдацца Галіне Дзягілевай у яе працу пра Адама Міцкевіча. Міцкевіч у Стамбуле.

*22 чэрвеня, панядзелак*

Пятроўскі паехаў здымаць Сафійку[3]. З машынай перадаў Валі тэлевізарчык, абагравальнік, сёе-тое. У выдавецтва занёс карэктуру.

* * *

*Ларысе Фінкельштэйн*[4]

Мастацтвазнаўцы ведаюць сакрэты.
Яны — дасведчаныя мастакі.
Халодным сонцам творчасці сагрэтыя,
Не просяцца да славы ў сваякі.

---

[1] Гл.: Палыновыя санеты: Мне сумна, як самотнаму ваўку; Палае жарсцю стрыманай агмень (18.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 307–308.
[2] Гл.: Не стае... (21.06.98) // Ксты. С. 261.
[3] Полацкі Сафійскі сабор, пабудаваны пры кн. Усяславе Брачыславічу паміж 1044–1066 (па іншых звестках у 1050–1060) як праваслаўны.
[4] Фінкельштэйн Ларыса Давыдаўна (н. 1950), беларускі мастацтвазнавец, арт-крытык, галерыст, педагог. Артдырэктар галерэі «Брама» (з 1991).

На іх абачна слава пaглядае,
Каб раптам не заўважылі яны,
Што слава, ўжо даўно не маладая,
Убраная вяльможна ў рызманы.

Мастацтвазнаўцы слухаць фарбы рады.
Ім цёплы новы снег і новы лёд.
У чэрствы дол унурыўшы пагляды,
Палітру неба бачаць навылёт.

Пачытаў па тэлефоне Ларысе. Была расчулена. Гэта сапраўды вар'ятка ў сваёй справе. Апантаная бессярэбраніца.

Для Дзягілевай напісаў устаўку: «Як адзінокі птах, лячу дадому…» [у дзённіку]. Паслухаў заключны канцэрт з Маладэчна. Сорамна за тэксты. Прымітыўныя ў сваёй шаблоннасці. І Някляеў пад народнае такія, як у нас казалі, рассярохі піша. А ён жа паэт. Ужо драны Майсюк[1] лепей імітуе лірыку з прэтэнзіяй на інтэлект. Палешукі хітрэйшыя заўсягды. Хоць рана ці позна голы зад убачаць усе, хто захоча…

*23 чэрвеня, аўторак*

Ваўком сядзеў дома. Перакладаю апошняе апавяданне Ганада.

«Раманс»[2]. Баліць галава. На вуліцы й дождж, і вецер (як у камсамольскай песні[3]).

Палякоў анекдот распавёў. У пустэльні поўзае п'яная змяя. Ідзе вярблюд. Яна пытае: «А што, у нас быў галалёд?» — «Чаму?» — «Навошта тады пяску насыпалі?..»

Дні мае сам палю, як сухія дровы ў грубцы розных дробязных клопатаў, з якіх і складаецца жыццё. «Раманс»[4].

---

[1] Дранько-Майсюк Леанід Васільевіч (н. 1957), беларускі паэт, празаік. У 1982–2002 гг. ст. рэдактар, заг. рэдакцыі паэзіі, актуальнай літаратуры выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Я не спяшаюся зіму сустрэць… (23.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 317.

[3] «Песня о тревожной юности», сл. Л. Ашаніна, муз А. Пахмутавай. *Ашанін* Леў Іванавіч (1912–1996), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950). *Пахмутава* Аляксандра Мікалаеўна (н. 1929), рускі кампазітар, піяністка. Герой Сацыялістычнай Працы (1990). Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1971). Народная артыстка РСФСР (1977). Народная артыстка СССР (1980). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1966), Дзяржаўнай прэміі СССР і РФ (1975, 1982, 2014).

[4] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Вы мне жыццём і забыццём былі… (23.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 318.

*24 чэрвеня, серада*

Запісалі з Самсонам Гутковіч. Усё на памяць, як урок, паўтарае. Мне ўзгадваецца Ягораў[1]. А Самсон распавёў пра касманаўта Лявонава[2]. У ягоным сцэнары, які Джэма Фірсава[3] папрасіла паправіць, перапісаць Самсона, Самсон наткнуўся на фразу, што ў пэўных слаях атмасферы з'яўляюцца душы радні, знаёмых, душы нябожчыкаў. Колькі ні дапытвалі пасля Ляонава, нічога не сказаў. Толькі ў дым п'яны абраніў фразу: «Недарэмна амэрыканцы на гэта трацяць мільёны даляраў у год». І больш нічога.

*25 чэрвеня, чацвер*

На машынку прозу Ганада. У выдавецтва. Да Карласа. Званіў дамоў. Крыўдзяцца, што сыра. Адной Дамінічцы добра. Дзеля яе й жывём. «Раманс»[4].

*26 чэрвеня, пятніца*

Пачынаю жыць як пэнсыянэр. З Самсонам на Камароўку. Адбіваўся ад званкоў. Галава баліць. «Раманс»[5].

*27 чэрвеня, субота*

Канчаўся з галавой. Пазваніў Алесь Камоцкі. Упершыню за колькі гадоў проста пахадзіў па вуліцах. З Алесем была сімпатычная шчырая дзяўчына.

Вечарам сеў за вершы. Да палыновых санэтаў: «А тут набытае пакінем тут»[6]. «Раманс»[7]. А яшчэ пераклаў раманс, здаецца, Бэлы Ахмадулінай[8]. Па-свойму зрабіў:

---

[1] Ягораў Міхаіл Аляксеевіч (1923–1975), беларускі партызан. Герой Савецкага Саюза (1946). З 1944 г. на фронце. У ноч на 1 мая 1945 г. разам з Мілітонам Кантарыя ўзняў Сцяг Перамогі над Рэйхстагам. Гл.: А паклон я перадам... (1962) // Парастак радка, галінка верша. Мн., 1987. С. 13.

[2] Ляонаў Аляксандр Архіпавіч (1934–2019), расійскі лётчык-касманаўт, генерал-маёр авіяцыі. Герой Савецкага Саюза (1965, 1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

[3] Фірсава Джэма Сяргееўна (1935–2012), руская актрыса, кінарэжысёр, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1973), Ленінскай прэміі (1980).

[4] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Мне б толькі не забыцца Вас забыць... (25.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 318.

[5] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Я да цябе хачу ляцець, як снег... (26.06.98) // Тамсама. С. 319.

[6] Гл.: Палыновыя санеты: А тут набытае пакінем тут (27.06.98) // Тамсама. С. 308.

[7] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Сам лёс раскрыў над намі неба... (27.06.98) // Тамсама. С. 319.

[8] Вольны пераклад раманса на вершы М. Цвятаевай «Под лаской плюшевого пледа...» (1914). *Цвятаева* Марына Іванаўна (1892–1941), руская паэтэса.

* * *

Душа кунежыцца ў блакіце,
Адпачывае ад дарог.
Хто пераможаны, скажыце?
Хто перамог, хто перамог?

Каб прыручыць душу чужую,
Жаданне маладое ёсць.
Ці гэта, Вам не адкажу я,
Была мілосць, была мілосць?

Хто паляўнічы, хто здабыча?
Хто ўдаль адплыў, хто сеў на мель.
Высокім сумам пракурлыча
Мой журавель, мой журавель.

Чыя самота захацела
Сустрэцца ў паядынку воч?
Маё ці Ваша сэрца смела
Ляцела ў ноч, ляцела ў ноч.

Я не хачу таіць нічога.
Мне дарага мая віна.
Каму спрыяла перамога,
Хто перамог, і перамога —
Чыя яна, чыя яна?

*28 чэрвеня, нядзеля*

Сустракаўся з Анатолем Белым. Прынёс мне лекі амэрыканскай аптэкі. Дачка прыслала. Шчыры чалавек, руплівец, шмат робіць. Але прагавітасць да ўсялякіх адзнакаў і званняў да смеху хваравітая. Але хай было б болей такіх. Белых, абы не чырвоных, якія знішчалі Беларушчыну. «На Беларусі мейсца ўсім хапае…» [А. Беламу; у дзённіку].

*29 чэрвеня, панядзелак*

Да Алы [машыністкі]. Узяў перадрук. Занёс Ганаду. Мне ўжо знадакучылі пераклады. Аж Ганада бачыць не хочацца. А ў яго яшчэ хвароба Мележа[1] — нарцысцызам. Чалавек Усходу — цёмная кніга. Не прачытаеш. Заўтра юбілей Хадыкі. «Незямносць: Ад чэрствасці, ад скупой чарнаты…» [Ю. Хадыку; у дзённіку].

---

[1] Мележ Іван Паўлавіч (1921–1976), беларускі празаік, драматург. Народны пісьменнік БССР (1972). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1962), Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна).

І яшчэ напісаўся палыновы санэт: «Бацькоўскі стол у хаце гаспадар»[1]. Відаць, гэта ўжо сапраўды апошні.

*30 чэрвеня, аўторак*

Юбілей Хадыкі ў сядзібе БНФ. Ад Шарэцкага[2] да Шчукіна[3] — усе. Духата, як у пустэльні. Народу болей, чым льга. Трохі пабыў — і дамоў. «Тост на ўвесь рост: Саб'ецца слава спанталыку...» [Ю. Хпадыку; у дзённіку]. І яшчэ раманс як быццам[4].

*1 ліпеня, серада*

Месяц пачаўся з дурнаты. Пазваніў Лучанок, каб тэрмінова сустрэцца па нечым вельмі важным. Стары дурань, паехаў у Саюз кампазітараў. Лучанок распавёў, як сустракаўся з баем Казахстана, з Акаевым[5], з Кучмой[6], з мафіёзі Кабзонам[7]. Усе яго ведаюць. І пасля пра так званую справу. Яму ў жніўня 60. Дык, бачце, яму ўжо нічога не трэба. Бляшкі ён сам раздае. Урад яго не цэніць. Дык ён напісаў тэкст ад імя выдуманай дамы з выдуманым тэлефонам, дзе на пачатку падзяка віншаванцу з указаннем усіх званняў Лучанка і ў канцы бомба ў спадніцы — Лучанок будзе адзначаць свой юбілей у XXI стагоддзі. І з-за гэтага мяне трэба было выклікаць. Параіў яму звярнуцца да Някляева. Яшчэ быў клопат у Лучанка: на якой паперы друкаваць гэты адказ — на добрай ці на кепскай. Хацеў сказаць, што на мяккай. Калі развіталіся ў прысутнасці ягоных падначаленых, назваў яго безразмерна вялікім Лучанком. Ён быў шчаслівы. [...].

---

[1] Гл.: Палыновыя санеты: Бацькоўскі стол у хаце гаспадар (29.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 308.

[2] Шарэцкі Сямён Георгіевіч (н. 1936), беларускі дзяржаўны дзеяч, вучоны-эканаміст. Доктар эканамічных навук (1984). Член-карэспандэнт Расійскай акадэміі сельскагаспадарчых навук (1991). Замежны член Украінскай акадэміі аграрных навук (1993). Акадэмік аграрных навук РБ (1996). У 1996–1999 гг. старшыня ВС РБ. З 2001 г. у ЗША.

[3] Шчукін Валерый Аляксеевіч (н. 1942), беларускі журналіст, праваабаронца.

[4] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Паядынак вачэй — паядынак вясёлы... (30.06.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 320.

[5] Акаеў Аскар Акаевіч (н. 1944), дзяржаўны дзеяч Кыргызстана; вучоны. Доктар тэхнічных навук (1980). Член-карэспандэнт і акадэмік АН КіргССР (1984). У 1990–2005 гг. прэзідэнт Кыргызскай Рэспублікі.

[6] Кучма Леанід Данілавіч (н. 1938), украінскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Кандыдат тэхнічных навук (1963). Прафесар (1994). У 1994–2004 гг. прэзідэнт Украіны. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1981), Дзяржаўнай прэміі Украіны (1993).

[7] Кабзон Іосіф Давыдавіч (1937–2018 ), расійскі эстрадны спявак, педагог. Прафесар (1992). Народны артыст СССР (1987). Народны артыст УССР (1991).

* * *

І ўрэшце гэту аксіёму
Спасцігнеш на пустой сяўбе,
Што больш не трэба ты нікому,
Апроч самоты і сябе…

Гэта мой сталы настрой апошнім часам. Толькі працуючы, забываюся на ўсё. Можа, сапраўды час апошні.

*2 ліпеня, чацвер*

*Вушача!* Была машына ад Роўбы. З дажджом у дождж прыехалі. Дамінічка выцыбалася. Валя паспакайнела. Мірон сустрэў мяне, вылезшы са сваёй дрымотні. А за ракой чакае мама. Ілона невядома дзе гойсае. Вось і сям'я мая ўся. Пры мне амаль уся. У Вушачы сасгрэбваюць гразь з цэнтральных (так і хочацца сказаць ср.льных) вуліцаў. Спітыя ахламоны нацягваюць чырвонае палотнішча. Заўтра воляй [Лукашэнкі] Дзень ліпавай незалежнасці. Местачковыя саўкі ў бляшках спяшаюцца на ўрачыстае паседжанне. Пры поцкамуністах, як і пры камуністах ранейшых, усё па завядзёнцы. Суседка Петракова мне паведамляе, спецыяльна спыніўшыся: «У майго ж тры ордэны, а ён іх насіць саромеецца». Як бы мне важна гэтак. Па радыё голас [Лукашэнкі]. Па-беларуску. Для нацыянал-камуністаў тыпу лагойскага гарлача алей на душу. Прыгожая легенда партапарату […] Машэраў таксама дазваляў сабе колькі слоў па-беларуску. На сон напісаў казку-пераказку «Чаму ваўкі не чытаюць газет?»[1].

*3 ліпеня, пятніца*

Дзень ліпавай незалежнасці працаваў на незалежнасць ад холаду — парадкаваў дровы. Прыходзіла Феня, даўняя каханка Пятра, выпіць і ўзяць бутэлькі, каб здаць. Казала, што была ў ягадах, наведала магілкі Пятра й Марыі Рыгораўны, паклала кветкі, ягады. У Вушачы лічыцца п'яніцай. А душа лірычная, хоць вечна з сінякамі. Мне не хапае Марыі Рыгораўны й Пятра. Зусім адзін, без роду свайго застаўся я. Былыя мястэчкі са сваімі традыцыямі, звычаямі, завядзёнкамі ператварылі ў філіі вар'яцкіх дамоў. Дзікасць, выраджэнне. Усе адчуваюць сябе кватарантамі, заезджымі, хіба, мабыць, адны «бугры» савецкія дый сённяшнія вэртыкальшчыкі думаюць, што яны гаспадары. Гэтак усё збрыдзіць, спаганіць могуць толькі камуністычныя вылюдкі [...]. «Калі ступіў тут камуніст, ён зменіць гэты край», — меў вялікі Купала нармальны падтэкст. Напісаў

---

[1] Гл.: Чаму ваўкі не чытаюць газет? (2.07.98, Ушачы) // Як воўк калядаваў. С. 27.

Васілю ліст у Фінляндыю. Сёння калхознае радыё перадавала «Альпійскую баладу». [...]. «Лісты ў Фінляндыю з Вушачы Васілю Быкаву»[1].

Усё яшчэ пішуцца палыновыя санэты[2]. Не праз сілу. Самі сабою. Пісанне вершаў, наогул, гэта цяжкая й зацяжная хвароба, ад якой можна згluздзець.

*4 ліпеня, субота*

Пішу *Вушача*, ад Вушачы маёй толькі што назва засталася, мяно. Болей няма маёй. Чужая. Халодная. Местачкоўцы, яны цяпер райцэнтраўцы, нагадваюць былых чаек, якія не бялеюць болей над утуманелымі азёрамі ды рэкамі, а бруднаю хмарай віснуць над сметнікамі (шуметнікамі па-вушацку), над памыйнымі ямамі. Люмпенізаваныя, саветызаваныя саўслужбакі, вертыкальшчыкі. [...].

Вечарам дарогаю ідзе так званая моладзь. Толькі расійскія мацюгі. Іншых словаў не ведаюць. Дзякуй Расіі за такі культурны пласт. Марксізм-ленінізм і мат — усё, што дала савецкая Расія паднявольным народам. Ад усяго га.на, ад усяго савецкага ўедлівага бруду ўцякаю ў сябе. Але й цяжка ўжо робіцца ўцякаць. Старасць паслядоўная й неадступная. Як ні круціся, а яе прызнаць урэшце мусіш. Мусіш ёй і падпарадкавацца. Па вечарах палю камін. Гавару з агнём у думках, думаю разам з дымам. Дым у неба, і думкі ў неба. Лятуць, але не далятаюць. «Раманс»[3]. І яшчэ палыновы санэт[4].

*5 ліпеня, нядзеля*

Сёння званочку майму апошняму Дамінічцы 9 гадоў. Дзевяць! Боская лічба. Учора палілі камін. Яна: «Ведаеш, як лепей за ўсё сушыць тэпці? Трэба кінуць у вагонь. Але каб яны былі жалезныя». Сёння прачнулася, а ля яе вялізны плюшавы кот, якога наракла Маркізам. Цацкі чалавека радуюць да апошніх дзён. Толькі цацкі змяняюцца. Сніў Васіля. Некуды нам трэба было. Спазняліся, не маглі знайсці, куды трэба. У сне ўсё роспачна заўсягды. Схадзілі з Валяй па заказаны торт Дамініцы. Хоць правільна па-беларуску напісалі віншаванне на торце. Былі два Гладышавы ўнукі й дзяўчынка, як сказала Дамінічка, з катэджаў. Падзел у жыцці ніколі не сціраўся. Нават пры бальшавіках, якія да ўсёру дралі глоткі за роўнасць. Вечарам паліў камін. Уночы выйшаў у сад. Раблюся акынам — што бачу, тое й пішу.

[1] Гл.: Ліст першы: Дажджы й дажджы... (3.07.98, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2000. С. 9.

[2] Гл: Палыновыя санеты: Зазелянелі даўнія лугі (3.07.98, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 309.

[3] Гл. Шчымлівыя рамансы: Як вечар, свечка светла дагарае... (4.07.98, Ушачы) // Тамсама. С. 320.

[4] Гл.: Палыновыя санеты: У блізкім небе спавядаўся дым (4.07.98, Ушачы) // Тамсама. С. 309.

Яшчэ нанач палыновы санэт[1].

*6 ліпеня, панядзелак*

Паўдня парадкаваў дровы ў дрывотні. Выцягваў з дошак цвікі. Любімы занятак маленства. Пракідзісты дождж. Ціха. Усе мітрэнгі недзе далёка-далёка. Прыбегла да мяне Дамінічка й сама выцягнула цвікі абцугамі. Купалле ў Вушачы ладзілі на цэнтральнай плошчы ля Вовы Ульянава. Латарэя, скокі. Валя з Дамінічкай хадзілі. Дамінічка задаволеная прыйшла.

*7 ліпеня, аўторак*

Уночы пісаў палыновы санэт[2]. Званіла Галіна Дзягілева. Яна зрабіла п'есу па Адаму Міцкевічу. Рэдкая беларуская актрыса. Зацята беларуская. Каб такіх ды яшчэ хоць трошкі. А савецкія беларускія акторы й актрысулькі толькі по-рюсски чирикают. Да позняга парадкаваў дровы. Як у малечыя гады вярнуўся. Самыя любімыя мае музычныя прылады — шархебель, сякера, піла, малаток. Іхняя музыка гучыць мне, колькі помню сябе. Шалею ад паху свежых дошак.

Яшчэ палыновы санэт[3].

*8 ліпеня, серада*

Цэлы дзень працаваў у дрывотні. Абабіваў збольшага дошкамі, рабіў нешта накшталт тынянкі. Да мазалёў на руках. А то мазалі на языку. […]. І пісаў палыновы санэт[4]. Гэта апошні, бо трыццаць трэці.

*9 ліпеня, чацвер*

Сёння дзень народзінаў Валі. Хадзілі на вушацкі базар. Цэлы дзень збіраўся дождж. Галава разломвалася, як бочка, якую не маглі сціснуць ніякія абручы. Званіў Ганад і Галачка [Ролiч]. Пытанні па другім томе. Можа, выйдзе. Цяпер я нічому не веру. Напісаў ліст Васілю: «Ліст другі»[5].

*10 ліпеня, пятніца*

Гаспадарскі клопат мой чамусьці помсціць мне, што забыўся на яго. Учора парэзаў палец пілкаю. Сёння ў дрывотні стаў на цвік. Прабіў цвік і

---

[1] Гл.: Палыновыя санеты: І яблыкамі б'е паклоны сад (5.07.98, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 310.

[2] Гл.: Палыновыя санеты: Да роднага парога на паклон… (7.07.98, Ушачы) // Тамсама. С. 310.

[3] Гл.: Палыновыя санеты: Усё жыццё — туга па тым жыцці… (7.07.98, Ушачы) // Тамсама. С. 310.

[4] Гл.: Палыновы санет: Як цёплы дождж ідзе па ярыне… (8.07.98, Ушачы) // Тамсама. С. 311.

[5] Гл.: Ліст другі: Сякера, малаток ды абцугі… (9.07.98, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 10.

таўстую падэшву, і нагу. Пілаваў дошкі, думаў пра неба. А на зямлі іржавы цвік усё абнізіў. Уночы пісаў «Раманс»[1].

*11 ліпеня, субота*

Гэтак за дзень нагакаўся сякераю і малатком, аж ручку трымаць цяжка. Відаць, каб цяпер выслалі куды ў Сібір, як пры камуна[...] у трыццатыя і пазнейшыя гады, загнуўся. Адчуваю, што моцы мала. Апошнім часам ужо не бядзі́ць, для каго пісаў, хто будзе чытаць ці наогул ніхто й не гляне. Пісаў у першую чаргу для сябе, бо меў патрэбу. І рэшту гадоў сваіх, калі будзе пісацца, гэта для сябе. Дый гэтыя мае крамзолі пад адной страхой не дзённік, а проста з самім сабой як бы размова. Бо ваўчэю. Сябры мае амаль усе там, куды й сам мушу пайсці. Люблю паўтараць бабулін выказ: ёсь што гаварыць, ды няма каму слухаць. На аб'явах у Вушачы й такія: «Прадаецца трава на карані 0,8 га». У Уітмэна[2] — лісце травы.

*12 ліпеня, нядзеля*

Збіраўся даскладваць дровы пад страху тынянкі, бо нічога ні секчы, ні пілаваць у святую нядзельку нельга. А тут такі дождж уліў, што добры гаспадар сабаку на вуліцу не выганяе. Пісаў уночы: «Ліст трэйці»[3]. Дапісаў нешта кшталту балады-паэмкі «Матчыны рукі»[4].

*13 ліпеня, панядзелак*

Трынаццатага, панядзелак. Мае шчаслівыя лічбы й дзень. Нарэшце закончыў эпапею з дрывамі. Сіла мая пайшла на спад. Гады́, відаць, раўнуюць. «Раманс»[5].

*14 ліпеня, аўторак*

Відаць, мама злуецца, што рэдка бываю ў яе. Зноў, як выйшаў, паліў лівень. Усё роўна пайшоў на Бутаўскі магільнік, ці, як кажуць у нас карацей, на Бутаўшчыну. Здалёку дужа купчастыя сосны. І незвычайна сакавіта-зялёныя. Ці не прах дае ім такую зялёнасць густую. Адна сасна на валатоўцы рыжая, як вагнём хапіла. Рыюць паўсюль як свінні. Магілка ў зеляніне. Мама чакала. Адчуў гэта. У ейным вечным гародзе рамонкі, званочкі, кмен. Нябесны клопат і клопат зямны гаспадынін паядналіся ў цішыні. Чым далей, тым болей цягне на магільнік. У спакой. Іду назад, а

[1] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Успомніце хоць раз таго забытага... (10.07.98, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 321.

[2] Уітмен Уолт (1819–1892), амерыканскі паэт.

[3] Гл.: Ліст трэйці: Край перакуленых нябёсаў... (12.07.98, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 11.

[4] Гл.: Матчыны рукі (12.07.98, Ушачы) // Як воўк калядаваў. С. 118.

[5] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Я ўсё сваё жыццё да Вас ішоў... (13.07.98, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 321.

пад шахой, дзе йдзе адпяванне, дзе развітваюцца з нябожчыкамі, схаваўшыся ад дажджу, абдымаюцца й цалуюцца ён і яна. Бо ў прынцыпе — уся зямля суцэльны магільнік. Па дарозек ля студні сустрэў Прышывалку[1], ужо не помню ймя. Чыста вушацкіх усё меней і меней. Зноў пад страхой пастаяў. «З дажджом:

Па небе сунуцца з дажджом вазы…» [у дзённіку].

Пазным вечарам выйшаў у сад. Аднекуль вяртаўся Мірон. Пасядзеў у мяне на цёплым плячы, бо ў ваўнянай вязанцы, потым на руках. Пагаварылі з ім, кожны на сваёй мове. Прасіў яго быць асцярожным у бойках з супернікамі за кошку Дзічку. Абяцаў. Паглядзеў на хату. Захацелася тут жыць спакойнай сям'ёй, са спакойнай душою. Жыць, а не бываць наездамі. На жаль, усё гэта немагчыма. Да скону буду мі'тацца, загружаць сябе працай, каб хоць як адагнаць сум і самоту. Як сваё вогнішча не расклаў, ля чужых не пагрэешся. І сапраўды атрымліваецца, што будаваў міфічны камунізм. Не жыў натуральна, не жыў грунтоўна, не жыў гаспадаром. Пражыў чаляднікам у пустога клопата. Гэта яшчэ паўбяды, што вершы мае нікому не трэба. Я нікому не трэба. Ужо нават сабе самому. «Чужы»[2]. Напісаў сёння казку-пераказку[3]. А Дамінічка напісала калыханачку й сказала запісаць.

*Дамінічына калыханка*

Між ялінак, між сасон
Ходзіць-бродзіць дзядзька Сон
І спявае калыханку
Деткам ён маленькім.

*15 ліпеня, серада*

На Сарочына. Тут давялося доўга чакаць аўтобуса з Полацка на Менск. Якраз ехаў з Полацка Кірпіч — наш вушацкі галоўны вушачазнаўца. Знайшоў сведкаў. У 41-м камуністы, уцякаючы, расстрэльвалі заходнебеларусаў. Кажа, што не ля Пісаронкаў, а якраз на раз'ездзе, на паваротцы на Вушачу. Тут жа й магілы нямецкіх салдатаў былі.

*16 ліпеня, чацвер*

З Самсонам і Ветраком да Карласа. Там сядзеў Лявон Баршчэўскі, якога люблю да чорцікаў. Знайшоў свой радавод. Бабка была эстонка. Наогул, у абліччы ягоным нешта ёсць ад эстонцаў. Вечарам да Самсона. Чы-

[1] Прышывалка Тамара Іванаўна, урач, якая лячыла Акуліну Андрэеўну.
[2] Гл.: Чужы (14.07.98, Ушачы) // Ксты. С. 289.
[3] Гл.: Мы з дзедам, а бацька — следам (14.07.98, Ушачы) // Як воўк калядаваў. С. 32.

таў яму вершы. [...]. Забраў у Артура п'есу Шэкспіра, трэба перакласці для ТЮГа. Бо Шайко[1] будзе ставіць. А ён ас!

*17 ліпеня, пятніца*

Бегаў па дробных клопатах. Дождж халодны, як нябожчык. Увесь дзень. Чытаю зборнічак Міхася Кавыля[2], выдадзены ў Нью-Ёрку ў 1954 г. Паэт. У 50-я тутэйшыя савецкія пісалі халадней і рытарычней. Верш, напісаны на Атлантычным акіяне 27 лютага 1950 года, заканчваецца проста здорава:

Паўтарацьмем безупынна,
Як вар'ят той загайданы, —
Усе пяскі збяру з пустыняў
І засыплю акіяны…

Дапёк-такі паэта акіян. Гэта пераезд у Штаты.

*18 ліпеня, субота*

Дождж. Дождж. Дождж. Стараюся разгрэбсці завалы рукапісаў, часопісаў, кніг. І ўсё, здаецца, марна. Спаліць бы бальшыну. Але шкада. Тут успаміны. Тут пражытыя гады. Усё збіраюся напісаць спакойныя ўспаміны, прывесці ў парадак слоўнік Вушаччыны, мой слоўнік. Няма болей ад каго чуць вушацкую крынічную гаворку. Глухата.

*19 ліпеня, нядзеля*

З Самсонам на Камароўку. Потым каля крамы ў нас купляў кроп. Маладзіца: «Спажывайце на здароўе». Якая музыка, якое здароўе у гэтым беларускім, наскім зычэнні. І ўсё гэта глухне. Учора надыктаваў Алесю Камоцкаму яшчэ чатыры рамансы. Сёння сядзеў крыху за Шэкспірам для Шайко. Будзе ў ТЮГе ставіць. Цяжкую працу зноў ускуліў на плечы. Ці надоўга хопіць мяне?

*20 ліпеня, панядзелак*

Хадзіў да Самсона. Заўтра едзе ў Ізраіль да верасня. Радзік неўзабаве з'едзе. Няма каму хоць верш пачытаць. А з саюза прыйшло запрашэнне на раду. Між іншых пунктаў — абмеркаванне пытанняў на сустрэчы з [Лукашэнкам]. Някляеў такі дагадзіў. Будзе ляманту, будзе цацанак-абя-

[1] Шайко Мікалай Міхайлавіч (н. 1938), рускі тэатральны рэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (1999). Пьеса «Марныя намаганні кахання».

[2] Кавыль М. Пад зоркамі белымі. Нью-Ёрк, 1954. *Кавыль* Міхась (сапр. Лешчанка Язэп Казіміравіч; 1915–2017), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны (1933–1935). Ваяваў, у 1942 г. трапіў у акружэнне, у 1943 г. вярнуўся ў Мінск, працаваў у аддзеле прапаганды Саюза беларускай моладзі. З 1944 г. у Германіі, Бельгіі, у 1950 г. выехаў у ЗША.

цанак. Вядома ж, не пайду. Можа, дажыву да тае пары, калі сустраканцы будуць каяцца, як некалі Някляеў за свае вітанні Брэжневу[1]. Усё паўтараецца. Як пры камуністах. Няўжо надоўга?

*21 ліпеня, аўторак*

Паехаў Самсон. Радзік адпраўляе кнігі. Сумкі шые старая яўрэйка, якая ніяк не можа выехаць. Толькі шые сумкі ўсім, хто адʼязджае. Сын варʼят, служыў у ракетных войсках. Яго адпраўлялі ў Навінкі. Узяў з сабой 450 даляраў — усё, што было ў старой. Там гэтыя даляры забралі разумныя. І канцы ў ваду. Сумная навэла. Кажу Радзіку, каб напісаў. Адказвае: «Не помню, калі ручку трымаў на вершы». Клопат з адʼездам. Суцяшаю: сум прадыктуе й вершы, і прозу…

*22 ліпеня, серада*

У «Мастацкую літаратуру». Перакладаю для ТЮГа. Спякота — пекла. З галавы не выходзіць Ілона. Дзе яна? Што з ёй?

*23 ліпеня, чацвер*

Сустрэўся з Алесем Камоцкім. Такіх бы беларусаў болей. Лічыць, што лёзунг — імпатэнт. Нічога адраджаць не трэба. Трэба ўскалыхнуць душу, напомніць эмацыянальна. Бо ў кожнай душы дрэмле беларускасць. […].

*24 ліпеня, пятніца*

Сніўся Васіль. Мы недзе ў Гародні. Васіль выступае, адказвае на пытанні, а я недзе далекавата, мне дрэнна чуваць. Хачу запісаць. Не ўдаецца. Усё, як у сне. Трывожна, нязвязна, зыбліва. Схадзіў у ПЭН. Дазваніліся да Васіля. Адзін мой ліст да яго дайшоў. З Вушачы ў Хельсінкі йшоў 20 дзён, як пешкі йшоў. Пакуль усе КГБ чыталі, відаць, ад раённага да сталічнага. Пры камуна-[…] і то хутчэй чыталі.

*25 ліпеня, субота*

Сяджу дома. Перакладаю для ТЮГа. Схадзіў на базарчык. І ўвесь мой паход.

*26 ліпеня, нядзеля*

Першы раз, доўга не было, убачыў цэлую чародку маладзенькіх верабейчыкаў. Сёлетнія. Раней было шмат. Але Чарнобыль і на іх дыхнуў. Прывык жыць з вераб'ямі з маленства. А тут раптам не стала. Не хапае нечага. З Вушачы дрэнныя званкі — Валя адчувае сябе блага. Ад Ілоны — ні гуку. Такое адчуванне, што на мяне надзелі жалезныя абручы

---

[1] У. Някляеў зачытваў вітанне ад камсамола XXVI з'езду КПСС (1981).

й няўмольна іх сціскаюць. Ці вытрываю? Дамінічка такая маленькая й кволенькая, як верабейка сёлетні, які пырхнуў у лісце. Госпадзі, не дай ёй застацца адной, безабароннай! Пачуй просьбу маю, Высокі!

*27 ліпеня, панядзелак*

На кінастудыю. Усё чужое, поцсавецкае. Сяргей Пятроўскі наздымаў задужа й задужа добра малюначкаў. Рэжысёр з яго ніякі′. Бо вушацкае слова нія′кі — гэта нешта ўсё-ткі. Самсона няма — не будзе болей дакумэнтальных фільмаў. Будуць still life — па-ангельску нацюрморт. Даслоўна — ціхае, спакойнае, нерухомае жыццё. Званю ў Вушачу. З Валяй кепска. Без яе я рухну. Яна — апора мая. Выйшаў са студыі. Ідзе 115-ты аўтобус. Сеў. Без прыпынкаў аж да абласной бальніцы. Назад ехаў з панавітай, з балцкай прымешкай жанчынай. Настаўніца з Краснага. Пазнала мяне. Студэнткай кватаравала ў доме на Рэспубліканскай, дзе я тады жыў. Свет цесны.

*28 ліпеня, аўторак*

Разбіраю Гімалаі папераў. Перадаў у Вушачу таго-сяго. Галоўнае Мірону амэрыканскіх прысмакаў «Дзевяць жыццяў». Хай есць на здароўе. Каб быў час — сесці б ды спакойна перагартаць усё, перагледзець.

*29 ліпеня, серада*

Маладому дапытнаму Віктару Мухіну перадаў таго-сяго з кніг і папераў. Ён усім цікавіцца. Усім наскім. Зайшоўся ў «Мастацкую». Хоць добрая навіна. [...] Лукшу[1] фактычна зволілі. Не працягнулі кантракт. Трэба даваць дарогу маладым стукачам. Іх багата. Савецкая спадчына й поцсавецкая рэчаіснасць пры рэжыме [...]. За яго хадзілі прасіць [...] кадравы Скобелеў[2] і [...] Шамякін. «І стукачу дадуць па лычу...» [у дзённіку].

*30 ліпеня, чацвер*

Сустракаўся з Вальдко Калініным. Ён амаль закончыў пераклад усяе Бібліі на цыганскую мову. Выкладае цыганскую мову ў Лёндане. Вучыць цыганятак. Але думка такая цыганская, што вучыць мове толькі цыганоў, нецыганоў не вучыць. Каб нецыганы не ведалі. Успомніў вушацкую форму слова — цыга′ні (*і* на канцы, якое ў літаратурнай мове перайшло ў *ы* дый націск за сабой пацягнула). У айца Надсана, казаў Вальдко, хапае

---

[1] Лукша Валянцін Антонавіч (1937–2012), беларускі паэт, драматург. У 1980–1998 гг. дырэктар выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[2] Скобелеў Эдуард Марцінавіч (1935–2017), беларускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры РБ (1996). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

праблемаў. Вучыць-вучыць, а дзяўчаты выходзяць замуж за ангельцаў і не едуць у Беларусь, некаторыя выхаванцы пераходзяць у праваслаўе і ў Амэрыку. Ёсць добрыя вучні, але яны нявернікі. Лёс уніяцкае веры, як і лёс беларускасці. Хісткасць і здрада пілнуе іх.

*31 ліпеня, пятніца*

Закапаўся з галавой у паперы. Перабіраю. Прыйшоў да высновы, што я ўсё-ткі будаваў камунізм. Бальшавікі тут не брахалі. Усе воляй-няволяй былі ўцягнутыя ў будаўніцтва, гэта значыць у пусты клопат, у парожнюю працу. Тварыў тлен, а гэта праца вечная. Ні канца, ні выніку не відаць. А можа, наводзячы збольшага парадак у паперах, рыхтуюся да апошняй дарогі. Заўсягды трэба памятаць пра яе…

*1 жніўня, субота*

Учора йшоў уздож зялёнага канала, ці доўгай канавы. Нешта вярцелася. Бо даўно не пісаў нічога. «Зялёная вада»[1]. Да Радзіка. Ён ужо не тут і не там. Разгублены. І гэта натуральна. Як ён прыжывецца, такі тонкі, крохкі, чулы? Дзе радзіма? Вечнае пытанне абранага Богам народа.

*2 жніўня, нядзеля*

Разграбаю паперы, чым болей разграбаю, тым болей закапваюся. Быў бы час, усё трэба перачытаць, прыгадаць. І на пэнсіі часу няма.

*3 жніўня, панядзелак*

На кінастудыю. Праглядалі на экране матэрыял. Мне гэта падабаецца, ужо ўцягнуўся ў кіно. А тут усё абсеклі. Без Самсона кінастудыя — магільнік. Пры рэжыме [Лукашэнкі] на ўсіх мейсцах ажылі падхалімы, стукачы. Іхны зорны час.

*4 жніўня, аўторак*

Як воўк прасядзеў у хаце. Літдзеячы заўтра сустракаюцца ў [Лукашэнкі], ці з [Лукашэнкам]. Званілі з НТВ сказаць, што думаю пра гэта. Не хачу й думаць, і казаць. У дадатак яшчэ тэлефон кэгэбісты зноў сурочылі. Я магу званіць, а мне не. Гэтак атупеў ад перабірання папераў, што думаў — нічога ўжо не напішу. А ўзяў дый напісаў санэт для Шайко ў п’есу Шэкспіра.

[1] Гл.: Зялёная вада (1.08.98) // Ксты. С. 309.

* * *

І Танатас, і Эрас заадно.
Не мае літасці стралец крылаты.
А неўміручай смерці памагаты
Рыхтуе ашалелае віно.
Сын Афрадыты ведае даўно —
Не ўберагуць ад стрэл пявучых латы,
У Эраса нястомны лук напяты.
Яно глыбее — ў асалоды дно.

І Танатас стараецца зацята.
Але кахання не перамагчы.
Для закаханых смерць — скупая плата
За жарсць, якая спапяляе зоры.
У Эраса ад вечнасці ключы.
Лютуе Танатас — на зайздрасць хворы.

*5 жніўня, серада*

Сёння а восьмай раніцы пазваніла ў дзверы сымпатычная карэспандэнтка НТВ. Адмовіўся. І галава баліць, ды я не драны Майсюк, каб […] ў тэлекадр. Стары я ўжо. Адмітусіўся. Досыць!

Сёння ў [Лукашэнкі] сустракаліся дыназаўры тыпу Пташнікава[1], Адамчыка[2], Шамякіна. Па тэле кавалак далі. Шамякін дзякаваў, […], з ім Далідовіч[3]. […]. Што ж, Ясенін[4] меў рацыю: «Кожнай працы паспрыяй, удача!» […].

Някляеў — беларускі варыянт Фадзеева[5]. Толькі б не застрэліўся. Ён усё-ткі мне сымпатычны. Хай будзе здаровы й заўсягды апахмельны. Цікава было бачыць на сустрэчы з [Лукашэнкам] Дамашэвіча[6]. Без дранага Майсюка й хаўтуры не хаўтуры, і вяселле не вяселле. Як застаўка, не блытаць з за′стаўкай.

---

[1] Пташнікаў Іван Мікалаевіч (1932–2016), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978).

[2] Адамчык Вячаслаў Уладзіміравіч (1933–2001), беларускі пісьменнік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя І. Мележа (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[3] Далідовіч Генрых Вацлававіч (н. 1946), беларускі пісьменнік. У 1991–2002 гг. рэдактар час. «Маладосць». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя І. Мележа (1988), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1996).

[4] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт.

[5] Фадзееў Аляксандр Аляксандравіч (1901–1956), рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. У 1946–1954 гг. генеральны сакратар СП СССР.

[6] Дамашэвіч Уладзімір Максімавіч (1928–2014), беларускі пісьменнік.

*6 жніўня, чацвер*

*Вушача!* Заехаўся Роўба. Па дарозе заехаліся ў Дальву[1], якую саўпрэса называла сястрой Хатыні. У прыгожай лясной мясціне была невялічкая, здаецца, на шэсць двароў, вёсачка. На мемарыяльнай пліце жанчыны, дзеткі, адзін 80-гадовы дзед. Мужчын няма. Усё запушчана. Дарогі пяць кіламэтраў, а едзеш як усе дваццаць пяць. Савецкая паказуха скончылася. А поцкамуністы, каб і хацелі, не змаглі б паставіць помнікі ГУЛАГам і розным пакутным Курапатам[2]. Іх немагчыма злічыць. Уся імпэрыя — адзін ГУЛАГ. Прыехаў дамоў. [...]. З Дамінічкай у садзе здымалі здымаʼчкай яблыкі. Яна мне шчабятала й шчабятала. Прыйшоў Мірон і зрабіў ласку — пасядзеў на плячы, нават курню пракурняўкаў. Адразу ціша й лагода. Дзякуй Госпаду за мілату!

*7 жніўня, пятніца*

Прывыкаю да роднага дому. Як ні дзівакавата гэта гучыць. Вяртанне заўсягды балючае, хай і жаданае. А галава баліць і дома. Страшэнна. Каб паўдуркам не зрабіцца ад такога болю. Крый Божа! Пачаў перакладаць далей Шэкспіра. Паспрабаваў напісаць «Раманс»[3].

*8 жніўня, субота*

Паліў камін. Крыху супакойвае. А ўвогуле, душа мая нешта не на мейсцы. Як там Ілоначка? Дзе яна, крывінка мая горкая, гаротніца мая, якую заглынула багема. Мастацтва — дрыгва, не кожны пройдзе. Напісаў Васілю[4].

*9 жніўня, нядзеля*

То залева, то сонца. Няма стабільнасці ў палітыцы неба, як было пры камуністах. Сустрэў [Івана] Кабяка. Пакуль яшчэ працуе. На адну казу накасіў сена. А як высушыць? Трымае дзве казы. На пэнсію не пражыць. Трэба купіць штаны, а, падумаўшы, нельга. З чаго пачыналі жыць, да таго вярнуліся. Успомніў, як некалі мокрыя чаравікі паставіў у грубку, каб падсохлі, а яны згарэлі. Назаўтра ў школу йсці няма ў чым. Роўнасць у галечы прывяла да сённяшняга. На чорны дзень у чалавека няма нічога. Памрэш — а як цябе пахаваць? За што? Роспач не адстае ні на крок. У бальшыны. З галавы не выходзіць Ілона. Перад Валяй не ўспамінаю, выгляду не паказваю. Ёй і так хапае. І яна, вядома, думае пра Ілону дзень

[1] Дальва, вёска Лагойскага раёна, спаленая гітлераўцамі разам з людзьмі ў чэрвені 1944 г.

[2] Курапаты — месца масавых расстрэлаў савецкіх грамадзян у часы рэпрэсій 30–40-х гг. XX ст. на паўночнай ускраіне Мінска.

[3] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Зоркі нашыя ў небе без нас... (7.08.98, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 322.

[4] Гл.: Ліст чацьверты: Сум — нацыяналіст (8.08.98, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 12.

з ноччу. За што такая кара? Ну, добра, нам. А Дамінічцы? Усё жыццё — ланцуг нейкіх непамыснотаў, бадай, які зрэдчас ірвецца радасцю. Ды радасць — гэта толькі прывід.

*10 жніўня, панядзелак*

Невераемны боль. Хаджу як дурны. Пад ноч Валі стала кепска. Якое трывушчае й якое кволае жыццё. Накшталт яйка. Шкарлупінка лёгка б'ецца, а змесціва вечнае. Нічога не міла. Здаецца, што прыйшлі канцы к гародам. А Дамінічка такая маленечкая. Малю Бога й анёлаў асланяць маю апошнюю крывіначку. Госпад, пачуй мальбу маю.

*11 жніўня, аўторак*

Тупею ад болю й перакладу. Да галавы яшчэ й зубы. Аж сэрца пакалвае. Яшчэ ніколі так блага не было мне дома. Рэпетыцыя боскай кары. Асноўная чакае.

*12 жніўня, серада*

Прыходзіў спадар Франц, які ваюе з пацукамі ў Вушачы. Мяккі, інтэлігентны. За чаркай казаў пра пацукоў. Дужа хітрыя. Правяраць атруту пасылаюць слабейшага, вырачанага. Яны рыхтык камуністы па жывучасці й хітрасці. 99 адсоткаў пацукоў алкаголікі. На віно іх лепей за ўсё браць. Прагрызуць капронавы корак, адзін абмакне хвост, выцягвае з бутэлькі, з горла, а другі аблізвае. Толькі й прыйшло ў хворую галаву: «Жыццё пайшло...» [у дзённіку].

*13 жніўня, чацвер*

З Роўбам да Надзеі Роўбы. Як вады глынуў чыстай — такая чыстая мова наша. Яна сябравала з мамай. Яшчэ быў я маленькі, мама апранала мяне як ляльку, а Роўбісе казала: «Як падумаю, што ён жэніцца, дык адразу не люблю яго». Маме не хацелася, каб нехта болей любіў мяне, чымся яна. Хоць ведала, што гэта быць не можа. Так і атрымалася ў жыцці. Пра маму, калі ўспамінала: «Хай лёгкі пясок будзіць...», «Бульба ў аглоблі вырасла». Адыходзім: «Завязіце мяне да Лукашэнкі, я пагавару з ім, як цар з жыдам...» Спадарыні Надзеі 84-ты год. Недачуе, недабачыць. Але розум вясёлы. Дужа нечым нагадвае мне маму. Як была маладзейшая, памятаю, убачыў вочы — мама глядзіць. Былі з Роўбам у ЗАГСе. За 1997 год па раёне нарадзілася 168, памерла 455. Вымірае Вушаччына, вымірае ўся Беларусь [...].

*14 жніўня, пятніца*

Меў клопат у судзе. Са спадчынай. Па Марыі Рыгораўне. Суддзя Жылко па-зямляцку паважліва й зычліва паставіўся. Дзякуй яму! Свет цесны. Ягоная жонка Тамара Іванаўна Прышывалка (з карэнных вушацкіх) лечыла маю маму апошнія гады мамінага жыцця. Я тады піў і рэдкім госцем быў. Грэх гэты каменем у мяне на душы. Да скону ён са мной. Не пачуў апошніх словаў, не пачуў наказу. Прыехаў, калі ўжо вачыма нешта казала, ды я не зразумеў.

*15 жніўня, субота*

Перакладаю. Блізка да канца. Як локаць — не ўкусіш. Знадакучылі мне пераклады. Асабліва калі трэба ў нейкі канкрэтны тэрмін здаць. А Дамінічка расце. Ужо спявае куплет з нейкага шлягера пра хлопчыка з гітараю на балконе, пра ружовае мора. Шлягеры, як цвікі, убіваюць у галовы радыё, тэле, касэты. Наскае, роднае робіцца далёкім ад сэрца фальклорам.

*16 жніўня, нядзеля*

Не стаў магчы нікуды хадзіць. Не фізычна. Заўтра ў суд наконт спадчыны. Мне ўжо другі дзень кепска. Хвалююся. Набыўся за свой век на людзях, навыступаўся, нагарланіўся на сцэнах. Хочацца самоты. А яе няма, самоты незалежнай і спакойнай. Ёсць толькі нэрвовая самота, забытасць, дзе жыве намер некуды йсці, прымусовасць. Пісаў пад пошапт дажджу «Раманс»[1]. Выйшаў на вуліцу. Восеньская цямнота. Зрэдчас паблісквацюць босыя пяткі дажджу. Чую — блізка ў траве пад яблыняй нехта фыркае. Угледзеўся. Пашыбаваў на мяжу вожык. Ён даўно ў нас жыве. Ці жыве вуж? Раней пад хлевам жыў. Дасюль помню, як дрыжэў ягоны язычок. Як полымка.

*17 жніўня, панядзелак*

З раніцы звозіў сведак у суд, каб пацвердзілі, што Марыя Рыгораўна цётка. Як у маленства вярнуўся, і Ніна Ягораўна Сарока помніць мяне з калыскі, і Надзея Сцяпанаўна Крыскевіч (у дзявоцтве — Роўба). Глынуў паветра роднай мовы. Сарока: «Радніліся, гасціліся…» Надзея Сцяпанаўна нахапку апранаецца. Кажу: «Добра». А яна: «А то скажуць, з якога магільніка ты яе прывёз…» Тацяна Фёдараўна Крахотка казала, што мама ў лесе яшчэ ляху рабіла. Піцавала. Рай ёй! Сарока пра жанчыну, якую сустрэла ў судзе. Дачка працавала на Нафтабудзе. Перабудова пакінула без працы. Пайшла на ферму. Распілася. Дзецям ужо па 18, а яна з мужыком б’юцца.

---

[1] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Вясновы дзень быў радасцю даўгі… (16.08.98, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 322.

Яшчэ раз выйсці замуж думае пры жывым мужыку. Сюбар ёсць. Старая начавала сёння, я недачуў, пытаюся: «Пад сталом?» А яна адказвае: «Пад стогам». Рамантыка. Відаць, не так мне трэба было рабіць з Ждановічам[1] «Вяртанне»[2], як распытаць пра маму болей у маладзіц, якія яе помнілі, сябравалі з ёй.

Але што каяцца. Камунізм будаваў. І дабудаваўся. Бочку мякіны заробіў, як у нас казалі.

*18 жніўня, аўторак*

Па судовых справах бегаў. Але закончыў пераклад п'есы «Марныя намаганні кахання» для Шайко. Аж у вачах пасвятлела і на душы адлягло. Былі моманты — хацелася ўсё кінуць-рынуць. Уночы выйшаў. Нехта дужа цяжка дыхае. Аж гэта мой стары знаёмы вожык. Строс яму ў траву яблык. Заўтра Іспас, напісаў канцоўку ў п'есу: «Шаноўныя гледачы!» [у дзённіку].

*19 жніўня, серада*

Сёння Іспас. Дзякуй Богу, сустракаю яго дома. Прыехалі вушацкія тэлевізійшчыкі. Казаў колькі словаў ім на ўмоўнай старой плошчы. Так і цыкл перадачаў называецца ў іх. Маладыя, сучасныя. Мысляць правільна. Ім цяжка. Толькі адышоўся. Нехта даганяе. Прыемны малады чалавек просіць з імі пасядзець, пагутарыць, выпіць і нешта прачытаць. Ласкава пачаў адмаўляцца. Яны: «Няўжо гэны ўсіх запалохаў?» Растлумачыў, што мне проста блага. Узгадалася, як недзе ў Доме адпачынку да Мандэльштама[3] падышоў лётчык і папрасіў нешта прачытаць. Мандэльштам: «А калі я вас папрашу палётаць?» З Дамінічкай на магільнік. [...]. Прыйшлі на магілку. Дамінічка грабелькамі ўзрыхліла магілку, прыгожа расклала цукеркі, яблыкі, хлеб, рассыпала крупы. Калі адыходзілі, сказала: «Да пабачэння!» Як з жывой гаварыла з прабабкай сваёй. Казала, што душа лётае, што прабабка бачыць яе... Потым хадзілі ў канаву браць вады. Там быў вялізны бычок, у якога праразаюцца рожкі. Дамінічка першы раз зблізку бачыла бычка. Трошкі баялася. Абуралася, што шмат запушчаных магілаў.

«Ліст пяты»[4].

---

[1] Ждановіч Валянцін Ісакавіч (1938–1992), беларускі журналіст і фотамастак.

[2] Барадулін Р., Ждановіч В. Вяртанне: Альбом. Мінск, 1988.

[3] Мандэльштам Осіп Эмільевіч (1891–1938), рускі паэт, перакладчыкі. Рэпрэсаваны.

[4] Гл.: Ліст пяты: Іспас... (19.08.98, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 13.

*Маналог актрысы*

*Ларысе Горцавай*[1]

Было мне дня і ночы мала
На мроі, працу, на каханне.
І я сама сябе стварала,
Вясёлая ад хвалявання.

Ад гледачоў трашчэла зала,
А я жыла ў ружовым змане.
Сама сябе я дакарала,
Шчаслівая ад спадзявання.

Будзённых клопатаў навала
Вячэрніла маё світанне.
Сама сябе я ратавала,
Разгубленая ад прызвання.

Суперніцаю пазірала
Удача на маё старанне.
На белы вальс я запрашала
Свой лёс у смелым парыванні.

А свой характар не скарыла,
Я з ім сягоння перад вамі.
Ці я сама сябе стварыла,
Пра гэта ўжо мяркуйце самі…

*20 жніўня, чацвер*

Дурня работа любіць. Пачаў рыхтаваць пераклады з Марка Шагала й зачапіўся за новыя вершы. Пераклаў. Падрыхтаваў на перадрук «Русалку» [А. Пушкіна]. «Полымя» абяцала даць. Можа, і ў «Мастацкай» уключаць. Там цяпер, праўда, славянасабораўцы ў шане.

*21 жніўня, пятніца*

Зборнік, які абяцае выдаць сябра Карлюкевіча, назваў «Тры зоркі» — вершы Мандэльштама, Пастарнака, Шагала па-беларуску й па-расійску[2]. Відаць, перад кожным дам свой верш, ім прысвечаны, кожнаму. Таму й пісаў верш пра ўтрапёнца й пакутніка рыфмара Мандэльштама.

---

[1] Горцава Ларыса Мікалаеўна (н. 1942), беларуская актрыса. З 1963 г. у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача (ТЮГе). Заслужаная артыстка РБ (1997). Жонка А. Вольскага.

[2] Задума не спраўдзілася.

*Восіп Мандэльштам*

Беспрытульны, як восеньскі вецер.
Клаў у дзверы даверу ксты.
І ў раку шанцавання венцер
Ставіў
І выцягваў пусты.

І бядачыў, і бачыў зоры,
Там, дзе бачылі вугалі,
Утрапёны,
На радасць хворы
Слухаў, як завірухі гулі.

Гналі, мучылі, зневажалі
І на неба саслалі.
Там,
Можа, будзе боскага жалю
І павагі варт Мандэльштам…

*22 жніўня, субота*

Роўба зявёз у Кавалеўшчыну. Гэта дзедзіна, бацькоўшчына. І следу няма ад дзедавай хаты. Вёска ўтравелая, зарослая, палаплена новымі хатамі — лецішчамі. Чужэе ўсё з гадамі. Гэтак, відаць, Усявышні задумаў, каб развітваўся чалавек з роднымі мясцінамі, як з чужымі, перад вечнай дарогаю. Знайшоў Івана Брунера. Гэта з нямецкіх каланістаў. Бацьку Андрэя камуна[…] забралі ў 29-м і выслалі, відаць, у Котлас. Усіх кавалеўцаў, усіх з вушацкага боку ў Котлас везлі. Выгружалі ў сырым зімовым лесе — жывіце. Маці была цяжарная, яе пакінулі, каб забраць, як народзіць. Але не забралі. А бацька з сястрой Эльзай зніклі. Мама сябравала з Эльзай. Іван Брунер рос разам з маім Пятром. Пасля арміі (ён з 30-га года) на Данбас. Там у шахтах. Недзе ў 80-м прыехаў у Кавалеўшчыну. Спрымачыўся. Яна памерла. Ён застаўся вартаўніком хаты без усялякіх правоў. Пэнсіі 1.8 млн. Шахцёрская была 160 рублёў. Гэта былі грошы. А цяпер без хаты, без грошай. Но выгляд паглядны. Нейкая ўнутраная панавітасць захавалася. Толькі мясціна, бацькоўшчына, завецца Брунераўшчына. Луг зарос, а на рэшце выпас. Тое-сёе аддаў яму з адзежы. Не хацеў браць. Ахвотна ўзяў бутэльку памянуць Пятра. Пачынаецца дождж. Відаць, надоўга. «Ліст шосты»[1].

[1] Гл.: Ліст шосты: Багоўка… (22.08.98, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 14.

*23 жніўня, нядзеля*

Апошні спакойны дзень. Заўтра чакаць Ганадавага званка, калі будзе машына. За ўвесь час ні на возера не схадзіў, не пакупаўся. То галава, то праца. У думках усё абышоў, усё паабабегаў. Успаміны й думкі — верныя памашнікі па схіле веку. Без іх зусім можна струхлелым пнём зрабіцца. «Ліст сёмы»[1].

*24 жніўня, панядзелак*

Дазваніўся да Ганада. Ён нездаровы. Кволы горны арол. Машыны заўтра не будзе. Толькі паслязаўтра. З гэтай нагоды з Дамінічкай на Ваўчэнскае возера. Званочак звінеў усю дарогу. Пад вербамі у чоўне пасядзелі з ёй. Намалявала мне возера ў запісную кніжыцу. Усё змененае. Возера зарастае. Лес на тым баку рэдзенькі, павысечаны. Па дарозе йшлі каля Верасовачкі. Нічога ад роднага хутара. Ані каменя. Дамінічка з возерам, як яна сказала мне, гаварыла на мове прыроды. А я, мне тлумачыла, не даглядзеў дадзеную мне прыроду. Цяпер позна. Мовы прыроды я ўжо не зразумею. Потым ішла з каласком і такія рэчы казала, што падалося: іншапланецянка. У яе ёсць нейкі дар, жыць ёй будзе нялёгка. Яна ўся за хмарамі. Аж сорамна за яе. На хаду гэтакі прыгожы букет зрабіла — аж вочы разбягаюцца. Ёй бы спецыяльнае выхаванне, з яе можа выйсці цікавейшая асоба, надзеленая звышадчуваннем. Гэтым мусяць займацца ці бацькі (а іх фактычна няма), ці нанятыя настаўнікі (а грошай на іх таксама няма). «Раманс»[2].

*25 жніўня, аўторак*

Апошні дзень. Заўтра абяцаюць прыехаць па нас. Заходзіўся Роўба. Пасядзелі з ім. Запрагаецца дождж і, відаць, надоўга. Вечарам усё-ткі са мной прыйшоў развітацца вожык. Не люблю ад’ездзіны. Сумна.

26 жніўня, серада

Прыехаў на джыпе бізнэсмэн, сябра Ганада Кахін Абілаў[3], з Азербайджана, з Ленкарані родам, з талышоў[4]. Два дзядзькі паэты, але не могуць надрукаваць зборнікі на роднай мове — усё яшчэ цягнецца савецкага часу дружба народаў. Кахін быў дэлегатам I з’езда БНФ у Вільні. Цікавы чалавек, шырока глядзіць на свет. Проста прыемная стала дарога, хоць і Мірон увесь час нэрваваўся.

---

[1] Гл.: Ліст сёмы: Здасца хата ўбогая палацам... (23.08.98, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 15.

[2] Гл.: Шчымлівыя рамансы: А мы з табой, як човен з хваляю... (24.08.98, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 323.

[3] Абілаў Кахін (Мірзалізадэ; 1968–2020), талышскі асветнік, грамадскі дзеяч, бізнесмен, уладальнік будаўнічай фірмы ТСТ, мецэнат. Гл.: Кахін Абілаў // Дуліна ад Барадуліна. С. 156.

[4] Талышы — народ на паўднёвым усходзе Азербайджана і поўначы Ірана.

*27 жніўня, чацвер*

На кінастудыю. Лук'янчыкаў прыняў фільм без тэксту. Яго [...] толькі хвалявала мера яўрэйскасці. У сядзібе БНФ сустрэўся з Фёдаравым з Магілёва, падпісаў нейкі зварот наконт Хартыі. Усё гэта цьмяна й беспэрспэктыўна. Раз прасіў — падпісаў. Напісаў заяву аб прыняцці грамадзянства БНР. Таксама гэта болей сымболіка, чымся рэальнасць. Але паколькі Васіль таксама падпісаў з такімі ж прыкладна роздумамі, падпісаў і я. Сустрэўся з Вальдко Калініным у Карласа. Там жа пазнаёміўся са швэцкім паэтам Крыстоферам [Леандоэрам].

*28 жніўня, пятніца*

Бегаў, як любіла казаць мама, куды па што, куды па нішто. Атрымаў ад Васіля ліст. Ён атрымаў мае лісты з Вушачы клееныя-пераклееныя, чытаныя-перачытаныя.

«Лісты ў Фінляндыю з Менску Васілю Быкаву»[1]. І напісаўся верш, гэта з накідаў пра магчымага героя магчымага эпасу:

* * *

Як абжываўся мой вясёлы прашчур?
З вясновых сноў падмурак змураваў.
Паабчасаў праменне да жывіцы.
Самшыў касмата воблакамі сцены.
Узняў з прыгорбленых вясёлак кроквы.
Дах бліскавіцамі нарашаціў.
Накрыў хаціну абніжэлым небам.
Абгарадзіў шырокі двор ракою.
А рыбіна раку панесла ў мора.
А прашчур стог спакою накасіў...

*29 жніўня, субота*

Амаль увесь дзень перачытваў, вычытваў Змітрака Бядулю. Трэба дыктарскі тэкст да фільма «І ў сэрцы — цэлы свет...». І цяпер хрыстаматыйныя апавяданні кранаюць нейкай нечуванай шчырсцю й пранізлівасцю. Недарэмна дужа любіла іх мама мая. Бальшына нашых празаікаў — адгон, а не пяршак, як Змітрок. А якая беларуская мова, уся на прыказках, прымаўках. Беларускі склад мыслення ў гэтага геніяльнага яўрэя. Мяноўна беларускае мышленне, беларуская фраза, беларускі склад, а не калька, як цяпер у бальшыны. [...].

---

[1] Гл.: Ліст першы: І думкі, і ўспаміны ёсьць... (28.08.98) // Лісты ў Хельсінкі. С. 27.

*30 жніўня, нядзеля*

Зноў цэлы дзень перачытваў-вычытваў Бядулю, падбіраў дыктарскі тэкст, друкаваў. Пад вечар выпаўз на вуліцу. Пазным вечарам была рэпэтыцыя рабінавай начы — лівень, град, гром. Неба пілнуецца традыцый.

*31 жніўня, панядзелак*

Пазваніў [... Косця]: «Што трэба Дамінічцы?» Праз 10 месяцаў прыехалі, успомнілі пра дачку. Раслінныя стварэнні. У нас дома казалі: стварыў Бог і каіцца. Мне кара за маму. Ну а Дамінічцы за што такія бацькі? І Валю шкада. Яна на сваіх плячах валачэ ўвесь груз клопатаў. Занёс на кінастудыю дыктарскі тэкст.

*1 верасня, аўторак*

З Алесем Камоцкім у 53-й школе. Чытаў пераклады з Адама Міцкевіча. Алесь выконваў рамансы. Аўдыторыя самая стракатая, але ўсё ж слухалі. Цікава, што густ у гарана на ўкормленых дырэктрыс. Ва ўсіх школах — як сёстры.

*2 верасня, серада*

Адамовічаўскія чытанні ПЭН-цэнтра ў Купалавым музэі. Леў Цімафееў[1] цікава: «Нямецкія маладыя й расійскія аднаўляюць зону пад музэй [рэпрэсаваных]. Плот рамантуюць. Калючы дрот. І там працуе былы наглядчык Кукушкін. Калі прыехаў праваабаронца Кавалёў[2], ён падаў Кукушкіну руку, бо чатыры гады сядзеў пад яго наглядам. Немцы ашалелі. У іх свядомасці не ўкладвалася, як гэта можна зрабіць. [Алексіевіч] з мейсца ўжо ў соты раз паўтарыла, што не трэба барыкадаў, што ўсе мы заразныя праказай камунізму. Пласцінка для Захаду [...]. Па просьбе Анатоля Белага пісаў: «XXIII-й сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі: Хай будзе блаславёны праз вякі Амерыканскі бераг гасцялюбы...» [у дзённіку].

*3 верасня, чацвер*

Апошні дзень чытанняў. Шмат хто насалодзіўся, слухаючы, як гучыць ягоны ж голас. Асабліва Вярцінскі[3]. Блізіцца да Брэжнева. Уручылі прэміі

---

[1] Цімафееў Леў Міхайлавіч (н. 1936), рускі пісьменнік, паэт, журналіст, вучоны-эканаміст, грамадскі дзеяч, былы дысідэнт.

[2] Кавалёў Сяргей Адамавіч (н. 1930), расійскі праваабаронца, палітычны і грамадскі дзеяч, былы дысідэнт.

[3] Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 1931), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Заслужаны работнік культуры БССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

Жанне Ліцьвіной[1] і Сяргею Дубаўцу[2]. Добра пагаварылі з Дубаўцом. Асоба цікавая. Думаю, што такі грозны выгляд ад унутранай трапятлівасці. Як бы ні было — справу робіць карысную, працуе на беларускасць.

Памёр айцец Ян Матусевіч[3]. «Памяці айца Яна Матусевіча»[4]. У тэрміналогіі свабода слова, свабода асобы мяне бянтэжыць свабода сумлення. Што гэта такое? Сумленне ці ёсць, ці няма, яно атоемнасасць душы бадай што. Ці не ад бальшавікоў гэты тэрмін, бо партыя крымінальнікаў называла сябе розумам, гонарам і сумленнем эпохі. Незразумела. Учора па дарозе дадому гутарылі мы, Васіль Сёмуха й я. Адзінадушна прыйшлі да думкі, якую ўголас нельга выказваць: усё-ткі Адам Міцкевіч — адзін з непаэтычных паэтаў. Яго перакладаючы, трэба адступаць у бок лірычнасці, вобразнасці, паэтычнасці. «Паўтарацьме…»[5]

*4 верасня, пятніца*

З Самсонам на Камароўку. Як адразу васля вайны. Ля машын чэргі па муку, па грэчку. Машын мала. Нейкая вусцішная трывога галоднага чалавека ахоплівае. Цэны скачуць. Усе разгублена ўсё хапаюць. Чалавечая супольнасць, ці дзяржава, гэта як лямпачка. Валасок перагарэў, валасок раўнавагі й спакою, потым трасі-ператрасі, цяжка, каб назад трапіў. Лямпачку замяніць трэба. Крыўдна, што мы, еўрапейская дзяржава, залежым аж дагэтуль яшчэ шмат у чым ад […] Расіі.

*5 верасня, субота*

Пахаванне айца Яна Матусевіча. Адпяванне ў Чырвоным касцёле. Усё на беларускай мове. Усё, як у сябе дома. Магіла на Кальварыі. Айцу ў чэрвені споўнілася 50. Засталася маці. Ён быў дужа падобны да маці. Сказаў колькі слоў над труной, перадаў спачуванне й смутак Васіля, паклон маці за сына, пачытаў верш памяці. З Лёндана прыляцеў айцец Надсан. Ён адпяваў. «Ад ценю гэтага не ўцячэш…» [у дзённіку].

Быў выпадак пераканацца ў дакладнасці Яраслава Смелякова: «Старэчую руку цалую, што ручкай белаю была»[6]. Смерць і старасць усемагутныя.

---

[1] Літвіна Жанна Мікалаеўна (н. 1954), беларуская журналістка. У 1995–2015 гг. старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў.

[2] Дубавец Сяргей Іванавіч (н. 1959), беларускі журналіст, пісьменнік, крытык. Гал. рэдактар газ. «Наша ніва» (1991–2000) і газ. «Свабода» (2001–2008).

[3] Матусевіч Ян (1948–1998), беларускі рэлігійны дзеяч; праваслаўны святар, у 1979 г. перайшоў у каталіцтва. У 1990–1993 гг. пробашч касцёла 1-й Мінскай грэка-каталіцкай парафіі св. Язэпа.

[4] Гл.: Памяці айца Яна Матусевіча ( 3.09.98) // Ксты. С. 173.

[5] Гл.: Паўтарацьме… (3.09.98) // Босая зорка. С. 28.

[6] Смелякоў Яраслаў Васільевіч (1912–1972), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1967). Радок з «Элегического стихотворения».

*6 верасня, нядзеля*

Парадкаваў пераклады з Восіпа Мандэльштама. Рыхтаваў «Тры зоркі». Колькі ні перачытваеш Мандэльштама — вар'ят ад Бога. Такі паэт не мог жыць пры дыктатуры ўлады й дыктатуры так званага сацрэалізму.

*7 верасня, панядзелак*

Да Алеся Карлюкевіча. Яго прызначылі рэдактарам «Чырвонай змены». Малайчына, адразу пачаў цікавіцца, што льга надрукаваць са спадчыны. У прыватнасці — Караткевіча.

Пазваніла Наташа[1]. Выйшаў нарэшце мой другі том Збора твораў. І рады, і не рады. Дабілі.

*8 чэрвеня, аўторак*

Да Радзіка. Пакой увесь у валізах. Радзінька хутка ад'язджае. У яго госць з Нямеччыны (чыстай, не прасавечанай ГДР) Дамінік Хаас[2]. Адукаваны тонкі славіст. Чытаў яму вершы, каб пачуў гучанне нашае мовы. Мы на сваёй зямлі, як у рэзервацыі.

*9 верасня, серада*

З Алесем Камоцкім і Вячаславам Галузой выступалі ў педагагічным каледжы. Добра слухалі. Падыходзілі дзяўчаткі па аўтографы ды яшчэ з просьбай напісаць «Жыве Беларусь». Значыцца, яшчэ жыве. І будзе насуперак калхознікам. Потым да Алеся дамоў на вуліцу Кахоўскую. Аднапакаёвы халасцяцкі рай. Стрыманасць, ахайнасць. А галоўнае, здаецца мне, у такім раі думцы ўзлётна. Нагадала мне ўсё маладыя гады, незабыўнага Уладзімера Караткевіча, ягоны аднапакойчык па вуліцы, здаецца, Чарнышэўскага. Атрымаў ліст ад Васіля. Туга. Але радасна тое, што напісаў ён там аповесць ды два апавяданні. «Ліст другі»[3].

*10 верасня, чацвер*

Цэлы дзень атручаны сутыканнем з мярзотнікамі — [...] Росцікавым[4] і белым пацуком Зімоўскім. Трэба ж таму здарыцца. Быў у Алеся Карлюкевіча на новай ягонай пасадзе. Аддаў пераклады ў кнігу «Тры зоркі».

---

[1] Давыдзенка Наталля Аляксееўна (псеўд. Марына Наталіч; н. 1950), руская і беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1997–1998 гг. вядучы рэдактар ТАА «Паліфакт», у 1998–2000 гг. навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, у 2000–2005 гг. вядучы рэдактар Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Беларускі кнігазбор».

[2] Хаас Дамінік, аўстрыйскі славіст, перакладчык.

[3] Гл.: Ліст другі: Час возьмецца хрумстаць салому... (9.09.98) // Лісты ў Хельсінкі. С. 28.

[4] Росцікаў Яўген Антонавіч (н. 1945), беларускі журналіст.

*11 верасня, пятніца*

У «Полымя». Аддаў пераклад «Русалкі». Малайчына Сяргей. Усё робіць, каб утрымаць агонь у «Полымі». Іду дамоў. На пераходзе жабрак. Як мужчыну — даю невялікія грошы. Раптам чую: «Шчыры дзякуй!» Вярнуўся — даў ніштавата. І жабракі просяць на мове суседа. Бо яны не ў сябе дома.

*12 верасня, субота*

Сойм БНФ. Зянон ужо нагадваць пачынае Леніна ў Швэйцарыі. Указанні, загады. Шкада. Можа быць раскол — спецслужбы Расіі і зноў жа расійскія ў Беларусі не марнуюць часу.

*13 верасня, нядзеля*

Да Радзіка. Ад'язджае ў Штаты. Разгублены, насцярожаны, увесь нейкі беспрытульны. І слухае ўсё, што кажу, і разам з тым не слухае, бо нешта сваё чуе. Развітанні год ад года часцяцца. Але ўсё роўна цяжка. Да развітанняў нельга прывыкнуць. Мне самотней штораз. «Перад вачыма Меншая часціна жыцця…» [у дзённіку]. Радзіку падабалася. Самсону — не. І новы варыянт: «А раптам…»[1]

*14 верасня, панядзелак*

Першага верасня па-беларуску. І першы дождждык. Прыехала Ілона з лецішча. Страшнае гора — знік Мірон. Уцёк на волю. У хаце пуста й сумна. А я яшчэ ўчора крычаў на яго, што канькаў. Хай даруе. Хай знойдзецца! Хадзіў да Карласа. Гаварыў з Васілём. Ён праз Карласа перадаў сувэніры Дамінічцы. Дзякуй яму! Ужо ў які раз у лісце паўтарае: «Жыць трэба дома». Сумуе. Высылка, відаць, адна з цяжкіх караў. Усё жыццё Васіль фактычна сумуе па Беларусі. І ў самой Беларусі сумуе па вольнай Беларусі. «Перaслед: Ты праследуеш мяне…» [у дзённіку]. «Званю…»[2] Не ведаю, чаму, але ўчора набраў Радзікаў тэлефон і слухаў свой званок.

*15 верасня, аўторак*

Мірона няма. Прамяняў хлеб на волю. Людзі зазвычай робяць наадварот. Хочам неяк паехаць у Ізраіль, каб закончыць здымкі фільма. Карлас болей не залаціць ручку. Прыходзіла Ілона. Счубіліся з Валяй. […]. Шмат пакарання мне ад Госпада […]. Няма спакою душы маёй. Часу мала засталося, і той крадуць у мяне. Сэрца баліць за Дамінічку. Паслаў тэлеграму: «Жадаю ў Вашы дваццаць з гакам…» [у дзённіку].

---

[1] Гл.: А раптам… (134.09.98) // Ксты. С. 368.
[2] Гл.: Званю… (14.09.98) // Босая зорка. С. 144.

*16 верасня, серада*

На Маскоўскі могільнік. Да Бярозкіна[1]. Прыехала Канэ[2], жонка Рыгора Саламонавіча. Усё-ткі камэдыя з помнікамі на магільніках. […] Кірэенку з дурной бабай — гэта як бы муза. Помнік перад помнікам з пыхаю стаяць. Сачанкава[3] магіла ў густой траве. Пімен[4] і на магільніку бядней за ўсіх. Трава, праўда, меншая, чымся ў Барыса, на магіле. Вечарам вечарына памяці Бярозкіна. Усе цягнулі ката за хвост. А Канэ проста сарвала — не магла спыніцца — павучала. Добра стары Рэлес выступіў. Пафасна й прачула Тарас[5]. У скверыку, калі йшоў у Музей Купалаў на вечарыну, убачыў вавёрачку. Ужо як эўрапейскі парк. Там паўсюдна вавёркі. Убачыла мяне, хвіліну павагалася — і наўцёкі. «Прагрэс: А справядлівасць — сонная цяцера…» [у дзённіку].

*17 верасня, чацвер*

На кінастудыю з Самсонам і Халіпам. Кіно Лук'янчыкаў ліквідаваў як клас, як некалі ў 17-м буржуяў. Мароз[6] спачатку значок […] насіў на лацкане, ледзь не на ілбе, потым на адвароце лацкана, потым зусім зняў у страху. Падаўся ў […] Славянскі сабор.

*18 верасня, пятніца*

З Камоцкім і Галузой выступіў у школе. Русіфікацыя доўжыцца, як гадзіннік, заведзены яшчэ пры расійскіх царах, працуе — ідзе. А сапсаваць завод цяжка. Кожнае стагоддзе паднаўляюць.

*19 верасня, субота*

Ілона з Косцем дапамагаюць прыбраць пакой Дамініцы. Да Самсона ў госці.

---

[1] Бярозкін Рыгор Саламонавіч (1918–1981), беларускі крытык, літаратуразнавец. Быў рэпрэсаваны.

[2] Канэ Юлія Міхайлаўна (н. 1931), беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. З 1992 г. жыве ў Ізраілі. Жонка Р. Бярозкіна.

[3] Сачанка Барыс Іванавіч (1936–1995), беларускі празаік, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1982), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1991).

[4] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

[5] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930–2009), беларускі і рускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

[6] Мароз Уладзімір Вікенцьевіч (н. 1953), беларускі паэт, кінадраматург. У 1988–1998 гг. у студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм», у 1998–2005 гг. у час. «Бярозка». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1994).

*20 верасня, нядзеля*

Уборка. Хацеў пагаварыць з Ілонай, як жыць яна збіраецца. Немагчыма. Крычыць, лапоча. Сарваныя нэрвы. Талент блізкі да графаманіі. Шкада яе, а болей шкада Дамініку. У маленькай фармальныя, намінальныя бацькі. Косця, калі б у добрыя рукі, быў бы нармальным хатнім мужам. Адпачываю душой і супакойваюся расхвалявана, чытаючы прозу Мандэльштама. Шалёны паэт. Ён мацнейшы і натуральнейшы ў сваім геніяльным вар'яцтве за Пастарнака. Пастарнак перад Мандэльштамам, як гарачы жарабок перад кастрыраваным канём.

*21 верасня, панядзелак*

Да Карласа. Да Карлюкевіча — аднёс арыгіналы Мандэльштама. У «Народнай волі» Васілёва апавяданне — казка для дарослых, як ён яе назваў, «Хвастаты». Мудра да страху. Але нашага сярэдняга беларуса нічым не праб'еш, ні мараллю, ні антымараллю. Ім падавай [Лукашэнку]. Пакуль сядзеў у Карлюкевіча, колькі сікушак [...] ні заходзіла — усе парюсскі. [...]. І гэта беларускамоўная «Чырвоная змена». Леанід [Кірэевіч] Левановіч[1] званіў Алесю, каб далі рэцэнзію на ягоную чарговую калхозную нятленку. Яго Рагуля параўнаў з Гамсунам[2]. Правінцыя жыве ў генах. Глыбоканацыянальная багна.

*22 верасня, аўторак*

Іду каля Дома друку. З двума букецікамі рэдзенькімі выходзіць сумная Угальнік — рэдактар газеты цяпер «Раніца», а раней «Піянер Беларусі». Кажу: «Не ведаю, з чым, але віншую». Яна сумна: «Мяне на пэнсію праводзілі...» Амаль жабрачка па вопратцы й настрою. Камуністы зрабілі ўсё, каб чалавек ішоў на пэнсію, як па жэбрах хадзіць. За ўсё жыццё нічога не зарабіў. Як нідзе ў свеце. А гэтыя бязмозглыя ахламоны хочуць вяртання савецкай імпэрыі. Чалавек не зарабляе нават на пахаванне. Грамадскасць хавае. Складчына, скідванне. Недарэмна прапагандысцкая малатарня бальшавікоў даладоніла пра забяспечаную старасць. Чым забяспечаную? Хваробамі й жабрацтвам.

*23 верасня, серада*

З Самсонам у Музэй вайны. Трэба ж дакончыць фільм. Паўсюль трэба грошы, а іх каму пільніца — няма.

---

[1] Левановіч Леанід Кірэевіч (сапр. Лявонаў; н. 1938), беларускі пісьменнік. У 1984–2000 гг. ст. рэдактар, заг. рэдакцыі выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Гамсун Кнут (сапр. Педэрсен; 1859–1952), нарвежскі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1920).

*Мая радня*

Таполя белая мая,
Таполя.
Асветлены і ўночы я
Табою.

Таполя смелая мая,
Таполя.
Знаёмы голас ручая
Да болю.

Ты ды ручай — мая радня
На белым свеце.
Мне даручай дайсці да дня
Праз беспрасвецце…

І правіў верш: «Жыццё прайшло…» [у дзённіку].

*24 верасня, чацвер*

Кожны дзень думаю пра Васіля. Не хапае мне яго. Пустэльна без яго. Перачытваю Купалу. Нарэшце ў нечапаным бальшавіцкай цэнзурай выданні паўстае на ўвесь рост геній Беларусі, сапраўдны прарок. Савецкая тынкоўка сама адпала. Бо ў душэўныя маразы аблеплівалася пад націскам камуна[…] рэжыму.

*25 верасня, пятніца*

Прыходзілі Ілона й Косця. Валя сказала, што збіраюцца зноў у халодны Пецярбург. Зашчымела на душы. І ўтрымаць не магу, і дапамагчы не магу. Няма сям’і — няма спакою. І ўжо не будзе.

*26 верасня, субота*

Рабіў смелую спробу навесці парадак з паперамі й кнігамі. Усе добрыя намеры захлынуліся ў бягельдзе. Узяўся перадрукоўваць свае палыновыя санэты. На душы неспакойна ад ад’езду Ілонінага.

*Пакаранне*

Дзеці нашыя — пакаранне нам
За бацькоў, якімі не даражылі,
Якіх мы не шанавалі,
Для якіх мы былі
Калючэйшыя ад асцюкоў,
Ад якіх адварочваліся

Пры любой навале.
… Вясёлым лісцем
Разлятаюцца дзеці,
А мы скрыпім,
Як той лес сухі.
Мы жывём, ім здаецца,
У далёкім дзесці
І перад бацькамі сваімі
Унукамі замольваем грахі…

*27 верасня, нядзеля*

З лецішча прыехала Ілона, прывязлі Даміночку. Яна два дні была з бацькамі. Даводзіцца цярпець [Косцю], ён жа ўсё-ткі бацька Даміньччын. Збіраюцца ехаць. Ілона абяцае, што неўзабаве прыедуць. Цацанкі-абяцанкі, а дурню радасць. Такое ўражанне, што бацькі на тое й існуюць, каб іх ашуквалі дзеці. «Ліст трэйці»[1].

*28 верасня, панядзелак*

Чытаю Плутарха[2]. Усё гэта трэба было чытаць раней, а не савецкую літаратуру. Ілона збіраецца ехаць. Сумна й трывожна. «Ліст чацьверты»[3].

*29 верасня, аўторак*

Да Карласа. У Музей вайны. У фірму Кастуся Цвіркі. Дождж, дождж, дождж. Класічны, восеньскі. Ілонка паехала.

*30 верасня, серада*

На Камароўку. Сяго-таго купіў з ежы. У крамах тэрміноva мяняюць цэннікі. Падвышаецца так званая мінімальная — цэны ўтрая ўгору.

* Жабрачка на рынку. Даю подаўку. [Кажа:] «Паслаў Божа!»

*1 кастрычніка, чацвер*

Гляджу за вакно — няўпэўненыя хліпкія сняжынкі. Зіме нецярпіцца нагадаць пра сябе. У музэі здымалі кадры для фільма. Прыходжу дамоў — Валя кажа, што званіў Васіль. Званю — прыехаў. Праз Пецярбург. Перапоўнены вагон. Верхнія мейсцы. Уночы стала кепска — ледзь адпаілі гарбатай. Заўтра ўвечары да Васіля запрошаны. Дачытаў скарочаную стэнаграму нашых […] пісьменнікаў з [Лукашэнкам]. Як у лепшыя савецкія часіны. […]. Пройдзе час, і будуць пісаць, як яны трымалі вялікія кукішы ў кішэнях.

---

[1] Гл.: Ліст трэйці: Спартанцы зьбіраюцца на вайну… (27.09.98) // Лісты ў Хельсінкі. С. 29.

[2] Плутарх (каля 45 — каля 127), старажытнагрэчаскі пісьменнік і гісторык.

[3] Гл.: Ліст чацьверты: Усіх пакараньняў… (28.09.98) // Лісты ў Хельсінкі. С. 30.

*2 кастрычніка, пятніца*

Да Васіля. Памаладзелыя вочы. Яшчэ больш эўрапеец, хоць ён заўсягды быў панавітым эўрапейцам, а не лапцем ala Шамякін ці Навуменка[1]. Нікому там ніхто не патрэбен. Засумаваў, вядома, па родным краі. Прыйшоў сын Сяргей[2] са сваім сынам Сяргеем[3]. Сяргей старэйшы тонкатвары, мяккі, крыху замкнуты. Малодшы Сяргей крыху шумны, упарты. Студэнт гістфака. Васіль наліў па маленькім кілішачку ім 60-градуснай фінскай гарэлкі. Потым вячэра. Між іншым, Васіль казаў, што ён 8 гадоў не чуў роднай мовы, а прыехаў у Гародню, папіў крыху з тамтэйшымі мастакамі й працаваў карэктарам беларускага варыянту «Гродзенскай праўды». Гэтакі строгі быў выкладчык беларускай мовы ў школе. Выклікаў Васіля два разы ў год, і заўсягды Васіль атрымліваў пяцёркі. Дарэчы, Купала нейкі час працаваў таксама карэктарам. Фінская кухня Васілю не спадабалася. Асабліва бульба, яна не разварваецца. Нясопкая, як у нас дома. Цвярдая, як камяні, — колькі ні вары. Дый рыба на вугалях — у лусцэ, не дужа ядомая. Незразумелы Якуб Лапатка[4]. П’е добра, а потым вярзе здубавеццяя.

*3 кастрычніка, субота*

Учора Васілю занёс «ЛіМ» з выступленнем [Лукашэнкі] перад [...] з Саюза пісьменнікаў. Званю: як? Васіль коратка: «Тэатр аднаго актора!» Пад вечар убіўся ў Бяліка[5]. Правіў пераклады. Заўтра выступаць перад яўрэямі. Сустрэў Дубоўскага[6]. Быў з’езд прадпрымальнікаў. [Лукашэнка] сядзеў паўдня й сваіх вертыкальшчыкаў сагнаў. Паводле апытання прапрэзідэнцкай сацыялогіі: 40 адсоткаў за капіталізм, 18 — за сацыялізм, рэшта — нікуды не хоча ці яшчэ думае.

*4 кастрычніка, нядзеля*

Зноў сядзеў над Бялікам. Званіў Васілю. Ён ездзіў на лецішча перакрыць ваду на зіму. Кажу, што з Камоцкім збіраемся ў Сафійку. Васіль: «Кланяйся Сафійцы, даўно ўжо не быў у ёй. Вельмі яе шаную». Разгава-

---

[1] Навуменка Іван Якаўлевіч (1925–2006), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік РБ (1995). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Доктар філалагічных навук (1969). Член-карэспандэнт АН БССР (1972). Акадэмік АН БССР (1980). Прафесар (1971). З 1992 г. саветнік пры прэзідыуме НАНБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1972).

[2] Быкаў Сяргей Васільевіч (н. 1952), беларускі вайсковец у адстаўцы (з 1991).

[3] Быкаў Сяргей Сяргеевіч (н. 1976), студэнт гістарычнага факультэта БДУ.

[4] Лапатка Якуб (н. 1944), беларускі перакладчык. З 1993 г. жыве ў Хельсінкі.

[5] Бялік Хаім Нахман (1873–1934), яўрэйскі паэт.

[6] Дубоўскі Валерый Леанідавіч (н. 1948), беларускі паэт, выдавец. З 1989 г. старшыня сходу акцыянернай ЗАТ «Юніпак».

рыліся пра дадзеныя статыстыкі. Васіль: «Сацыялізм пабудаваць лёгка, толькі адна загвоздка — людзям хочацца есці…»

*5 кастрычніка, панядзелак*

З раніцы такая халепа — дождж са снегам. Аж дрэвы крышацца. Гэтак мне блага, што не пайшоў на сустрэчу з яўрэямі. Аж два дні правіў пераклады з Бялікам, каб пачытаць. І не давялося.

*6 кастрычніка, аўторак*

Звоніць Ганад: што з Васілём? Кажу: нічога. Па выдавецтве нехта пусціў чутку, што Васіль памёр і ўрадавая камісія ўжо ёсць. Дужа ж хочацца [лукашэнкаўцам]. Але хто, Ганад не сказаў.

*7 кастрычніка, серада*

Паспяхова хварэю. Не хата — ваўкаўня. Холадна. Не паляць. На дапамогу холаду брат голад паціху ціснецца. Есці, дзякаваць Богу, яшчэ ёсць што. Але ў паветры пахне голадам. Гэта камуна[…] давялі людзей да таго, што кожны нічога не меў і цяпер не мае. Ні нават на труну не зарабілі сабе людзі, будуючы камунізму Вавілонскую вежу. А іх цягне па інэрцыі назад, бо там пайку давалі. Недарма ж показка вушацкая: глядзеўшы з рук, хробішся як крук.

*8 кастрычніка, чацвер*

У выдавецтве з дзяўчатамі замачылі другі том. Хоць разам сабраліся, пабачыліся. Кожны пра іншага заўважыў, як той пастарэў. Толькі не пра сябе. Потым з Алесем Камоцкім зайшлі да Дзягілевай. Пасядзелі з дзяўчатамі. Дзяўчаты пілі гарэлку, мы — гарбату. Адна добра падмеціла: «Мужчыны п’юць стоячы, жанчыны — да дна!»

*9 кастрычніка, пятніца*

У *Полацак.* Алесь запісваў рамансы. Спачатку ў Сафійцы, потым у Музэі беларускага кнігадрукавання. Выступілі перад невялічкай аўдыторыяй інтэлігенцыі й дзетак. Перадаў прывітанне ад Васіля. Пакланіўся Сафійцы ад яго ймя. Было прыемна сустрэць Германа Кірылава[1]. Беларус! Адзін асадак на душы благі — адчуваць сябе жабраком перад маладымі багатымі бізнесмэнамі. Толькі суцеха — жабрацтва як узнагарода ад Госпада. Багацце — кара.

---

[1] Кірылаў Герман Іларыёнавіч (н. 1937), беларускі пісьменнік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (1997).

*10 кастрычніка, субота*

Адляжаў, адхварэў. Сумна. Як перад развітаннем са светам гэтым. Перадрукаваў «Шчымлівыя рамансы».

*11 кастрычніка, нядзеля*

Да Васіля. Заўтра адлятае. Хворы, знэрваваны, хоць вонкава трымаецца. Занёс яму латышскі цёплы свэдэр. Каб не мёрз. Падпісаў «Сьцяну» Полацку — Музею беларускага кнігадрукавання. Падпісаў — у святым Полацку. Закінуты, занядбаны. Друкавацца няма дзе. Там, у Фінляндыі, дый скрозь у замежжы, мы ўсе з кляймом [Лукашэнкі], як пракажаныя. Усе шарахаюцца. Самае страшнае — адчуванне сваёй малапатрэбнасці. Мы жывем у Беларусі, у сябе дома, як у эміграцыі. Толькі сабе яшчэ крыху патрэбныя. Штодня ўсё меней.

*12 кастрычніка, панядзелак*

Васіль паляцеў. Карлас праводзіў, у яго ж машына. А мне стаіць увушшу й грэе душу Васілёва: браток. Мы й сапраўды родныя.

*13 кастрычніка, аўторак*

Да Пятра Ісаевіча[1] на ўколы. Нешта зусім я расклеіўся. Адна Дамінічка й прымушае жыць і целяпацца. Выкладчыца французскай кажа, што яна няўважлівая. Валя пытаецца: «Пра што ты думаеш на французскай?» Дамініка: «Калі ўрок скончыцца».

*14 кастрычніка, серада*

Сёння Пакроў. Суха. Светла. Цёпла. Зіма будзе сухая й прыгожая.

*15 кастрычніка, чацвер*

Перадрукоўваў нізкі й даўнія паэмы. Анатоль Белы прывёз мне лекі з Амэрыкі. Дзякуй яму! А я ўсё ніяк не магу ўзяць моцы. Званілі з сядзібы БНФ. Трэба адкрыць урачысты сход у панядзелак. БНФ — 10 гадоў. Карлас не раіць. Заадно паведаміў мне, што пасадзілі некалькі банкіраў і бізнэсоўцаў. А я да чаго тут? Ну, не выдадуць чарговага тома. Ну, абліюць брудам у […] газэтах. Не звыкаць.

*16 кастрычніка, пятніца*

На тэле да Акімушкіна[2]. Відаць, будуць акторы чытаць кавалачкі з «Псальмаў Давідавых». Слава быў запланаваў перадачу: вобраз мамы ў маіх вершах. Паехаў. Наверсе знялі. Пытаецца: чаму? Адказваюць: «Пра

---

[1] Ліфшыц П. І., урач-стаматолаг.

[2] Акімушкін Вячаслаў Дзмітрыевіч (н. 1941), беларускі рэжысёр кіно і тэлебачання.

маці Лукашэнкі няма перадач». А заяўку напісалі: пра маці Барадуліна. Хай бы й пра маці [Лукашэнкі] давалі. Усе маці добрыя. Сыны розныя. Па дарозе сустрэў Раісу Любімаву. Яна са Звоні. У яе адна цётка як паехала падымаць цаліну, дык там і засталася. Выйшла замуж. Муж з немцаў паваложскіх. Захацеў на гістарысчную радзіму. Другая цётка са Звоні дае тэлеграму сястры: «Не едзь ты да немцаў, яны нам усё жыццё сапсавалі». Паехалі. Першыя тры-чатыры дні ім неслі падарункі — мэблю, посуд (пазней зразумелі, што збывалі ўсё старое). А пасля — ні нагой да іх. Няма з кім пагутарыць, пакурыць, забіць «казла». Сабралі свае вархопкі — і назад. На ўскрайку горада купілі хацінку — і ў зямлю ўгрызліся. З хворай галавой напісаў: «Беларускаму Народнаму фронту «Адраджэнне»на 10-я ўгодкі: «Нам не 10 гадоў, нам — вякі…» [у дзённіку].

*17 кастрычніка, субота*

Хварэю. Дзічэю. Жыву як у пустэльні. Усе чужыя. Халодныя. Загнаныя.

*18 кастрычніка, нядзеля*

Чыгунная галава. Ратуюся Плутархам. Выйшаў купіць хлеба й бульбы — і злёг.

*19 кастрычніка, панядзелак*

10 гадоў БНФ. Ісці на ўрачысты вечар не было змогі. Занёс у сядзібу віншаванне. Па дарозе мастак расказаў, як [ціцянкоў[1]] парыцца ў лазні на Браслаўшчыне. Верталёты ў небе, на зямлі аўтаматчыкі. Маладзіцы не змаглі падаіць кароў — не пусцілі. Настаўнік угаворваў аўтаматчыкаў: «Яна пойдзе да каровы, вунь, пасвіцца, калі крок улева, крок управа — страляйце». Не пусцілі. […].

*20 кастрычніка, аўторак*

Да Пятра Ісаевіча — і ў ложак. Як развітваюся з жыццём — гэтак цяжка, невыносна, абыякава. Толькі й трымае Дамінічка. Зусім адна застанецца з сымбалічнымі бацькамі. Як паехалаі — ні слуху, ні пуху. Страшнае гэта адчуванне, што ты пачынаеш разумець самазгубцаў.

*21 кастрычніка, серада*

З Алесем у Чырвоным касцёле. З намі яшчэ цудоўны Вяч. Галуза. Аднекуль прынесла Сыса. У мяне й Алеся настрой апаў. На шчасце, Сыс сядзеў ціха й не выступаў на публіку. Занёс у бібліятэку імя Адама Міцке-

---

[1] Ціцянкоў Іван Іванавіч (н. 1953), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1994–1999 гг. кіраўнік Упраўлення справамі прэзідэнта. У 2000–2011 гг. жыў у Расіі.

віча колькі кніг, у тым ліку на літоўскай мове Адам Міцкевіч з тога стагоддзя. Бібліятэка ў касцёле, доле. Уся перапоўненая польскімі выданнямі. Палякі могуць умомант запаланіць сваімі кнігамі. Чаго не скажаш пра нас, беларусаў. У зале дольнай была моладзь. Прыязна ставіцца да беларускасці значная часціна. Гэта ўжо цешыць.

*22 кастрычніка, чацвер*

У выдавецтва. Дзяўчаткі як мышкі пад венікам. Грошы мала. Выдаецца немаведама што. Нейкія гранты выдаюцца дырэктарам літаратарам. А ўчора ў [...] газэце палзотыча[1] нейкія абяцанкі падтрымкі пісьменнікаў [Лукашэнкам]. Тых, хто за яго.

*23 кастрычніка, пятніца*

Апошні раз да Пятра Ісаевіча. Сур'ёзна наконт зубоў маю сустрэцца па вясне. Усё даношваецца. А запчасткі не паставіш чалавеку. Яны не прыжываюцца. Мне штодня горай і горай. Невераемная абыякавасць да ўсяго і боль. Вясёлыя радкі лезуць на паперу: «Няма...»[2]

*24 кастрычніка, субота*

Дамініка ходзіць у нядзельную школку вучыць польскую мову. Сёння чытала: Kto ty jesteś? Polak mały. Мне прыйшло ў галаву напісаць нешта беларускае. «Значыць, смелы...: — Ты адкуль?» [у дзённіку].

*Буду!*

— Ты адкуль? Ты хто такі?
— Беларус на ўсе вякі,
Сын матулі Беларусі.
І нябёсамі клянуся,
Што матулю не забуду,
Ёй, Адзінай, верны буду!

Альбо:

Здабываць ёй волю буду!

Здаецца, Чайкоўскі[3] казаў: «Не той кампазітар, хто піша музыку, а той, хто не можа не пісаць». Хоць тут крок як не да графаманства. Хоць увогуле перад жыццём, перад прыродаю, перад Тварэннем Творцы — усе

---

[1] Якубовіч Павел Ізотавіч (н. 1946), беларускі журналіст. У 1995–2018 гг. гал. рэдактар газ. «Советская Белоруссия».

[2] Гл.: Няма... (23.10.98) // Ксты. С. 250.

[3] Чайкоўскі Пётр Ільіч (1840–1893), рускі кампазітар.

графаманы, адны больш здольныя, іншыя менш. Падпісаў «Свіцязянскі вянок» [Г. Дзягілевай; у дзённіку].

*25 кастрычніка, нядзеля*

Дні яўрэйскай кнігі ў Беларусі. Хадзіў да яўрэяў. Адзін Рэлес хоць сказаў пра катастрофу. Амаль ніхто не ведае ідыш. Ёсць школкі для старых, а трэба наадварот. Бо ўсё расце знізу ўверх, а не наадварот. Бывае, што прыйдзе ліст на ідыш, дык няма каму пачытаць, — едуць у іншы горад, дзе нехта ведае ідыш. Гэта вяршыня росквіту мудрай ленінска-сталінскай палітыкі дружбы народаў. Чарга за намі, за беларусамі.

*26 кастрычніка, панядзелак*

Перадрукоўваў Панізніку вершы пра Купалу. Хадзіў да Карлюкевіча. Згадалася, як ні плакаў [сын] Максіматанкаў, што бацьку забыліся сябры. Гэта былі сябры не Максіма Танка, а ягоных пасад. Усё па-савецку. Дарэчы, [...] ні слова па-беларуску. «Амаль: Я ўжо амаль не тут...» [у дзённіку].

*27 кастрычніка, аўторак*

Аднёс Сяргею [Законнікаву] вершы. Кніжкі ў Музей Купалаў. Чытаю Плутарха. Шкада, што так позна.

*28 кастрычніка, серада*

У выдавецтва. Нешта далі. На Камароўку. Мірону прысмакі (каля мільёна). Паслаў Васілю ліст. Абсалютна адзін. Самсон пад уплывам жонкі чужэе. Радзіка няма. Каму чытаць вершы? «Ужо: Пачнеш нарэшце слухаць розум...» [у дзённіку].

*29 кастрычніка, чацвер*

Ні свет, ні зара ўскруціўся. Тэлеперадача «Добрай раніцы, Беларусь!». Нешта пыталіся, нешта адказваў. Як і ў савецкія часы дзейнічае ўкраінскі тост: вып’ем за тое, што думаема, але нікому не скажама. Потым з прыветлівым і мяккім Навумам Гальпяровічам[1] пад дажджом перад тэлекамерай. Сюжэт пра 2-гі том быццам пойдзе. Званіў Акімушкін, абскубленыя «Псальмы Давідавы» перанеслі з 7-га чысла на пазней, бо крывавае свята кастрычніцкай разні. У нас, як нідзе болей, рэанімавалі рэзэрв КГБ — камсамол. 80 гадоў. Беларускі Фадзееў Вова нешта нёс па радыё пра важнасць камсамола.

---

[1] Гальпяровіч Навум Якаўлевіч (н. 1948), беларускі пісьменнік. У 1997–1998 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Вожык», у 1998–2002 гг. нам. старшыні СБП. З 2002 г. гал. рэдактар, нам. галоўнага рэдактара, гал. дырэктар замежнага вяшчання Белрадыё.

*30 кастрычніка, пятніца*

Галава разломваецца. Заняўся шокавай тэрапіяй — на Камароўку. Цэны адразу прыводзяць у сябе. Прыйшоў нумар «Выбару»[1]. Хамайда[2] й Плешчанка[3] — самаахвярнікі-героі. А як іх мала ў прасавечанай Беларусі!

*31 кастрычніка, субота*

Апошні дзень кастрычніка. Дзякуй, Госпадзе, за ўсе дні! За ўсе!

З Самсонам да яўрэеў. Хочуць утварыць фонд Халакосту. Яшчэ раз пераканаўся ў дакладнасці рэплікі Ірыны Заборавай[4], што яўрэі — наіўны народ. Пра хітрасць болей легендаў. Чарга па хлеб. Буркнуў, што ўсё яшчэ жыве саветызм, калхозны сацыялізм. Як узняліся ахламэнкі, астарэлыя партай[...]. «А што, Пазьняк хлеба дасць? Пазьняк за морам булачкі есць». Проста з кулаччам кідаюцца.

Званіў Ларысе Фінкельштэйн. Яна пра «Уладзіміра Ільіча» Левіна[5] й Мая Данцыга[6]: «Былі нармальнымі мастакамі, а як пачалі працаваць яўрэямі, іх як падмянілі». Цікава, як сустрэліся былыя маленькія вязні гета. У кожнага былі мянушкі. Лупаты, да прыкладу. Альбо цяпер доктар навук успамінае мянушкі адной. Яна: «Дык гэта я». Калі ўжо выходзілі з аўтобуса, яна й запытала: «Дык гэта ты, Сцуль?» (У доктара навук.) Дарэчы, усе мянушкі беларускія. Бо яўрэі нашы.

Атрымаў ліст ад выгнанніка Васіля. Выразка з «Беларуса»[7]. «Першацвет»[8] меўся друкаваць раман Акулы[9]. Пачаў перакладчык перакладаць з ангельскай. Прыйшоў у рэдакцыю N. і здзівіўся й абурыўся: чаму друкуюць «гэтага фашыста». Хоць Акула ваяваў супроць фашыстаў у анге-

[1] «Выбар» — грамадская газета (з 1991, г. Віцебск).

[2] Хамайда Барыс Ханонавіч (н. 1948), беларускі журналіст, грамадскі дзеяч, адзін са стваральнікаў і гал. рэдактар газ. «Выбар» (1991–2005). Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (1997).

[3] Плешчанка Уладзімір Рыгоравіч (1948–2006), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, старшыня Віцебскай рады БН., адзін са стваральнікаў газ. «Выбар».

[4] Заборава (Басава) Ірына Барысаўна (н. 1937), руская паэтэса; жонка Б. Заборава.

[5] Левін Леанід Мендзелевіч (1936–2014), беларускі архітэктар. Заслужаны архітэктар Беларусі. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, Ленінскай прэміі (1970), Дзяржаўнай прэміі РБ (2003, 2011).

[6] Данцыг Май Вольфавіч (1930–2017), беларускі мастак. З 1958 г. выкладчык БДАМ. Прафесар (1980). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак РБ (1995). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола БССР (1968).

[7] «Беларус» — газ. Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Нью-Ёрку (з 1950).

[8] «Першацвет» — беларускі літаратурна-мастацкі і інфармацыйна-публіцыстычны час. для моладзі (1992–2002).

[9] Акула Кастусь (сапр. Качан Аляксандр Ігнатавіч; 1925–2008), беларускі празаік, паэт, драматург, грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў Вялікабрытаніі і Канадзе (з 1947).

льскай арміі, мае ўзнагароды. Але ён перакананы й паслядоўны антыкамуніст, антысаветчык. [...].

Сёння дзень святочны — ліст ад Васіля й нумар «Полымя» вераснёўскі з ягонай навэлай «Труба». Глыбіня, сум, усмешка й пасмішка — жыццё жывое. І напісана нястомленай рукой вялікага майстра. Калі чытаю Васіля, здаецца, вяртаюся дадому, у тую пару свайго веку, якая здаецца самай прывабнай і самай залатой. Усё Бог пасылае беларусам — і спрыянне стаць вольнымі, і генія. А ім — абы ціха. «З ласкаю: Ён макае пэндзаль у аблокі...» [В. Целешу; у дзённіку].

*1 лістапада, нядзеля*

Напісаў Васілю ліст. Халадае. З халадамі чамусьці ўспаміны лятуць туды, на Вушаччыну. У край, які праз гады раем здаецца, асабліва маладыя гады. Як тым камуністам гады савецкага генацыду. «Толькі: Усё ў мяне гады забралі...» [у дзённіку].

Званіў Вальдко Калінін з Лёндана. Пераклаў ужо Стары Запавет па-цыганску. Настаўнічае. Сапраўды як цыган па драбіне ўгору палез. Дай Бог!

*2 лістапада, панядзелак*

На момант уключыў калхознае радыё. Хваляць вылучэнцаў на прэмію [...]. Шырко[1], Глушакоў[2] і яшчэ нехта. Усе ад [...] «Беларускай думкі» (былы «Коммунист Белоруссии»). Прадмову [казаў] народны [...] Шамякін. Усе хваляць [Лукашэнку] й ягоных вертыкальшчыкаў. І аўтар перадачы Лапцік[3]. А такі быў дэмакрат. Некаторыя спазніліся кінуцца служыць [Лукашэнку]. Цяпер перажываюць. «Ясачка»[4].

*3 лістапада, аўторак*

Засядалі ў кабінэце філфака. Беларускае аддзяленне «Джойнт»[5]. Святлана Аксёнава[6] — жонка кіраўніка аддзялення хоча арганізаваць

[1] Шырко Васіль Аляксандравіч (н. 1948), беларускі пісьменнік, журналіст. У 1996–2010 гг. супрацоўнік час. «Беларуская думка». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[2] Глушакоў Уладзімір Сцяпанавіч (н. 1952), беларускі пісьменнік, публіцыст. У 1991–1999 гг. супрацоўнік час. «Беларуская думка», у 1999–2001 гг. нам. міністра інфармацыі, у 2001–2003 гг. у Інстытуце сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[3] Магчыма, Лапцік Вячаслаў Віктаравіч (н. 1952), беларускі пісьменнік.

[4] Гл.: Ясачкі: Стыне гарачага лета след ( 2.11.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 333.

[5] «Джойнт» — дабрачынная арганізацыя «Амерыканскі яўрэйскі аб'яднаны размеркавальны камітэт амерыканскіх фондаў дапамогі яўрэям, якія пацярпелі ад вайны» (з 1914).

[6] Аксёнава-Штэйгруд Святлана Аляксандраўна (н. 1945), руская паэтэса, перакладчыца, драматург, крытык, журналістка. У 1998–2008 гг. супрацоўніца «Джойнт» у Беларусі.

нейкі клуб. Анатоль Белы адразу прапанаваў кавалак Торы быццам бы XI стагоддзя ўзамен 20 тыс. даляраў на конную статую Кастусю Каліноўскаму. Усё можна звесці на самоў хвост.

*4 лістапада, серада*

Як свята беларускага духу. Прыязджаў Уладзімір, Піліпаў сын, Лайкоў[1] з жонкаю Любаю й сынам Янкам[2]. Янка вучыцца ў універсітэце. Піша цудоўныя вершы. Засяроджаны, задуманы, замаркочаны, тонкааблічны. Што мяне ўразіла — маці ведае на памяць сынавы вершы. Калі ёй горка на душы — чытае і знаходзіць душэўны неспакой, і спакой душэўны на яе находзіць. Сапраўдная беларуская сям'я. Як у балтаў. На раёне наступ на ўсё беларускае. На агульных зборышчах — каб хто слова на сваёй мове. На філфаку, на беларускім аддзяленні, усё заасфальтавана русіфікатарамі. Дэканша, нейкая Мурына[3] […], адчувае сябе гаспадыняй з наўпростым указаннем душыць усё беларускае. Славяна[…] набірае разгон. Зноў як пры Юзіку [Сталіне] абразлівае слова *нацыяналіст.* Гэта значыць — нармальны беларус. «Хада слядоў: Янка Купала…» [у дзённіку].

*5 лістпада, чацвер*

Вяртае нас [Лукашэнка] у Савецкі Саюз у адной асобна ўзятай краіне. Горад чысцяць, ледзь не траву фарбуюць. Над усім расцяжкі: «7 лістапада — дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі». Толькі эпітэт *вялікая* не пішуць. Рэвалюцыя як рэвалюцыя, а крывавы пераварот вялікі крывёй нявінных ахвяраў. […]. Хадзіў у Купалаўскі музэй. Вершы Панізніку ды яшчэ такія-сякія кнігі. Для Ягоўдзіка[4] ў юбілей «Бярозкі»[5]:

Аднойчы ў неба збегла коска
І стала там маладзічком,
І засмуцілася «Бярозка»,
Як коску замяніць сучком?

Баялася:
Не збегла б кропка.

---

[1] Лайкоў Уладзімір Піліпавіч (н. 1953), беларускі настаўнік, краязнавец. З 1979 г. дырэктар Мётчанскай адукацыйна-выхаваўчай установы «Школа-садок» Барысаўскага раёна Мінскай вобл. Кіраўнік музея «Літаратурны космас Мётчы».

[2] Лайкоў Янка (Іван Уладзіміравіч; н. 1979), беларускі паэт. Сын У. Лайкова.

[3] Мурына Ларыса Аляксандраўна (н. 1936), беларускі мовазнавец, педагог. Доктар педагагічных навук (1986). Прафесар (1987). Заслужаны дзеяч навук РБ (2001). Член-карэспандэнт Акадэміі адукацыі Беларусі (1996). У 1996–2005 гг. дэкан філфака БГУ.

[4] Ягоўдзік (Ягаўдзік) Уладзімір Іванавіч (н. 1956), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1997–2003 гг. гал. рэдактар час. «Бярозка».

[5] «Бярозка» — грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі час. для падлеткаў (з 1924).

Аднак і кропка давідна
У неба пстрыкнула таропка
І стала зоркаю яна.

«Бярозка»,
Убачыўшы іскрынку,
Вучыць старанна пачала
Дружыць са знакамі прыпынку,
Цягнуцца ўпарта да святла.

Пайшла «Бярозка» маладая
Шумець па-беларуску тым,
Хто беларускі дух вітае
І хоча быць сабой самім.

Зары вясёлая палоска
Аперазала дзень наўзмаш.
P. S.
Мудрэй і зеляней, «Бярозка».
І свой тыраж на тоны важ!

*6 лістапада, пятніца*

Занёс у «Бярозку» верш. На Камароўцы купіў гарбату, якую любіць мая сінічка Дамінічка. І зваліўся з галавой. Кожны раз як памiраю ад болю. Званіла Варатынская — у Вушачы ўрачыстае паседжанне ў клубе з нагоды кастрычніцкай бойні. Даклад [робіць] сакратар райкама (ён узначальнае сельскі савет), усё, як пры камуністых. Званіў Алесь Камоцкі. Ягоная сяброўка Іна[1], праслухаўшы рамансы, сказала: «Аж людзей за словамі бачу...» Лепшай рэцэнзіі не можа быць.

*7 лістапада, субота*

Паўдня праляжаў з галавой. Потым узяўся перадрукоўваць вершы для газэты «Голас беларуса» — чарговая напаўавантура Анатоля Белага. Прачытаў у «Полымі» артыкул Янкі Трацяка[2] «Рэлігійны сэнс нацыянальнага». Болей бы нам такіх фанатычна-разумных людзей. Бо толькі плач па мове й па матцы Беларусі — толькі плач. І болей нічога. Яшчэ невядома, што болей важна — будзіць сэрца ці розум. Відаць, лепей за ўсё будзіць разам. Цікава, што пароль Кастуся Каліноўскага ведаем, дзяку-

[1] Ладзюкова Іна Дзмітрыеўна, беларускі эканаміст, супрацоўніца «Беларусбанка».
[2] Трацяк Янка (Іван Іванавіч; н. 1956), беларускі культуролаг, выкладчык, заг. кафедры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. Кандыдат культуралогіі (2000).

ючы даносу Парфяновіча[1]. «Каго любіш?» — «Люблю Беларусь». — «Так узаемна».

*8 лістапада, нядзеля*

Да Панізніка ў музей. Аддаў яму вершы пра Купалу, пра Целеша. Білет на Вушачу да Сарочына толькі. І хочацца ехаць дадому, і не хочацца. Сцюдзёна й самотна. Некалі маці Панізніка казала: «Не так страшна смерць, як яе прылады!»

*9 лістапада, панядзелак*

*Вушача!* Аўтобусам з Менска. Па дарозе завіруха. Ляжыць снег. Рана ўзялася зіма, хоць не надоўга. Прыехаў. У хаце няма святла. Ледзь адсырэлымі запалкамі запаліў ледзь знойдзеную свечку. Да Роўбы начаваць. Бо нельга паліць печку не рэгулярна. Хаце шкодна.

*10 лістапада, аўторак*

Прыехалі электрыкі. Прапанаваў чарку — на працы нельга. Даў з сабой пляшку й паўбохана. Хай грэюцца. Цэлы дзень па канторах. Усё-ткі ўсё зрабілі са спадчынай. Дзякуючы Роўбу. Вечарам з аднафамільцам выдатнага паэта ў Роўбы. Цікава распавядаў, як камуністы абавязалі кожнага выгадаваць па парасяці. А ён халасцяк, жыў у цёткі. З Іванам у Фінляндыі першы раз. У Ленінградзе за вакном вагона смажанага труса павесілі й забыліся. У супермаркіце. Дзверы адчыняюцца самі й перад сабакам, і перад чалавекам. Раптам крычыць: «Вунь нашы!» А гэта мы ў люстраной сцяне». Яшчэ ў раёнах той-сёй нармальны застаўся.

*11 лістапада, серада*

Спадар Франц — вораг пацукоў. Пляшачку апрыходваў. Як ён вазіў вяселле начрайдаі [начальніка раённага ДАІ]. На развітанне: «Даю вам па бутэльцы з пробкамі і па бутэльцы без пробак (самагонка)». Дае пяцідзясяткі — не бяруць. Калі потым ад'ехаліся, былі здзіўлены — на бутэлькі былі наклеены пяцідзясяткі. У кожнага сваё шчасце.

Да мамы. У садзе знайшоў яблычак маленькі, як чакаў. Цукеркі, хлеб. Галіны над магілай настылыя, ломкія. Казаў Роўба: у вёсцы жыў дзядзька, які некалі служыў разам з Усцінавым[2] — міністрам узброеных сілаў імпэрыі. Дзядзька дзівіўся: «Я жыву на пэнсію, трымаю карову, парсюка.

---

[1] Парфяновіч Вітаўт, студэнт Кіеўскага ўніверсітэта, удзельнік паўстання 1863 г., які выдаў жандарам К. Каліноўскага.

[2] Усцінаў Дзмітрый Фёдаравіч (1908–1984), савецкі дзяржаўны і ваенны дзеяч. Маршал Савецкага Саюза (1976). Герой Сацыялістычнай Працы (1942, 1961). Герой Савецкага Саюза (1978). З 1976 г. міністр абароны СССР.

Пайду даваць есці жывёле. Пастаўлю вядро з пойлам. Прыйду ў хату й не магу ўспомніць, каму паставіў вядро: свінні ці карове. А Усцінаў арміяй камандуе, як?» Васіль, Роўбаў шафёр, казаў. Цесць крычыць: «Калі не будзеш галасаваць за Лукашэнку, не дам кумпячыны». А жонка пабаешкай па галаве: «Маўчы, стары дурань». І зяцю кумпячыну дае. [Лукашэнка] усіх раскалоў.

У краме купляю часнык. Маладзенькая дзяўчынка. Пытаюся, ці сваёй гадоўлі? Кажа, што з Рыгі прыехалі. Бацькі беларусы. Загаварыў з ёй палатышску, у адказ — бездакорная латышская мова. І вучылася ў рускай школе. Пісаў Васілю верш: «Ліст восьмы з Вушачы»[1]. «Адзіны»[2].

Гледзячы на геніяльнага актора ахламоннай публікі, напісаў «дурноту»: «Як маеш спрыт: Як маеш спрыт сякі-такі...» [у дзённіку].

Сёння свята птушкі сінічкі. Добра, што сустрэў яго дома. Як з маленства вярнулася свята, як у маленства вярнула. Жыццё зайздросліва адбірае ў чалавека маленства як хутчэй, як падступней. А чалавек толькі й жыве ў маленстве як чалавек. Потым да скону даводзіцца жыць і па-ваўчынаму, і па-сабачаму, і шмат па якому. Хоць якраз гэта прывычна называецца сталым, ці старым, жыццём.

*13 лістапада, пятніца*

Трэба было пайсці ў Купалаў дом на свята Купалавага радаводу. Перад гэтым сабраў і передрукаваў верш пра Купалу, пра ягоную радню. Ісці на вечарыну не захацелася. Яшчэ будзе нехта тыпу лагойскага [...]. Навошта мне хадзіць, каб глядзець на морды, ад якіх варацаць хочацца. Досыць нахадзіўся на працу ў выдавецтва і там мусіў усміхацца розным падонкам, гаварыць з імі, бо абавязвала пасада. Старэю й хутарэю, бо нездарма нарадзіўся на хутары. Дзякуй Богу не ў калхозе!

Алесь Камоцкі мне анекдот распавёў. Вярблюдок пытаецца ў бацькі: «Навошта нам такія цвярдыя й вялікія капыты, такія вялізныя й грубыя губы, такі горб?» Бацька адпаведна адказвае: «Каб прыступна было ступаць па гарачым пяску, каб есці калючку й не абкалоцца, каб мець запас вады на які тэрмін». Тады сын яшчэ пытанне: «А навошта нам усё гэта ў заапарку?»

«Восень смелая ў непаўторных...»[3]

[1] Гл.: Ліст восьмы: У сьвет услед за намі йдзе яна... (11.11.98, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 16.

[2] Гл.: Адзіны (11.11.98, Ушачы) // Ксты. С. 314.

[3] Гл.: Адметнасць (13.11.98) // Босая зорка. С. 95. Пад назваю «Супачыну няма...» гл.: Ксты. С. 367.

*14 лістапада, субота*

Першы дзень сапраўднага лістапада. Ён сёння не западае лістам, а мокрым снегам. Дамінічка малюе кошак і паказвае Мірону, каб ён супакоіўся. Клопат. Званіў Радзік. Сумны. Вырваны ўсё-ткі з роднай яму глебы. Роднай праз гэтулькі пакаленняў ягоных аднакрэўнікаў. Гэта экзюпероўскае выслоўе: «Мы адказваем за ўсіх, каго прыручылі»[1]. Вялікадзяржаўная шавіністычная Расія адказвае за ўсіх, каго яна прыдушыла й задушыла. А яна голасам шалёнага генерала за селекцыю. «Карчма»[2]. Дамінічка прапанавала пад навагоднюю ёлачку пакласці Мірону нешта смачнае. А то ніколі яму нічога не клалі.

*15 лістапада, нядзеля*

Сойм БНФ. Словаў шмат. Намацваецца трэшчына. Хаця б далей не пайшла. Кэдэбэ не спіць.

*16 лістапада, панядзелак*

Засядаў з яўрэямі. «Джойнт» і хоча памагаць яўрэям, якія засталіся, і не хоча. Ізраіль ад іх практычна адмовіўся. Ізраіль цікавяць толькі тыя, што навастрылі лыжы ў Зямлю абяцаную.

*17 лістапада, аўторак*

З Алесем да Рыгора Сітніцы. Пасля Рыгор мне чытаў вершы. Проста выдатныя. Драны Майсюк перад ім вясковец, які тужыцца быць інтэлектуалам.

*18 лістапада, серада*

Хадзіў у ПЭН пазваніць Васілю. Кепска сябе пачувае. Сказаў яму наконт афармлення ягонага тома. На вокладку даць «Зямлю» Рушчыца[3]. Ён ухапіўся за гэтую ідэю. Кажу: «Па запатрабаванню выдавецтва вокладка мусіць быць каляровай». Васіль: «Каляровая вокладка толькі ў бульварнай літаратуры».

*19 лістапада, чацвер*

Дзяўчатам у выдавецтве маленькае застолле наладзіў. Мне добра з імі. Добрыя часіны ўзгадваюцца. Зіна[4] казала, якая мышыная валтузня

---

[1] Сент-Экзюперы Антуан дэ (1900–1944), французскі пісьменнік. Цытата з казкі «Маленькі прынц».

[2] Гл.: Карчма (14.11.98) // Зорка спагады. Мінск: «Ковчег», 2000. С. 9.

[3] Рушчыц Фердынанд (1870–1936), мастак, графік, педагог (Беларусь, Польшча, Літва).

[4] Пазняк Зінаіда Канстанцінаўна, рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

вакол томіка Пушкіна па-беларуску. Шасцёрка [...] Міколка Мятліцкі[1] на прапанову даць на адкрыццё тома «Помнік» у маім перакладзе, прагундосіў: «Не можам адкрываць Пушкіна барадулінскай лексікай». Вядома ж, у мяне няма балотных кво, кве. Прыйшоў [...] Зуёнак. Яна кажа: «Чый пераклад лепшы — Барадулінаў ці Лужанінаў[2]?» [Ён]: «Зуёнкаў». І пабег прывалок свой перакладніцкі томік. [...]. На прапанову даць «Зімовую раніцу» ў маім перакадзе Леанід [Кірэевіч Левановіч] Зіне сказаў: «Гэты верш усе ведаюць на памяць па-расійску». Калгасная логіка [...]. З ускаламучанага балота ўся погань вылезла. І грэецца ў промнях самазадаволенасці.

*20 лістапада, пятніца*

Сёння б Жэні Янішчыц[3] было пяцьдзесят, а яе ўжо дзесяць гадоў няма з намі. Адляцела рана. Зараз будуць успамінаць і казаць добрыя словы тыя, хто цкаваў пры жыцці, усе гэтыя райкібаравіковы[4], бондаркаманды. Адна Вера Вярба[5] яе шанавала, ды яна неяк адышла ад літаратуры.

Выступалі нашай купкаю ў ліцэі пры ўніверсітэце. Ліцэісты ў асноўным матэматыкі, фізікі, але слухаюць добра, рэагуюць адэкватна. У ліцэі беларускую выкладае дачка Вячаслава Чамярыцкага[6]. Зацятая беларуска, добра такі падобная да бацькі. Доўжацца беларускія радаводы. Заходзіў у сядзібу БНФ. Падгол з новымі ідэямі. «Ліст пяты»[7].

*21 лістапада, субота*

Цвяткоў[8] перадаў Халіпам запросіны на кінафестываль «Лістапад». Пайшлі з Валяй на адкрыццё. Убогасць, правінцыйнасць, як у дэкара-

[1] Мятліцкі Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1954–2021), беларускі паэт. У 1983–2002 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[2] Лужанін Максім (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909–2001), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1965). Быў рэпрэсаваны.

[3] Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна (1948–1988), беларуская паэтэса. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1986).

[4] Баравікова Раіса Андрэеўна (н. 1947), беларуская паэтэса, перакладчыца. У 1996–2000 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Алеся». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1988), Дзяржаўнай прэміі РБ (1993).

[5] Вярба Вера (сапр. Сакалова Гертруда Пятроўна; 1942–2012), беларуская паэтэса.

[6] Кушнярэвіч Вераніка Вячаславаўна, беларускі філолаг. Заг. кафедры беларускай мовы Ліцэя пры БДУ.

[7] Гл.: Ліст пяты: Трымалі агонь у жалезнай клетцы... (20.11.98) // Лісты ў Хельсінкі. С. 31.

[8] Цвяткоў Юрый Мікалаевіч (1941–2011), беларускі аператар, кінарэжысёр, сцэнарыст. У 1996–2001 гг. нам. міністра культуры, у 2001–2005 гг. начальнік дзяржаўнага рэестра кінавідэафільмаў і кінавідэапраграм. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

цыях, там і ў прамовах Янкоўскіх[1], Бурляевых[2], Гасцюхіных[3]. […]. Фільм расійскі доўгі, як савецкая ўлада ў анэкдоце пра чукчу. Было прыемна ўбачыць Вайтовіча[4], [Лукашэнка] адклікаў яго з пасла ў Літуве.

Цвяткову падпісаў «Здубавецьця»: «Вядома, што невыпадкова…» [у дзённіку].

*22 лістапада, нядзеля*

Сніўся Васіль. Ехалі на нейкай машыне. У нас пачатая пляшка гарэлкі й непачатая. Збіраемся зайсціся да мяне. Пад'ехалі на нейкай старой машыне. Дзверца не зачыняецца. Васіль узяў нейкую валізку й пайшоў. Меўся вярнуцца. Добра, што гарэлкі не пілі. Гэта да хваробы. «Ясачка: І скон — урэшце таксама плён»[5].

*23 лістапада, панядзелак*

Мароз упрэгся насур'ёз. Вось табе й лістапад. Вечарына ў Купалавай хаце Вячкі Целеша. Сапраўдны руплівец, асветнік, падзвіжнік. Учора па калхозным тэлебачанні тэлеспектакль з урыўкаў «Псальмоў Давідавых». Сёння Кісель[6], які не абсох на чырвонапамешчыцкіх вусах, запатрабаваў ад Акімушкіна касэту. Выклікаў дырэкцыю, галоўнага рэдактара. Маўляў, музыка й сцэнаграфія добра, а як словы, тэкст? Усе сказалі, што не бачылі, рэдактар — «на біблейскія тэмы». Гэты ж Кісель рабіў на сваім паверсе эўрарамонт. Не ўпадабаў люстэрка. Яму кажуць: «Нармальна». Кісель: «Прывыклі жыць ў га.не». Гэта ён, які аднекуль каля Шклова ці трошкі далей, з глухой Магілёўшчыны, адчуў сябе панам […]. «Люди холопского

---

[1] Янкоўскі Расціслаў Іванавіч (1930–2016), беларускі акцёр. Народны артыст БССР (1967). Народны артыст СССР (1978). З 1957 г. у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага. У 1995–2010 гг. старшыня Міжнароднага кінафестывалю «Лістапад». З 2000 г. член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998), прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2003).

[2] Бурляеў Мікалай Пятровіч (н. 1946), рускі акцёр, кінарэжысёр, пісьменнік. Заслужаны артыст РСФСР (1984). Народны артыст РФ (1996). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1976).

[3] Гасцюхін Уладзімір Васільевіч (н. 1946), беларускі акцёр. Народны артыст РБ (1996). З 1991 г. акцёр Тэатра-студыі кінаакцёра. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), Дзяржаўнай прэміі РФ (1993), прэміі Прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне» (2002).

[4] Вайтовіч Яўген Канстанцінавіч (н. 1937), беларускі дзяржаўны дзеяч, дыпламат. Кандыдат эканамічных навук (1964). У 1993–1998 гг. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол РБ у Літоўскай Рэспубліцы, у 1999–2002 гг. пасол па асобных даручэннях, з 2002 г. кіраўнік аддзялення РБ у РФ (г. Краснадар).

[5] Гл.: Ясачкі: Скон — нечаканы й чаканы плён (22.11.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 334.

[6] Кісель Рыгор Леанідавіч (н. 1955), беларускі журналіст. У 1994–2000 гг. кіраўнік Нацыянальнай радыётэлекампаніі РБ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (2004).

звания сущие псы иногда»[1]. [...]. Крамы пустыя. Цэны азвярэлыя. Чэргі. Калхозны сацыялізм. «Ясачка»[2].

*24 лістапада, аўторак*

Вечарына ў Скарынаўскім цэнтры. Арганізавала […]-«Бацькаўшчына» й Адам [Мальдзіс]. 40-годдзе святарства айца Аляксандра Надсана. Ад айца сыходзіла боская мілата. У ім спалучаны празорца й дзіця. Чыстая душа свеціць дарогу ўсім. […]. Уразіў мяне Лявон Дзягілеў[3]: «Ты, Рыгор, малайчына, смела носіш і не здымаеш […] сцяжок-значок. А я дык другі год у партманэ». І паказаў. Сапраўды, у партманэ.

*25 лістапада, серада*

У «Мастацкую». З дзяўчатамі трохі рабіны на каньяму ды каву. Грэліся. А раніцай званок. Васіль. З Фінначы. Будзе гаварыць, каб мяне на яго-нае мейсца. Не ведаю, як гэта ўсё атрымаецца. Дый хочацца й не хочацца. Але Бог-бацька, а час — дарадца.

*26 лістапада, чацвер*

Сёння дзень нараджэння Уладзіміра Караткевіча й дзень смерці Адама Міцкевіча. Адзін талент забірае Бог, другога ў замену дае Усявышні. З Алесем і Галузой выступалі ў школе на ўскраіне Менска, у раёне так званай Сухараўкі. Гэта расейская чынавенцкая набрыдзь перарабіла, веру, звычайную Сухароўку. І не Сухарава, а Сухарова па-беларуску. Школа рускамоўная, далучаюць да вялікарускасці дзяцей ускраін. Каб на расійскай мове прасілі подаўку ў расійскіх галадранцаў.

*27 лістапада, пятніца*

Нашай тройцаю ў беларускамоўную школу ў Серабранцы. Добрыя беларускія настаўніцы, дырэктар — малады беларус, фізік па адукацыі. Вучні, як усе дзеці. Толькі ўперадзе села дзве пустасмешкі. Збівалі настрой. Цікава, як жанчыны застаюцца дзяўчаткамі да канца. Нас на вакзале праводзіла Галіна Дзягілева. Яна з Вячаславам Галузой вучылася на адным курсе ў тэатральным. Раптам пытаецца: «Слава, ці помніш, як на першым курсе ты падышоў да мяне й сказаў: «Якое вушка чароўнае»?» Вядома, Вячаслаў не помніць… Амаль гадзіну ехаў аўтобусам назад. Пісаў. «Ясачка»[4].

---

[1] Някрасаў Мікалай Аляксеевіч (1821–1877]78), рускі паэт і празаік. Радок з паэмы М. Някрасава «Каму на Русі жыць добра» (1874).

[2] Гл.: Ясачкі: Толькі ў мамы… (23.11.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 333.

[3] Дзягілеў Леанід Яўсеевіч (н. 1940), беларускі мастак-графік, педагог Вышэйшай школы, мастацтвазнаўца, дызайнер.

[4] Гл.: Ясачкі: У халадоў мяняецца аблічча (27.11.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 334.

*28 лістапада, субота*

Запрог сябе ў пераклад польскамоўнай паэмы Тумаша Яўлевіча[1] 1625 года для «[Беларускага] кнігазбору». Нешта ж трэба рабіць. «Ясачка: Анікога ў мяне навакол» [1-шы варыянт, у дзённіку][2].

*29 лістапада, нядзеля*

Патроху перакладаю польскамоўную паэму. Штогод цяжэй і цяжэй даецца праца. Праца — наравістая кабыліца. Не кожны ўчэпіцца ў грыву дый пагаляпуе. І неяк раптоўна выкруціўся «Раманс»[3].

*30 лістапада, панядзелак*

Вечарына ў Чырвоным касцёле. Людзей было. Слухалі добра. Алесь праспяваў усю касэту. Добра прынялі.

*1 снежня, аўторак*

Снег даўно й мароз калядны. З Самсонам на фестываль фільмаў. Надакучылі абыяк апранутыя […], пачынаючы з […] Светы й канчаючы ўсімі калякіношніцамі. Умудрыліся менскія кіношнікі напісаць замест *праабарончыя* фільмы — п*раваахоўныя*. Шыз у адзін бок. Заходзіў у «Мастацкую». Казалі, што гайнаўскі […] перажывае, што ў мяне выйшаў другі том раней. Няма сымпатыка […] Серафіма[4].

*2 снежня, серада*

Да Самсона. Выглядае блага. Хоць бы ўсё абышлося ў яго. Слухаў касэту Алеся. Падабалася яму, што Алесь кожнае слова даносіць. Такі талент, у прыватнасці, і ў кіно, а пасадзілі на жабрачую пэнсію. А так званыя барацьбіты з рэжымам жыруюць на замежных грантах. Цэлая гвардыя гранташукальнікаў з’явілася. Ведаюць, дзе шукаць, як пісаць заяўкі, прытым па-ангельску.

*3 снежня, чацвер*

Да Карласа. Увесь у клопатах, у прыёмах. Чалавек умее зрабіць сябе незаменным. Любы. Абы жаданне мець.

---

[1] Яўлевіч Тумаш (Фама; кан. XVI — пасля 1632), старажытнабеларускі паэт і рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай.

[2] Гл.: Ясачкі: Я цяпер, як апошні колас (29.11.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 334.

[3] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Княгіня хараства! Я — верны Ваш халоп (28.11.98) // Тамсама. С. 323.

[4] Андраюк Серафім Антонавіч (н. 1933), беларускі крытык і літаратуразнавец. Дырэктар (1993–1996), гал. рэдактар (1996–1998) выд-ва «Мастацкая літаратура». Кандыдат філалагічных навук (1966).

*4 снежня, пятніца*

У ліцэй пры ўніверсітэце. Дужа добрыя вучні. Дапытлівыя. Прабеларушаныя, што сэрца грэе мне. І там працуе Вольга[1], дачка маёй першай любімай настаўніцы Ефрасінні Міхайлаўны й адзінага беларускага выдатнага дырэктара за ўсю гісторыю вушацкай школы Алеся Антонавіча Карабаня. Цікавае было пытанне: ці прыбытковы гэта занятак — паэзіяй? У нагу з часам пытанне. Вядома, можна заробіць, як Заблоцкі на мыле.

*5 снежня, субота*

Адкачаўся з галавой. Разломваецца. Часам здаецца, што вар'яцею. Дапісаў верш: «Акрамя...»[2].

*6 снежня, нядзеля*

Выцягнуў сябе на Камароўку. Купіў Дамінічцы цёплыя боцікі. Навырост. Ці змагу што купіць налета, калі Бог дазволіць жыць.

*7 снежня, панядзелак*

Яшчэ страшней баліць галава. Як развітваюся з жыццём. Сустракаўся з Алесем. У «Полымі» атрымаў за Васіля грошы. Пакуль ён прыедзе, яны пяском стануць. [...].

*8 снежня, аўторак*

І бяруся за пераклад, і не бяруся. На душы і ў хаце няма спакою. Стаміўся.

*9 снежня, серада*

*г. Ліда.* З Алесем рэйсавым аўтобусам дацёпаліся да Ліды. Сустрэў Лявон Анацка[3] — апантаны беларус, руплівец, чалавек з галавой і рукамі. Якраз такіх і вынішчалі камуна[...], бо гаспадары. Выступ у клубе. Актывісты ТБМ, ліцэісты. Невялікая, але шчырая аўдыторыя. Душу сагрэлі маладыя ўніяты. Асабліва Святлана Канапацкая. Здаецца, што высокія нябёсы глядзяць табе ў душу. Гэтакі ў яе пагляд. Сама вышыня й гожасць. Дзеля аднаго гэтага позірку ехаць было варта. Быў і Станіслаў Суднік[4]. Яшчэ не адышоў ад убоінаў. Недзе ў маці біў парсюка. Добра сказаў пра

---

[1] Кузьміч Вольга Аляксандраўна (н. 1946), беларускі філолаг, выкладчык. У 1996–2011 гг. заг. кафедры беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. Заслужаны работнік народнай адукацыі.

[2] Гл.: Акрамя... (11.05. — 5.12.98, N.) // Босая зорка. С. 91.

[3] Анацка Леанід Яўгенавіч (н. 1962), беларускі бягун-аматар, лёгкаатлет.

[4] Суднік Станіслаў Вацлававіч (н. 1954), беларускі грамадскі дзеяч, пісьменнік, журналіст, краязнавец. З 1997 г. рэдактар газ. ТБМ «Наша слова».

яго Лявон: «Жонка йшла замуж за палкоўніка Савецкай арміі, а цяпер не можа прымірыцца, што муж беларускі нацыяналіст». Былі добрыя, разумныя пытанні. Глядзіш, слухаеш — і разумееш, што Беларушчына яшчэ жыве. І будзе жыць у маладых сэрцах. У гарачых сэрцах. Яна не азябне на сіврах маскалёўшчны.

*10 снежня, чацвер*

З раніцы ў адной са школ горада. Пасля ў Бердаўскую сельскую школу. Усе ўзросты разам. Прыгадалася сваё школьніцкае маленства. Ласкавы халадок сельскіх класаў дужа цёплы. Пытанні змястоўныя. Між іншых: колькі можна жыць за выдадзеную кнігу. У Лідзе было пытанне, ці прыбыткова гэта — пісаць вершы. Новы час, новыя клопаты. «Дарадца высокі»[1].

*11 снежня, пятніца*

І ў Менску пад уражаннем вачэй Святланы. Колькі ў іх вышыні й багавейнасці! «Уніятка»[2].

З раніцы з Алесем у бібліятэцы ля кінатэатра «Вільнюс». Жах, а не аўдыторыя. Дзеці нават не дубовыя, а, хутчэй, фанерна-пластмасавыя. Потым засядалі з Самсонам з яўрэямі. Ой, гвалт ганэм — і толькі. Вечарам даперапісваў верш «Уніяцкія крыжы»[3].

*12 снежня, субота*

Уночы ў галаве круцілася «ясачка»:

*

Дома залатая салома.
Уцякае з дому рака.
Сонца заходзіць дома.

Па традыцыі пайшоў на Камароўку. Сякія-такія за′купы. І за пераклад. Часта не адклад, а пераклад не йдзе на лад. У Лідзе казалі: у Драздах працуюць вахтавым мэтадам. Па 12 гадзін. [Лукашэнка] падыходзіць да экскаватаршчыка, пытаецца пра жыццё, колькі зарабляе. Той адказвае — 11 млн. [Лукашэнка]: «Я як прэзідэнт столькі не маю». [...]. Экскаватаршчык: «Дык я ж працую...»

---

[1] Гл.: Дарадца высокі (10.12.98, Ліда) // Ксты. С. 169.
[2] Гл.: Уніятка (11.12.98) // Босая зорка. С. 110. Верш прысвечаны С. Канапацкай.
[3] Гл.: Уніяцкія крыжы (25.01–11.12.98) // Ксты. С. 172. Верш прысвечаны Я. Мацко.

*13 снежня, нядзеля*

Сёння заходнія славяне святкуюць дзень святой Люцыі (святланосіцы). Дарэчы, луч адкуль? Ці ад лучыць, злучыць, ці ад люцэо? Мяне заўсягды цягне на дылетанцкае тлумачэнне паходзінаў слова. У Люцыю з-за ейных чароўных вачэй закахаўся паганец. Трэба было ёй ісці за яго замуж. Тады хрысціянка выдрала свае вочы й паслала іх паганцу. І цуд. Дзева Марыя дала ёй новыя, яшчэ яснейшыя вочы. Сустракаўся з Алесем. Пішам нешта на ўніяцкую тэму. […].

*14 снежня, панядзелак*

З Алесем і Галінай Дзягілевай у ліцэі выступалі. Адна дзяўчынка потым падышла, хоча прыняць удзел у бэнээфаўскім конкурсе. Піша прозу. Дзякуй Богу, расце змена. Потым з Алесем у 10-ю клініку. Гэта там, дзе сканчаецца места. Урач Ігар Сарокін[1] лечыў некалі Міхася Стральцова. Выдатнае беларускае вымаўленне. На зайздрасць. Мяне ўсё натхняе ўніятка. «Унія»[2].

*15 снежня, аўторак*

Думаю наконт выступаў з вершамі перад аўдыторыяй. Усё-ткі масавы слухач і паглынальнік паэзіі — хутчэй за ўсё савецкі чалавек. На стадыёнах і вечары паэзіі, і расстрэлы на стадыёнах. Паэзію ўсё-ткі трэба чытаць вачыма, калі й чытаць уголас, дык для блізкай душы. Бо ператвараецца ўсё ў нейкую прафанацыю.

*16 снежня, серада*

Мяняецца надвор’е. Зусім падаю. І на хворую галаву перакладаю. Усё, як перад развітаннем. Рыхтавацца трэба. А калі Бог пакліча, гэта толькі Ён ведае. Не сказаў бы, што жыццё прыелася, але нейкі прэсны асадак на душы. Душа баліць за Дамінічку. На каго застаецца?

*17 снежня, чацвер*

Выступ з Алесем і Галінай у Чырвоным касцёле. Падрыхтоўчыя групы. Палітыка [Лукашэнкі] дае вынікі. Ужо даўно забытае пытанне, яно адтуль, з саўімпэрыі: чаму рамансы на беларускай мове, а не на расійскай? Савок расце ў маладых. Яшчэ па праграме імпэрыі. Старое гэтак лёгка не здаецца. І разам з тым, потым падышла навучэнка з Першае гімназіі Вольга Базылёва[3]. Адзінаццацікласніца, бацька расеец, пакінуў іх.

---

[1] Сарокін Ігар Георгіевіч, урач-неўрапатолаг 10-й клінічнай бальніцы.
[2] Гл.: «Унія — ў душы рунеюць зоры» (14.12.98) // Ксты. С. 171.
[3] Базылёва Вольга Уладзіміраўна (н. 1982), беларуская паэтэса.

Чытала паэму пра Марылю й Адама. Цікавы вобраз — Svіцязь, як котка, лашчыцца ля ног закаханцаў. Трава жалезабетон прабівае.

*18 снежня, пятніца*

Званіў Алесю. У яго добра прайшла вечарына ў «Беларускай хатцы»[1]. Дай Бог, каб яму спрыяла доля. Вельмі ж чысты, глыбокі, трапяткі. Перарабляю «ясачку»: «Дома вясёлая стома…» [у дзённіку].

* Дамініка: «Каб мы Мірона пяшчоталі…»

*19 снежня, субота*

Пакутую над перакладам. Старапольскую мову, вядома, толькі навобмацак адчуваю. «Ліст шосты»[2].

*20 снежня, нядзеля*

У Чырвоным касцёле дзеткі нядзельнай школкі чыталі Міцкевічавы «Думкі й заўвагі». Мой пераклад. Дзеці заўсягды — зямныя цені анёлаў. Да часу. З Рубяжэвічаў тэатр паказваў як бы літмантаж па Міцкевічу. Папольску і трошкі па-беларуску. Прысутнічаў і пробашч Завальнюк[3]. Згубіў багата часу, але радасцю душы ўздалося.

Званіла Галя Варатынская. Памёр Шурка[4], швагра Васілёў. Валя[5] адна засталася. Пасля аперацыі высахлая, хворая. Васіль, відаць, і не ведае, якое ў сястры гора. Учора званіў Бурсаву — у яго дзень нараджэння. Некалі шмат выпілася пад гэты дзень. Цяпер пяць словаў па тэлефоне. Жабракам і па тэлефоне пагаварыць — недазволеная раскоша. […]. Знайшоў незакончаны верш, ці незавершаны, перадапісаў:

*Цяжка*

Са злосцю цяжка ўжыцца злосці,
Не трэба разліваць ракой.
Ісці спагада і спакой
Не хочуць да адчая ў госці.

І злосць зайздросціць
І раўнуе
Сябе самую да сябе.

---

[1] «Беларуская хатка» — філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры (з 1991).

[2] Гл.: Ліст шосты: У душы ма’е свой закутак… (19.12.98) // Лісты ў Хельсінкі. С. 32.

[3] Завальнюк Уладзіслаў Мацьвеевіч (н. 1949), беларускі каталіцкі святар, душпастыр; гісторык, перакладчык, публіцыст, выдавец, культурна-грамадскі дзеяч. Доктар тэалогіі. Пробашч касцёла свсв. Сымона і Алены (з 1989).

[4] Шамук Аляксандр Ігнатавіч (1933–1998), муж В. У. Быкавай.

[5] Быкава Валянціна Уладзіміраўна (1926–2016), сястра В. Быкава.

Туга напоўніцу скубе
Цярпення мураву густую…

*21 снежня, панядзелак*

Самая даўгая ноч. Нездарма ж нарадзіўся ў гэты дзень людажэр Сталін. Любіў рыбу жыўцом смажыць, казалі. Шалею ад перакладу. Можа, і перакладу ў тэрмін. Вольга Брылон[1] прасіла нешта сказаць па радыё калхозным. З гэтай нагоды:

*Ода года*

Найдасканалае ў ката
Усё — ад вусаў да хваста.
Ды кот,
Каб спраўным слыць катом,
Мець мусіць штосьці й пад хвастом.
Ні навальніца, ні слата
Не перашкода для ката,
Калі да коткі ён ідзе
Ці па страсе, ці па градзе.
А ўжо кахаць умее кот
Так,
Што трашчаць і дах, і плот.
Сям'ю нялёгка мацаваць,
Лягчэй на волі марцаваць.
Напоўніць чаркі любата
Нам за каханне ў год Ката!

І завяршылася старонка ўсё-ткі іншым вершам: «Падушка: Восень скубе вятры» [1-шы варыянт, у дзённіку].

*22 снежня, аўторак*

Усё-ткі перапісаў верш. І Самсон мне раіў зрабіць у рыфму. «Падушка»[2]. Хадзіў на калхознае радыё, запісацца ў нейкай навагодняй праграме. Бо прасіла Вольга Брылон. Калі просяць яўрэі, не магу адмовіць. Яўрэяў трэба падтрымліваць. Яны спрадвеку ў загоне. Як і мы раней, і цяпер асабліва. Хоць завяжы вочы й вушы, каб не бачыць, каб не чуць […]. […].

*23 снежня, серада*

З Алесем Карлюкевічам да дактароў. У інстытуце сустрэўся галоўны вэртыкальшчык Гомеля. Лёгкая беларуская мова. Нязмушаная, нязмуча-

---

[1] Брылон Вольга, беларускі музыказнавец.
[2] Гл.: Падушка (21.12.98) // Халодная памяць вады. С. 383.

ная. Абследваў галоўны нэўрапатолаг Беларусі Шалькевіч[1]. Хоць парадаваў, што ў мяне няма кіруючай савецкай хваробы — склерозу. Хоць жа я й не меў кіруючых пасадаў, але жыў у аднячассе з усёй камуністычнай нечысцю. Не ведаю, адкуль у мяне гэтулькі нянавісці да ўсяго савецкага. Ці таму, што дужа ж ужо ціснулі, прасавалі, як кажа люмпен, ён жа й пралетарыят, кампасціравалі мазгі. Пралетарыят — гэта нехта, хто пралятае ва ўсіх значэннях гэтага слова, пакуль усё не пралётае. Карацей, вецер. Хай даруе мне яго ўзнёсласць пан Вецер за параўнанне!

Алесь круціцца, каб выбіць паперу. Нават [...] «Сов. Белоруссия», бывае, не выходзіць. Калі йшоў да Алеся, на ганку Дома прэсы Някляеў і [...] Якубовіч. Узгадалася, калі мы прарывалі заслон АМОНа [...] на пляцы Перамогі, дык іншыя ўбаку былі. Вяртаемся з Васілём з мітынгу ля помніка Янку Купалу, а бакавымі дарожкамі пахаджваюць, мацыёняцца Някляеў і [...] Якубовіч. Сымболіка.

*24 снежня, чацвер*

Алесь працуе над новай праграмай па матывах «Псальмаў Давідавых». Кажа, што няблага йдзе. Цікава, што яму здаецца, Сёмухаў пераклад псальмаў прыземлены. А калі чытае замежныя беларускамоўныя выданні псальмоў — як на воблаку сядзіць. А я змагаюся з польскамоўнай паэмаю XVII стагоддзя. Як казалі, з пераменным поспехам.

*25 снежня, пятніца*

Святыя Каляды! Ноччу снілася: «Саснёны дыялог: — Трэба спяшацца, ісці. — Не буду...»

Алесь пажадаў мне прыжыццёвага спакою. Амаль паўдня адбіралі фота [з Наташай] на трэці том. Калі мяне не было дома, званіў Васіль. Я ўчора толькі напісаў яму. Прыйшла Damінічка й сама прапанавала нешта намаляваць дзедзю. [Малюнак і верш Дамінікі:]

З Калядамі! З спагадамі!
З вясёлымі Калядамі!!!
Хай у Каляды нам усім
Прыбудзе шчасця нам усім!
Віншуем з Калядамі!
Знакаміты паэтка ДК...

*Наталлі Давыдзенка*

Ты, Наталачка, як пратaлачка
На дарозе жыцця зімовай.

---

[1] Шалькевіч Валянцін Браніслававіч (1945–2001), беларускі вучоны ў галіне неўралогіі і нейрахірургіі. Доктар медыцынскіх навук (1989). Прафесар (1990).

Навяшчуй мілосці, вясталачка,
Адвядзі непамыснасць замовай.

*26 снежня, субота*

Як смяротнік, прыкуты да гарматы, перакладаю паэму. Не да жартаў. Галава разломваецца. Калі пачынаў, настроены быў па-савецку: малой кровью, могучим ударом. Калі выжыву, буду жыць…

*27 снежня, нядзеля*

Раніцай мае ўключылі калхознае тэлебачанне. Творчы вечар Казаковай[1] і Пісарыка[2] […]. Рыма […]: «Мне смешно: в вашем государстве…» Смешна, што яна тут, што яшчэ піша. […]. Чуць і бачыць не магу — ціск падскоквае. […]. Бог даваў магчымасць стаць нармальнай Дзяржавай, дык Лубянка не драмала й не дрэмле.

«Ліст сёмы»[3].

*28 снежня, панядзелак*

Учора памёр Навум Кіслік[4]. Да сукаʹ абсякаецца дрэва сяброў. Хутка буду хадзіць як глуханямы сярод балбатуноў і крыкуноў. «Няма…: За ўсіх дужэйшая адна знямога» [у дзённіку]. Саюз пісьменнікаў не мае машыны, каб цела прывезці, у будынку саюза ўжо нельга развітвацца з нябожчыкамі, бо ён, будынак, належыць [ціцянкову]. У ваенкамаце сказалі, што машына можа быць дадзена толькі пачынаючы з маёра. А што ветэран вайны, інвалід вайны — гэта не аргумент. Савецкі Саюз жыве й пахне.

Нядаўна ўзламалі ўсе тры замкі з вушацкай хаце. Усё перавярнулі. Падобна, што нічога не знайшлі. Што шукалі? Замкі ўскрыты самым найдасканалым чынам. Ці эліта крымінальнікаў, ці кэгэбэ. У адзін ланцужок вяжацца, што й летам у менскай кватэры двойчы быццам бы сігналізацыя псавалася. Кэгэбэ ўсё-ткі мусіць мець занятак. «Усё адно: Каму дабрэць, каму люцець…» [у дзённіку].

*29 снежня, аўторак*

Развітанне з Навумам. Казённы крэматорый з казённымі словамі. Аж на сэрцы холад. Відаць, апошні раз сабраліся ў Навума, гэта азначае, у кватэры ягонай. Упершыню без гаспадара. Мала ўжо ацалела былых за-

[1] Казакова Рыма Фёдараўна (1932–2008), руская паэтэса, перакладчыца. Заслужаны работнік культуры УзбССР і Каракалпакскай АССР (1981).
[2] Пісарык Алесь (сапр. Пісарчык Аляксандр Уладзіміравіч; н. 1954), беларускі паэт. Працаваў на Мінскім трактарным заводзе.
[3] Гл.: Ліст сёмы: Час зьнянацку зьмесьціцца ў зярнятку… (27.12.98) // Лісты ў Хельсінкі. С. 33.
[4] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998), рускі паэт, перакладчык.

стольнікаў. Успаміналі Навума, а тым самым сваю маладосць. Цэлая эпоха нашага жыцця адыходзіць сябрамі.

«Ясачка»[1].

*30 снежня, серада*

У Ганада сыгнал кнігі, якую пераклаў яму[2]. Вершы й цікавая этнапроза. Б'юся над паэмай. Уражанне гэткае, што ніколі не завяршу пераклад. Званю Галачцы Раманчыкавай — званочку нашага курса. Хворая. Кажу: «Неяк трэба ўбачыцца». Яна ў адказ, што лепей недзе пад лета. Бо няма палітончыка болей-меней прыстойнага. Дый зубы рамантаваць трэба. У галечы дажываюць былыя маладыя. Алесю Траяноўскаму[3] званю, пытаюся польскія словы.

Зайшла гаворка пра магілёўцаў. Алесь прыпомніў маё ж выказванне: «У Магілёве нармальных няма: ці дурні, ці геніі. А геніяў, вядома, няшмат». Успомнілі выхадзімцаў з Магілёўшчыны. Упёрліся, адкуль цыкоўскі [...] Пашкоў[4]. Алесь: «Пашкоў выведзены з колбы». Сапраўды, камуністы ў колбах выводзілі падобных.

*31 снежня, чацвер*

Апошні дзень года, які забраў гэтулькі родных, блізкіх, сяброў. Званкі, віншаванні. Пазваніў Алесь Лобкіс[5] — дарагі школьны сябра, з ім пачыналі пісаць. Рэдактар «Советской Белоруссии» Алег Здаравенін. Яму ў сакавіку будзе 90. Усё-ткі беларус. Як я й меркаваў, знайшліся нейкія дакументы. З-пад Віцебска. У Сібіры сталі Здаравенінымі нашыя Здаравені. Таму так у яго ў тыя змрочныя гады сэрца хінулася да Беларушчыны. А ўчора папулярнасць дапамагла мне купіць елку. Дзяўчына прадавала. Бацька выкладчык беларускай мовы, сябраваў з Генадзем Цітовічам[6]. Кажу: папулярнасць яўна ж не ў разуменні нябожчыка Чыгрынава. Той усё ўсур'ёз прымаў. Нейкі малы па тэлефоне, не назваўшыся, прачытаў мне мой верш і паклаў трубку. Сынок якіх-небудзь знаёмых. Дамінічка ўбралася ў нейкія шалікі і стужкі ды пахаджвае. Пачынае дзеўчыцца.

---

[1] Гл.: Ясачкі: Трэба сад падразаць і бяліць (29.12.98) // Збор твораў. Т. 3. С. 334.

[2] Чарказян Г. Шамдзін. Мінск, 1998.

[3] Траяноўскі Алесь (Аляксандр Пятровіч; 1925–2005), беларускі перакладчык.

[4] Пашкоў Генадзь Пятровіч (н. 1948), беларускі паэт, публіцыст. У 1996–2008 гал. рэдактар, дырэктар выд-ва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[5] Лобкіс Алесь, аднакласнік; журналіст, настаўнік.

[6] Цітовіч Генадзь Іванавіч (1910–1986), харавы дырыжор, музыказнавец, этнограф. Народны артыст СССР (1968). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1978).

*Лявону Баршчэўскаму*
*на згон стагоддзя*

Лявоне, толькі б мы былі
І з векам новым гаварылі,
І адрастуць у мроі крыллі,
І хопіць ворагам зямлі.

Лявоне, толькі б мы былі
І з векам новым гаварылі,
Па сонцы шлях бы паўтарылі,
А не сціналіся ў быллі.

Мы — свайго ліха кавалі,
Мы — каралі свайго бяссілля.
Лявоне, толькі б мы былі
І з векам новым гаварылі…

## 1999

*1 студзеня, пятніца*

Добры дзень, 1999 год! Напісалася як бы малітва: «Богу ў вочы глядзець…»[1]. Цэлы позны дзень думаў пра маму. Пра тыя мясціны, дзе ўпершыню забілася сэрца, каб біцца дасюль, пра Васіля. Ён адзін застаўся, да каго душа горнецца. Душу грэее адно Дамінічка. Вышыла мне на хусцінцы крыжык і слова *дзедзя*. І хаджу самы багаты.

*2 студзеня, субота*

Дабіваю паэму. За клопатам не адчуваеш, як бяжыць час. Жыву ўжо толькі ў працы. Тады не думаеш, што засталося мала, прынамсі, куды меншая часціна адведзененага Госпадам часу.

*3 студзеня, нядзеля*

Да Алеся Камоцкага. Творча-халасцякоўская кватэра. Аднапакаёўка. А ў ёй вольна, бо няма барахла, бо дух творчасці лунае. На Камароўцы: чарга доўгая па маянэз. Падыходзіць без чаргі й бярэ скрынку нехта. Адна з былых партай[…]: «Я з народнага кантролю, дзе гаспадар, чаму скрынку, чаму без чаргі, выганю з базара». З-пад брызента гаспадар: «А пашла ты ў краму!..»

Званіў Някляеў, віншаваў з Новым годам. І апошняе: «Каб я цябе не хаваў…»

*4 студзеня, панядзелак*

Нарэшце пераклаў гэны «Лябірынт». Аж у галаве паяснела. Калі перакладаў, наракаў на сябе, навошта ўзяўся. А пераклаў — і сумна, што скончылася праца. Я сябе мушу, як той камін, загружаць дрывамі працы, каб і гарэць, і дыміць, і самому ж чадзець.

*5 студзеня, аўторак*

Не раўнуючы, як пасля разводу, хаджу без клопату, які вісеў на шыі жарнавенем. Хадзіў па гарбату на Камароўку. Дзед, скінуўшы шапку, колькі горла трывала, спяваў «Оренбургский пуховый платок». Толькі замест *арэнбургскій* падстаўляў *менскі.* А ніхто нічога ў шапку не кідаў. Тады ён: «А вашу маць, нічога не даяце, не буду бясплатна спяваць!»

---

[1] Гл.: «Богу ў вочы глядзець…» (1.01. 99) // Ксты. С. 185.

Перапісаў свае вершы з блакнота нанова: «Ды хвалявалася…»[1] «Ліст восьмы»[2], «Ясачка»[3], «Каб толькі…: Дзяруцца ўверх па вертыкалі…» [у дзённіку].

*6 студзеня, серада*

У «Чырвонку» [«Чырвоную змену»] да Алеся [Карлюкевіча]. Яму сёння 35. Цудоўны ўзрост. Лічбы і ўзад, і ўперад чытаюцца добра. Перапісваў дзіцячую забавачку «Улазіны»[4], у зборнік трэба. Вечарам пасядзелі за свечкамі. Дамініччына свечка гарэла даўжэй за ўсіх. Так і трэба.

*7 студзеня, чацвер*

Перадрукоўваў вершы й казкі для дзіцячае кніжачкі. На змену […] Лукшу прыйшоў сымпатычны беларус Алесь Камароўскі[5]. Гэта добра. За поўнач шукаў шырэйшыя цытаты псальмоў Давідавых.

*8 студзеня, пятніца*

Да Алеся. Звадзілі тэксты з ягонымі песняспевамі на заўтрашнюю вечарыну з маладымі ўніятамі. Боскі голас Алесеў светла славіць Госпада.

*9 студзеня, субота*

У Беларускай хатцы выступалі з Алесем перад уніятамі. Прымалі добра. Пазнаёміўся з айцом Андрэем Абламейкам[6]. Ён з «Талакі»[7] выхадзец. Бацька з-пад Міра. Камуністы не змаглі канчаткова вынішчыць беларускі дух. Рыгор Сітніца пра айца Андрэя: «Тут свядома станеш уніятам. У гэтага святара пагонаў няма». Як гэта сэрцу ўсцешна — слухаць беларускую мову з вуснаў уніяцкага святара! Душа маладзее.

*10 студзеня, нядзеля*

Сойм БНФ. Трошкі шумна. Лявон [Баршчэўскі] паставіў пытанне пра давер да яго. Усе падтрымалі. Нейкія падскепіны ў фронце адчуваюцца.

---

[1] Гл.: Ды хвалявалася… (5.01.99) // Ксты. С. 323. Параўн.: «Лету пасланне пісаць…» (6.06.82) // Дзённікі і запісы. Вып. 3. 1979–1982. Мінск: «Кнігазбор», 2016. С. 230.

[2] Гл.: Ліст восьмы: Чалавечае сэрца… (5.01.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 34.

[3] Гл.: Ясачкі: Цень недзе там у Тураўлі, ў Цётчы… (5.01.99) // Збор твораў. Т. 3. С. 334.

[4] Гл.: Улазіны (6.06.99) // Як воўк калядаваў. С. 39.

[5] Камароўскі Алесь (Аляксандр Адамавіч; н. 1947), беларускі пісьменнік. У 1990–1998 гг. заг. аддзела крытыкі і мастацтва час. «Маладосць», у 1998–2002 гг. дырэктар выд-ва «Юнацтва».

[6] Абламейка Андрэй Паўлавіч (н. 1970), святар грэка-каталіцкай царквы. З 1998 г. пробашч касцёла св. Язэпа ў Мінску.

[7] «Талака» — незалежнае гісторыка-культурнае аб’яднанне моладзі (1985–1990).

*11 студзеня, панядзелак*

Занёс у «Юнацтва» «Як воўк калядаваў». Можа, выйдзе. У «Мастацкай» зняў пытанні па рукапісу трэцяга тома. Заходзіўся ў «Нёман». Хлопцы круцяцца: ці купіць паперы на два нумары й застацца без зарплаты й ганарару аўтарам, ці купіць паперы на адзін нумар. Папера шалёна каштуе. Бо прычапіліся да Расіі, як сляпы да гнілога плота. Адсюль — і вынік.

«Ясачка»[1], «Ліст дзевяты»[2]. «Будзьце!» (Памяці Я. Якубоўскага[3]) [у дзённіку].

*12 студзеня, аўторак*

Ты на гару, а чорт за нагу. Вушацкая прымаўка праўду кажа. Гэтак схапіла галаву, што не змог пайсці да сваіх любых татараў. Праваляўся дома.

*13 студзеня, серада*

Нарэшце! Перадрукаваў пераклад паэмы. Як гара з плячэй. А на душы неяк пустэчна. Не магу без працы. Мушу нешта рабіць, хоць тое й вісіць на мне цяжарам.

Усплыло раптам, што за часам савецкай імпэрыі [...], што шмат хто чытаў сваіх як быццам сяброў толькі ў маскоўскай прэсе. Помню, як Максім Танк віншаваў мяне з вершамі ў «Лит[ературной] газете». Хоць перад гэтым яны даўно былі ў «Полымі».

*14 студзеня, чацвер*

Аднёс Саверчанку ў сядзібу пераклад «Лябірынтаў» [Яўлевіча]. З прыпіскай:

Ці недасоленка,
Ці пераперчынка,
Ці проста посны зман,
Хай скажа сам
Спадар Саверчанка,
Сын Васілёў, Іван.

У краме «Крышталь» савецкія чэргі на кілямэтр. Заўтра даражэе гарэлка ўдвая. [Лукашэнка] зноў скажа, што без яго [падвысілі цаны]. А затое на вуліцы такі снег.

---

[1] Гл.: Ясачкі: Пень стахлы і атожылак тугі... (11.01.99) // Збор твораў. Т. 3. С. 334.

[2] Гл.: Ліст дзевяты: Памяць... (11.01.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 35.

[3] Якубоўскі Якуб (Якаў Адамавіч; 1932–1998), беларускі географ і гісторык. У 1991–1998 гг. гал. рэдактар час. «Байрам». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

*Шляхетна*

Шляхетна снег спадае на зямлю
Міглівымі імгненнямі спакою.
Цяплей дрыжаць азябламу галлю,
Паблісківаючы ледзяной лускою.

Яшчэ сваё завея адмяце,
Усхопіцца прыспалая трывога.
А покуль у каляднай светлаце
Шляхетны снег
І больш няма нікога.

*15 студзеня, пятніца*

У майстэрню Каміля Камала[1]. Цікавы мастак. Нутром адчувае пра Усход. Без арнамэнтальнае экзотыкі. Усход у Каміля ўважліва, але незаўважна для яе, глядзіць на Эўропу. Сябра Камілеў назваў Расею блуднай дачкой Усходу. У гэтым нешта ёсць. Расчуліў малады чалавек. Бацька талыш, а маці беларуска з-пад Маладзечна. Першыя словы, якія ён пачуў там, у Азербайджане, былі: ата (бацька) і бацян. Добра валодае беларускай мовай, але саромеецца карыстацца, каб не рабіць памылкаў. Ён стрыечны брат Кахіна, які выдаў Ганадаву кніжку. Каміль вясёла заўважыў, што ў мурашоў на бывае бамжоў. Напрыканцы прыйшоў сусед па майстэрнях і цікава распавядаў пра жарсць падлёднага лову. Халодны, галодны, без рыбы вяртаецца апошні з цёмным з Менскага мора. А ўгары цёплыя агеньчыкі самалёта. І падумалася, што недзе людзі як людзі, а ён як цуцак. Клянецца, што кіне-рыне ўсё, а праходзіць час — і зноў на падводны лоў. Нешта падобнае ў мяне з перакладамі. «Развітанне з рэхам: Край скалы — пачатак палёту...» [К. Камалу; у дзённіку].

*16 студзеня, субота*

Галаўны боль шалёны. Хадзіў у філармонію па капейкі. Цэны растуць, усе ўсё хапаюць.

*17 студзень, нядзеля*

Хачу ўжо які год крыху ў парадак прывесць кнігі, рукапісы. Дзе пачынаю, там і кідаю. Каб гэта зрабіць, трэба час і душэўны спакой. Бо за кожным лістом, запіскай гэтулькі ўспаміннага і ўжо цалкам дарагога, бо імгненныя эмоцыі пагаслі. Як быццам выпаліў камін, заклаў люшку й цё-

[1] Камал Каміль (Камал Гамза аглы Гаджыеў; н. 1954), азербайджанскі і беларускі мастак. Гл.: Каміль Камал // Дуліна ад Барадуліна. С. 90.

плы дух ахапіў ўсяго цябе й хату. Як распальваў, як гарэлі дровы — усё забылася. Толькі прыгаслы жар і прысак напамінаюць, адкуль цяпло.

*18 студзень, панядзелак*

У «Мастацкую». Аднёс Ганадаў трыпціх, прысвечаны Купалу. Выйшлі Валодзевы [Караткевіча] «Каласы [пад сярпом тваім]». Вонкава добра, праўда, крыху шаблонна — але панавіта. Ды важна, што тэкст ёсць. І ўсё гэта тыражом 4 тысячы. Шкада. І 50 тысяч было б мала. Дзякуй Богу, што паспеў я выдаць Збор твораў. І Валодзеў, і Васілёў. Хацеў хоць чатыры тамы Дубоўкі[1]. Позна. Дый мяне папрасілі з выдавецтва, каб не спрыяў ненавіснаму камуністам нацыяналізму.

*19 студзеня, аўторак*

Хварэў. Выпісваў з «Псальмоў Давідавых» вершы, каб потым чытаць перад спевамі Алесевымі. Усё-ткі ў старых перакладах перададзены дух вышэй і ўрачысцей. У Сёмухі па-сучаснаму, крыху апалешана, апаляшучана. Як кніга для шырокага чытання дужа патрэбная. А раманс штурхануў пад рабрыну. «Раманс»[2].

*20 студзеня, серада*

У Чырвоны касцёл з Алесем выступ. Былі будучыя друкары гадоў па пятнаццаць. Ім усё да суцэльнай электрыфікацыі, а не тое каб да лямпачкі. Адчуваеш сябе апошнім дурнем, калі выступаеш перад такой публікай. Гэта яшчэ па інэрцыі саўімпэрыі імкнешся выступаць перад так званай публікай. Невыпадкова бардэлі публічнымі дамамі завуцца. Выступаць з вершамі трэба ў салёнах, якія камуна[…] ліквідавалі як клясу, па іхнаму выразу.

*21 студзеня, чацвер*

З Карлюкевічам да прафэсара Шалькевіча. Прапісаў яшчэ лекаў, якія мне ўжо не па кішэні робяцца. У «Нёмане» замочвалі Ганадаву кніжку. Потым з яўрэямі ў хэсэдзе. З Самсонам прабілі назву Клубу творчай інтэлігенцыі «Семцорэс» (сем бедаў). Каб весялей было.

*22 студзеня, пятніца*

Да Карласа. Даў перакласці швэдаў.

---

[1] Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч (1900–1976), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962). Быў рэпрэсаваны.

[2] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Чакаю Вас, абы паверыць цуду… (19.01.99) // Збор твораў. Т. 3. С. 324.

*23 студзеня, субота*

Перакладаю. Разумею, чаму так лёгка пішуць, бо кампутары маюць. Усё-ткі пяром пісаць неяк цяплей. Зусім іншы свет і ўспрыманне свету. Спакойныя людзі, маюць час падумаць, каб аж цяжка зразумець было напісанае.

*24 студзеня, нядзеля*

Перакладаў і рыхтаваў свае вершы ў Швэцыю. Карлас прасіў. Хоць ужо такі час і ўзрост, што не хочацца ні публікацый, ні хімернай славы, якая быццам бы чакае цябе за мяжой. Апроч самога сябе нікому ўжо ты не патрэбен.

*25 студзеня, панядзелак*

Да Карласа. Аддаў перакладаў часціну й адксэрылі вершы. Учора Дамінічка прыдумала загадку пра лес: «Стаяць палкі′ на тры бакі, а палкаводца няма». Калі Валя сказала: на чатыры. Яна ў адказ: «Тады не ў рытм будзе». Дужа адчувае мову. Пісаў верш: «Першае: Спатканне першае…» [у дзённіку].

*26 студзеня, аўторак*

Ледзьве не сканаў ад галаўнога болю. Крыху расшабуняўшыся, перакладаў швэцкую прозу Карласу. Сёння 85 цешчы[1]. Валя хадзіла з Дамінічкай. […].

«Песня: Мы аднойчы патрапілі ў рай…» [у дзённіку].

*27 студзеня, серада*

Пераргрукаў швэцкія апавяданні. Перачытаў і, як некалі Чыгрынаў, застаўся задаволены сабой. Яшчэ не зусім выстарыў мазгі. Дарэчы, адчуў, што й самому варта было ўзяцца за прозу. Але, відаць, часу не будзе да скону.

*28 студзеня, чацвер*

Прыехала Ірына Міхайлаўна. Занёс ёй Васілёвы грошы. Васіль сумуе, але ўсё-ткі яму там лепей. На выспу Готланд едзе [Алексіевіч] са сваёй Машай[2]. […]. Хадзіў да Камоцкага. Можа, зробім альбом «Шляхетныя рамансы».

«Раманс»[3].

---

[1] Сталярова Таццяна Харлампіеўна (1914–2005), маці В. Барадулінай.

[2] Вайцяшонак Марыя Антонаўна (н. 1942), беларуская паэтэса, празаік, журналіст.

[3] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Спадарыня, дазвольце пачакаць… // Збор твораў. Т. 3. С. 324.

*29 студзеня, пятніца*

Прыехала Іна Снарская[1]. Шалёная паэтка. Сапраўдная. Яе суправаджае драны Майсюк. Перадаў просьбу Кісялёвай Яніне[2], каб Міхасю Скоблу[3] далі магчымасць азнаёміцца з лістамі Ларысы Геніюш да Васіля. Васіль даў дазвол. Скобла рыхтуе самае поўнае выданне нашае святое пакутніцы. «Раманс»[4]. Прыехала Ілоначка. На душы неяк развіднела. Крывіначка мая балючая, люблю яе, шкадую яе, малю Бога за яе.

*30 студзеня, субота*

Ад радасці, што прыехала Ілоначка, здзяцінеў — напісаў прыгоды літары й казку-пераказку «Згоду звада счубіць рада»[5].

*31 студзеня, нядзеля*

Апошні дзень студзеня. Яшчэ адзін год разменьваецца. Колькі студзеняў у мяне засталося? Усявышні ведае. Колькі дасць, гэтулькі й будзе. Нядаўна прыйшло новае «Полымя». Запіскава-фрывольныя вершы Якуба Коласа. Аж пацяплеў бронзавы, пачалавечнеў. Яшчэ болей класікам стаў. Бо за камуністамі толькі правільныя вершы, крок улева, крок управа — уцёкі, стрэл. А наогул, калі балты ў савецкі час жылі, яны заставаліся нацыямі. І пісьменнікам было да каго звярнуцца, адчуць маральную падтрымку. У нас нейкая суспэнзія, а не нацыя. «Карані: Жыццё — лісцё, а памяць — карані...» [А. Грыцкевічу[6]; у дзённіку].

*1 лютага, панядзелак*

У Купалавай хаце вечарына прафэсара Грыцкевіча. Ладзіў клуб «Спадчына»[7]. Добра й цёпла прайшло. Нагадаў, што яшчэ Купала казаў

---

[1] Снарская Іна Станіславаўна (н. 1969), беларуская і ўкраінская паэтэса; тэлежурналіст. З 1987 г. жыве ў Палтаве (Украіна).

[2] Кісялёва Яніна Міхайлаўна, супрацоўніца Навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАНБ. Жонка Г. Кісялёва.

[3] Скобла Міхась (Міхаіл Уладзіміравіч; н. 1966), беларускі паэт, літаратуразнавец, эсэіст, публіцыст. У 1998–2000 гг. супрацоўнік час. «Бярозка», у 2000–2007 гг. супрацоўнік МГА «Беларускі кнігазбор», у 1999–2017 гг. супрацоўнічаў з Радыё «Свабода». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2000), Міжнароднай літаратурнай прэміі «Воін святла» (Украіна, 2917). Гл.: Міхась Скобла // Дуліна ад Барадуліна. С. 30.

[4] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Я прашуся ў парабкі да Вас... (29.01.99) // Збор твораў. Т. 3. С. 325.

[5] Гл.: Прыгоды літары; Згоду звада счубіць рада (30.01.99) // Як воўк калядаваў. С. 5; 7.

[6] Грыцкевіч Анатоль Пятровіч (1929–2015), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч. Доктар гістарычных навук (1986). Прафесар (1987). У 1975–2006 гг. заг. кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

[7] Гісторыка-асветніцкі клуб «Спадчына» (з 1984).

пра Грыцкевіча: «Прыйдзе новы — а мудры — гісторык, а ён прыйдзе, ужо ён ідзе…»[1] Купіў V том Купалы. Савецкі перыяд. Што змагла зрабіць улада крымінальнікаў з генія. Жудасна! Добра нехта сказаў, што ў Слуцку некалі раней елі не хлеб з салам, а сала з хлебам. Перадаў Аліне Астравух[2] трохтомнік Максіма Багдановіча й том «Живописной России»[3]. Шчырая душа, ёй патрэбна, а я браў у запас, каб каму потым прэзентаваць. Засмуціў Ганад — ніколі ні слова па-курдску не напіша, усё па-армянску. Няўжо зусім не ведае пісьмовай сваёй мовы? Шкада.

*2 лютага, аўторак*

Цэлы дзень перадрукоўваў пераклады й вершы ў «Нашу ніву»[4]. Хай нешта дадуць. Ілоначка дома — і душа на мейсцы. Хай бы ўсё было, як даўней, калі жылі ці ў вадной хаце, ці хата ў хату, хата праз дарогу. Усё пабурана, усё параскідана.

*3 лютага, серада*

На радыё «Свабода». Гутарыў з Лукашуком і Навумчыкам па тэлефоне. Лукашук даў заданне напісаць 10 словаў у радыёслоўнік[5]. Мне гэта падабаецца.

*Здарэнне*

Сустрэцца са шчасцем хацела гора.
Піла міравую з немаччу сіла.
І рэчку рыбіна несла ў мора.
Дзяўчына горад вачмі падпаліла…

*4 лютага, чацвер*

Сарачыны па Навуму. Прыехала Надзя [пляменніца] з Грэцыі. Навум ёй завяшчаў кватэру. Бацька хоча падзяліць напал і прадаць. Жыццё йдзе, як і вякі назад.

Мне неяк пачалі пісацца чатырохрадкоўі. Самсон прапанаваў назваць нізку «Нябожчык вяртаўся дадому».

---

[1] Радок з верша Я. Купалы «Песня будаўніцтва» (1931).

[2] Астравух (Сабуць) Аліна Эдмундаўна, беларускі літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук.

[3] А. Г. Киркор. Живописная Россия. 1882. Рэпрынтнае выданне.

[4] «Наша ніва» — беларуская газ. (з 1991; з 2018 г. перанесена ў інтэрнэт).

[5] Слоўнік Свабоды: XX стагодзьдзе ў беларускай мове: Слова на дзень для памяці і для роздуму. [Мінск:] Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода. 2012.

*

Капытамі мяняўся конь
З буйвалам, прысеўшы на пень.
Пад ваду хаваўся агонь.
І гуляў з ноччу ў жмуркі дзень.

*

І пасеяла каса траву,
І касіла, каб расла хутчэй.
Валасы шукалі галаву.
Білі іскры ў каменя з вачэй.

*

Бераг прызначыў сустрэчу парому,
Ды збегчы яго падахвоціла чаіца.
Рэха казыча пяткі грому,
І ён рагоча — аж заікаецца.

*5 лютага, пятніца*
У «Мастацкую». Разлік жабрачы.

*

Цень-карацень і смех высокі
Адсырэлі ў людской чарадзе.
Дарогу ў спёкі пыталі аблокі.
Грэлася думка ў халоднай вадзе.

*

Знадакучыла дню веснавому расці.
Захацелася праўдзе пабыць маною.
Дадому нябожчык наважыўся йсці,
Бо стала зноўку труна сасною.

*

Навучыўся ірзаць авёс.
Патушыла мора сініца.
Заяц страх свой у торбачцы нёс.
Дрэнны сон хацеў перасніцца.

*

Чухаў за вухам корань суку.
Тапор часаў сваё тапарышча.

У госці рак часаў па пяску.
Часала коміну чуб гарышча.

*

Бронзавы помнік па бруку ступаў глушэй.
Цвёрдалобы абух абняславіла плётка.
Давялося кату калыхаць мышэй,
Пакуль змагалася за эмансіпацыю котка.

*

Сам сябе цень пад раніцу з'еў.
У падкову закахаліся вухналі.
Адам выбіраў найлепшую з Еў,
І яблыню з раю выгналі.

*

Цалавала лапу мядзведзю пчала.
Калючкі з сябе павыдзерла ружа.
У пекле страйк пачала смала,
Бо ў катле ёй душна задужа.

*

Качаўся па лузе буланы дах —
Спіна зацякла дажджамі.
Ляцеў падлесак — падбіты птах
У ледавікоў над лычамі.

*

Змрок пагоркі запіхвалі ў хатулі.
Любіла туга апрануцца стракатa.
Урокі брала змяя ў пятлі.
Ахвяра сама выбірала ката.

*6 лютага, субота*

Зноў узяўся за навядзенне быццам бы парадку ў сваім лавэры. Знайшоў шмат цікавых лістоў. Зноў пісаў чатырохрадкоўкі:

*

Выступіў пот на кратах іржой.
Няволя ўлешчвала ахвоту.
Прымерала роспач на шыі чужой
Каралі з калючага дроту.

*

Чырвоным рабіўся бычок рабы.
Пры пасадах сабакі свінелі.
На сябе ланцугі кавалі рабы,
Стараліся, каб весялей звінелі.

*

Казаў вяпрук вепруку:
— Сустрэнемся на круку.
Кажух прамаўляў да свечкі:
— Выйшлі мы ўсе з авечкі.

*

Кожнаму рабу па гарбу
І яшчэ ружовую прызму
Бачыць свет. І на ўсе ідэі табу,
Апроч светлых ідэй табунізму.

* Дамініка: «Ну проста смехатня».

*7 лютага, нядзеля*
У галаву болей не йдуць вершы. Разбіраю кніжкі й лісты. Калі я ўжо хоць трохі прывяду да ладу сваю папяровую гаспадарку?

*8 лютага, панядзелак*
Занёс Міхасю Скоблу ліст ад Геніюш і вершы, якія дасылала мне нашая святая пакутніца на палосках паперы, на машынцы надрукаваныя, з аўтографамі. Тут ёсць, якія нідзе не друкаваліся. Як мне падабаецца Міхась — таленавіты, выхаваны, далікатны. Усё-ткі ўскочылі ў галаву два:

*

Ап’янеў бярозавы сок
На вяселлі хрэна з гарчыцай.
Папярхнуўся пылам пясок.
Стала воблака камяніцай.

*

Уцёк з брыльянта карат
У некранутасць прасіцца.

Эзопаў[1] рыжэў вінаград
І зелянела лісіца.

*9 лютага, аўторак*

Сяджу дома. Перабіраю паперы. Яны мяне амаль выцеснілі з пакою. Такое адчуванне, што выцягнулі з мяне сарцавіну — і я самы верны кандыдат у пні. Не магу трываць шматслоўя, пустой балбатні. Хутарэю.

*

На неба з зямлі падаў ліпеньскі снег.
Зязюля сваіх дзяцей гадавала.
Вавёрка мядзведзя клікала на начлег
І свабоду выбараў гарантавала.

А Ілона дала мне ідэю верша: «Што?»[2]

*10 лютага, серада*

Ваяваў з паперамі. Пісаў словы для слоўніка Радыё «Свабода». Стараўся, каб было весялей і палітычна акрэслена. Кажуць, выступаў [Лукашэнка] і крычаў: «Я даў Някляеву прэмію, а яны ў Саюзе хочуць незалежнасці. Я дам пісьменнікам незалежнасць — не дам ні капейкі!» [...] рэстаўратар сацыялізму. «Ліст дзесяты»[3].

*11 лютага, чацвер*

На «Свабоду» гутарыў з Аленай Радкевіч з Прагі. Чытаў псальмы, тры словы ў слоўнік «Свабоды» — *клёцкі, скуранка, радыё*[4]. Неяк раніцай пазванілі з «Полымя», каму прэміі рэдакцыя назначыла. Сярод іх і Зуёнак. За тое, што прадаў Саюз пісьменнікаў?

Напісаліся яшчэ як бы «дурноціны», не, усё-ткі ў нізку «Нябожчык вяртаўся...»:

*

Жаба зявіцца: «Усіх камароў праглыну».
Змрок зорцы з маладзічком крыкнуў: «Горка!»
І хочацца выкаціць сябе валуну
І ўскочыць прышчыкам на носе ў пагорка.

---

[1] Эзоп, старажытнагрэчаскі байкапісец (VI ст. да н. э.).
[2] Гл.: Што? (9.02.99) // Босая зорка. С. 101. Верш прысвечаны дачцэ Ілоне.
[3] Гл.: Ліст дзесяты: На радзіме расьце трава... (10.02.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 36.
[4] Слоўнік Свабоды. С. 197; 355; 324.

*

Воўк лыкі драў, каб лапці сплесці
І падацца сватацца ў новых лапцях.
Над лёсам задумаўся карп у цесце,
Рак у катле стаў савецкім, як сцяг.

* Дамініка пра міліцыянераў у плямістай форме: «Далмацінцы».

*12 лютага, пятніца*

На Камароўку. Мірону «9 жыццяў», сваім хворым лімонаў. Званіў Васіль. Сумна прагучала: «Можа, убачымся». Божанька, дай яму дзён багата!

*

Воўк перад авечкай не прызнаваў віну.
Хваліўся шэршань пяшчотным джалам.
Хацелася выкаціць сябе валуну,
Каб стаць свайму помніку п'едэсталам.

*13 лютага, субота*

З Самсонам у Раўбічы. Фільмы [паказвалі], і чытаў пераклады з яўрэйскай паэзіі. Мову фактычна сваю забыліся. Асіміляваныя, зрусіфікаваныя — вынік палітыкі партыі крымінальнікаў. І ўсё ў яўрэяў, як у людзей. І сваркі, і звады, і барацьба за дапамогу, якая йдзе, як некалі пісалі, з-за акіяна. Палякоў казаў, што гэта кафкіянства нейкае, што выставу пра яўрэйскі тэатр зрабілі ў доме, дзе пачыналася партыя, якая сваёй галоўнай, лічы, задачай ставіла антысемітызм.

*14 лютага, нядзеля*

Званіла Галя Варатынская з Вушачы. Тонкая, утрапёная душа не можа вынесці раённы савецкі ідыятызм. Чым дапаможаш? Кажу: «Пішыце і не звяртайце ўвагі на ўсё». Але раіць лягчэй. З Ваўкавыска на радыё на маё імя прыйшоў ліст. Напаўвар'яцкім почыркам і стылем пра цётку, у якой 50 гадоў стажу, потым чысціла туалеты хіміяй, шкоднай здароўю. Памерла, так і не пад'еўшы ўсмак ліверу. Капалі магілу. Там пень. Выдраць не мелі моцы. Пахавалі ў чужую магілу, а ўлады мясцовыя не даюць дазвол на перазахаванне. Чым я магу дапамагчы? Адна Дамінічка радуе. Друкуе вершы на машынцы. Глыбінна адчувае мову беларускую, хоць вонкава захламлена расійскай бытавой. Гэта, відаць, ад прабабкі Куліны.

*

Азяб рукаў у вясёлкі.
Ад сораму пачырванелі ракі.

Вожык мусіў прадаць іголкі,
Каб футра купіць у сабакі…

*

Паэце! Пакуль жывеш,
Да сэнсу дакопвайся, тумкай.
Галоўнае, каб праз белы верш
Чырвонай ніткай праходзіла думка.

*15 лютага, панядзелак*

Да Алеся Камоцкага. У яго атрымаліся добра псальмы. Голас — гэта ўсё. «Раманс»[1].

*

Ураджай хацеў спадабацца насенню.
Лістку пацiснуў агонь даланю.
Карабацілася не варухнуцца ценю.
Гарбацілася пабегчы пню.

*

На зуб правярае адлега лёд.
Пра пасаг маладухі задумаўся старац.
У чорных пpаталінах белы кот
Пераходзіць дарогу, як марац.

*16 лютага, аўторак*

Хадзіў у «Полымя», у выдавецтвы маё былое й ў «Юнацтва». Цішыня, як у возеры пад лёдам, — каб тхло дзе. [Лукашэнка] разліў страх, дакладней, падсвяжыў савецкі […].

*

Чарка чокалася са скваркаю.
Апраналася сажа бела.
Спякотна сухадрэвіна каркала.
Марозна варона скрыпела.

Званю Рэлесу, апошняму яўрэйскаму паэту, які піша на ідыш, у яго памерла жонка. Пытаюся: «Як жа Вы адзін будзеце?» Адказвае: «Неяк ужо дацягну». Колькі стрыманага суму ў гэтых словах. А колькі сумнай роспачы ў лісце Васіля з Фіншчыны: «Я тут шмат працую, але не затым, што з мяне прэ літ-ра, а каб не маркоціцца. Пішу, пішу, а пасля задумаюся — а

[1] Гл.: Шчымлівыя рамансы: Валадарыня варажбы… (15.02.99) // Збор твораў. Т. 3. С. 325.

навошта? Дзеля чаго? Каму тое трэба? На пацеху? Каму?» І каментара не трэба.

*17 лютага, серада*

Цэлы дзень перазваньваўся з Белым. Ён шмат чаго ўжо дасяг, каб паставіць Крыж у Курапатах. А тут розныя зайздрослівыя імпатэнты, таго не ўсведамяючы, пад нашэпт гэбістаў задумваюць валтузню. Той самы фалафальклорны апазыцыянэр Купава[1]. Да Купалы не толькі літары не стае. Лявон Баршчэўскі згодны са мною, што трэба падтрымліваць тых, хто працуе на Беларушчыну.

«Ліст адзінаццаты»[2]. І пашлю Васілю.

*Неакрэсленае*

Смуга пасла
Свайго пасла,
Каб па даўгі
Ў лугі пасланць.
Рака ўцякала без вясла,
Каб для тугі
Пасцель пасланць.
І слухала смугу
Вясло.
І небу ўспаміна ўся
Ной.
У качара чаўна было
Вясло
Апошняй пер’іной…

*18 лютага, чацвер*

Схадзіў у ПЭН. Думаў, што трэба вычытваць свае пераклады. Аж давялося вычытаць некалькі сваіх вершаў, якія швэды пераклалі. У асноўным белыя. Гэта й кампутар можа. У Эўропе й манэты з замяняльнікаў сапраўднага мэтала й адпаведна словы, каб лягчэй насіць і ў кішэні, і ў галаве. Паэзіяй займаюцца не болей, чымся крыжаванкамі і ў Эўропе, і ўжо ў нас пачынаюць.

[1] Купава Мікалай Мікалаевіч (н. 1946), беларускі графік. У 1998–2004 гг. старшыня суполкі мастакоў «Пагоня».

[2] Гл.: Ліст адзінаццаты: Хапае на гэтым сьвеце сьвятла... (16–17.02.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 37.

*19 лютага, пятніца*

Канчаюся з галавой. Хоць вешайся. Гэтакі боль. Усё няміла, роспач. Пішу, каб не звар'яцець, каб не рэхнуцца, як у нас казалі. «Мыта: Чым далей…» [у дзённіку].

*

Камар на куццю крупы ў жорнах тоўк.
Кот прадаваў мяхі на базары.
Пісаў успаміны на авечае шкуры воўк,
Як ён ратаваў ягнят на пажары.

*Паэта*

*Успамінаючы Аркадзя Куляшова*

Натое й дадзена было натхненне,
Каб стаўся мысляром і цесляром.
І склюдаваў пяром радкоў бярвенне,
Ажно ад зайздрасці пакрэктваў гром.

І будаваў для вольнай думкі хату.
Бурштынілася шчырая смала.
За працаю адбыў зямную рату.
І хата цесляра пераўжыла.

Задумалася Бесядзь ці Каяла,
Чыйго на хвалях ценю не стае.
А хмарка магілёўская стаяла
Над хатаю.
Бо запыніў яе…

*20 лютага, субота*

Сёння ўжо вяршыня болю. Паміраю. Званіў з Баранавічаў Рамейка[1]. Ужо, здаецца, усё ўзяў, што мог, ад жыцця ў выглядзе платы. А задае пытанне, думаючы за пляшкай на стале, куды йсці. Пытанне вечнае, пытанне неадступнае. Вядома, куды, толькі да Бога. А вось як? Каб адказаць на яго, і жыцця мала. І як трэба жыць, каб Бог прыняў? Хаця б выслухаў. «Прайшло…: Так і прайшло нявогляддзю жыццё» [у дзённіку].

*

Знадакучыла грому грымець.
Быў дарэчы ісціне недарэка.

[1] Рамейка Уладзімір Паўлавіч (1937–2012), беларускі мастак, графік, чаканшчык.

Са скамарохам вучоны мядзведзь
Змагаўся за права чалавека.

*21 лютага, нядзеля*

І зноў сяджу дома. І зноў канчаюся з галавой. Сам сабе знадакучыў, такі недалужны. Ні сядзець, ні ляжаць, ні што робіць, ні спаць. Самая што ні ёсць нягеглая старасць. А душа не хоча зміырыцца. «Клопат»[1]. Хадзіў па хлеб, які ўдвая падскочыў у цане. Добры снег, думкі пра Васіля, якому паслаў ліст, усё разам навеялі: «Выгнанец»[2].

*22 лютага, панядзелак*

Да Тараса. Узяць кнігу Георгія Коласа[3]. Будзе прэзентацыя. Трэба выступіць. Прыйшла свежая «Культура»[4]. Вярцінскі стаў там намеснікам [...]. І адразу пачаў рэанімацыю Лужаніна. Яшчэ пра нейкіх масонаў, жыдамасонаў менцяць. Самая магутная й незлічоная ложа масонская — гэта кэгэбісты, стукачы. У Лужаніна пагоны шырэйшыя (казалі, было іх два гэнэралы КГБ — Лужанін і Віталь Вольскі) [...]. [...].

Унук Тарасаў Антон[5] піша сучасныя кампутарныя вершы, якія называе, як і ўсе, тэкстамі. Пачытаў зборнічак. Як ва ўсіх. Не адрозніш ад Анціпенкі[6] ці нават ад Разанава[7]. Што трэба, каб яны сталі вершамі ўсё-ткі? Нечаканыя, парадаксальныя вобразы, павароты думкі й хаця б блядненькую якую мэтафару. А так — гэта падцёк свядомасці. Модна. Робатна-кампутарна. Можа, і прыйдзе пакаленне, якое гэта будзе ўспрымаць як паэзію.

*

Забыўся госць забыцца дома злосць.
Пад старасць ордэн закахаўся ў стужку.
«Для подзвігу заўсёды месца ёсць», —
Сказаў шчупак, глыбей нырнуўшы ў юшку.

---

[1] Гл.: Клопат (21.02.99) // Ксты. С. 334.

[2] Гл.: Выгнанец (21.02.99) // Босая зорка. С. 86.

[3] Колас Г. Карані міфаў: Жыццё і творчасць Я. Купалы. Мінск, 1998. *Колас* Георгій Данілавіч (1929–1994), беларускі тэатральны крытык, публіцыст, кінадраматург, літаратуразнавец.

[4] «Культура» — грамадска-палітычная газета (культура, мастацтва; з 1991).

[5] Тарас Антон Вітальевіч, беларускі журналіст, паэт.

[6] Анціпенка Алесь (Аляксандр Ільіч; н. 1953), беларускі філосаф. Кандыдат філасофскіх навук (1986). Каардынатар праграм Фонду Сораса.

[7] Разанаў Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; 1947–2021), беларускі паэт, перакладчык. У 1994–1999 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Крыніца». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (1990).

*

У лысага дыбарам валасы ўставалі.
Выбіралі ў курыны парламент соў.
Алоўкі ў пенале пратэставалі
Супроць высякання лясоў.

Усё ў галаве стаяць тэксты маладога Тарасяняткі. Ужо й назоў *вершы* выцясняецца з ужытку. Паступова выцясняецца паэзія як рытмізаваныя радкі з вобразамі й мэтафарамі, а паэзія — успрыняцце свету, ідзе прагматызм, уніфікацыя, штампы.

«Не адкажа...»[1].

*23 лютага, аўторак*

Ужо, выходзіць, трэці раз чытаю Коласа Георгія. І кожны раз знава. Раней было рэдагаванне. Цаны няма дакументам. І гэта зрабіў вонкава піжон, багэмшчык, заляцальшчык зацяты, забулдыга быццам бы. Якое ж здаровае нутро, які пратэст супроць савецкага ўсяго. Па генах. Гадавалага ўзялі разам з бацькамі. Рос як спецперасяленец, як сын кулака. Ды прагны быў на веды, ды прагны быў на волю.

*24 лютага, серада*

Вось мне й стукнула, ці грукнула, 64. Калі чытаць злева направа, болей суцешлівая лічба. Званіў Радзік з Чыкага, Васіль з Хельсінкаў, Мікола Кірпіч з Вушачы, між іншым, паведаміў, што Вушача па вушы ў снезе. З Віцебска Язэп [Іосіф] Навумчык, з Вушачы яшчэ Галіна Варатынская, Генадзь нада мной [Бураўкін], Пятро Валкавец[2], Артур [Вольскі], Дракахруст[3], Лайкоў, Шмэрлінг[4], Панізнік. Штогод меней і меней тых, хто помніць пра гэты даўні звычай — віншаванне ймянінніка. Заўсёды раней прыходзіла тэлеграма з Вушачы ад Пятра. Няма гаратніка. Адмучыўся, адпакутваў, адпіў і не дужа сытна ўеў. Кожны раз імяны напамінаюць, што йдзем з гары. Пад гару сваё адхадзіў, штогод страшней робіцца ад адчування, што ад сустрэчы з кашчавай нікуды не ўцячэш. А яна бліжэй і бліжэй. Здаецца, што й не жыў зусім. Пабыў у нейкім дужа натуральным тэатры. А тэатр гэты — жыццё. Заслона апускаецца хутка.

---

[1] Гл.: Наўрад (22.02.99) // Anima. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2011. С. 255.

[2] Валкавец Пётр, беларускі мастак-карыкатурыст.

[3] Дракахруст Аляксандр Абрамавіч (1923–2008), рускі паэт, перакладчык.

[4] Шмерлінг Міхаіл Маркавіч (н. 1946), беларускі фотамастак.

*25 лютага, чацвер*

Цэлы дзень са швэдамі. Былі і ў майстэрні ў мастакоў. Вішнеўскі[1], Сітніца, Славук[2]. Усе арыгінальныя й розныя. Вішнеўскі й Сітніца — зацятыя беларусы. Славук — зямляк Савіцкага[3] й Петрашкевіча[4]. Усё по-рюсски. Можа, старавер. Як мастак — добры. Вечар дзвюх літаратур у […] гасцініцы «Кастрычніцкай». […]. У шалмане «Вярба» вячэра. […]. Плаціў Швэцкі інстытут.

*26 лютага, пятніца*

У ліцэі вечарына да 70-годдзя Георгія Коласа ды з нагоды выхаду кнігі «Карані міфаў». Распавялі цікавы выпадак. Перапіс. Нацыянальна сведамы малады анархіст зайшоўся ў вадну кватэру. Гаспадар п’яны ў свінню. Як пачуў беларускае слова — мат-перамат расійскі. Хлопец пайшоў. Гэта, як выявілася, начальнік гаражоў у [ціцянкова]. Назаўтра ўбачыў хлопца й кажа: «Перапішы й мяне». Той у адказ: «Жывёлу не перапісваю». Вядома, [ён …] з пагрозамі. А самая трагісумная, што [Лукашэнка] ужо адмовіўся ад сваіх словаў наконт ядзернай зброі. […].

*27 лютага, субота*

Пісаў словы для «Свабоды». Думаю, ці не зрабіць мне вушацкі слоўнік у такім плане. Будуць і словы паасобныя, і кавалкі частушак, песняў, запісаў жывой гаворкі.

*

Гарэлка кажа да віна:
— Чаму нас хочуць піць да дна?
Віно гарэлцы адказала:
— Таму што нас заўсёды мала.

*

Вартавала цень ад астрогу варта.
Прысягаў баразне аратаем лямех.

---

[1] Вішнеўскі Уладзімір Мікалаевіч (н. 1955), беларускі мастак-графік, кніжны ілюстратар, скульптар, педагог. З 1996 г. заг. кафедры графікі БДАМ. Гл.: Уладзімір Вішнеўскі // Дуліна ад Барадуліна. С. 114.

[2] Слаук Валерый Пятровіч (н. 1947), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (2015). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (2015).

[3] Савіцкі Алесь (Аляксандр Ануфрыевіч; 1924–2015), беларускі пісьменнік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970).

[4] Петрашкевіч Алесь (Аляксандр Лявонцьевіч; 1930–2012), беларускі пісьменнік, драматург. Кандыдат гістарычных навук (1967). Заслужаны работнік культуры (1975).

Вязень вызвалены прасіўся ўпарта
У сваю ж камеру на начлег.

Заўтра пайду да яўрэяў на свята. Напісаў: «Пу′рым: Эстэр з нябёсаў на зямлю сышла…» [у дзённіку].

*28 лютага, нядзеля*

З яўрэямі святкавалі Пурым. Мала ўжо яўрэяў. Спрэс зрусіфікаваныя. Адзінкі яшчэ па-беларуску гавораць. На ідыш яшчэ меней. Мудрая сталінская нацпалітыка. Бомба замаруджанага дзеяння.

1 сакавіка, панядзелак

Адлега на ўсю вуліцу. Барабаніць пальцамі па падваконню. Нібыта на шпацыр кліча. Разгуляешся, як сабака ў торбе. «Раманс»[1]. Для магчымай паштоўкі, якую наважыўся выдаць з маёй подказкі Анатоль Белы: «Будуць часам ідалы раструшчаны»[2].

*2 сакавіка, аўторак*

У ПЭН. Карлас нешта хоча пакідаць працу. Тады ПЭНа практычна не будзе. Ён цягнуў гэты воз і ўмеў, і любіў працаваць, круціцца. […].

*3 сакавіка, серада*

У выдавецтва да Ганада. Мацуе курдскую апазыцыю, ладзіць пікеты […]. Кожнаму сваё. [Алексіевіч] й крумкач адраджэння супраць, што ў ПЭН-клуб прынялі Вальдко [Калініна]. Нібыта эміграцыя лічыць, што ён працуе на вядомую ўстанову. Крумкачу варта было падумаць, а ці зашмат у нас дома стукачоў […]. А тут цыган ім замінае. Тым болей што ў крумкача бабка цыганка.

*4 сакавіка, чацвер*

Сядзеў дома. Баліць галава. Правіў старыя вершы. У падборку «Нябожчык…»:

*

Каб сонца спячы, раніца падсявала туман
На сіта частае, лазняковае.
Утрэскаўся ў новыя вароты баран.
Хацеў конь ад зімы адкупіцца падковаю.

---

[1] Гл.: Актрыса (1.03.99) // Зорка спагады. С. 3.

[2] Гл.: Паштоўка (1.03.99) // Босая зорка. С. 36. Верш падараваны В. Быкаву на дзень нараджэння.

«У высокім палоне»[1]. І зусім даўны свой верш перарабіў, пачаўшы з пачатку, а пад канец усё па-новаму. Збіраюся, калі Бог дасць, у Полацак і Наваполацак з групай ад БНФ. «Гадуйся!: Адмалку ты блізкі мне...»[2] [у дзённіку].

*5 сакавіка, пятніца*

У «Бярозку». І галаўны боль на ўвесь дзень. Дабіў званкамі Белы.

*6 сакавіка, субота*

Нікуда не вартыя нэрвы. Усё крыўдзіць, усё чапляе, усё выводзіць з сябе. Толькі хочацца дамоў, туды, якога ўжо няма й не будзе. «Там»[3]. І яшчэ ў падборку «Нябожчык вяртаўся дамоў»:

*

Пень пілнаваў свой цень.
На беразе сушыліся хвалі.
Падкручваў свой вус ячмень.
А грошы камень кавалі.

Часцей і часцей думаеццца: а каму трэба вершы? І адказваеш: сабе. Яны ратуюць ад адчаю, ратуюць ад думак, што блізкі канец усёй зямной мітрэнгі. Вершы — як бы ружанец, які перабіраеш і забываешся на ўсё прыкрае й мгненнае. Толькі словы, і душа хінеццца да Бога, душа слухае Усявышняга, жыве вераю ў Творцу. Усё пасылае Бог. Бог усё бачыць.

*7 сакавіка, нядзеля*

Выйшаў на вуліцу. Гам. Беганіна. Заўтра дзень нараджэння Клары Цэткін. Яго камунякі зрабілі святам. Жанчыны шалеюць, качаюць правы. Саветызаваная публіка. [...]. Святы, яны ў беларускай мове ад святасці, павінны быць непалітазаваныя. А ўжо хутка век будзе, як адзначаюць халасты стрэл «Аўроры», не забываюцца й дзень нараджэння крывавага Вовіка, і дзень смерці Сталіна.

*Амаль сваякі*

І перакладчык, як стукач, гатовы,
Каб мэту асягнуць, сячы з пляча.

---

[1] Гл.: Адкрываючы помнік Ул. Караткевічу ў Віцебску (19.07.93) // Дзённікі і запісы. Вып. 6. 1992–1993. Мінск: «Кнігазбор», 2019. С. 222.

[2] Верш 1958 г., прысвечаны А. Канапельку. *Канапелька* Анатоль Мікалаевіч (1939–2002), беларускі педагог, паэт, перакладчык. З 1961 г. выкладчык, заг. кафедры Віцебскага універсітэта імя П. Машэрава.

[3] Гл.: Там (6.03.99) // Ксты. С. 229.

Стукач даносіць звесткі да ўстановы,
А перакладчык — сэнс да чытача.

*8 сакавіка, панядзелак*

З раніцы прыйшла ў галаву «ідыёмацінка»:

*

Аб снег ламалі зубы ламы,
Пацукоў прадавала паштучна крама.
Выдавала злосць турмы
Дроту калючая кардыяграма.

*

З пяшчотнымі джаламі пчолы з свайго вулля.
Дома сцежка спавіта пуховай ажынай.
Раднейшая на радзіме пятля,
Бо звітая з пянькі айчыннай.

*

Воўк хацеў на штаны сасну абкарыць,
Каб голым азадкам не сарамаціʼцца.
Гнуўся комін са сну прыкурыць
Ад хваста лісіцы.

Хадзіў да Генадзя. Лагойскі [...] перажывае, што была вечарына, а ні афіш, ні запрашальных. Ну хоць бы дзясятак для музэя — бедаваў [...] прафэсар. А ў Генадзя таксама перажыванне — [Лукашэнка] будзе сустракацца з інтэлігенцыяй. Унівэрсытэт унёс Генадзя ў спісы й быццам мяне. А [Замяталін] выкрасліў. Я б усё роўна не пайшоў, як усе разы. А Генадзю яўна хацелася.

*9 сакавіка, аўторак*

Усёй брыгадай дзвюма машынамі ў Полацак і ягоны прыгарад, які завецца Наваполацкам. Выступ у бібліятэцы, здаецца, імя агітатара й галавара. Сведамая нацыянальная інтэлігенцыя. Некалькі землякоў. А каб мы не сапсаваліся за ноч — у лядоўню гатэля.

*10 сакавіка, серада*

Выступы ў школах Полацка. У лясным тэхнікуме. У школе, дзе вучыўся Лявон Баршчэўскі. У музычнай вучэльні. Вялікае цікавасці ў навучэнцаў не было. У грамадстве, якое такім словам можна назваць з нацяжкаю, разліты страх. Болей маўчаць. Дамаўчацца, як заўсёды.

*11 сакавіка, чацвер*

У Полацкі ўнівэрсітэт. Заля вялікая й халодная, публіка адпаведна халодная й малалікая. У асноўным тэхнары. Затое перад гэтым пабылі ў вуніяцкае цэркаўцы. Драўляная. Пахне жывіцаю, і дух святы жыве ў ёй. Малады святар Пахом. Як святла ў душу набраў, калі пабыў я ў вуніяцкае царкве. Учора вечарам з'ездзілі да Генадзевай маці. Кепска са «змрокам». Адна з дужа старой сястрой. Прыязджае толькі часам дачка. Хоць адну жывую фразу пачуў: «Жыла-жыла й паражылася». Вечарам на Менск. Па дарозе на Глыбачку да бацькі Сяргеевага [Законнікава]. Адзін стары. Бачыць дужа кепска. Яго водзіць убакі. Дужа нялоўка сябе адчуваеш, нібы вінаваты перад хворым. Заўсягды так адчуваю сябе, хоць і сам ужо слабею. Бацька Сяргееў казаў, як пісаў ліст да [Лукашэнкі] чарнобыльцу. Ён вазіў малако ў саўгас [Лукашэнкі]. Нічога не гаворыць. Маўчыць. Калі напісаў ліст Іван Васілевіч, маці панесла сыну. Той перапісаў, бо дужа пісьменна й без памылак. [...] могуць не паверыць.

Ад'язджаем. Снег валіць. Бела. А Сяргееў бацька стаіць ля веснічак, як стары вяз, чарнееца смуткам. Сяргей распавёў мне, як лагойскі [...] выбіваў сабе прэмію за паэму так званую, [...] ў «Полымі». Хоць нешта, каб не забыліся. Забудуць, як і ўсіх нас, і лагойскага [...] ўдзячныя нашчадкі. І нашча-ткі, і пад'еўшы. Праехалі сапраўднай зімовай дарогай. Заснежаныя дрэвы, як у белых ахіналах вячніны...

*12 сакавіка, пятніца*

На выставу суполкі «Пагоня» ў Палацы мастацтва. Шмат высокапрафесійнага. І галоўнае — нацыянальнага, наскага! Ілонін «Залаты анёл» глядзіцца няблага. На жаль, не стае маёй дачушцы школы. Адчуваецца саманадзеяная самадзейнасць. Казаць ёй гэтага не буду. «Ліст дванаццатьы»[1].

*13 сакавіка, субота*

У народны тэатр — на Камароўку. Самае вострае ўражанне ад цэнаў. Гледачоў у гэтым тэатры — суперанoccшлаг. У паездцы Генадзь і Сяргей казалі, што бачылі спіс ГКЧПісцкі[2], дзе я мусіў быць у канцлагеры. Дзе яны [бачылі] — не сказалі. Звоніць удзень Генадзь і кажа, што ў яго Стася

---

[1] Гл.: Ліст дванаццаты: На зямлі, дзе продкі спачываюць... (12.03.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 38.

[2] ГКЧП — Государственный комитет по чрезвычайному положению = Дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы. Самаабвешчаны орган улады СССР (18–21 жніўня 1991). У яго ўваходзілі высокапастаўленыя службовыя асобы савецкага ўрада, якія выступілі супраць палітыкі перабудовы, распачатай прэзідэнтам СССР М. Гарбачовым, падпісання новага Саюзнага дагавора і пераўтварэння СССР у канфедэратыўны Саюз Суверэнных Дзяржаў, у які планавалі ўвайсці 9 з 15-ці саюзных рэспублік.

Гулевіч[1] збірае подпісы за Чыгіра[2], Генадзь і Юля [жонка] падпісаліся й раяць мне. Адказаў, што я за Зянона, тады адсталі. Намэнклятура за свайго, прамаскоўскага. Крыўдна, што Чыгір — прозвішча мае ад беларускага назову зоркі Вэнэры. Сапраўды, «зорка Чыгір узышла над зямлёю, светлыя згадкі пра Маскву прывяла…»[3].

*14 сакавіка, нядзеля*

Першы дзень сакавіка [па старым стылі], а на вуліцы снег, мароз і вецер. Класічны зімовы краявід. Зрабіў дзве спробы напісаць на народны сюжэт нешта накшталт балады — і ніводны [варыянт] не атрымаўся. «Адамава бяроза: Развітваўся з Марыляю Адам…» [2 варыянты; у дзённіку].

*15 сакавіка, панядзелак*

Галава, як пусты цэбар. Усё баліць. Няўжо прыйшлі канцы к гародам? Нешта трылузілася праз сон: «Каб мець ваўкову шкуру, лоўчыя…» [у дзённіку].

*16 сакавіка, аўторак*

Да Роланда[4] на сустрэчу з Вітаўтасам Грыгалюнасам[5]. Яны напісалі (дакладней, Роланд) п’есу па Васілёвым «Жоўценькім пясочку». Хочуць паставіць. Як заўсягды ўсё ўпіраецца ў дробязь, якая завецца грашыма.

*17 сакавіка, серада*

З раніцы Кулік[6]. У іх звада з Белым. Супроць Крыжа, які маецца паставіць Белы ў Курапатах. Нават Філарэт можа асвяціць. І пачынаюцца амбіцыя на амбіцыю. У выніку ўсё заваляць. А тым часам там гаражы могуць паставіць. Бо план такі быццам бы маецца. А калі казаць шчыра, дык Анатоль Белы — добры малец, толькі сцыцца. Бывала, жартавалі мае вушацкія.

---

[1] Магчыма, Гулевіч Станіслава Іосіфаўна (н. 1925), беларуская спявачка. З 1965 г. салістка Беларускай філармоніі. Заслужаная артыстка БССР (1976).

[2] Чыгір Міхаіл Мікалаевіч (н. 1948), беларускі дзяржаўны дзеяч. Прэм’ер-міністр РБ (1994–1996). У 1996–1999 гг. жыў і працаваў у Маскве.

[3] Перыфраз радка верша М. Багдановіча «Раманс» («Зорка Венера ўзышла над зямлёю, Светлыя згадкі з сабой прывяла…»).

[4] Роланд Барыс (сапр. Букенгольц Барыс Барысавіч: н. 1943), беларускі пісьменнік, педагог, журналіст. З 1981 г. выкладчык каледжа.

[5] Грыгалюнас Вітаўтас, беларускі рэжысёр.

[6] Кулік Яўген Сяргеевіч (1937–2002), беларускі графік.

*18 сакавіка, чацвер*

З галавой, як трэснуты звон, на вечарыну кнігі Ганада «Шамдзін» у педунівэрсытэт. На беларускім аддзяленні яшчэ жыве наш крывіцкі дух. Уладзімір Васілевіч — руплівец на роднай ніве распавядаў, як на яго павешалі перапіс калхозніцкі. Перапісалі, а ў раёне не хапае тысячы чалавек. Ад гэтых тысяч залежыць колькасць вертыкальных крэслаў у райвыканкамах. Загад: шукайце! Саўкамэдыя ў дзеі. І не ў аднае.

*19 сакавіка, пятніца*

У сядзібе. «Здубавецьцця» Антончыку[1]. Званіў. Ілона хоча на вясновыя канікулы ўзяць Дамінічку ў Пецярбург. І страшна гэтую крывінку давяраць дарозе й ветрагоністай маме. А з другога боку — можа, і трэба звыкаць нашаму птушанятку да дарог. Званіў Радзік з Чыкага. Чытаў новыя, цудоўныя вершы. Дай яму Бог шчасця! «Няўсцерп»[2].

*20 сакавіка, субота*

У газэту «Имя»[3]. Інтэрв'ю. Дужа сымпатычны Сяргей Шапран[4]. Родам з Рыгі. У студэнцкім атрадзе быў з Міхасём Скоблам. Адукаваны, тонкі, дэмакратычны. Пабольш бы такіх журналістаў!

*21 сакавіка, нядзеля*

Самсон зацягнуў у хэсэд. Нуднейшая лекцыя пра яўрэяў і авангард. Нехта Духан[5]. Потым Алег Алоўнікаў[6]. Даволі зносна. Свой твор выконваць было не варта. Матывы камсамольскіх песенек на яўрэйскую тэму.

*22 сакавіка, панядзелак*

Цэлы дзень чакаў званка наконт урача. Карлюкевіч быццам не мог дазваніцца. Не праверыш. Ад суму пісаў «Раманс»[7].

* Дамініка: «Які цёплы Мірон, проста алкаш пасля сну».

---

[1] Антончык Сяргей Антонавіч (н. 1956), беларускі палітык.

[2] Гл.: Няўсцерп (19.03.99) // Босая зорка. С. 70.

[3] «Имя: газета для тех, кто умеет читать» — грамадская газ., заснаваная ЗАО «Белорусская деловая газета» (1995–1999).

[4] Шапран Сяргей Уладзіміравіч (н. 1968), беларускі журналіст, філолаг, даследчык літаратуры. Працаваў у газ. «Знамя юности», «Имя», «Белорусской деловой газете», «Новы час», час. «Дзеяслоў», «Абажур» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2011).

[5] Магчыма, Духан Ігар Мікалаевіч, кіраўнік Міжнароднага цэнтра мастацтваў і камунікацый (1997–1999), заг. кафедры мастацтва БДУ (з 1999). Доктар філасофскіх навук, кандыдат архітэктуры. Прафесар.

[6] Магчыма, Алоўнікаў Алег Уладзіміравіч, беларускі віяланчэліст. Сын У. Алоўнікава.

[7] Гл.: Кавярня (22.03.99) // Зорка спагады. С. 8.

*23 сакавіка, аўторак*

Ад «Имя» вычытваў інтэрв'ю. Мне ўсё-ткі лепей пісаць, чым гаварыць. Ілонка збіраецца везці на канікулы Дамінічку. І з імі шумна, тлумна, а без іх не будзе іх хапаць. Ужо звык, што Ілона дома. «Не адкажа...»[1]

*24 сакавіка, серада*

Глынуў на адным дыханні Васілёву «Ваўчыную яму». Біблейная вышыня й глыбіня. Усё напісана знутры, усяму верыш. Аскетызм і філасафічнасць. Урэшце робіцца жудасна. Як некалі ў маленстве шкада герояў. Васіль зрабіўся прарокам, суровым прарокам. Адзін за ўсю Беларусь, адзін на ўвесь свет! «Расстацца з нябёсамі...»[2]

*25 сакавіка, чацвер*

Святы Дзень Волі! Ён доўжыцца, пераходзячы ў новае тысячагоддзе — паходня беларускай душы. Хай бы хоць Дамінічка прычакала, калі Дзень Волі будзе афіцыйным святам Беларусі! Няўжо й яна не прычакае? Дарэчы, сёння паехала з мамай на канікулы ў Пецярбург.

*26 сакавіка, пятніца*

У Купалавай хаце ўручэнне ПЭНаўскіх прэмій імя Францішка Багушэвіча. Нарэшце і Працька атрымала. Даўно прагла. Прэміі пераўтвараюцца ў кялейныя, амаль як пры Брэжневе. Няхай. Потым з Камоцкім добра прайшлі па звяснелым месце.

*27 сакавіка, субота*

У «Полымі» артыкул Галіны Тычкі[3]. Прачытала даследаванне Георгія Коласа й няўклюдна пераказала, аднак нідзе не спаслалася на Коласа. Хіба адхілілася, калі прыводзіла выказванні нібыта Купалы, якія чуў стукач Лужанін. Я гляджу — упарта рэаніміруюць кэгэбіста пасцельнічага, прыстаўленага да Коласа. «Ліст трынаццаты»[4]. Дарэчы, Тычка піша, што Купала быў не хрысціянінам, а паганцам. Рэч у тым, што бальшыня беларусаў — гэта кшчоныя паганцы. Некалі агіднік Айзік Кучар[5] распавядаў пра свае падарожжы з Купалам. Нанач Купала шаптаў «Ойча наш» па-польску.

---

[1] Гл.: Не адкажа... (23.03.99) // Халодная памяць вады. С. 386.

[2] Гл.: Холадна (24.03.99) // Ксты. С. 206.

[3] Тычка Галіна Казіміраўна (н. 1955), беларускі літаратуразнавец і крытык. Доктар філалагічных навук (2003). Прафесар (2005). У 1995–2002 гг. выкладчык Беларускага педагагічнага ўніверсітэта, з 2002 г. — у БДУ.

[4] Гл.: Ліст трынаццаты: Памяць — дзікі звер... (27.03.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 39.

[5] Кучар Алесь (Айзік Евелевіч; 1910–1996), беларускі крытык, драматург, сцэнарыст.

*28 сакавіка, нядзеля*

Схадзіў у народны тэатр — на Камароўку. Чытаў новыя нумары «Спадчыны»[1] й «Полымя». Гэтыя часопісы ды ў амаль кожны дом. Як бы пра свае карані ўзгадалі беларусы.

*29 сакавіка, панядзелак*

Да прафэсара Шалькевіча. Ад яго — у «Аксакаўшчыну». Правяралі галаву. Слядоў маразму яшчэ пакуль няма. [...].

*30 сакавіка, аўторак*

Зноў змагаюся з заваламі ў пакоі. Хто каго? Відаць, ён мяне заваліць. Старасць ні на хвіліну не выпускае мяне з сваёй увагі. І тут баліць, і там баліць. А дзён застаецца меней і меней. А што там?

*31 сакавіка, серада*

У «Имя» да Сяргея [Шапрана]. У «Мастацкую [літаратуру]». [...]. «Бо ведаюць...: Там і сябры мае, й радня...» [у дзённіку].

*1 красавіка, чацвер*

Дзень дурняў, гэта беларускае свята. Дзень смеху — хіба толькі з сябе. Сядзеў пісаў словы ў слоўнік «Свабоды». Стараўся, каб не сумна было.

*2 красавіка, пятніца*

З Алесем у прыватную гімназію «Панарыя». Ад самых маленькіх да большанькіх. Як адна сям’я. Выкладчыца Тацяна Сяргееўна Градзінская з адной вёскі з [Лукашэнкам]. Якое чысцюткае вымаўленне! Душа святкуе. Замужам за палякам з Лодзі. Добрая пара. І дзеткі стараліся колькі слоўцаў прашчабятаць па-беларуску.

*3 красавіка, субота*

Аднёс Генадзю пераклады з Пушкіна для «Вожыка». Цікава распавядаў пра выбарчыя прыгоды Навумчыка-старэйшага. [Лукашэнка] як быццам падхлебіўся да АБСЕ[2], аматараў Шагала, тым, што падараваў з Віцебска дзве карціны Шагала. Усё, як пры Саветах, толькі болей нахабна. Карпенку[3] стукнулі мяшком з апілкамі (каб знакаў не было) па галаве.

---

[1] «Спадчына» — культурна-гістарычны час. (з 1970).

[2] АБСЕ — Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.

[3] Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч (1949–1999), беларускі навуковец і дзяржаўны дзеяч. З 1996 г. дэпутат ВС РБ, нам. старшыні ВС. Доктар тэхнічных навук (1990). Член-карэспандэнт НАНБ (1994). Заслужаны дзеяч навукі РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

У цяжкім стане з інфарктам. Чыгір сядзіць. […]. Гэтага й трэба было чакаць.

*4 красавіка, нядзеля*

Святое Вялічка. Маё, вуніяцкае. Па даўняй традыцыі апрануў блакітную кашулю. У мяне Вялічка з малечых гадоў асацыюецца з блакітным колерам. Можа, гэта ад блакіту. Валя зрабіла вялікодны стол. Дзякуй ёй. Душа ў яе чыстая, трымтлівая. Пайшлі сустракаць Дамінічку з нашай маласольнай дачушкай. Не прыехалі. На Ілону нават злосці не стае. З кожным годам святы робяцца болей самотнымі. Не гэтулькі весялосці, як задумлівымі. Роздум і одум неўпрыкмет забіраюць усяго пад свой прыгляд. Так і не зразумееш, калі жыў, дзеля чаго жыў, што чалавека чакае там.

*Сніўся…*

Мне сніўся снег,
забыўлівы, як сон,
Павеўны, як трава на ўзмежку ў траўні.
І з цішынёй вітаўся водзван даўні,
І падаў долу змроку зябкі звон.

І я сачыў памклівую смугу.
Сама рабілася самота белай.
Варочаўся ў душы пахаладзелай
Мой смутак,
як мядзведзь у берлагу.

*5 красавіка, панядзелак*

Да Алеся. Авалодвае кампутарам. Увесь у тэхніцы. Напісаў яшчэ адзін верш для вуніяцкай праграмы: «У свеце жыў, нібыта ў пуні, я…»[1] І яшчэ пісаў: «Вальс: І свечкі прытаміліся ўсміхацца...» [у дзённіку].

*6 красавіка, аўторак*

Атрымаў ад Васіля ліст. Пакамечаны й кепска заканвэртаваны. На адвароце штамп, што прыйшоў у пашкоджаным выглядзе. Вядома, хто пашкодзіў. Кэгэбэ без працы не можа.

*7 красавіка, серада*

Дождж. Шэра. Кепска. А тут яшчэ з Вушачы пазванілі, што зноў вада заліла хату. Нехта выбіў вакно. Землячкі без увагі хату маю не пакідаюць. Ілона, відаць, білеты прадала, бо званіла, каб купілі й пераслалі. Бедная Дамінічка. Цэлы тыдзень прапусціла заняткаў. Так званыя бацькі яе зусім бы не вучылі.

---

[1] Гл.: Дарога ясная (5.04.99) // Ксты. С. 171.

*8 красавіка, чацвер*

Да Алеся Камоцкага. Запісаў «Ойча наш». У Алеся цяпер кампутар. Трэба мець моцную галаву, каб ва ўсім гэтым разбірацца. Як перад канцом жыцця — гэтакі настрой. Перадрукоўваю вершы для буклета. І самому яны не падабаюцца. Усё не тое, што хацеў сказаць. Трэба, каб сэнс быў на самым дне слова, — тады вершы жывыя й дзейсныя. А слова бяздоннае. Тут усё й схавана.

*9 красавіка, пятніца*

У [...] «Народнай газэтцы» адкрыты ліст літ'ахвосця супроць заявы Рады СП. Хочацца ў Расею, хочацца савецкага Саюза пісьменнікаў. У падпісантах, вядома, [...] Шамякін, [...] Навуменка, сярод розных жычкаў[1], спрынчаноў[2], [скобелевых] і Ганад, і Глеб Артханаў. Дапялі, субчыкі. [...]. Бягуць порстка туды, дзе костка. Няхай і абгладаная. А карацей: колькі ваўка ні кармі, а ён усё роўна ў лес глядзіць. [...].

*10 красавіка, субота*

Нарэшце прыехала Дамінічка. А то зусім дзедзя занудзіўся. Змагаўся з галаўным болем і пісаў Самсону для фільма: «Яма: Благаславёны самой пакутай...» [у дзённіку].

*11 красавіка, нядзеля*

Вялічка! Некалі ў мамы самае светлае й святое свята. Учора з Лёндана званіў Вальдко Калінін. Сёння першы званок раніцай — сам Васіль з Хельсінкаў! Чытаю й чытаю настольную кнігу кожнай беларускай душы «Жыцця адвечны лад»[3] Ул. Васілевіча. Ён подзвіг зрабіў. Праўда, выдаць яе след было мільённым накладам. Каб была! «Хрыстос уваскрос!»[4] Усе святы, усе радасці ад святаў, уся святасць — там, дзе мама была, дзе цудадзеіла ў цяжкім жыцці, дзе святлом была. «Ліст чатырнаццаты з Менску»[5].

*12 красавіка, панядзелак*

На ПЭНаўскі відэацэнтр. Ілоне робяць касэту. Паправіў для Карласа, дакладней, для Камоцкага, два вершы Карласа.

---

[1] Жычка Хведар Змітравіч (1927–2007), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя В. Нэзвала (Чэхаславакія, 1983).

[2] Спрынчан Браніслаў Пятровіч (1928–2008), рускі паэт, перакладчык.

[3] Гл.: Жыцця адвечны лад. Кн. 2. Мінск, 1998. Уклад. У. Васілевіч.

[4] Гл.: Ліст чатырнаццаты: Упала зь неба хмурынка... (11.04.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 40.

[5] Гл. Ліст пятнаццаты: Блізка гучыць... (11.04.99) // Тамсама. С. 41. Тут і далей назіраецца частковы збой нумарацыі лістоў у дзённіку і двух кнігах.

*13 красавіка, аўторак*

Да Камоцкага. Пазнаёміўся з цікавым адукаваным сучасным маладым беларусам Ігарам Войнічам[1]. З кампутарам цуды робіць. Аж душа весялее, калі такіх маладых сустракаеш. Будзе жыць Беларусь. Толькі б болей расло таленавіцейшай сучаснай змены.

*14 красавіка, серада*

Настрой паганы. Гомеапатычныя пігулкі трошкі дапамагаюць. Адпаведна з настроем чытаю раздзел «Хаўтуры» ў непаўторнай кнізе «Жыцця адвечны лад».

*15 красавіка, чацвер*

Ні хвіліны спакою ў хаце. Ілона прыйшла раніцай. Людзей з яе не будзе. Нічога не даб'ецца. Мейсца сабе не знаходжу, як гляну на яе, бездапаможную, знэрваваную, растурзаную. Як на яе пакідаць Дамінічку? Божа! Дай нам дзён хоць трошкі, каб падгадаваць яе, анёлачку, анялінку маленькую. «Жыву...»[2]

*16 красавіка, пятніца*

На ПЭНаўскі відэа да Самсона. Кампутарны мантаж — зусім іншае, чымся ў студыі на стале. Вялізныя магчымасці. На «Свабоду» хутка зрабіў і пачытаў слова *трасянка*.

*17 красавіка, субота*

Вятры як у Бога з мяхоў вырваліся. Адпаведна кручэнне ў дурной маёй галаве. Чытаю «Жыцця адвечны лад» з алоўкам у руцэ. Паралельна ўпадабаліся партугальскія казкі й легенды. Перачытаў пра арганаўтаў. «Эцюд»[3].

*18 красавіка, нядзеля*

Раніцай міжгорад. Зянон. Папрасіў быць у яго даверанай асобай пры выбарах прэзідэнта. Вядома, згадзіўся. Хоць мала пад усім гэтым грунту. Відаць, трэба было Зянону сесці, каб мець арэол пакутніка. Хоць маглі й забіць. Складана ўсё. Эўрапейскія меркі да саўкоў не падыходзяць. Зянон паклаў на алтар свабоды Беларусі сваё жыццё, а да алтара дарога яшчэ зарастае трыпутнікам.

---

[1] Войніч Ігар Яўгенавіч (н. 1965), беларускі філолаг і музыка, адзін з заснавальнікаў групы «Камелот» (1996–2000). Кандыдат філалагічных навук (2002).

[2] Гл.: Жыву... (15.04.99) // Босая зорка. С. 88.

[3] Гл.: Эцюд (17.04.99) // Ксты. С. 326.

*19 красавіка, панядзелак*

У сядзібе з Вінцуком Вячоркам[1]. Рабіў праўку пераклада старапольскага тэкста паэмы. У «Спадчыну». Вінцук галаваломна дасведчаны, глыбока адукаваны. Такі нарасло галоў у нас! А дома не знаходжу мейсца сабе. Ілона сарвала нэрвы да вар'яцтва лічы што. Гаварыць з ёй немагчыма. Суткамі прападае, а потым страшная й псыхападная прыходзіць. Для яе няма ні бацькоў, ні Дамінікі. А я люблю яе дужа, таму й бярэ мяне за сэрца роспач. Што чакае яе, што чакае Дамінічку? Усявышні, адвядзі ад яе насланнё, прывядзі яе да цвярозага розуму. Танная багэма згубіла маё залатое дзіцятка, мой спакой, маё здароўе. Жыць не хочацца. А трэба, бо Дамінічка маленькая. Гэта мне кара боская, бо за п'янкамі забываўся на маму. «І ўгавары…»[2]

*20 красавіка, аўторак*

У думках пабыў на мамінай магілцы. А так хадзіць не магу. Галава, як трэснуты звон. Другія суткі Ілоны няма дома. Што ўжо Бог пашле мне пад канец жыцця? Усё прыму з падзякаю.

*А сказаць бы…*

А сказаць бы гэнаму бамонду:
Злазце з даху і не псуйце гонту!

Начны пошук дарагой дачушкі нічым скончыўся. Усю ноч спаў як заяц пад кустом. Пачало хапаць сэрца. Падумаў, што прыйшоў канец.

*21 красавіка, серада*

Іоня з'явілася. Ездзіў у гомеапатычную аптэку па лекі. Уся радасць ад Дамінічкі, таму й трывога большая за яе. Рыхтуемся з Алесем да выступу перад вуніятамі . «Берасцейская вунія»[3].

*22 красавіка, чацвер*

Да Алеся Камоцкага. У нас будзе выступ ў 12-ці вуніяцкіх епархіях. Алесь напісаў дужа боскі спеў вуніяцкі.

*23 красавіка, пятніца*

Клуб «Спадчына» ладзіў вечарыну памяці Ларысы Геніюш. У Купалавай хаце. Прайшло цёпла. Пакуль ішлі дыскусіі пра мастацкасць помніка, […] забаранілі. Бач, трэба рэабілітацыя. Савецкая імпэрыя доўжыцца

---

[1] Вячорка Вінцук (Валянцін Рыгоравіч; н. 1961), беларускі мовазнавец, грамадскі і палітычны дзеяч. У 1999–2007 гг. старшыня партыі БНФ.

[2] Гл.: І ўгавары… (19.04.99) // Босая зорка. С. 140.

[3] Гл.: Берасцейская вунія (21.04.99) // Руны Перуновы. С. 120.

ў аскялёпку фактычна савецкай Беларусі. Пісаў для ўніяцкага альбома: «Шчодры Госпадзе!»[1] І яшчэ верш прыйшоў:

*Было ці не было…*

Ты, жыццё, было ці не было?
Як было, дык адкажы: чаго ты
Адчыняла небыццю вароты,
Падавала забыццю вясло?

А былі вароты ў цёмны двор,
Дзе расла сама трава маркоты.
А вясло чаўну дало ахвоту
Плыць ракой,
Густой ад цёплых зор.

А калі яшчэ ты не было,
Дык скажы, якой парою будзеш,
Чый ты нетаропкі сон разбудзіш,
Блаславіш на ўзмах чыё крыло?

Можа, ўспамінаць, што ты было,
Можа, пачакаць цябе застацца, —
У каго я маю запытацца?
Цьмее, каб не адказаць, святло.

*24 красавіка, субота*

Другія суткі няма Ілоны. Прапала мая дачушка. Мейсца сам сабе не знаходжу. А з другога боку […]. Закратавалі. «Ліст пятнаццаты»[2]. «Расце: Сам народжаны на пакуты…» [у дзённіку].

*Дазнаешся…*

Тут
Хапае пакут.
Там —
Дазнаешся сам…

*25 красавіка, нядзеля*

Ілоны няма. Дзе яна? Даб'юць мяне. Хоць адпачыў душой — з Алесем і айцом Андрэем у Маладэчна да ўніятаў. Царква яшчэ дабудоўваецца. Дакладней, перабудоўваецца. Вясновая ахалода, як яшчэ неабжытасць, як з біблейскай даўніны першахрысціянства. Адраджаецца нашая вера…

---

[1] Гл.: «Шчодры Госпадзе!» (23.04.99) // Халодная памяць вады. С. 81.
[2] Гл.: Ліст шаснаццаты: Няхай і недалёкая яна… (24.04.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 42.

*26 красавіка, панядзелак*

У «Мастацкую». Набралі трэці том. Ачужэла выдавецтва. Як у ёўні. Ілона ўчора пазваніла Валі, што яна быццам на лецішчы. Нічога сур'ёзнага рабіць не магу. Як вяроўкай зачапілі сэрца й цягнуць. Дужа залежны я ад сваіх крэўнікаў. Па ўсім разліты неспакой, які пераходзіць у нейкі сцюдзёны страх. Усё няміла. «Яшчэ ніхто…»[1]

*27 красавіка, аўторак*

Сустрэча з бізнэсмэнам [Георгіем] Астроўскім. З Менска. Цяпер у Канадзе. Саліст — гаворыць сам і сам сябе слухае. Проста хацелася пакрасавацца. Але якая карысць — перада мною?

*28 красавіка, серада*

У ПЭН-цэнтры сустрэча з Крыстоферам [Леандоэрам] і Наталляй Няхайчык — знаўцай швэдскай мовы. Буду рабіць зборнік Крыстофера. Вечарам на яўрэйскія гэвэлты. Ізраіль дае вялікія грошы, каб не знікаў дух яўрэйства ў яўрэях. Наш […] данішчае тое беларускае, што не данішчылі бальшавікі. Хоць беларускія абшчыны ў Беларусі ствараў, але ж хто апекавацца будзе? Бо няма Беларускай Дзяржавы ў Беларусі й за межамі яе. […].

*29 красавіка, чацвер*

Даўно прасіла настаўніца Эма Іванаўна Васілевіч выступіць у пятым класе 111-й школы-гімназіі. Гэта ў раёне Трактарнага [завода]. Школа беларуская. Дзеткі з такім чысцюткім вымаўленнем, з такімі чыстымі беларускімі тварамі. Самі пішуць вершы, байкі, нават паэмы пра сваіх сяброў. Моўныя знаходкі цудоўныя, бо думаюць па-беларуску. Як на Вялічку пабыў. Усё можна адрадзіць. І хутка. […]. Цікава. Робіцца групавы здымак. А ззаду нехта пытаецца: «А колькі будзе каштаваць фота?» Адзнака часу. Пакуль быў з дзецьмі, крыху забыўся на Ілону. Прыехаў дадому — як хто ў руцэ трымае сэрца. Мяне чакае галеча, роспач. Усе гады працы пайшлі, як у нас казалі, к с.ацы. Баліць душа за мой званочак — за Дамінічку. «Паспагадай…»[2]

*30 красавіка, пятніца*

Прыехаў Іван Бурсаў з Рытай. Апошнія мае сябры з вясёлай маладосці. Цяпер жывем у смутку. І нават вясёлае сумна ўзгадваецца. Старэем, рыхтуемся ў вечную дарогу.

---

[1] Гл.: Яшчэ ніхто… (26.04.99) // Ксты. С. 182.

[2] Гл.: Ксты: Божа, паспагадай усім… (29.04.99) // Босая зорка. С. 6.

*1 траўня, субота*

З Алесем і айцом Андрэем ў *Ліду* да ўніятаў. Дужа светла на душы. Цёпла душы ў беларускасці. Айцец Андрэй пасля службы запытаўся, калі пасадзяць бульбу. Адказалі: тыдні праз два. Тады айцец Андрэй і прызначыў парафіяльны збор.

*2 мая, нядзеля*

Нарэшце з'явілася Ілона ў суправаджэнні Косці. Аж ад сэрца адлягло. Чытаю карэктуру 3-га тома. Амаль як чужое. Бо даўно папісаныя паэмы. Цяпер бы іх, калі б і пісаў, напісаў па-новаму. Гэта водгулле маладых гадоў.

*3 мая, панядзелак*

У ПЭН. Потым на Камароўку — закусь Мірону й Дамінічцы гарбатку. Званіў Міхасю Скоблу. Міхась распавёў, як Ніл адклікаў яго ўбок на Радзе саюза. Выходзіць, слухаў па «Свабодзе» нашую гутарку. І да Міхася: «Што гэта атрымліваецца? Толькі Барадулін піша вобразна. А я?» Хворы чалавек і з розуму пачаў выжываць. Па-чалавечы шкада. Яму супрацьпаказана пісаць вершы, а ён піша й піша. Панос, альбо паласкуха. У Лідзе прасілі напісаць нешта рыцарскаму клубу. «Рыцары: Рыцары вялікай Беларусі…» [у дзённіку].

*4 мая, аўторак*

Да Алеся Камоцкага. Запісаў «Ойча наш». Чытаю карэктуру. На душы гэтакая роспач. Без выйсця. Няўжо падыходзіць развітанне? Як Бог дасць.

*5 мая, серада*

Бервяном праляжаў. Як мне вярнуць свежую галаву? Атупела чытаю карэктуру. Якая яна бязлітасная, старасць!

*6 мая, чацвер*

Да яўрэяў. Дапамагчы выдаць Шагала, Пастарнака, Мандэльштама. У маіх перакладах няма ў іх хэнці.

*7 мая, пятніца*

У гомеапатычную аптэку. Сустрэў Дранько з выраслым сынам[1] і Акудовіча[2]. Быў рад сустрэчы. У іх яшчэ шмат энэргіі. Хай Бог спрыяе ім, бо цвёрдыя беларусы.

*8 мая, субота*

Швагра Радзікаў перадаў вершы Радзікавы новыя. Цікавыя. Малайчына! А ў мяне боль і роспач. Няўжо загнуся хутка?

*9 мая, нядзеля*

Галава сціснута абручамі. Нічога няміла. Праз сілу напісаў колькі словаў пра Васіля ў «Бярозку». Адчуваю, што вяла. А нічога зрабіць не магу. Не магу ні чытаць, ні пісаць, ні думаць. Баліць галава.

*10 мая, панядзелак*

Аднёс у «Бярозку» мучанае слова пра Васіля. Зайшоўся ў «Вожык» да Генадзя. Беларусь — Бярмудскі трохкутнік. Знікла Віннікава[3]. Зараз знік Захаранка[4]. Дый Карпенка знік толькі праз хваробу, уведзеную ўрачамі. Жах. Наліваеў[5] перадаў мне новыя лекі. Здаецца, дапамагаюць. Толькі б не сурочыць! Пакуль нельга піць каву й нават гарбату. Пайшоў ды купіў кавы — ячмень пражаны, жыта, авёс. Дамініка кажа, што дзедзя будзе ірзаць. Паспытаў з малаком — некалі такую мама гатавала. Аж змог нешта рыфмаваць: «Абы…: Якое шчасце — быць здаровым…» [у дзённіку].

*11 мая, аўторак*

Па ратунак да Пятра Ісаевіча [Ліфшыца] з зубамі. Усё навалілася на мяне. Вожыкаўцы забыліся было, што Васілю 75 будзе. Па дарозе дадому нешта рыфмаваў на подпіс пад шарж:

---

[1] Дранько-Майсюк Васіль Леанідавіч (н. 1981), будучы беларускі культуролаг, рэжысёр, актор, настаўнік, пісьменнік. Сын Л. Дранько-Майсюка.

[2] Акудовіч Валянцін Васільевіч (н. 1950), беларускі філосаф, паэт, крытык. У 1991–1999 гг. 1-шы нам. галоўнага рэдактара газ. «Культура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2001).

[3] Віннікава Тамара Дзмітрыеўна (н. 1949), беларускі эканаміст. У 1996–1997 гг. старшыня Савета Нацыянальнага банка РБ. У 1997 г. была арыштавана па абвінавачанню ў злоўжыванні службовымі абавязкамі, у 1999 г. знікла з-пад дамашняга арышту. Жыве ў Лондане.

[4] Захаранка Юрый Мікалаевіч (1952–1999?), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Генерал-маёр унутраных спраў (1994). Член палітсавета Аб’яднанай грамадзянскай партыі (з 1996).

[5] Наліваеў Анатоль Аляксандравіч (н. 1931), мастак, рэстаўратар, музыкант. Арганізатар музея «Літаратурна-мастацкая гасцёўня імя У. Галубка», філіялу Музея тэатральнай і музычнай культуры.

Нязломнага баіцца й чорны страх.
Гарой хацела б стаць і куча смецця.
Па Быкаву — а не па крыкунах
Пра Беларусь вядома ў цэлым свеце.

Вечарам быў у яўрэяў. Вязніца гета распавядала. Добры ўзорны яўрэйскі хор, дзе два-тры яўрэі. Спяваюць як анёлы.

*12 мая, серада*

Ужо аж смешна з маім здароўем — зноў ляжу калодай. «Навошта гарадзіць гарод…» [у дзённіку].

*13 мая, чацвер*

Да Пятра Ісаевіча. Так астрашэў, аж ужо слухаю, ці баліць галава. Страх перад ноччу.

*За вамі*
*(Аптымістычнае)*

Крутая ў быка рызыкоўнасці шыя.
На стромах пыхлівасці чэзлая нарасць.
Шчырэйце ў радасці, маладыя!
За вамі будучыня — і старасць.

*14 мая, пятніца*

Сцягаўся ў «Полымя». Атрымаў капейкі. Паслаў ліст Васілю. Так і не дачакаўся, калі Карлас паедзе, каб перадаць. Калі так буду жыць, дык і на хлеб не будзе. «Думаюць…»[1]

*15 мая, субота*

Паехала Дамінічка. Госпадзі, чую ейны голас і пішу. Паехала Ілона з Косцем. Косцю даў таго-сяго на ногі ды на плечы. Шкада іх. Дапамагаць усё цяжэй. Потым пазваніла Айзенштадціха[2]. Сказаў, што хворы. Яна папрасіла тэлефон Васіля. Падказаў Карласа. І неўзабаве званок. Міжгорад. Гэта Васіль занепакоіўся, што яна сказала пра маю хваробу. Сказаў, што таксама прымае гомеапатычныя лекі. Апошняя шчырая душа. Сам хворы, а пра мяне турбуецца.

*16 мая, нядзеля*

Вечныя ісціны лягчэй даходзяць да хворага. Толькі хворы пачынаеш разумець, якая ты кволая пылінка. І ўсё, што рабіў, пачынае здавацца ма-

---

[1] Гл.: Думаюць… (14.05.99) // Босая зорка. С. 84.
[2] Айзенштадт Галіна Іосіфаўна, беларуская журналістка.

рным. Хвароба цягне цябе да сябе, а жыццё не хоча адпускаць. Пакуль не разарвуць.

*17 мая, панядзелак*

Выпаўз на вуліцу. Прайшоў па скверыку. І птушкі, і свежае лісцё. На вуліцы болей заўважаю старых і хворых. Жыццё прайшло. Як не сваё. Маладосць — вясёлае застолле, старасць — цяжкое пахмелле.

*18 мая, аўторак*

У Лечкамісію да Гіткінай. Сказала, што жыць буду. У нас дома казалі: жыць будзеш, толькі не захочаш. Выпісалі лекі. Буду прымаць. Настолькі апуджаны галаўным болем, што толькі й слухаю, ці баліць.

*19 мая, серада*

На энцэфалаграму. Быццам бы яшчэ не стоадсоткавы ідыёт. Да ўрача, якая будзе лечыць. Наталля Міхайлаўна Чэчык. Добрае беларускае ймя. Учора, калі йшоў з Лечкамісіі, убачыў [...] Пташнікава. Паглядзелі адзін на аднаго й пайшлі, не павітаўшыся. Мы й ніколі сябрамі не былі. А цяпер тым болей. Збоку — два старых хваравітых чалавекі на схіле не радыя адзін аднаму. [...].

*20 мая, чацвер*

Да Алеся. Узяў касэту для Розы з аптэкі й колькі запрашэнняў. Настрой паганы. Вяласць. Абыякавасць.

*21 мая, пятніца*

Пазваніў Сяржук[1] з Прагі. Напісаў колькі словаў. Чакаў-чакаў, а званка не дачакаўся.

*22 мая, субота*

Быццам крыху палепшала. Пайшоў на сойм БНФ. Дзверы зачыненыя. Не зразумела, што здарылася. У «Беларускім кнігазборы» выйшаў том Кастуся Каліноўскага. Даўно чакаў яго. Калі Бог дасць веку, паспрабую нешта зрабіць.

*23 мая, нядзеля*

Шчыра адхварэў. Нейкая безвыходнасць. Як з яе выйсці? Няўжо толькі туды?

---

[1] Сокалаў-Воюш Сяржук (сапр. Сокалаў Сяргей Анатольевіч; н. 1957), беларускі паэт, перакладчык, бард, журналіст. У 1991 г. выехаў у ЗША. Жыве ў Чэхіі.

*24 мая, панядзелак*

Да Карласа. Аддаў пераклад Дэкларацыі. Прадыктаваў на «Свабоду» тры словы, адказы на анкету ў «Литературную газету».

*25 мая, аўторак*

Да Самсона. Геніяльна зрабіў «Яму» пры благой апэратарскай працы. Камуністы ўсё — і сталінскія жахі, і вынішчэнне яўрэйства звялі да фільмаў жаху. Гэта ў свядомасць не ўкладваецца — ні сталінскія, ні гітлераўскія зверствы. Сярэднявечча — гэта дзіцячыя забаўкі ў параўнанні з катаваннямі XX стагоддзя. Глыбока сядзіць у чалавеку звер. Аж часам думаеш, што ў звера болей чалавечнасці.

*26 мая, серада*

У «Мастацкую» занёс карэктуру. А можа, выйдзе 3-ці том. Было б добра. У пятніцу запрасілі на вечарыну ў Азербайджанскае таварыства. «Калыханка надзеі: Думкам вольна на скразняку» [К. Абілаву; у дзённіку].

*27 мая, чацвер*

Прыходзіў у сябе. Як ні прыходзь, а да ранейшага здаровага, са светлай галавой не вернешся.

*28 мая, пятніца*

Да азербайджанцаў. Свята незалежнасці. Як у маладыя гады вярнуўся. «Любіць!: Па жылах Азербайджана…» [у дзённіку].

*29 мая, субота*

Ад галавы трохі адлягло. Нейкі дзіўны душэўны стан. Не сказаць, каб абыякавасць, а проста неўспрыманне шуму, мітрэнгі, адчуванне нейкае стомы, якая глядзіць на ўсё, як на марнасць, на імглівае знікненне. Гэта, відаць, душы знадакучыла цела, усё побытавае, зямное. Душа нэрвуецца.

*30 мая, нядзеля*

З 11-ці да 19-ці праседзеў на сойме БНФ. Як людзі любяць пагаварыць. З любое нагоды. Амбіцыі пагражаюць раскалоць рух. Зянон далёка. Ён як бы спіртометр сумленнасці. А народ наш спрэс саветызаваны. Пад вечар нарэшце лівень, нават з градам. Атрымаў ліст ад Васіля. На Фіншчыне толькі першыя лісцінкі. Сумуе Васіль па Беларусі. Цяжка яму й там, і тут цяжка. Пад шум дажджу, пад шапаценне ветру пісаў «Ліст шаснаццаты»[1].

[1] Гл.: Ліст сямнаццаты: Вось і першы дождж веснавы… (30.05.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 43.

*31 мая, панядзелак*

Учора ўвечары адбылася трагэдыя. На святую Тройцу каля Палаца спорту [...] і тэлекампанія «Мир» наладзілі піўны шабас. Найшла хмара з градам. Усе рынуліся ў мэтро, а яно з вузкім уваходам. Загінула паўсотні маладзенькіх дзяўчатак, некалькі сотняў параненых. Знайшлі мейсца і дзень для шабасу. Бітвішча на Нямізе, гета. Чатыры храмы — уніяцкі, каталіцкі, праваслаўны і знесеная бальшавікамі старэйшая сінагога. [...].

*1 чэрвеня, аўторак*

Сход ПЭН-цэнтра. На перарэгістрацыю. Па [Замяталіну] трэба, каб у абласцях было не меней як па дзясятку якраз членаў, а не сяброў. Ператорыць ПЭН у «Маладняк»[1]. Карлас стаў казаць, што надакучыла, хоча адпачыць. Я распавёў, як Казлоў[2] збіраўся на пэнсыю. Пашыў паддзёўку й выйшаў у двор пасядзець з пэнсыянэрамі. А тут прыехаў Хрушчоў[3]. Пытаецца: «Як здароўе, Васіль Іванавіч?» Казлоў адказвае: «Нічога, толькі вось на пэнсыю, відаць, трэба». Хрушчоў: «А як ты сябе адчуваеш?» Казлоў: «Ды яшчэ б папрацаваў». Хрушчоў: «Ну й працуй». Болей Казлоў ні разу не надзеў паддзёўку й не выйшаў у двор. Да смерці. А Карлас баіцца [Алексіевіч]: зрабіў яе яшчэ адным віцэ-прэзідэнтам. [...].

*2 чэрвеня, серада*

Карлюкевічу занёс пераклад Пушкіна й 5 рамансаў. Хай надрукуе. Пазваніла Ілона. Трэба грошы, бо заклалі скураны касцюм. Ніякой пэрспэктывы, ніякога прагалу не бачу. Да такіх гадоў дажылі, а жывуць бамжамі. Я ж не магу іх трымаць. Канцы з канцамі ледзь зводжу. А Дамінічка расце — усё трэба. Госпадзі, дапамажы мне! Не пакінь хворага і ў галечы дні свае дажываць!

*3 чэрвеня, чацвер*

На тэле. Папрасілі перакласці колькі вершаў Сіманава[4]. Парна. Млосна. Дождж ніяк не збярэцца.

---

[1] «Маладняк» — літаратурная аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў (1923–1928).

[2] Казлоў Васіль Іванавіч (1903–1967), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Генерал-маёр (1943). З 1948 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Герой Савецкага Саюза (1942).

[3] Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894–1971), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1953 г. 1-шы сакратар ЦК КПСС і адначасова ў 1958–1964 гг. старшыня Савета Міністраў СССР.

[4] Сіманаў Канстанцін (сапр. Кірыл) Міхайлавіч (1915–1979), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1943, 1946, 1947, 1950).

*4 чэрвеня, пятніца*

У ПЭН. Пачуў голас Васіля па тэлефоне. Пытаўся пра здароўе, калі дзень нараджэння ў Дамінічкі, чым яна захапляецца. Потым з вялікай ахвотай перакладаў вершы Крыстофера. Пакуль галава не зашумела. «Мусіш…: У поце чала свайго…» [у дзённіку].

*5 чэрвеня, субота*

Спрабаваў пісаць словы на «Свабоду». Нейкая ватная галава. Выйшаў, каб купіць карамелек да зялёнай гарбаты. Цэны вар’яцеюць. Сапраўды, як у нас некалі казалі: жыць будзеш, але не захочаш.

*6 чэрвеня, нядзеля*

І абміраў, і ратаваўся працай. Пісаў словы для «Свабоды», караценечкае слова пра Васіля ў «Звязду». Назваў «Знакавая асоба Беларусі».

*7 чэрвеня, панядзелак*

У «Звязду». Да Алеся Карлюкевіча. Нешта яны не могуць дамовіцца з яўрэямі наконт «Трох зорак». Нікому нічога не трэба.

*8 чэрвеня, аўторак*

З Карласам у Беларускім калегіуме[1] выступалі. Потым вечарына Алеся Камоцкага. Мілая, інтымная, беларуская. Гэта ўжо рэдкасць.

*9 чэрвеня, серада*

У ТЮГ. Сустрэча з Шайком. Будзе ўсё-ткі ставіць «Марныя намаганні кахання». І ў аптэку па лекі — частая дарога, калі дарога жыцця карацее.

*Пачынаеш…*

У сталым веку пачынаеш разумець,
Што адчувае рыба, выкінутая на бераг,
Што прымушае зелянець самотна медзь,
Чаму зіма ляціць на конях белых.
Век сталы —
Ён прысталы, ён стамлёны.
Падковы збіліся.
Згубіліся страмёны.

Наогул пачынаеш як забывацца, як гэта самі йдуць вершы. Боль.

---

[1] Беларускі калегіум — форум для правядзення публічных лекцый і дыскусій, кантактаў і супрацоўніцтва з калегамі сярэднееўрапейскіх і заходніх краін.

*10 чэрвеня, чацвер*

Сёння маме было б 90. Спёка даводзіць да вар'яцтва. Прыгадваецца, як яна казала: «Пякуся, як арачак на сонцы…» «Маме»[1].

*11 чэрвеня, пятніца*

У ПЭН, у «Полымя», як па дне апраметнай — так смаліць. З хворай галавой перакладаў.

*12 чэрвеня, субота*

Пекла. На сонцы 42°. Нічога рабіць не магу. Жыць цяжка — боль. У «Народнай волі» цудоўная прыпавесць Васіля «Галоўны крыгсман». Мова — шчырая золата.

Някляеў пасля артыкула[2] супроць [Замяталіна] ў Польшчы. Відаць, хоча прасіць прытулку палітычнага. Гуляць з уладай страшней, чымся з агнём. Шкада Уладзю.

*13 чэрвеня, нядзеля*

Гэта ўжо не смешна. Канаю ад болю. Галава як абручамі сцята. Да страху нейкага баліць галава. Шалёная спёка. Прачнуцца б заўтра, каб пайсці да прафэсара. А яшчэ дадае болю абсалютная галеча. Працаўнікі на ніве беларускасці — камікадзэ. Ні спагады, ні падтрымкі. Толькі кпіны й абразы.

*14 чэрвеня, панядзелак*

Да прафэсара Шалькевіча. Даў добрых лекаў і яшчэ выпісаў. Па спякоце бегаў па аптэках. Некалі бегаў па крамах, дзе б здабыць выпіць. Цяпер па аптэках.

*15 чэрвеня, аўторак*

Патроху прыходжу ў сябе. Пасядзеў на пяньку й на камяньку ў скверыку. Нават верш напісаў:

*Не лекі лечаць…*

*Прафесару*
*Валянціну Браніслававічу Шалькевічу*

Не лекі лечаць — лечыць дабрыня
З душою чыстаю, як навальніца.

---

[1] Гл.: Маме (10.06.99) // Ксты. С. 270.

[2] Артыкул У. Някляева «Антыподы і эфіопы» («Народная воля», 8 чэрв. 1999) пра ролю віцэ-прэм'ера У. Замяталіна ў лёсе СПБ, рэдакцый беларускіх выданняў і ў асабістым лёсе аўтара.

Ад чорных думак, як ад варання,
Нічым не адмахнуцца, не адбіцца.

Не лекі лечаць — лечыць глыбіня
Душы, якая ласкі не шкадуе.
Яна з яшчэ жывога караня
Галінку веры ўзгоніць маладую.

Не лекі лечаць — лечыць неспакой
За цішыню чужой душы балючай.
Людская мітусня цячэ ракой.
І дабрыня схіляецца над кручай…

*16 чэрвеня, серада*

З Алесем выступалі ў аграрным універсітэце.

Хапілі ныркі. Яшчэ адно.

*17 чэрвеня, чацвер*

Алесь павёз мяне ў дыягнастычны цэнтр. І з ныркамі ў мяне справа швах. Па кавалках развальваюся.

*18 чэрвеня, пятніца*

Па спякоце ў Прадстаўніцтва ААН. Развітанне з Эльзай і Крыстоферам.

*19 чэрвеня, субота*

Сёння 76 Васілю. Дай Божа яму веку! Пазваніць не магу. Можа, хутка ўбачу. Абяцаў прыехаць.

*20 чэрвеня, нядзеля*

Канаю ад галаўнога болю. Усё няміла. Усё, што рабіў і зрабіў, здаецца марным і непатрэбным. Нічога не хочацца. Нікуды не хочацца. Нават ва Ушачу збіраюся са страхам. Прывязаны да ўрачоў, да лекаў, да аптэкаў.

*21 чэрвеня, панядзелак*

Сцягаўся да Карлюкевіча й трошкі перадрукаваў вершаў Крыстофера. Безвыходнасць, беспэрспэктыўнасць, галеча.

*22 чэрвеня, аўторак*

Да Карласа. Васіль не прыедзе ў чэрвені. У горадзе Лахці йдуць Дні літаратуры. Адзін дзень будзе прысвечаны Васілю. Дзякуй фінам. Нашыя ахламоны толькі вечары ў Нацыянальным тэатры робяць [...] Чаргінцу[1].

*23 чэрвеня, серада*

З Алесем трошкі пахадзілі па горадзе. Наташа аддала чарговую порцыю Крыстофера.

*24 чэрвеня, чацвер*

Канаў. Перакладаў Крыстофера. Знік смак жыцця. Толькі й слухаю, дзе баліць.

*25 чэрвеня, пятніца*

Нарэшце залева! Пахаладала. А мне палепшала.

*26 чэрвеня, субота*

Канаю й перадрукоўваю Крыстофера.

*27 чэрвеня, нядзеля*

Канаю, рабіць нічога не магу.

*28 чэрвеня, панядзелак*

У 10-ю бальніцу да Ігара Сарокіна. Найшчырэйшы беларус. Ужо гэта адно мацнейшае за лекі. Яшчэ Стральцова некалі лечыў. Выпісвае рэцэпты: «28-е сёння. Гэта ж па Купалу імша. У касцёл не магу схадзіць — з раніцы праца. Вечарам з дзецьмі йду на могілкі да Купалы». Можна б было і ў нас мець нацыянальную інтэлігенцыю. Святлее на душы, калі чуеш ад маладога ўрача чысцюткую беларускую мову. У балтаў і пры савецкім рэжыме інтэлігенцыя трымалася свайго.

*29 чэрвеня, аўторак*

Бегаў. Здабываў лекі. І дорага, і няма.

*30 чэрвеня, серада*

Прыехаў Алесь з Літвы. Неяк на душы пацяплела. Такі ён шчыры.

---

[1] Чаргінец Мікалай Іванавіч (н. 1937), беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1993). Кандыдат юрыдычных навук (1977). Прафесар (2002). Заслужаны работнік МУС СССР (1977).

*1 ліпеня, серада*

У «Вожык», у «Бярозку». Усе ледзь ліпяць. Націск супроць усяго беларускамоўнага.

*2 ліпеня, чацвер*

З хворай галавой дабіваў Крыстофера.

*3 ліпеня, пятніца*

Перадрук праз сілу.

*4 ліпеня, субота*

Нарэшце ўсё перадрукаваў.

*5 ліпеня, нядзеля*

10 гадоў Дамінічцы. Шчасці ёй, Божа.

*6 ліпеня, панядзелак*

*Вушача.* Палова хаты абкрадзена, бялізна і ўсё, што злодзеям падабалася.

*7 ліпеня, аўторак*

Адлежваюся. Ці таблеткі, ці стома таму віною.

*8 ліпеня, серада*

З Роўбам на Плінскае возера. Хаця пакупаўся. Галава чыстая, як вымытая пляшка, — каб радок, каб рыфма.

*9 ліпеня, чацвер*

Валі 60. Святкуем дома.

*10 ліпеня, пятніца*

І не хворы, і не здаровы. Пэнсійны стан галавы. Пачынае вадзіць убакі. Учора ляснуўся лабяцінай, падаючы з ганка са шклянкай у руцэ. Абышлося.

*11 ліпеня, субота*

Жыву амаль расцінным жыццём. Пад'еў — аюсь у хлеў! Паліў камін. Нішто не радуе. Заўтра курс таблетак канчаецца, можа, палепшае.

*12 ліпеня, нядзеля*

З вадой у нас як заклён які. Зноў уздзіраюць падлогу. Нешта рамантуюць. Ці надоўга? Таблеткі й спёка дурманяць галаву. Аж не ведаю, жыву я ці не. А тут яшчэ Мірон прапаў. Другі дзень няма. Любімая істота. Шкада, як роднага.

*13 ліпеня, панядзелак*

Мірон знайшоўся. Еду ў Менск. У аўтобусе пад 40°. Выскачыць няма куды. А яшчэ гаманкія сарокі мясцовага маштабу не даюць ні хвіліны задумацца, у цішыні пасядзець. Хоць верш пісаў: «Крыстоферу Леандоэру»[1].

*14 ліпеня, аўторак*

Па спёцы з Алесем да Сарокіна. Даў лекі. Абнадзеіў. Вечарам звоніць Карлас. Мяне цэлы дзень шукаў Васіль. Прыехаў.

*15 ліпеня, серада*

Да Васіля. Крыху пастарэў і пасвяжэў. Быў на літаратурным кангрэсе. Літаратура нікога не цікавіць. Гомікі — іншая справа.

*16 ліпеня, чацвер*

У ПЭНе вузкім колам віншавалі Васіля. Сумныя развагі Васіля пра надзею.

*17 ліпеня, пятніца*

Сёння спахапіўся — няма шкатулкі і пластмасавай каробкі, дзе Дамінічкіны крыжык, завушнічкі, ланцужок залаты. Мае пярсцёнкі, 5 рублёў залатых. Як ветрам садзьмула. Усё крадуць. Усё знікае. Жыць не хочацца. Збіраемся з Васілём ехаць у Вушачу. За рулём будзе сын Сяргей.

*18 ліпеня, субота*

*Вушача.* Дамовіліся, што я прыеду да Васіля а восьмай раніцы. Бо ён ездзіць толькі адным маршрутам і ведае адзін паварот на дарогу на Полацак. Устаў а пятай, каб не спазніцца. Званок: чакай пасля дзевяці, забярэм на прыпынку трамвая. Чакаю. Потым званок зноў. Сяргея няма. Хапіў таксі і да Васіля. Каля 11-ці выехалі. Папаска ў лесе. Пад'язджаем да Вушацкага раёна, Васіль сцішана сыгналіць. Кажа: «Раней заўсёды захлыналася сэрца, калі бачыў Вушацкі раён». Едзе лёгка, але ўнутраная напруга адчуваецца. Раптам заўважае: «Бач ты, аблокі над Вушачаю, як і

[1] Гл.: Крыстоферу Леандоэру (13.07.99) // Леандоэр К. Вершы для Эльзы. Мінск: РЛМФ «Гронка», 1999. Пер. Р. Барадуліна. Тыльная вокладка.

два гады таму. Аблокі-лежабокі», — прыгаворвае. Камуністаў ненавідзіў усё жыццё, страх не дазваляў усё сказаць. Страх быў разліты спрэс. Калі было так званае ўз'яднанне, межавыя слупы аднеслі за Беласток, а тут слупы і памежнікі засталіся. Праўда, ужо не стралялі, калі хто шастаў ля мяжы. Маці Ганна Рыгораўна (так жа звалі й жонку Дастаеўскага[1]) была з Закутку. Закутак апынуўся на тым баку возера Супонец, пад Польшчай. У Закутку жыў брат Лявон, жыў з рыбы й памёр пасля вайны, застудзіўшыся на рыбе. І вось маці адважылася перайсці мяжу. Уночы балотам, ля возера. Тры дні не было. Пад раніцу вяртаецца мокрая ўся, бо зноў жа балотам, мокрым лесам. Цераз плячо вісела паклажа. Барановая лапатачка спераду, за спіной кілаграмаў шэсць мукі. Як жа гэта спажыць, каб не даведаліся. І раптам прыходзіць суседка: «Ці не пазычыш ты трошкі мукі, бо ты ж да брата хадзіла». Усе анямелі. Вёска ніколі не спіць і ўсё бачыць. Усіх, хто меў радню за так званай мяжой, пахапалі. Маці ацалела, бо была непісьменнаяя. Ніякой перапіскі.

Пад'язджаем да Ваўча. Там сястра Васілёва Валя адна. Шурка памёр. Хоць піў, а розум меў здаровы, чытаў усю прагрэсіўную прозу, гарой стаяў за Васіля. [...]. Валя ў Ваўчо да Шуркі прыйшла з пасагам — з кароўкай. Але пасвіць не было дзе. У вайну гналі дзяўчат на капанне акопаў. Валя схавалася ў лазовы куст. Калі гналі дзяўчат, стрыечная сястра паказала на Валю. Дзяўчат павезлі ў Германію. Валя выскачыла ў Маладзечне з вагона. А думала, што будзе без ног ці без рук. І лясамі дапала да Бычкоў. А стрыечная сястра нарадзіла без мужа сына з заечай губой. Потым сына забілі ў п'янай спрэчцы. Засталіся ўнукі. Васіль дапамагаў, каб унукі былі са сваёй хатай.

Васіль прывёз мяне ў Вушачу, а сам паехаў да Валі. Да мяне на гарышча, падстрэшша, прыйшоў Мірон, паляжаў пад лямпай і пайшоў спаць на ложку каля швейнай машынкі. А на вуліцы суседкі, як некалі пры маме. І такі спакой на душы. І нікуды-нікуды не хацелася адсюль. «Ліст у Фінляндыю з Вушачы. Дзесяты»[2], «Напэўна…»[3]

*19 ліпеня, нядзеля*

Ускруціўся рана. Баяўся праспаць Васіля. Сад стары й запушчаны. Усыхае. Калі падсаджваць, для каго? Нападала спелых яблыкаў. Аднекуль выйшаў Мірон, праехаў да рыбы сваёй у мяне на плячы. Нейкая хваля яднання з вечнасцю, злучэнне парванага ланцуга душы й роднага сельбішча, душы й неба продкаў. Ці не самы разумны палявы камень, які вякамі

---

[1] Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч (1821–1881), рускі пісьменнік, крытык, публіцыст.
[2] Гл.: Ліст дзесяты: А над Вушачаю аблокі… (18.07.99, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 18.
[3] Гл.: Напэўна… (18.07.99, Ушачы) // Руны Перуновы. С. 402.

бачыць, як усё змяняецца й паўтараецца, як прымае ягоны сум і скамянелую радасць спадкаемны дол.

Прыехаў Васіль. Дамінічка дала яму значок з вушацкай выявай. Я адарваў дзве дзядоўніны ў цвеце і ў зацвітанні. Васіль усіх сфатаграфаваў. Патурбаваны Мірон кепска пазіраваў. Дамінічка папрасіла ў Васіля аўтограф. Курс на Менск. У Ваўчы на вуліцы чакала Валя, Васіль забыўся дарожную сумку. Ён, выходзіць, з'ездзіў у Бычкі, пасядзеў у застоллі. Забраў брата Міколу й паехалі з Валяй да яе начаваць. Раніцай адвёз у бальніцу Міколу. Каля Лепля спыніла ДАІ. Хацелі ўзяць 2 млн штрафу. Але пазнаў, што Васіль пісьменнік, яшчэ запытаўся, ці з Вушаччыны, і адпусціў. Васіль казаў, што гэта другі выпадак за ўсё жыццё. Па дарозе ў размове пра Астаф'ева[1]. Не хапіла твораў на 15 тамоў. Два тамы хвалебных чытацкіх пісьмаў. Васіль сказаў, што дзве валізы спаліў на лецішчы. І яшчэ трэба. Зрабілі папаску ў лесе. У багажніку братоўка паклала свежых яек. Усё звялося. Раней бы ў кошычку. Васіль успомніў, як бацька, бывала, ранько м у Вушачу, дзясяткі тры прадасць і ёсць, чым заплаціць падатак чарговы. Грошы ў калгасе не давалі, а падаткі грашыма. У Вушачы яйкі былі даражэй, чымся ў Кублічах, бо ў Вушачы болей чыноўнікаў было. Шчасліва даехалі да Менска.

*20 ліпеня, панядзелак*

Да Карласа. Занёс верш, прысвечаны Крыстоферу. Да Законнікава. Дачка Алёна[2] зрабіла вокладку. Няблага.

*21 ліпеня, аўторак*

Перадаваў на «Свабоду» словы. Чаканага нічога не адбылося. Так я і думаў. [...]. Дарэчы, Васіль казаў, што ў Бычках схадзіў на могільнік — там родныя, суседзі, аднагодкі.

*22 ліпеня, серада*

Забраў у Сяргея Законнікава карэктуру Крыстофера. Вельмі добра набрана. Сяргей здзіўляе сваёй працаздольнасцю і ўважлівасцю да рукапісаў. Маладосць усё можа!

---

[1] Астаф'еў Віктар Пятровіч (1924–2001), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР (1975), Дзяржаўнай прэміі СССР (1978, 1991), Дзяржаўнай прэміі РФ (1995, 2003).

[2] Законнікава (Бохан) Алена Сяргееўна, беларуская мастачка. У 1999 г. аспірантка, з 2000 г. супрацоўніца БДАМ. Кандыдат мастацтвазнаўства. Дачка С. Законнікава. Афармленне зб. К. Леандоэра «Вершы для Эльзы».

*23 ліпеня, чацвер*

Аднёс карэктуру. Пісаў верш: «Ліст адзінаццаты з Вушачы [з Мінска]»[1]. На маленькім базарчыку прадавала рыбу з вядра маладзіца, да таго азёрнымі вачыма глядзела. Паспрабаваў напісаць нешта: «Уздрыгвае на шалях рыбная драбяза…» [1-шы варыянт; у дзённіку].

*24 ліпеня, пятніца*

Ноччу дождж. Днём смяглае надвор’е. Званіла Валя. У Вушачы нават кропу й кмену няма. Калхозны сацыялізм у дзеянні. Хадзіў купляў цыбулю й часнык. Зноў спрабаваў верш: «Уздрыгвае на шалях…»[2]. Нічога не атрымліваецца. Як дома казалі, не выходзіць у Хадоры тры бліны.

*25 ліпеня, субота*

Сёння поўня. Галава мая такая ж круглая ад болю. «Ліст сямнаццаты»[3]. Аддам Васілю на ад’езд, мінуючы пошту. Бо не ўсе дайшлі. «Я вымольваю ў Бога дні…»[4]

*26 ліпеня, нядзеля*

На абед да Васіля. Васіль: «У цябе адна ўнучачка, а ў мяне пяць унукаў. І кожнаму трэба нешта везці, купляць. Лепей бы не ездзіў і ў Гародню, і на радзіму. На вачах усё знішчаецца, іначыцца. Разумею, чаму Шагал не паехаў ў Віцебск. Мы ўжо лепшых дзён не дачакаемся. Камуністы хоць мову не так выкарчоўвалі». Цікава. Пайшоў Васіль выпіць з сынам у Гародні. Дае яму сто тысяч. «На дзве бляшанкі хопіць?» Сын неяк замоўк. Васіль падышоў да півадава, а там каштарыс — адна бляшанка 480 тысяч. Вечарам мне звоніць, хадзіў у сядзібу. Там раскол. Гэта ўжо каля дзесяці ночы. І чую — званок у дзверы. Размову перапынілі. Яго як у аблаву бяруць.

*27 ліпеня, панядзелак*

Васіль стаў насіць акуляры на вуліцы, а чытае без акуляраў. Узрост усё мяняе. І стаў зусім сівенькі. Узяў білет на Вушачу на чэцвер. «Калі апошні…»[5]

*28 ліпеня, аўторак*

У «Мастацкую». Хацеў Дамінічцы ўзяць «Жоўтую акацыю» Дубоўкі. Бібліятэка на адпачынку. Сустрэў шасцёрку Мятліцкага. Увесь напоўне-

[1] Гл.: Ліст адзінаццаты: Мясціны родныя… (23.07.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 19.

[2] Гл.: Каб (24.07.99) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. Менск: Выдавец Ігар Віркоўскі, 2013. С. 58.

[3] Гл.: Ліст васемнаццаты: Кінь наперад… (25.07.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 44.

[4] Гл.: Кайна ўдзячны… (25.07.99) // Ксты. С. 161.

[5] Гл.: Калі апошні… (27.07.99) // Босая зорка. С. 85.

ны пыхлівым [...]. Аж пырскае з яго. [...]. Тыповы сучасны беларускі так бы мовіць паэт. Жывем, як у кансэрвавай бляшанцы, моцна запаянай і напоўненай глістамі. Заўтра ў Вушачу, а там зноў міні-бляшаначка.

*29 ліпеня, серада*

*Вушача!* Пасля ўсіх збораў-дабораў аўтобусам душным і перапоўненым дапаў-такі да Вушачы! Першая сустрэла лісічка Дамінічка. «Я дужа чакала ікру і дзедзю, бо ікру вёз». Вырасла. Крыху пачужэла. Ці проста свой клопат ужо бярэ верх. Адна, хто разумее мяне душой цяпер, гэта мая бедная дачушка. На катарзе мастацтва галодная й халодная, з пашкамутанымі нэрвамі. Кожны дзень думаю, з галавы не выходзіць, а ад яе — ні слова. Не гэтак жа дарага канвэрт і марка. Гэта мне аддаецца за маму. Таксама быў сынком, які ленаваўся і пазваніць, і напісаць. Ды яшчэ з віра гарэлкі не мог выкруціцца.

*30 ліпеня, чацвер*

На базар. Усё закідана трантамі з Эўропы і пад Эўропу. Традыцыйных тавараў вёскі — мала. Іду дамоў. Перада мной нейкія маладзіцы. Ім насустрач знаёмая: «Кажуць, што бедна жывуць, а з базару ўсё нясуць у дзве рукі. Калі не прынясеш у дзве, дык і адной з лыжкай не будзе чаго рабіць». Жанчыны спрацаваныя, а мужчыны спітыя-перапітыя, асабліва моладзь. Звялі людзей. Застаўся электарат [Лукашэнкі]. «Папрашуся: Каб хоць неяк замаліць грахі…» [у дзённіку].

*31 ліпеня, пятніца*

Прыехаў Роўба з жонкаю й забралі нас з Дамінічкай да сябе на лецішча ў Пліна. Гэта над самым возерам лецішча. На двухвясёлцы з адным чаўном, бо два вяслы пакінуў у алешніку, вядома, укралі. Сучасны лад жыцця не толькі ў вёсцы — красці ўсё, што крадзецца, як раней — прасці ўсё, што прадзецца. Паездзілі з вудачкамі, нічога не злавілі. Хваля перагінае вясло й вудаўё ды гайдае. Човен шаргоча ў чаратах. Пад'ехалі да вострава. Узялі Дамінічку. Гэта колькі ўжо часу прайшло, хваляў адхвалявалася з тае вясны ў блакаду, калі карнікі гналі нас, калі згубіўся я й гукаў маму: «Куліна!» І вось з унучкай сівы дзед на тых жахлівых для памяці мясцінах. Па вастраўку стралялі. Дасюль помню. Там нейкая сям'я хавалася. Страх па часе забыўся, застаўся напамін.

*1 жніўня, субота*

Вёскі выміраюць, незаасфальтаваныя вуліцы, а ў рэдкіх мужчынах асфальтавая хвароба. Гэта значыць збітыя, падрапаныя, як аб асфальт, твары. Колькі ні заходзілася да Роўбы, усім бядзіла адно — як гэта чаго

глынуць, ці віна, ці бражкі, ці невядома чаго, абы ўнутры гарэла й галаву ламіла. У падстрэшшы завалы кніг і часопісаў. Хто іх пасля мяне будзе чытаць? Аніхто. Як восеньскае лісце перад снегам — усе выданні. І кладуся, і ўстаю з адной думкаю — падыходзіць канец зямному бытаванню. Дзякуй Госпаду за кожнае імгненне, за кожную радасць, за кожны смутак, за кожную роспач!

Прачытаў новыя апавяданні Васіля ў травеньскім «Полымі», сапраўдная класіка, наская! «Ліст дванаццаты з Вушачы»[1].

*3 жніўня, панядзелак*

Паслаў ліст Васілю. Будзе доўга чытаць неасавецкая, калхозніцкая цэнзура. І паўмесяца будзе ляцець ліст з Вушачы ў Хэльсінкі. Заўтра чакаю ехаць у Полацак, Алесь павінен прыехаць. Але ад айца Андрэя ні гуку.

Паездзіны так і сарваліся. Недзе каля адзінаццаці айцец Андрэй пазваніў Алесю. Але Алесь, адкараўуліўшы ўвесь дзень, сказаў, што не паедзе. Правільна зрабіў. У айца справаў хапае, але ж мог пазваніць нехта з памагатых. Вечарам пасядзелі на спіленым яблыневым суку. І толькі сум агарнуў. Сум развітання ўсяго жывога. Паўтараюцца яблыні, паўтараецца трава, паўтараецца й чалавек, толькі ўжо не гэтакі, які быў.

*4 жніўня, аўторак*

Пайшлі з Валяй і Дамінічкай на базар па малако, па бульбу. У Вушачы, як у Парыжы недзе, усё куплёнае. Няма ні бульбы, ні малака. Сустрэлі Міколу Кірпіча — самага шчырага вушацкага беларуса, які трымае на сабе Музэй народнай славы. Грошы на музэй ніякіх. Сцены рушыцца пачалі адразу ж пасля таго, як пабудавалі. Міколу, што называецца, трэба плячыма падпіраць сцены. Сказаў цікавую навіну. Прыязджаў нейкі вучоны з Францыі. Потым прыслаў ліст Кірпічу, ці захаваўся ў Вушачы той дом, дзе ноч начаваў Напалеон[2]. Роўба, сябра мой і памочнік па гаспадарчых справах, адказны за ўсё будаўніцтва, даўно знёс усе ацалелыя будыніны. І Напалеон начаваў, і Васіль Быкаў, і Пятрусь Броўка[3], а Вушача йдзе ўніз. Толькі растуць цагляныя аля Савецкі Саюз карабкі'. Ды бамжы плоймамі ходзяць, дзе б выпіць, у якую б хату залезць, які гарод прапалоць. Беларускасць мястэчка знікла. Рэшткі словаў ды канчаткаў — *будзіць, едзіць…*

---

[1] Гл.: Ліст дванаццаты: Свабодны ад будкі і ад ланцуга… (2.08.99, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 20.

[2] Напалеон I (Напалеон Банапарт; 1769–1821), французскі імператар (1804–1814 і 1815).

[3] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905–1980), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, 1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Ленінскай прэміі (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

*5 жніўня, серада*

А сёмай раніцы на Менск. Роўба якраз ехаў. З Алесем кепска было. Перахваляваўся за паездзіны ў Полацак. Такая трымтлівая душа. Вылямак з маладога прагматычна-ірвачоўскага племя кшталту Уладзі Арлова[1] — крумкача адраджэння. Карлас у бальніцы. Праз тыдзень выпішуць. Самсон на абследаванні. Быццам наконт анкалагічнага нічога не падразумеваецца. Хаця б ён не загнуўся. Мой дарагі сябра, выдатны крытык і слухач. Тады, не дай Бог, толькі й чытаць мне вершы й раіцца з Міронам. У Менску тлумна. На нашым трамвайным прыпынку салдацікі будбата вялізнымі венікамі мятуць каля аголеных рэек. Пыл, як пасля атамнага выбуху. [...]. Аж гэта чарговы рамонт, чарговае ўзрыванне і ўкладанне лініі. На прыпынку адным разгаварыліся з пэнсыянэрам-адстаўнічком. За [Лукашэнку] гарой — «у нас ціха, няма вайны». Дык ціха і ў Балтыі, і на Украіне. [Замяталінская] прапаганда дабаўляе алею ў агонь саветызаваных мазгоў, дакладней, рэшткаў, высушкаў мазгоў.

Па дарозе назад шафёр Васіль, яму 34 гады, вясёла пра ўсё распавядаў. Як 220 машынаў з Вушачы вазілі мяккія куткі з Польшчы аж да Урала і Мурманска. Аж там недзе ў глушыні глухой Расіі казалі: «Вушача — гэта горад». Іх пыталіся: «А Менск ведаеце?» Адказвалі: «Відаць, блізка ля Вушачы». Новае слова прыжылося ў Вушачы, дакладней, старое набыло новы сэнс: ківок — п’яніца, які ківаецца. Прагрэс паціху, але йдзе ў Вушачу. Свае ж свайго падвешалі ўніз галавой, адбілі ныркі, бо даляровы доўг не аддаваў. Ачухаўшыся, той у бальніцу, распавёў міліцыянтам. Цяпер будуць судзіць спаганяльшчыкаў доўгу.

*Але ў Вушачы...*

Тут, у Вушачы, начаваў Напалеон, —
Хачу заснуць я з гэтай згадкай
І ўяўляю,
Які ён імператару прысніўся, сон?
Нягож вушацкая паненка маладая
Яго Вялікасць не ўзяла ў палон?

У нас і прозвішчаў французскіх, як грыбоў.
Як парыжанкі тыя, ўшацкія паненкі.
І да мяне адна прыйшла з юначых сноў —
Дасюль плыве ў вачах туман яе сукенкі
І кругам галава ідзе ад першых слоў.

[1] Арлоў Уладзімір Аляксеевіч (н. 1953), беларускі паэт, празаік, перакладчык, гісторык. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), прэміі Е. Гедройца (2018).

Мілосць здавён — і эшафот, і трон.
Мы век свой недарэчым і бязвечым.
І знічкі падаюць у арабіны з грон.
Няхай я ад бяссоння трызню нечым,
Але ў Вушачы начаваў Напалеон!

*6 жніўня, чацвер*

З раніцы званок. Васіль. Пытаўся, ці ёсць есці што, ці здаровы ўсе, як я здароў. Кажу яму не паліць грошы, што ў нас усё добра. Распавядаю хутка, як з Францыі пытаюцца, ці ацалеў дом, дзе начаваў Напалеон. Васіль, як заўсягды ашчадны на рэплікі, на адказы: «Трэба пабудаваць…»[1] «Ліст трынаццаты»[2]. На базар. Спёка. Увесь базар у палатках, як цыганскіх шатрах. Яшчэ раніца. Аднарукі, які заўсёдна прадае семкі, спіць, прысланіўшыся да палаткі, ківаецца. Гандлярка: «Не спі, а то прастудзішся. Ідзі ўжо дамоў».

*7 жніўня, пятніца*

І ў Вушачы баліць мне галава. Але стараюся не звяртаць увагі на боль, наколькі гэта ўдаецца. Убіўся ў азербайджанскую народную паэзію. Ёсць проста шэдэўры, хоць у перакладзе паэзія — рака пад ільдом. Лёд можа быць і празрысты, і цёмны, занесены снегам. Трапіў у том і так званы фальклор пра дзядулю Леніна і пра партыю рэцэдывістаў. На сон пачытаў Фета[3]. «Хто помніць…»[4]

*8 жніўня, субота*

Дачытаў том азербайджанскага фальклору. Тое-сёе пераклаў пасвойму. Можа, прыдасца ў эсэ пра Азербайджан. Калі Бог дасць здароўя, напішу-перапішу. Як светла было жыць, як лёгка пісалася, калі й падумкі пра смерць не было. Смерць, здавалася, ходзіць недзе староной, як той часам дождж ці гром. А калі ледзь не ў патыліцу табе дыхае, зусім іншае адчуванне.

*9 жніўня, нядзеля*

Выпісаў сабе тое-сёе з азербайджанскага фальклору. Пераклаў верш Ганада. З раніцы крыху пазавіхаўся з рыдлёўкай — у пот кінула. Галава баліць. Працаваць не магу. «Хвароба: Змяніўся з нядаўніх светлых часін…» [у дзённіку]. Зраблю падборачку ў «Вожык». Ім цяпер трэба паголены гумар. А наогул, можна рабіць паджанр «Няголены (нябрыты) гумар».

---

[1] Гл.: Трэба пабудаваць… (]2001]) // Збор твораў. Мінск, 2002. Т. 4. С. 336.
[2] Гл.: Ліст трынаццаты: І радзіма можа… (6.08.99, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 21.
[3] Фет Афанасій Афанасьевіч (сапр. Шэншын; 1820–1892), рускі паэт.
[4] Гл.: Хто помніць… (7.08.99, Ушачы) // Руны Перуновы. С. 238.

«Ліст чатырнаццаты»[1]. Маладая суседка секла ахрап'е, у кароткарукавай сукенцы. Сукенка ўлезла ў азадачак. На галаве розныя прыбамбончыкі. Сам гук секача, удары па дне сечыва вярнулі ў незваротнае…

*10 жніўня, панядзелак*

Зусім не смешна, але мне зноў блага. Да галавы дадалося яшчэ сэрца. Як хто у кулак сціскае. Вечарам з Валяй хадзілі на імшу ў гонар апекуна Вушачы святога Лаўрэна. Імшу правіў пробашч Клаўдзіюш, здаецца, з Докшыцаў. У нашым касцёле з босай галавою. Малайцы парафіяне, падчысцілі, аерам і кветкамі ўгожылі. І людзей было. Малодзенькія дзяўчаты спявалі. Служба йшла па-беларуску. Зрэдчас польскія тэксты. Можа, Бог дасць — касцёл адновяць. Хаця б да зімы дах накрылі. Сцены яшчэ моцныя. Праўда, з падмуроўкі камяні дзе-нідзе гаспадары выдралі. Каб ім бакі так. Святы Лаўрэн і апякун касцёла. Увесь дождж, які йшоў цэлы дзень, сцішыўся на час імшы, бо касцёл адны сцены, небам крыты храм.

*11 жніўня, аўторак*

Пісаў успамін пра Шахаўца[2]. Дужа шмат зрабіў ён добрага для ўсіх і для мяне таксама. Чытаў гістарычную навэлу Канстанціна Негруцы[3] «Александру Лэпушняну». Ледзь не любы мой Лапушын. Цікавыя словы. *Гаспадар* — уладца, гэта вядома. А вось *спата′р* — зброяносец. Наш *спадар* амаль. Любая мова бярэ з іншай ды па-свойму йначыць. Чытаю зноску: *шлык* — футравая баярская шапка. Гэта ад цюркскага *башлыка* адкінута *ба.* Цікава, што *пасцяльнічы [*посте′льничий] — баярскі чын. Быў бы час, каб не трэба было рупіцца пра хлеб надзённы, толькі б і чытаў што слоўнікі. Слоўнік, асабліва тлумачальны, самы цікавы бестсэлер.

*12 жніўня, серада*

Пасля шалёнай спёкі шалёныя залевы. А ў перапынках парыць, аж душа выскоквае. Сэрца нехта трымае ў кулаку й не адпускае. З Валяй і Дамінікай на базар. Інтэрбарахло. Наогул у Вушачы цэлы аўтапарк гніламарак, як яны называюць іншамаркі. Валя падышла купляць Мірону рыбку, а я адразу адышоўся. Сівенькая маленькая бабка — мая выкладчыца гісторыі Ганна Мікалаеўна, спачатку ў дзявоцтве Палонская, потым Шэ′ўчанка. Пачуццё нейкага сораму, невядома якога, адвяло мяне ад прылаўка. Хоць нічога ў тым няма. У краіне разгорнутага калхознага

---

[1] Гл.: Ліст чатырнаццаты: За каўнер небасьхілу… (9.08.99, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 22.

[2] Шахавец Уладзімір Міхайлавіч (1918–1991), беларускі празаік, перакладчык. Заслужаны работнік культуры БССР (1979).

[3] Негруццы Кастаке (Канстанцін; 1808–1868), малдаўскі і румынскі пісьменнік.

сацыялізму ўсе амаль і да пэнсіі жабракі, а на пэнсіі — пагалоўна. «Ліст пятнаццаты»[1].

*13 жніўня, чацвер*

На базары ў самым праходзе маладзіца прадае тры трусачкі. Па паўтара мільёна кожная. Прыцаніўся. Пагладзіў. Некалі ж гадаваў трусоў. Рука адчула забытую жывую палахлівую пяшчоту. У аптэцы бабка як удвая складзеная. Учора брала лекі. Узяла палову. Сёння натаргавала за яблычкі. Дзвесце тысяч. Адышлася ад аптэкаркі, каб падлічыць свой скарб. Хоць яшчэ там-сям засталіся мілыя сэрцу майму галасы, вушацкія словы. А там — суцэльная бамжоўня. Прыйшоў дамоў, а ў нас Валя, сястрычка Быкава. Як галубка лясная, ласкавая, шчырая. Здаецца, пагутарыў з Васілём. Бо й падобная яшчэ на Васіля голасам, рухамі. Пасля смерці Марыі Рыгораўны хоць наслухаўся ўшацкае мовы. І — два глыкі′, і ўзвалак, і сэрца таўчэцца, далі мазідла мазаць карак, яблыкі падкрадваюць… Чытае «Навіны» й «Народную волю». Цікавілася й Зянонам, і Някляевым. Шурка памёр, засталася адна. Прасіў пахаваць каля маткі. Але там, ля крыніцы (могільнік — былое капішча), усё заселена. Пахавалі з другога боку гары, на чысцяку. Купіла 5 кубамэтраў дроў. Гатовыя. Толькі сухастой. Абяцалі дабавіць сырых хоць трошкі. Бо сухастой гарыць добра, а духу мала. Сястрычка Васілёва — баравая зязюлька. Адна кукуе над сваім горам, над бядой сваёю. У Васіля ёсць шчырая душа. У мяне нікога. Адзін са сваімі хваробамі.

*14 жніўня, пятніца*

Мала засталося быць у Вушачы. З рання холад, а к вечару залева. Восень паўнапраўная. А на душы ў мяне — зіма. Да галавы дадалося яшчэ сэрца. Не магу працаваць ні фізічна, ні галавой. Патроху чытаю, патроху нешта крэмзаю. Цяжка засяродзіцца.

*15 жніўня, субота*

Хадзілі з Валяй у Вушачу, як у нас, бывала, казалі. Сустрэлі начальніка лесгаса. У нашым раёне ўжо не засталося лесу. Вывезлі ў Літву, Польшчу, Фіншчыну. Цяпер возяць з Шумілінскага раёна, дый там засталося на два гады. Пастараліся.

*16 жніўня, нядзеля*

Загрымеў у бальніцу з перадінсультным станам. Кропельніцы, уколы ў вену, у адпаведнае мейсца. Наслухаўся ўшацкай мовы, наслухаўся, як

---

[1] Гл.: Ліст пятнаццаты: Звужаецца радзіма ды паціху… (12.08.99, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 23.

жывуць-гаруюць, як пэнсэянеры дзякуюць [Лукашэнку], што плоціць у час жабрацкую пэнсыю. Амэрыка й НАТО хочуць захапіць Беларусь. Калхознае радыё й тэле добра фаршыруюць мазгі. А пад канец Бог паслаў старога з беспадобнай мовай, стараўся з усіх сілаў запісваць. І прымаўкі, раней нідзе не чутыя, і словазвароты. Ужо на адыходзіну, прыкладам, запісаў: стралец лапці пляцець, а рыбак рыбу пячэць, напіўся ў красу й абапёрся на насу…

*21 жніўня, субота*

«Вуніяцкае сэрца»[1]. А самі просяцца словы дзеда, што запісаў: рушаная зямелька дожджыку просіць[2]… Яшчэ ў бальніцы пісаўся верш: «Не на паперы пішам…»[3] Наведаў мяне яшчэ школьны сябра Міхась Казлоўскі, гэта ён, калі быў старшынёй сельсавета, паставіў камень памятны Вярыгу-Дарэўскаму[4]. Цяпер на пэнсыі, разводзіць пчолы, ловіць нават раі, піша вершы. Ну а Галя Варатынская са сваёй дачушкай Наташай[5] ўратавалі мяне. Колькі разоў званіў Васіль з Фіншчыны, Радзік з Канады, Ганад і залаты мой малады сябра Алесь, які Камоцкі. Сяргей Законнікаў перадаў па тэлефоне верш Крыстофера Леандоэра: «Мова ёсьць самавітая…»[6] Гэта Крыстофер прыслаў у адказ на верш, які я прысвяціў яму. Лечыў мяне цудоўны ўрач Віктар Канстанцінавіч Літвінаў. Дзякуй яму ад аблокаў да долу!

*27 жніўня, пятніца*

Выпісалі. Прыехаў дамоў. […]. Пасадзілі мяне ў вязніцу сям'і, з якой выбавіць толькі тая, якую называць не хочацца. […]. Мучаюся з-за Дамінічкі. Званіў Васіль. Адна родная душа. А так адзін, як кол абчасаны. Усе толькі знаёмыя, толькі да часу. А сябры, што ў зямлі, і ў сны не прыходзяць.

*28 жніўня, субота*

Сёння святая Прачыстая. На магільнік да мамы не дайду. Можа, у панядзелак Роўба завязе. Сёлета колькі адбыў, так і не сабраў сілы наведаць маму. Думкамі й душой там штодня. Хай даруе мне мама. І так Бог выбавіў. Можа, і папраўлюся. Як наляжышся ў бальніцы, на ўсё пачынаеш

---

[1] Гл.: Уніяцкае сэрца (21.08.99, Ушачы) // Ксты. С. 170. Верш прысвечаны А. Абламейку. (Першая страфа пакінута ў дзённіку.)

[2] Гл.: Рушаная зямелька дожджыку просіць… (]2001]) // Збор твораў. Т. 4. С. 332.

[3] Гл.: Самасуцеха (21.08.99, Ушачы) // Тамсама. С. 208.

[4] Вярыга-Дарэўскі Арцём Ігнатавіч (1816–1884), беларускі пісьменнік; удзельнік паўстання 1863–1864 гг., сасланы у Сібір.

[5] Варатынская Наталля Пятроўна ( н. 1977), урач-тэрапеўт.

[6] Гл.: Рыгору Барадуліну (1999) // Леандоэр К. Вершы для Эльзы. С.136.

глядзець вачыма іншымі. Штодня нехта памірае, нагадваючы, што й твая чарга блізка. І ты неяк зміраешся з гэтым. Як гаварыў той любімы мой дзед: пачынаеш зямлёй пахнуць. Палім вечарам камін. З суччам яблыневым трапіў у агонь і чмель, калі яго ўбачылі, ён ужо абгарэў. Дамініцы кажу: «Агонь на ўспамін». А яна: «Агонь не на ўспамін, а на скруху».

*29 жніўня, нядзеля*

Збіраўся як мокрае гарыць. Яшчэ слаб. Ад'язджаць не хочацца. Нейкая ласкавасць восеньская. Сумны сад. Нават яблыкі падаюць, каб не разбудзіць спакой. «Ліст шаснаццаты»[1].

*30 жніўня, панядзелак*

Ад'езд. Мітусня. Найбольшая трывога, каб Мірон прыйшоў дамоў з аначак. Але ён гэтакі разумны, што прыйшоў сам, і на яго надзелі нашыйнік. Машына малая была. Частку толькі забралі. Прыехалі пад самую навальніцу. Мне хапіла галаву, што ледзьве не зваліўся. На пігулках неяк адкляʹваў. Першы званок мне быў ад Васіля з Фіншчыны. Не маю словаў выказаць яму ўдзяку. Ён мне раднейшы з раднейшых. Чалавек з крынічнай душой.

*31 жніўня, аўторак*

У «Полымя» да Сяргея, у ПЭН да Карласа. Кніга Крыстофера рухаецца. Павінна быць цікавая й арыгінальная. Ішоў да трамвая й з трамвая, як па шкле ці па шклістым лёдзе. Галава кругам — вось-вось упаду. Страшна так жыць, а яшчэ страшней дажыць да гэтага канчаткова. Дамініцы заўтра ў школу. Ужо ў чацвёрты клас гімназіі пойдзе. [...] трасуць усе выданні, дзе заснавальнікам Саюз пісьменнікаў. Зноў рука Масквы — [заматаліна], [...].

*1 верасня, серада*

Даўно быў мой верасень першы. Некалі мама казала: «Як будзе табе шэсцьдзясят гадоў, у цябе будзе даўгая барада і ўнукі (а іх будзе шмат), пачнуць цягаць цябе за бараду». Мне 64, часцей хаджу ў аптэкі, чымся некалі ў забягалаўкі, і ўнучка адна, і барада караценечкая. Сумна.

*2 верасня, чацвер*

У «Мастацкую». З Галачкай [Роліч] здымаў пытанні па 3-м томе. Можа, дасць Бог, выйдзе. Прыязджаў Роўба. У яго клопат з кватэрай дачкі. Ілона абяцала, нарэшце праз паўгода абазвалася, што прыедзе 15-га. Слова

[1] Гл.: Ліст шаснаццаты: Лагода восеньская пазная... (29.08.99, Ушачы) // Лісты ў Хельсінкі. С. 24.

свайго яны, як сучасная маладзь, не трымае. Маглі нас усіх закапаць дзесяць разоў, яе гэта, як таго вераб’я, не чырыкае. Ганад часам дзівіць мяне. Параіўся, ці не напісаць яму пра. Ужо пісалі бондаркаманды, спрынчаны, пашковы. Вечарам занёс Генадзю «Няголены гумар» у «Вожык». Пазайздросціў. Сядзіць і глядзіць тэлевізар. Умее адпачываць. А ў мяне кожная хвіліна на ўліку, а толку мала.

*3 верасня, пятніца*

З’ездзіў у Дом прэсы. У аптэку. І дамоў. Яшчэ ўсяго водзіць, як пасля сейнера ў Уладзівастоку некалі. Напісаў ліст Васілю. Ад яго дужа доўга йдзе. Бо званіў, што паслаў. «Ліст васямнаццаты»[1].

*4 верасня, субота*

Перабіраю патроху паперы. Недзе з 80-га года накід: «І мой спалох У позірку тваім адбіўся…» [N.; у дзённіку]. А мне не лепшае. Усё кепска.

*5 верасня, нядзеля*

Святая нядзелька. Меў намер пагуляць, схадзіць да Самсона. Але намер так і застаўся намерам. І галава, і ногі, і ныркі. Развінчваюся на запчасткі на вачах. Няўжо не ачуняю? Нічога не хочацца, усё раздражняе. Нейкая стома конна едзе на мне. Не скінуць. […]. Каб забыцца на боль, пісаў: «Бязлітасны:

Які ён бязлітасны, свет…» [у дзённіку]. «І нанова…»[2] Знайшоў стары запіс 1989 года:

> У Саюзе пісьменнікаў
> Абіраецца старшыня,
> А такі, каб умеў лагодзіць.
> Калі трэба здаровая цішыня,
> Дык Зуёнак зусім падыходзіць.

І зноў трэба калхозная ўжо цішыня. Відаць, будзе старшыніхай шустрая Вольга Іпатава[3]. Разумная, не так таленавітая, як пладавітая. Не горшы варыянт. Хочацца кіраваць — хай кіруе. Цяпер і саюз, і пасады ў ім — дзіцячая забава з дарослым выглядам.

*6 верасня, панядзелак*

Які ўжо дзень не магу выйсці з хаты. Цяпер нейкі застудны вірус ува мне вырас. А за вакном залатая восень. Кажуць, прыехаў айцец Надсан.

---

[1] Гл.: Ліст дзевятнаццаты: Душа аблятае… (3.09.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 45.

[2] Гл.: І нанова… (5.09.99) // Халодная памяць вады. С. 88.

[3] Іпатава Вольга Міхайлаўна (н. 1945), беларуская пісьменніца. Старшыня СПБ (1998–2002).

Хацелася б яго пабачыць. Але не ўбачу. Карлас званіў Васілю. Здароўе Васілёва нічога. На Фіншчыне гэткая ж восень.

*7 верасня, аўторак*

Выцягнуў сябе на вуліцу. У аптэку. Галава кружыцца не ад поспехаў. Усю ноч не спаў. Як гэта выцелепацца з гэнай хваробы? Надакучыла быць хворым.

*8 верасня, серада*

Для падборкі ў «Вожык»:

*На развітанне*

Праводзім Другое тысячагоддзе
На адпачынак заслужаны.
Хлусні і нянавісці кажам: — Годзе!
Хай высахнуць подласці лужыны,
У якіх з лычамі і капытамі
Двухногія ўволю купаліся,
Сябе саміх ані ў краме, ні ў храме
Не чулі ў штодзённым галасе.
...І тысячагоддзе новае
Старая бяда падпіноўвае.

У саюзе Рада. Часовай старшынёхай стала Вольга. Гэта добра, бо нанова выбары — развал.

*10 верасня, пятніца*

У ПЭН. Сустрэча з айцом Аляксандрам Надсанам. Стала так блага з галавой, што папрасіў Уладзіміра Коласа завезці дадому. Сам бы не змог. Галава сцята абручамі, страх, што ўпаду. Ногі падкошваюцца.

*11 верасня, субота*

Рыхтуюся ў бальніцу. Сподзеў са страхам перапляліся. Жыццё ідзе па Бібліі. Калі б з Вечнай Кнігай знаёмы быў з малых гадоў, можа б, і жыццё іначай пражыў. Позны спахоп ёсць позны.

*12 верасня, нядзеля*

Па тэлефоне з Карласам працаваў з перакладамі над яго будучай кнігай. Пра здароўе лепей і не ўспамінаць. Суцэльны боль.

*13 верасня, панядзелак*

Панядзелак. Трынаццатага. Мой шчаслівы дзень звычайна. Сёлета тым шчаслівы, што жыву. Дужа блага. Рыхтуюся легчы ў бальніцу. «Гасподзь! Затрымацца дазволь…»[1]

* * *

Цябе забыць — сябе згубіць,
Бо толькі й жыў адной табою.
Цябе згубіць — сябе згубіць
І не знайсці ніколі болей.

Баюся вымавіць «была», —
Ты ёсць і будзеш — паўтараю.
Ты — вогнішча,
чыйго цяпла
Мне і ў спякоту не хапае.

Цябе знайсці — сябе знайсці
І быць шчаслівым той знаходкай,
З якой да шчасця лётка йсці
Сцяжынкай самаю кароткай.

*14 верасня, аўторак*

Лёг у 10-ты шпіталь. Лечыўся. Чытаў Біблію, перакладаў Карласа, пісаў трошкі вершы. Наведвалі Алесь, Сітніца,Таʹрас, Карлас, Шапран, Артур, Баршчэўскі.

*Нарэшце…*

Усё змяняецца пад гэтымі зорамі,
Адно чалавек не змяняецца,
Ён
Нязменны ў сваім нахабстве і сораме
Ад нараджэння да скону дзён.

Усё хапае й не нахапаецца,
Ашуквае іншых і сам сябе.
Пятлю на сябе ўе сваімі ж пальцамі,
Заўсёды ў дзяльбе, ў барацьбе, ў пахвальбе.

І толькі суцішаны дамавінаю,
Адпачывае ад мітусні.

[1] Гл.: Ксты: Гасподзь! Затрымацца дазволь… (13.09.99) // Босая зорка. С. 5.

Ляжыць, як тое цялятка нявіннае,
Зямлі вярнуўшы ўсе свае дні.

*23 верасня*
*8 кастрычніка, пятніца*

«Ліст дзевятнаццаты»[1]. Паспрабаваў напісаць штосьці кшталту баладаў на біблейскія тэмы: «Ной»[2]. «Ліст дваццаты»[3], «Быць!»[4], «Раманс»[5]. «Грамацейка»[6], «Ойча праведны, памажы…»[7], «Ліст дваццаць першы»[8], «Адзін»[9], «Сорак год»[10], «Смутнае»[11], «Усё роўна»[12], «Кайнасць»[13]. Усе гэтыя вершы напісаліся ў 10-й лякарні. З 14-га верасня па 8-е кастрычніка праляжаў у лякарні. Трохі падрамантавалі. Першы выезд у горад. З непрывычкі шумна, гамна, тлумна.

*9 кастрычніка, субота*

Цэлы дзень аддаў пошукам лекаў. Увечары на сустрэчу бардаў на «Вольнай сцэне»[14]. Пачынаў Алесь. Мякка, тонка, але відаць было, што хваляваўся. [...].

*10 кастрычніка, нядзеля*

Нікуды не пайшоў. Перадрукоўваў Карласа. У лякарні перакладаў. Паглядзеў, здаецца, нічога.

*11 кастрычніка, панядзелак*

Да Карласа. Шукаў лекі Дамінічцы. Зборы ў дарогу. Набраў лішняга барахла, якое не прыдасца.

---

[1] Гл.: Ліст дваццаты: Як мама зь усьмешкай казала некалі… (16.09.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 46.
[2] Гл.: Біблейскія балады: Ной (18.09.99) // Босая зорка. С. 112.
[3] Гл.: Ліст дваццаць першы: Жыцьцё не азіраецца ніколі… (19.09.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 47.
[4] Гл.: Быць! (19.09.99) // Босая зорка. С. 48. Верш прысвечаны І. Сарокіну.
[5] Гл.: Раманс (22.09.99) // Тамсама. С. 93.
[6] Гл.: Грамацейка (23.09.99) // Выпаў грук у грома з рук. Мінск: «Радыёла-плюс», 2009. С. 54.
[7] Гл.: Ксты: Ойча праведны, памажы… (29.09.99) // Босая зорка. С. 6.
[8] Гл.: Ліст дваццаць другі: Нахмурыліся хмары на мяне… (29.09.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 48. (Дата 5 кастрычніка — памылковая.)
[9] Гл.: Адзін (3.10.99) // Босая зорка. С. 104.
[10] Гл.: Біблейскія балады: Сорак год (3.10.99) // Тамсама. С. 114.
[11] Гл.: Смутнае (4–5.10.99) // Халодная памяць вады. С. 233.
[12] Гл.: Усё роўна (5.10.99) // Тамсама. С. 282.
[13] Гл.: Біблейскія балады: Кайнасць (6.10.99) // Босая зорка. С. 115.
[14] «Вольная сцэна» — тэатральная студыя пры Саюзе тэатральных дзеячаў (з 1990).

*12 кастрычніка, аўторак*

*Stockholm.* Ранічкай на *Вільню*. Доўгае чаканне самалёта. Вільня прыбраная, дагледжаная, як шляхетная паненка. Наша, але не наша. Шкада. Утульным маленькім летачком у Стакгольм. Гатэль Stockholm у самым цэнтры. Утульныя малагабарытныя нумары. Да нас прыйшла Наташа Казіміроўская. Дачка Казіміроўскага[1], які працаваў у тэатры Якуба Коласа ў Віцебску. 10 гадоў таму эмігравалі. Бацьку ўжо 82 гады. Яна тэатразнаўца, перакладае п'есы, выкладае музыку. Чароўная пухленькая гэбрэечка.

*13 кастрычніка, серада*

Экскурсія. Гід, сімпатычная маладзічка, вядзе экскурсію на 8-мі мовах. Яна з Польшчы. Таму папрасілі яе гаварыць па-польску. І ёй прыемна, і нам. Абы не на абрыдлай мове нашых калянізатараў. Стакгольм на 8-мі выспах. Сустракаюцца мора й возера. Звычайна возера выцякае ў затоку, а здараецца, што наадварот. Зямлю горад адбірае у мора і ў скалаў. Дапамог дынаміт Нобеля[2]. Горад у суладдзі з прыродай. Некалькі толькі стандартных карабкоў 60-х гадоў, як даніна амэрыканізацыі. А так дамы не засцяць неба. У музэі былі, дзе выцягнулі судна, якое праляжала ў моры 300 гадоў. Бо не выйшла ў мора. А там вада ў затоцы й салёная, і азярная. З дубу. У стары касцёл хадзілі. Гід наша хацела б пабыць ў Беларусі, але баіцца. [Лукашэнка] нагнаў страху на ўсю Эўропу. Кажа: «Паехала б у Чачэнію толькі з аўтаматам у руках».

*14 кастрычніка, чацвер*

Наташа [Казіміроўская] павазіла па месту. Швэцкія дваркі — міні-рай. Потым пабывалі ў ратушы. Там, дзе даюць балі ў гонар набілянтаў. У думках прыкінуў, як добра глядзеўся б у гэтай высокастольнай залі Васіль. Выстава Казіміра Малевіча. «Квадрат» — гэта ўсё-ткі як чырвонае быку-гледачу. Геніяльна адчуў халодную няшчадную ўрбанізацыю. Людзі без твараў — гэта й калхознікі, і пралетары, і сытыя бюргеры. Музэй, дзе Малевіч, гэта як бы прадмесце. Захавана кожнае дрэва. Машыны нават паркуюцца, уткнуўшы насы ў зеляніну. Скрозь у скрынях цвіце верас. Боскае ўражанне ад Стакгольма. Не даецца безаблічнай цывілізацыі. Паціна дахаў і скульптураў здаецца мяккім мохам. Пасля Малевіча ў прыватны мастацкі салён «Магізін 3». Nigilart само сябе знішчае. Ні формы, ні зместу, ні думкі. Пад любой скульптурай, пад любым так званым палатном

---

[1] Казіміроўскі Саламон Савельевіч (1915–2011), гал. рэжысёр Беларускага тэатра імя Я. Коласа (1967–1975). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

[2] Нобель Альфрэд Бернхард (1833–1896), шведскі інжынер-хімік, вынаходца дынаміту (1867) і заснавальнік Нобелеўскай прэміі.

можна ставіць любую назву. Менаваць як табе хочацца. Аскялёпкі ад сапраўднага авангарду. Гэта не таму, што старэю. Алесь Разанаў маладзейшы за мяне нашмат, здаецца, такой жа думкі. У малюнках маёй пяшчонкі Дамінічкі куды болей экспрэсіі і багацця колераў.

*15 кастрычніка, пятніца*

Нудны Symposium after wall [Сімпозіум за сцяной]. Нам далі па хвіліне пачытаць вершы. Ад «Бум-бам-літа»[1] сумнае ўражанне. Успомнілі даўно забытае, толькі на прымітыўным узроўні. Самапародыі, прафанацыя паэзіі. Шкада, калі ў іхных галовах не прасветліцца нешта. Разанаў раптам адкрыўся чалавекам, у якім жыве маленства, прырода. Асабліва яго расповед пра каня, які прыйшоў пад хату паміраць. Чыстая душа адкрылася, без паставы, без фронды. Я рады, што такім шчырым ён быў. Паэзія для яго — святая.

*16 кастрычніка, субота*

Наташа завезла мяне да сваіх бацькоў. Сам Казіміроўскі, некалі галоўны рэжысёр тэатра Якуба Коласа. Гэта ягоная другая жонка, з Гарадка. Некалі працавала ў «Піянеры Беларусі». Чысцютка гаворыць на беларускай мове, Казіміроўскі з Бабруйска. Нават цымесам мяне частавалі. Спецыяльны дом для людзей пахілага веку. У магазін можна ў тапачках хадзіць, ёсць нумар як бы гасцініцы, куды за мінімальную плату можна сяліць госця. Асобны хол, дзе можна прымаць гасцей, рабіць урачыстасці. Сыстэма розных лоджыяў, дзе сядзець, дзе займацца фізкультурай. Гэта ўсё тое, нават болей, што дакляравалі камуністы ў савецкай імпэрыі. Увесь побыт бясплатны, на таксі намінальная, умоўная плата. Жонка ходзіць на ўрокі швэцкае мовы. Ён падленьваецца, як яна жартуе. І ўсё-ткі ў такім дабрабыце і цішыні, здаецца мне, страшней чакаць смерць. Бо за клопатам не чуць ейнае хады, дыхання ейнага над вухам. Вядома, гэта мне так здаецца.

Вячэра ў літаратурным рэстаране. Мне галаву затлумілі бумбамлітаўцы. Думаў, што гэта дзіцячыя забавы, а гэта ўсё свядома. Дый самі яны фармальна адукаваныя. Усё на вонкавы эфэкт. У літаратуру хочуць увайсці, дакладней, улезці праз фортку. У крымінальнікаў ёсць прафесія — фортачнікі. Ніякіх заўвагаў не выносяць. Дасведчанасць нулявая, усё на самаўпэўненасці. Яны крыху спазніліся. Бо цягнік цікавасці да літаратуры даў развітальны гудок. Хай будзе й такая плынь. У гаспадарцы ўсё прыдаецца.

---

[1] «Бум-бам-літ» — беларускі творчы літаратурны рух авангардыстаў (з 1995).

*17 кастрычніка, нядзеля*

Музей Аўгуста Стрынберга[1]. Меў трох жонак. Саромеўся сваёй маленькай галавы й росту. Тады маленькая галава лічылася, што чалавек малаінтэлектуальны. Пісаў творы, стварыў свой тэатр, маляваў. Займаўся алхіміяй. Па ўсіх мерках таго стагоддзя класік.

*18 кастрычніка, панядзелак[1]*

Паездка 200-кіламэтровая ў горад *Gävle[2].* У кірсе п’еса «Чарнобыльская малітва» па Алексіевіч. Цікавая ўвогуле пастаноўка. Але пачатак зацягнуты. Па дарозе нешта прыйшло ў галаву: «Адна»[3].

*18 кастрычніка, панядзелак*

Стакгольм. Пахадзіў па ранішніх вуліцах і вулках места. Прысады асфальтаваныя. Падзелены на дзве часткі — на адной пешаходы, на другой — веласіпэдысты, ролікавыя канькабежцы. Перад гатэлем сталага веку чалавек у адных шортах і тэпцях на босую нагу. Пасівелая барада. Валасы снопам схопленыя павязкай. Робіць розныя рухі. Хоча здзівіць. Усе хочуць здзівіць некага. Але кожны па-свойму. А ўвогуле турызм ужо мне не па сіле.

У швэцкім ПЭНе сустрэча. Выступ. Тут, у Швэцыі, даўно Плакс[4], што ў «Имени» працаваў. Туркменскі пісьменнік Ширалі[5]. Цікава распаведаў пра Бердыназара Худайназарава[6]. Напісаў тэкст клятвы Туркменбашы[7]. Між іншым, былі й такія словы: «Калі здраджу, хай у мяне адсохнуць рукі, ногі». І ў самога адну нагу адрэзалі. А Байрам Джутдыеў[8] параўнаў Туркменбашы з сонцам, з пракокам і г. д. Усе праявіліся, як і ў нас, толькі з нацыянальным калярытам. Ужо хочацца дадому, бо адчуваю сябе не надта. Карлас — мужны чалавек. З лясачкай. Шыр-Алі Нурмурадаў запрашаў на плоў. Бедны, прапіў дапамогу, як сапраўдны савецкі чалавек. А новую атрымаць не гэтак і лёгка.

---

[1] Стрынберг Аўгуст Юхан (1849–1912), шведскі драматург.

[2] Па даце напісання верша — 17.10 можна меркаваць, што і паездка адбылася 1-га, але дата 18.10 пазначана двойчы.

[3] Гл.: Адна (17.10.99, Gävle) // Ксты. С. 303.

[4] Плакс Дзмітрый Пятровіч (н. 1970), беларускі паэт, перакладчык, мастак. З 1997 г. жыве ў Стакгольме.

[5] Нурмурадаў Шыралі (1946–2016), туркменскі паэт-дысідэнт. З 1995 г. жыў у Швецыі.

[6] Худайназараў Бердыназар (1927–2001), туркменскі паэт, празаік, драматург. Народны пісьменнік ТССР (1984).

[7] Ніязаў Сапармурад Атаевіч (1940–2006), туркменскі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1991 (кастрыч.) — 2006 гг. прэзідэнт Туркменістана.

[8] Джутдыеў Байрам (н. 1937), туркменскі паэт і празаік.

*19 кастрычніка, аўторак*

Паход у рэдакцыю моладзевага часопіса 90 Tal («Дзевяностыя гады»). Маладыя, увішлівыя дзяўчаты, дзелавыя, стрыманыя, практычныя. Наклад часопіса 4 тыс. 2,5 тысячы падпіска. Дзяржаўная падтрымка й спонсары. Сорам за бумбамлітаўцаў. Нахабна-неадукаваныя, пахвальбісты. Тут з раніцы было +5°. А ў нас, Карлас званіў у Менск, +3°, снег мокры й ацяпленне яшчэ не ўключылі. Тут проста душна ў любым памяшканні. Спакойная Швэцыя трымаецца раўнавагі, якую вякамі набірала. Раніцай выходзіў. «Накід: Сарокі шведскія…» [у дзённіку].

*20 кастрычніка, серада*

Паездка ў майстэрню Ёхана Пэтэрсона. Майстэрні некалькіх мастакоў у былой школе. У гэтым жа будынку жывуць і бамжы. У асноўным гэта наркаманы. Мастак Пэтэрсон мысліць цікава й глабальна. І ростам як сапраўдны вікінг. Муж Сілы Нейман. Цікава заўважыў, што ў Швэцыі няма каго баяцца ў прыродзе, уся прырода акультурана й прыручана нават. На што запярэчылі швэдкі: а мядзведзі, а ласі? А настрой псуюць бумбамы. Кляшчы на целе Беларушчыны. Як падумаеш, што падобныя йдуць на змену, на замену, моташна робіцца, як у нас казалі — лідаік. Хай бы выпердрываліся адны, без нас. А то, як па-расійску кажуць: сбор блатных и нищих. Цікава, што так нехта й на маю Ілоначку глядзіць…

Вечарам Туровіч[1] прыйшоў крыўдзіцца Карласу. Вішнёў[2] падаў заяву ў СП. Швэцкаму інстытуту падалі заяўку, што тазік з'іржавеў, трэба новы для «Бум-бам-літу». Хэлен[3] прыйшла й сказала, што вырашана дапамагчы набыць новы тазік. І дала 2 млн «зайцоў» і колькі леваў. Гэта горай, чымся жабрачку кінуць мядзяк.

*21 кастрычніка, чацвер*

У часопіс паэзіі. Дужа інтэлігентны, дасканалы часопіс. Рэдактар паэт. Нашыя цыганы з «Бум-бам-літу» пачалі наперабой сябе рэкламаваць. Мне за іх сорамна, а ім — ані шум баравы, як у нас казалі. А вечарам выступ у кавярні «Панарама». Спачатку здалося, што ўсё праваліцца. Але слухалі й кніжкі размялі. Маладыя ўжо і лежачы чыталі, і выдавалі роў. Потым у багемную кавярню КВ. Мастакі сто гадоў таму ў складчыну пабудавалі. Тады гэта была ўскраіна, а цяпер самы цэнтр. Багема ў класычным варыянце.

---

[1] Туровіч Алесь (Аляксандр Канстанцінавіч; н. 1973), беларускі пісьменнік.

[2] Вішнёў Зміцер Юр'евіч (н. 1973), беларускі пісьменнік, мастак, выдавец. Адзін са стваральнікаў літаратурнай суполкі «Бум-бам-літ».

[3] Сігеланд Хэлен, супрацоўніца Шведскага інстытута.

*22 кастрычніка, пятніца*

Апошні дзень. Ад’езд. Прыйшла праводзіць Кайса[1]. Таксіст, які вёз, іспанец. Жыве ў Швэцыі 20 гадоў. Быў рады пагаварыць з Карласам. Дарэчы, запытаўся ў Карласа: «Чаму гэта вы вяртаецеся з раю ў пекла?» У Беларусь баяцца ехаць. Беларуссю палохаюць. [...]. Лёту мала. Пабачыў Вільню з неба. Усё ўнутры замірае пры гэтым слове. Вільня — наша, але не наша сталіца. Беларусы, як і заўсёды, праспалі. І мяно сваё, і сталіцу сваю. Дасюль спяць, каб [забыцца?] пра мову й рэшткі быццам бы дзяржавы. «Начная Вільня з-пад самалётнага крыла: Заімгнелым зрокам Узіраемся ў цемру пільна» [у дзённіку].

*23 кастрычніка, субота*

Пасля чэргаў на мытні дастаўся дадому. Сустрэла Валя й Мірон. Дамінічка спала. Не ведаю, ці прывыкаў дома, ці адвыкаў ад паездзінаў. Першы, хто пазваніў, як заўсягды апошнім часам, быў Васіль. Ён нас чакаў у Фіншчыне, а мы не змаглі прыехаць. Атрымалася, як у показцы, блізка локаць, а не ўкусіш. Карласу ў панядзелак 65. Пісаў вітанне: «Карласу Шэрману на міні-ўгодкі: Мой сябра залаты…» [у дзённіку].

*24 кастрычніка, нядзеля*

Сядзеў дома. Нічога ў галаву не лезе. Сам не свой. Хвароба цікуе за мной.

*25 кастрычніка, панядзелак*

У ПЭН. Крыху пашвэндаўся па горадзе. Ногі ватна-гумовыя. Званіў мой любімы вядзьмар Пётра. Можа, ён дапаможа.

*26 кастрычніка, аўторак*

У «Мастацкую літаратуру». Ганад рады публікацыям сваім. Яшчэ малады, значыць. Мяне ўжо, лічы, усё не цешыць. Да Карласа ў ПЭН. Маленькае застолле ў гонар яго міні-ўгодкаў.

*27 кастрычніка, серада*

На радыё «Свабода». Замест Жанны Жданко[2]. Шустрая моладзь.

*28 кастрычніка, чацвер*

Прыехаў вядзьмар Пётра. Крыху мяне падлечыў.

---

[1] Кайса Оберг Лідстэн (н. 1953), шведская перакладчыца.

[2] Жданко Валянцін Пятровіч (н. 1964), беларускі журналіст. Пасля 1995 г. супрацоўнік Радыё «Свабода».

*29 кастрычніка, пятніца*

На Камароўку. Цэны шалёныя. А народу поўна. Да Тараса. На пераклад два вершы пра Азербайджан. Ганаду трэба. За Васіля атрымаў грошы. За цэлы том каля 100 даляраў. Ніхто б за мяжой не паверыў. Заўтра з’езд БНФ. Напісаў старонку выступу. І рыфмы: «Паяднаймася, спадары сябры!» [У дзённіку].

*30 кастрычніка, субота*

З раніцы хапіла сэрца. Пайсці на з’езд не змог. Там, званіў Артур, атрымаўся ўсходні базар. Мне толькі гэтага не ставала для маіх нэрваў. Слухаў «Свабоду». І яны рэанімуюць стукача Лужаніна. Лукашук, які ўзначаліў радыё, — былы супрацоўнік пасольстваў, загадчык аддзела партыйнай «Звязды». Даверлівасць нашай эміграцыі дзіцячая. [...]. «Усё яшчэ...»[1]

*31 кастрычніка, нядзеля*

На Камароўку. Купіў зёлкі, якія мне прапісаў вядзьмар Пётра. Дай Бог, каб дапамагалі. «Ліст дваццаць другі»[2].

*1 лістапада, панядзелак*

У ПЭН. Пачуў Васілёў голас. На душы пасвятлела. Васіль прыпыняе сваё сяброўства ў БНФ, пакуль не аб’яднаюцца. Я зраблю гэтак жа.

*2 лістапада, аўторак*

Увесь дзень круціўся ў хаце. Косця заклеіў мне вакно. Шкада й яго, непрактычнага. А за Ілону сэрца будзе балець, пакуль жыву. Худая, галодная, сама нервовасць.

*3 лістапада, серада*

З Алесем да Сарокіна. Алесь павазіў мяне па горадзе. Неяк узгадаліся маладыя гады — таксі, загулы. Цяпер гэта ўсё ў далёкім незваротным мінулым. У адным двары дворнічыха абтрасала дрэвы, каб хутчэй апала лісце, ёй меней працы — змятаць штодня патрошку. А так агулам. «Каб хутчэй...: Ачомацца ад начной залевы...» [у дзённіку].

*4 лістапада, чацвер*

Учора, думаў, звар’яцею. Галава правальваецца ў пространь. Раніцой перадбальнічны стан. Божа, няўжо так мучыцца да сканчыны? І вядзьмарскія травы не дапамагаюць. Хадзіў да Ганада. Упрагаюся зрабіць пераклады талышскага паэта. Кніга будзе білінгва. Свае вершы няма дзе

[1] Гл.: Усё яшчэ... (30.10.99) // Халодная памяць вады. С. 232.
[2] Гл.: Ліст дваццаць трэйці: Дзе яна, айчына душы? (31.10.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 49.

друкаваць, кнігі паэзіі ўжо амаль не выдаюцца. Выдаюць толькі [...] пахвоснікаў.

*5 лістапада, пятніца*

Культпаход на Камароўку. Купіў мукі, рысу. Забраў акуляры з рамонту. Перадрукоўваў пераклады яўрэйскіх паэтаў, што загінулі на франтах.

*6 лістапада, субота*

Да Рэлеса. Аднёс пераклады, кнігу пра гісторыю Віцебска на ідыш, выдадзеную ў Штатах. Яе перадаў у Стакгольме Казіміроўскі. Два яўрэя. Адзін у Стакгольме жыве як у Бога за пазухай, другі тут — закінуты, працёртая кашуля на локці. Уключае дзве гарэлкі на кухні, каб сагрэцца, бо яшчэ не запалілі, хоць на вуліцы мінусавая тэмпература. Кажа пра Ізраіль: «Нашых яўрэяў артадоксы не прымаюць: «Вы павінны былі чакаць, каб вас прывёў Мэсія». Артадоксы нават пішуць на сценах: «Бі жыдоў, ратуй Ізраіль!» Анекдот часоў Сталіна: у трамваі сустракаюцца двое. Адзін і пытае: «Разгадай рэбус — што нам абяцалі на фронце й што далі?» Раптам голас кэгэбіста: «Райхер, пойдзем са мной, выходзьце!»

* * * [Запісы аповедаў Р. Рэлеса рознага часу:]

За золата судзілі. Залаты гадзіннік на вяселле [падарыл]. ГПУ[1] забралі. [Звоніць:]

— Колькі часу?

— Куды звоніце, гэта ж ГПУ.

— Я знаю, у вас мой залаты гадзіннік.

Сара Каган[2] на сходзе аб імпрэсіянізме:

— Ой-ой!

— Не страшна, — нехта з-за спіны суцяшае.

Хаваліся ўсю вайну на магільніку. Пабіраліся беларусы як бы для сябе, а на справе — для іх [яўрэяў].

Пры Хрушчове закрывалі сінагогу. Перад новым годам пісалі запіскі і [кідалі] ў скрынку ў сінагозе. «Гасподзь Бог, злітуйся нада мною. Зіма. Хата развальваецца. Прышлі мне 300 рублёў». Сабраў 200. «Дзякуй. Не пасылай праз КГБ (бо 100 сцібрылі)».

Паставілі на каланчу пажарнікам. Сядзіць і дрэмле. Начальнік Каўман у галіфэ. Каб не спаў, штогадзінна стукае. «Ты ж 13 замест 12 бум — назад адстукай».

Пасля вайны каманда: «Уставайце на калгасную бульбу».

---

[1] ГПУ= ДПУ — Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне (люты — снежань 1922 г.).

[2] Каган Сара Рувімаўна (1885–1941), яўрэйская паэтэса, празаік. Загінула ў Мінскім гета.

Ці ёсць жыццё на месяцы? Сядзіць адзін:
— Няма людзей.
— Які доказ?
— Калі б яны былі, яны б нас абас.алі.

— Схлусі што-небудзь — рубель дам.
— Ты ж казаў, што два…

*7 лістапада, нядзеля*

Да Тараса. На пераклад вершы пра Азербайджан. Кахін з Ганадам выдаюць нейкі зборнік.

Тарас піша ўспаміны. Некалі ён задумаў быў кнігу вешчых сноў. Але не зрабіў. Гэта было б цікава. Тарас напісаў два радкі: «Мой дядя самых честных правил»[1], Не то что Якубович Павел».

*8 лістапада, панядзелак*

У «Мастацкую» аднёс пераклады Тараса. Том мой перакідваюць на наступны год, трэба штогод выдаваць міліцыянта Сяргея Давідовіча[2], ад чыіх кніг ломяцца склады. Такі час. Раней была павага кэгэбістам, цяпер і міліцыянты да іх далучыліся.

*9 лістапада, аўторак*

У Беларускім калегіуме прэзентацыя часопіса «Спадчына». Быў як сябра рэдкалегіі, выступаў. Нарасло ўсё-ткі шчырых беларусаў. Маладыя, дасведчаныя. Прафэсар Грыцкевіч цікава распавёў, як у часы савецкай імпэрыі быў адзін момант, каб даказаць, што Вялікае княства Літоўскае не беларуска-літоўская дзяржава, а толькі літоўская. Пералічваюць князёў. «Хто яны па нацыянальнасці?» Грыцкевіч адказвае: «Літоўцы». Вось яны й крычаць: «Значыць, і дзяржава літоўская». Тады Грыцкевіч (дарэчы, ён падкрэсліў далбалобам, што гэта па савецкай пашпартнай сістэме) пытаецца: «Хто па нацыянальнасці цары (называе некалькіх)?» Адказваюць: «Немцы». — «Тады, значыцца, і дзяржава нямецкая». А калі нехта аднойчы запытаўся ў прафэсара: «Як гэта беларусы разграмілі расійцаў пад Воршаю?» — адказаў: «Даруйце, я не камандаваў войскам…»

[1] Радок з паэмы «Яўгеній Анегін» А. Пушкіна.
[2] Давідовіч Сяргей Фёдаравіч (н. 1942), беларускі пісьменнік, мастак. Скончыў Вышэйшую школу міліцыі.

*10 лістапада, серада*

У ПЭН. Сустракаўся са Зміцерам Бартосікам[1]. Успамінаў яму пра «Мутнае вока»[2] ў «Нашу ніву». Гэта ўжо старасць афіцыйная, калі пачынаеш займацца ўспамінамі. Хоць старасць — гэта калі ў рэстаранах няма знаёмых афіцыянтак. А ў маім варыянце й знаёмых рэстаранаў няма. Не помню, калі хадзіў. «Калі ў Вушачы начаваў Напалеон…»[3] Наноў перапісаў верш. Цяпер, здаецца, лепей.

*11 лістапада, чацвер*

Да Эдуарда Зарыцкага. Даў мне касэту з ягонымі песнямі. Дзве пяе дачка. У Алеся запісаў «Ойча наш». Ён амаль закончыў дзве праграмы. Можа, дасць Бог, выдасць. Шчыры й чысты, як першы снег. «Паэма»[4].

*12 лістапада, пятніца*

У падатковую інспэкцыю. Толькі пені каля 6 млн. Гэта за леташні год. Даюць грашы, а абдзіраюць як ліпку. Калхозны сацыялізм у дзеянні. На Чэрвеньскі рынак. «Чаўнакі» не любяць [Лукашэнку]. Цікава адзін сказаў: «Самы лепшы быў Шушкевіч, пры ім валюты хапала». Так па дробязі разменьваю цвёрдую валюту сваіх дзён, якіх, думаю, засталося не шмат. З дня ў дзень нейкі дурны клопат, беганіна. А гэта, выходзіць, і ёсць жыццё, якое збіраўся пражыць не так, як усе, чакаў яго.

*13 лістапада, субота*

Перадрукоўваў вершы для «Юнацтва». Валя з Дамінікай паехалі ў Дуброўна. Засталіся ўдваіх з Ілонаю.

*14 лістапада, нядзеля*

Сойм БНФ. Большыня старых народафронтаўцаў усё-ткі тут. І, што асабліва ўсцешна, маладафронтаўцы з намі. Можа, у Зянона надыдзе прасвятленне. Ён жа, як і наш вялікі Васіль, знакавая постаць. Кэгэбэ папрацавала на дэзарыентацыю Зянона. Шчыры й нязломны, ён трэба тут. Арлоў у сойме зноў. Значыцца, пахне нейкімі грашыма.

*15 лістапада, панядзелак*

У «Юнацтва» занёс вершы. Ілона ў сваім рэпэртуары. Шкада яе. Сэрца баліць.

---

[1] Бартосік Зміцер Валер’евіч (н. 1969), беларускі бард, пісьменнік. Лаўрэат прэміі Е. Гедройца (2017), Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2017).

[2] Так паміж сабой называлі кафэ Дома работнікаў мастацтва.

[3] Гл.: Калі ў Вушачы начаваў Напалеон... (10.11.99) // Босая зорка. С. 105.

[4] Гл.: Паэма (11.11.99) // Тамсама. С. 94.

*16 лістапада, аўторак*

Розныя гаспадарчыя клопаты. Па рамонтных майстэрнях культпаход. Падэшвы замяніць — палова пэнсіі. Безрукаўку на кажушыне пачысціць — чвэрць пэнсіі. Цэны эўрапейскія, а зарабатная плата й пэнсіі калхозныя. «Ліст даццаць другі»[1].

*17 лістапада, серада*

Цэлыя прыгоды з шапкай. Два з паловай гады аддаў кушняру прашыць. Сёння пайшоў. Усміхаецца спадар Станіслаў Стэфановіч: «За 2,5 гады моль з’ела шапку». І дае мне сваю. За невялікую даплату. А дома Ілонка спіць. Даў ёй пігулку. Дзякуй Богу, сама папрасілася да ўрача. У суботу паедзем да Сарокіна. Увесь дзень наводзіў парадак у кухні. Косця паклаў ленолеум. Ілона ўсё парадкуе. Як у нармальнай сям’і.

*18 лістапада, чацвер*

Працягваем наводзіць парадак. Мажа, хоць збольшага будзе нешта. Пераклаў некалькі вершаў Ганада.

*19 лістапада, пятніца*

Сяджу дома. Косця прыхаіў кухню. Ілонка корміць мяне. Яна ўсё ўмее. […]. Як у канцлагеры жыву. І ніякога прасвету. Рэшту гадоў не давядзецца пражыць у спакоі. Вечарам прыехала Дамініка з Валяй. Прывезлі з сабой зіму й традыцыйную зазімкавую свежаніну. Усё гэта робіцца этнаграфіяй. Нэйлон, капрон, пластык паступова падступае й да нас. І натуральныя пачуцці будуць замяняльнікамі замененыя.

*20 лістапада, субота*

З Алесем да Сарокіна вазілі Ілону. З ёй справы невясёлыя. Далёка ўсё зайшло. Бедная Дамінічка, што чакае яе, калі мы з Валяй загнёмся? «Усё жыццё…»[2]

*21 лістапада, нядзеля*

З Алесем у Нацыянальную бібліятэку. Занудная першая частка, а ў другой ён па-анёльску спяваў. Перадрук для «Маладосці».

*22 лістапада, панядзелак*

У «Мастацкую». У «Маладосць». Ланачка ездзіла ў лякарню. З 26-га кладзецца. Дзякуй Богу, згадзілася. […].

---

[1] Гл.: Ліст дваццаць чацьверты: А народу болей, чым людзей (16.11.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 50.

[2] Гл.: Усё жыццё… (20.11.99) // Босая зорка. С. 128.

*23 лістапада, аўторак*

Патроху перадрукоўваю вершы на буклет, які маʼніцца выдаць Сяргей [Законнікаў].

*24 лістапада, серада*

Званіў Васіль. Сказаў, што ён мне пазычае грошы, якія атрымалі мы за яго за «Знак бяды». Адзін чалавек у гэтым свеце, які клапоціцца пра мяне. Самы родны па духу. Бог паслаў яго на зямлю, каб душа за ўсіх балела.

*25 лістапада, чацвер*

Прыязджала Радзікава Света. […]. Толькі пачкі фота, дзе яны ў быццам бы раскошы, калі глядзець тутэйшымі вачыма.

*26 лістапада, пятніца*

У «Полымя». Аддаў карэктуру з «Псальмамі Давідавымі» — заканчэнне. Аддаў і вершы пад буклет. Падпісаў «Здубавецьця»: «З усіх вушацкіх падваконнікаў…» [С. Законнікаву; у дзённіку].

Дамініка пайшла ў школу, а Ілона легла ў лякарню. Званіў Акімушкін. Хоча зрабіць на калхозным тэле нейкую перадачу. Не хачу мець справу з калхозным гноем. […].

*27 лістапада, субота*

Пачынае зноў балець галава. […]. Грошы няма. На вуліцы выйсці боязна — цэны, як сабакі. Напісаў ліст Васілю. Хоць абрадваў Алесь — скончыў працу над рамансамі. Куды мне знікнуць у цішыню й спакой? Нікуды не ўцячэш. Дамінічка — цяжкой аблачынкай на сэрцы ляжыць, і грэе, і трымае. Не здолеў наладзіць сваё жыццё. Патраціў дні на дробную фатыгу. Дом мой быў — карчмой, пастаялым дваром, варʼёўняй, мяноўна варʼёўняй. Толькі й жыў у мамы. І век свой дажываю ў гасцях ва ўспамінаў пра маму. Яна — мой космас і дол, яна — мае вочы й памяць мая. Жыццё зжыць — не вяроўку звіць, каб на ёй гора сваё павесіць. Хутчэй гора цябе засіліць. Пражыў бальшыну табе наканаванага, азірнесся апазадзь — пустэча, наперад глянеш — таксама пустэча. І ты ў пустэчы гэтай толькі гук, які на нейкае імгненне пацьвяліў вечную цішыню. І тут жа змоўк. Ручка, пісадла — занадта кволы лом, каб ім разбіць лёд абыякавасці й змоўкласці, лёд роспачы й зняверʼя. Бо паэзія няўлоўная, як вецер. Хто дагнаў вецер? Хто яму нешта сказаў, пачуў ад яго штосьці? Чалавек, які набраўся нахабнасці назваць сябе паэтам, вятрак, што думае, нібыта ён вецер трымае за бараду. Тым і жыве. А бальшыня думае, што ў паэта якраз вецер ў галаве. Але паколькі вецер вечны, вечныя й лаў-

цы ветру — паэты. Можна зачыніць дзверы й вокны, каб не чуць вецер. Ды ён усё роўна жыве, хвалюецца й хвалюе іншых у гэтым ветраным і праветраным свеце. А любы чалавек — паэт у большай ці меншай ступені. Смяецца з паэта — смяецца з сябе. Побыт раўнуе чалавека да паэзіі й стараецца знішчыць у чалавеку паэта. І ўсё марна. І побыт падлягае пад уплыў паэзіі. Па законах паэзіі створана ўсё жывое ў прыродзе, дый сама прырода — і дрэва, і камень, і аблокі, і хвалі.

*28 лістапада, нядзеля*

Цэлы дзень перабіраў так званы архіў. Знайшоў шмат чаго, пра што й сам не ведаў. Пад руку трапіліся вершы грознага нізрынальніка ўсіх. Зразумела, чаму ён так ўзвышаў […] Галубовіча[1] й сынка N. На іх фоне — ён фігура. Цяпер дужа добра ўжываюць форму — на тле. Розум у Дубаўца[2] настолькі сцюдзёны — аж іскры лятуць. І наогул, адмаўляць лягчэй, чымся сцвярджаць. Асабліва смела лаяцца ці брахаць наўздагон. Дубавец савецкі нааадварот, а ўсё роўна савецкі.

*29 лістапада, панядзелак*

У ПЭН. Выйшла кніга Крыстофера «Вершы для Эльзы». Увесь наклад. Праглядзеў і сам не паверыў, як гэта я хворы змог перакласці. Бог дапамог. Хочацца пісаць толькі сваё — не выпадае. Розныя мітрэнгі растурзваюць. Практычна болей пішу ў стол. Друкавацца няма дзе. «Полымя» ды «Маладосць» — яны на ўсіх. А на ўсіх іх не хапае. Пайшоў на пошту падпісацца на часопісы й газэты. Цэны шалёныя. Душаць усё беларускае цэнамі. А для паршывых газэтак кшталту «Сов. Белоруссии», «Народная газета» — усё ёсць і танна. Падпісвайцеся, замбіруйцеся, маліцеся […]. «Не спіць…: Не спіць валацуглівая метафізіка…» [у дзённіку].

*30 лістапада, аўторак*

Ад Алеся. Псальмы ён спявае па-анёльску. Гэта Бог звёў нас на супрацоўніцтва. Жартавалі, як будзе неўзабаве называцца антысаветызм? […]. Усё йдзе ў адваротны бок. […]. Пераглядаю запісы ад Марушкі [Марыі Рыгораўны]. Недзе ў 93-м казала: «Цяпер усё неяк назад варочаецца».

* Дамініка: «Ты не маеш права хваліць чужых рабёнкаў, ты маеш права хваліць толькі свайго рабёнка».

---

[1] Галубовіч Леанід Міхайлавіч (н. 1950), беларускі паэт, крытык. У 1994–2002 гг. супрацоўнік час. «Крыніца» , у 2002–2010 гг. — газ. «Літаратура і мастацтва».

[2] Дубавец Сяргей Іванавіч (н. 1959), беларускі журналіст, пісьменнік, крытык. У 1991–2000 гг. гал. рэдактар газ. «Наша ніва», у 2000–2001 гг. на радыё «Балтыйская хваля».

*1 снежня, серада*

Во й апошні месяц года. На вуліцы мокры снег, раззлаваны вецер. Цяпер запражэцца зіма. Сёлетняя будзе галодная дый халодная, відаць. Лета так смажыла, так пякло, смаліла. Прырода — суцэльны тэатр. А чалавек — толькі глядач. Хіба адны ў ложах, а іншыя на галёрцы. І дэкарацыі змяняюцца — зіма, вясна, лета, восень.

Атрымаў ліст ад Васіля. Шчырасць, трывога, журба. Аж не магу ўтрываць, каб не паўтарыць ягоных словаў: «Твая паэзія стала такой, што вартая, каб гучала з неба. З нябесных сфераў. Толькі як дамагчыся таго? Дзе тыя дзверы на неба?» Дзеля такіх, хай дадзеных навырост, ніколі мной не апраўданых, варта было жыць і пісаць. Гэта ж сам Васіль сказаў. У адказ напісаў «Ліст дваццаць трэйці»[1]. А ўдзень неяк у галаву прыйшлі два радкі: «Ахвярынкі»[2].

* Дамініка: «Я не магу гаварыць пра іншых пісьменнікаў, толькі пра дзедзю».

*2 снежня, чацвер*

Ілона званіла з лякарні. У яе кепскія справы з печанем. Хаця б у лякарні налякалі, каб перастала займацца тым, чым не трэба. Бо лякарня, гэта там, дзе лякаʹюць. Жарты, увогуле, слабыя. Не ведаю, як далей жыць. Пэрспэктыва вядомая. [«Ахвярынкі»[3].] Пісаў яшчэ ў вуніяцкую праграму, якую робім з Алесам. Вуніяцтва ўва мне жыве генна. «Дзе ўцалуюць…»[4]

*3 снежня, пятніца*

Да кушняра. Што, дакладней, хто лепей — злодзя ці госць? Злодзя. Бо ён хапае, што патрапіць, каб хутчэй. А гасцю сам выбіраеш лепшае. Да Дракахруста. Ён разабраў архіў Кісліка. Ёсць выдатныя вершы. Выдатна перакладзены Купала, які пры камуністых не даваўся. А ў галаву мне цюкнула. Паэзію можна пісаць на роднай, якраз матчынай мове. На дасканала вывучанай можна пісаць савецкую паэзію. Мова пад шклом, ты бачыш яе. Яна разумная, але душу не кранае. Расійская мова перыяду савецкай імпэрыі — гэта тая самая лаціна. І лёс яе гэтакі ж. Вечарам пазванілі са «Звязды». Нейкі стукач даў допіс, што ўнук Васілёў служыць у спецназе. Папрасіў зняць. Гэта, каб хоць як укусіць Васіля. Косткай у горле ён усёй камунагэбісцкай шаці. [«Ахвярынка»[5].]

[1] Гл.: Ліст дваццаць пяты: І ўзрушана… (1.12.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 51.
[2] Гл.: Ахвярынкі: Арол застаецца арлом… (1.12.99) // Босая зорка. С. 156.
[3] Гл.: Ахвярынкі: Ведаюць і стары, й малады…; Самая шчодрая рука…; Могуць вымераць карані…; Кожны ўзводзіць… (2.12.99) // Тамсама. С. 156.
[4] Гл.: Ліст дваццаць шосты: У якой душы на куце… (2.12.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 52.
[5] Гл.: Ахвярынкі: Сваю праталіну знойдзе грак (3.12.99) // Босая зорка. С. 156.

*4 снежня, субота*

Раніцай званок Сёмуху. Ён пачаў слепнуць. Кажу: «Ты самы відушчы й душа ў цябе відушчая». Васіль: «Цяпер слепата на ўсіх напала». Чытаў яму верш, параіў мне падзагаловак. «Світальны»[1].

*5 снежня, нядзеля*

Учора пазваніў вядзьмар мой любімы Пётра. Неўзабаве вернецца ў Беларусь. Раніцай на Камароўку па зёлкі. Крыху прыхаіў вершы Янкі Лайкова для «Бібліятэкі «Маладосці». Напісаў прадмоўку на даланю. Паэт цікавы, заглыблена-замроены, чысты.

*6 снежня, панядзелак*

У «Юнацтва». Да Ганада. Казіміру Камейшу[2] перадаў рукапіс Янкаў. Сустрэў мяне Кусянкоў[3] і распавёў, як доўга давялося тлумачыць унуку, што такое клямка. Унук так і не ўцяміў, відаць. Іржышча ён яшчэ бачыў. Час адпрэчвае цэлыя пласты побыту. Наступная паэзія будзе не аблямцаваная побытавымі дэталямі, рэаліямі. Яна будзе агульнаватая, ці, па-філасофску, — адцягненая. Будзе й ніякая, кшталту бум-батаў. «Ліст дваццаць чацьверты»[4].

*7 снежня, аўторак*

Унукі — развітальная ласка жыцця. Таму такая шчымлівая ласка гэтая. Сёння раніцай Дамінічка: «Нам задалі вывучыць верш пра зіму Коласа ці Купалы. Я выбрала Купалу, бо ён — Дамінікавіч». [«Ахвярынка»[5]].

*8 снежня, серада*

На вуліцы абліваха. На душы — змрок. Дзень ганьбы[6]. [...]. «Натужна: Вяроўкі...» [у дзённіку]. [...]. Хоць вячэрняя навіна скрасіла чарнату дня здрады. Васілю далі прэмію «Прэстыж»[7]. Дзякуй Богу! І сымбалічна, і да часу.

---

[1] Гл.: Світальны (4.12.99) // Босая зорка. С. 14.

[2] Камейша Казімір Вікенцьевіч (н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. У 1988–2002 гг. заг. аддзела, нам. галоўнага рэдактара час. «Маладосць». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1989).

[3] Кусянкоў Мікола (Мікалай Сяргеевіч; 1935–2004), беларускі пісьменнік. У 1996–1998 гг. вядучы рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя А. Куляшова (1991), Дзяржаўнай прэміі РБ (2000).

[4] Гл.: Ліст дваццаць сёмы: І адплыло ў чаўне смугі цяпло (6.12.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 53.

[5] Гл.: Ахвярынкі: Старасць — гэта маладосць... (7.12.99) // Босая зорка. С. 157.

[6] Падпісанне дамовы аб стварэнні Саюзнай Дзяржавы паміж РФ і РБ.

[7] Памылкова, на самой справе «Трыумф» — расійская недзяржаўная прэмія ў галіне літаратуры і мастацтва (з 1991).

*9 снежня, чацвер*

Усе пайшлі ў сябе. Неяк няўтульна. Сорамна. Бездапаможна. Так і знікалі народы. Знікалі дзяржавы. Рахманыя. [«Ахвярынкі»[1]]. Нацыя з выбітым мозгам, пазбаўленая моцы. Пастараліся камуна[...] й вялікадзяржаўныя шавіністы.

*10 снежня, пятніца*

Званіў Радзік. У яго сёння дзень нараджэння. Я пазваніць не магу. Учора званіў Васіль. Перадаў яму радасць усіх нармальных людзей. [«Ахвярынкі»[2].]

*11 снежня, субота*

Чытаў пра зорнае неба нейкае даследаванне. Пра паходжанне зоркавых імёнаў. Цікава, толькі выкладзена дужа сумна, бо навукападобна. Галава так пачала балець, што хоць з зоркамі размаўляй. На дварэ нейкае кісялістае надвор'е. Ні мароз, ні адлега. Адпаведна й на душы. [«Ахвярынкі»[3].]

*12 снежня, нядзеля*

Святая нядзелька. Душа вандруе недзе там, дома. Бо ў гэтым тлумным і халодным Менску кватарую. На старасці гадоў хочацца ціхае сям'і. Яе няма. Хочацца спакою. Яго няма. Хочацца думаць, што праца твая зроблена. Няма такога адчування. Бег, спяшаўся, спазняўся. І падбіўся. З пустэчай у руках і ў душы застаўся. [«Ахвярынкі»[4].]

*13 снежня, панядзелак*

Да кушняра. На вуліцы жах. Адпаведна й маё здароўе. Сарокін параіў піць кавэнтон ці цыннарызін. П'ю апошні. [«Ахвярынка»[5].]

* Дамініка: «Я не разумею такіх дурацкіх задачаў, у якіх спачатку ўсё гавораць, а пасля ўсё тое ж самае пытаюцца».

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Горы давяраюцца спінам; Юда атрымаць рады... (9.12.99) // Босая зорка. С. 157.

[2] Гл.: Ахвярынкі: У сэрцы — ці ўзімку, ці ўвесну...; Рака быцця ў нябыт уцякае...; А ці смяюцца дзеці... (10.12.99) // Босая зорка. С. 157–159; гл.: Ахвярынкі: Ма-ма... (10.12.99) // Ксты. С. 449.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Так адпачатку сталася...; Журба не забывае родны край; Бог задумаў птаства, відаць... (11.12.99) // Босая зорка. С. 158–159.

[4] Гл.: Ахвярынкі: На погарбах апусціцца цяжкай птушкай... [варыянт ў дзённіку]; Няволя цвеліць ахвоту (12.12.99) // Тамсама. С. 158.

[5] Гл.: Ахвярынкі: Лужына — акіяну радня... (13.12.99) // Тамсама. С. 159.

*14 снежня, аўторак*

Апошнім часам усе мае навіны пра здароўе. Блага мне. Наўкол гэтакі змрок, такая цяжкая цемра. Учора дзядзька ў аўтобусе казаў. У калгасах раскралі ўсё, што можна. Карова калгасная дае 400 грамаў малака. А каза, што ў дзядзькі гэнага, літр. Дажыліся. А [Лукашэнка] трымаецца за калгасы, як сляпы за плот. [«Ахвярынка»[1].]

*15 снежня, серада*

На радыёстанцыю «Свабоду» запісваў колькі словаў пра кнігу Крыстофера «Вершы для Эльзы». Вечарам адкрыццё выставы Алега Мацієвіча[2]. Абжыў сваімі палотнамі ўвесь другі паверх Палаца мастацтва. Выдатны каларыст, нацыянальны, глыбінна нацыянальны мастак. Верны сваёй тэме, сваёй манэры. Крыху ўсё як бы ў прысмерку. Але ж якраз у прысмерку душа робіцца відушчаю, а не пры сляпучым сонцы. Шчасці яму, Божа! У «ЛіМ» аднёс падборку прысвечаных вершаў розных нагодаў і часоў пад агульнай шапкай «Застолле». Апомніўся, а Васілю няма. Напісаў:

*На згон стагоддзя*

*Васілю Быкаву*

І аднойчы на зямлю прыйсці,
Каб падоўжыць той зямлі вячніну.
І аддаць нябесную даніну
Чоўну мроі ў ветравым трысці.

Доламі брысці й душой расці.
Смела камячыць жывую гліну.
Боскім бізунам падставіць спіну.
Дбаць, каб доліла святлу ў жыцці.

Па гадах ісці, як па лісці
Ходзіць восень сцежкай успаміну.
Назаўсёды на зямлю прыйсці,
Каб падоўжыць той зямлі вячніну.

І ўсё яшчэ пішу ахвярызмы[3].

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Выскачыў рух у цішыні з пакою... (14.12.99) // Босая зорка. С. 159.
[2] Мацієвіч Алег Мікалаевіч (1949–2016), беларускі мастак.
[3] Гл.: Ахвярынкі: У суцяшэння...; Мулкая дужа... (15.12.99) // Тамсама. С. 159; 158.

*16 снежня, чацвер*

Прыехаў нарэшце Самсон. Хоць душы не гэтак самотна будзе. Запісаў колькі вершаў на «Свабодзе».

*17 снежня, пятніца*

У «Юнацтва». Папрасілі закрытую рэцэнзію на Лукшу. Хоць брыдка, але напішу, чаго варта ягонае пэцканне паперы. Займаўся крыху гаспадарчым клопатам. Галава баліць. Не перастае. Напісалася да так званага ўз'яднання, ці ўз'ядання. «Беларуская хуткамоўка: Дружна выйдзем мы з каламі...» [у дзённіку]. А яшчэ ахвярызм[1].

*18 снежня, субота*

Займаюся вушацкім слоўнікам. Словы так і лезуць з мяне. Маміны словы. Вушацкія. Дзякуй, Мама!

* Дамініка: «У вельмі разумнага чалавека нічога разумнага не даведаешся».

*19 снежня, нядзеля*

Да Рыгора Сітніцы, цяпер майго маладога суседа, у госці. Кватэра дагледжаная. Сынок Міколка[2] — анёл дый годзе. Як званочак звініць, спявае, грае на фано. Дужа душэўная жонка [Іна]. Шчаслівая двойца. Хай іх ліха не сурочыць! Дапамог анёлку штонікі зняць. Унізе акуратна зацыраваныя, залапленыя. Цёпла стала на душы. У маленства сваё вярнуўся. Гэтак было й на выстве Маціевіча. Дранькоў сынок ужо перарос Лявона. Стаіць цыбласценькі, з моцнымі шыбкамі акуляраў. Свэдар да падбароддзя адгорнуты. І таксама горла зацыраванае. Значыць, будзе толк. Бо з гора выбіваецца, маючы гонар. Гэта добра. На днішку для крышэння сала напісаў:

*Рыгору Сітніцу на ўлазіны*

Хай ліха цвёрдым лобам вытнецца
Аб моцны ганак хаты Сітніцы.
Кілбас і кумпячыны горы
Хай угінаюць стол Рыгора.
Палотнаў і радкоў багата
Хай будзе ў маладога брата.
P. S.
Дым шчабятухі і гарбаты
Хай не мінае цёплай хаты!

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Развітанне... (17.12.99) // Босая зорка. С. 161.

[2] Сітніца Мікалай Рыгоравіч (н. 1988), будучы музыкант.

Учора званіла Галіна Шаблінская[1]. Трэба запісаць верш пад навагоднюю ёлку. Галіна адна на гэтым калхозным радыё жывая душа. Напісаў для яе: «Хай будзе!: Я выходжу на балкон —Там стаіць адзін дракон» [на год Дракона; у дзённіку]. Напісаўся адзін ахвярызм[2].

*20 снежня, панядзелак*

У ПЭН. Карэктура Карласавай паэмы ў «Полымі». Цікава набралася слова разам: *сказацьдазволіць.* Аж шкада было раз'ядноўваць.

*21 снежня, аўторак*

Да Шаблінскай на радыё. Запісаў колькі словаў пра навагоднюю ёлку. У студыі былі маладзенькія актрысачкі. Сэрца дрогнула. Яшчэ. [«Ахвярынкі»[3].] Вечарам званіў Ракіцкі[4]. Заўтра будзе запісваць для «Свабоды» адказы на пытанні. Калі чалавек разумны, дык і пытанні разумныя. А на разумныя пытанні адказваць і ахватней, і лягчэй. З разумнымі пытаннямі разумнееш, а з дурнымі дурнееш.

*Двухтысячнаму году*

Тры нулі,
Як тры ў трохколцы колы.
А трохколка панясе куды?
Ці аглушыць выбухамі долы
І змарнуе новыя гады.

Ці спакой
Зямлі знямоглай верне,
Вербам веры ўглыбіць карані,
Кіне ў аралллю надзеі зерне
І даверыць розум вышыні...

А калі чатыры колы будзе
У калёсах часу,
Дык тады
На зямлі якія будуць людзі?
Як іх будуць слухацца гады?

---

[1] Шаблінская Галіна Васільеўна (н. 1959), беларуская журналістка. У 1992–2002 гг. заг. аддзела літаратурна-мастацкага вяшчання Галоўнай рэдакцыі праграм для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Як душа абрастае лускою... (19.12.99) // Босая зорка. С. 160.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Галінка трымае расу навісу...; У цемрыве гліны... (21.12.99) // Тамсама. С. 160.

[4] Ракіцкі Вячаслаў Антонавіч (н. 1953), беларускі пісьменнік, мастацтвазнавец, тэатральны і кінакрытык, журналіст.

*22 снежня, серада*

У рэдакцыі. Аднёс вершы. Васіль, відаць, прыедзе перад Новым годам. Па выніках апытання «Звязды» ён прызнаны Беларусам стагоддзя.

*23 снежня, чацвер*

Сябры Азербайджанскага таварыства ў СП. Паслухаў музыку й пабыў на свежым паветры. У зале, як у ёўні. Хіба што спевы ды скокі жарсныя грэлі. Былі лепшыя па дзюдо й барацьбе нейкай іншай. Адзін з Магілёўшчыны грузін, як ён сябе называе, магілёўскага разліву, так добра па-беларуску мовіць. Мне сказаў тост: «Каб у новым годзе было куды й дзе!»

*24 снежня, пятніца*

Мелі намер ехаць у Мар'іну Горку з Ганадам і Алесем. Ганад захварэў. Ілону выпісалі з бальніцы. Кепскія справы з печанем. Даскакалася мая птушачка. Карлас даў машыну. Званю, дзякую, а ён: «Галоўнае, што kinder-сюрпрыз дома». Прыязджаў Лайкоў з сынам. Дзякуй яму за ўсё!

*25 снежня, субота*

Адпаведна на Камароўку. Мора людзей. Успамінаю, як учора Уладзімір Піліпавіч Лайкоў распавядаў. Каб не вешаць так званы герб і бальшавіцка-[...] сцяг у школе, паставіў на тое мейсца бюст Пушкіна. Калі прыходзяць калхозніцкія халуі, кажа: «Тут у мяне Пушкін, а болей віднага мейсца няма». Супроць Пушкіна — сымбаля прарасійскага шавінізму, вядома, не папруць. Наогул, Лайкоў ім, як костка ў халуйскім лізаблюдскім горле. Якраз год святарства айца Андрэя Абламейкі нашага, вуніяцкага. «На першыя ўгодкі святарства айца Андрэя Абламейкі: Віншуема, айцец Андрэй!» [2 варыянты; у дзённіку]. Яшчэ пісаўся верш: «Прайшло...» [1-шы варыянт][1]. [«Ахвярынка»[2].]

*26 снежня, нядзеля*

Перарабіў крыху верш «Журлівае» [«Прайшло...»]. На службу ў Чырвоны касцёл. Службу правілі айцец Андрэй ды айцец Казімір. Усё па-беларуску. Усё так пранікнёна. Душа спявала, славячы Усявышняга. Потым у ліцэі: агапкі з прычыны першых ўгодкаў святарства Андрэя. Беларусь жыла ў сценах ліцэя, якой яна мусіць жыць у абсягах будучае Дзяржавы. Для парафіі святога Язэпа напісаў: «Святы Язэп: Калі ты здабываў надзённы хлеб...» [у дзённіку].

---

[1] Гл.: Журлівае (25 —26.12.99) // Халодная памяць вады. С. 228.
[2] Гл.: Ахвярынкі: На святыя Каляды... (25.12.99) // Босая зорка. С. 161.

*27 снежня, панядзелак*

Да Самсона. Прывёз мне святой вады з Іардана. Трэба будзе даваць Дамінічцы.

*28 снежня, аўторак*

У саюз. Заплаціў узносы. Выходзіць, што Літфонд існуе. І «Іслач» быццам не паспеў прадаць Ніл з дзядзькам, як «Каралішчавічы»[1]. У кансультантах бегае фортачнік Вішнёў і яшчэ нейкая дзеўчынёшка. Каго й як яны могуць кансультаваць? Біць у тазік — бум-бам? Вечарам пазваніў Сяржук [Сокалаў-Воюш] з Прагі. Заказалі слова *юбілей.* Дай Божа, каб супынілася!

*29 снежня, серада*

Падняўся з аптымістычныі радкамі: [«Ахвярынка»[2]]. Дамініка дапамагала прыбіраць у бабы Тані, бачыць кнігу Лесі Украінкі[3]. Валя тлумчыць, што гэта ўкраінская паэтка. Дамініка: «А што, ва ўкраінцаў акрамя сала яшчэ й паэты ёсць?» Гэта ўсё праз анекдоты, якія шыраць маскалі.

*30 снежня, чацвер*

Пабегаў, калі гэта можна назваць бегам, па навагодніх клопатах. У часопісе «Америка» напароўся на ўспаміны пра Хэмінгуэя[4] Арнольда Самюэлсана[5]. Цікавыя развагі Хэмінгуэя: «... ніколі не трэба спаборнічаць з жывымі пісьменнікамі. Яшчэ не вядома, добрыя яны ці не. Спаборнічаць трэба з памерлымі, якія сапраўды добрыя. І калі пераўзыдзеш іх — ты на правільным шляху... У любым мастацтве дазваляецца красць усё, што заўгодна, калі можаш зрабіць рэч лепш, але накірунак мусіць быць заўсёды ўгору, а не ўніз. І ніколі нікога не след пераймаць. Стыль — гэта індывідуальная каснаязычнасць аўтара пры перадачы факту... Калі пачынаеш пісаць, усе табе жадаюць удачы, але варта асягнуць поспеху, як усім хочацца цябе ўтапіць. Адзіны спосаб утрымацца — пісаць добра... Важна не хто вы, а што вы робіце. За мажлівым выключэннем вашай маці, усім напляваць, жывыя вы яшчэ альбо ўжо сканалі... Пісаць доўгія рэчы — самая сур'ёзная праца з усіх, а мастацкая проза — вяршыня мастацтва... Нельга пісаць пра тое, чаго не ведаеш. Чыстае ўяўленне — гэта паэзія...»

---

[1] «Каралішчавічы» і «Іслач» — Дамы творчасці СПБ.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Ступай шырэй, каб паменеў... (29.12.99) // Босая зорка. С. 160.

[3] Украінка Леся (сапр. Косач-Квітка Ларыса Пятроўна; 1871–1913), украінская пісьменніца.

[4] Хэмінгуэй Эрнест Міллер (1899–1961), амерыканскі пісьменнік, журналіст. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1954).

[5] Самюэлсан Арнольд Эдмунд (1917–2002), амерыканскі баявы фатограф у часы Другой сусветнай вайны.

*31 снежня, пятніца*

Званкі мне. Званкі мае. Яны, праўда, звіняць, як званочкі ў лузе. Новы год. А думкамі — там, дзе мама. «Кужэльна...»[1]

Рына [Бабіцкая] пажадала мне: «Каб лёткаю была душа й цяжкімі кішэні!»

*Дамініцы*

Мая салодкая сунічка!
Мая крыштальная крынічка!
Хай Дваццаць першае стагоддзе
З табою будзе ў добрай згодзе.
Гадуйся з Богам, Дамінічка!

*Дзедзя*

[1] Гл.: Ліст дваццаць восьмы, недасланы: Патрэскваюць кружэлкі старыя... (31.12.99) // Лісты ў Хельсінкі. С. 54.

# 2000

*1 студзеня, субота*

Дзень добры, 2000! Будзь спагадлівы! У новага года, як гэта кажуць, здарыўся верш «Просьба»[1].

*2 студзеня, нядзеля*

Як натое, дужа кепска пішу лічбу 2. Каб пісаць у датах тройку, вядома, не дажыву. Так да канца й давядзецца каракуліць двойку. З Алесем у госці да Маі[2]. Вечарам званок — Васіль! Прыехаў! Ехаў праз Маскву. Думаў затрымацца на тыдзень, але ў Маскве жахліва. Бруд, тлум, гвалт. Кажу, што ў «Звяздзе» інтэрв'ю зрабілі са мной наконт ягонай прэміі. Васіль: «Гэтыя інтэрв'ю. Надаваўся іх і там. Хлусіць не хочацца, а калі кажаш папраўдзе, узгадваеш, што над табою кодэкс. Я заўтра сустракаюся з Карласам. Але ж ён будзе са сваім ардынарцам[3]. Прыязджай у аўторак пасля дзвюх, каб пагаварыць пра ўсё шчыра». [«Ахвярынка»[4].] Яшчэ ў бальніцы пачаў пісаць верш і скончыў сёння: «Спакуса: І чалавека ўзяў Усеўладар…» [1-шы варыянт; у дзённіку].

*3 студзеня, панядзелак*

Усё-ткі верш не атрымаўся. Перапісаў яшчэ раз: «Спакуса» [2-гі варыянт, у дзённіку]. Вечарам званіў Васіль. Падымала трубку й шчабятала з ім вылучна па-беларуску. Васіль смяецца: «У цябе гэтулькі сакратарак ужо, думаў, што Ілона, а гэта Дамінічка». Кажу, што шчырай беларускай расце. Неяк казалі надзець свэдар, а яна: «Не буду, тут не нашыя колеры — чырвоны й зялёны, як на чужым сцягу». Васіль: «Беднае дзіця».

*4 студзеня, аўторак*

Да Васіля. Пабялеў, павайстрэў тварам, шляхетныя вусікі. Адразу ж мне сказаў, што я пасівеў. Ласкавае ягонае слова *браток* душу адразу сагрэла. Шмат пра што казалі. Прыйшлі да высновы, што Васіля ўвесь час хоча трымаць далей ад Беларусі сталіца былой імпэрыі. І Ткачэн-

---

[1] Гл.: Біблейскія балады: Просьба (1.01.2000) // Босая зорка. С. 122.

[2] Грыбоўская Мая Ціханаўна (н. 1964), беларускі ўрач-стаматолаг. Хросная маці ўнучкі Дамінікі.

[3] Елізараў Аляксандр Іванавіч, супрацоўнік ПЭН-цэнтра.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Ён працінае за ўсё люцей… (2.01.00) // Босая зорка. С. 160.

ка[1], і наш сябра пад слухом у іх. Васіль: «Калі б, як Рабінзон[2], апынуўся на неабжытай выспе, дык Пятніца быў бы паслушнікам КГБ». Пра дзённікі Танка. Адрэдагаваныя рознымі савецкімі. Перажывае раскол БНФ. Пра Зянона: «Дапякалі, што ён пасылае факсы. А што ён — галубоў павінен пасылаць? Ні ў якім разе не згадзіўся б стала жыць без Беларусі». Заездзілі там інтэрв'ю яго. «Хлусіць не хочацца, а як гаворыш шчыра, адчуваеш, што над табою кодэкс». Вялікая скураная сумка. У ёй гатовыя дзве кнігі. На беларускай мове й на расійскай.

*5 студзеня, серада*

У рэдакцыі. Звоніць мне Алесь. Разгаварыліся. Праспяваў яму колішнюю пародыю на ўра-песню:

Любім шырокую нашу радзіму.
Маем усе мы па шмат працаднёў.
Яйцы і воўну свае аддадзім мы,
Каб ззяла зорак, нібы аваднёў.

Узгадалі ваенную кафедру. Паколькі ён загадваў музыкай, кіраваў аркестрам (у ваякаў да аркестраў асаблівая павага), яму на кафедры налівалі нароўні. Праз нейкі час звоніць: «Ад успамінаў пра ваенную кафедру сапсаваўся настрой, прадыктуйце мне вершы на біблейскія тэмы». «Тайная вячэра»[3].

*6 студзеня, чацвер*

Праводзіў Валю з Дамінічкай у Дуброўна. Засталіся з Міронам удвух. Вечарам пазваніў Васіль, павіншаваў з Калядамі. Спытаўся, ці хадзіў у царкву. Адказаў, што сустрэў Каляды з роднымі вуніятамі. Васіль ухваліў.

*7 студзеня, пятніца*

[…]. «Паломніца»[4]. Пачытаў Сёмуху. У яго заўваг не было. А паколькі цэлы дзень сядзім з Міронам, напісаў «Табе» [1-шы варыянт; у дзённіку]. Пазваніў сёння Генадзь Аўсяннікаў[5], пажадаў здароўя й дадаў: «А ўсё астатняе ў ятках». Ён сказаў: у ларках. Так год за годам чакаеш нечага

---

[1] Ткачэнка Аляксандр Пятровіч (1945–2007), рускі паэт. Дырэктар Рускага ПЭН-цэнтра.

[2] Герой рамана Д. Дэфо «Рабінзон Круза» (1719). *Дэфо* Даніэль (1660–1731), англійскі пісьменнік, публіцыст.

[3] Гл.: Біблейскія балады: Тайная вячэра (5.01.00) // Босая зорка. С. 120.

[4] Гл.: Біблейскія балады: Паломніца (7.01.00) // Тамсама. С. 119.

[5] Аўсяннікаў Генадзь Сцяпанавіч (н. 1935), беларускі акцёр. З 1957 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1974). Народны артыст СССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988), прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2008).

свайго, важнага. А выявіцца, што чакаеш і прычакаеш абавязкова яе, якая ніколі не саб’ецца ў дарозе й забярэ цябе ў тваю дарогу апошнюю.

*8 студзеня, субота*

Чакалі ўсе трансляцыі з уручэння прэмій. Хацелася ўбачыць Васіля. Ды трансляцыі не было. Схадзіў на Камароўку. Сядзім з Міронам. [«Ахвярынка»[1].] «У адпаведнасці з настроем»[2].

*

Як той перад зносам дом,
Шапчуся з вятрамі.
Маўчыць без’языкі бом,
Павесіўшыся на браме.

*9 студзеня, нядзеля*

Нязвыкла неяк пісаць дату, як нейкую цану. На парозе новага тысячагоддзя трывога. Нейкая атлантыда йдзе на дно. І ты міжволі робісся нейкім выкапнем. Нават сабе самому. Па тэле паказвалі ўручэнне «Трыумфа». Інтэрв’ю караценькія з Васілём. Выглядае блага, бо хворы. Аж душа зайшлася — колькі яму каштавала гэтае выйсце на сцэну. «Засячы!»[3]

*10 студзеня, панядзелак*

Як дурань галяпаў па горадзе. Адно карыснае — аддаў апавяданне Васіля на першы нумар «Полымя». Для Алеся зрабіў яшчэ варыянт: «Рыцары: Узводзяць хай муры цары…» [у дзённіку].

*11 студзеня, аўторак*

Чакаю сваіх. Дужа тужыць Мірон. З рук не злязае. Здаецца, прыехаў Васіль. Сам пазвоніць, бо тэлефон выключаны. Ад усіх адбою няма. Нічога рабіць не магу. Галава адключана. На вуліцы макрата, макроцце адно. Хай бы мароз. Ясней было б.

*12 студзеня, серада*

Прыехалі мае. А мяне пакідаюць сілы. Нічога рабіць не магу. Раздражнёнасць. Патроху запісваю словы для слоўніка. Прыйшло ў галаву: «Аншлюс нерушимый республик свободных Сплотила навеки великая Русь…[4]» — і далей па тэксту.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Падвешвае лёс калыску бяссонную... (8.01.00) // Босая зорка. С. 161.
[2] Гл.: У адпаведнасці з настроем (8.01.00) // Руны Перуновы. С. 194.
[3] Гл.: Засячы! (9.01.00) // Халодная памяць вады. С. 309.
[4] Перафраз першага радка гімна СССР.

*13 студзеня, чацвер*

Прыйшла навагодняя паштоўка ад Някляева. Дзякуй яму. Нават Мірона ўспомніў. Званіў Васіль. Хворы. Посахаў[1] ужо збіраў журналісцкую зграю, каб даць адлуп Васілёваму інтэрв'ю з Масквы. Няўтульны дужа Васіль [...] рэжыму. [...]. Свядомыя беларусы нараджаюцца на мукі. Яшчэ трохі перапісаў верш «Табе»[2]. [«Ахвярынка»[3].]

*14 студзеня, пятніца*

У майстэрню да акадэміка Сітніцы на сустрэчу з ведзьмаром Пётрам. [...]. «На новае тысячагоддзе»[4], «Тады й цябе...»[5]

*15 студзеня, субота*

Учора далі трошку ў «Полымі». Сёння пайшоў на базарчык і купіў украінскага сала. А на хлеб пэнсыі хопіць. Адчуванне безвыходнасці й бесперспэктыўнасці гняце. Жабрачая старасць. Сілы пакідаюць мяне. А Дамінічка яшчэ гэткая маленькая. Ратуюся вершамі. Раблю вушацкі слоўнік. «Азірнуліся...», «Ліхвяр»[6].

*16 студзеня, нядзеля*

Увесь дзень займаўся вушацкім слоўнікам. Тут трэба ўседлівасць раманіста. Напісалася трошкі лапатушак на магчымы дзіцячы зборнічак. Хачу назваць «Выпаў грук у грома з рук».

*17 студзеня, панядзелак*

Алесь Камароўскі даў на рэцэнзію зборнік [...] Лукшы для дзяцей. Ужо колькі дзён не магу дачытаць. Гэта хутчэй падручнік для лагапедаў. Пад вечар прыйшоў да мяне верш:

*Марыя*

Хай аблачынка, як тады, акрые
І нас пасвенціць дожджыкам сухім.
Вядзьмарка з боскім іменем Марыя,
Сам гром табе складаў высокі гімн.

---

[1] Посахаў Сяргей Аляксандравіч (н. 1944), кадравы вайсковец, палкоўнік. У 1994–2000 гг. памочнік Прэзідэнта РБ.
[2] Гл.: Табе (7.01.00) // Босая зорка. С. 150.
[3] Гл.: Ахвярынкі: Маладыя толькі... (13.01.00) // Тамсама. С. 161.
[4] Гл.: На новае тысячагоддзе (14.01.00) // Тамсама. С. 142.
[5] Гл.: Тады й цябе... (14.01.00) // Халодная памяць вады. С. 63.
[6] Гл.: Азірнуліся...; Ліхвяр (15.01.00) // Ксты. С. 298; 288.

Нас папярэдзіць меліся нябёсы,
Што наша згода — тумановы дым,
Што маюць разысціся нашы лёсы,
І нас не папярэдзіўшы аб тым.

Хістала стома ганістыя хвоі.
Збіраўся ранні верас зацвісці.
І аднадзённае, і векавое
Шчырэй перапляталася ў жыцці.

І словы нашы ўсе былі старыя,
Але хацелі маладзей гучаць.
Вядзмарка з боскім іменем Марыя, —
Шапчу, каб толькі вуснам не маўчаць.

Прачытаў Алесю, ён: «Верш незаўважна дасканалы». Дзякуй яму.

*18 студзеня, аўторак*

Званіў Васіль. Яшчэ хворы. Таксама заўважыў, што «Свабода» толькі адзін раз дала маё з Карласам выступленне ў абарону Васіля й ПЭНа. Затое шмат пра вегетарыянства. Гэтак мякчэй, каб не задзіраць розных дарадцаў [Лукашэнкі] кшталту Сеўрукоў[1]. «БДГ»[2], «Известия» далі артыкулы з партрэтам Васіля, але з такімі загалоўкамі: «Жив курилка», «Герастраты». Гэта не няўмельства. «Калі сцямнеецца...»[3] Напісаў закрытую рэцэнзію на брыдоту [...] Лукшы.

*19 студзеня, серада*

У выдавецтва «Юнацтва» й «Мастацкую». Званіў Сяржук [Сокалаў-Воюш] са «Свабоды». Перадаў успамін, як мне не хапіла «Горнага дубняку» (бо буфет зачыніўся на абед па савецкай завядзёнцы), каб давесці, што Міхаіл Ягораў, які ўзняў сцяг над Рэйхстагам, беларус. Толькі ён прызнаў, што дзед беларус.

У Ганада глянуў перакідны каляндар для саўкалхозных устаноў. Даты ўсіх ёсць і 50-ці, і 65-ці гадавінаў. Мяне няма. Ну, думаю, хоць Тарасу ёсць. Яму ж круглая — 70. Дый па-расійску ў асноўным пісаў, перакладаў, партызаніў. Няма. Рука з алоўкам, відаць, Замяталіна пахадзіла.

---

[1] Сеўрук Уладзімір Мікалаевіч (1932–2005), беларускі грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук (1967). У 1995–1998 гг. нам. дырэктара Беларускага прэс-цэнтра, заг. аддзела Адміністрацыі Прэзідэнта РБ, з 1998 г. памочнік прэм'ер-міністра РБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1981).

[2] «Белорусская деловая газета» — беларуская грамадска-палітычная газ. (з 1992).

[3] Гл.: Прыцемкавае (18.01.00) // Босая зорка. С. 53.

*20 студзеня, чацвер*

На Камароўку. Запасы, наколькі дазваляюць пабразга′чы. Заўтра Галіне Варатынскай дзень народзінаў. Гэта апошняя шчырая беларуска Вушаччыны. Апантаная. Русіфікацыя й саветызацыя самым цяжкім асфальтавым катком праехаліся па нашым кутку. Калі й з'яўляецца нешта, дык кшталту [...] Гарбука[1] — так званага артыста фармату Яроменкі[2]. Галіначка — шчаслівае выключэнне.

*Галіне Варатынскай*
*на 21 студзеня*

Яшчэ не ўсе надзеі намі страчаны,
Дух Беларушчыны жыве ў душы.
Галінка з дрэва спадчыннай Ушаччыны,
Шумі цяніста й думы калышы!

Неўзабаве Валянціну Тарасу 70. Здаецца, учора ўбачыў яго на пасяджэнні шматтыражкі БДУ. Утрапёны, яршысты, парыўны й разважлівы. Усё ў ім.

*Даўняму сябру*

*Валянціну Тарасу*

Вясёлым здавацца — навука нялёгкая.
І жарты свярбяць у далонях, як жар.
Шчупак утрапення ў адчаі пялёхкае.
Сава недаверу ў трывозе галёкае.
Сам-насам з сабой ці смяецца штукар?

Быць сумным —
нязвыкла для вока староннягa,
Што помніць бясхмарнага веселуна.
Хоць будзе сляза
ў прысак крыўдаў абронена,
Нахабнасць цікуе цікаўнасць варонняя,
У кубак абразы ці многа віна?

---

[1] Гарбук Генадзь Міхайлавіч (1934–2018), беларускі акцёр; аднакласнік. У 1962 —2018 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), прэміі РБ «За духоўнае адраджэнне» (2007).

[2] Яроменка Мікалай Мікалаевіч (1926–2000), беларускі акцёр. Народны артыст БССР (1964). Народны артыст СССР (1989). З 1959 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

Быць цвёрдым —
мацнець у сваёй непахіснасці.
Быць мужным —
дазволіць сумневу смялець.
У рэчцы, што выкраў патоп,
берагі знайсці.
Пасмець запытаць у маўклівасці існасці,
Ці доўга яшчэ будзе сэрца смылець?

*21 студзеня, пятніца*

У ПЭНе сустрэча з Васілём. Вярнуў назад сваю прычоску. На мае заўвагі адказаў, што проста была праблема падстрыгчыся. Зноў паўтарыў, што жыць трэба дома. Веліч і прастата паяднаныя ў Васілю. Падпісаў кніжкі нашым сябрам. Дамінічка папрасіла аўтограф у альбом для дзяўчатак. Напісаў ёй добрыя пажаданні. Мне ў запісную кніжку памалявала падсвінaчка. «Перамога»[1].

* Валя пытаецца: «Ці хочаш быць падобнай на дзедзю?» Дамініка: «Не. Не хачу быць з барадой».

*22 студзеня, субота*

Мароз пачынае ціснуць. Забытая зіма напомніла пра сябе. Даводжу вершы пад агульным імем «Біблейскія сюжэты». Атрымалася 7. Любая мне лічба. Яшчэ раз перарабляў [верш] «Спакуса»[2] [з варыянтамі апошняй страфы; у дзённіку]. [«Ахвярынкі»[3].] Надыктаваў Алесю па тэлефоне колькі вершаў з нізкі «Біблейскія матывы», ці, можа, лепей «Біблейскія балады». Трымае мяне сяброўства з Алесем. Яшчэ я некаму патрэбен. «In memoria»[4].

*23 студзеня, нядзеля*

Успамінаў вушацкія словы. Нудзіўся. Нейкае новае пачуццё, што мала застаецца дзён маіх, ахоплівае з самае раніцы. Пад вечар забываецца, бо дзень нагружае клопатам. Усё, што зрабіў, здаецца кволым і непатрэбным. Намераў даволі, а сілы ўжо вельмі няшмат, увобмаль.

*24 студзеня, панядзелак*

Вычытаў, прадатаваў «Лісты ў Фінляндыю да Васіля Быкава». Можа, так будзе называцца магчымы зборнічак з 44-х вершаў. Калі б яшчэ Ва-

---

[1] Гл.: Біблейскія балады: Перамога (21.01.00) // Босая зорка. С. 123.
[2] Гл.: Спакуса (2–3 — 22.01.00) // Тамсама. С. 117.
[3] Гл.: Ахвярынкі: Быццам чорнаму буслу...; Думу не давярай суму (22.01.00) // Тамсама. С. 161; 160.
[4] Гл.: In memoria (22.01.00) // Тамсама. С. 27.

сіль на палях свае малюнкі-накіды згадзіўся зрабіць, гэта было [б] ўнікальна. Бо ініцыятыва й фінансавае падтрыманне выдання — ідэя самога Васіля. Сам набраў тэксты на кампутары. Пазваніў Васілю. У яго тэлефон які ўжо дзень уключаны. Гора — унук прапаў. Тры дні як няма. Служыць у войску. Прыехаў у адпачынак. Паехаў у Гародню. І да Гародні не даехаў. Няма. Колькі ж выпрабаванняў будзе на Васіля? Госпадзь, злітуйся!

*25 студзеня, аўторак*

У ПЭН. Прыходзіў Васіль. Трохі адыходзіць ад хваробы. Відаць, паедзе ў Нямеччыну пакуль што на тры месяцы. Гады бяруць нас. І самі гэтага мы як бы заўважаць не хочам. Старасць не пытаецца дазволу. Ёй не да гжэчнасці. І над ёй ёсць начальнік — вечнасць. [«Ахвярынка»[1].]

*26 студзеня, серада*

У «Полымя». З Сяргеем даводзілі да памеру буклет «Шляхам зерня». Аднёс у «ЛіМ» верш, прысвечаны Тарасу. Па дарозе на ВДНГ — на Камароўку.

*Эпітафія-дыялог*

— Як пачуваемся, рэжым?
— Ляжым.

*27 студзеня, чацвер*

Хоць навучуся двойку пісаць. З гэтай двойкай уперадзе й дні мае выйдуць. Пісаў эпітафіі. Аднёс у зборнік, які выдаецца. «Эпітафія бычку: Мычаў, мычаў...», «Эпітафія эпітафісту: Па табе плача птах і я...», «Эпітафія службоўцу: Тут няма таго стала...», «Эпітафія дыктатару: Каб не нудзіцца без дыктату...» [у дзённіку].

*Эпітафіія аднажэнцу*

Спіць. А беднай удаве
Новы муж у галаве.

*Эпітафія падатковаму інспектару*

Стараўся, ды не паспеў наастатак
Узяць з сябе за зямлю падатак.

*Эпітафія рыфмалову*

А рыфма ўсё-ткі жывая
І нарэшце адпачывае.

[1] Гл.: Ахвярынкі: На балі жыцця надзея чужая... (25.01.00) // Босая зорка. С. 162.

*28 студзеня, пятніца*

Сённяшні дзень учора пачаў эпітафіяй. «Эпітафія вечнаму наместніку: Сябе самога замясціць не змог…» [у дзённіку].

Чытаў брашуру пра радавод Максіма Багдановіча. І напісалася: «Мой радавод»[1]. І яшчэ прыйшла эпітафія й не эпітафія, так: «А ўсё ж…»[2] Цэлы дзень штудаваў міты, шукаў матэрыял пра паэзію й паэта для маючага адбыцца выступу. А ў выніку: «Адпусці…»[3], «Ці помнілі?..: Сядаючы на пасад, фараон…» [у дзённіку].

*29 студзеня, субота*

Сядзіба [БНФ]. Марачкін[4] піша карціны. Тэкст: «Дружна выйдзем мы з каламі…; Проглотить весь мир стремились…» [у дзённіку]. Настрой хмарны. І адпаведны верш: «Нявогляддзю» [1-шы варыянт 1-й страфы і канчатковы[5]; у дзённіку].

*30 студзеня, нядзеля*

Прыемнае ўражанне робяць навэлы Марыны Наталіч. Чыстыя й мудрыя, па-жаноцку расчуленыя. Трэба нешта перакласці. Прасіў Алесь Карлюкевіч. «Эпітафія пастуху: Заўсягды адганяў ад бяды…», «Эпітафія трунару: У спешнай працы быў заўзяты…», «Эпітафія пекару: Пёк надзённага хлеба многа…», «Эпітафія самагоншчыку: Сам гнаў штодуху п’яны дух…» [у дзённіку].

Пазваніў Васіль. У яго адно пажаданне, каб пакінулі ў спакоі. Рада пісьменнікаў прыняла нейкую заяву ў абарону Васіля. Сказалі аддаць у прэсу й такую, і такую. Ціха. Аж Гальпяровіч трымае ў сябе. Як некалі Ніл заяву Гарбачова ўзяў — і ў сэйф. «Гэтыя ўсе заявы, — кажа Васіль, — як хвастом па вадзе — нават пырскаў не будзе». А мне пазваніў, бо баромэтр паказаў змены, і значыць, мне будзе балець галава. Яно так і ёсць. Дзякуй Васілю за клопат! У «Народнай волі» інтэрв’ю з Някляевым. Добра назваў [Заматаліна] камандуючым Першым антыбеларускім фронтам. Добра падмеціў, што ідэалогію ўзначальвае не прафэсар, а палкоўнік. А наогул, газэты чытаць не магу — адчай, што нічога не можам зрабіць супроць гандлю Беларуссю, супроць навалы. «Калі спраўлюцца памінкі…: Калі спраўляюцца памінкі па Радзіме…» [у дзённіку].

[1] Гл.: Мой радавод (28.01.00) // Руны Перуновы. С. 444.
[2] Гл.: А ўсё ж… (28.01.00) // Ксты. С. 309.
[3] Гл.: Адпусці… (28.01.00) // Босая зорка. С. 56.
[4] Марачкін Аляксей Анатольевіч (н. 1940), беларускі мастак, педагог.
[5] Гл.: Нявогляддзю (29.01.00) // Босая зорка. С. 59.

*31 студзеня, панядзелак*

І канец месяца. Прамітусіўся, прамучыўся з галавой. «Эпітафія дубу: Шумеў і ўночы, і днём…» [у дзённіку]. Уночы снілася, што з Васілём недзе ў Вільні ў ягоных дзяцей ці ўнукаў, п’ем гарэлку. Устаў, галава кружыцца, сэрца цісне. Сустракаўся з Міколам Шабовічам[1], узяў перакласці п’есу для Маладзечанскага тэатра. Па дарозе [«Ахвярынка»[2]], «Дым»[3].

*1 лютага, аўторак*

«Дзень добры, месяц мой…»[4] Пачаў месяц экспомтам. Хоць хворы, але ў Беларускім калегіуме выступіў. Прынялі добра.

*2 лютага, серада*

Усю ноч сніўся Максім Багдановіч. Яшчэ маладзейшы, чымся ён сапраўды. Пад раніцу прытлумілася, быццам стаўлю загаловак нейкага зборніка «Ці свярбяць у нябожчыка пяткі?». Пры чым нябожчык? Пры чым пяткі? Пазваніў Карлас: «Кінь усе справы, паедзь да Васіля, каб пасля не шкадаваць». Званю Васілю. Ад’язджае заўтра. Хворы. Куды я папруся да яго? Вечарам зноў званю, зноў жадаю шчаслівай дарогі і ўсяго-ўсяго. Васіль коратка: «Хаця б бяды не было…»

*3 лютага, чацвер*

З раніцы такая хляпа — свету не відаць. Пад вечар падмарожвае. […]. Ад Ілоны ліст. Сядзіць, зразумела, без грошай. Трэба дапамагаць. Хоць самому помач не шкодзіла б. Побыт і родныя мае заганяюць мяне, як ваўка, у кут, як яшчэ на кут не паклалі. Дзякуй Усявышняму, што дазваляе яшчэ пабыць на гэтае зямлі.

«Быў калісьці…»[5]

*4 лютага, пятніца*

У «Бярозку». Ледзь дайшоў. Стала блага. Кепскія мае справы. Гэтулькі хочацца зрабіць. А хвароба цісне сваё. [«Ахвярынка»[6].]

---

[1] Шабовіч Мікола (Мікалай Віктаравіч; 1959–2021), беларускі паэт, перакладчык, выкладчык. Кандыдат філалагічных навук (2004). У 1992–2002 гг. заг. літаратурна-драматычнай часткі Мінскага абласнога драмтэатра г. Маладзечна.

[2] Гл.: Ахвярынкі: І як ты з жыццём ні хітрыш… (31.01.00) // Босая зорка. С. 162.

[3] Гл.: Дым (31.01.00) // Тамсама. С. 75.

[4] Гл.: Экспромт (1.02.00) // Халодная памяць вады. С. 133.

[5] Гл.: Быў калісьці… (3.02.00) // Ксты. С. 302. Таксама гл.: Ахвярынкі: Глухому кажуху на вуха… (3.02.00) // Босая зорка. С. 162.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Траянскай пароды коні… (4.02.00) // Тамсама. С. 162.

*Налівай!*

Быццам бочкі хмельнага напою,
Па цвярозай ранішняй зямлі
Маладая двойка за сабою
Згорбіўшыся, коціць тры нулі.

Дваццаці вякам хапіла ўпіцца
Цёмнага цярплівасцю пітва.
Засталося ўволю пахмяліцца,
Каб гула вуллямі галава.

З першай бочкі пазнаёмся з хмелем,
Новы век, налі сабе, як нам.
І гаркоту мы з табой падзелім,
І пазычым мёду палынам!

*5 лютага, субота*

У Рыгора [Сітніцы] сустрэча з ведзьмаром [Кухарскім]. Бацька прасіў сына: «Калі памру, закопвай не ўсяго, хоць галаву пакінь, каб мог я выпіць». Ноччу званок, міжгорад. Званіў Някляеў. Шмат суму ў голасе. Нялёгка яму, хоць хахарыцца. І правільна робіць. Шкада яго, дужа паэтычная душа выкачалася ў сажу палітыкі. Ды ўсё роўна чыстая.

«Бліжэй»[1].

*6 лютага, нядзеля*

Пасля лекавання вядзьмарскага галаву адчуваю ды ўвесь разбіты й сонны. Але схадзіў на Камароўку. Там сапраўднае жыццё. «Па-свойму...»[2], [«Ахвярынка»[3]].

*7 лютага, панядзелак*

У ПЭН, у «Полымя». Яўген Казюля[4] рабіў фота. Гэта сябра Валянціна Ждановіча. Ноччу прысніўся тост, па-расійску: «Так выпьем до дна мы И вновь захотим. Да здравствуют дамы И юный интим!»

*8 лютага, аўторак*

Аднёс падборку ў «ЛіМ». Як некалі казалі, распаўсюджваю свае вершы.

---

[1] Гл.: Бліжэй (5.02.00) // Халодная памяць вады. С. 288.

[2] Гл.: Па-свойму... (6.02.00) // Ксты. С. 306.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Старасць — гэта калі... // Босая зорка. С. 162.

[4] Казюля Яўген Карпавіч (1936–2014), беларускі фотакарэспандэнт.

*Экспромт*

*Алесю Пісьмянкову*[1]

Магілёўцы п'юць з капытка,
А вушацкія п'юць з цабэрка.
Ад размаху і да глытка
Ёсць на ўсё ў гэтым свеце мерка.
Не прабіць шлях у рай ілбом
Ані тым, што не мае замены.
Пі, Алесь, з кубка неба нагбом,
Магілёвец белакаменны.

*9 лютага, серада*

Сёння 70 Тарасу. Павіншаваў. На вячэру накіраваў Валю. Сам не змог. Галава крышыцца, як звон, што зляцеў доле.

*10 лютага, чацвер*

Прахварэў цэлы дзень. На колькі хвілінаў выйшаў сказаць пару словаў пра Міхася Стральцова для калхознага тэлебачання. Леся Мішава[2] прыгожая дзяўчына. Ні слова па-беларуску. Ну, ёй яшчэ даравальна як бы. А найболей гідотна было глядзець, як па тэле выступае […] Максіматанкаў. Румзаў, што отца забылі. Каб слова па-беларуску. Для каго ж тады […] пісаў свае высокамастацкія творы на «хамскай» мове? […].

*11 лютага, пятніца*

Запісаў колькі словаў пра Міхася Стральцова для калхознага тэле. Леся прасіла. Добра, што дачка ўспомніла. А па-беларуску так і не гаворыць. Усё, як у савецкай Беларусі.

[«Ахвярынкі»[3].]

*12 лютага, субота*

Цэлы дзень як навязаны пісаў артыкульчык у «Архэ» пра яўрэяў. [«Ахвярынка»[4].]

---

[1] Пісьмянкоў Алесь (Аляксандр Уладзіміравіч; 1957–2004), беларускі паэт. З 1990 г. нам. старшыні СПБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1988).

[2] Стральцова Алеся Міхайлаўна (н. 1975), у 1998 г. студэнтка факультэта мастацтва эстрады Інстытута сучасных ведаў імя А. Шырокава і адначасова, да 2000 г., супрацоўнічала з музычнымі гуртамі «Пані Хіда» і «Літвіны».

[3] Гл.: Ахвярынкі: Слава — самы ружовы сон…; Вясёлая праца… (11.02.00) // Босая зорка. С. 162–163.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Улада… (12.02.00) // Тамсама. С. 163.

*13 лютага, нядзеля*

Перадрукоўваў артыкул і пераклады з Бяліка. Званю Алесю. Ён смяецца, учора ў нейкай кампаніі размова зайшла пра Гілевіча. Алесь сказаў, што ён пасля смерці помнікам хоча стаць. Тыя: «А твой Барадулін хіба не хоча». Алесь: «А ён і не збіраецца паміраць». Вясёла. «Самотны воўк»[1]. Яшчэ напісаўся верш Васілю. Толькі, відаць, не буду рабіць прысвячэнне. І так, думаю, зразумеюць, каму: «Непачуты»[2].

*14 лютага, панядзелак*

У «Мастацкую». Абяцаюць хутка даць трэці том. У рэдакцыю, як да родных, да дзяўчат. Гэтулькі ж гадоў разам працавалі. Выдавецтва дабітае, разваленае, бо было нацыянальнае. У Дамінічкі працягнулі каранцін. Яна й кажа: «Гэта малітвы ўсіх дзяцей склалі — і аб'явіўся каранцін». Дзецям абы не вучыцца. Званілі з сядзібы БНФ, каб зрабіць вечарыну ў сувязі з маёй някруглай датай. Не трэба — і здароў'я няма, і грошай таксама. А нахлебнікам быць не хачу. Але за памяць вялікі дзякуй сябрам. Гэта, казалі, ідэя Хадыкі.

*15 лютага, аўторак*

У Саюзе пісьменнікаў у бібліятэцы ўрок перад школьнікамі. Тарас даваў. Мне давялося сказаць колькі словаў. Людзей было мала. Шкада. Тарас можа й мае, што распавесці. Хадзіў па вуліцах, якія ўжо хутка акупуюць канкрэтна маскалі. [...] Пуцін[3] хутка заглыне нас. [...]. «Над перастаялымі водамі»[4]. «Канец лютага: Хоць шэпчуць над снежнай саваннай вятры...» [у дзённіку].

*16 лютага, серада*

Улез з галавой у вушацкі слоўнік. Так мне праца гэтая люба. Так міла. Шкада, што сілы не тыя. Трэба было заняцца гэтым у маладыя гады, калі мама жыла, калі вушацкія родныя мне людзі жылі. Але хоць у свіныя галасы хоць бы паспець.

*Кожны мусіць...*

Кожны ў сваім жыцці
Мусіць прайсці
Агні і трубы

---

[1] Гл.: Самотны воўк (13.02.00) // Босая зорка. С. 55.

[2] Гл.: Непачуты (13.02.00) // Тамсама. С. 51. З прысвячэннем В. Быкаву.

[3] Пуцін Уладзімір Уладзіміравіч (н. 1952), расійскі дзяржаўны дзеяч. У 1998–1999 гг. дырэктар ФСБ, у 1999 г. 1-шы нам. старшыні, старшыня Урада, в. а. прэзідэнта, з 2000 г. прэзідэнт РФ.

[4] Гл.: Над перастаялымі водамі (15.02.00) // Ксты. С. 297.

І ваўчыныя зубы.
Агні нянавісці й жарсці,
Агні любасці і дабрыні.
Лісlівыя трубы шаны,
Не паверыўшы
Ў іхні голас бляшаны.
Прайсці ваўчыныя зубы
Згубы
І не мець рахубы
Наракаць на жыццё,
Што носіць цябе на руках,
Як дзіцё.
Агні і трубы
І ваўчыныя зубы —
Усіх чакаюць яны.
З даўніны.

*17 лютага, чацвер*

Зноў інтэрв'ю. Я ўжо, як той конь, што ходзіць па кругу з завязанымі вачмі. Інтэрвіёрка й добранькая яўрэечка, але, відаць, нічога майго не чытала. І пачынаюцца пытанні кшталту: «Як Вы адносіцеся да славы?» — і г. д. [«Ахвярынкі»[1].]

*18 лютага, пятніца*

У «Полымя». А так сяджу дома, з галавой улезшы ў вушацкі слоўнік. «Жаданне»[2].

*19 лютага, субота*

Да Сяргея Шапрана ў «БДГ». «Имя» закрылі. Інтэрв'ю для Латвіі і для «Комсомолки» [«Комсомольской правды»]. З Сяргеем мне добра. Люблю гэтага дапытнага тонкага маладога чалавека.

*20 лютага, нядзеля*

Так захацелася напісаць нулі й двойкі. Да Зміцера Бартосіка. І казаў яму штосьці, і спяваў нават з ім пад гітару. Падараваў яму «Здубавецьця»: «Ён п'е, што п'ецца, ўсё да дна» [у дзённіку].

І зноў за слоўнік. Нейкая трывога, што не паспею. А тут яшчэ Ілона з галавы не выходзіць. Што з ёй? Як яна там? Каб гук, каб слова. Гэта мне адплата за маму. Апошнія гады пісаў рэдка, часцей піў. Цяпер сорамна й балюча. Ніякімі словамі не замаліць гэты грэх мой перад святой мамай маёй.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Жыццё...; Сумленне, як ласку матчыну... (17.02.00) // Босая зорка. С. 163.
[2] Гл.: Жаданне (18.02.00) // Тамсама. С. 60.

*21 лютага, панядзелак*

У «Мастацкую». Наконт невялічкай бяседы. Прыйшлі ўсе лісты 3-га тома. Для Марачкіна: «Дрыжыце!» [У дзённіку.]

*22.02.2000, аўторак*

Да Сяргея Шапрана ў «БДГ». Вычытаў інтэрв'ю для «Комсомолки». Званіў Акімушкін. Пайшоў да Кісяля калхознага разліву, каб паставілі хоць «Псальмы Давідавы» да майго 65-годдзя. Кісель калхознага разліву: «А яго нават у календары няма». Каляндар рэдагаваўся [Замяталіным]. Дый не вялікі гонар свяціцца на калхозным тэлебачанні. «Слова — усяго *аснова*. Душа *відушчая* ў слова»[1]. Напісаў адказы на пытанні сына[2] Міколы Гіля. Малады чалавек, нацыянальны і глыбокі. «Каб толькі…»[3]

*23 лютага, серада*

У «Мастацкую». Невялікая бяседа. Мне далі сыгнал 3-га тома збора. Дзякуй дзяўчаткам! Яны так стараліся зрабіць мне прыемнае. Пераглядаў блакноты для слоўніка. У блакноце кубінскім. Перакладчыца Гелена [Элена]: «Напішыце, што перакладчыца была чорная, але прыгожая». Гэта было ў «Трапікана». І тут мне цюкнула. Зрабіць такія выбаркі з падарожжаў. Неабавязкова сюжэт, храналёгія. І загаловак кшталту: Падарожныя лісткі. З кайстры падарожнай. Падарожжа надвое варожа. Падарожжа ўсё можа. Званіў Додзік[4]. У Віцебску нешта накшталт вечарыны будзе. Напісаў: «Басанож»[5].

*24 лютага, чацвер*

Вось і 65. Калі й пераставіць мейсцамі — таксама багата: 56. Дзякуй, Божа!

*Рэзюмэ*

Штодзень ад перашага дня далей
Адбудзем таропка зямную рату.
І тыя, што ўспомнілі твой юбілей,
Магчыма, і ўспомняць апошнюю дату…

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Слова — усяго абнова… (22.02.00) // Босая зорка. С. 164.

[2] Гілевіч Мікалай Мікалаевіч (псеўд. Віч Мікола; н. 1973), беларускі журналіст, паэт. Супрацоўнічаў з час. «Першацвет».

[3] Гл.: Каб толькі… (22.02.00) // Босая зорка. С. 61. Верш прысвечаны С. Шапрану. Гл.: Сяргей Шапран // Дуліна ад Барадуліна. С. 16.

[4] Сімановіч Давід Рыгоравіч (1932–2014), рускі паэт, празаік, перакладчык, нарысіст, сцэнарыст.

[5] Гл.: Басанож (23.02.00) // Ксты. С. 298.

Віншавала шмат. Яфім Лапушын з Чыкага а палове 7-й пазваніў. Лябедзька[1], Марачкін, Бураўкін, Язэп Янушкевіч[2], Скарынкін, Аўсяннікаў, Лайкоў, Сіпакоў, Канапелька (з Віцебска), Кошка Калабкова[3], Левановіч, Камейша, Аліна Астравух (Гародня), Артур, Ларыса [Горцава], Вал. Блакіт[4], Скобла, Ваніцкі[5], Законнікаў, Бароўскі[6], Андраюк, Паўлаў[7], Франц Сіўко[8] (Віцебск), Яўг. Мальчэўская[9] (Віцебск), Ан. Белы, Ф. Мысліцкі, ад фірмы «Сотвард», Правасуд[10], Акімушкін, Г. Васілеўская[11], Самсон Палякоў, Сёмуха, Стэфановіч[12], Люда Калашнікава, Фінкельштэйн, Галя Варатынская (Вушачы), Пятруль, Матукоўскі, Алесь Гіб-Гібкоўскі[13], Марыя Андруковіч[14], Валахановіч[15], Арлен Кашкурэвіч[16], Тармола[17], Гальпяровіч, Сяргей Шапановіч, Г. Дзягілева, В. Тарас, Людміла Горава[18], М. Чарняўскі, Халіп, Глеб Артханаў, Серж Мінскевіч, Георгій Ліхтаровіч[19], Алесь Лобкіс

---

[1] Лябедзька Анатоль Уладзіміравіч (н. 1961), беларускі гісторык, юрыст, партыйны дзеяч. У 1995–2000 гг. нам. старшыні, з 2000 г. старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

[2] Янушкевіч Язэп Язэпавіч (н. 1959), беларускі літаратуразнавец, археограф, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1987). У 1997–2006 гг. заг. аддзела археаграфіі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы.

[3] Чарняўская Алена Іосіфаўна, жонка Мік. Чарняўскага.

[4] Болтач Валянцін Уладзіміравіч (псеўд. Блакіт; 1938–2007), беларускі пісьменнік. У 1987–2000 гг. гал. рэдактар час. «Вожык».

[5] Ваніцкі Арсеній Мікалаевіч (1933–2001), старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі (1984–2001).

[6] Бароўскі Анатоль Мікалаевіч (псеўд. Крушня Антон; н. 1942), беларускі пісьменнік, журналіст. З 1975 г. уласны карэспандэнт газ. «Чырвоная змена» па Гомельскай і Брэсцкай абл.

[7] Паўлаў Уладзімір Андрэевіч (1935–2020), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя І. Мележа (1997).

[8] Сіўко Франц Іванавіч (н. 1953), беларускі пісьменнік, публіцыст. У 1993–2003 гг. выкладчык Віцебскага тэхналагічнага ўніверсітэта.

[9] Мальчэўская Яўгенія Еўдакімаўна (1949–2008), беларуская паэтэса. З 1989 г. настаўніца Віцебскай СШ № 40.

[10] Правасуд Уладзімір Рыгоравіч (1934–2010), беларускі пісьменнік.

[11] Васілеўская Галіна Ануфрыеўна (1927–2017), беларуская пісьменніца.

[12] Стэфановіч Пятро (Пётр Францавіч; 1922–2006), беларускі пісьменнік.

[13] Гібок-Гібкоўскі Алесь (Аляксандр Сямёнавіч; н. 1952), беларускі публіцыст, паэт. Лаўрэат прэміі Беларускага Саюза журналістаў «Залатое пяро» (1999). У 1996–2005 гг. рэдактар аддзела час. «Беларусь», адначасова ў 1997–1999 гг. газ. «Літаратура і мастацтва».

[14] Андруковіч Марыя Канстанцінаўна (н. 1948), беларускі журналіст і кінарэжысёр. У 1995–2008 гг. супрацоўніца Беларускага Дзяржтэлерадыё.

[15] Валахановіч Анатоль Іосіфавіч (1939–2016), беларускі гісторык, журналіст, пісьменнік, краязнавец і культуролаг.

[16] Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч (Арсен; 1929–2013), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак Беларусі (1991).

[17] Тармола Раман Якаўлевіч (1936–2011), беларускі паэт, кінасцэнарыст.

[18] Горава Людміла Мікалаеўна (1951–2008), беларускі біёлаг.

[19] Ліхтаровіч Георгій Леанідавіч (н. 1947), беларускі фотамастак, паэт.

(Межава), Іван Лашутка[1], Ракіцкі, Шніп[2], Пісьмянкоў, Сяргей Парашкін[3] (Вушача), Ірына Моркаўка[4], маці Сіўчыкава [Сіўчыка][5], Алесь Анціпенка («Бярыце, што Бог дае, бярыце аберуч»), Сяргей Ваганаў[6], Алесь Марціновіч[7], Дракахруст, Сяргей Навумчык (Прага), Р. Сітніца, Алесь Камоцкі (аж з Вільні), Кахін [Абілаў], Камал, Роўба, айцэц Аляксандр, Ю. Сапажкоў[8], сям'я Навумчыкаў (Іосіф Адамавіч; Віцебск), Г. Раманчыкава, Наталля [Давыдзенка], М. Аўрамчык[9], М. Кірпіч (Вушача), Рэм Нікіфаровіч (Чыкага), Ганад [Чарказян], Алесь Крыга[10], доктар Сарокін (мой выратавальнік), Булавацкі[11] (Магілёў), Лявон Анацка (Ліда), Іван Бурсаў (Масква), Юрась Хадыка, Ул. Някляеў (Варшава), Вінцук Вячорка, Раман Цімашэвіч, Алесь Пісарык, Прыстаўка (в. Цялічына), Ала Ів. Роўба [жонка І. Роўбы] (Вушача), Сара Майсееўна[12], М. Казлоў, Прохараў[13] (Ворша), Барыс Бур'ян, М. Кацюшэнка[14], Ева Някляева[15], Ю. Цвяткоў, Ул. Сцепаненка[16], Іна (Алесева [Ладзюкова]), Ян Грыб[17], В. Чамярыцкі, Клуб аматара пару (паставілі на-

---

[1] Лашутка Іван (1933–2004), беларускі настаўнік, паэт.

[2] Шніп Віктар Анатольевіч (н. 1960), беларускі паэт. У 1995–2003 гг. супрацоўнік, нам. галоўнага рэдактара газ. «Літаратура і мастацтва». Лаўрэат прэміі імя У. Маякоўскага Савета міністраў ГССР (1987), прэміі «Залаты купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта РБ (2008).

[3] Парашкін Сяргей Васільевіч (н. 1959), дырэктар Ушацкай дзіцячай школы мастацтваў.

[4] Качаткова Ірына Львоўна (1953–2018), беларуская перакладчыца. Супрацоўніца час. «Всемирная литература» і Саюза пісьменнікаў Беларусі. Унучка А. Моркаўкі.

[5] Сіўчык Вячаслаў Вадзімавіч (н. 1962), беларускі географ, грамадскі дзеяч. У 1999–2003 гг. нам. старшыні БНФ «Адраджэньне» і партыі БНФ.

[6] Ваганаў Сяргей Давыдавіч (н. 1941), беларускі журналіст, паэт, публіцыст. У 1976–2008 гг. карэспандэнт газ. «Труд» (Масква), гал. рэдактар газ. «Труд» в Беларуси».

[7] Марціновіч Алесь (Аляксандр Андрэевіч; н. 1946), беларускі літаратуразнавец, крытык, публіцыст. У 1972–2001 гг. супрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва», у 1999 г. супрацоўнік, у 2000 г — 2007 гг. рэдактар аддзела, нам. галоўнага рэдактара час. «Беларуская думка».

[8] Сапажкоў Юрый Міхайлавіч (1940–2013), рускі паэт, журналіст. З 1993 г. працаваў у час. «Нёман», «Всемирная литература».

[9] Аўрамчык Мікола (Мікалай Якаўлевіч; 1920–2017), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964).

[10] Крыга Алесь (сапр. Асіпенка Аляксандр Аляксандравіч; 1943–2009), беларускі пісьменнік, журналіст.

[11] Булавацкі Міхась (Міхаіл Пятровіч; н. 1947), беларускі пісьменнік (г. Магілёў).

[12] Сара Майсееўна, у якой здымалі кватэру Барадуліны ў маладыя гады.

[13] Прохараў Анатоль Васільевіч, беларускі пісьменнік (г. Орша).

[14] Кацюшэнка Міхаіл Пятровіч (1947–2016), беларускі журналіст, пісьменнік. Кандыдат філалагічных навук (1987).

[15] Някляева Ева Уладзіміраўна (н. 1984), студэнтка ЕГУ. Дачка У. Някляева.

[16] Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч (псеўд. Сцяпан Уладзімір; н. 1958), беларускі пісьменнік, кінасцэнарыст, мастак, журналіст. У 1983–2003 гг. супрацоўнік Беларускага тэлебачання ў творчым аб'яднанні «Тэлефільм».

[17] Грыб Ян (Іван Іванавіч; н. 1936), беларускі пісьменнік і прадпрымальнік.

ват песню «Што за месяц, што за ясны…»), Вера Рыч (з Прагі), Арсень Ліс[1], Ул. Падгол, В. Мазынскі[2], Галіна Уладамірская[3].

Васіль званіў двойчы, не заставаў мяне. Нарэшце застаў. «Жадаем з Ірынай Міхалішкай шчасця на гэтым свеце. Жыву на паддашшы. Вокны на ўсход. Кожны дзень гляджу, ці відаць Беларусь. Не відаць… Тэл. 810493374669926». Былі і тэлеграмы. Ад Ланачкі. Нават ад імя членаў дэпутацкай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу, падпісаў старшыня камісіі Мікалай Шаўцоў[4]. У калхозным урадзе нават такія камісіі ёсць. Атрымаў ад Васіля лекі.

«Лісты ў Нямеччыну да Васіля Быкава»[5]. Vasil Bykau. Kunstlerchaus Schlos Wieperdorf 149 13. Deutschland.

*25 лютага, пятніца*

Са «Свабоды» Вольга Караткевіч[6]. Доўга гутарылі за жыццё. Потым у Музей Купалы. Хельсінскі камітэт наладзіў віншаванне. Кветкі. Ад «Нашай нівы» два тамы «Архіва БНР»[7] прывёз Ул. Арлоў. Ад БАЖа[8] — фотаапарат. Нарэшце разжыўся. Дужа хацела Дамінічка. Алесь Разанаў падараваў мне манету з выявай Пагоні 1564 г. Дзякуй Богу, хоць з паўдня веку нашага паразумеліся мы. Хай даруе мне Алесь усе крыўдлівыя словы, сказаныя ў неадуменным запале. Яшчэ быў учора вясёлы выпадак. Прыйшлі пані габрэйкі з хэсэду. Прынеслі цукерак пачачак, апельсіны, папку. І цэлых тры гадзіны ў застоллі імправізаваным распавядалі, які быў прыгожы букет мне зроблены, але які яны забыліся. Чыста габрэйскі анекдот.

---

[1] Ліс Арсень Сяргеевіч (1934–2018), беларускі фалькларыст, літаратуразнавец, краязнавец, пісьменнік. У 1962–2015 гг. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. Доктар філалагічных навук (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[2] Мазынскі Валерый Яўгенавіч (н. 1947), беларускі тэатральны рэжысёр. У 1993–2000 гг. мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1984). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[3] Уладамірская Галіна Іванаўна (1922–2002), беларуская актрыса, рэжысёр.

[4] Шаўцоў Мікалай Міхайлавіч (н. 1949), беларускі дзяржаўны дзеяч, дэпутат Палаты прадстаўнікоў.

[5] Гл.: Лісты ў Нямеччыну: Ліст першы з Менску: Калі рака разважліва глыбее… (24.02.00) // Барадулін Р., Быкаў В. Калі рукаюцца душы… Мінск: ГА БТ «Кніга», 2003. С. 110.

[6] Караткевіч Вольга ( 1972–2016), беларуская журналістка на Радыё «Свабода» (1996–2009).

[7] «Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1–2. Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага: Беларускі інстытут навукі й мастацтва беларускага пісьменства, 1998.

[8] Беларуская асацыяцыя журналістаў — недзяржаўная грамадская арганізацыя (з 1995).

*26 лютага, субота*

З Алесем выступалі ў Брацтве віленскіх пакутнікаў. Перад гэтым прысутнічалі на пасяджэнні. Пераканаліся ў агрэсыўнасці прапаведнікаў праваслаўя. Камуністы наадварот. [...]. Чарота[1] даказваў, што праваслаўе клапацілася пра беларускасць. Падарылі Беларускі праваслаўны каляндар з партрэтам Аляксія[2] усяе Русі, як раней генсека імпэрыі. Каб быць беларускай [царквой], трэба аўтакефалія. [«Ахвярынка»[3].] «Сем»[4]. Там, у брацтве, падышла ўсюдыпаспешная Вольга Іпатава. Ёй не спадабалася, што я саюз назваў арцеллю. Будзе пісаць артыкул апраўляржэння. Няхай. Усё роўна чытаць не буду. Ёй бы дарвацца да гэтай пасады пры камуністых. Во б дзе пакрасавалася. Цяпер зусім не тое.

*27 лютага, нядзеля*

Прыехала Ілона з Косцем. Галодная, крыклівая. Шкада яе — нэрвы зусім кепскія. Нейкая чужаватая яна. Здаецца, што Дамінічка — гэта дачушка. «Аднойчы прыйдзе...»[5]

*28 лютага, панядзелак*

Сустракаўся з Марыяй [Андруковіч]. Перадаў ёй падарунак. На Камароўку Ілоніным коткам ежу. І да паўночы — слоўнік. Як жа гэта смачна — *яравыя яблыкі*. Значыць летнія яблыкі. А якая песня сіраты: «Скаланіся ў крыніцы, вадзіца, У калодзежы стоячы, Адгукніся, мая родна мамка, У магіле лежачы». Крыніца ў калодзежы, як маці ў труне. Дзве самых чыстых і вечных.

*29 лютага, аўторак*

Працую над вушацкім слоўнікам. Гэта гучыць з прэтэнзіяй. Проста выпісваю з запісных кніжак вушацкія словы й выразы. Прыходзілі Ганад і Карлюкевіч. Карлюкевіч задумаў кніжачку «Азёры й рэкі ў творчасці Р. Б.»[6], прынёс карэктуру. Трэба рабіць праўкі па дакладнасці назваў рэ-

---

[1] Чарота Іван Аляксеевіч (н. 1952), беларускі літаратуразнавец, перакладчык. Доктар філалагічных навук (1998). Прафесар (1999). З 1977 г. супрацоўнік, з 1996 г. заг. кафедры філфака БДУ. Лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2003).

[2] Аляксій II (сапр. Рыдыгер Аляксей Міхайлавіч; 1029–2008), Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі (1990–2008). Доктар багасловія (1984). Акадэмік Расійскай акадэміі адукацыі (1993). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (2005).

[3] Гл.: Ахвярынкі: Мама... (26.02.00) // Босая зорка. С. 163.

[4] Гл.: Іх запомніць варта! (26.02.00) // Выпаў грук у грома з рук. С. 51.

[5] Гл.: Ліст дзевятнаццаты: Баяцца кветкі абразіць дол... (22, 27.02–10.10.00) // Калі рукаюцца душы... С. 128.

[6] Карлюкевіч А. Рэкі і азёры ў паэзіі Рыгора Барадуліна. Мінск: «Пейто», 2000.

чак, вазёраў. Уразіў мяне Алесь Карлюкевіч сваёй дапытнасцю. Шмат якія азёры я нават не ведаю, заядлы вушацкі.

*1 сакавіка, серада*

У школу выступаць перад трэцякласнікамі. Прасіў Саша Шкуцько, правая рука Карласа. Як адмовішся. Хоць я самых маленькіх недзе ў душы баюся. Не ўмею я з імі. Па традыцыі ў пачатку месяца прыходзяць да мяне вершы. І на гэты раз прыйшоў:

*Дзве крыніцы*

Скаланулася ў крыніцы вадзіца,
У калодзежы стоячы.
Адгукніся, мая родна мамка,
У магіле лежачы.

*З вушацкай песні*

І прыйшла сірата да крыніцы,
А вадзіца крыніцы ў цямніцы,
У цямніцы дубовай сцюдзёнай.
І схілілася сіраціна
Перад паланёнай іконай.
І прасіла крыніцу нявінна:
— Змый няволю сваю, скаланіся,
Хоць сама сабе вольнай прысніся.
А мяне няволя людская
Да сябе самой не адпускае…

І прыйшла сірата да матулі,
І нябёсы голас пачулі:
— Адгукніся, мамка, дачушцы,
Адгукніся з сасновай цямніцы.
Недаслухацца, недачуцца
Мне цябе, як тае зараніцы.

Сіраціна сэрца хіліла,
Ды маўчала глухая магіла.
Сіроцінка казала ціха:
— Надта злая мачыха — ліха…

Не даюць журбе супыніцца
У цямніцах сваіх дзве крыніцы…

*2 сакавіка, чацвер*

У «Полымя». Вычытаў «Шляхам зерня». Сяргей [Законнікаў] цікава распавядаў пра Караткевіча. Чытаў запісы Пімена [Панчанкі]. Даў мне студзеньскае «Полымя». Добрыя вершы ў Сяргея. [...]. [«Ахвярынка»[1].]

*3 сакавіка, пятніца*

У «Бярозку». Ягоўдзік і Бадак[2] далі мне нумар з маёй казкай-пераказкай. Потым прыйшоў Генадзь [Бураўкін]. Чытаў уголас развагі Іпатавай у «ЛіМе». Якая яна рамантычная й якія ўсе мы дрэнныя, што без задыхання ў голасе кажам пра Саюз пісьменнікаў. Яна яўна спазнілася з пасадай. Іншы час. Дай ей Бог усяго. Мае смак у кіраванні — няхай кіруе. «Як...»[3].

*4 сакавіка, субота*

Вечарына ў сядзібе БНФ. Думаў, проста чытанне вершаў. А яны наладзілі цэлую праграму з віншаваннямі, з падарункамі. Нават Чыгір з жонкай быў. Падарунак і букет. Усё было шчыра. Усё па-беларуску. Мяне толькі заўсёды бянтэжаць і робяць нейкім бязмоўглікам словы пахвалы. Не Ніл я, прывыкнуць не магу. Выступала Дзямідовіч[4], якая за беларускасць пры Саветах атрымала 25 гадоў. БНФ для мяне ўсё — і дом родны, і сям'я родная. Марачкін падараваў карціну настраёвую, Шунэйка — цудоўны шарж. Маладафронтаўцы Біблію ў Сёмухавым перакладзе й кубак піць крынічную ваду. Лес кветак, ці луг кветак. Добра, што круглыя й паўкруглыя юбілеі рэдкія. А то зусім можна разляноціцца й паверыць у словы хвалы. [«Ахвярынка»[5].]

*5 сакавіка, нядзеля*

З Алесем у Брацтве імя Канстанціна Астрожскага. Вечарына, прысвечаная Уладзімеру Караткевічу. Якія чыстыя, адухоўленыя беларускія душы!

*6 сакавіка, панядзелак*

У «Юнацтва». Казлоў зрабіў афармленне «Як воўк калядаваў». Хацеў зайсціся ў «Мастацкую», а тут у ліфта лагойскі [...]. Сапсаваў толькі настрой. А тут і так нейкія рэвалюцыі ў атмасферы. Праляжаў цэлы дзень.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Растаюць паціху на дне душы... (2.03.00) // Босая зорка. С. 164.

[2] Бадак Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; н. 1966), беларускі паэт. У 1991–2000 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Бярозка».

[3] Гл.: «Як прагнозы збываюцца...» (3.03.00) // Халодная памяць вады. С. 309.

[4] Дзямідовіч Надзея (1927–2020), беларуская грамадская дзяячка, пад час Вялікай Айчыннай вайны сябра Саюза беларуская моладзі. Была рэпрэсавана (1949–1957).

[5] Гл.: Ахвярынкі: Чалавекі, як ліхтары... (4.03.00) // Босая зорка. С. 164.

Ратаваўся вершам: «Якраз...»[1]. «Дзе ёй: Уладазадая дзяржава...» [у дзённіку].

*7 сакавіка, аўторак*

Па вуліцах не прайсці, у крамы не праціснуцца. Заўтра дзень, калі сяброўка Клары Цэткін развялася з мужам. А на абшарах былой саўімпэрыі свята. Забіраў Дамінічку са школы. Па дарозе прыставала да шапікаў. Нешта купляў ёй, крывінцы маёй апошняй. Дзеля яе трэба прасіць у Бога дзён, каб трошкі падкачаць безабароннае стварэнне.

*8 сакавіка, серада*

Прыехала Ілона з лецішча. Святочны як бы палудзень. Дамінічка была шчаслівая ад падарункаў і ад страваў даволі багатых. Вечарам званіў Васіль. У яго ўсё збольшага добра. І дзякуй Госпаду!

З розных накідаў рабіў нешта: «Здаецца...: І душа, здаецца, дажывае...» [у дзённіку]. «Ці не...»[2], «Просьба»[3]. Знайшоў верш 94-га года: «У поцемках»[4].

*9 сакавіка, чацвер*

У ПЭН. Сустрэча са Старыкевічам[5]. Званілі Васілю. Ён адмаўляецца ўзначаліць Агульнабеларускі з'езд. Увогуле, і правільна робіць. Заездзілі яго розныя дзеячы. Колькі можна эксплуатаваць святое імя.

[«Ахвярынка»[6].]

*10 сакавіка, пятніца*

У «Маладосць». З Казікам [Камейшам] і Генрыхам [Далідовічам] пасядзелі, як некалі. Толькі я ў ролі назіральніка. [«Ахвярынка»[7].] «Ліст другі»[8]. Папярэдне прачытаў Вал. Тарасу. Ён: «Без знакаў прыпынку напісана».

[«Ахвярынка»[9].]

---

[1] Гл.: Якраз... (6.03.00) // Халодная памяць вады. С. 385.
[2] Гл.: Думае хваля... (8.03.00) // Тамсама. С. 331.
[3] Гл.: Просьба (8.03.00) // Ксты. С. 287.
[4] Гл.: Родны сад (31.12.94) // Руны Перуновы. С. 201.
[5] Старыкевіч Аляксандр, да 2000 г. гал. рэдактар газ. Беларускіх прафсаюзаў «Беларускі час».
[6] Гл.: Ахвярынкі: Не затрымліваецца й на пагосце... (9.03.00) // Босая зорка. С. 164.
[7] Гл.: Ахвярынкі: А ў каго запытацца наапаслед... (10.03.00) // Тамсама. С. 165.
[8] Гл.: Ліст другі: Аднолькава, ці ластаўка, ці каня... (10.03.00) // Калі рукаюцца душы... С. 111.
[9] Гл.: Ахвярынка: Рыжы паўсюды рыжы... (10.03.00) // Босая зорка. С. 164.

*11 сакавіка, субота*

Пачаліся галаўныя болі. Як у тумане. Патроху раблю слоўнік. Каб цяперашні розум ды наперад. Можна было б зрабіць слоўнік як лялечку. Увесь час рыхтаваўся-рыхтаваўся й цяпер на абрыве жыцця спяшаюся.

*12 сакавіка, нядзеля*

Прыязджаў Алесь. Пісаў караценечкае віншаванне Уладзімеру Ткачэнку[1]. «Ліст трэйці»[2].

*13 сакавіка, панядзелак*

У «Мастацкую». Буду па частках здаваць Галачцы [Роліч] чацвёрты том. Загарэўся ідэяй кніжкі-малюткі ў Таварыстве «Кніга». Песні, запісаныя ад мамы. Партрэт мамы. І яшчэ нешта сваё, ці лірыку, ці гумар. Сяджу ўспамінаю, перапісваю. Потым перадрукую.

*14 сакавіка, аўторак*

Раблю ўспамін пра Пімена Панчанку. Нешта цяжка йдзе. Ватная галава.

*15 сакавіка, серада*

Сёння Шлях Волі. Не магу хадзіць. Галава разломваецца. Нешта раблю, абы не з'ехаць з глузду.

*16 сакавіка, чацвер*

Раптоўна схапіліся й паехалі Ілоначка са сваім [Косцем]. [...]. А [Косця], ад'язджаючы, выпусціў кошку, яна забілася пад стэлажы. Не дасталі. Цяпер і Мірон, і Каця. Весела! Мне з гэтай хаты нікуды не ўцячы. У сон уцякаеш, ён кепскі. І сніцца зачастую тое ж, што раздражняе, толькі з пабольшанай трывогай. Рэдка прысніцца мама ды дом, дзе шчаслівы быў я маладосцю. Толькі ў магілу ўцячы. Але яна сама ведае, калі адчыняцца. Адна радасць пад вечар здарылася. Знайшоў казку, якую запісаў ад мамы пра лесніка, якому зямля адкрыла мову ўсяго ў свеце. Доўга ўспамінаў і не мог успомніць. А перапытаць у каго? Дзякуй Богу, знайшлася!

*17 сакавіка, пятніца*

Закапаўся ў запісах словаў. Сяджу, як у нас казалі, крыччу. Чую галасы мамы й Марушкі. Гэта Вялікадне для душы маёй! Пад вечар пазваніў па-

---

[1] Ткачэнка Уладзімір Мікалаевіч (н. 1953), беларускі скрыпач, гітарыст, кампазітар-аранжыроўшчык. Заслужаны артыст РБ (1997). З 1987 г. артыст і аранжыроўшчык Нацыянальнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі.

[2] Гл.: Ліст трэйці: Ад бяды... (12.03.00) // Калі рукаюцца душы... С. 112.

ратоўнік мой залаты, вядзьмар Пётра. Да Рыгора ў майстэрню. Збольшага звінціў мяне, а то я быў зусім развінціўся. Суцешыў, што Бог пасылае душу на зямлю, каб мучыцца, пакутваць. І змяніць мы самі нічога не можам. Бацька дае дзіцяці жыццё, а лёс вызначае Усявышні. Трэба з гэтым лічыцца.

[«Ахвярынка»[1].]

Няма з кім пагаварыць шчыра. Нешта запісваю сюды, як бы сам з сабой размаўляю. Шчымлівая трывога агортвае перад канцом зямнога бытавання. Душа напаўняецца чаканнем. Чаго? Калі? Запаўняю лісткі словамі, раблю слоўнік вушацкай мовы. Мой слоўнік. Дылетанцкі.

*Няўтульна*

Няўтульна да гэтай пары
З-пад Наваградка
Стомленаму ўспаміну:
Спутаны конь з гары
Скача ў даліну...

*18 сакавіка, субота*

Разграбаю слоўнік. Радзікаў швагра перадаў яшчэ дзясятак Радзікавых зборнічкаў. Трэба даць добрым людзям. Хай чытаюць. [«Ахвярынка»[2]]. «Вёска: Не даюць змены ды перамены...», «Сталы довад: А кожнага лысага довад сталы...», «Пра змену пакаленняў: У пульхнай глебе, маладзенькі...» [у дзённіку].

*19 сакавіка, нядзеля*

Знадакучыла быць хворым. Нічога ўжо не чакаеш. Толькі горшага. Уяўляю, як цяжка Васілю цягацца па свеце, жыць фактычна кутнікам. Яму, панавітаму й гордаму. «Ліст чацьверты»[3].

* Дамініка: «Аж да страху нясмешна».

*20 сакавіка, панядзелак*

У ПЭН. Пачуў Васілёў голас. У яго ўсё, як ён кажа, збольшага добра. Дай Бог! У «Мастацкую». Ганад поўны планаў выдавацца. Яшчэ малады. «Вясновы клопат»[4].

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Зямное жыццё — для душы астрог (17.03.00) // Босая зорка. С. 165.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Ступаць аднолькава тузе... (18.03.00) // Тамсама. С. 164.

[3] Гл.: Ліст чацьверты: Спутаны конь з гары... (19.03.00) // Калі рукаюцца душы... С. 113.

[4] Гл.: Вясновы клопат (20.03.00) // Ксты. С. 304.

*21 сакавіка, аўторак*

Успамін пра Пімена. Працаваць цяжка. Алесь перадаў касэты «Псальмоў»[1].

*22 сакавіка, серада*

Патроху рыхтую том. Словы пра паэтаў трэба было б паправіць. Няма душэўнага спакою.

*23 сакавіка, чацвер*

На «Свабоду». Запісаў успамін, як мы з Валодзем [Караткевічам] святкавалі 25 Сакавіка.

*24 сакавіка, пятніца*

Нешта пішу пра Пімена. Адчуванне безвыходнасці. […]. Дамінічка расце, грошай няма. Ілона неўладкаваная. Не магу нікуды з'ехаць хоць бы на месяц. Выратаваў вядзьмар Пётра, думаў, што ўжо капут. Хата, як вакзал. Яшчэ горай. Няўжо мне так і не будзе ўжо ніколі спакою? Божа, злітуйся!

[«Ахвярынка»[2].] З адным сподзевам чакаю сну, каб хоць у яго ўцячы. Дый сон нейкі трывожны, раскатурханы.

«Дзе трэба…: Дзе трэба, ён зацяты…» [у дзённіку].

*25 сакавіка, субота*

Дзень Волі! На праспэкце як слупы міліцыянты, амонаўцы, спецназаўцы. Бронекамізэлькі. Танкі. Бронемашыны. Класічны хунтаўскі краявід. Сабакі без наморднікаў. Вусціш. У Музэі Купалы ПЭН. Пытанні дакумэнталістыкі. Прыехаў Крыстофер.

«Наноў узводзіў»[3].

*26 сакавіка, нядзеля*

Прэзэнтацыя Крыстоферавай кнігі. Дыскусія. Ад [Алексіевіч] ціск падымаецца. […].

---

[1] Аўдыёкасета «Псальмы», выдадзеная пры падтрымцы Цэнтра грамадзянскай адукацыі «Польшча — Беларусь» і Беларускага аб'яднання студэнтаў.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Ні ў зялёны гушчар, ні ў карчы… (24.03.00) // Босая зорка. С. 165.

[3] Гл.: Наноў узводзіў (25.03.00) // Улашчык М. Выбранае. Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2001. З прысвячэннем «Памяці Міколы Улашчыка». *Улашчык* Мікалай Мікалаевіч (1906–1986), беларускі гісторык, археограф, археолаг, этнограф, краязнавец, літаратар. Доктар гістарычных навук (1964). Быў рэпрэсаваны. Жыў у Маскве, пахаваны ў Мінску.

*27 сакавіка, панядзелак*

Праводзіны Крыстофера. У майстэрню да Уладзіміра Пузыні[1]. Сын пад леру праспяваў народную баладу пра цмока. Ворах па целе. Па НТВ інтэрв'ю з Васілём. Стомлены, самотны. «Ліст пяты»[2].

*28 сакавіка, аўторак*

Прыехаў Алесь. Мне весялей і нейк надзейней з ім.

[«Ахвярынка»[3].]

*29 сакавіка, серада*

Патроху ляплю трэці [чацвёрты] том. Гэта ўсё трэба было рабіць паціху й даўно. А ў мяне заўсягды так: як на паляванне йсці, тады хартоў карміць.

*30 сакавіка, чацвер*

Вечарына Марачкіна ў Чырвоным касцёле. Стала кепска. Ледзь даехаў дамоў. «Вяльможны дабрадзей…» [А. Марачкіну; у дзённіку].

*31 сакавіка, пятніца*

Улогам ляжаў дома. Патроху разбіраў запісы ў слоўнік. Знайшоў малюнкі Васіля й Валодзі [Караткевіча].

*1 красавіка, субота*

Рыгор перадаў ад ведзьмара спіс траваў лекавых. «Прызімак»[4].

*2 красавіка, нядзеля*

Слоўнік і ўспамінанне Пімена. Здаецца, нічога б не рабіў, толькі б разбіраў блакноты з запісамі жывых словаў. Як дамоў да мамы вярнуўся, словы загаварылі маміным голасам, паглядзелі вачыма мамінымі. Гэта маё самае дарагое багацце, самая лепшая на'быць.

*3 красавіка, панядзелак*

Знайшоў яшчэ некалькі штрыхоў, занатаваных пра Пімена. Дапісваў успамін, варушыў папкі з артыкуламі. Знайшоў яшчэ запісы маміных песняў.

---

[1] Пузыня Уладзімір Якаўлевіч (1940–2012), беларускі майстар-рэстаўратар нацыянальных музычных інструментаў, выканаўца на іх, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1994).

[2] Гл.: Ліст пяты: Паветра маленства… (27.03.00) // Калі рукаюцца душы… С. 114.

[3] Гл.: Ахвярынкі: На юбілеі паслухай ва ўсёй пекнаце… // Босая зорка. С. 165.

[4] Гл.: Прызімак (1.04.00) // Босая зорка с. 141. Пад назваю «Чуе дном…» гл.: Халодная памяць вады. С. 169.

*4 красавіка, аўторак*

Да Алы [машыністкі] на передрук. У «Мастацкую» да Ганада. Таму-сяму даў касэты з псальмамі. Знайшоў запіс пра Валодзю: «А Фама і ў вус не дзьме...»[1]

*5 красавіка, серада*

*Вушача!* З Алесем і Маей на Вушачу. Валя, Дамінічка й я. Машына поўная, як яечка. Снег сышоў. Ад зямлі тхне родным духам. Пахадзіў па старэчым садзе. І нікуды не хочацца ні йсці, ні ехаць. І толькі дзякуем Богу за жыццё. Родны кут — рай зямны! Клопат з Петраковай хатай збыў. Купляла прыемная маладзічка сваёй гадоўлі. Аж на душы паспакайнела — не будзе хата пустая стаяць. Як чалавек, забытая хата глядзіць табе ў вочы, ратунку просячы. І такой непатрэбнай здаецца ўся набыць. На Бутаўскі магільнік да мамы. «Ліст першы з Вушачы»[2].

*6 красавіка, чацвер*

Павесіўся Дубашынскі[3]. У Купалаўскім паніхіда. Зноў вярнулася зіма, толькі люцейшая — вятруга, снег, слата, сцюжа.

*Светлай памяці*
*Паўла Дубашынскага*

Жарт цябе бараніў ад самоты,
Смех цябе бараніў ад нуды.
У каго запытацца,
чаго ты
Распяшацца надумаў туды,

Скуль вяртання няма анікому.
На каго ты пакінуў, скажы,
І сваю працавітую стому,
І надзею на горкай мяжы?

Ты з крывіцкай сцяжыны не збочыў,
Верны быў і ў падумках, і ў снах.
Беларусь ужо сплакала вочы
Па адчаем забраных сынах...

---

[1] Фама — сяброўская мянушка У. Караткевіча. Гл.: Дзённікі і запісы. Вып. 1. 1951–1969. Мінск: «Кнігазбор», 2015. С. 172.

[2] Гл.: Ліст першы: На бацькоўшчыне... (5.04.00) // Калі рукаюцца душы... С. 8.

[3] Дубашынскі Павел Піліпавіч (1931–2000), беларускі акцёр. У 1967–2000 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1989).

*7 красавіка, пятніца*
У ПЭН да Карласа. Фота да зборніка «Лісты ў Хельсінкі».

*Фальклорнае*

Ці звонка жонка, як дзеткі гудуць?
Само сябе грэе пытанне ветлае.
Словы ў адказ яблыкаміападуць.
Якімі — пытанне загадзя ведае.

А ці антонаўкаю пазной,
А ці ранеткамі-малалеткамі.
Конь рупнасці пойдзе сваёй баразной,
І гаспадар не нацешыцца дзеткамі.

Бо жонка, як пчолка, мусіць звінець,
А дзеткі мусяць расці раістыя.
Як будзе ў згоды поўная клець,
Тады і прысады спагады выстаяць.

Да злосці ў госці падумкі не йдуць,
Як жонка звонка і дзеткі гудуць.

[«Ахвярынка»[1].] Перабіраю запісы на слоўнік, шкада, што мала запісаў ад мамы ўсяго скарбу, які мела яна, самая таленавітая, самая шчырая.

*Да гэтых дзён...*

Робіць робіла, а жыць яшчэ
не дабралася, — казала мама.

І я да гэтых дзён
Дабрацца жыць збіраюся.
Як з жонкай маладзён,
З капрызнай доляй раюся.

А ў рэчцы дзён маіх
Відно ўжо дно жвірастае.
Па берагах глухіх
Нахабна вецер шастае.

За мною ўслед ідзе
Непамысносцяў зграя ўся.
Ўсміхаюся нудзе.
Дабрацца жыць збіраюся...

[1] Гл.: Ахвярынкі: Ахвяру і ката хавае... (7.04.00) // Босая зорка. С. 166.

*8 красавіка, субота*

Праўлю ранейшыя, пішу такія-сякія ўспаміны.

*9 красавіка, нядзеля*

Складаю зборнічак для Таварыства беларускае кнігі для Лапцёнка[1]. Усяго шмат, а як выбраць лепшае? Галава ўжо не тая.

*10 красавіка, панядзелак*

Да Карласа. Зноў жа ўспаміны. Стары, значыцца, раз успаміны пішу. Жыццё было там, а тут дажыванне.

[«Ахвярынка»[2].]

*11 красавіка, аўторак*

З Алесем праходка. Сядзіба БНФ, засядалі з прычыны склікання Усебеларускага з’езда.

*12 красавіка, серада*

Колькі словаў на «Свабоду». Успамінаю пра Узбекістан. За вакном пахавальная музыка, як тупой пілой рэжуць перасохлыя дрэвы. Мірон ускочыў на фортку й так услухаўся і ўгледзеўся — аж вусціш. «Туды: Пад самотныя гукі…» [у дзённіку].

Знайшоў накіды вушацкага падання. І напісалася: «Блаславёны спадман»[3]. Дамініка вучыць нейкія вершы. Раптам пытаецца: «Ніл Гілевіч — гэта жанчына ці мужчына?» Адкуль такое пытанне? Праз нейкі час зрабіла адкрыццё: «Ніл Гілевіч — гэта мужчына, а я думала, яно, а ён ён». Відаць, падсвядомасць пыталася: паэт ці не паэт. Званіў мне Рыгор Сітніца. У Літмузэі па Багдановіча выстава маладых мастакоў. У Маркаўца[4], да прыкладу, партрэты Геніюш і Быкава. Пачалі развешваць, выйшаў […] дырэктар Хадкевіч[5], сынок Тараса[6], […] і зароў: «Чаго гэта ў цэнтры Быкаў? Павесіць недзе ў куток». Камэнтар лішні. […]. Тут толькі ад аднаго панславізму можна сканаць. Дамініцы ў школе сказалі прынесці славянскія казкі, іх будуць у класе ілюстраваць. Гэй-гэй, славяне!

---

[1] Лапцёнак Уладзімір Ільіч (1938 — ?), 1-шы нам. старшыні ГА Беларускага таварыства «Кніга».

[2] Ахвярынкі: Ні за бяседным сталом, ні ў труне… (10.04.00) // Босая зорка. С. 166.

[3] Гл.: Блаславёны спадман (12.04.00) // Тамсама. С. 17.

[4] Маркавец Віктар Пятровіч (1947–2013), беларускі мастак.

[5] Хадкевіч Леанід Тарасавіч (н. 1946), дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры (1987–2002). Сын Т. Хадкевіча.

[6] Хадкевіч Тарас Канстанцінавіч (1912–1975), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1972).

*13 красавіка, чацвер*

Раблю патроху слоўнік і ўспамінаю. Заўтра вечар у Дзягілевай. Боязна. Ці вытрываю. Хворы ўвесь.

*14 красавіка, пятніца*

У Чырвоным касцёле вечар. Перад пачаткам Роўда[1] ацэньваў хоры. Пасадзілі мяне разам з ім за сталом. Аб'яўляюць «Магутны Божа»[2]. Зразумела, раблю рух устаць. Роўда: «Не трэба ўставаць. Гэта вучэбны працэс». Я ўстаю, устаюць у зале, устае і прафэсар Роўда. Як час мяняецца. Некалі на Дні Беларусі ў Эстоніі прывёз хор. Была ў рэпертуары й бомба. Забаронены Саветамі гімн Эстоніі. Тады на правах госця ў першых радах я ўстаў, і ўстала ўся заля. Эстонцы былі ўдзячныя Роўду й нам, госцям. А цяпер Роўда за праваслаўе, за панславізм, па радыё дый так толькі по-рюсски. Вечар прайшоў добра, выступалі Бураўкін, Законнікаў, Мальдзіс. Алесь Камоцкі, як анёл, звінеў.

*15 красавіка, субота*

Патрошку змагаўся са слоўнікам. Не магу ўзяць клёку. Кепска мне. «А як...»[3]

* * *

У счырванелым чэрвені
Ноч туманом вячэрае,
Расою ранне снедае,
Паўдзён смугой абедае.
Гуляе рэха ў чэрвені,
Як у пячоры ў чэраве.
І хмара над крыніцаю
Прапахла медуніцаю.

---

[1] Роўда Віктар Уладзіміравіч (1921–2007), беларускі харавы дырыжор, педагог. Народны артыст БССР (1978). Народны артыст СССР (1990). Кандыдат мастацтвазнаўства (1956). Прафесар (1975). У 1965–2007 гг. мастацкі кіраўнік і гал. дырыжор Акадэмічнага хору Белтэлерадыё, а таксама мастацкі кіраўнік Канцэртнага хору Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, у 1963–2007 гг. заг. кафедры. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1990).

[2] «Магутны Божа» (1943) — адзін з твораў, якія прапаноўваўся на гімн РБ. Сл. Н. Арсенневай, муз. М. Равенскага. *Арсеннева* Наталля Аляксееўна (1903–1997), беларуская паэтэса, перакладчык. Пасля вызвалення з ссылцы ў Казахстан (1940–1941) вярнулася ў Мінск. У 1944 г. выехала ў Германію, з 1950 г. у ЗША. *Равенскі* Мікалай Якаўлевіч (1886–1953, Бельгія), беларускі кампазітар, дырыжор, музыкальны крытык. З 1944 г. у Германіі, з 1950 г. у Бельгіі.

[3] Гл.: А як жывецца... (15.04.00) // Босая зорка. С. 67. Верш прысвечаны А. Камоцкаму.

*16 красавіка, нядзеля*

Засядаў аргкамітэт Усебеларускага з'езда. Добра, што вёў Генадзь. Залішне словаў. Усё можа быць загукана й засядана. Няма амаль прафесійных палітыкаў. Нашаніўскі ўзровень нічога не дасць у век электронікі. Няма нацыянальнай буржуазіі, а значыць, няма і грошы. […].

* У трамваі Рая Сіплевіч[1] кажа Бураўкіну: дачка паступала ў Акадэмію мастацтва, пісала сачыненне, узяла эпіграфам верш Генадзя. Ледзь не правалілася. Не было 3-х косак.

*17 красавіка, панядзелак*

Да Карласа. Доўгадумная гутарка Патупы[2].

[«Ахвярынка»[3].]

*18 красавіка, аўторак*

Ліст ад Васіля. Маркі італійскія. Адваротнага адрасу няма. Думаў, якая канспірацыя. Дамінічкі паштовачка з велікодным віншаваннем. Васіль піша гэта з Мілана. Праз колькі гадзін званок, міжгорад. Васіль кажа, што тры дні быў з Ірынай у Мілане. Пытаюся, ці не стаміўся. Смяецца: «Гэта ж не на аўтобусе ў Вушачу ехаць».

*19 красавіка, серада*

Аднёс Васілёва апавяданне на «Свабоду». Прасіў. Сустрэча з ведзьмаром Пятром. Падараваў яму унікальны Збор твораў Авіцэны[4]. Быў шчыра рады. А я рады, што ён рады. Ён ратаўнік мой.

*20 красавіка, чацвер*

Вечарына «Псальмоў». Людзей было не дужа, але шчыра ўсё прайшло. Былі й запіскі. «Вы нібыта вершам гаварыць народжаны», «Ці вернецца В. Быкаў на Радзіму? (Толькі Вы не з'язджайце, бо мы зусім асірацеем)». З-за колькі такіх словаў жыць варта. Дзякуй!

*21 красавіка, пятніца*

У ПЭН. У «Полымя».

[«Ахвярынка»[5].]

---

[1] Сіплевіч Раіса Паўлаўна (н. 1949), беларускі мастак.

[2] Пацюпа Юрый Віктаравіч (н. 1965), беларускі мовазнавец, пісьменнік, крытык. У 1996–2007 гг. выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Спярша пад табою… (16–17.04.00) // Босая зорка. С. 166.

[4] Ібн Сіна (лацінізаванае — Авіцэна; каля 980 —1037), азіяцкі вучоны, філосаф, урач.

[5] Гл.: Ахвярынкі: Вочы — люстэрка душы… (21.04.00) // Босая зорка. С. 166.

*22 красавіка, субота*

Слоўнік. Жыву домам вушацкім, калі чытаю запісы. Як яны ўвайшлі ў мяне, словы вушацкія. Дзякуй маме! «Каб шанаваў...»[1]

*23 красавіка, нядзеля*

Хрыстос уваскрос! Вялічка святое. Дамінічка на яйку пафарбаваным выводзіла ХВ. Як добра рыфмуецца Вялічка й Дамінічка.

*24 красавіка, панядзелак*

Троху ачуняў. Зграбаў ксёнжачку «Босая зорка».

*25 красавіка, аўторак*

Занёс «Босую зорку», каб яе абуў Уладзімер Ільіч Лапцёнак з кнігароў.

«Ліст шосты»[2].

*26 красавіка, серада*

«Чарнобыльскі шлях». Я ўжо не хада́й. Блага. Галава, як у тумане. Заходзіўся Бурсаў. Ён парабкаваў на Карласа — перакладаў ягоную паэму. Да кангрэсу Карлас выдае сябе на 4-х мовах. А Васіля любіць. Сумная сустрэча з дарагім Іванам. Абыдва старыя й хворыя. Ці ўбачымся яшчэ?

*27 красавіка, чацвер*

Зусім занепадаю. Нічога рабіць не магу. Узрадвала вішня ў двары — зацвіла. [«Ахвярынка»[3].]

* У паэта дэвіз: ні дня без рыдка...

*28 красавіка, пятніца*

З Алесем выконвалі «Псальмы» ў каталікоў беларускамоўных. Неяк усё па-хатняму, ціха. І на душы светла зрабілася.

*29 красавіка, субота*

Да Сяргея Шапрана. Матэрыял у Латвію. Потым з Дамінічкай і Валяй да ведзьмара Пётры. Дамінічка, як званочак, звінела, усіх зачаравала сваёй чысцінёй і беларускасцю. [...]. Трэба з'язжаць у Вушачу. Цяжка гэта — быць ненасвісным рэжыму.

[«Ахвярынка»[4].]

---

[1] Гл.: Каб шанаваў... (25.12.99–22.04.00) // Босая зорка. С. 135.

[2] Гл.: Ліст шосты: І хісткі човен кону... (25.04.00) // Калі рукаюцца душы... С. 115.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Белую аблачынку вішні... (27.04.00) // Босая зорка. С. 167.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Не адкажа й залева... (29.04.00) // Ксты. С. 436.

*30 красавіка, нядзеля*

Хрыстос уваскрос! Маміна Вялічка. Якое яно было святое ў мамы. «Ліст сёмы»[1], «Дзе тая?»[2]

*1 травеня, панядзелак*

Цэлы дзень перапісваў вушацкія песні. Хочацца выдаць кніжку-малютку «Сама пайду дарогаю, голас пашлю дубровою»[3]. Як мёд п'ю, так вушацкае ўсё да сэрца дападае.

*2 мая, аўторак*

Званіў Васіль. Колькі мне радасці й моцы дае голас ягоны! Апошняя родная душа на гэтай зямлі.

*3 мая, серада*

Вяла рабіў слоўнік. Ні хворы, ні здаровы. Душа баліць па Ілонцы. Каб гук ад яе. Пачынаю разумець, як было маме, калі я гуляў, а ёй пісаў рэдка. Гэта мне за маму адплата ад дачкі.

*4 мая, чацвер*

Патроху рыхтую IV том. Можа, выйдзе. Жыццё губляе смак. Ці хвароба, ці старасць.

У старым «ЛіМе» пачытаў Лыча[4] пра Другі Усебеларускі з'езд у 1944 годзе. Стала сумна й горка. Відаць, і нам будзе з гэтакім жа вынікам. Пакрычым ды паплачам.

*5 мая, пятніца*

Вяла перапісваю песні. Доўга засяроджвацца не магу. Што мяне чакае са здароўем? Прыбіўся, прытаміўся, зняверыўся. Такі вынік. «У кожнага клопату ногі свае…», «Старая хітрасць»[5].

---

[1] Гл.: Ліст сёмы: Травень зялёны… (30.04.00) // Калі рукаюцца душы… С. 116.

[2] Гл.: Дзе тая? (30.04.00) // Халодная памяць вады. С. 96.

[3] Сама пайду дарогаю, голас пашлю дубровою…: Песьні матчыны з Вушаччыны. Мінск: ГА Беларускае таварыства: «Кніга», 2005 (2004). Уклад. Р. Барадулін. Па недасведчанасці выдаўцоў вокладка пазначана першапачатковай назвай «Сама пайду дарогаю, голас пашлю дубровою…». На тытульнай старонцы (памылкова імя Р. Барадуліна, які з'яўляецца не аўтарам тэкстаў, а складальнікам) падзагаловак «Песьні матчыны з Вушаччыны», які ў выходных дадзеных фігуруе ў якасці назвы. Не выпадае гаварыць пра іншыя недарэчныя неадпаведнасці і парушэнні выдавецкіх гостаў і правілаў, нават года выдання (*заўв. Н. Д.*).

[4] Лыч Леанід Міхайлавіч (1929–2021), беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1989). Прафесар (1993). З 1962 г. супрацоўнік, з 2016 г. гал. навуковы супрацоўнік НАНБ.

[5] Гл.: Сябе…; Старая хітрасць (5.05.00) // Ксты. С. 292; 313.

*6 мая, субота*

Да Рыгора ў майстэрню. Сустрэча з Пётрам. [З аповедаў П. Кухарскага, былога вайскоўца і доктара.] Клінічная смерць Пётры. Князёк афрыканскі, каб сказаў, што ён за камунізм, скрынкі брыльянтаў, мяхі даляраў [давалі]. З'еў [князёк] пасла — «... у пасла былі апетытныя пальчыкі».

*7 мая, нядзеля*

Шмат выходных. [Лукашэнка] сумясціў свята Перамогі са святам горада. Бальшыня на сотках. Мудра прадумалі — жывых людзей у зямлю загнаць. «Наканавана»[1].

*8 мая, панядзелак*

Тэле й радыё ўключыць немажліва. Адна толькі слава Перамозе. Праўда, не кажуць, чаму вайна й якой цаны каштавала гэтая перамога. [...].

*9 мая, аўторак*

Хвароба перамагае мяне. Блага!

*10 мая, серада*

У ПЭН. Пошукі лекаў. Генадзь слухаў калхознае радыё. [...] так званы журналіст Юры Дудзіноў (з казакоў) вёў чарговую радыёгутарку. Быў там і Марчук. [...] з казакоў яўна чакаў званка. І раптам нейкая Ірына Уладзіміраўна [парт...] кажа, што ёй памятаецца (ну ... й памяць), як пасля вайны землякі й родныя не прызналі Васіля Быкава. Той Быкаў, за якога сябе выдае Васіль, загінуў, і прозвішча на абеліску ў Кёнігсбергу. А гэты, які піша, родам з Сібіры ці з Урала. Ён ненавідзіць партызан і ўсіх беларусаў. Марчук нешта мычэў. А Дудзіноў сказаў, што гэта цікавая вэрсія. Дайшлі калхознічкі! [«Ахвярынка»[2].]

*11 мая, чацвер*

У ПЭН. Мітрэнга з Хельсінскім камітэтам. [...]. Працька б'е ў хамут. Незразумела, ці грошы працуюць на ідэю, ці ідэя працуе за грошы. І [...] камуністы адчулі, адкуль вецер грашыма пахне, і хуценька абдэмакраціліся. Сумна.

[«Ахвярынка»[3].] «Ліст восьмы»[4].

---

[1] Гл.: Наканавана (7.05.00) // Руны Перуновы. С. 404.

[2] Гл.: «Вяртаюся, вяртаюся туды...» (10.05.00) // Халодная памяць вады. С. 480.

[3] Гл.: Ахвярынкі: У кожным... (11.05.00) // Ксты. С. 436.

[4] Гл.: Ліст восьмы: Даўно не жыву... (11.05.00) // Калі рукаюцца душы... С. 117.

*12 мая, пятніца*

У ПЭН. Наташы [Давыдзенка] верш памяці Міколы Улашчыка.

*13 мая, субота*

Крыху адпусціла. Душа адтае — перадрукоўваю песні матчыны з Вушаччыны. Неяк мімаволі падводжу рысу пад усім.

*14 мая, нядзеля*

Чакалі Ілону. Зноў ашукала, не прыехала. На марудным агні нас трымае. Так ачужэла.

[«Ахвярынкі»[1].]

*15 мая, панядзелак*

Патроху дзяўбу на друкачцы песні. Сам сабе пяю, каб хто пачуў, падумаў бы, што дайшоў.

*16 мая, аўторак*

Да Генадзя. Прыехаў Восіп Навумчык. Распавядаў, як у Віцебску ціснуць на ўсё беларускае. А [...] Пуцін збіраецца падзяліць Расію на акругі, прытым акругі там, дзе ёсць акругі ўнутраных войскаў з АМОНам і спецназам. Такім чынам руйнуецца ўсялякая аўтаномія. І Беларусь заакругляць, каб нацыянальных вуглоў не было.

*17 мая, серада*

Званіла Галя Варатынская. У Вушачы змрок. Алеся Камоцкага прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Хоць мая душа на мейсцы. Бо перажываў.

*18 мая, чацвер*

Дабіваю песні. У панядзелак мушу здаць. На душы змрок. Усё баліць. Навошта гэтулькі працаваў? Усё йдзе прахам. Толькі ў сне схоў.

[«Ахвярынкі»[2].]

*19 мая, пятніца*

Сустрэча з ведзьмаром Пётрам. Ён адзін і трымае мяне сваімі чарамі ды беларускасцю.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Дагэтуль сніцца начлег (14.05.00) // Ксты. С. 436; гл.: Ахвярынкі: Я да скону заручаны з той стараною... (14.05.00) // Босая зорка. С. 167.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Жыць — нялёгкая праца...; Жыць — карчаваць карчы (18.05.00) // Ксты. С. 436; 437.

*20 мая, субота*

Учора Пётра распаведаў шмат. Вядзьмар не памрэ датуль, пакуль не перадасць руку — веды спадкаемцу. Памятае, як пяцігадовага яго бабка вадзіла па лесе, паказвала травы. «Шукае…»[1]

Вечарам званок ад Васіля. Маецца ўлетку быць дома. У яго, калі верыць, усё добра. Дай Божа!

*21 мая, нядзеля*

З Алесем у Скарынаўскі цэнтр. Там усіх аж залішне, ці з лішніцай, як у нас казалі. Абавязковы Лёнечка […]. Дый іншыя. Мы з Алесем джвыг за дзверы. А насустрач айцец Надсан. Бог паслаў, мы з-за яго й прыходзілі. Алесь аддаў касэты. Кажу: «Адам [Мальдзіс] перадасць буклет, там ёсць верш Вам». Айцец: «Умазаўся я ў славу, як свіння ў гразь…»

*22 мая, панядзелак*

У выдавецтва. Дзяўчаты мяне абрадавалі, магу пазней здаць рукапіс тома. Спачатку частку. Цэлая гісторыя з перадачай білетаў Ілоне. Каця акацілася. Тройня. Толькі гэтага й не хапала. Што рабіць з кацянятамі? Куды іх падзець, каму аддаць, хто возьме?

*23 мая, аўторак*

Дадрукаваў «Песні матчыны з Вушаччыны». Трэба раскласці па раздзелах. За навуковасць не бяруся. Адмовіўся перакладаць п’есу. Не магу засяродзіцца.

*24 мая, серада*

Выступ з Алесем у беларускамоўнай школе, адной на ўвесь раён. Ілона зноў не прыехала. Давядзе яна мяне да самага страшнага. Гэта мне ка′ра за маму. Загнаны я ў кут, і адзіны шлях з яго толькі вечны. Але ж Дамінічка такая маленькая й пакінутая бацькамі. Госпадзі! Дай мне трошкі здароўя й дзён. З-за маленькай.

Для Пётры шукаю адпаведнікі беларускія лекавым травам, якіх няма ў даведніках. Здаецца, нармальна атрымаўся лавр благородный — лаўроўнік панавіты, лапчатка прямостоячая — дуброўка старчаковая, уснея нитевидная — уснея ніткаваная.

«Ліст дзевяты»[2].

---

[1] Гл.: Шукае… (20.05.00) // Босая зорка. С. 134. Верш памяці Юзэфы Кухарскай-Кастрыцнікайтэ.

[2] Гл.: Ліст дзевяты: А самая жывучая бяда (24.05.00) // Калі рукаюцца душы… С. 118.

*25 мая, чацвер*

З раніцы пазваніў Алесь і прапанаваў на сваім канцэрце аб'явіць, хто хоча кацянятак ад славутага ката Мірона. А потым павязаць банцікі Міронавым дзецям. Якая шчырая й чыстая душа ў Алеся. Бог паслаў мне яго ў сябры. Ды тут званок у дзверы — Ілона з Косцем. Мы пераблыталі, яны й мусілі прыехаць сёння. Страх вочы казеліць. Сустрэча з Пётрам у ПЭНе. Прынёс яму слоўнічак Зоські Верас[1]. Быў шчаслівы, як дзіцятка, калі чыталі. Першацвет — зязюльчыны панчошкі, дзьмухавец — ксяндзоў плеш. Усіх цудаў не пералічыць. Распавядаў, як у іх дома была кошка. Некалькі гадоў запал кацілася на Вялічка. Яўна кацянятак ужо не ўтопіш. Але яна вучыла дзяцей паляваць, гадавала іх зайчаняткамі. Лес быў хатнім. І кошачкі, і каты бралі пацукоў. Таму суседзі чакалі прыплоду. А аднойчы бацька прынёс з лесу паласаценькага парсючка. Ляснічы прыйшоў патрабаваць, каб вярнулі сынка дзіковага. Паабяцалі запрасіць на свежыну. Рос у загоне, нешта па-свойму рохкаў. Іклы раслі. На ўбоінах так напаілі ляснічага, што дадому неслі.

І тут званок Наташы [Давыдзенка]. Сыгнал «Лістоў у Хельсінкі». Дужа сымпатычная ксёнжачка. Дзякуй Васілю[2]!

*26 мая, пятніца*

Неяк нязвыкла пісаць 2000 год. Як рахунак які. Дома сядзеў. Даводзіў да толку вушацкія песні. Увесь гэты час жыў імі, як бы дамоў вярнуўшыся. Застаецца слоўнік.

*27 мая, субота*

Уладзя Арлоў папрасіў напісаць уступ да кнігі «Адкуль наш род»[3]. Перавыданне. Зрабіў вершам. «Адкуль наш род?» [«Ахвярынка»[4].] «Як мне?..»[5]

*28 мая, нядзеля*

Дадрукаваў змест, пранумараваў і заўтра занясу песні. Аж шкада раставацца з імі.

Прыехалі Ілона з Косцем з лецішча.

---

[1] Верас З. Беларуска-польска-расійска-лацінскі батанічны слоўнік. Вільня, 1924. *Верас* Зоська (сапр. Войцік Людвіка Антонаўна (1892–1991), беларуская пісьменніца, грамадска-культурніцкая дзяячка.

[2] Грошы на выданне кнігі ахвяраваў В. Быкаў (*заўв. Н. Давыдзенка*).

[3] Арлоў У. Адкуль наш род? Мінск, 2000. Выд. 2.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Не зважае трава на равы (27.05.00) // Ксты. С. 436.

[5] Гл.: Як мне?.. (27.05.00) // Тамсама. С. 297.

*29 мая, панядзелак*

У ПЭН. Сустаршыні Усебеларускага з’езда засядалі. Правілі зварот, маніфэст. Аддаў Уладзімеру Лапцёнку «Сама пайду дарогаю, голас пашлю дуброваю»!

*30 мая, аўторак*

Зноў у ПЭНе правілі маніфэст. Аддаў Ганаду перакладзеныя чаргаві. Адзін цяжар з душы далоў. Цяжкавата пісаць на тэму, калі малавата фактуры.

*31 мая, серада*

Званіў Васіль. Ён некуды адлучаўся. Атрымаў мой ліст. Дай Бог! Алесь Карлюкевіч і Ганад прынеслі мне брашурку Алеся Карлюкевіча «Рэкі і азёры ў паэзіі Рыгора Барадуліна». Дзякуй за такі сувэнір!

*1 чэрвеня, чацвер*

Вечарына Алеся Камоцкага. Прэзэнтаваў рамансы «Зорка спагады»[1]. Хораша спяваў. Хваляваўся. Усё прайшло добра. Нацыянальная аўдыторыя — самае галоўнае! «Ліст дзесяты»[2]. «Згаданае: Вяртаюся» [у дзённіку].

*Наталлі Давыдзенка*
*(на «Лістах ў Хельсінкі», рэдактару кнігі)*

А Наташы нашай зараз і пасля
Шчыры дзякуй ад мяне і Васіля!

*1 чэрвеня 2000, Менск* *Рыгор*

*2 чэрвеня, пятніца*

Цэлы дзень шукаў фота мамы з пеўнем для кніжкі. Знайшоў. Знайшоў шмат фота з Караткевічам. У Карлюкевіча ёсць задума невялічкай брашуры.

*3 чэрвеня, субота*

Павінен быў ехаць на радзіму Жылкі[3] з Алесем. Не змог. Цэбар мой крышыцца ад болю. «Згаданае». Зусім з глузду з’ехаў. Перапісаў запісаны верш.

---

[1] Прэзентацыя касеты «Зорка спагады».
[2] Гл.: Ліст дзесяты: І ў нябесах жыццё суровае (1.06.00) // Калі рукаюцца душы... С. 119.
[3] Жылка Уладзімір Адамавіч (1900–1933), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны.

*4 чэрвеня, нядзеля*

Прыехала Дамініка з Ілонай з лецішча. Званіў Тарас і Дракахруст. Ім спадабаліся «Лісты…». Напісаў верш, хацеў ім закончыць слова пра Рыгора Семашкевіча[1]. Пачытаў Наташы Семашкевіч. Яна не хоча. Бо Рыгор не самагубствам скончыў жыццё. […]. «Кон»[2].

*5 чэрвеня, панядзелак*

У ПЭН. Валтузня вакол Процькі. Ім грошы, а мне транты інтрыгаў. Не падзялілі кармушку. […]. «Ліст адзінаццаты»[3].

*Уладзіміру Халіпу*
*(на «Лістах у Хельсінкі»)*

Нябесны адзін мне бачыцца кліп:
Плінскае возера, мудры Халіп.

*6 чэрвеня, аўторак*

Сустракаўся з ведзьмаром. Толькі ён і трымае мяне. Толькі шчыры беларус можа вылечыць мяне. Ён з душой маёй гаворыць па-беларуску, і душа адгукаецца яму. Ён з нашымі травамі па-беларуску гаворыць, і травы яму адгукаюцца. «На «Лістах…»: «Шчырасці нашай…» [І. Сарокіну; у дзённіку].

*7 чэрвеня, серада*

Алесь перадаў мне колькі касэтаў «Зоркі спагады». Драматург […] Дудараў адзначаў юбілей. Сам бяздарна йграў у сваёй шэранькай п’есцы. Потым даў банкет на 300 пэрсонаў. Іван Пашкевіч[4] чытаў віншаванне […] ад [Лукашэнкі]. І ўсе прыйшлі на п’янку, і Ніл, і Бураўкін, і Законнікаў. Дэмакратыкі. […].

*8 чэрвеня, чацвер*

Да ратоўцы сваёго Пётры з усёй сям’ёй, толькі без Мірона. Абяцаў Ілону трохі налю΄дзіць. За Ілону мне баліць душа, спакою не маю. Стузаная, загнаная безвыходнасцю й галечай, апантаная мрояй за мяжой знайсці сябе. Нэрвы ейныя, як танюткія валасінкі. Як яна трымаецца? Яна на мяжы. А дапамагчы не магу. Парадаў маіх і слухаць не хоча. Разумею яе. Над ёй уладарыць роспач. Глянеш на яе й на бездапаможную

---

[1] Семашкевіч Рыгор Міхайлавіч (1945–1982), беларускі паэт, празаік, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1970).

[2] Гл.: Кон (4.06.00) // Ксты. С. 200.

[3] Гл.: Ліст адзінаццаты: Сплыла аблачынка… (5.06.00) // Калі рукаюцца душы… С. 120.

[4] Пашкевіч Іван Іванавіч (н. 1955), беларускі дзяржаўны дзеяч. Нам. кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

Дамінічку — хоць у вір галавой. Усё, што робіў, на што паклаў усё здароўе, — прах. Уперадзе — галеча й беспрасвецце. Самай вернай засталася мне толькі роспач. Ды яшчэ адна паня чакае.

*9 чэрвеня, пятніца*

У Хельсінскі камітэт. Навошта мне барацьба з […] Працькай? Платныя барацьбіты за незалежнасць. […]. Наіўны Захад падтрымлівае быццам апазіцыянэраў. У нашым грамадстве, прасавечаным, […] усё, як у прорву.

*10 чэрвеня, субота*

Сёння дзень нараджэння мамы. Па пашпарту. Бо можа быць і не сёння. Як далёка дні тыя, калі ездзіў да яе. Бліжэй і бліжэй дні сустрэчы. Яна са мной, яна ўва мне да скону. Няма такіх словаў, каб маглі выказаць удзяку маме. І ў гэты святы дзень давялося 5 гадзін слухаць амбіцыйную балбатню лідэраў і выдураў наконт Усебеларускага з’езда. З такімі лідэрамі нічога ў нас не будзе. Нават Вячорку пачало несці, як каня на скачках. Справа не ў справе, а ў асабістых пыхах. Вечарам якраз званок ад Васіля. Пытаўся, як здароўе. У Эўропе тэле й радыё папярэджвала пра выбухі на сонцы й вынікі на здароўе. Пытаўся, ці паведамлялася ў нас. Адказаць не мог, бо ні калхознага тэле, ні радыё не гляджу й не слухаю. У колькіх словах сказаў яму пра сённяшнюю крыклівую зборню. Васіль: «Дэмакраты харошыя людзі, але самае лепшае выкарыстанне іх у застоллі». [«Ахвярынка»[1].]

*11 чэрвеня, нядзеля*

Святая нядзелька — казала мама. Пазваніла Ілона, нейкая ачмурэлая. Кажа, што Косця падаў на развод. Потым маці казала, што яна напілася транквілізатараў. І такая роспач напала — хоць задавіся. Ледзь ўратаваў Пётра гутаркаю ды парадамі. Калі ўжо мне будзе хоць які спакой? «Ліст дванаццаты»[2]. Хоць пасылаць лісты ўжо невядома куды, Васіль маецца пераехаць.

«Рэкам рэчышчы памянялі…» [у дзённіку].

*12 чэрвеня, панядзелак*

У ПЭН. Кнігалюбам аднёс фота мамы з пеўнем. Чакаў Ілону, не прыехала. Косця прывёз Дамінічку з лецішча.

«Вяртаецца…»[3]

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: З аблачыны жыта нябёсам… (10.06.00) // Ксты. С. 437.
[2] Гл.: Ліст дванаццаты: Затанулыя за’мкі… (11.06.00) // Тамсама. С. 121.
[3] Гл.: Вяртаецца… (12.06.00) // Босая зорка. С. 111.

*13 чэрвеня, аўторак*

Перадрукаваў «Біблейскія балады», хачу дадаць у «Босую зорку». Ілона не прыязджае з лецішча. Чым там яны займаюцца, толькі Богу вядома. Адбілася яна ад рук, ачужэла. А я люблю яе дужа балюча. Пагаварыць з ёй немагчыма. Так і адыду, не сказаўшы ёй усяго, што хацеў бы, ад яе не пачушы ўсяго, што пачуць хацеў бы.

*14 чэрвеня, серада*

Запіс на «Свабодзе» па «Лістах у Хельсінкі». Хоць голас Васілёў пачуў. Праспяваў яму вушацкую калыханку, жніва і Купалу. А тут надакучыла адказваць на пытанні, чаму падпісаў ліст супроць Процькі. Яна праз свае [...] сувязі развязала цэлую кампанію. Абрыдла мне ўся звада, так бы мовіць, апазыцыянераў.

*15 чэрвеня, чацвер*

З Алесем па горадзе ў пошуках крэсла-седуна для цешчы. Знайшлі. Хоць Дамінічка пакаталася на машыне. Па распавядах Пётры напісаў: «Пётра»[1].

*16 чэрвеня, пятніца*

У сядзібе БНФ сустрэча з аргкамітэтам кангрэса дэмсілаў. Аддаў Алесю Старыкевічу ўлётку да Усебеларускага з’езда. У канец прычапіў: «Ён твой, Усебеларускі з’езд, А таму І ты, як свайму, Паспрыяй яму!»

*17 чэрвеня, субота*

Сустрэўся з Пётрам. Даў мне ў Вушачу ахоўны крыж: «У ім я буду». Я яму падарыў «Молат ведзьмаў».

Вядзьмуй, шляхетнейшы вядзьмар!
Ты дужы ў ласцы і ў прымусе.
Радзьмухвай вогнішча да хмар —
Гарэцьмуць злыдні Беларусі!

*18 чэрвеня, нядзеля*

Святая Тройца. На святую Тройцу нарадзілася й мама мая, і Васіль. Дабіў дадатак чаргаві Ганадавых.

*19 чэрвеня, нядзеля*

З раніцы званок ад Васіля. Гэта я мусіў званіць яму, але Васіль ведае маё становішча. Па ўшацкай показцы: купіў бы сяло, ды грошы гало. Голас бадзёры. Настрой, здаецца, нармальны. Збіраўся йсці ў ПЭН, каб па-

---

[1] Гл.: Пётра (14–15.06.00) // Босая зорка. С. 145.

гаварыць. Васіль сказаў, што яго заўтра можна пачуць. Ішоў ля рынку — вядро васількоў. «Ліст трынаццаты»[1].

*20 чэрвеня, панядзелак*

У ПЭН. Званілі Васілю. Па факсе паслалі яму гэтае маё пасланне, апошні 13-ты ліст па тым адрасе. Неўзабаве будзе новы. Сказаў, што пазвоніць мне ў Вушачу.

*21 чэрвеня, аўторак*

У ПЭН. Рыхтую ксёнжачку пра Караткевіча. «У крыллях ночы марны ўзмах»[2].

*22 чэрвеня, серада*

Да Пётры. Сустракаліся ў Рыгора. Ілоны дасюль няма. Паўгадзіны Пётра прыводзіў мяне ў норму. Яму ў Літве адна пацыентка сказала: «Ponas Пётра, Мюлер у параўнанні з Вамі — дзіцятка».

*23 чэрвеня, чацвер*

Карэктура «Босай зоркі» ў кнігалюбаў. [«Ахвярынка»[3].]

*24 чэрвеня, пятніца*

Пад кіраўніцтва Пётры змагаўся з галаўным болем. Перарабіў крыху стары верш: «Аскепак»[4].

*25 чэрвеня, субота*

Сёння Броўку 95. Ціха. Для нэа ён чужы. Шмат ветру гнаў на вятрак камуністаў. Але трэба шчыра сказаць, што быў беларусам. Глыбінным беларусам. І ўсё, што льга было ў тых умовах, рабіў для беларускасці, а не […] для сябе. Сябе, вядома, не забываў. Адной «Энцыклапедыяй» паставіў сабе помнік.

*26 чэрвеня, нядзеля*

Аднёс карэктуру «Босай зоркі» кнігарам. Ад’язджаюць Ілона й Косця. Шкада да болю й Кацю, і кацянятак ейных. Прывык ужо да іх. Нейкім маленствам дыхнула. Па Ілоне душа шчыміць.

---

[1] Гл.: Ліст трынаццаты: Васількі расцвілі (19.06.00) // Калі рукаюцца душы… С. 122.

[2] Гл.: І помніць… (21.06.00) // Ксты. С. 292.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Сподзеву няма ўжо на спатолю… (23.06.00) // Босая зорка. С. 166.

[4] Гл.: Аскепак (24.06.00) // Ксты. С. 191. Першпачатковы варыянт гл.: Часцінка (16.06.92) // Дзённікі і запісы. Вып. 6. 1992–1993. С. 67.

*27 чэрвеня, панядзелак*

Да Генадзя Грака[1]. Ён афармляе «Босую зорку» і «Сама пайду дарогаю, голас пашлю дуброваю». Цікава задумаў. Дай Бог, каб усё зрабіў так. У Музэі Броўкі вечарына. Гады сабраліся — […] Лукша, камуніст[…] Савіцкі [Алесь], сынок Тараса Хадкевіча. Душу адвёў, слухаючы спевы «Менскага гармоніка»[2]. Юрка[3] — выліты бацька. І такі зацяты беларус, замкнуты. Прапанаваў юрыдычныя паслугі для справы агульнай.

*28 чэрвеня, аўторак*

Мірон тужыць па сваіх дзетках. Вось табе й халодны кашыны бацька. У кожнай божай тварыны душа ёсць. Ад'езд можа адкласціся. Блага Валінай маці. «Ліст чатырнаццаты»[4].

*29 чэрвеня, серада*

Да Пятра Ісаевіча [Ліфшыца]. Яшчэ будзе ў мяне эпапэя з зубамі. Вушацкае: *есь як не сваімі зубамі* становіцца рэальнасцю. У сялібе сустрэча сустаршыняў з'езда з лідэрамі партыяў. Прыйшлі да ўзаемаразумення, здаецца. А наогул, слушная нейчая фраза, што мейсцы ў апазыцыі ўсе прыватызаваныя. Грантаманія.

*30 чэрвеня, чацвер*

Званіў Васілю. Пытаецца: «Як здароўе?» Кажу: «Вядзьмар Пётра трымае». Васіль: «Калі ён цябе вылечыць, будзе лепшым чалавекам на Беларусі, лепшым за ўсіх лідараў усіх партыяў». Потым да Пётры ў майстэрні Рыгора. Пётра робіць цуды. Ён помніць, якая бабка бабіла яго. Гадавала ў асноўным бабуля. Яна навучыла яго ўсяму вядзьмарству. Калі памерла, дык Пётра ўцякаў, пакрыўджаны бацькамі, на магільнік. Па двое сутак там быў ля магілкі бабулі. І ў халодныя ночы спаў ля магілкі й не застуджаўся. А як хацелася есці — на магілках было й сала, і цукеркі. Рыгор пачытаў выдатнейшы верш на 9 дзён па сястры. Заканчваецца белай галубкай. І пасля таго, як напісаў верш, на балкон стала прылятаць белая галубка. А ў вершы Рыгор кажа, што белая галубка, як душа сястры. Містыка. Рыгор — паэт з вялікай патэнцыяй. І бездакорнасць радка, адчуванне слова.

---

[1] Грак Генадзь Сцяпанавіч (н. 1938), беларускі мастак-графік, кніжны ілюстратар. Выкладчык БДАМ.

[2] «Мінскі гармонік» — ансамбль гарманістаў.

[3] Броўка Юрый Пятровіч (1936–2019), беларускі вучоны-юрыст, выкладчык; грамадскі дзеяч. Доктар юрыдычных навук (1991). Прафесар (1993). У 1982–2005 гг. дырэктар Літаратурнага музея П. Броўкі. Сын П. Броўкі.

[4] Гл.: Ліст чатырнаццаты: На волю Бог адпусціць да пары (28.06.00) // Калі рукаюцца душы... С. 123.

*1 ліпеня, субота*

Учора Пётра распавядаў сон свой вядзьмарскі. Паспрабаваў я загнаць яго ў слова: «Пётраў сон»[1].

*2 ліпеня, нядзеля*

Рыхтую блакноты й запісы словаў у Вушачу. Можа, там, дасць Бог, скончу вушацкі слоўнік. Алесю блага. Трэба да Пётры.

*Згадалася...*

Чарніцы ліпень
на імхах павыціскаў,
Узняў на вілах мурагу сумёт.
Я помню,
як стары пчаляр пад Віцебскам
Штыхом нямецкім рэзаў свежы мёд.
Як кот аб вушак, вявёрка істрыць
Кіпцюркі аб галінку сасны,
І краю Крывіцкаму ў сонечнай рызе
Паклоны шчыра б'юць перуны.

*3 ліпеня, панядзелак*

Да Рыгора ў майстэрню з Алесем. На праспекце спынены рух машынаў. Саўкі святкуюць ліпавую незалежнасць у калхозным варыянце. Пётра выцягнуў Алеся. Цікава, вядзьмар датуль не памрэ, пакуль хто не прыме руку — возьме ягоныя веды. Будзе ляжаць ні жывы ні мёртвы. [«Ахвярынка»[2].]

*Маладзён*

Закрэсліўшы колер шэры,
Вербы амаладзілі грэблю.
Гром-маладзён
на новай кватэры
Перасоўвае мэблю.

*4 ліпеня, аўторак*

У «Мастацкую». Добра пагутарылі з Брылішкай. Як дома пабыў. Добрая ў нас была рэдакцыя.

---

[1] Гл.: Пётраў сон (1.07.00) // Босая зорка. С. 147.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Часам у недасяжным горы... (3.07.00) // Ксты. С. 437.

*5 ліпеня, серада*

Сёння Дамінічцы 11. Магічная лічба. З раніцы ў 10-ю лякарню, нешта з вочкамі ў яе не ўсё ў парадку. Пётра кажа, што не хоча глядзець на ўсю брыдоту. Чуллівая душа. Надзеў ёй на пальчык пярсцёначак. Ужо дзеўчыцца пачынае паціхеньку. [«Ахвярынка»[1].]

*6 ліпеня, чацвер*

У «Мастацкую». Колькі словаў да Ганадавых чаргаві. «Бадай што…: Ад глебы карэнне…» [у дзённіку].

*7 ліпеня, пятніца*

Рыхтаваў для перакладу ўспаміны пра Пімена, слова пра Азербайджан. Некаторыя ўспаміны пра Блатуна[2], пра Нядзведскага[3] трэба дапісаць. Раней было нельга пра пэўныя рэчы, а цяпер ужо зноў, відаць, няможна. Але дапішу.

*8 ліпеня, субота*

Трохі парадкаваў барахло. Трэба ж у Вушачу трохі сабрацца. «Пусці…»[4]

*9 ліпеня, нядзеля*

Набіраю з сабой працы. А ці хопіць сілы й часу? Хоць бы ўжо ўтаўчы слоўнік Вушаччыны.

*10 ліпеня,панядзелак*

Да Пётры з Дамінічкай. Пётра абяцаў мне растлумачыць руны. Дужа яны цікавяць мяне даўно. З Дамінічкай у 10-ю лякарню. З вочкамі ў яе слаба.

*11 ліпеня, аўторак*

Званіў Васіль. Даў мне тэлефон 3065495421. Патлумачыў яму валтузню з Процькай. Ён даўно ўсё разумее, адкуль ногі растуць.

*13 ліпеня, чацвер*

*Вушача!* Уночы дождж стукаў у шыферны дах гулкімі пяткамі. Душа цяплее. Роднае котлішча грэе й супакойвае. Дух мамы, душа маміна недзе блізка.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Пакуль не наб’е сабе добры гуз… (5.07.00) // Босая зорка. С. 167.

[2] Блатун Сымон Ціханавіч (1937–1970), беларускі паэт.

[3] Нядзведскі Уладзіслаў Іосіфавіч (1929–1973), беларускі паэт.

[4] Гл.: Пусці… (8.07.00) // Ксты. С. 192.

* Ад’езд. Мы з Дамінічкай і Міронам з Алесем. Валя з маці другой машынай. Машыны маленькія. Па дарозе Мірон ад хвалявання аж ушкодзіўся, ці, прасцей, усраінькаўся. Сустрэла халодная хата. Усё зарасло. Святла не было, давялося выклікаць. Вада таксама сапсавалася. Хата помсціць, што мала ў ёй жывем. Дамавік наш яўна гневаецца на нас. Пайшлі на базар. Купілі Дамінічцы спартыўны касцюмчык adidas’аўскі, амаль як наш сцяг. Два колеры — чырвоны й белы. Сустрэлі Міколу Кірпіча. Распаведаў, як у музэй прыйшла нейкая афрыканская дэлегацыя. Казаў ім пра землякоў. І толькі на імені Васіля ажывіліся. Ведаюць. Мікола добра сказаў: «Даляр і ў Афрыцы даляр, а Быкаў ва ўсім свеце Быкаў».

*14 ліпеня, пятніца*

Імя для абразкоў «учэпінкі». «Ліст першы з Вушачы»[1].

* Падымаюся як на смерць. Боль. Адчай. Потым разыдуся, і як быццам нічога. Патроху ўцягваюся ў працу. Перапісаў, ці, дакладней, дапісаў успамін пра Міхаіла Ягорава. Некалькі абразкоў напісалася. Можна назваць іх *учэпінк*і. Зноў к начы залівеʹнь, як новы патоп. Толькі Ноя й каўчэга не стае.

*15 ліпеня, субота*

Сумная радасць пад страхой мамінай хаты (хай сабе й пераробленай, але ўсё ж мамінай). «Перасяляюцца…»[2]

* Выпісваю словы з блакнотаў. Што ацалелі тут. Якое золата! Здаецца, як хлеб у дзежцы. Ці пра чалавека, які слова не трымае, мама казала: неаднаслоўны. А скрузонне — наўколле, ваколіва.

*16 ліпеня, нядзеля*

Ніяк не супакоіваецца сэрца. Увесь час адчуваю яго. Запісваю розныя «ўчэпінкі», «здубавеццяя».

*17 ліпеня, панядзелак*

Ураган як не здзьмуў вёску Баравую, што каля Сарочына. Усе хаты без дахаў. Як шапкі знялі перад гневам нябесным. Усе сады знесла. Гола. Градзіны падалі з качынае яйка. На нас то Чарнобыль, […], то град, то ўраган.

*18 ліпеня, аўторак*

Званіў Аляксандр Старыкевіч. Трэба на з’езд верш і лёзунгі.

---

[1] Гл.: Ліст другі: Чужэюць родныя мясьціны з году ў год (14.07.00, Ушачы) // Калі рукаюцца душы… С. 9.
[2] Гл.: Перасяляюцца… (15.07.00, Ушачы) // Ксты. С. 265.

*Усебеларускаму з’езду*

Беларусь, як брыльянт
у пярсцёнку Еўропы

Мы болей не хлопы і не халопы.
Нам Богам дадзенае права
Радзімы нашай дзецьмі звацца.
І наша даўняя Дзяржава
Дзяржавай мусіць называцца.

Ні перад кім ніколі продкі
Не гнулі гордыя галовы.
У паднявольных век кароткі.
У пастцы толькі сыр дармовы.

Як сэрца біцца перастане
Матулі нашай, нас не стане.
І толькі застануцца здані
У напамін аб цёмным змане.

Не варта цешыцца дарамі,
Што абяцаюцца ў прымусе.
Дык будзем жа гаспадарамі
У цёплай хаце Беларусі!

*Лёзунгі*

З нашай Дзяржавай гавораць стагоддзі.
Не дазваляй сабе знікнуць, Народзе!

*

Ты ўсіх прымала і бараніла.
Мы абаронім цябе, Беларусь!

«Ахвярынка»[1]. Неяк уразілі словы ўнука Валянціна Тараса. Пасля прачытання «Лістоў у Хельсінкі» ён сказаў: «Дзядзька Рыгор памірыў мяне са старой беларускай паэзіяй». Для яго аднагодкаў я ўжо, як для мяне Францішак Багушэвіч[2]. Жыццё йдзе.

Васіль з Берліна [пазваніў]. Між іншых пытанняў, калі сказаў, што я раблю вушацкі словазбор: «Толькі за працу й трэба трымацца...» Калі распавёў, як у разбураным вушацкім касцёле была імша ў гонар святога

[1] Гл.: Ахвярынкі: Асцярожна, нібы ўпершыню... (18.07.00, Ушача) // Ксты. С. 452.

[2] Багушэвіч Францішак Бенядыкт (псеўд. Мацей Бурачок; 1840–1900), беларускі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык.

Лаўрэна, што ўсе 8 ксяндзоў добра гавораць па-беларуску, Васіль сумна: «Доўга не ўбудуць, іх вышлюць».

* З хворай галавой пісаў. І ў Вушачы няма спакою ад грамадскай дзейнасці, гары яна агнём! Званіў Карлас. Васіль у Менску. Маецца быць у Бычках і ў мяне. Чакаю.

*19 ліпеня, серада*

Пазванілі з выдавецтва «Лазурак»[1]. Там некалі даваў прадмовай «Акафіст Уладзімеру». Кніга ўсё-ткі выходзіць. На фабрыцы каляровага друку сказалі зняць адзін радок. [Пропуск.] Цэнзура ў самай сіле. Будзе горшай, чымся пры камуністах. Васіля няма. Чакаю. Раблю слоўнік. Ідзе туга.

*20 ліпеня, чацвер*

Прывыкаю да хаты. Слоўнік рухаецца. Не так хутка, як думалася.

*22 ліпеня, субота*

Васіль! Першай машыну ўгледзела Дамінічка. Я недаголены пабег. Васіль выходзіць з машыны прытомлены, у каўбойцы, з апошняй сваёй прычоскай — валасы назад. Усміхаецца Дамініцы: «Вось і твой анёлак!» За рулём, дзякуй Богу, не сам — сын Сяргей, дужа падобны на бацьку. Крыху пасядзеў у нас за сталом. Ад якой бы там ні было пачосткі адмовіўся. Кажу, у мяне ў Менску ляжыць кашуля, да дня народзінаў прымеркаваная. Васіль абыякава адказвае, што нічога яму не трэба. Зцягалі яго дарогі й цкаванне, знэрвавалі. Між іншым, кажа й пра беларускі хвасцізм, бо мы заўсёды ў хвасце падзеяў. Эўропу самі эўрапейцы падзялілі па нацыянальным прызнаку, а калі беларусы захацелі — ім нельга. Пра Карласа. Яго ў беларускім нацыяналізме не абвінаваціш ні з выгляду, ні прозвішчам. Яму лягчэй з грантамі. Наконт архіваў. Два чамаданы лістоў спаліў, адзін яшчэ на лецішчы. Нам ужо нічога не свеціць. Нагараваліся пры тым рэжыме, геруем пры гэтым зноў. Не Беларусь далучаецца да Расеі, а Расея да Беларусі, і Пуцін як вучань Лукашэнкі. Быў у Закутку, на радзіме маці. Нічога не змянілася. Гібеюць, а [Лукашэнку] хваляць, дзякуюць, што ў час пэнсійныя слёзы дае.

*23 ліпеня, нядзеля*

Перакладаю песні Польскай салідарнасці. Знайшоў накід верша. Паспрабаваў дапісаць:

---

[1] ТАА «Лазурак» (1993–2015).

*Куды палятуць?*

На падваконні
У даччыным пакоі
Ляжыць нагруднічак
На вачох у ціхага лета.
Ці гэта
Дзве шкарлупкі яечак,
З якіх вылупіліся
Цнатлівыя ластавачкі,
Як недаснёныя сны.
І куды палятуць яны —
У спякоту пяшчоты
Ці ў халады бяды?

*1980, 12 красавіка — 23 ліпеня 2000*

* Клопату шмат напісаў. Дамінічкін верш і апавяданне. Расці вялікая, шчаслівая беларуска; ну, што беларускай [расце], тут сумнення няма.

*Анатолю Канапельку*
*(на «Лістах у Хельсінкі»)*

А полацкую родную зямельку,
Заступніцу крывіцкага святла,
Тулю да сэрца, бо яна дала
Скарыну й Анатоля Канапельку.

*27 ліпеня, чацвер*

Прыйшоў вушацкі хлопец, ён ачаляе філію БНФ у Вушачы. Казьмін. Аж душа памаладзела, што і з нас свой абраз. «Ліст другі»[1].

*29 ліпеня, субота*

[Мінск.] Трэйці Усебеларускі з’езд. Прайшоў нармальна. Гэта болей для гісторыі. Каб ведалі, што мы, як трусікі, у пашчу расійскаму ўдаву не лезлі.

*** З’ездам быў прыняты «Акт незалежнасці Беларус»: «Мы, дэлегаты Усебеларускага з’езда, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь, усведамляючы адказнасць за будучыню Беларусі, напамінаючы, што Беларусь з’яўляецца дзяржавай-заснавальніцай ААН, грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права, заяўляем: Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй

[1] Гл.: Ліст трэйці: Каб вярнуцца назад, ад’язджаем… (27.07.00, Ушачы) // Калі рукаюцца душы… С. 10.

дзяржаўнасці (ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь). Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна… Мы, дэлегаты Усебеларускага з’езда, сведчым Богам дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву, абвяшчаем дзяржаўны суверэнітэт неад’емнай каштоўнасцю беларускага народа, прызнаём не маючымі законнай сілы любыя пагадненнні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі, заклікаем міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных дзяржаў, сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Заклікаем суайчыннікаў згуртавацца вакол Акта незалежнасці»[1].

*2 жніўня, серада*

[Ушачы.] Зноў я дома. Па дарозе спадар, які вёз нас з Алесем, распавядаў, як […] Арлоўскі[2] крычаў на агульным калгасным зборышчы: «Гэтай рукой, якой у мяне няма (Бог нездарма адняў), я расстраляў болей у некалькі разоў, чым вас тут сабралася». Сапраўдны гэбіст, камуна[…], колам яму зямля!

«Ліст трэйці»[3].

*10 жніўня, чацвер*

«Ліст чацьверты»[4].

Хадзілі з Дамінічкай на магілу бабы Куліны. Як яна прыбірала магілку, як завіхалася. Шчырая анёльская душа. Перад гэтым зрабілі надмагіллі Пятру, Марыі Рыгораўне, бабулі маёй Маланні Несцераўне Гайко-Галвіньш (1887–1947). Вушацкія мужчыны добра прапанавалі ў чашу надмагілля пакласці колькі слаёў баравога моху — вечназялёна.

---

[1] Цытата з зацемкі В. Доўнара. Гл: Літаратура і мастацтва. 4 жніўня 2000. С. 2.

[2] Арлоўскі Кірыл Пракопавіч (1895–1968), савецкі гаспадарчы дзеяч. Герой СССР (1943). Герой Сацыялістычнай Працы (1958). У 1942–1943 гг. камандзір спецатрада НКДБ СССР «Сокалы», з 1944 г. старшыня калгаса «Рассвет».

[3] Гл.: Ліст чацьверты: Памкненьне да творчасьці… (31.07. — 2.08.00, Ушачы) // Калі рукаюцца душы… С. 11.

[4] Гл.: Ліст пяты: Ані зьдзярэш, як з дрэва кару… (10.08.00, Ушачы) // Тамсама. С. 12.

*25 жніўня, пятніца*

«Ліст пяты»[1]. Узгадалася даўняе: «У празаікаў проста карыда...»[2], «Памяці Петруся Броўкі»[3]. Гэта экспромт тых гадоў сумных.

*29 жніўня, аўторак*

Ад'езд традыцыйны. [...]. На ксанаксе трымаўся. Прыехаў Алесь на «казле», яшчэ Кахін даў машыну. Знайшлася жывая беларуская душа ў Вушачы — журналістка Вольга Караленка[4]. І шчырая верніца Валянціна Відзевіч[5] — каталічка, руплівіца нашага святога касцёла. Беларуска чыстая, як расінка. Не зусім Вушача патанула, як Атлантыда.

*1 верасня, пятніца*

Дамінічка ў пяты клас. Званіў Васіль, віншаваў. «Ліст пятнаццаты з Менску»[6].

*Раднейшыя*

Люблю настольнікі каляныя
З застолля прыцемкаў лірычных.
І мне паэты даматканыя
Раднейшыя за сінтэтычных.

*5 верасня, аўторак*

Снілася, што я ў хаце Караткевіча, толькі зусім не такой, як на самой справе. Раніцай узгадалася, як хадзілі да Макаёнка[7], Валодзя аддаў доўг.

*Запомніцца...*

І паваліцца славы казённы тын,
І развеецца пыл грашавітай раскошы.

---

[1] Гл.: Ліст шосты: Днее зьмярканьне, цямнее сьвітаньне... (25.08.00, Ушачы) // Калі рукаюцца душы... С. 13.

[2] Гл.: «У празаікаў проста карыда...» (18.06.74) // Дзённікі і запісы. Вып. 2. 1970–1978. Мінск: «Кнігазбор», 2015. С. 82.

[3] Гл.: На смерць Петруся Броўкі (24.03.80) // Дзённікі і запісы. Вып. 3. 1979–1982. С. 132.

[4] Караленка Вольга Васільеўна (н. 1966), беларуская журналістка. Супрацоўніца Ушацкай раённай газ. «Патрыёт».

[5] Відзевіч Валянціна Пятроўна (н. 1952), беларуская настаўніца.

[6] Гл.: Ліст пятнаццаты: Толькі й можна ў працу ўцячы... (1.09.00) // Калі рукаюцца душы... С. 124.

[7] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1974).

Макаёнак запомніцца толькі тым,
Што ў яго пазычаў Караткевіч грошы…

«Ахвярынка»[1].

*7 верасня, чацвер*

«Ліст шаснаццаты»[2].

*10 верасня, нядзеля*

«Ахвярынка»[3]. […]. Галава баліць. Толькі на ксанаксе й трымаюся. «Не перажыць…»[4]

*11 верасня, панядзелак*

З ПЭНа званіў Васілю. Сказаў, каб ён не слаў ніякіх пацверджанняў сваіх стаўленняў да […] Працькі. І наогул, не быць шчырым у размовах, як з [Працькай], так і з [Алексіевіч].

*12 верасня, аўторак*

Званіў Ібрагім Канапацкі[5]. Будзе татарская вечарына. Напісаў для Алеся песню, каб выканаў на вечарыне: «Прывяражы…: Нязбытнага прарочыца…» [у дзённіку].

*14 верасня, чацвер*

Прыехаў з Вільні Пётра. Ратавальнік мой неацэнны. Адразу адчуў сябе лепей. Выступалі з Алесем у школе каля радыё. Адзінаццаты клас. З матыматычным ухілам школа. Сядзяць ціха, але, як у вату. Адно ўсцешыла. У беларускім кабінэце вялікі й выдатны партрэт Васіля работы мастака Моўчана.

*15 верасня, пятніца*

Вар'ёўня. […]. Не вытрываю! «За ўсё…»[6] «Няма…»[7]

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Колькі важыць душа… (5.09.00) // Ксты. С. 437.

[2] Гл.: Ліст шаснаццаты: А той, хто сеяў, жне не заўсягды… (7.09.00) // Калі рукаюцца душы… С. 125.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Ад млявай асалоды стогнучы… (10.09.00) // Ксты. С. 453.

[4] Гл.: Не перажыць… (10.09.00) // Тамсама. С. 209.

[5] Канапацкі Ібрагім Барысавіч (1949–2005), беларускі грамадска-палітычны і культурны дзеяч, гісторык. Кандыдат гістарычных навук. Адзін з лідэраў татарскай дыяспары ў Беларусі. Нам. старшыні Беларускага грамадскага аб'яднання татар «Зікр уль-Кітаб» («Памяць і кніга»).

[6] Гл.: За ўсё… (15.09.00) // Ксты. С. 317.

[7] Гл.: Радоўка (20.12.91) // Евангелле ад Мамы. Мінск, 1995. С. 148. Скарочаны вар. гл.: Няма… // Ксты. С. 311.

*18 верасня, панядзелак*

Званіў Радзік. Згарэў дом, дзе ён жыў. Засталася скрыначка, дзе ляжалі беларускія рублі. Во [Лукашэнка] валюту зрабіў — і ў вагні не гарыць! Наогул, там дамы гараць, як у саламяных вёсках, бо зробленыя Бог ведае з чаго. [«Ахвярынкі»[1].]

*19 верасня, аўторак*

Да татараў. Лыч і яшчэ адзін лапатун з раёну ўсё зацягнулі. Свецкія людзі. Нездарма прафэсар Ан. Грыцкевіч кажа: «Былы адчыняе дзверы лычом». Гаварыў з Кахінам наконт кнігі вершаў ягонага дзядзькі па-талышску й па-беларуску. А наогул, на любых прэзэнтацыях адны й тыя ж дармажэры. «Ліст семнаццаты»[2]. [«Ахвярынка»[3].] «Нікне...»[4], «Смялей-це!: Пакуль палахліўцы напіхваюць воллі...» [21.09.00; у дзённіку]. [«Ахвярынка»[5].] «Ліст васемнаццаты»[6].

*Міхасю Тычыне[7]*
*(на «Лістах у Хельсінкі»)*

Люблю Айчыну
І Міхася Тычыну,
Прымаючы іх дакор, —
дзядзька Рыгор.

*23 верасня*

«Ахвярынка: Пасварыўся з маладзіком вятох...» [25.09.00; у дзённіку].

** * **

Што час са мной зрабіў
І да каго спанадзіў,
Звугладзіў, агрубіў,
Знядужыў і схваробіў?
Ці не было мяне?

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: У першыя гады заўсягды... (18.09.00) // Халодная памяць вады. С. 468; І трасца... (18.09.00) // Ксты. С. 437.

[2] Гл.: Ліст семнаццаты: Апошняе восеньскае цяпло... (16.09.00) // Калі рукаюцца душы... С. 126.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Чалавек штовек... (19.09.00) // Халодная памяць вады. С. 463.

[4] Гл.: Нікне... (20.09.00) // Тамсама. С. 335.

[5] Гл.: Ахвярынкі: Восеньскі ўзмежак сыры... (22.09.00) // Ксты. С. 437.

[6] Гл.: Ліст васемнаццаты: Дзякуй Табе, Гасподзь... (22.09.00) // Калі рукаюцца душы... С. 127.

[7] Тычына Міхась (Міхаіл Аляксандравіч; н. 1943), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік, перакладчык. Доктар філалагічных навук (2001). З 1970 г. супрацоўнік, ст. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

А той, што ёсць як быццам,
Мне толькі ў хмельным сне
Калісьці мог прысніцца.
Пакуль мой сон скрабе
Галінка маладая,
Жыву і сам сябе
Былога ўспамінаю.

*29 верасня*

* * *

Адыходзячы з гэтага жыцця ва ўспамін,
Хочацца сказаць, не жадаючы зла нікому,
Як казалі бацькі, адыходзячы з пагасцін:
— Дзякуй гэтаму дома, паедзем к другому.

*30 верасня*

*9 кастрычніка, панядзелак*

Адхварэў, адвалаводзіўся з вушацкім словазборам. Ездзіў з Алесем па Крупшчыне. *Крупкі, Халопеніцы, Бобр, Ухвала*. Людзі жывуць ціха ў ціхай восені. Адзін дзядзька казаў: «Ва ўлады нічога няма, а ў мяне тры каровы, сем свіней. Пакуль з’ем, на пяць гадоў надыдзе. А там, можа, што зменіцца.» Усё беларускае тлее пад прысакам [...]. Была магчымасць пабыць з тыдзень у Берліне. З-за хваробы не змог. І запісы рабіць не хочацца. Жыццё нейкае несалёнае, надта ж прэснае й даўкае. Жыву для Дамінічкі. Ад Ілоны каб гук, каб слова. Замуравалі. Званіў Васілю. Настрой у яго нардычны. Відаць, здароўе слабое. Беражы яго Бог!

*10 кастрычніка, аўторак*

Зноў паездзіны з Алесем. «Паслуга»[1]. Былі ў *Бярэзіне, Багушэвічах, Новіне.* У Багушэвічах каля клюбу надмагілле праваслаўнаму святару, які загінуў ад рук «польских мятежников» у 1863 г. І гэты праваслаўны ў піку католікам граніт пры камуністых ляжаў недзе ў кустах. Зараз паднялі. У духу праваслаўнага атэізму.

*11 кастрычніка, серада*

*Любушаны.* Цікавейшая й прыгажэйшае паселішча. Звязваюць з графам Патоцкім, які заснаваў і наказаў любіць і шанаваць. І любяць, і шануюць наскае ўсё. Высокая гара. Некалі ў 70-я гады дасылаў сюды верш-віншаванне. Нагадала старая настаўніца. Помніць мяне як самага

[1] Гл.: Паслуга (10.10.00) // Халодная памяць вады. С. 306.

маладога на фоне старых пісьменнікаў на сустрэчы ў педінстытуце. Цікава, што па акрузе, дзе мы з Алесем ездзім, балатуецца намеснік генпракурора рэспублікі. Усіх давяць і ціснуць галасаваць за нейкага Зайца. Мясцовыя аўтарытэты вырашылі галасаваць за намгенпракурора. Хай [...] будзе, так цішэй. Бо калі не выберуць, застанецца на пасадзе. А перад выбарамі, ездзючы па раёнах, яму ўсё відаць, шмат хто засвяціўся. Беларуская логіка.

*12 кастрычнік, чацвер*

Хоць дзень дома. Халадае. І на дварэ, і на душы.

«Ніколі...»[1]

*14 кастрычніка, субота*

Да Алеся. Вадзім[2]. Цікава з разумнымі маладымі людзьмі. Маладыя гады ўспомніў, забыўся на нэндзу й сучасную пыху скорабагатых. А так стараесся, каб нечым быў заняты, абы не думаць, што цябе чакае.

«Ліст дваццаты»[3].

*16 кастрычніка, панядзелак*

У *Мётчу.* Лайкоў наладзіў нам з Алесем сустрэчу. Дужа цёпла, дужа па-беларуску. Як у маленства вярнуўся. Некалі ж і ў вушацкай школе гучала наша мова. Мётчанскія школьнікі пісалі сачыненне па «Кургану» купалаўскаму. Правялі паралель між Гусляром і Васілём Быкавым. Янка Лайкоў дужа таленавіты, дужа ўражлівы, дужа датклівы. Толькі б не заплыў у чарку. Не дай Бог. Па сабе ведаю адчуванне бацькі.

*19 кастрычніка, чацвер*

У «Беларускі кнігазбор». 50 Наташы [Давыдзенка]. Быў Адам, Каўка[4]. Трохі пасядзелі. «Ліст дваццаць першы»[5]. Закончыліся нашы з Алесем паездзіны.

---

[1] Гл.: Ніколі... (12.10.00) // Ксты. С. 324.

[2] Грудзько Вадзім Іванавіч (н. 1962), беларускі фотамастак. Гл.: Цуглі (27.11.02) // Тамсама. С. 358. Вадзім Грудзько // Дуліна ад Барадуліна. С. 102.

[3] Гл.: Ліст дваццаты: Мы — толькі цені ісьціны... (14.10.00) // Калі рукаюцца душы... С. 129.

[4] Каўка Аляксей Канстанцінавіч (н. 1937), рускі і беларускі гісторык, архівіст, літаратуразнавец, перакладчык, грамадскі дзеяч. Доктар філалагічных навук (1991). Жыве ў Маскве. Ураджэнец Беларусі.

[5] Ліст дваццаць першы: Затушыць дзікая трава... (19.10.00) // Калі рукаюцца душы... С. 130.

*Генадзю Вінярскаму*[1]
*(на «Здубавецьці»)*

Шчырэе ён на новыя стагоддзі,
Няхай жыве спадар Генадзь Вінярскі,
Бо ў ім жывуць у добрай згодзе
Душа лірычная, клёк гаспадарскі.

*Не вып'еце...*

І колькі б ні пілі
Да дна
Не вып'еце нябесны трунак.
Вы недасяжныя і ў трунах
Нудзе.
Ну, дзе яна, мана,
Якой наіўны свет паверыў?

Перахмялелы позірк ваш
Цвярозасць цвеліць:
Сум свой важ...
Кон не шкадуе вам намераў.

Паэты — Бахуса ўлюбёнцы.
Вам шчырай ласкі не стае.
З нагі вы ўсталі не з тае.
І сталі плямамі на сонцы...

*А потым...*

А на таго, хто не слабак,
Хто з непрадажлівай пароды,
Спачатку вешаюць сабак,
А потым званні, ўзнагароды.

*24 кастрычніка*

*Аліне Астравух*
*Экспромт*

На сініх астрравах,
Дзе днююць астравы,
Аліна Астравух
Свае гаде сны.

---

[1] Вінярскі Генадзь Дзянісавіч (н. 1967), беларускі выдавец. З 1995 г. выканаўчы дырэктар МГА «Беларускі кнігазбор».

І пасвіць сонны страх
Бяссонніцу трывог
На ціхіх хутарах,
На сініх астравох.

*26 кастрычніка*

*****

Ён маўчаў над перастылым прахам
Каля брамы,
за якой маўчаў нябыт,
І, здалося, звыкся з ціхім страхам,
Што ўставаць пачаў
з-пад абымшэлых пліт.

Быццам тыя, што імглою сталі,
Цені дрэў журліва гутарку вялі,
Бліскавіца крэсліла скрыжалі,
Сум рунеў на аблачыністай раллі.

Кайнасць запыталася ў прычыны:
Ад чыёй віны ў дакора цьмеў пагляд?
І тады адна сляза ў мужчыны
Пакацілася й вярнулася назад.

*3 лістапада*

*12 лістапада, нядзеля*

*[Віцебск.]* У катэдры святой Барбары ў Віцебску служба ў памяць святога Езафата, дужа па душы мне айцец Ігар з Берасця. Напалову немец. Нагадаў мне 41-шы год. І дужа цёпла на душы стала, як ні дзіўна. Мінуў час. У розныя дні пісаліся вершы. «Каб прыняў...»[1], «Не ад...»[2], «На зломе»[3], «Лісты»[4], «Бацька й сыны»[5], «Як быццам...»[6]

*16 лістапада, чацвер*

Прыехаў Васіль! Ненадоўга. У ПЭНе пасядзелі крыху. Знадакучыла яму блуканне па Эўропе. Відаць, стаміўся. Змяніў учасанне, валасы на-

[1] Гл.: Каб прыняў... (21.10.00) // Ксты. С. 332.
[2] Гл.: Не ад... (25.10.00) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 62.
[3] Гл.: На зломе (27.10.00) // Ксты. С. 288.
[4] Гл.: Лісты (28.10.00) // Руны Перуновы. С. 197. Гл. таксама: «Паштовая скрынка...» (24.02.81, Дубулты) // Амплітуда смеласці. С. 29.
[5] Гл.: Бацька й сыны (30.10.00) // Ксты. С. 352.
[6] Гл.: Як быццам... (10.11.00) // Халодная памяць вады. С. 366.

зад зачасаныя. Крыху нязвычна. Заўтра пайду да яго. Пазвоніць. «Кастусю Акулу на 75-годддзе: «Каб беларуская акула…» [у дзённіку]. «На балючым праху…»[1]

*Слухай…*

Слухай, дуброва, што лес шуміць,
Слухай лістамі і каранямі.
Лес ад вятроў цябе абараняе.
Гэта над лесам пярун грыміць.

Гэта над лесам шчырэе град,
А над табою залева сціхае.
Ў засень хаваецца сцежка сухая.
Цёплы туман цябе ўхутаць рад.

Звыкся лес шумець і шумець,
Перабіраючы кожнае слова
ў памяці сноў,
Што твой голас, дуброва, снілі.
Толькі б не анямець…

*17 лістапада, пятніца*

*На выставе Рабкіна[2]*

Няхай жыве ў вяках Абрам,
Што ўзвёў руплівым пэндзлем храм
Крывіцкае зямлі святое.
Шалом, чалом яму за тое,
Што з намі паяднаў свой лёс.
*P. S.*
Хай будзе менш
Дамоў на знос.

*21 лістапада, аўторак*

Васіль: «Усе турзаюць. Калі нават скажаш: я памёр, адкажуць: мы цябе на час ажывім, на гутарку».

*22 лістапада, серада*

«Ліст дваццаць другі»[3].

[1] Гл.: На балючым праху… (16.11.00) // Руны Перуновы. С. 408.
[2] Рабкін Абрам Ісакавіч (1925–2013, СПб, РФ), беларускі мастак. Ураджэнец Беларусі.
[3] Гл.: Ліст дваццаць другі: Нас ніхто не чакаў на зямлі… (22.11.00) // Калі рукаюцца душы… С. 131.

*27 лістапада, панядзелак*
«Ліст дваццаць трэйці»[1]. «Ахвярынка»[2].

*29 лістапада, серада*
«Ліст дваццаць чацьверты»[3].

*1 снежня, пятніца*
«Ахвярынка»[4].

*6 снежня, серада*
«Георгію Ліхтаровічу: Калі суседзі...» [у дзённіку].

*8 снежня, пятніца*

*Хлапечы клопат*

Хоць і на любой паляне
Светла ўжо ад зяляніны,
Рана йсці на пагулянне,
Бо ў дзяўчат замерзнуць спіны.

*Трымаюць...*

*Алесю Пашкевічу*[5]

І талент, і мудрасць, яны маладыя.
І ў неба закладнік — шалёны паэт.
І ў коміне смутку залётная вые
Завея развагі,
згубіўшы свой след.
Ці свет нелюдзее, ці ён маладзее.
Хто ў змозе на ўсё адказаць і калі?
Ці пан недавер, ці паненка надзея
Трымаюць паэта на гэтай зямлі?

[1] Гл.: Ліст дваццаць трэйці: Мастак... (27.11.00) // Калі рукаюцца душы... С. 132.
[2] Гл.: Ахвярынкі: Як у нектар... (24.11.00) // Халодная памяць вады. С. 474.
[3] Гл.: Ліст дваццаць чацьверты: Крыж не адпускае зямля (29.11.00) // Калі рукаюцца душы... С. 133.
[4] Гл.: Ахвярынкі: Чалавек не памірае... (1.12.00) // Ксты. С. 438.
[5] Пашкевіч Алесь (Аляксандр Аляксандравіч; н. 1972), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец. Лаўрэат Міжнароднай прэміі імя В. Пікуля (2005). Гл.: Алесь Пашкевіч // Дуліна ад Барадуліна. С. 46.

*9 снежня, субота*

«Ахвярынкі»[1].

*10 снежня, нядзеля*

«Ахвярынка: Калі ў Траянскага каня…» [у дзённіку]. «Халодная лагода»[2].

*14 снежня, чацвер*

«Няма…», «Набеларушваецца…»[3] У «Народнай волі» надрукаваныя меркаванні чытачоў, хто б мог быць прэзідэнтам у калхозе, што завецца Беларусь. Вядома, у першую чаргу Васіль. Хоць варта яго пакінуць у спакоі й не цвяліць […]. Ну, і Ніл, і Генадзь. І чамусьці я. Валя чытала, а Дамінічка па-свойму адрэагавала: «Каб дзедзя стаў прэзідэнтам, я б у школу не хадзіла». Зусім як у савецкім анекдоце пра Луіса Карвалана[4]. «Урок беларускай мовы»[5].

*18 снежня, панядзелак*

«Ахвярынка»[6].

*21 снежня, чацвер*

«Ліст дваццаць пяты»[7]. «Ахвярынкі»[8].

*24 снежня, нядзеля*

«Ахвярынкі»[9]. «Ліст дваццаць шосты»[10].

*25 снежня, панядзелак*

Да Маі [Грыбоўскай] на куццю. Усё па рытуалу. Усё ведае. Мы з Алесем былі. Такая лагода пасялілася ў сэрцы. Потым у Чырвоны касцёл. Службу

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Карацее наша дарога (9.12.00) // Халодная памяць вады. С. 459; гл.: Ахвярынкі: Бог чалавека стварыў… (9.12.00) // Ксты. С. 438.

[2] Гл.: Халодная лагода (30.11. — 10.12.00) // Халодная памяць вады. С. 441.

[3] Гл.: Няма…; Набеларушваецца… (14.12.00) // Руны Перуновы. С. 114; 252.

[4] Карвалан Луіс (Карвалан Лепес Луіс Альберта; 1916–2010), дзеяч чылійскага і міжнароднага рабочага і камуністычнага руху.

[5] Гл.: Урок беларускае мовы (15.12.00) // Руны Перуновы. С. 156.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Смялее думка гарэзная… (18.12.00) // Ксты. С. 438.

[7] Гл.: Ліст дваццаць пяты: Ідуць спакойна халады (21.12.00) // Калі рукаюцца душы… С. 134.

[8] Гл.: Ахвярынкі: Гавеюць вернікі (21.12.00) // Ксты. С. 438; гл.: Ахвярынкі: Вяскоўцы, гараджане, хутаране… (22.12.00); Мой смутае пастарэў… (23.12.00) //Халодная памяць вады. 460; 463.

[9] Гл.: Ахвярынкі Гл.: Ліст дваццаць шосты: Дзень пазыч жаўрукам… (24.12.00) // Калі рукаюцца душы… С. 135.: Ад смерці ратуйся (24.12.00) // Ксты. С. 438.

[10] Гл.: Верніца (25.12.00) // Ксты. С. 356. Верш прысвечаны М. Грыбоўскай.

вёў айцец Казімір. Вернікаў шмат. Якое гэта шчасце, верыць, адчуваць сябе пылінкай, дзьмушынкай на далані ў Творцы! «Верніца»[1], [«Ахвярынкі»[2]]. «Хто адкажа на гэта пытанне…»

*

Разбудзіць краціныя землятрусы
Намагаюцца прафесійныя беларусы.

*28 снежня*

*31 снежня, нядзеля*

Апошні дзень і тлумнага, і добрага, і абыякавага, і заядлага стагоддзя. Год сёлетні быў як бальнічны сон. Адышоў. Адасніўся, як у Ясеніна, *навсегда*. Шмат паездзілі з Алесем. Навыступаліся. Прыязджаў Васіль. Хоць пабачыў яго, пачуў не па тэлефоне.

«Ліст дваццаць сёмы»[3].

*Наталлі Давыдзенка*
*(на «Зорцы спагады»)*

Наталачка!
Сэрца маё спявае,
Хоць галава сівая,
Заходзіцца сэрца ў журбе
Па табе…

*Рыгор*

*1 студзеня 2001, Менск*

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Пра што нарэшце дбаў… (28.12.00); У глухаватай труне… (29.12.00) // Халодная памяць вады. С. 467; 477.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Хто зможа адказаць на пытанне… (30.12.00) // Ксты. С. 438.

[3] Гл.: Ліст дваццаць сёмы: А не хапіла й дваццаці стагоддзяў… (31.12.00) // Калі рукаюцца душы… С. 136.

## 2001

*1 студзеня, панядзелак*

«Ліст дваццаць восьмы»[1]. Пазваніў Кастусь Пшанічны (бацька ягоны сябраваў і сядзеў разам з Улашчыкам) і прачытаў мне такое пажаданне:

«Жадаю здароўя, Настрою у працы I ўсіх ….стаў Убачыць у ср.цы!» Па-народанаму геніяльна.

*2 студзеня, аўторак*

Абжываю год ранейшым клопатам. Усё не магу паставіць кропку ў магчымым 4-м томе. Дый вушацкі слоўнік не дае спакою. Хочацца кожны раз уставіць, дадаць нейкае слова, нейкі выраз. Для «Роднага слова» на 55-годдзе Эдуарда Зарыцкага напісаў верш і маленькае слова:

*Рупная вернасць*

*Эдуарду Зарыцкаму*

Беларускай душы мелодыя
Толькі тым душу давярае,
Хто ў захмар'і мроіва лётае,
Марны гнеў халадзіць вірамі.

Спеў душы беларускай ведае,
Хто сагрэе душою шчырай,
Хто вяснуе дома, хто летуе,
Хто зімуе, забыўшы вырай.

Сон душы беларускай сніццаме,
Хто бяссонны душой відушчай.
Сіні ранак звініць сініцамі,
Сум ягоны ўздыхае пушчай.

Беларускай душы спрадвеччына
З тым падзеліцца ашчаджоным,
У каго ўся душа прасвечана
Рупнай вернасцю, наскім плёнам.

---

[1] Гл.: Ліст дваццаць восьмы: Завея сьветла замятае… (1.01.01) // Калі рукаюцца душы… С. 137.

*3 студзеня, серада*

У ПЭН. Пазванілі Васілю. Настрой у яго ніштаваты. І ў Бэрліне снежна, як і ў нас. У майстэрню да Каміля Камала. Цікавейшы мастак і шырокай душы чалавек. Стварыў свой свет. «Не ўчую…: Званю табе…» (3.12.00), «Урок беларускае мовы» [15.12.00; у дзённіку].

*4 студзеня, чацвер*

З Бартосікам шукалі дзве гадзіны «Каралішчавічы». А пад'ехалі было правільна. Цяпер гэта «На ростанях». Усё з'іначана, дарогі паперакручаныя. Асноўным домікам толькі й засталося былое. Сталоўка хутка рухне. За ёй надбудавана шмат цагляных безгустоўных шматпавярховых барака-хлявоў. «Чужэюць…»[1]

*5 студзеня, пятніца*

Да пана Станіслава. Зрабіў цёплую лахадрайку — любы мароз не страшны. Званілі з Беластока, з радыё. У іх ужо не беларускае вымаўленне, хоць розныя Сакраты Яновічы[2] лічаць, што толькі «белавежаўцы» стварылі беларускую літаратуру, што толькі яны захавалі беларускасць. Нацыянальная местачковасць. Галоўнае, што яны ёсць, што мова жыве.

*6 студзеня, субота*

Колькі словаў казаў на Беласток пра Каляды. Потым злавіў сябе на тым, што няправільна сказаў запрашэнне на куццю:

Мароз-мароз, хадзі куццю есці,
І ты, гром, не гразіся,
Хадзі куццю есці,
І вы, дзядочкі, хадзіце
І з сабой непамянёных вядзіце.

«Ліст дваццаць дзевяты»[3], «Ахвярынка»[4].

Пра грошы. Распавядаў Алесь. Метро. Па вагоне ходзіць азіятчык, даволі дагледжаны й рослы. Жабруе. Хто дае, хто адварочваецца. Маладзіца: «У мяне толькі тысяча адной паперкай». Жаброўшчык: «А я рэшту дам…» А ў мяне такі выпадак. На Нямізе супроць Дома модаў […] сядзіць хлопчык і мучае на гармоніку саўковыя мэлёдыі. Падыходжу, кладу 20 руб., ён нешта кажа, паўтарае: «Сто рублёў, сто рублёў…»

---

[1] Гл.: Чужэюць… (4.01.01) // Халодная памяць вады. С. 29.

[2] Яновіч Сакрат (1936–2013), беларускі і польскі празаік, драматург, публіцыст; палітычны дзеяч Польшчы.

[3] Гл.: Ліст дваццаць дзевяты: — Мароз-лютун… (6.01.01.) // Калі рукаюцца душы… С. 138.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Пра гэта самае… (6.01.01) // Ксты. С. 439.

*7 студзеня, нядзеля*

Дзень сённяшні сустрэў учарашняй поўначчу, перакладаючы малітву да вушацкай іконы, якая некалі жыла ў святым касцёле. «Pieśń». «Спеў»[1]. «Ахвярынка»[2]. [...].

*

У чужой старане
Прыме зямля чужая,
Ды не прыхіне.

*8 студзеня, панядзелак*

З Міхасём Скоблам у Палацы мастацтва. Дамовіліся на перадачу для «Свабоды. «На якім вісець суку...» [у дзённіку].

Чулася такое, вырашыў запісаць. Некалі Караткевіч называў Гілевіча па-расійску Чепухевич. Потым зірнуў у Даля[3], сапраўды: гиль — чепуха. Навуменку Валодзя называў Неуменко. [...]. «Да пісьменніцкіх сянец...» [у дзённіку].

*9 студзеня, аўторак*

Званіў Лайкоў. У іх нейкія мерапрыемствы. Прасіў вітанне. Пісаў:

Для злых душою — вотчына,
Для шчырадушых — рай,
Хай будзе не сурочана
Твая краса, Мядоччына,
Малечых вёснаў грай.
Няхай табе не плачацца,
Пяецца, тчэцца, скачацца.
Па ўдачы час звярай.
Хай неруш Беларушчыны
На тлум не будзе пушчана.
Звіні, Мядоцкі край!

*10 студзеня, серада*

З ПЭНа званіў Васілю. У яго пярэбары. Але настрой неблагі. Наконт выдання ягоных «Казак жыцця»[4]. Бачу, што ў Ганада туга ўсё йдзе. У ягонай фірме пры «Нёмане» наўрад што будзе. Жук[5] добры чалавек, выдат-

---

[1] Гл.: Свяцейшая Панна (7.01.01) // Anima. С. 47.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Чалавек летазлічэнне прыдумаў... (7.01.01) // Ксты. С. 453.

[3] Даль Уладзімір Іванавіч (1801–1872), рускі пісьменнік, лексікограф, этнограф. Член-карэспандэнт (1838) і ганаровы акадэмік Пецярбургскай АН (1863).

[4] «Казкі жыцця», «Байкі жыцця» — планаваная кніга новых твораў В. Быкава.

[5] Жук Алесь Аляксандр Аляксандравіч; н. 1947), беларускі празаік, перакладчык. У 1997–2003 гг. гал. рэдактар час. «Нёман». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978),

ны празаік. Ды ён жа ўзначальваў выбарчую камісію па акрузе, дзе правалілі Зянона ў прэзідэнты. А цяпер сынок[1] у Прэс-цэнтры пры Адміністрацыі [Лукашэнкі]. Дамовіўся я з Лапцёнкам, хоць ён Уладзімір Ільіч, але беларус шчыры й смелы. Васіль не супроць. Між іншым, кажа, што чытаў ў «БДГ», як мы з Караткевічам елку куплялі й яшчэ інтэрв'ю са мной, як пахмяляцца. І па-быкаўску: «Ты ўжо ў раздзеле кулінарыі друкуесся. Расцеш»[2]. «Ахвярынка»[3].

*11 студзеня, чацвер*

Юбілей «Зьнiча». Званілі ад Дзягілевай.Ператвараюць у запісннога віншуна. «Я пажадаць хачу «Знічу»...» [у дзённіку]. «Ахвярынка»[4].

*12 студзеня, пятніца*

Іду з «Полымя». На вуліцы сустракае мяне трымтлівы Павел Вераб'ёў[5], зямляк Міхася Стральцова. Міхась яго першы заўважыў было. Дае мне два вялізарных яблыкі. З Прапойска матчыну яблыньку перавёз. Кажа, такіх яблыкаў няма болей нідзе. Дзіва што, бо з матчынай яблынькі. Арганізаваў газэту «Пчала»[2]. Засталіся яшчэ чыстыя беларускія душы. Адно цешыць.

*13 студзеня, субота*

Скончыў даважачак да згадак пра Уладзімера. Трэба здаваць том, а раптам выйдзе. «Ліст трыццаты»[6]. Накідаў староначку ўступу да «Казак жыцця» Васілябыкаўскіх.

*14 студзеня, нядзеля*

Дужа хацеў пераказаць некалькі цікавых быліц з часоў партызаншчыны Алеся Асіпенкі[7]. Зрабіў. Гэта зусім іншая партызаншчына, чым тая, пра якую й ён сам пісаў. Аднёс усе хвасты на кампутар.

---

Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[1] Жук Дзмітрый Аляксандравіч (н. 1970), беларускі філолаг, журналіст. У 2003–2018 гг. дырэктар РУП «Беларускае тэлеграфнае агенцтва». Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта РБ. Сын А. Жука.

[2] Гл.: Рост (2001) // Збор твораў. Т. 4. С. 340.

[3] Гл.: Ахвярынкі: І ў цямніцы ружа расцвітае... (10.01.01) // Ксты. С. 441.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Кляновая субота... (11.01.01) // Халодная памяць вады. С. 462.

[5] Вераб'ёў Павел Віктаравіч (н. 1958), беларускі паэт. З 1994 г. супрацоўнік газ. «Мінская праўда», з 2001 г. арганізатар газ. «Пчала».

[6] Гл.: Ліст трыццаты: Яны прылятаюць... (13.01.01) // Калі рукаюцца душы... С.139.

[7] Асіпенка Алесь (Аляксандр Харытонавіч; 1919–1994), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1981).

*15 студзеня, панядзелак*

Уночы трылузіліся «ахвярынкі»[1]. «Са стагоддзя ў стагоддзе: Ліцейны цэх, ён гартуе метал…» [Беларускаму гуманітарнаму ліцэю імя Я. Коласа — на падлеткавы юбілей; у дзённіку].

*16 студзеня, аўторак*

У ПЭН. Перадаў Андрэю Дыньку[2] колькі словаў пра беларускае друкаванае слова для «Нашай нівы». Пайшоў у цырульню. Коратка падстрыглі. Лабяціну да патыліцы залысілі (там толькі быў напамін пра былы стог валасоў). І стаў я нарэшце сівым, лысым, старым. Да гэтага практычна ўсё жыццё чалавек імкнецца.

Раньком пазваніў Радзік. Сумуе ён там. Пытаюся, як вучоба. Адказвае, што вучыць стараславянскую мову, і дадае: «Такое яўрэйскае шчасце». Па дарозе ў універсітэт лістоўкі: «Сіянізм — вораг чалавечнасці». Гэта супроць падаткаў, бо падаткі йдуць на сіяністаў, каб сіяністы жыравалі. Трэба было ехаць, каб там адчуць дыханне расійскага юдафобства. [«Ахвярынка»[3].] «І цябе…»[4]

*17 студзеня, серада*

Паступова пачынаюць падводзіць запчасткі. Раптоўна хапіла нагу. Абязножваю. Забраў з кампутара дыскету. Гэта хвасты 4-га магчымага тома. Дыньку пазваніў, ці забраў. Адказаў, што забраў. Савецкасць, саўковасць у маладых, і самых таленавітых і беларускіх, у першую чаргу ў неабавязковасці, у недакладнасці, элементарнай няўважлівасці. А ўсе гэтыя рысы эўрапейскасці, а дакладней, старабеларускасці, вынішчаліся камуністымі.

[«Ахвярынка»[5].]

*

Вожык — атлант, з калючай спіны
Не здымае яблыка шар зямны.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Лёс перапялёс…; Мама! Я выйшаў з цябе, а пасля…; Пан розум свой чэрствы…; З жыцця былога… (15.01.01) // Ксты. С. 438; 439; 453; 454.

[2] Дынько Андрэй (н. 1974), беларускі журналіст, перакладчык, выкладчык Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта (1997–2000), сурэдактар час. «Arche» (з 1998), з 1999 г. сурэдактар, у 2000–2006 гг. гал. рэдактар газ. «Наша ніва». У 2002–2004 гг. віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Каб сталі жонкамі Лаура ці Марыля… (16.01.01) // Халодная памяць вады. С. 476.

[4] Гл.: І цябе… (16.01.01) // Ксты. С. 308.

[5] Гл.: Ахвярынкі: Так яшчэ да патопу сталася… (17.01.01) // Тамсама. С. 439.

*18 студзеня, чацвер*

Развальваюся. Добра, што Пётра прыехаў з азіяцкай канюшні, сталіцы нядаўняй імпэрыі. Ён уратуе!

*19 студзеня, пятніца*

У Палацы МАЗа вечарына з нагоды юбілею ліцэя. З Алесем схадзілі. Выступілі. Алесь хворы. Так мне шкада яго, такая шчырая душа. А як адпачываеш душою, як адчуваеш сябе чалавекам, калі ўсё на мове душы! Іншыя нацыі таму й тым моцныя, дужыя, што яны самастойныя ў паўсядзённі, у гутарцы з Богам.

*20 студзеня, субота*

Усё ніяк не магу спыніцца з вушацкім словазборам. Словы пад руку штурхаюць.

*

Цябе пусціў на свет гукнуць вякі.
Даруй, дачушка, мне, што свет такі…

А жывем у краіне анекдотаў. Пасадзілі ў Амэрыцы чарговага крамлёўскага зладзюгу Барадзіна[1]. Увесь час браў я «Барадзінскі» хлеб. Няма й няма. І раптам бачу той жа хлеб, толькі называецца ўжо «Кулікоўскі». Пазваніў Тарасу, хай Віталік[2] па «Свабодзе» дасць усмешачку [...].

* Збег адзін чалавек, які разумеў мяне ў гэтай хаце, — Мірон.

*21 студзеня, нядзеля*

Да Пётры! Сказаў, што жыць буду. Малы некалі не разумеў вушацкага выразу: жыць будзеш, толькі не захочаш. З двух значэнняў слова толькі адно даходзіла. З гадамі й другое дайшло[3].

*Грэюца…*

Места заснула. Бярэцца мароз.
За цені чорныя туляцца

---

[1] Барадзін Павел Паўлавіч (н. 1946), расійскі дзяржаўны дзеяч . У 2000–2011 гг. дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Расія — Беларусь. Доктар палітычных навук. Прафесар эканомікі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1997). У 2001 г. быў затрыманы супрацоўнікамі ФБР (ЗША) па патрабаванні Швейцарыі. Абвінавачанне ва ўдзеле ў злачыннай арганізацыі было знята, у карупцыі — пакінута ў сіле і накладзены штраф.

[2] Тарас Віталь Валянцінавіч (1956–2011), беларускі журналіст, публіцыст. Супрацоўнік газет «Літаратура і мастацтва», «Культура», расійскай «Общественной газеты», Радыё «Свабода». Сын В. Я. Тараса.

[3] Гл.: Пачало даходзіць... (2001) // Збор твораў. Т. 4. С. 345.

Вятры-гулякі.
Грэюцца брэхам на зябкі лёс
Вольныя вулічныя сабакі…

Пазваніў Матукоўскі, што можна Рэму перадаць «Лісты [з Хельсінкі]». Чалавек з Чыкага прыехаў. І Васіль мне напамінаў, каб перадаў. «Радзіма сноў»[1]. Шмат каго не стае мне з тых, хто застаўся. А колькі пайшло, як у нас казалі, дамоў. Не вернеш. А без іх цяжка. Ці час такі, ці гады, але не выходзіць з галавы, што ўся праца на вецер. Але ўсё роўна, каб наноў можна было ўсё пачаць, відаць, так бы сама рабіў. «Адольваў страх…» [у дзённіку].

*22 студзеня, панядзелак*

Здаецца, што ў панядзелак так ламану, што ўсё зраблю. Апошнія гады адны намеры. Сіла на ўбытак ідзе. Абавязкаў і задумаў воз, і ён на мейсцы. [«Ахвярынка»[2].]

*Чатыры паравіны веку*

Маленства — шаленства,
Юнацтва — дзівацтва,
Сталасць — прысталасць,
Старасць — хмарасць.
І ва ўсе паравіны
Маладыя правіны…

*24 студзеня, серада*

У ПЭНе званіў Васілю. Пераехаў у Франкфурт. Ірына Міхалішка задаволена, што ў цэнтры, не трэба пацёмначы ездзіць па прадукты, як там на гарадскім лецішчы. У нас сёння снег і 14° марозу, а там дождж і 14° цяпла.

*25 студзеня, чацвер*

Узяўся за талышскіх паэтаў. Гэта Кахін даў арыгіналы й даслоўнікі. Адрозны народ з адрознай мовай, але ў Азербайджане няма ім ніякой аўтаноміі. Як латгалы ў Латвіі. Зрэшты, амаль як беларусы […].

Пазванілі з «Юнацтва». Нешта даюць. У мэтро [пабачыў] цыбатага Ніла. Шарахнуўся ўбок. Казік [Камейша] казаў, што прыслаў нейкую дрындушку, прачытаўшы ў зборніку эпіграмаў: «Навошта дэбаты, Навошта падлікі. Гілевіч цыбаты, а Быкаў вялікі». Смешна, але настрой мой

---

[1] Гл.: Радзіма сноў (21.01.01) // Толькі б яўрэі былі!.. Мінск: «Кнігазбор», 2011. С. 222. Верш прысвечаны В. Нікіфаровічу.
[2] Гл.: Ахвярынкі: Хваля хвалі прыходзіць на змену… (22.01.01) // Ксты. С. 439.

псуецца, калі бачу лагойскага [...]. Разумею дзіцячасць гэтага, але нічога зрабіць з сабой не магу. Да старасці чалавек дзяцініцца.

*26 студзеня, пятніца*

Дабіў талышоў. Аж самому, здаецца, падабаецца. «Расціме...: З паднявольных свой подзіў Не хавала свабода...» [у дзённіку].

*27 студзеня, субота*

Засняжыла, закунежыла. Зіма хоча ўзяцца, а ўсё ніяк не збярэцца. Машэраўскія асушкі Палесся й падарунак Масквы — Чарнобыль. Толькі Бога маліць трэба. «Як жа Табе, Божа цярплівы...»[1]

*28 студзеня, нядзеля*

Чаго толькі не лезе ў галаву, як у хлеў незапёрты. Парадокс. Уся апазыцыя, усе антырэжымнікі, у нашых калхозных варунках асабліва, працуюць на КГБ, на іхныя справаздачы, прэміі, зборкі. Дый Захад фактычна грантамі сваімі таксама мацуе КГБ. Смешна, аж сумна.

*29 студзеня, панядзелак*

Лапцёнку рукапіс Васілёвых «Баек жыцця». Малайчына цёзка Леніна, будзе выдаваць і Васілём адчыняе «Народную бібліятэку». Званок Васілю. Ён згодны, каб выдавалі.

*30 студзеня, аўторак*

Каб Наташа [Давыдзенка] ўнесла дадатак ў вушацкі словазбор[2]. Галава баліць. Нейкае суцэльнае беспрасвецце. Па Бібліі — усё марната марнаты. Душа кліча туды, дзе мамін дух лунае, дзе прашчуры сняць непалоханыя, няпуджаныя сны. «Горад — гэта вёска...» [у дзённіку].

*31 студзеня, серада*

Апошні дзень студзеня. Званок Васілю. Сказаў змест тома з «Народнай бібліятэкі». Да Кахіна. Цікава, што талышы паўсталі супроць савецкай імпэрыі раней за балтаў, за ўсіх. Нацыянальны герой пажыццёва ў аліеўскай[3] турме. Кахін Ганаду: «Здаецца, што ты не пішаш па-курдску, а адразу даеш парадкоўнікі».

---

[1] Гл.: Магчыма, пабачыць здолею... (27.01.01) // Ксты. С. 168.

[2] Раздзел у 4 т. Збору твораў Р. Барадуліна. С. 374.

[3] Аліеў Гейдар (Аліеў Гейдар Алірза аглы; 1923–2003, ЗША), савецкі і азербайджанскі дзяржаўны, партыйны і палітычны дзеяч. Прэзідэнт Азербайджана (1993–2003). Герой Сацыялістычнай Працы (1979, 1983).

*1 лютага, чацвер*

У «Нёмане» замочвалі Ганадавы «Чаргаві». Хто чым, а я мінеральнай. Райкомаўскі афарызм: не п'юць толькі хворыя й подлыя. [...].

*Наталлі Давыдзенка*
*(Сяброўскі каламбур*
*на зб. Г. Чарказяна «Чаргаві»)*

Без Наталчыных чар гавею,
І ганаджуся, й чаргавею...

*2 лютага, пятніца*

Званіў Васілю. Ён прапануе ў «Народную бібліятэку» новую аповесць «Востраў Барок». Маю зараз адрас ягоны. «Ліст трыццаць першы»[1].

*3 лютага, субота*

Пачало на мароз брацца. Зімою запахла. Як некалі, ці мне лепей казаць ужо — як даўней. «Моўчкі»[2]. А яшчэ пра калхозніцкую набрыдзь радкі на марозе йшлі: «Они пришли, не ожидая зова...» (перарабляючы верш Ісакоўскага[3] пра Юзіка). «Хоць ведаюць...» [у дзённіку]. Розныя балотныя чайкі[4] з калхознага радыё, белыя пацукі зімоўскія з калхознага тэле. Цалуючы, хоць пагрэюцца, не замерзнуць.

*4 лютага, нядзеля*

Перапісаў слова да «Баек жыцця»[5]. [«Ахвярынка»[6].] Праз колькі месяцаў голас Ілоны! Нейкіх пару хвілінак. Не пісала, бо была далёка — у Маскве. Аргумэнт аж задужа. [...]. Але жывая! Хоць тры жыцці пражыві, а сэнс Бібліі не дойдзе да цябе ўвесь. Паасобнымі зоркамі засвеціцца ў душы і ў клёку. Дапраўды, ворагі чалавеку — бліжнія ягоныя. Бо мучаюць.

*5 лютага, панядзелак*

Прыйшоў факсам адрас Васілёў. Званіў з ПЭНа яму. Чакаем новую аповесць для «Народнай бібліятэкі». «Асланяе...»[7]

---

[1] Гл.: Ліст трыццаць першы: Рупна цемру хрысціць крэсіва... (2.02.01) // Калі рукаюцца душы... С. 140.

[2] Гл.: Моўчкі (3.02.01) // Руны Перуновы. С. 289.

[3] Ісакоўскі Міхаіл Васільевіч (1900–1973), рускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943, 1949). Герой Сацыялістычнай Працы (1970). Радок з верша «Слово к товарищу Сталину»: «Оно пришло, не ожидая зова...» (1945).

[4] Чайка Ніна, беларуская журналістка. У 2002–2008 гг. гал. рэдактар час. «Нёман».

[5] Гл.: Дарасці! // Барадулін Р., Быкаў В. Калі рукаюцца душы... С. 329.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Жыццё — жывая чарга туды... (4.02.01) // Халодная памяць вады. С. 455.

[7] Гл.: Асланяе... (5.02.01) // Ксты. С. 165.

*6 лютага, аўторак*

Аднёс Лапцёнку слова да «Баек жыцця». «На старасць і на смерць Глядзіш вясёлавока…» [у дзённіку].

*7 лютага, серада*

Мусіў аднесці ў выдавецтва хвасты тома. Захварэў. Дый вушацкі словазбор чытаецца цяжка. І тое хочацца дадаць, і гэта.

[«Ахвярынка»[1].]

*8 лютага, чацвер*

Дужаюся з вушацкім словазборам. Хто каго.

*9 лютага, пятніца*

Сыгнал «Босай зоркі»! Аж не верыцца. Дзякуй Уладзіміру Ільічу Лапцёнку! Яшчэ не вывелі ў нас людзей слова, дакладней, не звялі. Да Вал. Тараса. Яму 71. Калі б лічбы пераставіць, вось было б радасці. «Мы ўсе — туды абітурыенты» [В. Тарасу; у дзённіку]. «Ахвярынка»[2]. Алесю на «Зорцы спагады»: «Калі й спрыяе прагнаць тугу…» [А. Камоцкаму; у дзённіку].

*10 лютага, субота*

Пазваніў у маладыя гады. Рына [Бабіцкая] мне: «Ты белы воўк». «Белы воўк»[3]. «Ліст трыццаць другі»[4].

*11 лютага, нядзеля*

Пераношу ў другі экз. праўкі вушацкага словазбору. «Адкажы…»[5] Прылятаў Іван Драч[6]. Перад гэтым званіла й сакратарка ягоная, і ён, каб сустрэцца ў Пасольстве Украіны. Не пайшоў. Кепска сябе пачуваў. Дый ў дадатак там, вылічыў я, мусіць быць лагойскі […] Ніл. Потым Генадзь пацвердзіў. Чатыры крэслы й настолле. Адно пуставала маё. Быў Генадзь, Зуёначак […] і, вядома ж, лагойскі […]. Але гэта яму было, як нож у горла, Драч у Радзе Украіны ачаляе прапаганду й, здаецца, культуру, а яго [Лукашэнка] не прытуліў да грудзей […]. […].

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: А шчырая сціпласць… (7.02.01) // Ксты. С. 439.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Жыццё… (9.02.01) // Тамсама. С. 454.

[3] Гл.: Белы воўк (10.02.01) // Тамсама. С. 235.

[4] Гл.: Ліст трыццаць другі: Я жыў, як мне дазволіў Бог… (10.02.01) // Калі рукаюцца душы… С.141.

[5] Гл.: Адкажы… (11.02.01) // Руны Перуновы. С. 188.

[6] Драч Іван Фёдаравіч (1936–2018), украінскі паэт, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1983). Герой Украіны (2006).

*12 лютага, панядзелак*

У ПЭН. Вычытваю дадаткі ў магчымы том. Чакаю Ілоначку. Каб гук. Калі прыедзе, калі абзавецца?

*13 лютага, аўторак*

Хадзіў да Рыгора Сітніцы. Ён сказаў, што афармленне «Босай зоркі» змяняць не варта. Згодзен я з ім. Які рэдкі талент — так адчуваць і храм, і плот, і цыбулю, і ляху, так чуць кожны гук слова ў паўнагучных, мудрых, прачулых вершах сваіх можа толькі Рыгор Сітніца. Гэта не нарцыс з Давід-хутарка.

*14 лютага, серада*

У «Мастацкую». Аднёс усё. Каб не трымала мяне. Пабыў з дзяўчаткамі нашымі мілымі. Для мяне яны не пастарэлі, а па-ранейшаму маладыя, беларускія, захопленыя. Узялі чарыцу яны, я — мінеральную. Пацяплела на душы. Памаладзела. Ехаў дамоў, прыйшло ў галаву, што толькі ля праваслаўных храмаў сядзяць жабракі з голай даланёй. Я не пра жабракоў. Пра іншае. Тут ёсць шмат над чым думаць. «Усе мы ў гэтым свеце сваякі…»[1] [2-гі варыянт; у дзённіку]. «Ліст трыццаць трэйці»[2].

*

Бог адзін,
А канфесіі —
Гэта прафесіі.

*2001*

*15 лютага, чацвер*

Аднёс у «Полымя» «Вушацкі словазбор», а ў «Маладосць» «З запазухі…» (гэта працяг «Здубавецьця», толькі ў [4-м] томе памяняў загаловак, бо нешта Марчук за звышцнатлівасць). За камуністамі ў Гістпарце (партыйна[…] архіў) быў дырэктарам вядома ж расіец Пачанін, дык ён замест наша советская *действительность* казаў наша советская *девственность*. А на гэтай девственности не было дзе кляймо паставіць.

*16 лютага, пятніца*

Памёр прафэсар Шалькевіч. Чыстая душа, свяціла мэдыцыны. Паўтара года [назад] прысвяціў яму верш, дык толькі сёння Карлюкевіч спытаўся, ці няма ў мяне гэтага верша, які тады аддаў яму. Савецкая журна-

---

[1] Параўн.: Ахвярынкі: Мы ўсе на гэтым свеце сваякі (14.02.01) // Ксты. С. 439.
[2] Гл.: Ліст трыццаць трэйці: Чарэпаў шчодра зерне… (14.02.01) // Калі рукаюцца душы… С. 142.

лістыка, што тут дзіваваць. Аднёс яшчэ раз. Лепей было б, каб чалавек пры жыцці прачытаў. «Тым даўжэй…»[1] Заўтра з Алесем паедзем да Маі, слухаць новую рэдакцыю «Псальмоў». Алесь пашчырэў. На «Рамансах» [на «Зорцы спагады»]: «Саборы Парыжа, ці Вільні, ці Майнца…» [ М. Грыбоўскай; у дзённіку].

*17 лютага, субота*

Да Маі. Выдатна прапяяў на свае ж матывы «Біблейскія балады» Алесь. А ён незадаволены запісам. У Маі так чыста, так утульна ў жытле, для жытла не прызначаным. Вера трымае яе, узносіць над усім смеццем будзённасці. Хай Бог бачыць яе, шчырую ўніятку!

*18 лютага, нядзеля*

Завея шалее як маладая. Быў у музэі, які мянуецца Камароўка. Прыдбаў тое-сёе з рарытэтаў. Трэба ж нешта есці. [«Ахвярынка»[2]], «Белы смех»[3]. Прыйшоў ліст ад Васіля. І фота, дзе ён палуднуе піцай. Дужа цікавае фота. Яшчэ паштоўкі — адна Мірону (сабака з катом) — і тэкст: «Гэтая нямецкая сямейка віншуе вашага Мірона з днём народзінаў дзеда». Фота, дзе Васіль сядзіць за сталом з відэльцам і нажом над нейкай піцай, на адвароце: «Сняданак экзылу [перасяленца]. *В. Б., студз. 2001 г.*».

*20 лютага, аўторак*

У ПЭН. Званілі Васілю. Прасіў знайсці выдадзены фотаальбом ягоны, прыедзе навуковіца з Канады. Настрой добры. Пазваніў з паўдня Лапцёнак. Забраў 50 асобнікаў «Босай зоркі». Дзякуй яму! Такі быў я шчаслівы, што йдучы дамоў і потым ўвечары пісаў верш у адрас Уладзімера Лапцёнка:

*Не лямантуй!*

*Уладзімеру Лапцёнку*

Не лямантуй: — Я шчыры беларус!
Будзь беларусам думкаю і справаю.
Рукой, ад працы, як ралля, караваю,
Змяці з душы сваёй пакоры друз.

Шчырэй на Беларусь
і для яе
Дзён не шкадуй, у Госпада пазычаных.

---

[1] Гл.: Тым даўжэй… (16.02.01) // Ксты. С. 269.
[2] Гл.: Ахвярынкі: І гэта жыццё, і тое… (18.02.01) // Тамсама. С. 439.
[3] Гл.: «Шчырэйшага болей нікога няма…» (18.02.01) // Халодная памяць вады. С. 162.

Ані зважай на прыхадняў набычаных.
Лёс ні за кога доўг не аддае.

Не лямантуй, што пазамоўклі ўсе.
Не дапаможа лямант і нябожчыку.
Няхай казыча кпіна пяткі пошчаку,
Які праклён прадажніцкі нясе.

Не лямантуй — тугу ратуй, як сон,
Па першазорцы, ў цемрадзі не ўбачанай.
Аддзячыцца твайму нашчадку спадчынай,
Абы прадаць не ўздумаў ён.

*21 лютага, серада*

У ПЭН. Гутарка з Сяргеем Шапранам для газеты «Отдых»[1]. Гутарку будуць даваць па-беларуску. […]. [«Ахвярынка»[2].]

*22 лютага, чацвер*

З раніцы не мог прыйсці ў сябе. Галава. А трэба да Шапрана. Учора плёнка скончылася. І што мяне расшабуняла, дык гэта вушацкая: «Выйшла барыня плясаць, Салодкія пальцы, Ў адну руку ўзяла х.., А ў другую яйцы».

Ці варыянт: «Ў адну ру′ку ўзяла шту′ку…» Адкуль той, хто скача з паняй, ведае, што ў яе салодкія пальцы? Значыць, цалаваў рончкі, як любіў казаць Караткевіч. Быў гжэчны. І толькі салодкім пальчыкам мог даверыць сваю гаспадарку, ці штуку са званочкамі. Успомнілася й любімая папеўка Караткевіча: «Рыбакі лавілі рыбу, А паймалі жорава. Тры нядзелі мяса елі І п..дзелі здорава». Дый сваё, недзе на другім курсе: «На лугумурагу…» [у дзённіку]. Дужа ж высмуглай і танклявай была Вера [Вярба]. А ў мяне да Веры былі толькі намеры.

*23 лютага, пятніца*

Дзень Арміі Краёвай, дзень разгрому Чырвонай (ад крыві) арміі пад Псковам і Нарваю. [Лукашэнка] зрабіў святам абаронца айчыны […]. Быў у ПЭНе. Заходзіў Някляеў. Выглядае маладжава, паджара. Люблю яго даўно. Шкадую, бо як непрывязанага рамянямі ў цэнтрыфузе б'е яго ў палітыцы. Ён лірычнейшая душа, а не палітык.

[«Ахвярынка»[3].]

---

[1] «Отдых» — рэкламна-інфармацыйная газ. пра адпачынак і турызм.
[2] Гл.: Ахвярынкі: Летуценіць світальная аблачынка… (21.02.01) // Ксты. С. 440.
[3] Гл.: Ахвярынкі: Скажы мне, лёсе… (23.02.01) // Тамсама. С. 456.

*24 лютага, субота*

[Малюнак.] Гэта мне малявала Дамінічка. Сёння мне 66. 6.30 званок. Гэта з Чыкага Лапушыны, дарагія мае яўрэі, панове жыдзе. З Ракава Язэп Янушкевіч: як здохлі калгасы — у рацэ ў Ракаве ажылі ракі. Сёння, сказаў Язэп, 17° марозу. І, вядома, самы дарагі званок — Васіль! Кажу, што ў нас зіма вярнулася, што нармальны мароз. Васіль: « У кожнага беларуса павінна быць зіма…» Некалі, калі здымалі фільм «Край перакуленых нябёсаў», Васіль, стоячы на беразе свайго любімага малечага Белюкоўскага возера, казаў: «Як у кожнага армяніна мусіць быць свая гара, так у кожнага беларуса сваё возера». Званіў з Чыкага Рэм Нікіфаровіч. З Чыкага ж пазваніў і Юзэф Пучынскі[1]. Казаў, што пэнсыянэрам там камунізм. Прыязджаюць ўрачы нават пяткі часаць. Вядома, тым, хто змазаў пяткі адсюль. Сын нёс нейкую ўпакоўку з крывёў [?], зваліўся з вышыні двухпавярховага дома. Была клінічная смерць. Месяц у шпіталі. Ён раней быў адным з кіраўнікоў ансамбля «Сузор’е». І ўрэшце ў Чыкага ўладзіўся ў славуты чыкагскі аркестр «на вешалку». Усюдых добра, дзе нас няма! Званілі Ізяслаў Катляроў (з Светлагорска), Фэлікс Мысліцкі (Гомель), Лайковы (Мётча), Мікола Кірпіч (Вушача), Панізнік, Шэрман, Ганад, Костка, Дзягілева, Барыс Бур’ян, Міхась Скобла (чытаў экспромт), Артур [Вольскі], акадэмік жывапісу Алег Маціевіч, з Віцебска Іосіф Навумчык, Давід Сімановіч, з Менска Іна [Ладзюкова], Мая [Грыбоўская], Валахановіч. Па сотавым тэлефоне з возера Волас, што на Браслаўшчыне, Вадзім Грудзько. Вядома, што адным з першых мой залатый сябра Алесь Камоцкі, пажадаў, каб лічба 66 перакулілася.

Расчуліў мяне Глеб Лабадзенка[2] — прынёс сувэніры й віншаванні. Ён, васьмікласнік, знайшоў свежую рыфму да майго прозвішча:

* * *

Зараз усё абагулена,
Зараз усё абыякава.
Пройдуць гады — Барадуліну
Скажуць свядомае «дзякуй»!

[1] Пучынскі Юзаф Вульфавіч (1922–2007, ЗША), беларускі графік, мастак. З 1994 г. жыў у ЗША.

[2] Лабадзенка Глеб Паўлавіч (н. 1986), вучань Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа (2001–2003); з 2000 г. пачаў працаваць як журналіст. Лаўрэат прэміі «Дэбют» імя М. Багдановіча (2013), «За свабодную думку» імя В. Быкава (2018).

«Ліст трыццаць чацьверты»[1]. І ледзь не забыўся. Званок з эстонскіх вастравоў. Юры Туулік[2]. Помніць пра мой дзень нараджэння. Пытаюся, ці не жаніўся; адказ па-эстонску сціслы: «Дзякуй!» У Васіля выйшла кніга «Труба» на эстонскай мове. Юры быў у Дубултах. Яны ўжо зусім не тыя. Паверх на два мейсцейшы. Для дужа багатых. Латышы сабе пакінулі маленькі дамок. 10 даляраў у суткі без харчу. Усё ўзбярэжжа ў суцэльных кавярнях.

* Алесь: «Каб 66 перавярнуліся.» Сніў, што мне 70.

*Наталлі Давыдзенка*
*(на «Босай зорцы»)*

Маёй душы праталачка —
Чуй смак жыцця, Наталачка!

*24.02.01 Рыгор*

*25 лютага, нядзеля*

Пайшло на 67-мы. Ці давядзецца прачытаць наадварот, Бог бацька. Хочацца падкачаць Дамінічку. Хоць паміж хочацца й будзецца могуць быць розныя разлегласці.

*Пачакаюць...*

Лабадзенка — гэта ж лаба дзена —
Добры дзень па-балцку.
Дык няхай
Шчодрыцца натхненне неацэнна,
Галасіцца словаў ранні грай.
Аб духоўным хлебе рупся, Глебе,
Майстра — гэта той, хто малады.
Будзь у роднай мове на патрэбе.
Пачакаюць сталыя гады...

*26 лютага, панядзелак*

На «Свабоду». Сустрэўся з Лукашуком. Выдатная ідэя ўзнікла. Штодзённы верш на «Свабоду» пачынае графаманіцца. Трэба праз ПЭН-цэнтр звярнуцца да ўсіх ПЭНаў, каб прыслалі па вершу, хто адгукнецца. Сустрэча ў «Бярозцы». Трэба давесці да канца справу са з'ездам, які чынілі ў ліпені летась. «Надзею мецьме...»[3] Мой сусед Генадзь [Бураўкін] ус-

---

[1] Гл.: Ліст трыццаць чацьверты: Атожылак, пагонь... (24.02.01) // Калі рукаюцца душы... С. 143.

[2] Туулік Юрый (1940–2014) ), эстонскі празаік, драматург. Брат Юла Тууліка.

[3] Гл.: Надзею мецьме... (26.02.01) // Ксты. С. 365. У дзённіку верш прысвечаны Г. Грушаваму. *Грушавы* Генадзь Уладзіміравіч (1950–2014), беларускі філосаф, палітык, выкладчык.

памінаў, як я ўшкурыў нарцысістага Мележа. Сказаў яму экспромт: «Браце Мележ, чуш ты мелеш». Пакрыўдзіўся. П'яны быў я. Потым вярнуліся, пачаў я казаць, што балотныя людзі лепшыя за «Ціхі Дон»[1]. Пачаў вяла пярэчыць. Тады я коратка перадаў ідэйны змест (любілі пры камуністых гэты тэрмін): «У Шолахава пра е.лю, а ў Вас пра грэблю». І сам забыўся пра Цітовіча[2]: «Мы славім Вас і Ваш «Бахор. Няхай не гнецца Ваш багор!»

*27 лютага, аўторак*

Пачынаюць прыходзіць вершы на «Свабоду». Ад Васіля прыйшла новая аповесць «Балота» для «Народнай бібліятэкі». Адразу ж панёс Лапцёнку. Там чакаюць даўно. Дзве аповесці ранейшыя ўжо набраныя.

* Дамініка: «Што ты мне паклала кашы, як вераб'ю на памінкі?»

*28 лютага, серада*

Перакладаў вершы партугальца, в'етнамца, [Аляксандра] Ткачэнкі.

*1 сакавіка, чацвер*

Хоць пад вясну ды снегу наваліла. Са снегам неяк ўтульней. А вясной дыхае. Хутка размяняўся першы год тысячагоддзяў. [«Ахвярынка»[3].]

*2 сакавіка, пятніца*

Запісаў на «Свабодзе» тры вершы перакладзеных. Адрамантаваў друкачку. Таго рамонту — шурупчык укруціў майстра. А ўсё цягнулася з навагоддзя. «Пачуй…»[4]

*3 сакавіка, субота*

Даслала верш Вера Рыч. Усё пра Беларусь сказана, але нідзе не названа. Выдатна! Чытаю Тарасу колькі песняў матчыных з Вушаччыны. Падабаецца. Пра радок, што вясна прынясла рэчцы спрыт вясла, Валянцін кажа: «Так не прыдумаеш, гэта народ». А радок гэты якраз, грэшны, я і ўставіў. Бо фальклор — твор аўтарскі, аўтар якога згубіўся ў часе.

---

У 1991 г. прарэктар Інстытута сучасных ведаў. Доктар філасофскіх навук (1994). Прафесар (1995). У 1999 г. быў узнагароджаны праваабарончай узнагародай памяці прафесара Торалфа Рофто (Нарвегія).

[1] Раман М. Шолахава. *Шолахаў* Міхаіл Аляксандравіч (1905–1984), рускі празаік, публіцыст і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1939). Герой Сацыялістычнай Працы (1967, 1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941), Ленінскай прэміі (1960).

[2] Цітовіч Генадзь Іванавіч (1910–1986), харавы дырыжор, музыказнавец, этнограф. Народны артыст СССР (1968). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1978).

[3] Гл.: Ахвярынкі: І думае мост… (1.03.01) // Ксты. С. 440.

[4] Гл.: Пачуй… (2.03.01) // Тамсама. С. 174.

*4 сакавіка, нядзеля*

Учора ўночы званок ад Ілоны. Вядома, трэба грошы. Алесь смяяўся: добра, што ёсць каму помніць пра мяне. Якую пакуту зарабляе бедная мая Ілоначка сабе, так занядбаўшы Дамінічку. А маленькая так гоніцца за сваёй мамай. Прыйшла тэлеграма ад Ілоны, прачытвае й кажа: «Гэта мне», — (а Ілона віншавала мяне з днём народзінаў) і хавае за фотаздымкі ў альбомчык. Нейкі мэталёвы пярсцёначак прымярае: «Мне будзе маму напамінаць…» Па часе ўсё сумна вернецца да Ілоны. Шкада мне яе, люблю яе, але ўжо нічога не магу ні зрабіць, ні перарабіць.

*5 сакавіка, панядзелак*

Развітальная завея заўсягды цёплая. Зіма любіць развітвацца цёпла, каб чакалі. «І трывогай, і расстаннем…», «Гадуем…»[1] Званіў Васілю. Атрымаў пераклад малітвы да вушацкае іконы. Упадабаў прадмову да «Баек жыцця». Казаў: хай бы мяне ўзялі ў работу над слоўнікам, дзе Дубавец і Вячорка.

*6 сакавіка, аўторак*

Хочацца шмат паспець, ды, як у нас казалі, хэнця ёсь, а моцы мала. І штодня меней.

«Ахвярынкі»[2]. Для песні нейкай падапечнай Алесевай: «Дарослай паспею набыцца…» [у дзённіку]. «Дзе схаваць?: У мяне даўно дрыжыць…» [у дзённіку].

*7 сакавіка, серада*

З Алесем нешта хочам зрабіць. Умоўны загаловак «Марынкі». «Хоць пасярод рынку…: Я сваю Марынку…», «Была яна… («Шапталі крокі»): Ішоў звідна і дацямна…», «Варта!: Вабную і трапяткую…» [у дзённіку]. [«Ахвярынка»[3].]

*8 сакавіка, чацвер*

Дзень Клары Цэткін. Вядома, ні па якія кветкі не бегаў. Некалі мама пакрыўдзілася, што ўсім кветкі, а ёй нічога. Калі яна трошкі мулка гасціла ў невястулькі. Гартаў старую «Иностранную литературу». Напароўся на каталонскую паэзію. Па-свойму пачуў адзін верш:

---

[1] Гл.: Ці не гэткі?; Гадуем (5.03.01) // Халодная памяць вады. С. 164; 347.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Сэнс Вечнае Кнігі…; Над мапай шатрую далоні… (6.03.01) // Ксты. С. 440; 449.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Пакуль сабе не хлушу… (7.03.01) // Тамсама. С. 440.

*Просьба*
*(з Жозепа Карнэ[1])*

Мама, калі памру я,
Ты пахавай мяне
На кухні, дзе смецце змятаюць,
Якое агонь глытае.
Як хто апытае, чаго ты
Плачаш, скажы тады:
— Шалела ўначы залева —
Хапіла імжы й вады.
І трэскі так адсырэлі —
Гарэць не хочуць зусім.
І вочы мне дым выядае,
І дужа ён горкі, дым…

*9 сакавіка, пятніца*

«Весніць…»[2] [1-шы варыянт; у дзённіку]. [«Ахвярынка»[3].] «Сінеюць цені: У гарачага кахання…» [у дзённіку].

*Зноў са мной…*

Я глядзеў, глядзеў, глядзеў,
Я глядзеў і ўрэшце ўбачыў.
І здзівіўся мой спадзеў,
І сказаў: — Ты адлайдачыў.
За сябе і за мяне,
Трэба кукіш даць мане.
Кукіш даць — таксама праца.
Я гадамі галадаў,
Я табе бязмерна верыў.
Ты мяне не апраўдаў
Ды наадмяраў намераў.
А з намераў толк благі,
Везучы свой пыл вазамі,
Разаб'юць сабе ілбы
Самі, і заплачуць самі…

Тут маладзікоў двайнік
Адчыніў вакно, як дзверы.

---

[1] Карнер Жозеп і Пуч-Орыёл (1884–1979), каталонскі паэт, драматург, перакладчык, журналіст.
[2] Гл.: Грэе… (9.03.01) // Халодная памяць вады. С. 269.
[3] Гл.: Ахвярынкі: І асвойчаныя ваўкі… (9.03.01) // Тамсама. С. 466.

Мой спадзеў кудысьці знік…
Зноў са мной адны намеры…

*10 сакавіка, субота*

У святую нядзельку [на самой справе ў суботу] рызыкнуў пачаць пераспяваць «Песню над песнямі Салямонаву»[1]. Недзе ў сярэдзіне 50-х гадоў (таго стагоддзя) ашаламіла, захлынула гарачай хваляй жарсці й раніцай паэзіі «Песня над песнямі», якую чытаў, не заўважаючы нічога наўкола, у Нацыянальнай бібліятэцы. Ледзьве выпрасіў Біблію. «Ліст трыццаць пяты»[2].

*11 сакавіка, нядзеля*

У газэце «Рабочы»[3] працуе шчырая беларуска Святлана Шыдлоўская. Напісаў як бы заказ у святочны нумар: «Каб цяплей было…»[4] [«Ахвярынка»[5].] «Жыццё — экскурсія…» [у дзённіку].

*12 сакавіка, панядзелак*

У ПЭН. Ідуць вершы пра «Свабоду» з Эўропы. Шмат цікавых. Для «Рабочага» пісаў: «Мы!»[6]

*13 сакавіка, аўторак*

Вісіць на мне проза Ганада. А галава ватная. Сіла ўцякае ад мяне.

«І спакотныя ўспаміны не грэюць» [у дзённіку].

*15 сакавіка, чацвер*

Тлумлюся. Кручуся. Ад усяго, што навакол і дома, часам хочацца на Бутаўшчыну — да Мамы. Але ж Дамінічка. «І яшчэ раз вясна нагадае старому…» [у дзённіку].

*16 сакавіка, пятніца*

З зямлі ў зямлю? Гэта цела. А душа? «Чалавецтву не вырвацца…» [у дзённіку].

---

[1] Гл.: Песня над песнямі Саламонава (17.03.01) // Ксты. 129.
[2] Гл.: Ліст трыццаць пяты: Вяла да Бога сябе дарога… (9–10.03.01) // Калі рукаюцца душы… С. 144.
[3] Газета «Рабочы» (1999–2005).
[4] Гл.: Рос (11.03.01) // Ксты. С. 363.
[5] Гл.: Ахвярынкі: Не цеш сябе… (11.03.01) // Тамсама. С. 440.
[6] Гл.: Мы! (12.03.01) // Руны Перуновы. С. 184.

*19 сакавіка, панядзелак*

Вадзім [Грудзько] завалок нас з Алесем на канцэрт «Skorpions'a»[1] ва Уруччы. Цяжкі рок. Вытрымаў. Калі высокапрафесійна, усё цікава. Наша N.R.M.[2] — Камароўка.

*21 сакавіка, серада*

Алесь Карлюкевіч прасіў з Алесем у Мар'іну Горку. Трэба паехаць. [«Ахвярынка»[3].]

*22 сакавіка, чацвер*

*Мар'іна Горка.* У ДК сустрэча. Прэзентацыя кнігі Алеся Карлюкевіча. У *Пухавічах* добры Краязнаўчы мазэй. Ёсць шчырыя беларусы маладыя! Гэта грэе душу.

*23 сакавіка, пятніца*

З ПЭНа званілі Васілю, віншавалі з Днём Волі напярэдадні. Васіль там сябруе з Барысам Кітом[4]. У захапленні ад яго. Кіту 6 красавіка 91. Васіль казаў, што Кіту даспадобы мае вершы. Прасіў напісаць яму на дзень нараджэння:

*Барысу Кіту*
*на дзясяты дзясятак*

Жыць Беларуссю — каб яна жыла,
Крывіцкаю нязломнасцю вячэла,
Каб, цемру ненавідзячы, вачэла,
Далучаная Богам да святла.

Жыць Беларуссю — быць не сіратой,
Быць ейным верным панавітым сынам.
Падзяку даючы чужым айчынам,
Душой падданым быць адной святой.

А з Алесем задумалі напісаць хуліганістую праграму. Ужо некалькі тэкстаў яму спадабаліся. І цяпер кручу новы. «Вясна пакажа…: Вясна пакажа, дзе хто ср.ў…», «І так: Вясна пакажа, дзе хто клаў…» [у дзённіку].

---

[1] «Skorpions» — нямецкая англамоўная рок-група (з 1965).
[2] N.R.M. — беларуская рок-група (з 1994).
[3] Гл.: Ахвярынкі: Жывучая дужа рассада здрады… (21.03.01) // Ксты. С. 440.
[4] Кіт Барыс Уладзіміравіч (1910–2018, ФРГ), амерыканскі вучоны; дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША. Доктар філасофскіх навук (1982). Акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы (1991). Акадэмік і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. З 1944 г. жыў у Германіі, з 1948 г. у ЗША, з 1972 г. у ФРГ. Ураджэнец Беларусі.

*24 сакавіка, субота*

Падпісанне Акта Незалежнаці. Ледзь знайшлі прытулак у Міжнародным адукацыйным цэнтры, што на вуліцы, як наўмысна, газэты «Праўда». Залька невялікая, тэле не было. Крыху прэсы. Пасол Нямеччыны й спазніўся, але прыехаў, пасол ЗША. Падпісалі ўчатырох: Ан. Грыцкевіч, Р. Гарэцкі, Г. Бураўкін і я. А дзясятай ночы Генадзю пазваніў Ніл з прэтэнзіяй, чаму яму не далі слова, каб пачытаць спараную лекцыю на паўтары гадзіны. З усяго льга зрабіць фарс. Краіна хворых людзей [...].

*25 сакавіка, нядзеля*

Дзень Волі! На мітынгі я ўжо не хадок. Дзякуй Богу, вырвалі гэты дзень з забыцця, зробленага камуністымі. [«Ахвярынкі»[1]], «Перамагае ў выніку давер»[2].

*26 сакавіка, панядзелак*

Званок Васілю. Факсам верш у гонар Барыса Кіта. Васіль казаў, як яны з Барысам Кітом адзначалі Дзень Волі. У шыкоўным рэстаране, здаецца, «Шаратоне» ці «Макдональдсе» ўдваіх. Васіль заказаў качку. Думаў, калі ўжо не палову, дык хоць чвэрць прынясуць. А на вялізным сподку тры маленькія кавалачкі. Барыс Кіт з’еў зупу. Затое добрае віно было. Потым Кіт адвёз Васіля на таксі, бо пачаўся вясновы дождж. Я нагадаў Васілю жыдоўскі анекдот. Заказаў жыд ежу ў карчме. Прыносяць. Ён у слёзы. Карчмар пытаецца: «Чаго ты плачаш?» А той адказвае: «Ці варта было дзеля такога кавалачка мяса забіваць вялізнага вала?»

*27 сакавіка, аўторак*

З Алесем па гаспадарчых справах. Сканала пральная машына. Шукалі новую. Купілі.

*28 сакавіка, серада*

ПЭН. Прыйшоў выдатны верш пра свабоду ад Кнутса Скуеніекса, які напісаў у 1968 годзе ў Мардовіі ў палітлягеры Поцьма.

*29 сакавіка, чацвер*

Дазваніліся да Альгімантаса Балтакіса[3]. Прышле вершы. У яго гора — павесіўся сын, засталіся ўнучкі, адна ў 11-м класе, другая — у 2-м. Пыта-

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Пад снегам цярпліва жыве...; Думка просіцца ў ісціна на пастой... (25.03.01) // Ксты. С. 440; 441; гл.: Ахвярынкі: Чыю пачуе чалавек падзяку... (25.03.01) // Халодная памяць вады. С. 466.

[2] Гл.: Лягчэй (25.03.01) // Ксты. С. 296.

[3] Балтакіс Альгімантас (н. 1930), літоўскі паэт, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік ЛітССР (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1966).

юся пра Межэлайціса[1]. Памёр. Тры гады таму. Ніякой інфармацыі нават пра блізкіх суседзяў. Прыехала Іна Снарская з Украіны. Хацела сустрэцца, не выйшла. Такая шчырая полацкая, нашая душа. Цяжка ёй.

[«Ахвярынкі»[2].]

*30 сакавіка, пятніца*

Перакладаю Кнутса. Люба мне гэта праца — перакладаць, дакладней, па-свойму чытаць, падпарадкоўваць нашай мове. «Лічыць вазы стагоддзяў…»[3].

*31 сакавіка, субота*

Канец сакавіку! З Алесем на пірог з капустай. Рэжысорка Галіна Адамовіч[4]. Фільм пра Пімена [Панчанку]. Нічога. Затое пабачыў азвяронка[5]. […]. Пра такіх у нас казалі: стварыў Бог і каецца…

*1 красавіка, нядзеля*

Дзень смеху. Якраз і давыбіраюцца ў Палатку шапіто […]. [«Ахвярынка»[6].]

*4 красавіка, серада*

У ПЭН. Вершы з эўрапейскіх ПЭН-цэнтраў ідуць вяла. Адчуванне сябе ў мінулым часе расце. І выразы, і рэаліі нашае паэзіі ці спатрэбяцца ў новым тысячагоддзі? [«Ахвярынкі»[7].] «Каханне»[8].

*5 красавіка, чацвер*

Выступаем з Алесем. Бегатня. Крутаніна. Галаўны боль.

[«Ахвярынкі»[9].]

---

[1] Межэлайціс Эдуардас (1919–1997), літоўскі паэт, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Народны паэт ЛітССР (1974). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1962).

[2] Гл.: Ахвярынкі: Так ужо наканавана небам…; Маці не нараджаюцца, іх пасылае Бог… (29.03.01) // Ксты. С. 441.

[3] Гл.: Ружанец (30.03.01) // Тамсама. С. 314.

[4] Адамовіч Галіна Валянцінаўна (н. 1069), беларускі рэжысёр-дакументаліст. З 1995 г. на кінастудыыі «Беларусьфільм».

[5] Азаронак Юрый, беларускі тэлежурналіст.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Душу анёлакрылую… (1.04.01) // Ксты. С. 441.

[7] Гл.: Ахвярынкі: Адкукуем сваё, а пасля?.. ; І стагуе бясконцасць…; І турма… (4.04.01) // Тамсама. С. 441–442.

[8] Гл.: Каханне (4.04.01) // Тамсама. С. 297.

[9] Гл.: Ахвярынкі: Сутнасць улады ў барацьбе за яе; З кім маюць падзяліць?.. (5.04.01) // Халодная памяць вады. С. 475; 471; гл.: Ахвярынкі: Жывеш не ты… (5.04.01) // Ксты. С. 442.

*13 красавіка, пятніца*

Вісіць нада мной, як намоклы меч, проза Ганада. Спачатку, калі была этнаграфія, незнаёмы побыт, цікава перакладалася, бо цікава. Цяпер Ганад ужо піша маралізатарскія рэчы, праз сказ сум па тым, што развалілі такую краіну. А гэтая краіна адабрала ў яго родную мову, зрабіла савецкім чалавекам. Шкада. [«Ахвярынкі»[1].]

*15 красавіка, нядзеля*

Вялічка! Свята душы, свята гаворкі душы з Богам, з нябёсамі. Пазваніў Васіль. (Перад гэтым, днём раней, прыйшлі поштай віншаванкі.) Як гэта святасна было чуць ягоны голас і нашае вушацкае: з Вялічкам! Казаў, што ў іх холадна, холадна і ў Гародні. Ірына Міхалішка дзярэ бульбу на бліны. Прыйдзе Барыс Кіт. Ён дужа любіць дзяронікі. Пытаюся, а дзе Ірына Міхалішка ўзяла тарку? Васіль адказвае, што тут ёсць. Усё са смехам. [«Ахвярынкі»[2].]

*22 красавіка, нядзеля*

У *Бегамля* й *Докшыцы* да баптыстаў. Людзей малавата. У Бягомельскім музэі зразумеў, што [...] ніякіх зрухаў не адбудзецца. Савецкая дрымучасць беспрабудная. [«Ахвярынка»[3].]

*27 красавіка, пятніца*

У касцёле з Алесем. Быў і маэстра Ткачэнка. Добра прымалі. Пяяў колькі вушацкіх песняў. Здароўя мала, а жаданне жыць яшчэ засталося. Тым і жыву. [«Ахвярынка»[4]], «Ліст трыццаць шосты»[5].

*1 травеня, аўторак*

А некалі ж гналі дэманстраваць адзінства. Як гэта цяпер даўно. [«Ахвярынкі»[6].]

*2 мая, серада*

Улезла ў галаву пытанне пра час, бо яго ў мяне засталося небагата. [«Ахвярынка»[7].]

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Свабода выбару...; Жыць... (13.04.01) // Ксты. С. 442.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Зямля — аралля і аблога; Твой кожны дзень пражыты й непражыты... (15.04.01); Магчымасць ёсць... (20.04.01); Галава павінна ці хмялець, ці балець... (21.04.01) // Тамсама. С. 442; 443; 442.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Трывацьме на зямлі каменны век... (23.04.01) // Тамсама. С. 443.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Нічога ў свеце новага няма (27.04.01) // Халодная памяць вады. С. 473.

[5] Гл.: Ліст трыццаць шосты: Дзе б ні жылі... (27.04.01) // Калі рукаюцца душы. С. 145.

[6] Гл.: Ахвярынкі: А час не затрымаць ні днямі, ні вякамі...; Няўлоўны час у хвілі ці ў вякі...; Хто кожны з нас?.. // Ксты. С. 443.

[7] Гл.: А ўсё ж цікава... (2.05.01) // Тамсама. С. 443.

*5 мая, субота*

У *Івацэвічы.* Да вуніятаў. Службу дзеіў любімы намі айцец Ігар. Цікава. Адна студэнтка з Варшавы — Дамінічка займаецца гісторыяй Вуніі на Беларусі, вывучае Беларусь. У адной палескай бабулі запытала, дзе сапраўдныя беларусы жывуць. Адказала: «Беларусаў мала, жывуць яны на мяжы спаміж Расеяй і Польшчай». Як бы прыпавесцю адказала. «Сподзеў»[1].

*7 мая, панядзелак*

Панядзелак — кручаны дзень. Не так кручаны, як збаламучаны. «Па часе: Па часе гарэзлівы неспакой…» [у дзённіку].

* Дамініка: «Давядзецца рана будзіцца».

*8 мая, аўторак*

Ілона прасіла купіць білеты. Купілі на канец красавіка. Не прыехалі. Потым неяк бяжком пазваніла й Дамініцы сказала, што будзе 8 травеня. Сёння чакалі, няма. Зусім адбіліся ад дому. Дамінічцы трэба замежны пашпарт і бацькоўскі дазвол, каб куды паехаць. Так і пачынае жыццё падвешаная. І з бацькамі, і без бацькоў фактычна. А мне разрываецца душа. Працаваць цяжка ў такім душэўным стане. Загналі сямейнікі, як ваўка ў яму. У глыбокую. Толькі выць застаецца. Разумею ваўкоў у такой сытуацыі. Адзінае — гэта змірыцца й дзякаваць Звышняму за ўсё, што ні пашле. Толькі цягне дамоў, толькі там, здаецца, і жыў. [«Ахвярынка»[2].]

Да скону

У клопата кожны з нас на прыкмеце.
Мы ўсе слугуем яму без прынукі.
Яшчэ адбалець не паспеюць дзеці,
Як нам пачынаюць балець унукі.

*13 мая, нядзеля*

Дзякуй Наташы [Давыдзенка], дапамагае мне з IV томам. Можа, выйдзе. Стаў нейкі разгублены. Давялі. «І твой…», [«Ахвярынка»][3].

*16 мая, серада*

У ПЭН. З Нарвегіі госці. «Ліст трыццаць сёмы»[4].

---

[1] Гл.: Сподзеў (5.05.01) // Халодная памяць вады. С. 311.
[2] Гл.: Ахвярынкі: Не пераажывеш нікога злосцю (8.05.01) // Ксты. С. 443.
[3] Гл.: І твой…; Ахвярынкі: Таму ён і тупіцца… (13.05.01) // Халодная памяць вады. С. 332; 463.
[4] Гл.: Ліст трыццаць сёмы: Ці зважае на брэх прарок… (16.05.01) // Калі рукаюцца душы. С. 146.

*18 мая, пятніца*

У ПЭН. Гаварыў з Васілём. Дзякуй Богу, на з’езд ён не прыедзе. Навошта яму. Хай лепей з Кітом пасядзяць, паталкуюць. Дарэчы, вельмі цікава здзеела […] Волечка-камсамолачка (Іпатава). […]. Новая прафэсія — беларусы прафесійныя.

[«Ахвярынка»[1].]

*21 мая, панядзелак*

Тлум і самота. Як палічыць, дык Бог дазволіў пабыць на гэтай зямлі багата год. А як падумаць, дык адзін дзень і жыў. Дзе сум, дзе радасць — з гадамі ўсё блытаецца. Можа, ранішні сум і быў існай радасцю. [«Ахвярынка»[2].]

*22 мая, аўторак*

Атрымаў шчыры ліст ад Іны Снарскай. Трапятлівы, ласкавы, шчыры, беларускі, крывіцкі, полацкі. Як яна сама, трэсачка са ссечанага часам і так званым прагрэсам крывіцкага дрэва чуласці, яшчэ з жывіцаю… Беражы яе Гасподзь. Быць такой гожай і шчырай — і цяжка, і небяспечна. «Каб не зябла…», «Не кожнаму…»[3]

*Закаханы санэт*

*Іне Снарскай*

Калі чароўны талент Бог дае,
Ён двоіць ёй надзеі і пакуты.
Ідзе вяроўка лёсу ў перакруты.
У слова, як і ў неба, — ўсе свае.
Лёд ад тае галінкі адтае,
Якую не ўкаляніць сівер люты,
Пакуль журба ад думкі адстае.

Сцяжыне крыўскай золка на чужыне.
Калючай трэба быць, каб жыць, шыпшыне.
Сама сябе бароніць прыгажосць.
Нябеснае старэе сутарэнне.
А ці шчаслівы ён, каго сустрэне,
Яе неўтаймаваная мілосць?

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Калі нараджаецца, галосіць дзіця… (18.05.01) // Халодная памяць вады. С. 454.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Чалавеку ўявіць няўзмогу… (21.05.01) // Ксты. С. 444.

[3] Гл.: Каб не зябла…; Не кожнаму… (22.05.01) // Халодная памяць вады. С. 21; 47.

*Рыгор Семашкевіч*

Сарамяжлівы быў,
Бо ведаць хацеў як найболей.
Разважлівы быў,
Бо шчырасці давяраць любіў.
Заставаўся сам-насам
Са сваім адчаем і болем.
Перад часовымі ўладарамі
Не кленчыў і лоб не біў.
Не вагаўся ніколі —
З хлуснёю ўзагрудкі ісці ці не.
Чуў смех навальнічны
І ціхі сум ніў.
І адышоў дачасна,
Усміхнуўшыся спадарыні Ісціне,
Даверыўшы іншым
Сваю разгубленасць і сумніў.

*25 мая, пятніца*

У трамваі накалыхалася: «Трымаем…»[1] У мітусні праходзяць дні. Тое-сёе нахапку запісваю. [«Ахвярынка»[2].] «Пасля…: Каб забыццю мець клопат забывацца…» [у дзённіку].

*26 мая, субота*

Пахаплівасць спараджае аднастайнасць, спараджае смутак жывучы, як пустазелле.

«Ведаў…»[3]

*1 чэрвеня, пятніца*

Па новых звестках мамін дзень народзінаў сёння. Папрасіў беларускага шчыруна Змітрака Давідоўскага[4] паглядзець старыя календары. Мама казала, што нарадзілася на Тройцу. Змітрок знайшоў, што Тройца ў 1909 годзе была 1 чэрвеня. Цяпер буду два дні лічыць святымі для душы маёй. А ў размове Пётра даў тэму.

---

[1] Гл.: Трымаем… (25.05.01) // Руны Перуновы. С. 185.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Са страхавітай пашанай… (25.05.01) // Ксты. С. 444.

[3] Гл.: Ведаў… (25–26.05.01) // Тамсама. С. 188.

[4] Давідоўскі Дзмітрый Мікалаевіч (н. 1958), вядучы бібліятэкар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (з 1980).

*Кажуць ведзьмары...*

*Пётру Кухарскаму*

Сон — сястра смерці, кажуць ведзьмары.
Чаму не брат, вядома ім, напэўна.
Сон — на людзей, на пчолаў — дымары,
На неба хмары, а на мора пена, —
На ўсіх наслана насланнё,
Яно
Да часу засланяе ад канчыны
І асланяе кстом нябачным дно,
Куды ляцім даўно, як пух качыны.
Сон вінавата гляне ў вочы дню,
Непадуладны сам свайму настрою.
Смерць клапаціцца мусіць пра радню —
Усё ж не так самотна ўдзвух з сястрою...

*2 чэрвеня, субота*

Малады думаеш, што ты ніколі не памрэш, у сталасці пачынаеш сумнявацца ў сваёй неўміручасці, пад старасць прывыкаеш, што смерць ходзіць недзе побач, заплеччу, заспінню. «Не зашкодзіць...»[1]

*5 чэрвеня, аўторак*

Самота й сум у штурхатні й шуме. «Каб вярнуцца...»[2]

*6 чэрвеня, серада*

Нешта ўсё пра адно ў галаву лезе. Ведаю, што не трэба каркаць, а каркаю. «Няўзмогу», «Довад адзін...»[3]

*7 чэрвеня, чацвер*

На пэйджар званю, кажу [для Шапрана]: «Пазваніце». А дзяўчынка папраўляе: «Патэлефануйце».

* [Запісы яўна ранейшыя, прыпомненыя, сабраныя пад гэтай датай разам.] Васіль: «Валя перасварылася з Ваўчом, сплакалася, Шурка нас абараняе... Жыццёвы рэсурс вычарпаны, трэба спакойна дажываць». Кажу: «Пётра ўсё-ткі і беларус». [Васіль:] «Так Ірына на базары купляе, абы цётка падабалася... Карлас хай папрацуе». Кажу: «Чарненкам[4]». Ва-

---

[1] Гл.: «Не зашкодзіць...» (2.06.01) // Халодная памяць вады. С. 292.

[2] Гл.: Каб вярнуцца... (5.06.01) // Ксты. С. 280.

[3] Гл.: «А ці бязглудзеем, а ці старэем...»; «Довад адзін...» (6.01.01) // Тамсама. С. 281; 444.

[4] Чарненка Канстанцін Усцінавіч (1911–1985), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Генеральны сакратар ЦК КПСС і адначасова старшыня Прэзідыума ВС СССР (1984–1985). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1982).

сіль: «А Леанід Ільіч [Брэжнеў]?.. Таксоўку хопім, усе глядзяць, як не на свайго, хто дзівіцца, што яшчэ жывы, хто варожа. У двары ветэраны становяцца ў шарэнгі й моўчкі глядяць.

*8 чэрвеня, пятніца*

Неўзабаве Васілю дзве сямёркі. Некалі віно «тры сямёркі» [партвейн] было самым папулярным. Сам Васіль лічыць лічбу сем пакутніцкай, але яна — сам чалавек. «Ліст трыццам восьмы»[1]. Знайшоў у нататніках вершы: «Адрозніць…»[2], «Ці патрэбен…»[3].

*9 чэрвеня, субота*

Размяшалі шквал у шклянцы перад з’ездам пісьменнікаў. Хоць цяпер Саюз пісьменнікаў — дэталь ад машыны, якая ўжо даўно з’ездзілася. У палітычным пляне — пясочніца. Мінуліся часіны вальерна-стойлавага ўтрымання інжынераў чалавечых душаў. Для неакамуністаў ёсць тэле, інтэрнэт і г. д. Прыход на пасаду прэзідэнта ЗША актора быў знакавым. Цяперашнія палітыкі мусяць быць тэлеакторамі, няхай і калгаснага разліву для скалгашанага электарату. Скалгашаны гучыць як гашаная вапна. Хто будзе старшынём СП — ці Мятлічак [Мятліцкі], ці Вольгачка-камсамольгачка. Тае бяды. Адзін здасць рэліктавую арганізацыю адразу ж, другая пазней з камсамолістым какецтвам і задзёрам. Атопак Вася зрабіў усё, каб нацыянальнага Саюза пісьменнікаў не было. Дакладней, нічога не рабіў, каб саюз зрабіўся мітычным. [«Ахвярынка»[4]], «Шчасліва…»[5].

*10 чэрвеня, нядзеля*

І сёння пашпартны дзень народзінаў мамы. Праз гэтулькі гадоў у госці да Рыны. Старая. Значыць, які ж я стары. Паставіла на стале фота з нейкага майго зборніка, дзе я з мамай. Сумная гутарка. Гэта, вядома, апошняя сустрэча. Кубак Valia.

*11 чэрвеня, панядзелак*

Званіў Радзік. Зайшла размова пра прафесійных яўрэяў, якія былі пры камуністах. Цяпер у нас няблага пасвяцца прафесійныя беларусы. Радзік і кажа: «Вы ж аматар, чаго хочаце…» [«Ахвярынка»[6].]

---

[1] Гл.: Ліст трыццаць восьмы: Апосталам балюча на зямлі (8.06.01) // Калі рукаюцца душы… С. 147.

[2] Гл.: Адрозніць… (3.06.01) // Халодная памяць вады. С. 363.

[3] Гл.: Ці патрэбен… (3.06.01) // Ксты. С. 315.

[4] Гл.: Ахвярынка: Высока сябе чалавек нясе… (9.06.01) // Халодная памяць вады. С. 460.

[5] Гл.: «У шчасця цярпення хапае… (9.06.01) // Ксты. С. 291. Пад назвай «Шчасліва…» // Халодна памяць вады. С. 300.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Ясней па часе робіцца ўсім… (11.06.01) // Ксты. С. 444.

*14 чэрвеня, чацвер*

Дабіў для купалаўцаў вясёлую рэч Гальдоні[1]. Уся на мове. Давялося стаяць на вушах. Загаловак даў «Перабрэхі для пацехі».

[«Ахвярынка»[2].]

*15 чэрвеня, пятніца*

Дагэтуль хвалюе колер спелай пшаніцы. Хвалюе.

*Адплывае…*

Тая, колеру спелай пшаніцы,
Што развідніла смутак калісьці,
Хмарка ўжо адплывае, каб сніцца,
Быццам дубу ўзімелае лісце.

І няма майму выраку выйсця,
І не вырвацца смутку з пляніцы.
Леціць хмарка ўспамінныя высі
Тая, колеру спелай пшаніцы…

А колькі цеплыні й шчырасці ў Алесевай сяброўкі! Ёй і мой верш:

*Уратуе…*

*Іне Ладзюковай*

Рэліктавая чысціня
Анідасяжная для бруду.
Карузліку й вялікалюду
Цяпер далёкая радня.

Свая ёй толькі дабрыня,
А злосць яна не заўважае.
Для дабрыні зайздросць чужая.
Дзе дабрыня, там вышыня.

Цнатлівай ласкі птушаня
Сярод зімы накліча лета.
Як што ўратуе свет, дык гэта
Рэліктавая чысціня!

---

[1] П'еса К. Гальдоні ішла пад назвай «К'ёджаўскія перабрэхі». *Гальдоні* Карло (1707–1793), венецыянскі драматург.

[2] Гл.: Ахвярынкі: У радасці бесклапотнай… (14.06.01) // Ксты. С. 444.

*16 чэрвеня, субота*

Будзінасу загарэлася бяроста ў ср.цы рабіць у «Дудутках»[1] шоў, заадно й прэзэнтацыю сваёй кнігі «Дуракі». Тут жа і шум кампаніі ў раскрутку Домаша[2]. «На вострае пытанне, хто прэзідэнтам стане…» [у дзённіку]. Яшчэ Будзінас захацеў песню: «Выходзь, вяльможны…: Калі бяда выходзіць з берагоў…» [у дзённіку].

*17 чэрвеня, нядзеля*

Для «Перабрэхаў для пацехі»:

*

Рыбка плавае па дне.
Глыбіня мяне ратуе.
Хай бы хто злавіў мяне,
Быццам рыбку залатую.
Рыбцы колка на кручку,
Як засне, дык не прачнецца.
Я злаўлюся рыбаку,
У каго кручок не гнецца.

*

Сіньёр маліў сваю сіньёру:
— Хоць вочы пакажыце мору.
Сіньёра ціха адказала:
— Я ўсё суседу паказала…

*

Вы мне прызналіся, сіньёра,
Што Вы мяне хацелі ўчора.
А я сягоння Вас хачу
І ключ свой у руках вярчу.

*18 чэрвеня, панядзелак*

На колькі дзён прыязджаў Васіль з Нямеччыны. З Алесем і Валяй ездзілі ў Бычкі.

---

[1] «Дудуткі» — недзяржаўны музейны комплекс старажытных рамёстваў і тэхналогій каля в. Пціч Пухавіцкага раёна Мінскай вобл., утвораны Я. Будзінасам (з 1994).

[2] Домаш Сямён Мікалаевіч (1950–2019), беларускі грамадскі дзеяч. З 1999 г. узначальваў нефармальнае аб’яднанне «Гродзенскія ініцыятывы». Адзін з кандыдатаў ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2001 г., зняў сваю кандыдатуру на карысць У. Ганчарыка.

*19 чэрвеня, аўторак*

[В. Быкаву] 77. Кажу, што партвейн тры сямёркі быў — самы лепшы. Васіль: «Дык аднае не хапае. Які чалавек, такі лёс, бо 7 — пакутная лічба». У мяне на плячы Мірон. Кажу: «І Мірон цябе віншуе». Васіль: «Ты ўсё катоў любіш. А сабак?»

*20 чэрвеня, серада*

Учора ў дзень сваіх дзвюх сямёрак Васіль адляцеў у Франкфурт-на-Майне. Там у Майне цяпер плавае два кіта, два магуты беларускага духу, Васіль і Барыс Кіт. Раненька павіншаваў па тэлефоне, пачуў ягоны прароча-зямны голас. [«Ахвярынка»[1].]

*22 чэрвеня, пятніца*

Пісаўся верш, можа, прыдасца ў камэдыю для купалаўцаў: «Чакаем»[2].

*27 чэрвеня, серада*

Васіля няма, Алесь збіраецца ў Нямеччыну. На душы зімна, а на вуліцы скварна. «Ліст трыццаць дзевяты»[3].

*30 чэрвеня, субота*

Збіраемся ў Вушачу. За ўсё хапаюся, а толку мала. Добра, што Бог паслаў мне Алеся, нейкая душэўная апора. А наогул, усё, што рабіў, практычна нікому не трэба. Яно, можа, і добра. Рабіў для сябе, рабіў, каб жыць жаданнем нешта рабіць, каб уцячы ад самога ж сябе. «Ліст саракавы»[4].

*1 ліпеня, нядзеля*

Завёз сваіх у Вушачу. А сам адразу ж у Менск. Трэба падрыхтаваць для Лапцёнка «Ноч мае форму яйка»[5]. «Ліст шосты»[6]. Ліст гэты перадам праз Алеся. Адлятае заўтра. Хай неба яго прывеціць! Знайшоў у запісных: «Спяшаліся паспавядацца…»[7].

*4 ліпеня, серада*

Васіль: «Паклон сталіцы карнавалаў».

[1] Гл.: Ахвярынкі: Мы — толькі пыл на далані пустыні (20.06.01) // Ксты. С. 444.
[2] Гл.: З нагоды… (22.06.01) // Халодная памяць вады. С. 413.
[3] Гл.: Ліст трыццаць дзевяты: Жыць прошласьцю не дазваляе Бог… (27.06.01) // Калі рукаюцца душы… С. 148.
[4] Гл.: Ліст саракавы: Мы нясем свой крыж наканаваны (30.06.01) // Тамсама. С. 149.
[5] Выданне зборніка не спраўдзілася.
[6] Гл.: Ліст сёмы: Крэўнікі й суседзі… (1.07.01, Ушачы) // Калі рукаюцца душы… С. 14.
[7] Гл.: Спяшаліся… (25.06.01) // Ксты. С. 286.

*16 ліпеня, панядзелак*

*Вушача!* Адпекліўся ў Менску. Як селядзец у бочцы, прыехаў у аўтобусе. Сквар. Валя парвала сухажылле. Ляжыць. За гаспадыньку Дамінічка й ейная яшчэ меншанькая сяброўка Веранічка.

*18 ліпеня, серада*

[Словы, запісаныя за Валянцінай Уладзіміраўнай Быкавай:] «7 ліпеня было 75 гадоў. Таго-сяго ваўчэнцаў паклікала. Як несла сумку з прадуктамі, расцягнула нагу. Нага спохла была й красная.

Словы: *устыць* (улядаіць); *цёрла* (прылада); *вужы'ца; юрок* — жыгун, блядун; *седзішча; дзеева* — што адбываецца, дзеецца; *аслонак* — дзе сонца; даўно-прадаўно(а) было гэта*; непрыяціцца* (хваляваццa, нэрваваць). З унукамі толку мала, Васіль непрыяціцца… *Помства.* Малых павыключалі з інтстытута, можа, *помства,* а можа, і ленаваліся… Мікола [брат] нарадзіўся на зімовага Міколу. Ён яшчэ *адма'лі*, як нарадзіўся, хваравіты. *Кохлік* яго забіў, *алі-ткі* выжыў. Галадуха, яму яшчэ болі *на вушы пала*. Аперацыю рабілі адному вуху. Алі на работу ў калгасе ганялі, не зважалі, што такі западлівы. Праўда, і пенсію вырабатаваў, і гады свае. *Дзяннік* свой каля хаты абгарадзіў. *Такі сціплы.* А колькі сетак з дроту сплёў.

Васіль удаўся па бацьку. Бацька любіў чытаць газеты пры цару, 4 класы скончыў. Любіў гаварыць пра палітыку. Мама болей да гаспадаркі. Колькі настольнікаў наткала. Спакойная. У бацькі характар стражэйшы. На маму ўспадзець, накрычыць і тут жа неўзабаве астыніць. Мама ніколі не пярэчыла. Змаўчыць і добра. Мама скупейшая, а бацька гатоў быў аддаць душу апошнюю ў вайну. Як садзімся есці, а бацька ў слёзы. «А дзе ж сынок, а можа, галодны, ці жывы ён?» Усю вайну плакалі. Мама ва ўсіх цыганак варажыла. Усе цыганкі ў адно слова: жыў, вернецца.

Бацька раніцай устаніць, бульбу пачысціць, надзярэць на бліны, на клёцкі, а мама послі пячэць бліны, варыць клёцкі. Бацька двор і сені (без падлогі) выміціць. Бацька любіў, каб было ўсё чысценька, Васіль у бацьку.

Па суседству бацькаў брат, тры дачкі, бедны, хварэў. А Васіль слаў грошы, адзежыну. Брату на страху трэба была дашчэчка, згніла. Папрасіў пазычыць на шыфер. Бацька даў грошы, а маме сказаў, што пазычыў. А чым ён мог аддаць? Так яму *грошы абышліся.* Панадзіліся суседзі: пазыч, аддадзім. І забудуцца. Як былі арлоўскія бежанцы. У нас стаяла жанчына, пяцёра дзяцей. Голад, і самім не было чаго есці. Рабяты *сходзяць па беднасці*. А малы глядзіць, як ядзём. Бацька сам не будзіць есці, а малому дасць. З апошнім дзяліўся, апошнюю капейчыну, адзежыну.

Бацька быў гаваркі, а Васіль па маме, болі такі *сціплы* (маўклівы). Васіль як пастарэў, на бацьку болі з вачэй, з губ. Маладзейшы болі на матку. Васіль на бацьку *з наса'*» .

*[Чужой рукой:] 225250, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 36]1. Гарчакову Вячаславу. Парафія Жыровічскай іконы Божай Маці.

Бычкі, Тоня Быкава [братавая В. Быкава], тэл. 2–37–19.

*19 ліпеня, чацвер*

Задуха. Пайшоў на ср.ны базарчык. Нешта ўспомніў [Лукашэнку]. Ледзь вочы не выдралі. І пэнсію дае, і добры. Дадаю: і вайны няма. Паддакваюць. Яшчэ дзейнічае прапаганда старых камунякаў. Баліць галава. Роспач. Узяўся перачытваць Хафіза[1], даперакладаць грузінскую казку.

*Упершыню*

*[N.]*

І за сталом тваёй увагі з краю
Сабе не раю давяраццa раю,
За пустакубак долю не віню.
І за Хафізам[1] следам паўтараю:
Я кожны міг цябе кахаю ўпершыню.

*20 ліпеня, пятніца*

Нешта снілася ў духаце падстрэшша. Неяк Пётра перад ад'ездам казаў пра спёку: «Трэба прывыкаць да пекла, усе праз яго пройдзем». «Снілася…»[2]. «Ліст сёмы»[3].

*21 ліпеня, субота*

Усё ачужэла, астарэла, азвярэла. [«Ахвярынка»[4].]

*22 ліпеня, нядзеля*

Раніцай выходжу ў сад, дзе яшчэ жывы халадок і зацень. Аднекуль з любошчаў недадраны, недаскублены Мірон. Надкусвае травінку за травінкай, паказвае мне лекі. Потым ленавата па плоце прайшоўся, паказаў, што захаваў спартыўную форму. «Сустрэча»[5]. [«Ахвярынкі»[6].] «Спякота-2001: Сонца кажа: зараз цябе прыпалю…» [у дзённіку].

---

[1] Хафіз (сапр. Шамседдзін Мохамед; каля 1325–1389 ці 1390), персідскі паэт.

[2] Гл.: Снілася… (20.07.01, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 344.

[3] Гл.: Ліст восьмы: На балючай, крэўнай зямлі… (20.07.01, Ушачы) // Калі рукаюцца душы… С. 15.

[4] Гл.: Ахвярынкі: У чыстым небе… (21.07.01, Ушачы) // Ксты. С. 444.

[5] Гл.: Сустрэча (22.07.01, Ушачы) // Тамсама. С. 245.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Апякае за ўсё балючэй… (22.07.01, Ушачы) // Тамсама. С. 456; гл.: Ахвярынкі: Мая душа… (22.07.01, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 457.

*23 ліпеня, панядзелак*

Не ведаю, ці вытрымаю. Нідзе няма мне спакою. Сквар на скварку высушыць. Васіль неяк званіў і казаў, каб яшчэ кніжкі дзве прозы сваёй напісаў. Можа б, і напісаў, але дзе? Увесь час пад токам высокай напругі нэрваў. Божа, умацуй! Нарэшце залева, сапраўдныя грымоты, натуральная, як у маленстве, страхавітая. «Ліст восьмы»[1].

*24 ліпеня, аўторак*

З Роўбам у Лепля. Надмагілле Васілёваму брату заказваць. Адразу сказаў майстра, што ў канцы жніўня, але калі даведаўся, што Васілёваму брату, сказаў у аўторак прыехаць, гатовы аддасць, толькі трэба тэкст напісаць. Мяне пазнаў. Хоць трунары паважаюць.

— Дзе Роўба?

— У «Новым жыцці».

— Калі гэта ён туды паспеў?[2]

*25 ліпеня, серада*

Ахалодны таропкі падвячорак. Камары таўкуць мак. Лечуся па парадзе Пётры ад бярозы й вяза. Лечаць дуб, бяроза, вяз, арабіна. Забіраюць хваробу тапаліна, асіна, яліна. [«Ахвярынкі»[3].]

*27 ліпеня, пятніца*

Прыходзіла Васілёва сястрычка. Хоць наслухаўся наськай (як мама казала) мовы. Пад вечар званок. Саскочыў з падстрэшша, думаю, Васіль. Ён! Настрой па голасе ягоным неблагі. Пытаецца, хто мне дапамагае, адказваю — Дамінічка й маладзейшанькая ейная сяброўка. Васіль усміхаецца: «Трэба абапірацца на моладзь». Кажу яму пра надмагілле братава, і ён пацвярджае, што хоць трунары нас шануюць. [...].

* Валянціна Быкава: «Васіль неяк як прыязджаў з Гродна, казаў, што «мне трэба да Барадуліна ў Вушачу». Тады я пачула... Я ўсё *дабіралася* схадзіць туды... Ужо яблыкі парадажныя... Летась была ўрадзіла капуста, а на *макраце* кепска. Са збыццём (збытам) гора... Той год, як памёр Шурка, мне скучна было... *Павершачку* кілбасу адрэжу й ем... Узяла лакам павяла, дык як мокра тады *пля'міна* зробіцца... Шурка фарбу перанасіць не мог — *задушша* (астма), а як *выпіты быў,* неяк пафарбаваў... Далі'пада'лі ўсё забываецца... Пры Васілёвай *бытнасці* дом паставілі Міколаваму пасынку...

---

[1] Гл.: Ліст дзевяты: Забыты голас Перуна... (23.07.01, Ушачы) // Калі рукаюцца душы... С. 16.

[2] Гл.: Калі паспеў? (]2001]) // Збор твораў. Т. 4. С. 349.

[3] Гл.: Ахвярынкі: На пагоду мак таўкуць камары; Як асмялець папрасіць у Госпада гліну... (25.07.01, Ушачы) // Ксты. С. 445; 448.

Калі цвет карэнні пускаіць, у зямлю можна [саджаць]. *Мушкаты* [герань] ў мяне растуць, цвітуць на ўсю хату, цвіціць цвет за цвятом. У мяне нацвіло ў дварэ, усё ў цвятах. *Півоні* доўга жывуць, з кустоў вылазяць. У яе рука гэткая, ці што, а півона не расцець… Замуж было нявышаўшы…

Як пятух пайграіць на курыʹцы, яйцы тады пеўныя, поўныя, найграныя, не будуць баўтунамі. Чорненькія, як галавешачкі, кураняткі, а як сталі абрастаць, шэранькія сталі. Вясной хадзілі па дварэ ў апраліʹ».

*28 ліпеня, субота*

Пайшоў пашукаць кілбасы сярэдняга кошту. Праходжу каля дома, дзе пачынаў вучыцца пры немцах, адкуль я ўхапіў пасля вяртання з бежанцаў дзіркакол, дзе цалаваўся ў цёмным пакоі з фінансісткай Сашай… Няма дома, адно каменна-цагельнае глыжэўе. Сумна.

*29 ліпеня, нядзеля*

Не мог устаць — і галава, і жывот. Вушацкая парада: адкруціць галаву й у ср.ку заторкнуць… Усплыло: «Сем год кахаліся, Не купіў мне хусткі. Як пусціла паміж ног — Наробіў мне пусткі…» Сялянскі клопат пра гаспадарку. […].

У свой час з Лёндана прыехаў Дзінглі. Яму трэба было да ксяндза Чарняўскага[1]. Вядома, толькі ў суправаджэнні Сачанкі. Потым Дзінглі пісаў. «Ведаў, што Чарняўскі мудры, але што ў яго сабака такі разумны, не ведаў […]». А было так. Заходзіць на падворак Чарняўскага Дзінглі — сабака маўчыць, толькі Сачанка ступіў — сабака яму ўсе порткі й перакроіў. Давялося тут жа цыраваць. […]. Я неяк пісаў пра гэта Васілю, каб крыху сум яму разагнаць.

*31 ліпеня, аўторак*

Апошні дзень спякотлівейшага ліпеня. Што ўжо жнівень закоціць? З шафёрам Васілём, які возіць Роўбу, адвозілі надмагілле Міколу Быкаву. У Ваўчы ўзялі Валю Уладзімераву — Васілёву сястру. Ехалі на Селішча. Яшчэ моцныя рэшткі велічнага кляштара, не абыдлілі зусім, не асавецілі ўшчэнт і магільнік селішчанскі. Ледзь выгрузілі ў двор братавай Васілёвай. На бетонным слупе — чатыры маладыя буслы. Васілёва хата дажывае свой век. Хлеў ужо зусім стах. На сабаку крычыць маладзіца: «Каб цябе мядзьведзь, змоўкні!» З якой прадаўніны грозьба, як падумаеш, аж у памяці цьмянее. І раптам такое слоўка: «Аблачок наплыў, ледзь сена ўхапіла…» Якая жывая, якая спракавечная тут нашая вушацкая мова! Усё зарастае. Нябожчыкаў на магільнік возяць на трактары. Няма паліва.

[1] Чарняўскі Уладыслаў (1916–2001), беларускі каталіцкі святар. Пераклаў Біблію, Катэхізіс і інш. на беларускую мову.

А разам з тым таго ж Роўбу ў Віцебск ганяюць па пяць дзён на тыдзень. І так у кожным раёне, у кожнай вобласці. Саветызм невылечны. Нездарма ж Васіль казаў: камунізм — СНІД XX века. А жывуць вясёла. У Чарапоўшчыне сын з бацькам у вайну гулялі. Бацька на пэнсіі, сыну за трыццаць. Вакол хаты адзін аднаго цікавалі. Сын перавярнуўся на другі бок, а бацька яму кіем па хрыбціне, тады сын бацьку за горла й тапіць у студню цягне. Уступілася маці: «Сынок, не тапі бацьку…» Гэта нейкі клачок. А ў той жа Чарапоўшчыне жонка мужыку нажом у сэрца — і гатоў. І не судзілі. Бач, сведкаў не было… «Ліст дзевяты»[1], «Ліст дзесяты»[2].

Буслянку электрыкі былі скінулі са слупа, а вясной буслы зноў зладзьбавалі сабе гнездзішча. Прыехалі, аж неўзабаве звоніць Васіль. Распавёў яму ўсё. Колькі словаў сказаў мне Алесь. Якая гэта добрая повязь дабрыні й шчырасці: мяне звялі з Алесем, Алесь звёў з Ігарам Сарокіным, ён ратаваў мяне, я звёў Алеся з Васілём, Васіль Алеся з Кітом. А перад гэтым спагадлівы лёс паслаў мне Рыгора Сітніцу, а Рыгор звёў мяне з ратоўцам маім Пётрам, Пётр й трымае мяне на зямлі. Чыстыя беларусы, шчырыя й дружалюбныя. Калі б нас не рвалі чэрці на чвэрці, не развадзілі, не асабачвалі ні маскалі, ні ляхі — далёка б пайшла Крывія. Бо само слова крывіч — адменнік слова радня, сваяк, крэўнік карацей…

*1 жніўня, серада*

Да мамы на Бутаўшчыну. Перанасяліўся магільнік. Пазарос дрэвамі. Агароджа ёсць, мейсца побач адпаведна. Пад валуном з нашых палёў. Як старалася Дамінічка прыхаіць магілку. Аж неяк хмары з душы сплылі. Ненадоўга, недалёка…

*14 жніўня, аўторак*

Валя Ул. [Быкава]: «Светлая, бядзяецца душа… Якраз патрапіў… Яны смашныя, бе′ліны, а гэты дні вецір быў, паабіваў іх. Калі не сыпляцца — зялёныя, як зваліцца, аж разаб’ецца, усярэдзіне празрыстыя. Замаразкі былі на цвет паўліялі. Суквецці пазамярзалі цвяточкамі. Парэчкі дразды як абляцелі… Не кажуць ляха, пасаджана дзве-тры ляхі… Халадзёнкі паліць, лісту вішнёвага пакласці… Упярод, як магла, хадзіла ў грыбы… Рамонкі паадцвіталі…

Мой Пушок, як сем гадзін, прыходзіць вячэраць, цяпер на прыпол не лазіць, лапы паложыць, разляжыцца, тады сядзіць-сядзіць і спіць на прыпале′… Кот вонкі хоча… Званіць вечарком…»

---

[1] Гл.: Ліст дзесяты: Сум маўклівы… (30–31.07.01, Ушачы) // Калі рукаюцца душы… С. 17. Першы варыянт гл.: Трымае… (23.07.01, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 263.

[2] Гл.: Ліст адзінаццаты: Аблачынкі зь белымі бачкамі… (31.07.01, Ушачы) // Калі рукаюцца душы… С. 18.

* * *

І нашыя душы ўратавалі стому,
Што нас вядзе дамоў з усіх дарог.
У нас ад смутку восені ключы.
І покуль дні змяняюцца начамі,
Мы будзем заставацца крывічамі.
Нябыт, паслухай нас і памаўчы!

*16 жніўня*

*17 жніўня, пятніца*

]Валянціна Быкава:] «Васіль Ладзімераў, Валя Ладзімерава… Як спелыя [яблыкі]— ахватней [есці]… Як блісніць маланка, я ў тую хату бягу… І навальніца перастаніць, і дож перастаніць… Кожную суботу не хаджу ў лазню, як залянюся… Алі вада, хоць і сухое лета, там ключ ёсь. Саўсім выбіралася вада, а ў Лукашышаным калодзезі вада… Сёння вецярок, дык трошкі адбіваіць жару… Людзей мора тут, у Вушачы.

Васіль ўсё бярэць да душы. Васіль дужа жаласлівы… Сніўся Лукашэнка, падышоў: «Ці будзяце вы за мяне галасаваць?» — «Не буду». Папуляў вочы, кулакамі лупіў у шафу, тады аброс, страшны твар, парослы паўсцёй. І сон мой спраўдзіўся… Гэткі гон па радыё, як панясло, так апрацоўваюць усіх… Нейкая ў галаве дурната′. Васіль дзівіцца, што без акуляраў чытаю. Думкі ў галаву лезуць розныя… Малако не ахалодзілася. Не скісла малако, а збрызла…

Васіль такі васпрыімчывы. Усю вайну пра Васіля не ведалі, усё перажывалі-перажывалі. Матка з бацькам плакалі кожны дзянёк. Як пачалася вайна, я ўзрадавалася, што ў школу не трэба хадзіць. Васіль адмалі, мала шэсць гадоў, пайшоў у школу й сеў за парту, хоць за партай пасядзець. Да школы ўжо ўмеў чытаць. Чатыры класы ў Бычках, а потым у Кублічах на лыжах, на каньках. Сам рабіў дзераўляныя, падаб’ець шынкай, а ўсё ж канькамі лічыліся. Васіль майстраваў лыжы, канькі, сумку — насіць кніжкі, з фанеры, пенал, зброю — адчуваў, што ваяваць давядзецца. Па гурбах куляліся. Маразы былі вялікія. Шчака была абмёрзла.

Васіль любіў хадзіць у грыбы, дужа не хадзіў, самая заняція — кніжка. Сёлета грыбам гадзіна… З хлопцамі гулялі ў вайну у Гаі — елкі, Бліжнія гаі, болей елак — Дальнія гаі. Яўрэйчык кубліцкі нямецкую мову выкладаў, як немцы прыйшлі. Расшукаў дырэктара селішчанскага, настаўніка Курчанку. Новікаў, які вучыў Васіля ў першым класе. У блакаду з жонкай загінуў.

Абязгрошылі… Матчыну пенсію бярэць, туляецца, як сойдзіць па людзях, абы-якая стала, давёў сын. А гэны, што ў Арэхаўне, з галавой непарадак, тады кінуўшы быў піць… Не сходаюць яго выцягнуць… Машыну

яму справіў сын, купілі… Гэныя ўз'елі яго (прадалі, аддалі ў ГУЛАГ)… Ён мяне ніколі не злаіў… Нікога родненькага няма… Я з ім (Васілём) і не нагаварылася, толькі ў хаце абярнуўся… Нада руха′цца, дамоў ісці. Пакуль зацягнуся».

! Сарочына. Дарогу пехатою пераходзіць сарока.

*****

Я маркоце шапчу:
Паначлежым,
З галавой акрыўшыся
Расчуленаю імглою.
На небе сасновым, свежым
Сузор'і яшчэ зацякаюць смалою…

***

З Верасовачкі —
З вясёлага хутара
Перасялілася ты
На хутар вечны,
А ён маўклівы…

***

Як ацяжэлая птушка
Зрываецца
Сонны яблык з галіны.

***

Слухае нябачная цішыня
Крокі мяккія някутага каня.

*19 жніўня, Бутаўшчына*

*20 жніўня, панядзелак*

Валя Быкава: «Кісля′ прыемная ў капусці… Кот сам сябе загаіў… Гладка ачужыўся».

***

Жыццё моё,
Здаецца, ў нечым сне
Прайшло і не заўважыла мяне…

*21 жніўня*

*24 жніўня, пятніца*

*Бычкі.* Валя Быкава: «Дра′гка ў магазінах, купцоў мала, трупоў кучы... З яенай маткай... Німа чым гаварыць, бяззубая... Некалі дыхнуць... У яго ўсё жалеззе к месту было... Яна джы′гіра мужыку давала... Да сівога валаса! За берага′ пахаваны... Бульба згарэла, і яе трава заела».

*26 жніўня, нядзеля*

Валя Быкава: «Бацька ў 33-м будаваў хату, а не было з чаго, а не давалі. З лесу на аднаму бервяну, страху з дошчачак... Сёнькі (сенцы) такія цямныя... (Мікола) кляніну пасадзіў і жалуд, і дуб вырас... Бацька добры сталяр. Дзераўляную падэшву зробіць, тоненькую, — лёгенькія, міленькія, як усё роўна туфлі... Зімой снег пад дзерава [скідаў], ногі магла павыкручаваць. І сабе дзеравяшкі зробіў... Бацька рана смаркульку запаліць, бульбу начысціць і надзярэць, а потым мама. І свінням нясець, стаіць калі парсюк. Як троху зажыліся, свінні добрыя выкармлівалі, як ешчы ўдасца, дык сала таўстое-таўстое вырасціць. Бацька усім хаты ставіў, калі хутары зносілі. Палонік — коўш старажытні, крупы ў коўш выбіралі, муку чэрпаць, як свінням есці, зерне. І лыжак, і грабель, і зуб'яў сам наробіць. Спецыяльна для мяне [зрабіў]. Грабавільна таўстое у іншых, доўга жылі граблі... Сцежка каля магільніка, і ў школу бегалі, Васіль не баяўся, а я баялася... Ён нават на вечарынкі не хадзіў (14–15 год), лепі кніжку чытаць ці на рыбу. У школі *днеўнік* вёў пра нейкую дзяўчыну, толькі ініцыялы [пісаў]... У школе апавяданняў цэлы сшытак [напісаў], пасылаў вершы ў газету, не прапусцілі, не помню *праз вошта*. Некалькі сшыткаў спісаў, можа, у «Піянер Беларусі» пасылаў. За кніжкамі, кніжак нанясець цэлы *стугор*. Лямпа была. Чытаў і чытаў. Як ёсь тлушч ці алей, а не — дык лучыны наскіпаіць, светач на ножцы і лучыну ўторкнець...

Першыя гады за немцамі, — шкуры свае, толькі роб, тады толькі й пажылі. У жорны змелюць, мама спячэць хлеб пульхны, рыхлы, мякенькі, і такая кісля′ прыемная. !

Пабегла ў загарод у кусты, немцы «хальт», чорт вас ведаіць, што вы балбочаце, як бегла ў кусты, так і пабегла (у блакаду). ! Як бегла сама сабой і панеслася ў кусты... Пасля вайны нічога [не было], калхозы сталі — мякіну на трудадні, шула адна, змелюць — чорная мука...

Наша атроддзе за ўсё пераЖываць, Мікола да галавы дужа не браў... Характар у яго дужа жаласны, у Васіля, па сынах, па ўнуках. Як я ляжала ў Полацку, два разы ў дзень званіў... ! Васіль сабакаў любіць... Хоць бы пісьмы дахадзілі ад Васіля...

Вясной рэжуць цельных кароў, такія знясіленыя, што не могуць расцяліцца. Корму няма, а летам травы на поле стаяць. Трактарысты нап'юцца, няма каму падвезці корм, каровы стаяць дзень нядоеныя...

Дровы злажыла ў чатыры кладкі, на *раскладку* (распал) два *клады*′… Балячка, так пякло, *альвасам* (алоэ) добра мазаць… Белы хлеб, я яго не ўважаю… Ты яму гусцейка′ чарэпай (гусцейко, густыш)… Настулька Галавач слепаватая, недавідзела добра… Тады яна *не′яткі ўскарыпкалася*… Паджыга, хутка бегла — жыг-жыг… Жонак пяць перакінуў… П′янюга невірутная…

Наогул сядзіць у тэлевізары… Як завінецца, зробіць… Гэта ж лю′цкія грошы… Чарга аблепюць кругом дома… Тады як крануся йсці ў хату… Як унукаў завуць? — нейкі Воўк, нейкая Алешына (Воўка, Алег), як не выгавару… Як на пахаванні даюць клёцкі й поліўку — апошняя страва…

Там нейкія спрытнейшыя фоты, а тут я баюся…»

*На Бычкоўскіх кладах*

Камні абымшэлыя,
як маршчыністыя дубы.
І дубы ацяжэлыя,
як пераднавальнічныя хмары.
Завяршэнне Боскае ласкі й кары
І чаканне поклічу ахангельскае трубы.

Адпачываюць зямныя гады
Ад хады.
Толькі самі сабе й спачуваюць
Клады…

*27 жніўня*

*2 верасня, нядзеля*

Вушача, Валя [Быкава]: «Адна белінка яблыкаў была… Яшчэ добра не прыступаіць… І людзі на яго абрынуліся, як бэнээфавец, фашысты… На рэдчас зазірніце ка мне».

*8 верасня, субота*

Доктар Сарокін звоніць, віншуе з Днём здароўя. «Сасніў пра Вас чорны сон — даеце мне свае вершы, а яны па-расійску».

*

Час робіць сваё, але ж
Як спытаць некага, разумея,
Ці душа чарсцвее, як хлеб,
Ці хлеб, як душа, чарсцвее?

*13 верасня*

*

Свецяць дарозе ў вечар вечны
Дзеці і ўнукі,
Як памінальныя свечкі.

*22 верасня*

*

З маленства вяртаюцца вечары
Памаркоціцца разам,
паспець развітацца,
Пагрэць рукавіцы на каптуры.

*26 верасня*

*

З усіх дарог душа вядзе туды,
Дзе родныя нябёсы і клады.

*2 кастрычніка*

*

Павінен задумацца дух нячысты,
Ці не хістаецца трон ягоны,
Калі патомныя камуністы
Пачынаюць арандаваць амбоны.

*26 кастрычніка*

*4 лістапада, нядзеля*
Васіль: «Калі дзеці дома й здаровыя — гэта галоўнае».

*

Мама — прачысты ўспамін
Пра вачыстае неба,
Якім трымаецца сын.

*7 лістапада*

*

Думка, вядома, старая:
Стварае асоба,
Натоўп разбурае.

*8 лістапада*

*Прыйсці...*

Да ўкрыжаванае бяды
Прыйсці і ўкленчыць ніцачола.
Хмурыніста крыло анёла
Клады жагнае на Дзяды.

Як смех адчаю, век людскі.
Век памяці, як сон, кароткі.
Збіраюцца маўкліва продкі
Свой лёс паслухаць гаваркі.

Я ціха пазнаю радню,
Хоць і не бачыў іх ніколі.
І мне іглінка вока коле,
Што маміну сасну сасню.

На ўсіх хапае цішыні.
У вечнасці свае хвіліны.
І вар'яцеюць вершаліны.
Без памяці ўсыхаюць сны...

*10 лістапада*

*17 лістапада, субота*
Кажу Дамініцы: «Бач, шапка з бабра». У адказ: «Шкада бабра».

*

Пэўна, воля нябёсаў такая.
Тут мама чакала мяне
І там чакае.

*23 лістапада*

*

Гэта добра ці дрэнна,
Што час не пакінуў
Пра Гамера-празорца
Сляпых успамінаў?

*26 лістапада*

*27 лістапада, аўторак*
Слізгата раніцай. Жанчына пасыпае пясок.
— Сееце пясок, а што ўзыдзе?

— Грошы! — і смяецца.

Званю потым Васілю ў Франкфурт. Кажу пра наш дыялог. Смяецца. Далей тлумачу, што ў нас снег. А Васіль: «У нас дождж. Супроць майго вакна агнёвы бук. Лісты аж звіняць».

*10 снежня, панядзелак*

Званю Васілю. Дзякуе, што памагае Пётра. Кажу, што пэнаўкі [супрацоўніцы ПЭН-цэнтра] прыгожыя, давядзецца прыехаць.

*Міхасю Скоблу*

Колькі б розная шобла
Скоблу не скубла,
Ён, як певень той,
Будзе будзіць світанне.
І цярпення ўтрапёнцу
З нябёсаў, як з кубла,
Беларусь самай шчодраю
Жменяй дастане.

*14 снежня*

* * *

Злосць і зайздрасць
Круцяць шэрае месціва.
Пацук — гэта ўсё-ткі прафесія.

*14 снежня*

## 2002

*20 студзеня, нядзеля*

Андрэй Каткоўскі. Мастак. Астролаг.

Быкаў успамінаў, як гаварыла маці, і аднавіў мову.

Душа чалавека жыве ў вачах. У позірку зорак — душа Сусвету. Дапытлівы розум.

*

Снег такі хрупаткі і крохкі,
Іду, і чуваць, як мае
Мяне даганяюць крокі.

*

Жыццё — няспынны працяг пакуты,
Якой чалавек да сябе прыкуты.

*19 студзеня*

*7 лютага, чацвер*

Васіль пра Пётру: «Ягоныя малітвы я адчуваю».

(Кіта землякі абабралі.)

*Валянціну Тарасу*

Ты ў свет прыйшоў пад лічбай боскай,
Каб не самотным быў твой лёс.
І ўпарта за вясёлай вёскай
Дубок твайго настрою рос.
Хай рупны лом з лядоўні ўдачы
Накрыгаломіць воз ільдзін
Тваёй нудзе на лоб гарачы.
Sto lat, мой дружа Валянцін.

*9 лютага*

*Самаісныя*

І калі змушае лёс вагацца,
Дык трымаюцца за ўласны тын.

Беларусы — кшчоныя паганцы,
Самаісныя, як пан бурштын.

*28 лютага*

*І зноў табе...*

*[N.]*

Дзякуй, што ты была,
Што я вар'яцеў табою.
Ты выпаліла датла
Паляны майго спакою.

Аглухлага лісця шум
Не ўчуе нямая крона,
Спагадай нашчыцца сум,
Спякоце ўспамінаў сцюдзёна.

Такі, пэўна, мне прысуд:
Ты будзеш, пакуль мы тут,
Бо што было, не знікае.

*13 сакавіка*

*31 сакавіка, нядзеля*

Васіль віншуе з Вялічкам: «Тут ужо каштан пад вакном лісце распусціў, а ў Берліне яшчэ не. А ў вас там, відаць, снег».

*22 красавіка, панядзелак*

Васіль: «Калі ты стаў так пісаць, нікому не трэба; як мёд п'ю ў Франкфурце. А тут — хто болей зарабляе, жанчыны — праз сэкс».

*25 красавіка, чацвер*

Убачыў першага чмяля, шчамяля, як унас казалі. Круцяцца радкі. Як пляма на сонцы, на лотаці чмель. Іду ўздоўж як бы рэчкі — бруднага канала. Разуваецца малады мужчына. Перш чым, відаць, ступіць, нюхае шкарпэтку.

*9 травеня, чацвер*

Амаль год нічога не занатоўваў. Усё, як у людзей. Вэрхал вакол, вэрхал у душы. Калхозны сацыялізм набірае разгон. Хоць разгоніцца, вядома, як сабака ў торбе. Пісаў і пішу лісты Васілю. Часам званю яму, часам ён. Пётра трымае мяне й яго. Такі збаламучаны я, што няма калі перадрукаваць і начыста перапісаць вершы. Хоць друкаваць іх няма дзе. Дамінічка

расце, ужо дзеўчыца пачынае неўпрыкмет для сябе самое. Ілона прыехала са сваім [Косцем]. Увесь час ў галаве вушацкі словазбор. Словы ўсплываюць, як рыбіны са дна возера памяці. Гучыць мамін голас. «Жыву...»[1]

*21 мая, аўторак*

Прыехаў Васіль. Сустрэліся ў ПЭНе. Мальдзіс пачаў крыўдзіцца на Сашу [Елізарава], што той яму дарогу не саступіў. Як гэта слухаць Васілю [...]. Якраз і Нікіфаровіч прыехаў. З Чыкага. Выходзім з ПЭНа, у Рэма разбарсаўся шнурок. Васіль са схавагай глыбока ўсмешкай, ягонай непаўторнай: «Як Сачанка пісаў, што ў Купалы разбарсаўся шнурок і ён зваліўся з 6-га паверху...». Дадаю Васілю ў тон, што Сачанка дбаў пра гонар фірмы «канторы глубокага бурэння». На праспэкце Рэм зрабіў колькі кадраў. У двары ПЭНа таксама. Вяду Васіля да таксі. Перад таксі: «Ты ўжо не кажы, каго вязе. А то той раз двайную плату злупіў...»

*У Чыкага*

Радзіма смутку й радасці адна,
Яе ў запазуху душы мы тулім
І, ўдзячныя сваім матулям,
П'ем келіх сподзеву да дна.

Радзіма там, дзе маладзік віны
Прарэзаўся над стомленай калыскай,
Дзе поўня роспачы раднёю блізкай
Да ветаха расстання кволіць сны.

Спіць пад парогам нашых думак вуж,
Пакуль мы тут, мы адказаць не можам,
А дзе яна — радзіма нашых душ?
Наканавана незямным разложжам...

*3 красавіка*

*23 мая, чацвер*

З Васілём. «За мяжой цырульнік, кухар вышэй за паэта...

Чаму беларусы жывуць бедна? Красці баяцца, хлусіць саромеюцца, працаваць лянуюцца...

Фінскі лес блізкі да вушацкага...

Ярашэвіч нямецкую мову не дазволіў вывучаць, да вайны — французскую. Да вайны беларускую мову выкладалі яўрэйкі, бо мужчын пасадзілі, пастралялі...»

---

[1] Гл.: Ліст пяцьдзесят пяты: Дрыжу над кожным днём... (9.05.02) // Калі рукаюцца душы... С. 164.

*Ваўчо.* Валіна хатка яшчэ стаіць. Страха толам і бляхай пакрыта — Шурка (Валін муж) крадзеныя, Шурка за бутэльку (смяецца Васіль). Паркет — цэлы твор… А наогул усё ўсім здакучыла…

Возера Селішчанка. «Усё змянілася, а абрысы возера — не. Магу паказаць, дзе чарот рос».

*Бычкі*. «Клён падняўся… Кляновы гай на дварэ… Галінка бэзу бацькавай і мамінай магілак…

Наведваю магілы сяброў…

Гавары… болей слухаць люблю…

Лепей наведаць магілы сяброў, чым сваю…»

Пасля паездкі: «Мне сніліся магілы».

Каля Бычкоўскага магільніка. «Зязулька мая». [Кажу:] «Грошы на кукулку». — «[А ў мяне] толькі ключы [у кішэні][1]».

[Кажу:] «Народу болі, чым людзей». — «У нас народу няма. У горадзе руская мова, у вёсцы. Няма ў нас народу».

«Бітая пожня — дзе палякі пабілі камунякаў. Усё поле было ўслана чырвонаармейцамі. Нехта, здаецца, Шырын, здзёр боты з забітага».

*25 мая, субота*

Дамінічка чытае Буйлянкі[2] тэкст «Люблю наш край…», дзе, дарэчы, у спеўніку для 7-га клясу й «Я — калгасніца маладая».

— А «старонка» — гэта рускаватая форма.

Як глыбінна чуе крывіцкае ўсё.

Дамініка: «Можа, мне падстрыгчыся? Але калі я падстрыгуся, мне давядзецца кожны дзень вушы мыць».

*26 мая, нядзеля*

У «Народнай газеце» нейкі Васіль [Гурскі?] — «Як Быкаў у балоце тапіўся». Так і фашысты не пісалі. Усе ненавідзяць — і партызаны, і армейскія чыноўнікі […], — савецкія людзі. У Лапцёнка выйшлі анкеты. Галоўны рэдактар Ніл. Пра яго ўсе біяграфічныя дадзеныя, і Граматы Вярхоўнага Савета. Пра Васіля ні міжнародных узнагарод, ні ордэнаў. Сталінскія прэміі назвалі дзяржаўнымі. Ахвотна пішуць, а пра членства ў КП ні ў кога.

[1] Як пачуеш першы раз зязюлю, трэба пабразгаць launch манеткамі ў кішэні, каб вадзіліся грошы (народная прыкмета. *Заўв. Р. Барадуліна*).

[2] Буйло Канстанцыя (Калечыц Канстанцыя Антонаўна; 1893–1986), беларуская паэтэса.

Твардоўскі[1] казаў пра Саюз пісьменнікаў: «Ці ёсць у вас разумныя яўрэі? Трэба ў СП». Васіль: «Разумныя ёсць, але яны не ў кіраўніцтве». Твардоўскі пра Шамякіна: свінапас.

*Перасоўны...*

На зямлю не спяшаецца лёс-несупынец,
Кеміць, як бы хітрэйператрэсці пасаг.
Чалавецтва — перасоўны звярынец
З пасяленцаў,
адлоўленых у першабытных лясах.

*27 мая, панядзелак*

Ніяк не можа ўзяць білет, адзін чыноўнік абяцаў, сказалі: каб табе — далі б. Васіль: «Аж шкадую, што прыехаў, сядзеў бы да канца жыцця. Але ж і рэчы там, і перад людзьмі, якія рабілі жытло, клапаціліся, нялоўка».

*28 мая, аўторак*

Васіль у Тараса. «За паэзію Васіля!» Васіль: «За чытача».

*31 мая, пятніца*

*Лепель*. Рэстаран. Навумчык выбірае «Салата саюзная» (не слаёная).

*

Цемра сыцее, святло худзее.
Роспач старэйшая за нябыт,
А маладзейшая за жыццё надзея.

*1 чэрвеня, Віцебск*

*** [Тэл.] «НТВ» Павел Селин[2], тел. 288–10–03, 284–44–51, 276–97–90, 250–12–46; Аляксей Фралоў[3], тэл. 288–14–52, 211–87–30; Смірноў Юрась, тэл. 202–87–26; Svaboda, тэл. 229–22–71, 229–22–78; Вольф Рубінчык[4], тэл. 260–78–51 (час.), 233–54- 40; Валеры Буйвал, тэл. 859990; Алег Карповіч, тэл. 209–80–31.

[1] Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч (1910–1971), рускі паэт, празаік, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1946, 1947, 1971), Ленінскай прэміі (1961).
[2] Селін Павел Віктаравіч (н. 1974), рускі журналіст. У 2000–2003 гг. кіраўнік дырэкцыі НТВ у Мінску.
[3] Фралоў Аляксей (н. 1975), беларускі музыкант і даследчык музыкі. З 1998 г. саліст ансамбля «Класік-авангард». Сябра БНФ, лідар аб'яднання «Еўрапейскі шлях».
[4] Рубінчык Вольф (Уладзімір Паўлавіч; н. 1977), беларускі палітолаг, публіцыст, перакладчык, даследчык гісторыі шахмат. У 2002 г. скончыў аспірантуру РІВШ БДУ.

*12 чэрвеня, серада*

Званок. Васіль. На колькі дзён у Празе. На «Свабодзе» чытае ўспаміны. Кажу, што хачу напісаць пра яго ў «Камсамольскай праўдзе» ў Беларусі». Васіль: «Толькі няшмат».

Звоніць Лайкоў з Мётчы. Вертыкальшчыкі ў Барысаве. На посткамуністычны шабас [з'ехаліся]. Адзін: «Лайкоў у школе [павесіў] вялікі партрэт п'яніцы Купалы. Зваліўся п'яны з паверха. Шкада ДСП». І каб хто запярэчыў.

*19 чэрвеня, серада*

[Віншаванні на дзень нараджэння В. Быкаву.] Ад Дамінікі, Валі, Мірона, Пётры, Сітніцы, Камоцкага, Марыны Наталіч. Глеб Лабадзенка сказаў, што 19 чэрвеня — Дзень незалежнасці. Макрыцкая[1] пазваніла: а 7-й вечара ў «Змене» «Узыходжанне»[2]. [Васіль:] «У нас тут спякота, гэтым і задаволімся».

*20 чэрвеня, чацвер*

Васіль. Званок. Наконт ПЭНа, Пятра Садоўскага[3]. Кажу, што Пётра [Кухарскі] працуе. «Знак ёсць». Пра здымак на 80 год.

* * *

Абляцеўшы той і гэты свет,
Хто каму пра ўсё распавядае —
Ці душа, як вечнасць, маладая,
Думцы давярае свой сакрэт,

Ці спяшае думка напраскі
Падзяліць з душой свае сумневы?
Цягнуцца ў зямлю і ў неба дрэвы,
Глухнуць карані, маўчаць сукі.

Думка і душа ў няспынным руху,
Падуладныя святому Духу,
Сквапныя прагнёнкі адкрыцця

---

[1] Магчыма, Макрыцкая Наталля Вітальеўна (н. 1969), расійскі прадзюсер і кіназнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ.

[2] «Узыходжанне» — фільм па аповесці В. Быкава «Сотнікаў» (1976). Рэжысёр Л. Шапіцька. *Шапіцька* Ларыса Яфімаўна (1938–1979), рускі кінарэжысёр, сцэнарыст, актрыса. Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1979, пасмяротна).

[3] Садоўскі Пётр Вікенцьевіч (н. 1939), беларускі мовазнавец, палітык, дыпламат. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне».

Слухаюць зварушлівую скруху,
Без якой жыццю няма жыцця.

*24 чэрвеня*

*3 ліпеня, нядзеля*

Званок. Васіль: «Слухаў учорашні выступ на Купалаўскіх чытннях на «Свабодзе», падабалася: коратка й свежа. Па інтэрнэце чытаў у «БДГ» пра Ягорава». Наконт ПЭНа. Хоча адмовіцца, каб не кідалі, як Пазьняку, што БНФам кіруе з-за мяжы. Прасіў я, каб не рабіў гэтага. Бо разваліцца ПЭН. Васіль раіў пагаварыць з Таʼрасам. На Міжнародны сімпозіум у Менск прыехаць не можа. Той раз ніяк не мог здабыць білеты, Шыманскі[1] дапамагаў. Кажу, што Пётра можа здабыць. Адказвае: «І так Пётру турбуем, даем клопату.» Дарэчы, кажа, што як прыедзе, вып'е з Пётрам пляшку. Кажу: «Пётра хацеў з табой сфатаграфавацца на 80-годдзе». Васіль: «Сфатаграфуемся на фоне пустой бутэлькі». Перадае вітанні ў такім парадку: Мірону, Дамініцы, Валі.

*5 ліпеня, аўторак*

Васіль: «Віншую дзеда, віншую самую ўнучку [з днём народзінаў]. Дзе яна — блізка?» Кажу, што пайшла з бабай. Яшчэ раз павіншаваў. Кажу, што ў «Московском комсамольце» напісалі замест язи — вязи. Усміхаецца: «Гэта як звычайна».

*6 ліпеня, серада*

У парку. Выходжу. «Бацька, са святам!» Насцярожваюся, з якім яшчэ саўковым? А яны ўдакладняюць: «Сягоння Купала», — сярэдніх гадоў мужчына.

* * *

Богу ды маме душа адчынена.
Мама жыве ў ёй,
А Бога прашу:
— Госпад! Зірні неўзнароку ў душу,
Дужа грахамі душа з'аблачынена.

Каб вудаўём стаць,
струнчэе ляшчыніна,
Лёс зоры вудзіцьме не на імшу.

---

[1] Шыманскі Міхаіл Мікалаевіч (н. 1935), беларускі журналіст. З 1994 г. у газ. «Звязда». Заслужаны дзеяч культуры БССР (1985). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

Смутку хлушу і душу калышу,
Ліхам залётным яна нахлынена.

*****

Пачынаю любіць вечары,
Узгадаўшы далёкія тыя,
Дзе, як цень ад старцоўскага кія,
Цягнуць змучаны звон камары.
Ранак радасна некуды збег,
Задуменна паўдзён развітаўся,
Загавеў, разгавеўшыся, грэх,
Дапаліла сябе мілата ўся.
Апаляніліся гушчары,
Берагі аплылі, ўасачэлі.
З-пад Завыдрына, з-пад Завячэлля
Не ўначэлі яшчэ вечары.

*9 ліпеня*

*****

На благое, калі маладзіца
Пераходзіць дарогу з пустым вядром,
Калі на голы лес навальніцай
Наваліцца задумае першы гром.
А калі з поўнымі вачыма слёз
Пераходзіць дарогу лёс?

*10 ліпеня*

*****

Яблыня цішыні самоціцца самавіта,
Галасы зрываюцца яблыкамі з мулкіх сукоў.
Леціць настрой зялёнага жыта
Блакітны сум васількоў.

*12 ліпеня*

*****

З невядомага выраю
На зямлю вяртаецца лёс.
А бяда не ўцякае услед за вякамі.
Каб прыхінуць душы шчырыя,

Разнасцежыў рукі Хрыстос,
А іх нянавісць людская прабіла цвікамі.

*13 ліпеня*

* * *

Хвалі ўслед злізалі сляды,
Што пакінуць хацелі згадкі.
Бераг цягнецца да вады
Языком здзервянелым кладкі.

* * *

Аблачынкай залётнай блукае
Беспрытульная маміна ўсмешка.
Каго шукае?

*21 ліпеня*

*Паэтамастак*

*Генадзь Асташонак*[1]

Вышыня глыбіні
Непадлеглая страху.
Толькі шчырай душы
Сцежка значыцца лёсам.
Па вуголлі распаленым
Млечнага Шляху
Безаглядна ступаецца
Сподумкам босым.

*25 ліпеня*

* * *

Пад хатняе неба
Сама адчыняецца брама,
І забыліся словы ўсе,
Апрача багавейнага:
Мама…

*27 ліпеня, Вушача*

[1] Асташонак Генадзь Адамавіч (1955–2012), беларускі мастак-рэканструктар зброі. Гл.: Калыханка параненаму звону (22.04.02) // Ксты. С. 353. Генадзь Асташонак // Дуліна ад Барадуліна. С. 144.

*1 жніўня, чацвер*

*[Ушачы.]* Хапаюся за галаву: «Ад вас толькі ў возера!» Дамініка: «Лепей у рэчку, бліжэй». Кажу: «Што вы будзеце есці, як мяне з'ясцё?» Адказвае: «Яешню».

*2 жніўня, пятніца*

Ілля наробіць гнілля. Сёння якраз дождж нарэшце, нават з градам. Вечарам вуліцай нашай. У хатах няма былых гаспадароў. Каля Апёнка, дзе я ўпершыню некалі адчуў сябе беларусам, прысягнуў крывіцкай мове, малыя развітваюцца й адзін: «Да пабачэння».

*4 жніўня, нядзеля*

«Партызаны такія з'едні былі. Рабавалі. Бабулю як жонку ворага народа расстралялі, пяцёра сіротаў. А «вораг народа» — 6 гектараў зямлі й конь. Саслалі ў Казахстан».

На пліце магільніка любімай цётцы — «Последний подарок от племянников и последний подарок от внуков!»

*10 жніўня, субота*

Дамініка хваліцца сяброўчацы: «Я йшла, Васіль свіснуў тры разы, а я й не азірнулася». Першая перамога!

*13 жніўня, аўторак*

Валя Быкава: «Сушка дужа была, дык сталі падсыхаць кветкі... Два *падробы*... Васілю па крысу шынялі танк прайшоў, ён перакуліўся на другі...»

* * * «Малы [Васіль] любіў чытаць, канькі зробіў дзераўляныя, падбіў шынкамі й на сажалку бегаў катацца. Маляваць любіў, масля'ных фарбаў накупляіць (бацька грошы [даў]), на палатне Леніна [намаляваў], як ікона. Точна куплёны партрэт, точна фатаграфія. І маме сказаў на куце павешаць, а мама кажа: каля Бога збоку павешае. Як вайна, бацька ці спаліў, ці закапаў.

У школу, як у чацверты клас [пайшоў], Троцкі вучыў. На ўроку малявання. Я вучылася ў 2-м (клас праз сценку), у нас Крацёнак [настаўнікам]. Троцкі казаў: «Бог ёсь, вы не верце Крацёнку». Прыдуркаваты вучань быў, на табурэтку [паставіў яго]: «Хто намалюіць, пяцёрку заробіць». Я ў сумку Васілёву [улезла] — копія Іван, як жывы, як сфатаграфаваны. Бацька пахваліў. Пейзажы маляваў. Рэдактарам насценгазеты ў 7–8-х класах, рысункі, карыктуры. Рэакцыя была жывая, як насценгазету вывешаюць на калідоры, хахочуць.

Як мы з Васілём біліся, ён мяне біў, я брахала, на ложак цераз рабро, падушкай я на яго: «Воўк, воўк!» А ён на мяне: «Свіння, свіння!» Бацька ў

хату — ціха. Адзін раз бацька рамянём адлупцаваў. Сажалка за гародам. Пабеглі купацца з дзяўчаткамі. А Васіль з мальцамі ўгледзелі адзежыну нашу й дамоў, а мы голыя сядзім-сядзім галосім. Па кустах галяком дабеглі (сад наш каля хаты). Мама: «А дзе ж ваша адзежа?» А бацька ніколі не біў. А Васіля за руку й рамянём па срачцы. Я граблі стаўляла ля вакна й шыбіну пабіла. Бацька быў болі стражэйшы. Да таго не біў і пасля таго не біў.

Васіль на сяло не хадзіў, на танцы не хадзіў. Кніжку ў рукі. Мы ўжо спім, а лямпа гарыць. Бацька: «Кладзіся». — «Дай дачытаю».

І тут якраз званок Васіля! Пытаецца ў Валі, ці наладзіў Пётра, як у гародзе? Пытае, як Дамінічка, ці падабаецца, калі паедзем? У іх не заліло, толькі спёка.

[Валянціна.] «Мала іх безработных, галадаміраў. Галадамір — галадранец, абдзіртус. Настаяшча сцямнеіць, кот прыходзіць дамоў. Бацька перад сном «Ойча наш» чытаў, ксціўся. Адна кароўка, а потым другая ела з гэтага катушка. Літровік — кацялочак на літр… Фронт перайшоў. Мама на лугу. А дзе я была? Ці за каровамі, не, мусіць, дома. У нас луг у канцы вёскі, калхознае сена хадзілі грабіць. А паштальёнка прыйшла, аж на луг прынясла пісьмо і ўручыла маме. Мама ад радасці чуць не самлела, плакала, вестачку палучылі. Пасля пісьмы сталі прыхадзіць. Прыхадзілі заляжалыя, даўнія. «Пішу, не ведаю, ці ёсь вёска, ці жывыя вы, ці, можа, у Германію [вывезлі]. Суседзі, калі палучыце, напішыце, ці ёсь мае родныя». Былі й такія: «Ваюю, а не ведаю, ці буду жывы». А пасля Балгарыя, Венгрыя, Аўстрыя. Добра, што першае пісьмо, дзе ён пісаў, прыйшло раней за пазнейшае.

… Кленіна, а там дуб каля хаты. Ім абы даступіцца да вакна. Я туды не наведаваюся. Цяжка без радні жыць… Горкая яблыня асталася. Падлога з цэглы ў старой хаце, мама памыла падлогу — чырвоненькая. Новая хата ў 33-м годзе [пастала]. Алычы гэтай навялося. Васіль быў завядольцам, выпісваў нам ваенныя білеты. Сям’я Быкаў, 9 унукаў, 2 праўнукі, раней былі Быкі. Танок асеў, вось-вось павалі'цца. Падумай, які дуб вырас з жалуда, гадоў 50. Па чужых краях ці лёгка яму?» [Кажу:] «Настаўніца дала заданне прачытаць за лета «Знак бяды» [Дамініцы]. «Ён душой і целам прыкіпаў к пісанню.

Брат Мікола верыў газетам: «Навошта звязаўся з Пазьняком?» — перажываў за брата».

*15 жніўня, чацвер*

Эвалюцыя. Мірон нахадзіўся, насварыўся з катамі, пад’еў рыбы, улёгся ў карабок з-пад абутку на падваконніку. А мышка скрабецца ў сцяне.

* * *

Светлыя аблачынкі, як і нашы гады,
Паспеюць пастарэць заўсягды,
Каб сабе ж прысніцца
Чорнымі хусткамі навальніцы.

*17 жніўня, субота*

Каза бляе, нібы дражніць сябе самую.

* * *

Гром — пястун прыспанай цішыні.
Рэха — згадка навальнічнай кпіны.
Чым астрожней моўкнуць карані,
Тым вальней гамоняць вершаліны.

*18 жніўня, нядзеля*

Някляеў заязджаўся. Вечарам. Сяджу пад вязам. Падыходзіць Міронава каханая й трэцца аб ногі. Нешта шуршыць — вожык. Рыжаваты, гожы. Хай яму жывецца!

* * *

Калі й параняць, не пачуеш болю
І ў лютых гурбах не замерзнеш босы,
Пакуль, як маці калісь над табою,
Схіляюцца айчынныя нябёсы.

*19 жніўня, панядзелак*

На магільніку. [Магіла] свежая ў вянках. Роўба: «Каго ўжо забуртавалі?»

* * *

У прытомленай скрусе
Праз галіны
зоркі цаджу й мяркую:
Аднойчы ўсё-ткі вярнуся.
На якую?

*21 жніўня*

* * *

На вузлаватай нітцы брукаванкі
Ружанец хатаў знаёмых перабіраю.

Счарнелі стрэхі, пааглухлі ганкі.
Кон ставіў хаты ад раю з краю.

*****

Жаніцеся, дзецяробы-майстры,
Каб не зваліся людзі.
Жыццё сямейнае год за тры
Залічана ў пекле будзе.

*

Кожны раз, як упершыню,
Ля роднага котлішча
Слухаю цішыню.

*24 жніўня*

*Ваўчэнскае возера*

Ахмялелая хваля ледзьве казыча,
Вершаліны парадзелага
й парудзелага бору.
Дзікая качка прыцемна кліча,
Прыступіцца няма дзе
ні сораму, ні дакору.
Шчупаку не ўцерпіць
выпрастаць спіну,
Пазяхае акруглачулая глыбіня.
Хоць у гэты хвіліны
адпачывае цішыня.

*25 жніўня, Ваўчэнскае возера*

*27 жніўня, аўторак*

Вушацкая [цётка]: «На хаўтурах была, наелася клёцак, аж няўздыхаюся. А яшчэ на ймяніны пайду, хоць унучку пакармлю».

*Лостам ляжаць* (упавал), *улогам ляжаць* непадыхнючыя.

*****

Каб затрымацца хоць ласымі думкамі
На халоднай дужа зямлі,
Стомленасць сумную
Халоднадушаю мудрасцю нараклі.

*4 верасня*

*Артуру Вольскаму*
*на развітанне*

Сваёй нязлой душы
Панёс туды святло,
Дзе нам, яшчэ жывым,
Здаецца, змрок пануе.
Час мецьмеш не забыць
Усё, што тут было,
Мілосць і прыгажосць.
І чарнату зямную…

*5 верасня*

*10 верасня, аўторак*

Да камуністаў рака была глыбінёю з два росты, а цяпер вераб'ю па калена.

*11 верасня, серада*

Старэйшыя! Дбайце пра змену, каб было каму кусаць за пяткі.

* * *

Ненажэрнаму сляпому тлену
Змушана жыццё плаціць падаткі.
Рупцеся, старэйшыя, пра змену,
Каб было каму кусаць за пяткі.

*19 верасня, чацвер*

Васіль. Дадасць яшчэ прыпавесцяў у «Байкі жыцця». Быў яшчэ на падпольных выставах Малішэўскага[1].

Арутюнян[2] Спартак, тэл. 255–97–12.

*Альгердаў шлях*

Альгердаў шлях —
ад чысціні да ісціны,
Яго хаду не сціснуць халады.
І ясень вечнасці густымі лісцямі
Далоніста пачне лічыць сляды.

---

[1] Малішэўскі Альгерд Адамавіч (1922–1989), беларускі мастак, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977).

[2] Аруцюнян Спартак (сапр. Неркарарян Сцяпан Аруцюнавіч; Н. 1962), расійскі паэт, музыка, аўтар-выканаўца, стваральнік і саліст групы «Беламорканал».

Сляды ад пэндзля —
штукара ўтрапёнага,
Што слухаў думкі й вока кожны рух.
І воблікі мяняліся імёнамі,
І пасвіў воблакі нябесны луг.

І фарбы нараджаліся праменіцца
І ценіцца ў жытле дабра і зла.
І скарбы не баяліся збясцэніцца
Каля здабытага з душы святла.

*Дыдактычнае*

Працуюць промень і пчала,
Працуюць памяць і піла.
І піраміды, і палацы,
Як падарункі плённай працы.

Усе мы працаваць павінны,
Каб не слабела моц Айчыны.

*24 верасня, аўторак*

Званю Васілю наконт Дашука[1]. Васілю знадакучылі кіношнікі. На вечнасць, на архіў [працуюць]. Чытаў у апошнім нармальным «Полымі» пра Мішу [Стральцова]. Шкадуе, што мала прозу пішу, «кожнае слова — чыстае золата». Васіль Шапрану: «Саюз пісьменнікаў меней значыць, чым Саюз рыбаловаў».

*25 верасня, серада*

! Ссечанае дрэва жыве яшчэ 25 гадоў. Калі вянцы не замацаваць, бярвенне можа разбурыць, яго убакі водзіць. Чаму і кажуць: дом жывы.

*29 верасня, нядзеля*

Васіль: «Так сястру праславілі, што можа зазнацца».

*16 кастрычніка, серада*

Васіль. Наконт зместу нашай кнігі[2]. Па радыё толькі частка ўспамінаў. Пераклад дае па-расійску толькі для «БДГ». Кажу наконт Карласа, што [хоча стварыць] камісію па этыцы. «Ну, хворы чалавек». Я кажу: «Няхай хварэе, калі хворы». Камісія нешта як КГБ, разабраць паводзіны Някля-

[1] Дашук Віктар Нічыпаравіч (н. 1938), кінарэжысёр, сцэнарыст, пісьменнік. Заслужаны дзеяч мастацтваў (1977). Народны артыст БССР (1989). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

[2] Падрыхтоўка да сумеснай кнігі «Калі рукаюцца душы...».

ева й мне рэплікі. Васіль: «З Някляевым яшчэ будзе клопату. Да мяне даходзяць чуткі». [...]. Пад канец: «Павіншуй Ганада з днём нараджэння, я не змагу, не буду дома».

*Куды ні глянь...*

Тапор гнілы і дуб іржавы
У недаробленай дзяржавы.
Ні йзруб зрубіць, ні хлеб спячы.
Куды ні глянь — адны лычы...

*20 кастрычніка*

** * **

Зямля — яна адзіная дзяржава,
Дзе вечныя шануюцца законы.
Улада — дым, і подых ветру — слава,
І кожны сам сабе гадуе сконы.

*Кастрычнік*

*22 кастрычніка, аўторак*

Пётра: «Час вяртаць (аддаваць) зямлю зямлі. Хопіць ужо будавацца!» (Калі солі пайшлі.)

** * **

Падацца ўпрочкі
не спяшаюцца халады,
Каб потым не каяцца.
А гром яшчэ такі малады —
Ажно заікаецца.

*24 кастрычніка*

*28 кастрычніка, панядзелак*

Васіль: «Каб у цябе страху не сарвала, у нас тайфун быў».

*Уладзімір Вішнеўскі*

Мастак — ён вар'ят у законе,
У вус панавіты падзьме —
І зробіцца мулка на троне,
І троху ўздыхнецца ў ярме.

Рукамі ягонымі жар бы
Загрэбсці хацелася тым,

Хто небадасяжныя скарбы
Змяняў на акрэслены дым.

Ён з крэменя жарсць выкрасае,
І пырскае з іскры сляза.
Яму патурае краса і
Сыходзіць святло з абраза.

Мастак — ён рысак у загоне,
Падкуты пакутай вякоў.
Для заўтра зайздроснае сёння
Шчаслівых шкадуе падкоў.

*29 кастрычніка, аўторак*

Прывітанне Пётру й падзяка. Наконт помачы Шыр…аглы [неразборліва].

*Выраслі…*

Увосень выраслі тры камяні
На беразе,
Каб пасядзець было дзе
Аглухлай цішыні,
Згарбелай вышыні
І стомленай лагадзе.

*2 лістапада, субота*

Валя Быкава: «Партызаны за шмалец — самагонку, сукенкі падбочніцам, усякае барахло і танцы… Васіль недзе ў сёмым класе паслаў верш у «Чырвоную змену», не надрукавалі, болей не пісаў».

*Хілю галаву над котлішчам*
*(роднае хаты П. Кухарскага*
*ў в. Аколавічы)*

Гарэлая хата яшчэ трымаецца за зямлю,
Небу й агню дзякуючы за спагаду.
Сцюдзёна ягады смутку спяліць быллю,
Цяжка ўсыхаць сукам састарэлага саду.

Стол ацалеў,
Дзе ўрокі вучыў малады вядзьмар,
Рэшта печы трывае,
Дзе ўпотай графскі атожылак
Чытаў пра каханне.

Над вухам зазімку дзынкнуў
Першы белы камар.
Шэры каток хвастом
Выказаў спачуванне,
як дакаранне.

Зоркі згараюць са сподзевам
Сагрэць нябесны абшар.
Вечнага ў гэтым свеце няма нічога.
Вечную, але нетутэйшую хату
Зрубіў цясляр
Сякерай, пазычанай у пана Бога.

*4 лістапада*

* * *

Што ні вазьмі, дзе ні крані —
Пайшоў мой род на схон.
Як і застаўся хто з радні,
Дык, мусіць, кот Мірон.

*9 лістапада*

*19 лістапада, аўторак*

Васіль: «Чую твой беларускі вушацкі голас. Як з кнігай? (Нашай сумеснай.) Прыхварэў, тэмпература, язык пабялеў. З Нілам паўсюль рэкламацыя. Ён ужо забываецца. (Я сказаў паклон ад Сяргея Навумчыка.) Кажу, што ў Віцебскім тэатры паставілі «Стрэл у тумане» («У тумане»). І хочуць везці ў Нямеччыну. «Куды? Яны думаюць, што немцы любяць глядзець пра вайну, як іх білі?.. Пётру паклон і дзякуй. Мы вып'ем з ім».

Паэзія з прозай, фотаздымкі, дзе мы ўдвох, апроч таго вялікая куча. Музею збіраю — рама, замок, карзіна, падлога[1].

*24 лістапада, нядзеля*

[Васіль:] «Знебыліся. Трымаюся Боскай сілай і Пётравымі малітвамі... Зняў раздзел пра ТБМ. Ніл як леў змагаецца за мову, а Быкаў, атрымліваецца, супроць… Чытаў, які Пётра гінеколаг[2]».

---

[1] Рыгор Іванавіч сапраўды сабраў некаторыя рэчы ад хаты В. Быкава ў Бычках, якая разбурылася; памятаю драўляны коўш, нават кавалак драўніны, паточаны шашалем, перададзеныя пазней ў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры (*заўв. Н. Давыдзенка*).

[2] Падборкі травяных збораў для лекавання жаночых хвароб П. Кухарскага друкаваліся «Комсомольской правдой» в Беларуси» (2002).

* * *

Ні вялікалюду, ні гному,
Ні дню, ні начы
Ад сябе не ўцячы,
Як і ад таямніцы долі,
Нікому
Ніколі.

*13 снежня, пятніца*

Учора Вал. Тарас паведаміў навіну пра тое, што Васілю далі від на жыхарства ў Чэхіі з падзякай Гавэла[1] за згоду Васілёву. Абзваніў усіх, хто шчыра шануе Васіля Вялікага. Асабліва шчаслівелі Пётра, Генадзь, пан Вішнеўскі. У «БДГ» да Сяргея [Шапрана]. Звонім Васілю ў Прагу. Крычу: «Усе ў Беларусі на сёмым небе ад радасці!» — «А я нават не на трэцім. Тут гэтулькі праблемаў...» — «Ну, тэарэтычна затое». — «Можа, толькі тэарэтычна». У Васіля яшчэ тэлефона няма. Сяргей Навумчык мабільнік [даў] часова.

Хавалі Грахоўскага[2]. Як заўсёды Ніл паўгадзіны [выступаў], каб пакрасавацца. Выходзяць. Стаіць Бронік Спрынчанок. Ніл: «Браніслаў Пятровіч, чаму Вы мяне не перакладаеце?» Браніслаў: «Я цяпер мала перакладаю». Ніл: «Але ж я пачаў пісаць лепш».

*20 снежня, пятніца*

Мама часта разам са словам «дзякуй» паўтарала: «Дзякуй табе, Божанька! Аціку, табе, аціку!» Толькі нядаўна дайшло да мяне — гэта ад Андрэя Галвіньша [ейнага бацькі] — *ačи* — дзякуй [па-латышску] у малечай свядомасці.

*Пётру Кухарскаму*

Спадару ведзьмару з паганскім імпэтам
За зёлкі дзякую, расчулены ў дым:
— Каб не ты, ўжо не жыў бы на свеце гэтым.
А вядзьмар усміхаецца:
— Ну дык жыў бы на тым...

*23 снежня*

[1] Гавел Вацлаў (1936–2011), чэшскі драматург, пісьменнік. У 1989–1993 гг. прэзідэнт Чэхаславакіі, у 1993–2003 гг. прэзідэнт Чэхіі.

[2] Грахоўскі Сяргей Іванавіч (1913–2002), беларускі паэт, празаік. Быў рэпрэсаваны. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Коласа (1992).

*Запросіны*

Усе мае, якія ўжо не тут,
Прашу вас на маўклівую бяседу.
З Дзядамі ўпоплечкі саджу на кут,
Даверыўшы дарогу ўспомніць следу.
Хай ён сюды здалёку прывядзе
І вёсны шчырыя, і смех забыты.
Хай сум даручыць пілнаваць бядзе
Балючыя і камяні, і пліты…

*25 снежня*

*26 снежня, чацвер*

Васіль з Прагі: «На вандзэлках сяджу. Перад Калядамі сапсаваўся тэлефон». Пытаецца, як маюцца і перадае прывітанні Дамініцы, Валі, Мірону. Кажу, што Пётр з ім працуе. «Дзякуй яму, гэта мне асабліва патрэбна цяпер».

*Мена*

Чалавецтва — сонечнае насенне
Летуценна таргуецца з небыццём.
Бесклапотнасць разменьвае на імгненні.
Мена завецца зямным жыццём.

*29 снежня*

** * **

Жыццё —
Перавод гадзінніка вечнасці стрэлак,
І пераводзіць іх пані Надзея.
Кожны новы век — панядзелак.
Кожны наступны — нядзеля.

*30 снежня*

## Змест

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Іванавіч Барадулін

**Дзённікі і запісы**

*Выпуск 9. 1998–2002*

Адказны за выпуск *А. Пашкевіч*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *М. Пятрова*

Падпісана ў друк 15.12.2021. Фармат 70×100 1/16.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Гарнітура Cambria. Ул.-выд. арк. 15,36.
Ум. друк. арк. 26,9 + 0,42 укл. Наклад 40 асобнікаў. Зак. 17.

ТАА «Інбелкульт».
АДРН 1136733002120.
Пас. Малкамбіната, д. 21, 216790, г. Рудня Смаленскай вобласці,
Расійская Федэрацыя

Паліграфічнае выкананне
ВУП «Воля»
Вул. Каперніка, 118-2, Львоў, Украіна

УВАГА: Укладальнік — Наталля Давыдзенка, удзячная за падказкі ўважлівых чытачоў, прыносіць свае прабачэнні за памылкі і асобныя недакладнасці ў зносках і хоча выправіць іх ці дапоўніць звесткі.

**Дзённікі і запісы. Выпуск 1.** *Голд-Пецярбургскі* (с. 324). Маюцца на ўвазе: *Пецярбурскі Ежы* (1895–1979), польскі дырыжор і кампазітар, і *Голд Артур* (1897–1943), арганізатар джазавага аркестра (з 1922). Е. Пецярбускі вядомы як аўтар танга «To ostatnie niedziela» (1936), у рускім варыянце — знакамітае «Утомлённое солнце».

**Выпуск 3.** *Ігар Васільевіч* (с. 179, зн. 3). Маецца на ўвазе Грынкевіч Ігар Васільевіч (1908–1985), дзядзька У. Караткевіча.

**Выпуск 4.** *20 красавіка 1986 г. гараджане адзначалі свята «Гуканне вясны»* (с. 361, зн. 3); **Вып. 5** (с. 211, зн. 2); **Вып. 6** (с. 81, зн. 4); **Вып. 7** (с. 283, зн. 2); **Вып. 8** (с. 55, зн. 3). На самой справе 20 красавіка 1985 г.

*Астрожскі Канстанцін (Васіль) Канстанцінавіч* (с. 140, зн. 1). На самой справе: Астрожскі Канстанцін Іванавіч (1460?–1530), военачальнік, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Гетман найвышэйшы (з 1497), каштэлян віленскі (з 1511), ваявода трокскі (з 1522).

*Леапольд Кастылля* (с. 326). Касцільья Леапольдо, аргенцінскі паэт, прадстаўнік выд-ва «Іперыён» (Мадрыд, Іспанія).

**Выпуск 8.** *Смольскі Дзмітрый Браніслававіч* (с. 280, зн. 2). На самой справе: Смольскі Рычард Баляслававіч (н. 1946), беларускі тэатразнавец, педагог. Доктар мастацтвазнаўства (1991). Прафесар (1999). У 1997–2010 гг. рэктар БДАМ.